# Кузьма Чорны



## ЗБОР ТВОРАЎ
## У ШАСЦІ ТАМАХ



Рэдакцыйная калегія:
СЕРАФІМ АНДРАЮК, ВАСІЛЬ ВІТКА,
МІХАСЬ МУШЫНСКІ, АЛЯКСЕЙ РАГУЛЯ,
РАГНЕДА РАМАНОЎСКАЯ

Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі
Аляксея Рагулі і Рагнеды Раманоўскай

# Кузьма Чорны



## ТОМ ЧАЦВЁРТЫ



РАМАН
АПОВЕСЦІ
П'ЕСА
ПУБЛІЦЫСТЫКА

1930—1940

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1989

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### I

У ясную раніцу Кандрат Назарэўскі паволі ішоў паўз лес каляіністай дарогай. Раса высыхала, сонца прыгравала моцна, лес аж звінеў ад птушыных галасоў. Скрозь блішчала роснае ржышча і на ім — снапы. Фыркаў конь, выбіраючы траву.

Кандрат Назарэўскі аніяк не аддаваў увагі ні сонцу, ні цішыні на полі і ў лесе. За апошнія гады яму ўелася ў косці ўсё гэта і зімой, і ўлетку. Вайна заўсёды адбываецца і ў полі, і ў лесе, а Кандрат Назарэўскі з самага пачатку вайны з палякамі фронту ніколі не пакідаў. Ён нёс цяпер у сабе радасную здаволенасць. Уся мясцовасць, якою ён цяпер ішоў, была ўжо некалькі дзён савецкая. Чырвоная Армія ўжо далёка прайшла наперад. Праз дні два ён дабярэцца дадому, да бацькі, і за месячны водпуск паправіцца ад лёгкай вінтовачнай раны ў назе і тупога болю ў плячах і шыі.

Ён меў пры сабе нарад на фурманку з суседняга хутара. Гэтага хутара ён і шукаў цяпер. За гадзіну часу да гэтага ён пакідаў свой начлег у вёсцы, за лесам; перад адыходам сядзеў на прызбе, а гаспадар хаты, сельскі стараста, пісаў у хаце на кавалачку сіняй паперы загад на Скуратовічаў хутар, каб там далі чырвонаармейцу Назарэўскаму фурманку. Даючы яму ў рукі паперу, стараста як бы апраўдваўся:

— Тут вёрст нават дзвюх не будзе, от так проста, паўз лес. Я вам з вёскі даў бы каня, дык усе ў абоз пад Варшаву паехалі, а ў каго дзе конь дома, дык на ім уся вёска з поля снапы возіць. А ў Скуратовіча трое коней, і, я ведаю, усе дома. Ён коні ў лесе хавае. Вы адно націскайце на яго добра.

Кандрат Назарэўскі заўважыў, што чым больш падаваўся ён на ўсход, тым больш згладжваліся на зямлі сляды

нядаўнай вайны. А тут ужо зусім як бы забыліся людзі на гэтую страшную навалу — скрозь спакойна рабілі сваю работу. Чалавек на полі сказаў яму, што зараз будзе вузкая дарога ў лес, на Скуратовічаў хутар.

Лесам Кандрат Назарэўскі не ішоў доўга. Дарога ў лесе адразу пайшла ў лог. Пачаўся густы ельнік. Пры дарозе папараць зусім была мокрая ад расы. Каршачок плаваў над ельнікам, дзесьці блізка сакаталі куры. Неўзабаве бліснула паляна. Шырокі загон насеннай канюшыны ішоў ад ельніку, вузкая дарога ўся была ў высокай траве. Дуплаватыя дзічкі сям-там раслі на полі. Скрозь быў іржэўнік з-пад жыта і ярыны. Авёс стаяў на полі ў крыжыках. Навокал быў лес — яліна і хвоя, толькі з аднаго боку поле злівалася з небам і ледзь відны былі з-за ўзгорка вярхі хатніх стрэх.

Кандрата Назарэўскага спаткалі сабакі страшэнным брэхам. Двор быў абгароджаны старым частаколам. Яловыя частаколіны парассоўваліся ў бакі, і дзіркі паміж імі пазабіваны дошкамі. Старасвецкія дубы, магутныя, як каменныя горы, стаялі над мураваным скляпком. Насупраць склепа адчынена была шырокая стайня. Кандрат Назарэўскі туды адразу і рушыў. Коней нідзе не чуваць было. І нікога нідзе. Два сабакі проста-такі рвалі чырвонаармейца, стараліся хапаць зубамі за абмоткі на нагах, аж захлёбваліся пранзлівым брэхам. Чалавек хапіў з-пад ног ламачыну, махануў навокал сябе, сабакі адскочылі і з большай яшчэ заядласцю кінуліся зноў. Нарэшце адзін ірвануў-такі зубамі за нагу. Чалавекам апанавала злосць. Ён папусціў ламачынаю і якраз уцэліў: востры сук сухой старадрэвіны разануў сабаку па баку. Сабака заенчыў, падтуліў хвост і кінуўся наўцёкі. Імчаўся проста пад нізкую агарожу, за якой стаяў дамок з жоўтымі вокнамі. Недзе ўжо там сабака захлёбваўся немым енкам, а другі кідаўся на чырвонаармейца. Але з адным сабакам саўладаць было лягчэй. Чырвонаармеец пайшоў к дамку. Ніхто ніадкуль не выходзіў. Чырвонаармеец узышоў на гнілы ганак, усходы якога ляжалі на падстаўленых каменях і гнуліся пад нагамі. Дзверы замкнёны не былі, і чырвонаармеец увайшоў у маленькія сенцы на падлозе. Сабака астаўся на двары. Пасля сянец быў пакой, немалы паводле самога дамка.

Цяпер ужо нельга было не абазвацца, калі чужы чалавек увайшоў у хату, і з бакоўкі абазваўся жаночы голас:

— Хто там?

Старая жанчына ўвайшла з бакоўкі. Трэба думаць, што яна праз акно бачыла, на каго брахалі сабакі, бо нешта вельмі ж ужо адразу сказала:

— Чаго вам трэба, таварыш?

— Мне трэба фурманка,— адказаў Кандрат Назарэўскі.— От паперка ад старасты. Я ранены і хворы, еду дадому на папраўку.

Апошнюю фразу ён дадаў, убачыўшы халодны позірк старой жанчыны.

— А ці далёка вам ехаць?

— Вёрст сорак.

— Яно такі і трэба было б даць вам фурманку, але ж коней нашых няма дома. Усе ў абозе. Тры кані было, дык аднаго палякі пагналі з сабою, а два — у абозе. З чырвонаармейцамі паехалі... І ліха яго ведае, гэтага старасту, чаго ён ад нас хоча, чаго ён да нас чэпіцца. Ён жа ведае, што коней нашых дома няма.

Кандрат Назарэўскі паспрабаваў узяць па добрасці:

— Я скрозь не паеду на вашай фурманцы. Вёрст дваццаць, пятнаццаць праеду, а там фурманку змяню.

— Дык дзе ж я вам вазьму тую фурманку!

Кандрат Назарэўскі сеў на старасвецкую, абточаную шашалем, канапу. Пасля валтузні з сабакамі рана на назе пачала ныць. Занылі плечы, грудзі. Ён пайшоў на адкрытую:

— Давайце зараз жа фурманку!

Жанчына пацiснула плячыма і таксама села ля дзвярэй на абабітае паркалем крэсла, старое, збітае цвікамі. Яна нарыхтавалася маўчаць. Чырвонаармеец чакаў адказу і разглядаў пакой.

Над камодам віселі фатаграфіі. Тутэйшы фатограф, можа, павятовы які ці мястэчковы, быў невялікі майстар: на адной фатаграфіі чалавек выйшаў з нейкім пагнутым носам (калі толькі сапраўды нос у яго быў просты), з адтапыранымі губамі. Вочы сядзелі глыбока, і ў іх было задавальненне. Вусы былі закручаны стрэлкамі. Ён сядзеў на нейкай мадэрнізаванай фатаграфскай ламачыне, а поплеч яго стаяла жанчына, паклаўшы яму руку на плячо. Ён сядзеў, а яна стаяла і здавалася высокай. Гэта была тая самая жанчына, што сядзела цяпер ля дзвярэй і старалася не глядзець на Кандрата Назарэўскага. На фатаграфіі яна была год на дваццаць пяць маладзейшая. У яе чалавека вісеў на грудзях на камізэльцы шырокі ланцужок ад гадзінніка. Вываксаваныя боты на здымку выйшлі белыя. Жанчына

была адзета пад тагачасную моду. Такое адзенне магла падараваць тады якая-небудзь пані сваёй улюбёнай ахмістрыні.

На другой фатаграфіі Кандрат Назарэўскі разгледзеў чалавека таксама з падкручанымі ў стрэлкі вусамі, але постаць гэтая куды была зграбнейшая. Калі на першай фатаграфіі так і відаць было адразу, што тут мужык выбіўся ў паны, то гэты, здаецца, спрадвеку каля паноў аціраўся. І манішка на ім была цвёрдая, і гальштук упоперак спрытна падвязан. А побач была яшчэ трэцяя фатаграфія. На ёй быў знят малады хлапец. Зусім малады. Бязвусы, у галіфэ, у фрэнчы з кішэнямі і кішэнькамі ўсюды. Ён сядзеў, паклаўшы нагу на нагу; валасы на галаве намачыў і прыгладзіў, прабраўшы роўненькі прабор збоку. Кандрат Назарэўскі раптам падняўся з канапы і падышоў да фатаграфіі. Ён пазнаў гэтага хлапца. Ён глянуў на жанчыну.

— Ну, дзе ж я вам таго каня вазьму,— сабраўшы ўсю сваю штучную ласкавасць, сказала яна.

Кандрат Назарэўскі рашуча павярнуўся да жанчыны. У яе недзе над вачыма, у брывах, ішла рыса, уласцівая твару сфатаграфаванага хлапца. «Маці!» — падумаў Кандрат Назарэўскі.

— А дзе ж ваш Анатоль цяпер? — сякануў ён, не зводзячы вачэй з жанчыны.

Старая раптам збянтэжылася, замыляла губамі, загаварыла:

— Вы нашага Анатоля ведаеце? Хто ж вы такі будзеце? Адкуль вы?

І раптам яна пасмялела. Нейкая новая думка, відаць, нарадзілася ў яе. Яна, здаецца, падумала, што гэты салдат свой чалавек, што ён зусім гэта не ў водпуск ідзе. «Мусіць, нешта тут іншае. Можа, проста ўцякае дадому з войска».

— Дык вы сядайце,— сказала яна.— Дадому ніколі не позна. Заедзеце. Можа б, вы з'елі чаго? Вы Толіка нашага ведаеце?

— Ведаю. Я з Анатолем Скуратовічам быў калісьці ў адной часці. Як палякі занялі былі гэтую мясцовасць, мы адступалі і праходзілі тут непадалёк. Я мясцовасць пазнаў. То ён тады і знік. Хто быў у нашай часці адгэтуль зблізку родам, то адразу і падумалі, што Скуратовіч астаўся тут, дадому пайшоў.

— Што вы гэта кажаце! Яго як змабілізавалі былі тады, як яшчэ палякі сюды не прыходзілі, дык ад таго мы яго і не бачылі. Можа, дзе галаву склаў!

— Наша часць была тады тылавая. Начавалі і мы разам у адной хаце. А раніцай прачнуліся — аж яго ўжо няма.

— Не ведаю... Не ведаю... Божа мой, божа!

Рысы твару яе ахаладзелі, губы сцяліся.

— Мне трэба ехаць.

— Няма ніводнага каня дома.

— А што будзе, калі я найду?

— Шукайце. Я адна дома.

— А дзе ж гаспадар?

— Я ж вам казала, што ў абоз пагналі.

Нейкая новая думка, мусіць, зноў апанавала жанчыну, яна збянтэжана заварушылася, паглядзела ў акно, вярнулася да дзвярэй, сказала чырвонаармейцу:

— Я і сама не ведаю, дзе вам тую фурманку ўзяць. Хіба, можа, я так дзе-небудзь выстараюся. У нас ходзіць за гумном конь, што салдаты кінулі некалькі дзён таму. Ён, сказаць, і не наш жа, казённы. Няхай акрыяе крыху, а тады, можа, зноў якая часць забярэ... Хіба на ім вы паедзеце?

Яна ўжо не гаварыла больш, што гаспадара няма дома. Кандрат Назарэўскі думаў: «Яна ад мяне стараецца хутчэй пазбавіцца».

— Дзе ж ваш Анатоль цяпер? — зноў запытаў ён.

— Жывога няма! Каб на вайне галавы не склаў, дык абазваўся б дагэтуль. Божа мой, божа!

Яна пусціла слязу.

— А ён жа зняты на фатаграфіі зусім нядаўна.

Кандрат Назарэўскі перавярнуў фатаграфію на другі бок. І фатаграфшчыцкі штамп быў ужо на польскай мове: павятовы майстар быў ужо дапасаваўся да новай улады.

— Пры паляках здымаўся ваш Анатоль?!

— Божа мой, чаго вы хочаце ад мяне? Мы нічога не чулі пра нашага Толіка.

І жанчына выйшла з хаты. Яна спусцілася з падгнілага ганка на маленькі дворык, адгароджаны ад вялікага нізкай агарожай, абсаджаны маладымі ліпамі, увесь у рэштках ранейшага кветніку: у некалькіх мясцінах у непарадку расла недагледжаная півоня, буялі жоўтыя сцеблаватыя кветкі; флёксы напалам з травой глушылі ўсё, што было каля іх і пад імі драбнейшага. Скрозь была трава, мятліца — як паплавец які перад ганкам. Каля платца куры дзяўблі штосьці з каўша, чарада індыкоў і качак цягнулі шыі праз плот да яды.

Кандрат Назарэўскі бачыў праз акно, як жанчына адчыніла брамку, як пайшла кудысьці за скляпок. Там яна і знікла з вачэй. Кандрат Назарэўскі разглядаў пакойчык. На камодзе пажаўцела і запылела сарвэта. Счарнелы агрызак яблыка красаваўся на ёй. Адна на адной ляжалі тры ці чатыры кнігі: касцельныя зеленкаватыя кантычкі, «Практический, семейный и для молодых людей письмовник», «Сонник — объяснение сновидений» і «Оракул». Над дзвюма дзвярыма вісела па карціне ў рамках і за шклом: на адной карціне лясная выжарына і на ёй сыходзяцца два цецерукі сярод сухіх верасоў, на другой — сабакі гоняць лося і паляўнічы страляе з-за дрэва. Карціны местачковага ўжытку, па капеек чатыры кожная ў даваенны час, аддрукаваныя на шэрай паперы. Вазоны стаялі на вокнах і каля іх. Кандрат Назарэўскі яшчэ раз глянуў на фатаграфію Анатоля Скуратовіча: малады круглы твар, у постаці імкненне трымацца дасціпна; пра гэта, відаць, і былі толькі думкі тады, калі здымаўся.

На двары загаварылі. Паўз вокны ішоў стараваты чалавек, за ім тая самая жанчына. «Дома ж, аднак,— думаў Кандрат Назарэўскі.— Як жа ён будзе апраўдвацца, што раптам апынуўся дома?» Але і гаспадар і гаспадыня стараліся не ўспамінаць пра гэта.

— Зараз паедзем,— сказаў чалавек, беручы з камода скрыначку з тытунём. На твары яго ляжаў клопат; ён нават і не быў падобны да свайго здымка над камодам: там была навек усталяваная нерухомасць, тут чалавек жыў, трапятаўся, думаў. Ён закурыў, даў закурыць Кандрату Назарэўскаму і пайшоў запрагаць. З парога азірнуўся:

— Бяда толькі, таварыш, што вельмі неспакойна ў нас. Бандыты ў лесе ёсць, а лес жа ў нас усюды, куды ні глянь. Ці ў вас хаця зброя якая ёсць пры сабе? Я дык і ехаць пабойваюся.

Кандрат Назарэўскі не паверыў пра бандытаў:

— Зброя ў мяне ёсць, няма чаго баяцца!

Пакуль чалавек запрагаў, жанчына прынесла хлеба і малака. Яна старалася гаварыць добра. Кандрат Назарэўскі з асалодай з'еў увесь хлеб і ўсё малако. Жанчына разгаварылася:

— Якое гора — вайна! От за гэтыя дні колькі вёсак спалілі. І колькі людзей гіне! Мы самі, сказаць, жывём на адзіноце, дык праз некаторы ўжо год — абы стукне што дзе ўвечары ці ўночы, дык мы і памлеем, здаецца, ужо ідуць.

— Хто ідзе?

— Мала хто! Як прыйшлі былі немцы, дык у нас дзве каровы забралі. Палякі цялушку забралі.

Гаспадар увайшоў у хату:

— Раквізіца была. Скажыце, таварыш, а цяпер раквізіцы не будзе?

Жанчына загаварыла зноў:

— Я от толькі не разумею, таварыш... вядома, мы, сказаць, простыя людзі, мы пытаемся пра ўсё. Нашто чапаць ралігію? Цара скінулі, паноў прагналі, ну, добра. Ну, а ралігія? Усё ж такі без ралігіі чалавек як звер будзе, калі ён не чуцьме над сабою бога. Чалавек павінен мець у сэрцы нейкую літасць да другога чалавека. А без бога — як жа ён будзе?

— То бог ёсць, ці толькі трэба, каб быў?

— Як жа гэта бога няма?! Адно што веры ёсць усялякія. А сярод іх адна вера павінна быць праўдзівая. Што ж, скажам, руская вера! Там найбольш было ашуканства. Мошчы, мошчы — крычалі. Пакладуць пару касцей, абложаць ватай, абмажуць воскам, і кланяйся, і маліся. А пасля — бальшавікі гэта добра зрабілі. Як паглядзелі на ўсё гэтае ашуканства, дык і... каталіцкая вера заўсёды з гэтых мошчаў смяялася. Наш Толік, як быў у войску, сам гэтыя мошчы бачыў.

Яна збянтэжылася і пашкадавала, што неабдумана лішні раз успомніла пра свайго сына.

— А вы каталікі?

— У нас напалам. Я сама каталічка, а муж праваслаўны.

Тут загаварыў гаспадар:

— Я ўвесь свой век вялікі меў клопат. Іншаму здаецца, што калі хто што мае, дык гэта з неба гатовае скінулася. Я некалі, як прыйшоў быў з салдатаў, то мне казаў сам прыстаў, каб я ў стражнікі падаваўся, але я не захацеў, бо ў мяне натура такая, што не магу з бізуном або з штыхом над чалавекам стаяць. А паліцэйскі з гэтага хлеб еў. Я люблю, каб у злагадзе з людзьмі. Жылі мы на паўвалоцы з бацькам, там у вёсцы, за лесам, вы калі ішлі, дык бачылі тую вёску. Я паўвалоку прадаў, а сам купіў тут, якраз панскі клінок у сялянскае заходзіў, сяляне травілі. Пан і прадаў. Грошай у мяне не хапіла, то я ў мястэчку крамку быў адчыніў, пасля свінні і каровы перакупліваў. З даўгамі разлічыўся. Але здаў быў гэтую зямлю людзям на палавіну рабіць, а сам пайшоў да таго самага пана ў маёнтак за аканома. Пяць год служыў, а тады тут забудаваўся.

А на ўсё гэта клопат патрэбен быў. Турбота вялікая... Цяпер яно так усё як да часу. Трэба было б будынкі пааглядаць, агарожу папpавіць, але, можа, хіба паспакайнее на свеце: вайна, рэзрух...

— А чаму ж вы пры паляках не агледзелі свайго хутара? Спакойна ж было. Улада была цвёрдая,— сказаў Кандрат Назарэўскі, паглядаючы на гаспадара.

Той раптам змоўк. Больш не гаварыў пра сябе. Толькі сказаў пра пана:

— За ўсімі ўладамі цяпер цяжка — вядома, вайна. За палякамі пан сюды прыязджаў, той, што я ў яго зямлю гэтую купіў. Збяднеў за гэты час і ён. Яшчэ з пачатку рэвалюцыі ён быў з маёнтка свайго ўцёк і жыў у нашым гарадку, у павеце. Перад самымі палякамі яшчэ паехаў я раз у горад, спатыкаю яго, а ён мне «дзень добры» першы дае. Дастаў з кішэні партабак, пачаў круціць папяросу і кажа мне: «Вас я сваім тытунём не частую». Закурыў ён; я чую па дыме, што нейкі дзіўны тытунь. Што гэта, пытаю, пан курыць? «Вішнёвае лісце»,— кажа. І паказаў. Гляджу — праўда.

— Божа мой, божа! — абазвалася гаспадыня.

— Небарак пан,— паківаў галавой Кандрат Назарэўскі.

Пайшлі садзіцца ў воз. Запрэжаны конь быў высокі, худы — адны косці і скура — з казённым кляймом на сцегняку. Пярэднюю нагу ён трымаў падняўшы, сагнуўшы ў калене.

— У яго нага баліць?

— Баліць. Гэта там на дарозе, за лесам, на тым тыдні салдаты яго кінулі, я яго забраў і крыху адхаяў. Можа, як завязу вас. Што ж вы будзеце прападаць без фурманкі. Якнебудзь, можа, будзем ехаць. Но, малы! — (Страшэнна кульгаючы на пярэднюю нагу, конь крануў з месца.) — У мяне самога коні някепскія, але ў раз'ездзе. Двое коней у абозе, а трэцяга ўзялі ў вёску знаёмыя людзі снапы вазіць. Што ж, трэба памагчы людзям. Сам я нейк управіўся. Авёс яшчэ мой увесь не пажаты.

Конь ледзьве ішоў, з кожным крокам прыпадаючы мысай у зямлю.

— Дзе вашы коні?! — Кандрат Назарэўскі саскочыў з воза і спыніў каня.— Зараз жа давайце свайго каня!

— Дзе я вам яго вазьму!

— Вам лепш знаць.

Скуратовіч злез з воза і абапёрся локцямі на драбіны.

— Я раблю ўсё, што магу, каб памагчы вам. Якога каня маю, такога і запрог.

— Каб памагчы мне?! Ты яшчэ, можа, падзякі ад мяне захочаш? Зараз жа давай другога каня!

Скуратовіч развёў рукамі і зноў стаў у скамянелай позе.

— Я табе даю часу ўсяго адну хвіліну так стаяць і думаць. Пасля гэтага або ты запражэш добрага каня, або я цябе арыштую.

Скуратовіч раптам угнуў плечы так, што яны сталі шырокія і круглыя. Ён моўчкі палез на воз.

— У мяне коней няма. Мы з вамі пераедзем лясок, і там, у вёсцы, я вазьму каня... Гэта нават дзвюх вёрст не будзе ад вёскі.

Ён памаўчаў.

— Але і так сказаць, боязна мне цераз гэты лес ехаць. Тут часта бандыты абзываюцца.

Гэта ўжо зусім пахла здзекам. Кандрат Назарэўскі закрычаў:

— Марш!

Пасля ўсёй гэтай валтузні Кандрат Назарэўскі адчуў яшчэ больш, як боль востра тузаў нагу. Вельмі паволі ўехалі яны ў малады ельнік — страшэнная гушчыня. Конь яшчэ горш пайшоў. Кандрат Назарэўскі злез з воза і пайшоў побач. Злез і Скуратовіч. Ельнік неўзабаве разбегся, і, уся залітая сонцам, бліснула аўсяная паляна. Жанок дзесяць жалі авёс. Першая ад дарогі жала дзяўчына, зусім маладзенькая, яшчэ падростак. Яна як адагнулася глянуць, хто едзе, Кандрат Назарэўскі ўбачыў моцны, як тонка вытачаны, твар з загарам, густыя рыжаватыя валасы, белую хусцінку на самым версе галавы. Глянуўшы на фурманку, яна зусім пакінула жаць і асталася так стаяць, пакуль не пад'ехалі бліжэй. Ёй было год каля чатырнаццаці.

— У фурманку? — сказала яна, цікаўна гледзячы то на Скуратовіча, то на чырвонаармейца.

— Але,— панура адказаў Скуратовіч.

— Чаму ж вы, дзядзька, добрага каня не запрэглі?

Яна не зміргнула вокам, гледзячы на Скуратовіча. Жанчыны некаторыя ўсміхнуліся, некаторыя яшчэ ніжай нагнуліся жаць, а самі ўсё паглядалі на дарогу. Скуратовіч пацiснуў плячыма і паглядзеў на чырвонаармейца. Што, значыцца, з ёю гаварыць! Чырвонаармейцу ж вядома, што коней у яго дома няма!

Дзяўчына ўсё глядзела на Скуратовіча. Гэта была са-

мая шчырая, можна сказаць, дзіцячая наіўнасць. Яна зусім ужо выйшла на дарогу. Кандрат Назарэўскі заўважыў, як густа ад загару вяснушкі ўкрылі яе твар. Ён спыніў каня. Скуратовіч загаварыў да дзяўчыны, ядучы яе вачыма:

— Дзе ж тыя коні! Няма ж дома.

— А ў ельніку ж! Вунь жа блізка. Толік жа там з коньмі.

Цяжка было разабраць — ці гэта ад наіўнасці, ці гэта сумысля, нават зларадна.

— Што ты дурыш! — аж затросся Скуратовіч.

Угнуўшы плечы, яна пачала жаць.

— Марш па коні! — загадаў чырвонаармеец.— Жыва!

Скуратовіч пайшоў у ельнік. Жанкі са здзіўленнем паглядалі на дзяўчыну. Яны спачувалі ёй. Чырвонаармеец разгаварыўся з ёю:

— Гэта Скуратовічаў авёс жнеце?

— Але.

— У лесе з коньмі гэта сын яго?

— Сын.

— Чаму ж ён не ў арміі?

— Ён яшчэ перад палякамі, як было адступленне, уцёк дадому. З першага дня, як прыйшлі палякі, яго ўжо бачылі дома. А цяпер ён у лесе, коні трымае. Ператрымаў увесь час, пакуль армія прайшла. Ніхто і не ведаў. Няма коней і няма. У абоз, значыцца, пагналі. Так усё стары казаў.

— А ён цяпер у армію пойдзе?

— Хто яго ведае. Толькі ўчора павыклейвалі ў нас загад — за некалькі год хлапцам трэба з'яўляцца. Яго году таксама трэба. З'яўляцца трэба праз дзесяць дзён. Ці пойдзе ён, ці не — хто яго ведае. Тут і больш ёсць дэзерціраў. Гавораць, што пойдуць, хто іх ведае.

Скуратовіча ўбачылі па гэты бок ельніку. Ён вёў на повадзе чорнага каня. Запрагаючы, ён сказаў, ні на кога не гледзячы:

— Вядома. Кожнаму чалавеку вайна страшна. Кожны ратуецца, як можа. Я мучыўся, гараваў...

Яны паехалі. Кандрату Назарэўскаму балела рана на назе. Многа так ехаць ён не мог. Праз вёрст пяць было мястэчка. Кандрат Назарэўскі сказаў тут спыніцца. Яму ўжо трэба было адпачыць.

— А такі і праўда,— узрадаваўся Скуратовіч.— Вы хворы і змучаны. Вы тут сабе ў каго ў хаце адпачніце да заўтрага, а там вам дадуць фурманку, і вы сабе паедзеце далей на здароўе. А я сабе пабяруся пакрысе дадому, авёс

вазіць. От тут жонка бутэльку малака на дарогу ўставіла ў воз, то вы гэтае малако можаце ўзяць сабе. Ад малака вам, я ж кажу, лагадней стане. Адно, калі ласка, мне распісачку, што я вас вёз.

— Што? — выйшаў з цярплівасці Кандрат Назарэўскі.— Праз гадзіну мы з вамі паедзем далей! Заязджайце ў які-небудзь двор!

Холадна і спакойна, як быццам бы нічога не было, Скуратовіч сказаў:

— Унь там хата майго знаёмага, туды заедзем.

Завярнулі ў двор. Кандрат Назарэўскі ўвайшоў у хату. Там быў адзін толькі хлапчук, год яму было не больш пяці. Ён сядзеў на зямлі і чэрпаў вялікай лыжкай з гаршка нейкую шэрую калатушу. Твар у яго быў страшэнна замурзаны.

— Дзе ж усе вашы?

— Няма нікога дома,— катэгарычна адказаў ён.— Тата на рабоце (памаўчаў). А Зося наша дома не жыве (гаварыў ён нейкім дзіцячым басам).

— А дзе ж жыве ваша Зоська?

— У Скуратовіча служыць.

«Ці не тая, што авёс жала і пра коні гаварыла?»

Кандрат Назарэўскі хапіўся за кішэні, але што там у яго магло быць, каб даць на пацеху ці на асалоду гэтаму дзіцяці? І ён нагарнуў сабе пад галаву ўсялякіх лахманоў і лёг на лаве. «От, чорт,— думаў ён пра Скуратовіча,— як ён намучыў мяне, сабака». Хлапчук усё боўтаўся ў гаршку.

Спаў ці так драмаў Кандрат Назарэўскі? Яму не хацелася нават паварушыцца. Цішыня ў хаце была нязвыклая. Яна цягнулася аж датуль, пакуль не ляпнулі дзверы і ў хату хтосьці не ўвайшоў. Гэта была тая самая дзяўчына.

— Які ты мурзаты,— сказала яна да хлапчука.

Яна намачыла ручнік і выцерла яму твар.

— На,— дала яна штосьці яму.

— Сала? — узрадаваўся малы.— Дзе ж ты ўзяла, Зоська?

— Табе прынесла.

Ядучы, ён дурэў з сястрой, пасля кідаўся на ложак, куляўся там, заходзіўся бесклапотным смехам.

— Чалавека пабудзіш! — сцішала яго яна.

Кандрат Назарэўскі падняў галаву. Яна пазнала яго і не здзівілася, толькі глядзела на яго так, быццам чакала нейкага растлумачэння. Ён расказаў, што не мог адразу ехаць, бо ранены і яшчэ не паправіўся.

— А пакуль фурманку дастаў гэтую, дык патузаўся з гэтым Скуратовічам.

— Я таго і дадому прыйшла, што бяда мне цяпер будзе. Я без усялякай хітрасці сказала, што коні яго ў лесе, а пасля адумалася, што ён жа і сам ведае.

— А каб вы спачатку адумаліся, дык бы не сказалі?

Яна зразумела, што гэтым хацеў сказаць чырвонаармеец, і адразу не магла адказаць. Яна загаварыла як быццам пра іншае.

— Я не ведаю, што мне цяпер рабіць. (Вочы яе заблішчалі ад слёз.) Я ўжо баялася быць там, мяне там елі б, грызлі б. Ужо дзён тры мне спакою не будзе. Мне трэба было да паўдня жаць, а тады ісці ў гумно пад авёс старану вычысціць, а я не пайшла. Там ужо гаспадыня панясе гэтаму Толіку ў ельнік есці, дык той ёй раскажа ўсё. Яна мяне заесць. Я дадому сюды прыбегла, аж бачу — Скуратовіча конь стаіць. Мы крыху сваякі.

Яна заплакала. Кандрат Назарэўскі неўзаметку ўваходзіў у справы чужога жыцця. Яны цяпер былі з гэтай дзяўчынай умешаны ў адну справу, як быццам змоўшчыкі яны былі. Спалоханы плачам сястры, хлапчук паглядаў на яго з кутка.

— А вы зусім кінуць служыць не можаце?

— Тады трэба будзе да каго іншага ісці.

З шчырай даверлівасцю яна пачала расказваць пра сваё парабчанства, пра свайго бацьку, пра Скуратовіча. Цяпер гэта ўжо не была тая наіўная дзяўчына, што так неспадзеўкі і проста ўспомніла гаспадару пра коні ў ельніку. Яна нават своеасаблівым парадкам давала ацэнкі некаторым справам і людзям. Тут яна выявіла сталую спрактыкаванасць. Яна расказала пра Скуратовічаў тое, што сама бачыла і што магла чуць ад людзей, за яе старэйшых.

Як ужо быў Скуратовіч за аканома ў пана, узяў сабе замуж панскую ахмістрыню, а сваю сястру ўмасціў к пані за пакаёўку. Раптам з'явіўся на даляглядзе чалавек. Гэта быў Стафан Сэдас, панскі сырнік. Скуратовіч і цяпер як мае быць не ведае, адкуль ён быў родам, гэты Стафан Сэдас. Ні то з-пад Гародні, ні то з-пад Сувалак, а можа, нават і з-пад самай Варшавы. Бачыў і ведаў Скуратовіч толькі адно: чалавек гэты з добрай галавой, не любіць мужыкоў, выглядае панам, умее добра з панамі абыходзіцца, а як пачне гаварыць — то не спаў бы, не еў бы, а ўсё слухаў бы. Адным словам, чалавек, можна сказаць, культурны. Ён — і пра сямейныя інтымнасці ўсіх навакольных паноў, і пра

гешэфты павятовых скупшчыкаў і перакупшчыкаў, і, нават, у вясёлую хвіліну, калі ў галаве туманіцца хмель, пра заляцанні старога пана да аптэкаравай жонкі ў мястэчку. І раптам гэты чалавек, гэтакі добры знаёмы, гэтакі прыемны госць робіцца Скуратовічавым сваяком — бярэ замуж панскую пакаёўку, Скуратовічаву сястру. Пан адчыняе другую сыраварню, і Стафан Сэдас робіцца майстрам у двух маёнтках адразу. Складаецца цікавае сяброўства: хутаранец Скуратовіч, сыравар Сэдас, местачковы арганісты і панскі садаўнічы. Сэдас страшэнна ненавідзіць праваслаўе, а значыцца, і папоў. Ён паважае ксяндзоў, а Скуратовіч з папом першы друг. А пра дзяка і казаць няма чаго: той як дзень, так і ноч трэцца на Скуратовічавым хутары. А тут якраз з Сэдасавай ласкі пачаў укліньвацца да Скуратовіча арганісты, а за ім яшчэ гатоў з'явіцца на даляглядзе і сам ксёндз. Што рабіць? Сэдас не такі чалавек, каб пагадзіць праваслаўе з каталіцтвам. Так гэтая няпэўнасць цягнулася блізка год, пасля Сэдас падстроіў так, што поп зусім пачаў мінаць Скуратовічаў хутар. Сэдас расцвяліў Скуратовічавых сабак перад тым, як меўся сюды з'явіцца поп. Сабакі дайшлі да такога гарту, што мелі патрэбу ўжо кінуцца абы на каго, хоць на самога Скуратовіча. Сабакі ўзялі-такі як мае быць папа. А Сэдас дэманстратыўна стаяў на Скуратовічавым ганку і хоць бы зварухнуўся. Назаўтра поп граміў у царкве, у пропаведзі, каталіцтва, а Скуратовіч прымушан быў, як настаў вялікі пост, ехаць да споведзі аж у суседні прыход. Ксёндз, праўда, Скуратовічавым другам не зрабіўся, але Скуратовіч у поўнай меры задаволіўся і адным арганістам. Добра і гэта! У Скуратовіча над камодам з'явілася велікодная паштоўка: ідуць паніч з паненкай, навокал іх распускаецца бэз, а ўнізе написана Сэдасавай рукой: «wesolego alleluja!»

Першыя два-тры месяцы пасля канца царскай імперыі ўсё ішло някепска, нават яшчэ і лепш як быццам. Пан падтуліў хвост, а яго службовец Сэдас маёнтка не меў, што яму! І ён пачаў заспоўваць у мястэчку прадпрыемства, якое назваў «кааператыў». Першыя пайшчыкі былі: Сэдас, Скуратовіч, ксёндз, арганісты, сам пан — гаспадар сыраварняў — і ўсё местачковае выдатнае праваслаўе — поп, дзяк і яшчэ там чалавек трох местачкоўцаў. Ніякіх канфліктаў не адбывалася і адбывацца не мелася. Тут праваслаўе і каталіцтва пагадзіліся. Наадварот, поп быў пачынальнікам усёй справы і сам парэкамендаваў на пасаду галавы прадпрыемства Сэдаса. Сэдас па вушы ўвайшоў

у справу, ён кінуўся ў новую дзейнасць. Ён сам з'явіўся да папа і меў з ім доўгую гутарку. Пайшчыкаў больш не запісалася, але яны і не патрэбны былі: прынамсі, кожная драбяза не замінала пад нагамі. Гандлёвае таварыства, ці, як у статут было ўпісана, «каапературыў», шырылася вельмі ўдала. Разам з іншымі гарадскімі таварамі, якія ўвішны Сэдас ухітраўся аднекуль даставаць, там прадаваліся Скуратовічавы мёд і сала.

Але адбылася другая рэвалюцыя, і прадпрыемства пайшло дагары нагамі, а ўсе ўдзельнікі яго пашыліся ў свае норы, як рудыя мышы. Як прыйшлі былі палякі, Скуратовіч падняў галаву. Сын Анатоль уцёк з Чырвонай Арміі дадому, і гэта давяршыла радасную сямейную ўрачыстаць. І навокал усё пайшло інакш. Сэдас зрабіўся вялікім чалавекам. Перш за ўсё ён ужо сам стаў кіраўніком панскага маёнтка. Гаварылі, што пан яму падараваў зямлі і ён мае намер завесці ўласную дамоўку, чакае толькі, калі ўсталюецца непарушны парадак (як будзе скончана вайна з бальшавікамі). Пасля ён стаў як бы нейкім начальнікам. Адзін раз вясковы чалавек сказаў на рынку пра Сэдаса, што «наўрад ці можна дзе яшчэ знайсці такога панскага падбрэхача». То не паспеў той чалавек з'явіцца дадому, як паліцыянт тут жа яго схвастаў нагайкай і заявіў, што не кожнага дазволена абзываць падбрэхачам. З паліцыянтаўскага пастарунку Сэдас і не вылазіў. Наводзіў ён паліцыянтаў на кожнага, калі дзе хто якое не зусім трывалае слова скажа. Сэдас уеўся людзям у косці так, што (гэта было ўжо цяпер, за некалькі дзён да спаткання Кандрата Назарэўскага з Скуратовічам) перад самым адыходам польскага войска яго лавілі, падпільноўвалі, каб не выпусціць жывога з рук. Але ён паспеў выехаць разам з панам. Шмат хто з вяскоўцаў чухаў патыліцу з прыкрасці, што не ўдалося якога-небудзь знаку пакінуць на Сэдасавай асобе на вечную памяць.

— Гэта ён зняты на фатаграфіі над камодам у Скуратовіча?

— Ён,— адказала дзяўчына.

Яна гаварыла ўжо з нейкай заўзятасцю, старалася расказаць усё, давесці да ведама Назарэўскага нават усё самае дробнае. Яна як бы думала, што гэты чырвонаармеец адным махам рукі, адным сваім словам навядзе ва ўсіх гэтых справах парадкі. Ёй больш не трэба будзе варочацца на Скуратовічаў хутар, недзе там, за граніцай, зловяць Сэдаса і прывядуць сюды. Бо тут жа яго лавілі, а ён уцёк.

Дзіцячая наіўнасць зноў пачала з'яўляцца ў яе скрозь спакойную сталасць. Так яна гаварыла з Назарэўскім. Ён хацеў сказаць ёй што-небудзь добрае, ласкавае. Скуратовіч увайшоў у хату. Ён убачыў Зосю.

— Ты прыйшла?

«Паспрабуй абараніць яе цяпер перад Скуратовічам,— думаў Кандрат Назарэўскі,— то ёй яшчэ горш будзе». І ён загадаў Скуратовічу ехаць далей. На развітанне ён працягнуў Зосі руку з пачуццём вялікай прыхільнасці, як быццам яны заўсёды ведалі адзін аднаго.

— Можа, калі трапіцца быць у маім горадзе, то заходзьце. У мяне дома бацька і сястра малая. Запомніце вуліцу і нумар дома.

Даючы ёй адрас, ён мала спадзяваўся, што яна сапраўды калі-небудзь завітае туды. Але ён шукаў сказаць ёй што-небудзь такое, каб яна адчула яго да яе прыхільнасць, а майстар на слова ён не быў.

Скуратовіч павёз Назарэўскага. Праехалі рэчку, уехалі ў лес. Лес рос на нізкім месцы, месцамі ішлі забалочаныя паляны. Скуратовіч пачаў гаварыць:

— Бачыце рэчку? Яна шырэе нейк раптам. Яшчэ каля майго хутара — гэта толькі загіністая ручаіна. А тут, пане мой, бачыце, шырэй. За гэтым лесам яна вельмі ж раптоўна ўшыркі разліваецца.

Кандрат Назарэўскі не спыняў яго і не памагаў яму ў гаворцы. Ён цераз дзесятае ў пятае чуў, як Скуратовіч, увайшоўшы ў ахвоту, гаварыў пра «вечнае ўсталяванне жыцця чалавека на зямлі». Ён гарнуў усю сваю душу праз гэтую гаворку на тое, што свет толькі тады будзе мець «законнае ўсталяванне», калі ўсё пойдзе пад вядомыя яму «вечныя» дарогі. Ён так і гаварыў: «калі законны парадак усталюецца». Якраз гэта было тое «ўсталяванне», п якім змагаўся, не шкадуючы самога сябе, Кандрат Назарэўскі.

— Каб не ўся гэтая калатня на свеце, дык проста, пане мой, навіна скрозь паўводзілася б. Якія машыны па маёнтках пачалі з'яўляцца! Пан Шатроўскі выпісаў машыну, што бульбу капае, выкідае наверх з зямлі, толькі бабы ідуць ды збіраюць. Паравікамі скрозь малаціць пачалі. Ды, сказаць, і па вёсках, глядзіш, у таго, у другога з'явіўся паракопны варшаўскі плуг. Яно потым пойдзе ўгару, як прыйдзе зноў законнае ўсталяванне.

— А якое законнае ўсталяванне?

— Ну, нешта павінна з гэтай вайны выйсці. Перш за

усё павінна быць цвёрдая назаўсёды ўлада, каб чалавек не дрыжэў, што з'явяцца і забяруць, што ты маеш.

«У самыя трывожныя свае хвіліны ён не пакідае думаць пра сваю цвёрдую ўладу»,— падумаў Кандрат Назарэўскі і ўжо больш не падаваў свайго голасу. А той усё гаварыў, гаварыў без канца, маючы ў гэтай сваёй гаворцы сваю асалоду. Ён гаварыў пра новыя гатункі скарбовага жыта, што ён гэты гатунак ужо і сам ад пана сабе завёў. Што, каб не вайна і рэвалюцыя, ён бы ўжо свой сепаратар меў бы.

— У мяне малако праз цынтрыфугу, пане мой, праходзіла б.

— Колькі ў вас парабкаў было да вайны?

— Найбольш два.

— А цяпер?

— А цяпер адно пастушок. Зімою ён у мяне таксама робіць, але за гэта я яму асобна прыплачваю. Бацька яго рад — хоць крыху малы заробіць. Я яго не крыўджу, хлеба даю. Бедната, не дай божа, галодныя і голыя. Сэрца баліць. На полі сын мой робіць. Вучыцца яму вайна не дала. Так давялося яму, небараку, астацца. Перарос зусім, пакуль там якое ўсталяванне... Я думаў Анатоля за доктара выводзіць, аж не выйшла. Час такі. Чатыры класы гімназіі прайшоў, і з-за неспакою на свеце прыйшлося кінуць. У нас мясцовасць добрая — лес смольны, рэчка, хоць невялікая. Каб сын выйшаў за доктара — ух, што б мы тут маглі б зрабіць! Я мог бы выбудаваць больніцу сваю ўласную, сын кіраваў бы ўсім. Фельчары былі б пры ім...

— Свае,— не вытрымаў Кандрат Назарэўскі.

— А што вы думаеце? Чалавек з галавою мог бы...

— Гэта ж можна было абагаціцца, маёнтак справіць...

— Пане мой, дзіва што!

— А вы лепш паганяйце каня, мне трэба скарэй даехаць.

Скуратовіч паглядзеў на Кандрата Назарэўскага і спыніў гаворку. Лясы адыходзілі на далягляды і пасля зноў сыходзіліся на дарозе. Лясныя выжарыны трапляліся часта, балотныя выспы, забалочаныя паляны ішлі ўсё часцей. Торф выступаў скрозь. Здавалася — уся зямля чарнее торфам з-пад травы. Лес пачынаў драбнець. Усё торф і торф. Часамі, дзе ўжо зусім нізка было, ішоў спрэс каржакаваты хвойнік, крывы бярэзнік, купчасты алешнік. Пасля дарога зноў ішла пад гару, і выносістыя хвоі зноў цягліся ў неба.

— Ах, лес,— гаварыў Скуратовіч,— балота. Гэта ўсё княжыя лясы. Каб не вайна, паны балота браліся б асушваць. Добры лес пакінулі б, дрэнны вырабілі б на поле. Не пазнаць было б мясцовасці. Але, сказаць, і паны былі ўсялякія. Іншы не мог жыць інакш, як яго бацька жыў. Старыя паны як жылі? Ён сабе выязджаў на сваім фаятоне — і не знайся! А там зямлю гэтую корпалі парабкі на старасвецкі лад. А цяпер пара інакшая прыйшла. Цяпер народ размножыўся, маёнткі драбнець пачалі. Некаторыя паны дык проста паспрадавалі іх або падаводзілі свае двары да няма нічога, не ўмеючы гаспадарыць па-новаму. Час інакшы прыйшоў. Новыя паны пачалі з'яўляцца. Унь Хурс, можа, і чулі, свіны купец. Гэты кожнага даўнейшага пана можа купіць з жонкаю і дзецьмі, як кажуць. Бо ён ведае, як цяпер на свеце трэба паварочвацца, ён практык. Або Кандыбовіч! Купіў спачатку маёнтачак нейкі задрыпаны і так яго, пане мой, вырабіў, што грашмі нажыўся. Тады і пачаў больш маёнткі скупліваць. Пашырыўся на цэлую губерню. Каб траха, дык і Радзівіл. Гэты ўжо зусім адменны пан, хоць бы сабе і Кандыбовіч. Гэты ўжо не выедзе ў фаятоне і на конях з белымі істужкамі на набадрах. Гэты ў аўтамабілі коціць і без шафёра, а сам. Ходзіць у вялікіх ботах, сам па балоце лазіць, калі дзе саломіна валяецца, дык і яе кіем тыцкане і за гэты непарадак парабку рубель з пенсіі вылічыць. Гэты б'е рублём. Ён не верыць аканому, а, прабуючы зямлю, сам за плуг возьмецца і паарэ да поту разам з парабкамі. Гледзячы на яго, і паны з даўнейшай натураю пачалі цягнуцца за ім. Напрыклад сказаўшы, аўтамабілі пазаводзілі. Але што ж, калі ён з белай рукі пярсцёнка не зніме. Без лёкая не нагнецца кветку паненцы вырваць. Дык што за карысць з гэтага яго аўтамабіля! Аўтамабіль яго маёнтка не выратаваў. Усё адно — ён павінен прадаць свой маёнтак таму, у каго новая натура. Каб не вайна, дык які-небудзь Кандыбовіч і разгарнуўся б тут. Але і так сказаць, вайна ні Хурсу, ні Кандыбовічу на згубу не пайшла. Яны на ўвесь фураж цэлага войска падрады бралі. Паазалочваліся. Паны, калі прадавалі зямлю, то не адзін жа які-небудзь там Кандыбовіч яе купляў. Купляў і народ. Каб не вайна, то я і сам прыкупіў бы яшчэ валоку якую. Народ багацеў бы. А багатыя гаспадары зрабілі б хаўрус, і балоты сушылі б, і машыны заводзілі б. А каля багатага і бедны карміўся б і капейку зарабіў бы... Мог бы жывіцца, калі не каля пана, то так, каля багатага гаспадара. Пан не кожны літасць меў

над чалавекам. Што паноў страсянулі, то гэта ім варта. Падгрэблі былі сабе ўсё. А народу як? Калі маёнтак, то я рабіў бы яго невялікім, на дзесяцін шэсцьдзесят, і даволі. Няхай бы сабе кожны, хто мог спосаб мець,— набываў бы.

Ён так верыў у сваю праўду, што нават не з'яўлялася ў яго і думкі, што той чалавек, якога ён вязе, глядзіць на ўсё інакш. Ён мог толькі адумацца тады, калі той чалавек часам устаўляў свае слова. Ён і цяпер слова ўставіў:

— Тады ўжо ў вас парабкаў было б многа?

— Хто яго... чалавек наперад хіба ведае?

Скуратовіч як бы прыбянтэжыўся. У вачах Кандрата Назарэўскага ён раптам вырас. Яму дзіўна стала, як гэты чалавек не страляе дзе-небудзь у яго, а вязе на сваім возе. Такое з'явілася Кандрату Назарэўскаму адчуванне.

— Паганяйце каня,— сказаў ён пагардліва,— мы гэтак і да вечара не заедзем.

Скуратовіч таксама пагардліва, але паслушна,— сцебануў каня. Змучанае вайной і ранай, усё цела Кандрата Назарэўскага прасіла спакою. Ён цяпер прагнуў скарэй даехаць туды, дзе ён будзе адпачываць і лячыцца. Скуратовіч маўчаў. Кандрат Назарэўскі ўспёрся локцем на салому, прылёгшы. Локаць прыціснуў салому да драбіннага донця. Так стала спакайней ехаць. Мясцовасць плыла вельмі паволъна.

Толькі на другі дзень убачыў Кандрат Назарэўскі свой родны гарадок. Ён не пазнаў яго. Муры, якія і былі ў ім, асталіся пабітыя гарматамі. Драўляныя вуліцы пакалечаны агнём. Сады чарнелі абсмаленым голлем. Людзі туліліся на вуліцах. Зборышчамі брудных лахманоў былі дзіцячыя пасцелі. Прыглушаныя горам жанчыны яшчэ ўсё не маглі апрытомнець. Людзі стаялі натоўпамі, яшчэ ўсё не могучы даступіцца да якой-небудзь сваёй справы. Кандрат Назарэўскі ішоў вуліцай, не пытаючы ні ў кога, што гэта. Яму і так было вядома: вайна і адступ варожага войска. Ён дайшоў да канца вуліцы. Які цяпер бацька? І як яны спаткаюцца? Ён убачыў, што два муры дробнай ткачоўскай фабрыкі спалены і разбураны. «Значыцца, цяпер ужо бацьку, старому ткачу, не будзе работы»,— думаў Кандрат Назарэўскі, заварочваючы да старой драўлянай хаціны. На парозе ў сенцы ён спаткаўся з дзяўчынкай маленькай, год ёй восем на выгляд. Яна штосьці несла ў зграбным кошыку з фарбаваных лучынак. Хутчэй па кошыку Кандрат Назарэўскі пазнаў дзяўчынку.

— Ірка, Ірынка! — гукнуў ён.— Сястрыца!

Яна спачатку не пазнала, а пасля радасна збянтэжылася.

— Ты падрасла, Ірынка. Куды ты з кошыкам?

Яна падняла ў кошыку ручнік, і Кандрат Назарэўскі ўбачыў бутэльку малака, кавалак хлеба і палову шэрага праснака.

— Наш тата ў больніцы. Афіцэр яго шомпалам... ведаеш? Пранізаў.

— Ты гавары! Папраўляецца?

— Я не ведаю. Доктар кажа, што папраўляецца.

— Я з табой пайду.

На рынку захавалася колькі дамоў. У адным былі згуртаваны рэвалюцыйны камітэт, ваенкамат, чэка. Як праз туман, Кандрат Назарэўскі чытаў нязграбна, да часу намаляваныя чорным на фанеры шыльды. Нарэшце яны дайшлі да больніцы. Ён ішоў за сястрой, яна правяла яго разгароджаным дваром да трэцяга дома. Ён усё ішоў за ёю. Яна ўвайшла ў першы пакой, дзе ляжаў бацька, і раптам неяк дзіўна пачала аглядаць адзін ложак за другім. На тым ложку, дзе яна прывыкла бачыць бацьку, ляжаў хтосьці іншы, незнаёмы.

— Дзе ж ён? — запытала яна.

Жанчына ў белым халаце ўткнулася тварам у газету і, памаўчаўшы, вельмі неахвотна адказала, стараючыся не глядзець на Ірынку:

— Яго перанеслі ў той пакой.

Ірынка павяла брата туды. Але і там бацькі не было. Яны вярнуліся назад.

— Там яго няма,— сказала Ірынка, зноў аглядаючы ложкі. Жанчына ў белым зноў закрыла твар газетаю, пасля ціхом устала, нібы паправіць хвораму падушку. Ірынка стаяла збянтэжана. Можа, хвілін тры гняло ўсіх маўчанне. Тады падняў галаву адзін хворы:

— Скажу табе, дачушка, праўду. Твой бацька нядаўна памёр.

Ірынка выпусціла з рук кошык. Малако з бутэлькі палілося па падлозе, бутэлька з цвёрдым грукатам адкацілася ў кут. Цяпер ужо Кандрат Назарэўскі павёў сястру — яны памяняліся ролямі. Ён узяў Ірынку за руку, яна вырвала руку і адбеглася забраць кошык. Пасля яна сама дала сваю руку брату, і яны выйшлі на вуліцу. У трупярні яны ўбачылі бацьку. Ірынка як анямела. Твар яе да самага вечара быў мокры. Брат не сцішваў яе. Ён адаслаў яе дадому, а сам пачаў клапаціцца, перамагаючы боль ва

ўсім целе. Ён пахаваў бацьку назаўтра зранку. Вярнуўшыся з могілак, ён адразу ж лёг у пасцель. З яго сям'і ў яго асталася толькі Ірынка. Яна і была пры ім. Кватэра іхняя была ў старым доме, нізкім і вільготным нават улетку. У даволі прасторным пакоі трухлявыя сцены былі абмазаны непабеленай глінай. Варыстая печ займала шмат месца. Два акны выходзілі на двор, а сенцы былі агульныя з суседняй кватэрай. У той кватэры было многа дзяцей, былі там і Ірынчыны аднагодкі, і ўжо ў наступныя дні яна спрабавала аднаўляць з імі перарванае страшнымі падзеямі сяброўства. А седзячы адна ў хаце, яна ціха плакала, хаваючы слёзы ад хворага брата. Твар у яе быў шырокі, з вялікімі сінімі вачыма. Слёзы пакідалі на ім сляды. На дзень пяты брат заўважыў, што яна не мыецца і не раздзяецца, кладучыся спаць. У адной і той жа сукенцы яна была ўсе гэтыя дні і спала ў ёй. Брат ёй заўважыў гэта, і яна паслушна стала скідаць нанач сукенку і мыцца.

— Ты і раней не мылася?

— Мылася і раздзявалася.

Кандрат Назарэўскі бачыў, як прыглушылі падзеі малую сястру. І ён стараўся разважыць яе. Яна некалькі разоў расказвала брату, як памерла маці ў той год, калі ён пайшоў у Чырвоную Армію. Яна ўсё гаварыла, як дарослая, і, як дарослая, пачынала рабіць усё ў доме. Заахвоцілася нават раз мыць падлогу і даволі-такі чыста вымыла яе і выскрабла. Яна хадзіла атрымліваць братаў паёк, і на гэты паёк яны жылі ўдваіх. Яшчэ яна вадзіла на дарожныя адкосы пасвіць казу, сама даіла яе і малако ела неахвотна: усё ўгаварвала брата, каб ён, хворы, сам усё выпіваў і правіўся. Пры гэтым яна ледзьве стрымлівалася, каб не заплакаць.

Кандрат Назарэўскі пачаў правіцца на трэцім тыдні. За некалькі дзён да таго, як яму трэба было ад'язджаць назад у армію, прыйшоў у гарадок першы поезд па адрамантаванай чыгунцы. Вакзальны будынак быў спалены. Як ад'язджаў ён — быў хмуры дзень. Ірынка праводзіла яго да поезда. Пачынаўся вечар. На голым выгане, наводдалек ад спаленага вакзала, яны стаялі доўга, пакуль не пачалася пасадка ў пяць таварных вагонаў — гэта і быў увесь поезд. Кандрат Назарэўскі ўціснуўся ў вагон і захрас на самым уваходзе з пляцоўкі. Сціснуты, ён не мог паварушыцца, глядзеў на прывакзальны выган і бачыў там Ірынку. Яна падышла да самага вагона. Яна аставалася адна ў гэтым разбураным гарадку, на ўтрыманні камітэта дапа-

могі чырвонаармейскім сем'ям. Брат меў надзею, што скора будзе ў горадку дзіцячы прытулак.

— Ты ж пішы мне,— сказала Ірынка вельмі стала, не зводзячы вачэй з брата, які ўсё стаяў у цеснаце адчыненага вагона. Гэтак яму трэба будзе, мусіць, праехаць шмат дарогі. Ён не заўважаў гэтага. Ён глядзеў на Ірынку, і сэрца яго пачынала сціскацца. Яму стала яшчэ горш, калі ён убачыў, што Ірынка выцірае слёзы. Поезд крануўся, і Ірынка пабегла побач вагона і ўсё махала рукой. У гэтую хвіліну яна зусім не падобна была да дзіцяці. Гэта быў дарослы чалавек. Брат не мог махнуць у адказ ёй рукой: рукі яго былі моцна прыціснуты натоўпам. Выган з Ірынкай астаўся далёка, ужо нават не відаць было разбураных гарадскіх муроў. У вагоне, мусіць, чырвонаармейцы заспявалі песню. Кандрату Назарэўскаму хацелася прабіцца туды, але гэтага нельга было зрабіць. І ён астаўся на шмат станцый стаяць так. У думках яго пачало праясняцца. Перад поездам шырока разыходзіліся чыстыя далягляды. Так Кандрат Назарэўскі зноў ехаў у першую ў свеце вялікую Армію.

## II

У той час, калі Кандрат Назарэўскі, пахаваўшы бацьку, цешыў змучаную Ірынку і правіўся ад раны і хваробы, а пасля паехаў у Чырвоную Армію, на Скуратовічавым хутары адбываліся справы, водгаласкі якіх дайшлі да самых нашых дзён. Больш таго, яны паклалі вельмі выразна свой след на лёс некаторых людзей, можна сказаць, герояў гэтага апавядання.

Раз уночы з таго самага ельніку, у якім Скуратовіч хаваў свае коні, выйшла чалавечая постаць. Было вельмі цёмна і ціха. Яшчэ было не позна. Цёплыя хмары закрывалі неба, навісала чарната. Чалавечая постаць ішла паволі. Толькі не дайшоўшы крокаў дзесяць да дрэва, чалавек убачыў яго чорны сілуэт. Гэта была старая разгатая дзічка на Скуратовічавым полі. Чалавек прыткнуўся да дрэва плячыма і астаўся так, паслухаць і пагледзець. З таго боку, дзе быў Скуратовічаў хутар, так, як і адусюль, ішла цішыня. Агонь там нідзе не свяціўся. Паслухаўшы цішыню, чалавек пайшоў проста на хутар.

Усё было так, як і трэба, як і заўсёды рабілася: як толькі зачарнеўся наперадзе хутарскі плот, каля яго паднялася з зямлі другая чалавечая постаць.

— Толік,— сказаў гэты другі чалавек.
— Бацька? Усё добра?
— Можаш зайсці ў хату.

Два сабакі, тыя, што кідаліся тады на Кандрата Назарэўскага, павільвалі хвастамі, тручыся аб халявы сваіх двух гаспадароў. Бацька і сын увайшлі ў кухню праз чорныя сенцы. У сенцах абазвалася сонная гусь, сабакі асталіся на двары. Скуратовіч запаліў лямпу; акно, як і заўсёды ў гэтых выпадках, завешана было ватовай коўдрай. Толік закурыў.

Гэта быў зусім малады хлапец, рослы, здаровы. Можа, ён проста здаваўся маладзейшым, чым сапраўды быў. Ён быў у ботах. І галіфэ і рубашка яго пад шырокім раменным поясам вельмі падобны былі да чырвонаармейскіх.

— Тут так,— сказаў бацька сыну,— зноў выклеілі ў мястэчку паперу і кажуць, што гэта ўжо апошняя. Хто з дэзерціраў пасля ўжо і гэтай паперы не з'явіцца, таго аддадуць пад суд. А хто ў тры дні з'явіцца, таму нічога не будзе.

— Нічога не будзе, акрамя таго, што пагоняць у часць. Дзякуй ім за ласку,— флегматычна заўважыў сын.— Я чытаў гэтую іх паперу, хай яны яе спажываюць самі.

— Яно ж гэтак,— згадзіўся бацька.— Гэта адно, каб перабыць гэтыя часы, перахавацца, а там бог бацька. Кажуць, што з-пад Варшавы пачалі іх ужо адганяць.

— Што больш чуваць?
— Раквізіца будзе.
— Можа, прыязджалі ўжо?
— Не, мяне самога выклікалі ў валасць. Сёння. Пыталіся, колькі магу даць старога збожжа і колькі нажаў новага.

Адчыніліся дзверы, і старая Скуратовічыха ўнесла туга напакаваны мяшок. Яна заплакала.

— Божа мой, божа, у гэтакія свае гады не жыве, а туляецца ў лесе, каб на людскія вочы не паказацца.

Праз хвіліну Толік Скуратовіч сядзеў за сталом і еў, а праз хвілін дзесяць ён ужо выходзіў з хутарскога двара. Ён нёс мяшок з прадуктамі і ціснуў пад рубашкай рэвальвер. Ён ішоў спакойна, нават крыху пачаў пасвістваць. Як і кожны раз, ён думаў так, без ніякіх прыгод, дайсці да ельніку і там далучыцца да сваёй кампаніі. Ён ужо мінаў разгатую дзічку, як недзе, далёка яшчэ, па той бок хутара, пачуў як бы тупат конскіх капытоў. Ён яшчэ раз абмацаў пад рубашкай зброю і вярнуўся назад да дзічкі. Прыту-

ліўся да яе і пачаў слухаць. «Калі што якое, то павінны абазвацца сабакі»,— думаў ён. Сапраўды, неўзабаве абазваліся сабакі. Гэта быў страшэнны брэх і скогат. Больш жа нічога не чуваць было, быццам сабакі брахалі на нежывога. Тым часам Толік Скуратовіч усё стаяў пад грушаю і прыслухоўваўся. Ён бачыў, як у вокнах хутарскога дома засвяціўся агонь. Пасля вуха яго ўлавіла чалавечыя галасы, але слоў ён не разабраў. От чуваць, як заенчыў сабака — відаць, далі яму. От раптам стала ціха, а от ужо ён выразна чуе з-пад сваёй дзічкі, як на гэты бок хутара ціха гавораць і коні стукаюць капытамі па дарозе. «Конныя»,— думаў ён і як мага пабег у ельнік. Там ён доўга выглядаў з-за першай прыдарожнай яліны і прапусціў паўз сябе цэлы атрад вайсковых коннікаў. Ён здагадаўся, што гэта той атрад, які ловіць дэзерціраў. Як коннікі праехалі, ён паволі пацягнуўся ў лясную гушчарню. Пад дзень хмары разышліся, выглянуў месяц. Толік Скуратовіч ляжаў пад кустом на кажуху і бачыў навокал сябе сваіх хаўруснікаў.

Цераз дзень пасля гэтага, у пасляабедзенны час, каляіністай і карчакаватай дарогай, у тым самым лесе ехалі дзве сялянскія фурманкі. На пярэдняй фурманцы сядзеў чалавек сярэдніх год, у чорным фрэнчы, і з ім два чырвонаармейцы з вінтоўкамі. Чалавек таксама меў пры сабе вінтоўку. На другой фурманцы ехала трое чырвонаармейцаў. У тым месцы, дзе фурманкі выязджалі на палявую дарогу, лес канчаўся страшэннай гушчарнёй. Тут, пры сцяне старога лесу, ішла града маладога ельніку. Праз гэтую граду, здаецца, нельга было прабрацца. І от з гэтага густога зарасніку з дзвюх фурманак не зводзіў вачэй чалавек. Ён вельмі пільна выглядаў фурманкі і людзей на іх. Ён глядзеў на іх, аж пакуль яны не схаваліся недзе на Скуратовічавым хутары. Тады ён разваліста паходкай рушыў у глыб лесу. Там ён стаяў, прыпёршыся да дрэва, і гаварыў:

— Можна было б думаць, што гэта дэзерціраў шукаюць, але чаго з салдатамі прадразвёрсны камісар едзе? А калі ён едзе глядзець, колькі браць развёрсткі, дык нашто яму гэтулькі салдат?

— Можа, гэта не прадразвёрстчык? — пачуўся голас з-пад куста.

— Ён, я яго пазнаў.

— А куды яны паехалі?

— На ваш хутар.— Тут ён зірнуў пад куст, дзе камя-

чыў губамі недакурак Толік Скуратовіч. Усхапіўшыся, Скуратовіч сказаў:

— Нашто яму салдаты? Як вы не можаце здагадацца? Тады ўночы, некалькі дзён таму, як я хадзіў дадому па хлеб, бачыў і чуў, як на наш хутар прыязджала іх цэлы атрад — дэзерціраў шукалі. Мяне шукалі! Я стаяў пад грушаю ў полі і слухаў. Значыцца ведаюць, што я не іду ў іхняе войска і хаваюся. А калі яны цяпер паехалі па развёрстку, то думалі: дзе ёсць дэзерціры, то там могуць і развёрсткі не даць. Чулі?

— А чаму ім канешне так думаць? — падаў голас нейкі баязлівец.

— Дурань ты! Чаму ім не падумаць, што мы ім можам галовы паскручваць!

Пасля маўчання яшчэ голас:

— Чыя чарга сёння па хлеб ісці?

Гэта ўсё іхні баязлівец стараўся трымацца мірнага тону. Толік Скуратовіч гарнуў сваё:

— Нам трэба падацца бліжэй да дарогі. Ідзе ноч. Пры дарозе быць трэба: можа, каго бараніць прыйдзецца.

— Каго?

— Можа, ужо майго бацьку аграбілі?

— Чаму так раптам?

— Аграбяць і твайго, не бойся ты гэтак.

Ці сапраўды яны мелі на думцы «бараніць каго-небудзь», ці не, але даволі таго, што сапраўды падышлі бліжэй да дарогі. Пачынаўся вечар. Калі на дарозе было яшчэ відна, то пад ельнікам ужо гусціўся змрок. На самую дарогу яны не выйшлі, толькі адзін з іх лёг на мох за другім ад дарогі кустом. Ім проста карцела ўбачыць, ці выедзе і калі з хутара «прадразвёрсны камісар».

Тым часам з боку хутара ўсё было ціха. Ніхто адтуль не ехаў і не ішоў, хоць там і не было спакойна. Гадзіны за дзве да прыезду камісара і чырвонаармейцаў пачалася звычайная ў гэтыя дні згрызота. Праўдзівей кажучы, «грызлася» толькі сама Скуратовічыха. Зося толькі слухала і найбольш маўчала. Яна нядаўна вярнулася на хутар, Скуратовічыха так гаварыла:

— Трэба ж мець розум! Як гэта можна, ты ж не малая! Як жа гэта так угаварыцца, што адразу расказаць усё! Ты сама кажаш, што ў цябе гэта ненаўмысля выйшла, дык трэба ж думаць, што гаварыць. Ведай, што робіш! Калі мы ўхавалі б каня ў лесе, дык табе ад гэтага бяда была б, ці што?

Скуратовічыха старалася гаварыць спакойна, але праз яе старанпасць часта выходзіла наверх злосць і нянавісць.

— Ты, можа, думаеш, што я так сабе гавару? Дык памяркуй, што мы табе кепскае зрабілі? Мы цераз сілу хіба прыціскаем з работаю? Ты наша, хоць і далёкая, але сваячка. А калі што і цяжкавата прыйдзецца на рабоце, то няўжо ж не робячы жыць? Чалавек хоча жыць, то павінен і рабіць! Калі што якое, то я табе і слова не скажу. Ты тады, пасля таго здарэння з коньмі, пабегла дадому. То ты думаеш, я не ведаю, што ты з-пад абруса ўзяла сала? Ты думаеш — ад мяне ўхаваешся? Ты хочаш быць дома, у нас не рабіць і ў нас есці? Такіх многа знойдзецца! Цераз цябе ведалі, што коні нашы дома. Ведаюць, што Толік быў з імі ў лесе. От што ты нам нарабіла, гадаўка ты!

— Я толькі здзівілася, чаму дзядзька лепшага каня не запрог.

— Здзівілася! Ты заўсёды дзівішся. Людскія хлопцы дык хаваюцца, не ідуць у войска, а цераз цябе дык Толіку прыйшлося ісці.

— Толік хіба пайшоў у армію? — наіўна запыталася Зося.

— А што ж. Ты ж сказала, што ён з коньмі ў лесе. Праўда, быў. Людзі былі, і ён быў. Не ён адзін! Але пасля твайго языка яму прыйшлося з'явіцца. Цяпер з вайны, можа, дадому галавы не прынясе.

— Калі ж ён пайшоў?

— У цябе не запытаўся, калі ісці. А некаторую ноч, нядаўна, з'яўляецца атрад, як арыштантаў якіх абкружваюць нас! Толіка пытаюць! А дзе ж я вам таго Толіка вазьму, калі ён у войску! Што, я яго з войска выпатрабую, каб ім паказаць, ці што?

Зося не зусім верыла, што Толік пайшоў у армію, але, сказаць праўду, яна пра гэта мала думала і мала гэтым цікавілася. Яна думала пра сябе: ёй было цяжка жыць, дома ж — ні рабіць, ні есці не было чаго.

— Ідзі даіць каровы,— загадала гаспадыня.

Хлявы былі за склепком. Гэта глухі і зацішны куток хутарскога двара. Адтуль можна было і не ведаць, што робіцца ў хутарскім доме, у садзе і нават на двары каля дома. Якраз у той час уз'ехалі на двор дзве фурманкі з чырвонаармейцамі. Зося чула, як брахалі сабакі, але тут жа пачула, як Скуратовіч уняў сабак. Усё сціхла. Зося нават не выйшла — яна даіла каровы. Яна мала ў гэтыя

хвіліны цікавілася ўсім тым, што магло рабіцца на двары ці ў доме. Горасць мучыла яе. Ёй хацелася, каб працэс даення кароў цягнуўся як найдалей, каб так было тут ціха і каб ніхто сюды не прыходзіў.

Больш за паўгадзіны прайшло, пакуль яна падаіла каровы і пакуль пастушок пагнаў іх у поле.

— Ты ведаеш, на каго сабакі нядаўна брахалі? — сказаў пастушок да Зосі, выходзячы следам за каровамі з хлява.— Бальшавікі прыехалі развёрстку браць. Пытаюцца, дзе леташняе збожжа схавана. От цікава, ці знойдуць, ці не?

— А хіба яно дзе схавана?

— А хіба ты не ведаеш?

— Не.

— А я падглядзеў. Ты адно маўчы. Калі не знойдуць, то я папрашу ў гаспадара, каб мне пуд даў гасцінца: я ж ведаю, а не сказаў; от за гэта няхай дасць.

— Не дасць.

— Дасць. А не дасць — дык скажу. От бацька ўзрадуецца, калі пуд жыта прывалаку дадому. Ты ж адно маўчы.

І з таемным выглядам змоўшчыка ён сказаў Зосі, дзе схавана збожжа. Зося пайшла дваром. Дзве фурманкі стаялі каля кухонных дзвярэй. Скуратовіч быў каля іх. На вузкай лаўцы пры сцяне сядзеў чалавек у чорным фрэнчы, чырвонаармейцы, ляжалі на абшчыпанай гусьмі траве. Скуратовіч гаварыў:

— Гэтулькі вы, таварыш камісар, салдат узялі, як бы баіцеся мяне, ці што? (З губ яго выціснулася вялая ўсмешка.) Кажуць, бандыты па лясах ёсць. Можа, і праўда, хто яго ведае. Каля нас то пакуль, дзякуй богу, не чуваць гэтага. Страшнавата, на адзіноце жывём.

— Вы гаворыце, што ўраджаю жыта ў вас усяго, што ў гумне ляжыць? Больш вы нідзе не складалі?

— Не.

— І леташняга збожжа ў вас ні зерня няма?

— Як-то ні зерня? Дзве кадушкі — от жа! — у сенцах стаяць. І кадушка мукі. Стаіць мне на абыходак, бо маладога хаця каб я, бог даў, паспеў пасеяць, намалаціць.

— Ведаеце, што ёсць такі закон: трэба пасеяць, трэба і есці, а лішняе трэба аддаць: вайна, армію карміць трэба.

— Трэба-то трэба, а божа мой, хіба я не хачу аддаць лішняга!

— То скажыце дзе яно схавана. Мы ведаем, што ў вас вельмі многа збожжа схавана леташняга. Мы будзем шукаць.

— Шукайце,— заявіў Скуратовіч.— Такога крыўднага слова мне яшчэ ніхто ніколі не гаварыў. Не даюць веры чалавеку. Я на судзе не раз стаяў за сведку, ніколі няпраўды не сказаў. Я з людзьмі жыў і меркаваўся. А б-божа мой! (Ён хапіўся за галаву.)

Зося прайшла моўчкі паўз іх. Яна чула частку гэтай гаворкі. У кухні была толькі адна Скуратовічыха. З-за дзвярэй яна падслухоўвала, як апраўдваўся яе муж. Як толькі Зося ўвайшла, нейкая як бы здагадка ўстрапянула Скуратовічыху, грымаса прайшла ў яе па твары. Яна так адразу і загаварыла да Зосі:

— Можа б, ты пайшла дадому запытацца, ці не прыйшоў бы твой тата заўтра да нас памагчы малаціць жыта на насенне?

— Добра,— узрадавалася Зося, што пойдзе дадому.— Крыху счакаю і пайду.

— Ідзі цяпер.

Цяпер ужо здагадалася Зося: значыцца, гаспадыня хоча яе збыць на гэты час? Баіцца, каб яна тут была?

Новыя думкі агарнулі яе, прыглушаную жыццём. Штосьці падобнае да пачатку бунту заварушылася ў ёй. З гэтага моманту яна пачала траціць сваю ранейшую наіўнасць. Яна спрабавала зрабіць ацэнку справам. Думкі яе пайшлі ў такім кірунку: той чырвонаармеец (яна думала пра Кандрата Назарэўскага) спрачаўся са Скуратовічам і спачуваў мне. Гэтыя людзі таксама з Скуратовічам спрачаюцца. Скуратовічы са мною і з імі — таксама. Але ж той, Назарэўскі, паехаў і што ён мог мне памагчы? Гэтыя таксама? Я зноў астануся тут за парабчанку.

— Ты не думай, а ідзі,— сказала Скуратовічыха.

І гэтая Скуратовічына катэгарычнасць павярнула Зосю да ўпартай рашучасці. Зноў пайшлі ранейшыя думкі: дакуль мне быць тут? Можа, дзе ў іншым месцы астацца? І яна схітрыла, выпрабоўваючы гаспадыню:

— Я раней памыю сваю сукенку, а тады пайду.

— Памыеш прыйшоўшы.

— Не, я памыю цяпер,— урачыста заявіла Зося.

Але ўрачыстасць гэтая была не зусім глыбокая. Была і трывога і няпэўнасць. Самая малая выпадковасць магла яшчэ пакуль што павярнуць дзейнасць гэтага чалавека ў іншы бок. Гаспадыніна дрэнна схаваная злосць трымала

Зосю на занятых пазіцыях, але з непрывычкі яна яшчэ трымалася на іх з цяжкасцю.

— Памыеш, Зоська, пасля, а цяпер ідзі.

Праз гэтую ціхую фразу так і выпірала наверх злосць. «Ціхасць» паказвала, што яе, Зосі, баяцца. І цяпер пачаўся ўжо сапраўдны бунт.

— Буду мыць,— заявіла яна.

— Ты не наймалася на тое, каб мыць тут, у рабочы час, свае анучы.

— Буду мыць і дадому не пайду. Ідзіце самі, калі вам трэба пагаварыць з маім бацькам.

Скуратовічыха ніколі яшчэ не чула, каб з ёю так гаварыла парабчанка. Яна збянтэжылася і зірнула на Зосю. На двары ў гэты час загаварылі мацней. Скуратовічыха глянула ў сенцы, пасля выйшла. Зося пачула яе голас:

— Усялякая напасць на нас. Наш сын у Чырвонай Арміі.

Зося выйшла і глядзела, як чалавек у чорным фрэнчы стаяў перад Скуратовічам і як Скуратовічыха выцірала слёзы. Камісар сказаў:

— Я вас арыштую.

— Воля ваша, але я не вінаваты.

У Скуратовіча быў самы нявінны твар. У гэтую хвіліну і поза, і твар яго былі такія, як тады, калі ён вёз Кандрата Назарэўскага на кульгавым кані. Камісар зноў загаварыў:

— Вы ў воласці гаварылі таксама, што ў вас няма збожжа. І сказалі няпраўду.

— Праўду сказаў.

— Пабачым.

— Ну, хадзем, будзем шукаць,— сказаў нарэшце Скуратовіч.— Давайце абыдзем і абгледзім усё.

— Тут каго-небудзь няма чужога вам за сведку? Добра было б, каб двух чалавек.

— Дзе я вам іх вазьму?

— Гэта дачка? — паказаў камісар на Зосю.

— Я тут служу.

— Сваячка,— падказала Скуратовічыха.

— Ну, усё адно,— узрадаваўся камісар.— Пойдзем з намі.— Ідучы, ён разгаварыўся з ёю:

— Блізкая сваячка?

— Далёкая.

— Добра тут вам?

— Служу,— адказала яна.

Можна было заўважыць, што камісар расчараваўся: наўрад ці паможа яна мне. Яна глядзела на камісара і думала: «Скажу яму, дзе жыта схавана. Усё адно я тут намерылася больш не служыць. Я яму ўсё пра сябе раскажу». Спачатку пайшлі ў гумно. Чырвонаармейцы шукалі пад леташняй саломай. Скуратовіч неўзаметку сказаў да Зосі:

— Колькі б ні шукалі, што за карысць, калі ніякага жыта няма.— Ён выпрабоўваў на ўсялякі выпадак: а можа, як і падгледзела яна?

— Ёсць,— адказала яна.

— Дзе ж яно, калі ёсць? — злосна насцаражыўся ён.

— У вазоўні закапана, а наверсе сані і колы стаяць.

Ён аслупянеў. Але тут жа пастараўся не падаць віду.

— Зараз павяду туды, хай глядзяць.

У яго яшчэ тлела рэштка думкі: а можа, яна не ведае, а так сабе, на маны сказала і ўгадала. Але чаму яна так гаворыць, што з ёю робіцца?

— Што тут шукаць, тут няма,— сказала яна.

Як быццам што сціскала ёй рот,— такое раптам стала ў яе адчуванне. Ёй ужо больш цяжка было выгаварыць і слова. «Зараз скажа»,— думаў Скуратовіч.

— А дзе яно, збожжа? — з надзеяй павярнуўся да яе камісар.

Але пакуль ён гэта сказаў, Скуратовіч шапнуў ёй:

— Маўчы, я табе колькі пудоў жыта дам.

Ёй аж дыхаць стала цяжка ад хвалявання. Некалькі пудоў. Гэтулькі ніколі не было пад іхняй там, дома, страхою. Твар яе пабялеў, стукнула ў вушах. Яна маўчала, лепш бы яна не ішла сюды зусім, так ёй было цяжка ў гэты момант. Камісар пакінуў на яе глядзець і загадаў:

— Будзем капаць.

Адкінулі салому і пачалі капаць. Скуратовіч аж енчыў:

— Няма, няма, нідзе няма!

Зямля была цвёрдая. «Гэтак цяжка людзям, а бескарысная работа!» Яе пачала мучыць злосць на Скуратовічаву сям'ю: «Гады, жыву ў іх, як у пекле».

— Няма тут,— закрычала яна.

«Мусіць, тут, калі яна так крычыць,— падумаў камісар.— Будзем капаць да канца». Ён паспрабаваў яшчэ звярнуцца да яе сумлення.

— А ты маўчы, не гавары, памагай свайму гаспадару,— здзекаваўся ён з яе.— Ён табе аддзякуе.

— Я ж вам кажу, што не тут! — аж кінулася да яго Зося.

— А дзе ж?

— Пад вазоўняй. Я пакажу!

«А што, калі ён з мяне пасмяяўся»,— з смуткам падумала яна пра пастушка. Людзі спынілі работу. Яна глядзела з гумна і нічога не заўважала — ні дрэў, ні неба.

Скуратовіч выйшаў з гумна і рушыў дадому.

— Пачакай, гаспадар! — крычаў камісар.

— Яна пакажа,— нават не азірнуўшыся, буркнуў Скуратовіч.

Яго растаптаныя боты падміналі пад сябе садовую траву. «Праўду сказаў»,— радасна падумала яна пра пастушка.

Праз паўгадзіны адбылася такая ґаворка паміж ёй і камісарам:

— Цяпер мне тут нельга аставацца.

— Якраз не. Калі толькі хто з вас паздзекуецца, то мы вас абаронім. Адчувайце сябе тут, як і сам гаспадар.

Гэта было для яе нова. У яе раслі надзеі на камісаравы словы і прыхільнасць да яго, як бы яна ведала яго з самых сваіх малых дзён. Скуратовічыха выйшла і здалёк бачыла, як яна гаварыла з камісарам.

— Ты, дачушка, не аб усім яшчэ прасіла камісара гэтага,— сказала ёй Скуратовічыха, злавіўшы на двары,— трэба было прасіць, каб яны забралі не толькі жыта, але каб і ўсё, што толькі ў нас ёсць. Няхай бы ты сказала, каб і дом наш спалілі і каб нас саміх парэзалі... Вон, гадаўка, каб і духу твайго тут не было. Адкуль ты ведала пра жыта? Падглядаеш? Вывіжоўваеш? Што мы табе гэтакае зрабілі, што ты згубіць нас навек захацела! Здохнеш, а літасці ад добрых людзей мець не будзеш. Вон, гадаўка!

Праз хвіліны тры яна назаўсёды пакінула Скуратовічаў хутар. Слаўся змрок, у цені трава даўно ахаладзела, і яна ішла вельмі шпарка, стараючыся яшчэ завідна мінуць лес. Выязджаючы, камісар арыштаваў Скуратовіча.

У той жа самы вечар Толік зноў прыходзіў дадому. Маці плакала, а ён маўчаў. Праз дзён тры ён зноў прыйшоў. Бацька быў ужо дома, ён вярнуўся, даўшы падпіску, што сам аддасць лішняе збожжа.

— Я з першага дня ведаў, што яны тут былі,— гаварыў Толік.— Што яны будуць рабіць з намі?

— Забяруць збожжа пад мятлу.

— Дык няхай самі і малоцяць. А што, леташняе знайшлі... Падказала гадзіна гэтая... А пра Зосінага бацьку мне праўду казалі.

— Якую праўду?

— Што заяўляў у воласці: павінна, кажа, быць схавана жыта. Гэта ён настроіў. Седзячы ў лесе, мы ўсё ведаем, што дзе робіцца.

Бацька і сын колькі хвілін моўчкі глядзелі адзін аднаму ў вочы. Нарэшце бацька выліў з душы сваю шчырасць:

— Каб змена ўлады! То я б іх з бацькам і з дачкою, з усімі іхнімі б нашчадкамі!.. Каб прымеў, я іх бы і без змены ўлады ў магілу загнаў бы!..

Далей яны маўчалі. Яны толькі чулі, як старая ў бакоўцы моцна нанач малілася богу. Пасля яна з енкам і плачам выйшла к сыну.

У той вечар Толік Скуратовіч даўжэй, як калі, пабыў дома. Ідучы ў лес, ён надоўга спыніўся ў полі пад дзічкай, а пасля блытаўся па лесе, пакуль знайшоў знаёмае месца з сваімі хаўруснікамі. Ён прамаўчаў да канца ночы. Пад дзень яму стала холадна, і ён апрануў кажух. Калі крыху ўзнялося сонца, ён сеў і курыў, раз-поразу суха паплёўваючы і пыхкаючы губамі. Усе навокал яго спалі. Яго душыў смутак і скрэбла злосць. Ён пачаў нешта невыразнае мармытаць сабе пад нос.

— Што? — падняўся каля яго распухлы ад сну твар.— Што ты кажаш?

— Нічога, спяць сабе, як анёлкі. Спакойна жывеце, сукіны сыны!

— Чаго ты?

— Дажыліся! Як сабакі, па лесе туляемся, дамоўку сваю меўшы.

— А ты толькі сёння гэта ўбачыў?

— Маўчы! Такі самы і ты, як усе. Дурань! Цьфу!

— Што на цябе ўссела сёння?

— Што ўссела? Пайдзі сёння дадому ўночы, паглядзі, можа, і ў цябе там усё перавярнулі, ператрэслі і перамацалі.

Паднялося яшчэ некалькі галоў, і пачалася гаворка. У той дзень стары Скуратовіч сам хадзіў у лес бачыцца з сынам і раіцца, што рабіць: зранку прыехаў чалавек з воласці і пад распіску даў паперку, дзе былі выпісаны тэрміны здачы жыта. Тэрміны былі кароткія.

— Можа, пачакаць,— гаварыў Скуратовіч,— можа, якая змена будзе?

— Не даваць пакуль што, прапусціць першы тэрмін, а там будзем бачыць, што яны будуць рабіць,— гаварыў Толік.

Бацька прасядзеў у лесе да вечара — баяўся людскога вока. А яшчэ праз тры дні ён зноў хадзіў у лес да сына раіцца: на яго націскалі.

— А калі не здам, то тады арыштуюць. Як народ церпіць — божа мой! Ціснуць, як ты ім не дасі.

— Лепш спаліць вазоўню, няхай і ўсё збожжа згарыць.

— То адразу на нас саміх і падумаюць; што ты гаворыш!

Так яны ні да чаго выразнага і не дагаварыліся. Праз дзён два Скуратовіч завёз першыя тры вазы знойдзенага ў вазоўні жыта. Але больш то ўжо не павёз,— сэрца яго не дазваляла. «Няхай бяруць самі». Пра гэта ён пайшоў сказаць сыну. Але ў лесе ўжо нікога на тым ранейшым месцы не знайшоў. Ён здзівіўся і ўстрывожыўся. Хадзіў па лесе і нават адважыўся гукнуць. Ніхто не абазваўся. Як прыйшоў дадому, трывога яго крыху развеялася. Там сядзеў сусед, хутар якога быў па той бок ляска, і гаварыў:

— Выразна гавораць: пад Варшавай ім не ўдаецца, можа быць, што яны і адступяць.

— Каб бог даў! — устрапянуўся Скуратовіч.

З няяснымі надзеямі ён пайшоў у гумно арфаваць на насенне жыта. Назаўтра ён хадзіў у мястэчка пацерціся паміж людзей, распытаць і памеркаваць — ці не адступаюць ужо ад Варшавы і на калі можна чакаць гэтага адступлення. Ён чакаў, спадзяваўся.

## III

Надвечар усхадзіўся вецер, і пад поўнач захаладала. Малы Зосін брат змёрз, сплючы з бацькам у сенцах пад дзяругай.

— Мне холадна,— сказаў ён, прыціскаючыся да бацькі.

— Пачакай,— адказаў бацька.— Зараз акрыемся чым-небудзь цяплейшым.

Ён хацеў ужо ўставаць, каб пашукаць чаго акрыць сына, але пачуў, што хтосьці ходзіць па хаце. Хатнія дзверы былі адчынены.

— Зося, ты? Чаму ты не спіш?

— Я звечара хлеб рашчыняла... Я вам рубашку зашывала.

— Вазьмі што-небудзь акрыць малога.

— Мукі не хопіць заўтра хлеб замясіць.

— Я дастану дзе-небудзь, на адработак дастану.

— Толькі каб рана, а то я заўтра пасля хлеба пайду к Іванавым да малатарні.

— То, можа, яны і мукі дадуць?

— На двары халат сохне на дрывах. Ён ужо сухі, мусіць. Я ім акрыю вас.

Праз момант яна прыйшла з халатам і сказала:

— У нас нехта стаіць за дрывамі.

— Табе здалося. Хто там можа стаяць.

— Гляну з хатняга акна... Стаіць, унь пры сцяне. Ой, а другі стаіць у Іванавым двары пры шуле.

— Ну, няхай стаіць, мала хто дзе стаіць.

— А чаго ў нас за дрывамі?

— Позна ўжо?

— Праз гадзіну, можа, світаць пачне.

— Кладзіся спаць хутчэй.

— З Іванавага двара ідзе пад нашу хату.

— Не пазнаць хто?

— На дварэ цёмна... Яшчэ два падышлі... У наш двор ідуць.

У гэты час ціха пастукалі ў дзверы.

— Адкрой, хазяін,— было сказана рускай мовай, але нават і дрэнны знаўца беларускай і рускай мовы заўважыў бы, што не прывык той чалавек гаварыць па-руску.

— Хто там?

— Краснаармейцы. Паспаць дзе-небудзь да сонца, можа, салома дзе ў вас ёсць?

— Саломы крыха ёсць. От я зараз адчыню, агонь толькі запалю.

— Ды ладна там, агонь! Нашто той агонь? Мы і заходзіць у хату не будзем. Вядзі адразу ў салому, хазяін.

Чалавек выйшаў на ганак і ўбачыў трох. Яму здалося падазроным, што яны не зусім у вайсковым адзенні. Толькі адзін быў у шынялі.

— Я вас завяду ў гумно.

І ён пайшоў наперадзе. Скрыпнулі дзверы, ён пераступіў падваротню і адразу ж з глухім стогнам асеў каленьмі на зямлю.

— От табе і развёрстка і дэзерціры. Ідзі цяпер павядзі, хто развёрсткі даваць не хоча.

Свядомасць ужо канчалася, і ён не мог выразна чуць гэтай фразы. Не для яго ўжо яна прагучала. Яму здало-

ся, што горла пачало цягнуцца ў рот. Ён душыўся. У вачах пайшлі чырвоныя кругі, пасля яснасць стала ні то сіняй, ні то зусім белай. Але гэта ўжо ўсё было па той бок свядомасці. Так усё і скончылася.

Зося пачула з хаты, што вярнуўся ў сенцы бацька.

— Паклалі іх у пуні? — падала яна з пасцелі голас.

Ёй не адказалі.

— Ну, дзе ж той халат? — сказаў хлапчук.— Тата, акрывай хутчэй.

Малы пачуў, што тата падступіў бліжэй, але ў прасвеце адчыненых дзвярэй ён бачыў, што гэта не зусім татава постаць. У той жа момант гэтая постаць падступіла бліжэй і неўзабаве адышлася. Зося з хаты чула, як упала ў сенцах з калоды вядро з вадой. Нічога яшчэ нядобрага не адчуваючы, яна ўсхапілася з пасцелі і запаліла лямпу. У сенцах усё нехта мацаў паўз сцены. Яна пхнула дзверы, трымаючы ў руках лямпу, і аслупянела: хтосьці незнаёмы чыркаў запалкамі, а яны, мусіць, адсырэлыя, не запальваліся. Стаяў ён спіной да хатніх дзвярэй і абмацваў сцяну. Малы брат ляжаў скрываўлены ўпоперак пасцелі. Яна крыкнула і кінула ў сенцы лямпу. Кінулася назад у хату і з размаху высадзіла з трухлявых шуфлядаў гнілую аконную раму. За ёю ўбеглі ў хату. Яна выскачыла на вуліцу і пабегла. Крыкнула, ужо адбегшыся далёка. За ёю як быццам ніхто не гнаўся. Яна падбегла да акна і застукала. Яна крычала, што малога брата забілі і што бацька з пуні не прыйшоў. Пакуль яна паабуджвала людзей, вуліца раптам асвяцілася дымным агнём. Полымя прабівалася праз страху сянец у яе хаце.

Праз хвілін дзесяць палала ўжо ў многіх месцах па вуліцы. Вецер кідаў агонь далёка. Але дзіўна было ўсім: адначасна з сенцамі гарэла і пуня: вецер быў якраз з боку пуні і не мог аніяк кінуць сюды агню з сянец ды і не блізка стаяла пуня ад хаты. Калі ля пуні з'явіліся людзі, то ўбачылі Зосінага бацьку. Ногі яго ляжалі цераз падваротню на двор, увесь жа ён быў у сярэдзіне. Там бушаваў агонь, і з страхі падалі ўжо на яго асмалкі латаў. Хтосьці пацягнуў яго за ногі на двор. Убачылі яго твар і шыю ў крыві. Льга было заўважыць, што кроў цякла ў яго з рота і вушэй. Яго занеслі ў сад і паклалі на траву.

— А пуню падпалілі яны ж, забіўшы яго,— сказаў хтосьці.

Назаўтра пад поўдзень тут здарылася быць старому Скуратовічу. Якраз бо ў той дзень ён надумаўся завезці

яшчэ воз жыта на ссыпны пункт. Ехаць трэба было згарэлай вуліцай. Ён спыніў каня і горача расказваў людзям:

— Я прачнуўся позна, пад самы дзень. Выйшаў на двор — світае. Бачу, як бы зарыва над лесам. Я падумаў,— можа, дзе далей пажар. Зарыва слабое, тухла ўжо. Тым часам цяпер вязу жыта здаваць, пад'язджаю, бачу — божа мой! Ай, што робіцца! То гэта ў вуліцы, сярод людзей. А як мне, на адзіноце? Калі дзе ўначы што якое шастане або сабака забрэша, паверыце — ну, думаю! Што ж, цяпер усялякіх людзей. Зоська, дзе яна?.. Як раней, то хоць сын быў дома, смялей было. А гэта... От пайшоў, вельмі ж ужо закона трымаецца. А каб пасядзеў дома, каб не ішоў, можа б, і тое самае было б. Перабылося б усё, перакруцілася б!.. (Ён знізіў да шэпту голас, але каб усе чулі.)

— А куды ж гэта пайшоў сын?

— Як куды, у войска.

— А то бо казалі, што ён каля дома, гавораць людзі.

— Людзі, гэтыя людзі! Людскога языка не завяжаш. У войску Толя, от ліст прыслаў.

Ён дастаў з кішэні пулярэс і сапраўды выняў з яго згорнуты ліст. Ці было каму цікава ў такі рэзрух слухаць яго, ці не, аднак жа ён пачаў чытаць. Некалькі чалавек з тых, што не пагарэлі, слухалі. Сапраўды, ліст быў ад сына, і сапраўды, сын пісаў, дзе ён цяпер; нават там было і пра тое, што неўзабаве, мусіць, пашлюць на фронт, толькі як сфармуюць часць. Быў у лісце і сум па старых бацьках і па дому і крыху нават нездаваленне тым, што цяжкавата ў такі час быць у арміі. «Але нічога,— канчаўся ліст,— будзем спадзявацца, што вайна доўга не будзе». Давалася яшчэ парада, каб бацька не прадаваў цяляці ад чорнай каровы, а каб гадаваў.

Скуратовіч дачытаў да канца, хоць слухала ўжо толькі палавіна тых людзей, што стаялі тут спачатку.

— А божа мой, цьфу! — скончыў Скуратовіч гаворку.— Гэта ж я спазнюся. Но! Бывайце здаровы!

І паехаў далей, мала цікавячыся тым, што асталося ў яго за плячыма. З пустым возам назад ён ехаў перад самым вечарам. Ён сумысля спыніўся каля пажарышча і пачаў расказваць:

— Вы думаеце, гэта адно каля нас робіцца такое бясчынства? Вы не чулі, што ў горадзе парабілася? То я вам зараз раскажу. Прадразвёрснага камісара ў гэтую самую ноч забілі. Ён дома не начаваў, ён нібыта, кажуць,

аб'езд рабіў, а тым часам бандысты нейкія, ці што, як мне здаецца, то грабіць хацелі. А можа, злабу хто меў! Бо скажыце, калі ласка, як жа іначай. Прымчаўся ў горад апоўдні салдат, што з ім ехаў, ледзьве сам уцёк. Я-то не чуў ад яго самога, але як здаваў жыта, то людзі гаварылі. З-за кустоў, расказваў салдат, пачалі страляць. На месцы, казалі ў горадзе людзі, палажылі камісара і яго аднаго салдата, а другі ўцёк. Цела знайшлі ў Скабінскім лесе, на самай езджай дарозе. Чалавек з таго боку здаваў развёрснае жыта, то казаў, што якраз там, дзе са Скабінскай дарогі ў лесе паваротка пайшла на Кацельнікі, калі каму трэба. Калі бо адвагу трэба мець, у яго палажэнні ездзіць уночы! Тут, чалавек, дома сядзіш, а і то дрыжыш, калоцішся. Гэтакі час, пане мой. Жартачкі!

— У Скабінскім лесе? То гэта, можа, адна рука, што і ў нас! Бо гэты ж лес ад нас не вельмі далёка.

— Можа, добра кажаш, і адна рука. Можа, якая шайка бродзіць.

Вестка пра забойства камісара была другім грукатам грому пасля першага, пасля забойства Зосінага бацькі і брата. У наступную ж ноч, не зважаючы на тое, што і міліцыя і атрад чырвонаармейцаў зрабілі вартавыя пункты на дарогах, яшчэ раз, як гром даў, так пайшла раптоўная навіна: звечара, яшчэ не позна было, яшчэ людзі не пакладаліся спаць,— запалала неба над лесам. Людзі баяліся бегчы туды праз лес, хоць відаць было, што пажар непадалёку. Угадвалі, што гэта гарыць як бы Скуратовічаў хутар. На агонь выехала некалькі конных чырвонаармейцаў. Сапраўды, гарэў Скуратовічаў хутар. Адначасна гарэла гумно, вазоўня, склеп. Скуратовічыха рвала на сабе валасы.

— Няхай бы яны над намі злітаваліся б і падпалілі што-небудзь адно. А то ўсё! (Добра, што хоць коні нанач з хлява выгналі.) Цяпер загінем і павек не паўстанем.

Яна згарнула рукі і пачала праклінаць падпальшчыкаў. У вачах яе было гэтулькі сапраўднай роспачы, што хто бачыў у гэтую хвіліну яе твар, таму рабілася страшна. Скуратовіч бегаў навокал агню і прыгаварваў:

— Зрабілі б аблаву якую, вылавілі б гадаў. Прапаў цяпер увесь мой спосаб да жыцця.

Пад канец пажару ўсё ж назбіралася крыху людзей з блізкіх вёсак, але ўсё адно нельга было нічога ўтушыць — была суш, і вецер гнаў агонь.

Скуратовічыха паволі хадзіла па хутарскім двары,

згарнуўшы рукі; нарэшце яна аслабела і села на ганак, прыпёршыся плячыма к сцяне.

— Чаму ты не плачаш, чаму ты не бядуеш? — сказала яна з нейкім злым дакорам мужу.

Той нічога не адказаў і адышоўся. Пасля вярнуўся:

— Ідзі ляж у пасцель, ты слабая здароўем. Шануй сябе.— Ён памог ён падняцца і ўвайсці ў дом. Яна зусім аслабела з трывогі і дрэнных усялякіх уяўленняў. Лягла ў пасцель і пачала стагнаць і маліцца.

У наступную ноч людзі бачылі зарыва недзе далёка, угадвалі, што за вёрст пятнаццаць. А цераз ноч яшчэ бачылі далёка зарыва. Пасля стала спакайней. А дзён праз пяць пайшла па людзях яшчэ навіна: Скуратовічыха больш не ўстала з пасцелі і аддала богу душу. Гаварылі ўсе адно: памерла яна з вялікай трывогі. Яна не вытрымала ўтрапення ад апошніх падзей.

Людзі да ўсяго прывыкаюць. Праз дзён дзесяць усе гэтыя страшныя падзеі пачалі рабіцца абыклымі. Пагарэльцы пачалі ўжо думаць пра забудову. Гаварылі, што Скуратовічаў Толік прыслаў з арміі другое пісьмо.

— Яшчэ, мусіць, не ведае, што маці памерла,— гаварылі жанчыны.

— А можа, ужо і ведае,— адказвалі другія.— Калі пошта добра ходзіць.

Вясковыя жанчыны любяць пра ўсё пагаварыць.

Неўзабаве да ўсіх гэтых гаворак дадалася яшчэ і такая:

— У Тварыцкіх, ведаеце, кожную раніцу цяпер, як запаляць у печы, смажаным салам пахне.

— Але, скажэце. Забагацеў ён раптам немаведама адкуль, ці што! Нічога ж не калоў.

— Што калоць, калі карміць няма чаго.

— Ды няма і чым. Каб і агораў якое свінчо, дык чым ён яго карміць будзе. Самі з голаду заходзяцца.

— А пастаў цябе на яго месца! Добра ён і так кідаецца. Ён жа ледзьве дыхае, здароўя ніяк у яго няма, хоць і не стары яшчэ чалавек.

— Які ён стары, калі на нямецкую вайну забралі былі. Там і атруцілі яму грудзі на век вечны.

— Газ ядавіты пускалі.

— Ды не толькі гэта! У яго кулі ці волава нейкага, як ранены быў, кавалак у целе астаўся. У яго ж абы надвор'е вільготнае, то ўсё цела ные і пячэ яму, небараку, што аж месца не знойдзе сабе.

— Каб было больш зямлі, то хоць на палавіну людзям аддаў бы. А то, што там аддасі! Нават каровы няма на чым пратрымаць. Каторы год ужо на каня якога-небудзь здохлага не можа ўзбіцца. Да вайны, пакуль быў здаровы, то хоць крыху, але лепш жыў.

— То, можа, гэта хлапчук яго скораму запасвіў у Скуратовіча. Ён жа праз каторы ўжо час за пастушка ў Скуратовіча.

— Гэта Міхалка? Можа, ён там крыху і запасвіў, але ж яны ўслед забіралі. Нават наперад часта ў Скуратовіча выпрошвалі, то тады не толькі Міхалка адпасваў, але і сям'я хадзіла адрабляць. Малыя дзяўчаткі і тыя, небаракі, хадзілі грады палоць. Можа, хіба Тварыцкі грошы дзе знайшоў ці спадчыну якую мае. Нажаў жа ён дзве капы жыта, от і ўвесь яго хлеб. І нешта не чуваць было, каб малаціў, а ўчора ў млыне пудоў на чатыры мяшок жыта малоў.

Так гаварылі пра сям'ю Тварыцкіх. Думалі і ні да чаго не маглі дадумацца. Набеглі новыя інтарэсы і новыя гаворкі. І сярод усяго драбнейшага яшчэ ўсё гаварылі пра тыя страшныя падзеі, што так нечакана ўстрасянулі не толькі гэты куток, а ўсю акругу. Скуратовічыху пры жыцці мала хто далюбліваў, а цяпер некаторыя як бы нават са спачуваннем гаварылі:

— Не дзіва, што не вытрымала яе сэрца,— такое няшчасце раптам у адзін момант. Паўнюткае гумно згарэла, хлеб згарэў, вазы пагарэлі. А яна яшчэ па сыне ныла, што на вайне недзе.

Каля таго самага часу, раз увечары, Скуратовічаў пастушок Міхалка Тварыцкі слаўся ў кухні спаць. Ён ужо скінуў свой халацік, каб класціся (вячэраў ён у халаціку), як у кухню ўвайшоў ляснік Сцепуржынскі. (Лясны абход яго быў над двума бліжэйшымі лясамі, і жыў ён вёрст за дзве ад Скуратовіча. Яго забудова была ў лесе на паляне.) Міхалка яго добра ведаў. Дзён пяць да гэтага ён нават адабраў у Міхалкі раменную папружку за тое, што той падпусціў каровы пад самы яго, яшчэ не звезены, авёс на ўскраі лесу.

— Добры вечар у хату! — сказаў Сцепуржынскі, не могучы адразу нічога разгледзець у цёмнай кухні.

— Добры вечар,— адказаў Міхалка.

— А дзе сам гаспадар?

— Недзе на двары. Я зараз паклічу.

— Не трэба, я і сам яго знайду.

І Сцепуржынскі выйшаў.

«От гад,— думаў Міхалка,— назнарок не хоча маіх паслуг, каб не аддаць папружкі. Пачакай жа, калі не аддасць, то я выграбу ў яго ад дарогі цэлы канец бульбы. Схаваю ў лесе і пячы буду сабе на полі пакрысе. Ён тады мяне папомніць».

Неўзабаве Міхалка пачуў, як Сцепуржынскі і Скуратовіч увайшлі ў дом праз чысты ход. Іх галасы ціха гулі недзе ў большым пакоі.

«Пачакай жа,— раздумваў Міхалка,— пайду папрашу, каб аддаў папружку. Можа, і аддасць пры гаспадару. А калі аддасць папружку, то як жа тады будзе з бульбай?.. А, чорт яго бяры з яго бульбай, я і так у яго навыграбаю. Няхай бы не забіраў папружкі!»

Міхалка падумаў і ўжо ўголас абгрунтаваў свой намерканы ўчынак:

«За тое, што ён гэтулькі часу мучыў мяне з гэтай папружкай. Чорт яго бяры з яго бульбай, награбу, папяку і есці буду!»

Ён пасядзеў крыху на пасцелі і пайшоў туды, дзе гулі Сцепуржынскага і Скуратовіча галасы. Паміж кухняй і чыстым пакоем была баковачка. Тут цяпер было зусім цёмна. Міхалка пайшоў праз яе да дзвярэй у чысты пакой. Праз шчыліны паміж дрэнна прыпушчаных адна да адной дошак сцянной адгародкі Міхалка заўважыў, што па той бок сцяны гарыць агонь. Міхалка яшчэ пастаяў хвіліну — адразу ўвайсці ён не адважыўся. «Трэба абазвацца як-небудзь, каб мяне пачулі, можа, тады паклічуць самі»,— думаў ён і, каб падаць які-небудзь гук, сціснуў пальцамі нос і смаркануў.

— Хто там? — адразу перарваў сам сябе на нясконачаным слове Скуратовіч.— Міхалка, ты?

— Я,— абазваўся Міхалка і, ужо адчуваючы права ўвайсці, рашуча адчыніў дзверы.

— Ты быў у бакоўцы? — збянтэжана запытаў Скуратовіч.

— У бакоўцы.

— Стаяў! — аж гукнуў Скуратовіч.

— Я не адважыўся ўвайсці адразу,— пачаў апраўдвацца Міхалка.— Гэта я хацеў папрасіць дзядзьку Сцепуржынскага, каб аддалі мне маю папружку.

— Жаба ты малая, з сваёй папружкай,— з прыкрасцю замармытаў Сцепуржынскі.— Аддам тваю папружку,

няхай цябе д'ябал з ёю разам. Чаго ты лезеш, куды цябе не просяць!

— От я табе зараз так дам папружку, што век вечны памятацьмеш яе смак! — абазваўся Скуратовіч.— Гоніць цябе нячыстая сіла ўсюды, каб з цябе выгнала...

Збянтэжаны Міхалка тузануў угару за паясніцу штаны і павярнуўся ціхом выйсці.

— Стой! — яшчэ мацней зароў Скуратовіч.— Слухаў, пад дзвярыма стоячы?

— Дзядзечка, я хацеў папрасіць, каб папружку аддалі.

— Я табе так пастаю пад дзвярыма, што цябе ногі не ўтрымаюць.

— Не буду больш! — заенчыў Міхалка, не ведаючы, за што на яго крычаць і чаго ад яго хочуць.

— Ах, ах,— стагнаў Скуратовіч,— гэтак тая падслухоўвала ўсё і падглядала.— Ён гаварыў пра Зосю, але Міхалка нічога не разумеў.— Так і гэты ўсё выглядае. От даў мне бог кару! Не дай божа трымаць чужую душу ў сваёй хаце.

— Чужаніца — гэта непрыяцель,— пацвердзіў Сцепуржынскі.

— Ну, што ж цяпер? — развёў рукамі Скуратовіч.

У яго быў такі выгляд, як быццам ён хацеў сказаць: «усё прапала».

— То я пайду,— сказаў Сцепуржынскі.

Скуратовіч вывеў яго з хаты, і яны ўдвух прайшлі дваром да брамы, ціха гаворачы. Міхалка пайшоў у кухню і лёг спаць. Праз хвілін пяць ён, стомлены за дзень бегатнёй за каровамі, моцна спаў. Раніцай яго, як і заўсёды ў апошнія часы, пабудзіў гаспадар (раней яго будзіла гаспадыня). Нанятая пасля смерці Скуратовічыхі жанчына ўжо канчала даіць каровы. Міхалка, на хаду падпяразваючы свой халацік, злосны ад страшэннай прагнасці нічога не знаць і нічога не хацець, а толькі спаць, адкінуў адну фортку брамы і патурыў з двара каровы.

— Я табе памагу прагнаць паўз грэчку,— сказаў Скуратовіч, выцягваючы на хаду выгінастую ламачыну з накіданага каля плота лому.

Міхалка здзівіўся такой небывалай гаспадарскай услужлівасці, нават тону яго голасу. Гаспадар ішоў поплеч Міхалкі. Міхалку было так няспрытна ісці. Куды вальней ён сябе адзін адчуваў бы.

— Табе гэта ці не чатырнаццаць год? — ціха пачаў гаварыць Скуратовіч.

— Чатырнаццаць,— згадзіўся здзіўлены Міхалка.

— От, бачыш, ты яшчэ год не дарос!

— Не дарос?

— Помачы бацьку ні ад каго няма яшчэ ў вас?

— Няма.

— А бацька хворы?

— Хворы.

— Яму што — яму, каб нічога не рабіць ды каб лёгкі хлеб, то ён і скрыпеў бы пакрысе на свеце. А так — калі клопат, работа, сілкавацца няма чым, перадыхнуць няма пры кім... яго ж на вайне атруцілі і яшчэ мала, дык ранілі. На, цешся, жыві, чалавек, як хочаш! Ого, вайна, не дай божа! Ты ж сам бачыш.

— Бачу.

— Я табе, сынку скажу. Чалавечы век, здаецца, доўгі, а як паглядзіш! Ды калі яшчэ чалавек дабра на свеце не бачыць! Я ўсё пра твайго бацьку думаю. Гаруе чалавек на свеце, чэзне. А тым часам цяпер яшчэ час такі брыдкі, цяпер яшчэ горш людзям жыць. Няма, каб прыйшлося, за што рук зацяць. Ты сам павінен ведаць.

— Ведаю.

— То я табе скажу: хто і багацейшы, то і таму такім часам не мёд. А ваша сям'я як жыве! Я сабе часам вазьму ды і падумаю. Божа мой, божа, думаю я сабе. Ты як сабе хочаш, я табе набівацца не буду, але ты павінен памагчы бацьку. Бо ты тады не сын будзеш, калі гэтага не зробіш.

— Як жа я памагу?

— Ты паслухай. Я на цябе ўчора зазлаваў быў, што ты не ў свае справы ўлазіш. А што гэта добра ўмешвацца не ў сваё? Кожны жыве па-свойму, і нікому да гэтага справы быць не павінна.

— Я пад дзвярыма мала і стаяў.

«Малое, а якое хітрае,—думаў Скуратовіч,— каб з цябе душу выгнала, гадзюк ты!»

— Вы, можа, думаеце, што я тады падказаў, дзе ў вазоўні жыта схавана, то каб я так жыў, што не. Вы тады з Толікам як хавалі жыта, то я толькі першую ноч паглядзеў праз шчыліну ў сцяне. А больш я нават і не падыходзіў. Калі хто і сказаў, дык гэта Зося. Я ёй раз прызнаўся быў.

«Каб ты да сённяшняй ночы не дажыў,— шапталі Скуратовічавы губы,— усё ж ведае, а хітруе».

— А што я ўчора стаяў, і вы думаеце, што я падслухоўваў, то каб я з гэтага месца не сышоў, што не. Мне абы ён папружку аддаў. Гэта папружка татава. А я, дальбог жа, я нічога не чуў, што гаварылася, ці там зноў якое жыта схавана, ці там што... Хай сабе там, што хоча, то я нічога не ведаю, бо я нічога не чуў. Дальбог, не. Я толькі чуў, што вы чыталі Сцепуржынскаму Толікаў ліст з Чырвонай Арміі.

Тут Скуратовіч ужо не сцярпеў. Ён загаварыў, хоць ціха, але ўсё адно біў словамі, як абухом:

— Дзе ж ты так і навучыўся?! Ад каго ты так і пераняў?! Ты хітруеш, то ты хітруй, але чаго ты яшчэ з мяне здзекуешся, з старога чалавека? Я колькі жыву, то ніколі не бачыў і не чуў, каб у такія гады такая душа была ў дзіцяці! Ах, божа мой, божа! Да чаго ты тут мне гэты Толікаў ліст прыплёў і да чаго схаванае жыта!

— Ну, я чуў...

— Што ты чуў?!

— Як чыталі Толікаў ліст...

Міхалка гаварыў праз слёзы. Яно дрыжала і калацілася, гэтае дзіця! Каровы ўжо хадзілі па пожні. Скуратовіч прысеў на мяжу. Міхалка стаяў перад ім, як аслупянелы, мнучы ў пальцах сцябло сарванай травы. Ён бачыў, як Скуратовіч аддыхаўся: ён хваляваўся, а гады бралі сваё. Даўно не голеныя шчокі яго абвіслі, і вочы паміргвалі. Ён падсадзіў пальцы пад шапку і чухаў галаву.

— То я табе пра хворага і галоднага бацьку не на жарты гаварыў.

— Пачакайце, дзядзечка, я збегаю карову адвярну ад грэчкі.

— Згарыць яна з грэчкаю разам! Ты ведай адно: не падслухоўвай больш і маўчы. Табе што! Твая справа — старана. А я дам бацьку хлеба і... дам, дам, усяго дам. От што, я каровы сам упарадкую, а ты на змроку падбяжы дадому і занясі сала. Ты ў мяне верна служыў, а сям'я цяпер у мяне стала малая — хопіць з мяне! І з цябе хопіць, у мяне тут жывучы. Я скупы ніколі не быў. На вецер не кіну, а чалавеку не пашкадую, калі таго бяда агорне. І ў вас бяда, і ў мяне гора. Цётка не вытрымала гэтай трасяніны. Яна і так была хваравітая, а такое няшчасце

хоць каго ў магілу ўгоніць. Божа мой, божа! Гэтаксама і твой тата.

Ён так расчуліў Міхалку, што той ужо не саромеўся і не баяўся больш. Ён плакаў і нават нейкім слёзным енкам закрычаў на карову, бегучы да яе, каб выгнаць з грэчкі:

— Куды-ы-ы, шэра-а-а-я-я?!

Чорныя ад гразі і струпоў схуднелыя ногі яго мітусіліся з-пад шырокіх, падкасаных, парваных Скуратовічавых нагавіц, калі бег ён пад грэчку і назад. Як дробная падстрэленая птушка, падскочыў ён пад мяжу, дзе сядзеў Скуратовіч.

— Каб я так жыў, што я нічога нікому не толькі гаварыць не буду, але і слухаць нікога, апроч вас, не буду,— застукаў ён кулачкамі па залатанай ім самім на грудзях і жываце рубашцы (усё Скуратовічавы неданоскі).— Бо я нічога і не ведаю, я нічога і не чуў. Што ж я скажу, калі я не ведаю, пра што вы мне нават гаварылі і завошта на мяне крычалі. Мала што я пастаяў крыху пад дзвярыма.

Скуратовіч сядзеў у глыбокім задуменні. Вельмі можа быць, што ў гэтыя хвіліны ён меркаваў: ці не зрабіў тут сам якой-небудзь памылкі. Прынамсі, калі праз хвілін пяць ён падняўся з мяжы і пайшоў, ён мармытаў сам сабе:

— Чэрці яго ведаюць, гэтага малога. Ці ён вельмі хітры, ці я здурнеў перад гэтым дзіцём, старым будучы. Павяла мяне нячыстая сіла адразу бо! Трэба, можа, было як-небудзь інакш. Ах, ах!

Надвечар ён паклаў у мяшок тры кавалкі сала і даў Міхалку:

— На, сынку, занясі бацьку, няхай ён з голаду не ўмірае. Можа, ты таго не ведаеш пра свайго бацьку, што я ведаю. Ён хворы, яму дыхаць цяжка, ён нішчымніцаю душыцца, ён пра малых думае, а вы пра яго і дбаць не дбаеце. Дбайце пра хворага бацьку. Хто ж паможа яму, як не дзеці!

Міхалка выйшаў на ганак і глянуў у мяшок. Ён аж закалаціўся, убачыўшы ў мяшку гэтульки сала. Ён ужо адчуваў радасную хвіліну ў змучанай голадам сям'і, калі там ён раскрые перад усімі мяшок! І от Міхалка ўскочыў назад к гаспадару. Ён ад хвалявання ледзьве выгаварыў словы:

— Я нічога нікому не раскажу. Я не буду гаварыць ні пра вас, ні пра Толіка, ні пра жыта, ні пра... Ну, ні пра што. Маўчаць буду і нават памагаць вам буду.

— Мне твае помачы, сынку, не трэба. Пасі сабе каровы.

— Добра.

Міхалка пабег дадому. Сапраўды пабег: ісці спакойна ён не мог. Вельмі шпарка праскочыў ён праз лес. Яму здавалася, што ўсё ж ён занадта марудзіць, што цёмныя яліны тыя ўсё самыя стаяць паабапал яго і не знікаюць за ім.

Ён паддаваў ходу і неўзабаве, засопшыся, выскачыў з лесу.

— Відно яшчэ як, а ў лесе ўжо зусім цёмна,— гаварыў ён сам з сабою, спыняючыся, каб перадыхнуць.

Дома ён сапраўды ўзрадаваў і здзівіў усіх. Малыя накінуліся на сала. Маці нарабіла крыку:

— Не бярыце памногу, чакайце, я вам сама дам.

Міхалка пачаў расказваць:

— Мусіць, Скуратовіч зноў недзе жыта схаваў і думае, што я ведаю дзе.

І ён расказаў усё, як было і з чаго пачалося.

— Сцепуржынскі? — сказаў бацька.— То, можа, гэта ён у Сцепуржынскага схованьна жыта, ці што там, знайшоў? І праўда, там яму зручна, лес. Ах, пачакай,— хапіўся бацька за галаву,— калі ён там злажыў а палавіну ўраджаю, то хто там яго знойдзе...

Міхалка пабег назад.

— Пераначуй, заўтра нацямочку зойдзеш,— гукнуў яму наўздагон бацька.— Цёмна ж ужо зусім.

Але дзе там мог Міхалка ўседзець на адным месцы! Ён бег назад, трымаючы прытулены да жывата пусты мяшок. Назаўтра сам Скуратовіч быў у Міхалкавага бацькі. Седзячы ў сенцах, ён гаварыў:

— Міхалка ведае, і я вельмі баюся, каб ён не расказаў. Напэўна, і вы праз Міхалку ведаеце. Ну, злажыў я з поля крыху жыта і ярыны ў Сцепуржынскага: прыхаваць хацеў, а то гэтая развёрстка. Я туды з поля і вазіў адразу. То вы маўчыце, калі ласка! Ваш хлопец у мяне, то я яго не пакрыўджу. Няхай і да работы наладжваецца, ён у мяне як за сына будзе. Гэтулькі няшчасця на мяне навалілася раптам! Вас я аддзякую.

І ён унёс у сенцы мяшок з жытам.

— Ды ўжо нейк жа будзе,— уздыхнуў Міхалкаў баць-

ка на ўсе свае хворыя грудзі і закашляўся. Душыўся ён кашлем доўга, аж заходзіўся.

— От гэтае няшчасце ў вас,— паспачуваў Скуратовіч.

— Не дай божа нікому добраму так пакутаваць,— з вялікай шчырасцю выгаварыў Міхалкаў бацька.— Як падумаю пра дзяцей, то сэрца крывёй ацякае. Каб не дзеці, то здаецца, пад мост кінуўся б, каб не мучыцца самому і людзям не назаляць.

Скуратовіч падаў яму руку і паехаў дадому. З таго часу Міхалка вельмі выразна адчуў, як змяніліся да яго Скуратовічавы дачыненні. Міхалка цяпер быў лепш адзеты і ніколі не быў галодны. Час ад часу Скуратовіч засылаў што трэба і Міхалкавай сям'і.

Адзін раз увечары, кладучыся спаць, Міхалка заўважыў праз адчыненыя ў бакоўку дзверы, што Скуратовіч лёг на ложак у ботах і не раздзеючыся. За гэтыя часы Міхалка прывык глядзець на ўсё з падазронасцю; цяпер ён стараўся дадумацца, чаму так зрабіў гаспадар. Раптам Скуратовіч усхапіўся, закурыў і зачыніў дзверы. Цяпер ужо Міхалку не відно было, што робіцца ў бакоўцы. Але ён пачуў, што скрыпнуў ложак: Скуратовіч, значыцца, зноў кінуўся на пасцель, не раздзеючыся, бо за гэтакі момант ён не мог раздзецца. Ды і не чуваць было, каб ён скідаў боты: звычайна ён крэкча і грукае, калі разуваецца.

Падазронасць мучыла Міхалку. Ён думаў: «Цяпер-то Скуратовіч са мной добры, а як раней быў? Каб пайшоў сказаў, што палавіну ўсяго з поля ён звёз да Сцепуржынскага, от бы патрапятаўся б ён у мяне! От бы я яму падстроіў шыўку!»

І ён пачаў усміхацца і гаварыць сам сабе пра Скуратовіча:

— Тады папаскакаў бы. Папаенчыў бы. От бы папагнуўся б!

Памаўчаў, чмыхнуў носам, стрымліваючы смех, і зноў:

— От папабожкаў бы тады!

— Што ты кажаш? — абазваўся з бакоўкі Скуратовіч.

Міхалка спалохаўся і прыліп да пасцелі. Скуратовіч счакаў крыху, пасля мармытнуў:

— Праз сон гаворыць, ці якое яму ліха.

«Няхай лепш табе ліха,— думаў Міхалка,— от як узлуюся, то не паможа тады ні сала тваё, ні жыта».

Ён ляжаў і не мог заснуць. Прайшла, можа, гадзіна, калі не больш. Міхалку ўжо браў сон. Раптам зноў пачуў,

што скрыпнуў ложак і пасля як бы прыглушаныя крокі. Скуратовіч пайшоў у большы пакой, стараючыся ступаць ціха. Але як ён ні стараўся, усё адно Міхалку чуваць было. Міхалка чуў, што Скуратовіч выйшаў у чыстыя сенцы, адсунуў засаўку ў дзвярах. Выразна чуў, як пасля Скуратовіч замкнуў знадворку дзверы і як цяжка спусціўся з ганка. Пасля ён ціхім голасам паклікаў сабаку. Міхалка стаяў ужо ў цёмным вялікім пакоі і пазіраў з-за шалёўкі ў акно. Відзён быў Скуратовіч: сілуэт яго вырысоўваўся даволі ясна. Міхалка калаціўся ад хвалявання і страху. Ён бачыў, як Скуратовіч ужо варушыўся побач свірна — значыцца, ён быў ужо каля брамы. За брамай ішла дарожка проста ў лес. Там было ўсё чорна; Скуратовічаў сілуэт там і прапаў неўзабаве. Міхалка стаяў, можа, з паўгадзіны на адным месцы. Неспакой і страх трымалі яго тут. Чаго ён баяўся — ён і сам не мог бы сказаць. Дзесьці зашкрэбала мыш. Міхалка адумаўся. Ён пайшоў назад у кухню. Спаць ён не мог і, пастаяўшы ў куце, ціхом, каб не пабудзіць работніцы, пайшоў з хаты. У сенцах праз сон абзываліся гусі, і Міхалку стала смялей. «Ты, можа, яшчэ дзе жыта хаваеш»,— думаў ён пра Скуратовіча, ідучы паўз плот да брамы. Цяпер пачыналася ў яго злосць на гаспадара. «Ты раней са мной нават не гаварыў па-людску, а цяпер дагаджаеш мне, каб я маўчаў! І гэтак зрабіўшы мяне сваім хаўруснікам, усё ж такі хаваешся ад мяне! Пачакай жа, калі так!» — так льга было б сфармуляваць Міхалкавы настроі гэтай хвіліны. Ён быў ужо каля брамы і далей не пайшоў — астаўся стаяць, высунуўшы твар паміж дзвюх рассунутых частаколін. Свяцілі зоры, і лес наперадзе зусім знікаў у чарнаце. Перад вачыма туманілася каляіністая дарога. Міхалка не варушыўся, яму стала халадна, ён прайшоў разоў са два паўз плот. Пасля зноў заняў ранейшае месца і яшчэ стаяў. А пасля пачаў заўважаць, што як бы хтосьці ідзе ад лесу, на дарожцы як бы варушыўся чалавечы сілуэт. Праз хвіліну яму ўжо было добра відаць, што ідуць двое людзей. У Міхалкі зуб на зуб не цаляў, яму здавалася, што шапка на яго галаве варушыцца. Ён не мог адарвацца ад частакола. От ён ужо бачыць, што гэта Скуратовіч. А за ім хтосьці вельмі падобны з абрысаў постаці на Толіка. Але ж Толік у арміі! Не можа быць, каб гэта быў Толік, хіба, можа, ён зноў дадому ўцёк! Апошняя думка пачала браць верх у Міхалкавай галаве.

Па той бок агарожы, направа ад брамы, расло некаль-

кі старых дубоў. Шэпчучыся, дзве цёмныя постаці адышліся пад гэтыя дубы. Частакол даходзіў да самых дубоў. Міхалка анямеў пры частаколе. Скуратовіч шаптаў:

— Табе лепш не ісці ў дом, не будзь такі смелы. Нашто рызыкаваць?!

— Мяне не пыталі? — запытаў Толік.

— Не, ты ж у арміі.

— Развёрсткі не дамагаюцца?

— Няхай хіба за горла павесяць. Я згарэў датла і каб яшчэ зноў развёрстку!

«Уцёк з арміі,— думаў Міхалка.— Ён жа і раней уцякаў з арміі. Усё было так проста. Уцёк, а бацька пайшоў з ім пабачыцца». Міхалкам ужо апаноўвала расчараванне. Раптам у яго з'явілася новая думка: «Ніхто не ведае, што ён уцёк з арміі, а я адзін ведаю. Пачакай жа ты!» Свядомасць гэтага пачала ператварацца ў нянавісць. Ён адарваўся ад частакола і пайшоў проста да кухонных сянец. «Добра было б, каб мяне ўбачылі»,— думаў ён. Дайшоўшы да сярэдзіны двара, ён сумысля моцна пабег, і яго заўважылі. Ён чуў, як Скуратовіч скамандаваў сабаку, ціха, каб мала каму і чуваць было:

— Кусі!

Сабака гэцнуў цераз частакол, кінуўся на Міхалку і хапіў яго лапамі за плечы; стаяў на задніх лапах і быў вышэйшы за Міхалку. Замест таго, каб ірвануць зубамі, сабака аблізаў яму твар:

— Ах ты, Лыска, каб ты здох,— палашчыў Міхалка сабаку рукой па галаве.

Сабака віляў хвастом.

— Міхалка, ты? — гукнуў Скуратовіч.

Але Міхалка быў ужо ў кухні на сваёй пасцелі. Толік шаптаў бацьку:

— Я гэтага гадзюка зараз прыбяру зусім. Толькі каб неўзаметку было.

Скуратовіч пацісну́ў плячыма.

Назаўтра Скуратовіч дапытваў Міхалку, ці гэта ён хадзіў уночы па двары, але дапытацца не мог: Міхалка не прызнаваўся, Міхалка пачаў баяцца і Скуратовіча і яго хутара. Ён адпрасіўся ў старога Скуратовіча на дзень дадому. Скуратовіч доўга не пускаў, але ўсё ж не мог даць рады Міхалкавай упартасці.

Гэтая дзіцячая душа была змучана і разарвана на часткі ўсім тым, што навісла над ёю. Тут бы трэба было мець і больш год, і цвярдзейшую натуру, і здаровую руку, у кож-

ным разе на Скуратовічаву, якая накіравала б гэту душу куды трэба. Натура тады б ішла напралом.

На схіле сонца з паўдня ён быў дома. Можна сказаць, што толькі цяпер ён як мае быць адчуў, што такое чалавечае — не жыццё, а існаванне. Гэта тым больш страсянула яго, што перад ім быў яго бацька. У гэтыя часы невыразныя, несфармуляваныя адчуванні гэтага дзіцяці можна было б сфармуляваць так: «Круціцца бязлітасная і халодная штука. Яна бяздушная. І ўсё, што трапляе пад яе, яна душыць і крышыць. Пад гэтую машыну трапіў бацька».

— Тата,— сказаў Міхалка, падыходзячы да бацькі.

— Міхалка, ты прыйшоў...— бацька не мог далей гаварыць. Ён ляжаў на лаве пры сцяне пад акном, і позірк яго блудзіў па забруджанай мухамі шыбе. Сонца білася праз шыбу ў хату. Твар у чалавека быў пасінелы, вочы глядзелі не на свет, а як бы ў сярэдзіну самога чалавека. Ён задыхаўся. Двое меншых за Міхалку дзяцей лавілі па хаце матыля.

— Як яны будуць, малыя,— выгаварыў праз зубы бацька, і твар яго пачарнеў.— Ты, Міхалка, ужо зарабляеш хлеб,— глядзі іх, падрастай, цеш матку, не папускай у крыўду іх... Зарабляй на іх... Шкадуйце адзін аднаго...

Міхалкава душа быццам ірвалася на часткі жалезнымі крукамі. Ён злавіў меншым матыля і выправіў іх з хаты, а сам астаўся гаварыць з бацькам.

Праз два дні ён мучыўся на свежай бацькавай магіле, а яшчэ праз дзень Скуратовіч прывёз малым сіротам крыху мукі і яшчэ штосьці ў другім, меншым мяшку.

Міхалка брадзіў за Скуратовічавымі каровамі па пакошы і пожні і выў. Увечары яго сум павялічвала цішыня з прыхутарскога лесу і яснасць зор на высокім небе.

## IV

Выдалася такая шчаслівая часіна! Ён першы раз у сваім дзіцячым жыцці адчуў, што значыць у моманты вялікіх трывог і ўтрапенняў быць не аднаму, а з другам!

Скуратовіча ў той дзень дома не было: апошнімі днямі ён нават часам і не начаваў дома. Міхалка і не стараўся дудазнацца, дзе бывае яго гаспадар. Яму пра гэта не думалася. Ён быў адзеты і накормлены, можа, якога з паўгода, і сям'я яго магла быць не галодная. Так што гэты клопат адпаў. Астаўся смутак па бацьку і вельмі выразныя карціны ранейшых бацькавых сустрэч з Скуратові-

чам. У такіх выпадках яны заўсёды хітрылі адзін перад адным, і Міхалка заўважыў, што бацька гатоў быў пайсці на самую апошнюю сваю прыніжанасць, абы накарміць сваіх дзяцей. З такой прыніжанасцю бацька і памёр.

Раніца была туманная. Сонца ўзыходзіла ціха, туман разыходзіўся паволі. Жоўты лісток упаў уначы з клёна і ляжаў на вытаптанай траве. Міхалка ўстаў позна, ніхто яго не турбаваў. Ён стаяў каля кляноў і глядзеў на кляновы лісток — блізка восень! І туман стаіць доўга!

Ён ляснуў пугай і выгнаў каровы. На дарожцы пры лесе стаяў Скуратовіч з сякерай у руках. Ён пачакаў, пакуль наблізіцца з каровамі Міхалка.

— Нешта мы з табой заспалі сёння,— сказаў Скуратовіч.— Мусіць, нездароў я, што праспаў пару. Думаў устаць зацямна, жэрдак на плот спусціць некалькі. Аж ужо і сонца ўзышло. Раздумаўся. Вярнуся хіба дадому, а то яшчэ ляснік убачыць.

«Ты ж не начаваў дома, толькі дадому варочаешся,— думаў Міхалка.— Хлусі сабе колькі хочаш, што мне да таго».

Скуратовіч паваloкся дадому, Міхалка астаўся адзін. Ён сеў на мяжы і сядзеў так доўга, нікуды не гледзячы. Ён устрапянуўся тады, калі ўбачыў перад сабою Зосю. З першага ж моманту яго ахапіла радасць. Ён аж кінуўся ёй насустрач:

— Як ты мяне знайшла тут адразу? (Як быццам бы толькі яго аднаго магла шукаць Зося!)

— Я ведаю, што ты павінен быць ужо тут з каровамі.

Туман быў яшчэ густы, і крокаў за дваццаць мала што відаць было.

— Я і прыйшла к табе,— адразу загаварыла Зося.

— Мне вельмі нудна тут аднаму ў гэты час.

— Я ведаю.

— Як жа ты ведаеш?

— У цябе ж бацька памёр... А майго бацьку і брата забілі бандыты.

— Ну, я ведаю. Я рад, што ты прыйшла.

— Рад? То ты павінен гаварыць мне праўду. Табе цяпер у Скуратовіча добра?

— Лепш як было. Адно, што па бацьку нуджу.

— А за што табе Скуратовіч дае ўсяго? Мусіць, ты нешта ведаеш пра яго і маўчыш?

— Адкуль ты ведаеш, што ён мне дае ўсяго?

— Усе гавораць, што ў вашых цяпер і сала ёсць і хле-

ба. Бачылі суседзі, як Скуратовіч раз увечары на ваш двор быў уз'ехаў, а пасля з воза мех у сенцы цягнуў. А ты памятаеш, як ты казаў мне тады, раней, што калі Скуратовіч дасць табе жыта, то ты і не скажаш нікому, дзе збожжа ў яго закопана.

— Тое ж збожжа былі знайшлі, ты ж сказала.

— А цяпер, мусіць, пра нешта яшчэ ведаеш і маўчыш?

Міхалка збялеў і анямеў. Губы яго дрыжалі. І не таму ён так збянтэжыўся, што ўсвядомліваў сабе, у якую страшную справу ён уцягнен Скуратовічам. Ён яшчэ гэтага не мог ацаніць. Ён проста ў гэты момант быў падлоўлен Зосяй у хлусні, у патаемнай змове са Скуратовічам. Памаўчаўшы, ён пачаў гаварыць:

— Я ведаю пра Скуратовіча. Ты думаеш, што быў пажар, то гэта ўжо і ўсё ў яго згарэла? Ён, можа, больш як палавіну ўсяго з поля склаў у лесніка Сцепуржынскага.

Зося раптам змоўкла і пачала думаць. Міхалка нават заўважыў, што яна як бы нечага ўзрадавалася. От яна кінулася да яго і пачала трэсці яго за плечы.

— То, значыцца, ты падумай добра, Міхалка, Скуратовічу пажар гэты не страшны?

— Ну, ён багаты, ён можа нават забудавацца, і палавіна ўраджаю ў Сцепуржынскага зложана.

— То, можа, гэта ён сам спаліў?

— Сам? Свае? Хто гэтак робіць?

— А каб развёрсткі не даваць.

— Дык хіба не ўсё адно яму,— ці аддаць на развёрстку, ці ў агні згарыць? Калі згарыць, то нават горш, бо і гумна ж і хлявоў няма. А развёрстку аддаў — і ўсё яму астанецца.— Міхалка разважаў з выглядам сталага чалавека, але праз гэтую сталасць так і свяцілася дзіцячае наіўнае здзіўленне. Зося стаяла перад ім уся ўсхваляваная; гаворачы, яна нават пачала заікацца. Міхалка пасмялеў сам у сабе, але не перад Зосяй: ён адчуў, што яна перад ім ужо сталы чалавек.

— А дзе Толік?

— Ты адно маўчы. Усе думаюць, што ён у арміі.

— А некаторыя і не думаюць.

— А Скуратовіч жа людзям ад яго лісты чытае.

— Мала, што ён чытае!

— То і ты ведаеш? Толік гэтыя лісты сам яму прыносіць і ў лесе хаваецца.

— А што ты яшчэ ведаеш?

— Больш нічога.

— Хлусіш!

— Чаму гэта я табе буду хлусіць?

— Бо хлусіш! Ты хітруеш перада мной! Можа, ты сам нават бачыў, як Скуратовіч сваё гумно падпальваў!

— Нашто яму сваё гумно падпальваць? Гэта, мусіць, бандыты нейкія.

— А можа, гэта ён сам гэты бандыт з сваім Толікам разам. Можа, гэта яны па вёсках робяць пажары і нават нашу хату спалілі, і каб на іх ніхто не падумаў, то яны і сваё спалілі, а снапы ж іх у Сцепуржынскага!

Грымаса хітрай радасці прайшла па Міхалкавым твары. Зося заўважыла гэта і штосьці хацела сказаць, але ён сам загаварыў:

— Ну, калі гэта так, то я ж яго, гада, папатрымаю ў сваіх руках. Заўсёды мы з табой яго баяліся, а гэта няхай ён нас баіцца. Захачу — дык скажу і пра гэта. Тады ён мяне пазнае. Бач, які далікатны са мной зрабіўся! Дагаджае мне. Я з яго яшчэ паналуплю скуры! Ён яшчэ больш будзе даваць мне ўсяго.

І ў гэтых Міхалкавых словах, і ў хітрай грымасе на яго твары была першая ўжо адзнака пачатку фармавання натуры. І грымасай, і словамі ён як бы зняважыў Зосю, як абліў яе холадам. З злосцю і варожасцю яна глянула на яго:

— Нашто ты яму памагаеш, гэтаму бандыту! Гэта, напэўна, ён майго бацьку і брата забіў?

— Хіба я яму памагаю?

— Мяне ўчора следчы дапытваў — шукаюць тых бандытаў, што вёскі паляць і што камісара і майго брата з бацькам забілі. Следчы ў мяне пытаў, ці не ведаю я, хто на мяне вялікую злосць мае. Я падумала і сказала, што Скуратовіч. Я нагаварыла на Скуратовіча, хто ён такі... ну сам ведаеш, які ён з намі быў... Дык я і сама не ведаю, можа, гэта Толік майго бацьку забіў! Хто ж на мяне і майго бацьку злосць большую меў, як не ён! А тым часам, ты ж сам гаворыш, што ён у лесе хаваецца! Я хацела запытацца ў цябе, ці праўда, што ён у лесе. («Я шукаю, каб даведацца, хто забіў майго бацьку і брата» — такая фраза магла быць сказана ёю.) А калі ты гаворыш, што сам бачыў Толіка, што ён не ў арміі, а ў лесе, то гэта напэўна ён! А ты яму памагаеш, ты не гаворыш нікому, ты маўчыш! Яны людзей рэжуць і майго тату і... (Твар яе рвануўся ўсімі сваімі рысамі, яна аж заенчыла з плачу.)

Ён стаў у позу. Гэта была смешная поза. Нейк адным

плячом вышэй, няроўна, няспрытна, як птушанё. Напэўна, ён не ўсё слухаў, што нядаўна гаварыла Зося. Самага важнага ён, здаецца, не выслухаў.

— Як гэта памагаю ім? — запытаў ён.

— Яму трэба, каб ніхто пра гэта не ведаў, то ты і стараешся, каб ніхто не ведаў.

Цяпер яму шмат што пачало рабіцца ясным. Ён абмяк.

— Ідзі, куды трэба, і раскажы ўсё, што ведаеш пра Скуратовічаў.

Ён як бы не слухаў. Сапраўды, ён не чуў гэтага. Ён маўчаў з паўхвіліны, аддаючыся вострай рабоце думкі. Пасля ён запытаў, бездапаможна, зусім па-дзіцячаму:

— То што ж мне рабіць цяпер?

— Я ж табе кажу, пайдзі, раскажы, што ведаеш.

— А куды гэта ісці? Хіба ты са мной пойдзеш?!

Ёй стала шкода яго. У гэтыя хвіліны яна была перад ім, як маці. Гэтае пачуццё ішло праз пачуццё іншае, праз варожасць і злосць на яго.

— Ты ж Скуратовіча ненавідзіш... Добра, я з табой пайду.

— Добра, ты мяне не пакідай аднаго... Ты тут пачакай, я заганю каровы на двор, і пойдзем.

— Ты баішся пакінуць тут Скуратовічавых кароў?

— Ну, то чорт іх бяры, няхай валочацца.

У тую ж секунду яны рушылі ісці. Яны пайшлі полем, баючыся лесу. Ім абаім ужо здавалася, што Толік Скуратовіч глядзіць на іх з-за кожнага дрэва. «Чорт яго бяры, так яму і трэба»,— думаў Міхалка пра Скуратовіча. І яму ўжо не цярпелася, каб хутчэй зайсці і расказаць. Такія думкі ён і выказваў усю дарогу, і Зосіна варожасць да яго скончылася.

Вярнуўся на хутар Міхалка пад самы вечар. Скуратовіч трывожыўся і сам пазнаходзіў свае каровы па ўсялякіх прылясных закутках. Ён чакаў Міхалку і разам з тым баяўся яго прыходу, як бы чуючы, куды пайшоў Міхалка. На ўсялякі выпадак ён быў не дома, а ў лесе; схаваўшыся ў дрэвах, ён паглядаў на дарогу, па якой напэўна павінен будзе варочацца Міхалка. Калі Міхалка будзе варочацца не адзін, ён тут у лесе астанецца. Але ўбачыў ён Міхалку аднаго — той ішоў палявою дарогаю, і здалёк было відаць, як ён вельмі спяшае. Скуратовіч пайшоў яму насустрач.

— Дзе ты быў, сынку? Няхай бы ты хоць сказаў, што табе трэба пайсці, то я сам кароў бы паглядзеў. А то...

Міхалка пасля дзівіўся, як гэта ён смела так закрычаў у гэты момант на Скуратовіча. Гэта была нейкая хваравітая ўзбуджанасць:

— «А то?..» Што «а то»?.. Давай сала і хлеба, а то пайду і ўсё выкажу. («Зараз жа прыедуць арыштоўваць яго»,— думаў ён.)

Скуратовіч раптам пакінуў граць ролю ласкавага спачувальніка Міхалкавым інтарэсам. Ён хапіў Міхалку за плячо так, што той прысеў і выгнуўся на адзін бок.

— А ты яшчэ не выказаў? Гавары праўду, а то зараз падніму ды так лясну аб гэтую дарогу, што не ўстанеш.

Міхалка ўтрупянеў. Ён адразу ўбачыў сваю памылку: не трэба было так гаварыць з Скуратовічам, можа, нават зусім не варта было ўжо і варочацца на хутар, але ён хацеў яшчэ хоць апошні раз узяць чаго-небудзь ад Скуратовіча.

— Я нікому не казаў,— закрычаў Міхалка і ад болю ў плячы скрывіўся:

— Ты! Не крычы гэтак!

Скуратовіч так і павёў Міхалку дадому, не выпускаючы з рук пляча.

— А што ты можаш выказаць, што ты ведаеш такое?

— Я нічога нікому не гаварыў і не скажу.

— Брэшаш, шчанюк! Прызнавайся!

— Я-то нікому не скажу, але чуў, што людзі думаюць пра вас, што вы самі спалілі гумно, каб не было падазронасці, што Толік са сваімі хаўруснікамі робіць пажары і забівае людзей.

— Хочуць мяне з'есці, нявіннага чалавека. А ты сам верыш гэтым выдумкам?

— Я толькі ведаю, што вы ў Сцепуржынскага збожжа схавалі і што Толік не ў войску, а ў лесе.

Скуратовіч зняў руку з Міхалкавага пляча, і ўжо далей яны ішлі моўчкі. Так увайшлі яны ў клець. Скуратовіч адчыніў кубел:

— Бяры сала, от гэты кавалак.

— Я заўтра вазьму,— выгаварыў збянтэжаны Міхалка.

Скуратовіч замкнуў клець і пайшоў у дом. («Такі і сапраўды трэба яго, мусіць, зараз прыбраць з свету, бо цераз яго загінуць прыйдзецца»,— думаў ён пра Міхалку.) Міхалка астаўся ў кухні. Ён не мог спаць: стаяў пры акне ўпоцемку і глядзеў праз шыбу ў зорнае неба. Ён чуў, што Скуратовіч не кладзецца спаць, часта стукае сваімі ботамі

аб падлогу, крэкча, божкае. Міхалка думаў так: «А калі часамі сёння прыедуць яго арыштоўваць, то ён не спіць і можа ўцячы. Хіба каб яны ціхом пад'ехалі? Але ж сабакі забрэшуць». Ён паспакайнеў ужо, плячо пакінула балець, ён увесь дыхаў зларадствам: думаў, што яму зрабіць, каб сабакі не брахалі. Так ён моўчкі стаяў пры акне.

— Міхалка, ты спіш? — моцна зашаптаў за сцяной Скуратовіч.

«Нешта хоча рабіць, і каб я не бачыў»,— адразу здагадаўся Міхалка і лёг ціхом на пасцель.

— Не спіш, Міхалка?

Поўнае маўчанне. У сенцах абазвалася гусь, і кот мяўкнуў дзесьці ў чыстых пакоях. Скуратовіч падыходзіць да кухонных дзвярэй і ціхенька прычыняе іх.

— Міхалка,— шэпча ён,— спіш?

— Сплю, галава баліць,— нібы праз сон крэкча Міхалка, поўны зларадная хітрасці.

— Спі сабе, я назнарок гляджу, бо заўтра хачу цябе, калі бог дасць здароўя, пабудзіць раней: з пару жэрдак з лесу прынясем на плот.

— Добра.

Скуратовіч ідзе зноў у свой «салончык», а Міхалка сядзіць і трасецца ад узбуджанасці. «Правяраў, ці сплю. Што ён хоча рабіць? Можа, ён забіць мяне хоча?» Валасы на Міхалкавай галаве заварушыліся, ён рушыў да дзвярэй і стаў напагатове. Чутно, што Скуратовіч у сваім «салончыку». Праходзіць блізка гадзіны. Міхалка, напэўна, ужо спіць! Скуратовіч не ўсцярогся і бразнуў засаўкай у чыстых сенцах: пайшоў на двор. Міхалка ўскочыў у цёмны «салончык» і прыліп да акна. Яму ўсё было відаць. Скуратовіч стаў на калені, выцягнуў з-пад ганка рыдлёўку, ускінуў яе на плячо і штосьці чорнае прытуліў к сабе да грудзей. Так і пайшоў да брамы. Назіркам Міхалка пайшоў за ім, тулячыся паўз платы. Ён бачыў, вельмі выразна, як Скуратовіч дайшоў да палявой грушы (дзічкі), што расла паміж лесам і хутарам, і там пачаў працаваць. Міхалка выгледзеў усё і, не могучы стрымаць свайго ўзбуджэння, памчаўся назад і ўскочыў у кухню праз чорны ход, забыўшыся зачыніць чыстыя дзверы на ганку, праз якія выходзіў падглядаць за Скуратовічам.

— Божа мой, хто гэта дзверы адчыніў,— закрактаў неўзабаве Скуратовіч у сваім пакоі.— Міхалка, ты выходзіў?

— Чаго? — абазваўся Міхалка, прыкідваючыся сонным.

— Дзверы ты адчыніў?

— Якія дзверы?

Міхалка ўспомніў і спалохаўся. Скуратовіч увайшоў у кухню. Больш ён ужо не думаў пра тое, каб хаця Міхалка выспаўся да раніцы.

— Гэта ты адчыніў дзверы?

— Я спаў.

— А я думаў, ты выходзіў на двор. Я прыдрамаў крыху, а пасля думаю сабе,— пайду ў лес дзве жэрдкі высеку, каб ніхто не бачыў, а ледзь на дзень яшчэ з табой схадзілі б. Выходжу ў сенцы, бачу — дзверы адчынены. Можа, гэта я сам забыўся зачыніць звечара, а можа, вецер. (Памаўчаў.) Я от пра цябе вазьму ды і ўспомню часамі: бацька твой памёр, небарак. Ты сірата астаўся, то ты павінен вучыцца, як жыць на свеце. (Поўны трывогі, ён меў патрэбу вывернуць перад кім сваю душу і гаварыў перад Міхалкам, хоць яго і ненавідзеў.) На свеце што робіцца! Чалавеку ж ніколі не верань, каб хоць сканаў, каб хоць крыжам лёг. Кожны ў чалавеку ворага бачыць, як ты добра з людзьмі ні будзь. Гэта, я табе скажу, праўда. Ты яшчэ малы, дурны. Жыць ты яшчэ не ўмееш з людзьмі, як трэба. Тое, што ты маеш, людзям не паказвай, бо адбяруць. А чалавека чорная часіна заўсёды ж можа спасцігнуць. Астрогу і торбы не заракайся. Трымай пры сабе і свае думкі і ўсё, што маеш, бо паразяўляюць горлы і глынуць з табою разам. Каб твой бацька меў што пры душы, то хіба яму чорная гадзіна была б страшна? Ён бы тады малым сваім пакінуў бы, і яны пакуты не ведалі б. А то на твае сірочыя рукі яны пасля бацькі асталіся. А ты збіраешся словамі раскідаць. Каму ты верыш? Людзі табе памогуць? Кожны стараецца, каб сабе ўварваць, а ні то што! Хто сталы і разумны, той скупы і на слова, і на ўсё. Усё сваё ён пры сабе трымае. Чорная часіна, і сам таго не ведаеш, кожнага спасцігнуць можа. А яшчэ цяпер! Час такі брыдкі цяпер, няпэўны, страшны — неспакой, войны, рэвалюцыі ўсялякія! Чалавек цяпер азвярэў. Што ж, кожны ратуецца, як можа, кожны жыць хоча. Яшчэ ўсё на свеце будзе, яшчэ нічога не скончана, яшчэ гнаць людзей на пакуты будуць, малых дзяцей сіратамі пакінуць сярод дарогі: енчыць будуць, плакаць, стагнаць, і ніхто не злітуецца. Гэтыя небаракі-сіраты пазаходзяцца без бацькоў і без матак. Яны што з людзьмі робяць? Грабежніцтва

ўшчалі. Раквізіцыі, ці, як яны кажуць, развёрстка, што гэта? (Памаўчаў, падумаў, харкануў, аж пабудзіў у сенцах сабаку, і той гыркнуў.) То я табе, сынку, скажу... Ну добра... спі сабе.

І пайшоў у свой пакой. Міхалка чуў, што ён спаць не кладзецца. «Баіцца. Можа, прыедуць арыштоўваць, сабакі забрэшуць, і ён уцячэ»,— думаў Міхалка. І раптам устрапянуўся. Стараючыся, каб не чуў Скуратовіч, ён выйшаў на двор і ціхім свістам паклікаў сабак. Сабакі пайшлі з ім аж за хутар, пад самую дзічку. Там ён меў падвойную справу — і сабак трымаў наводдалек ад хутара, і правяраў Скуратовічаву нядаўнюю работу. «Ты думаеш, ад мяне ўхаваешся? Ты мне пра нейкія сіраты і пра чорную часіну гаворыш? То пачакай жа»,— самаўпэўнена і нават ганарыста сам перад сабою думаў Міхалка, утоптваючы зямлю каля дзічкі. Сабакі цёрліся аб яго ногі; было так цёмна, што дзікую грушу ён ледзьве бачыў. Нарэшце яму надакучыла чакаць: ніхто на хутар не з'явіўся. І ён рушыў назад. Агню ў вокнах нідзе не было, але Скуратовіч не спаў. Міхалка гэта чуў з кухні праз сцяну. Скуратовіч гаварыў сам з сабою: «Стафан Сэдас, Стафанка... Ты хоць паміж гэтых гадаў не жывеш... Божа мой, божа, і яна памерла... аўдавеў...»

Раптам сабакі натапырылі вушы і пачалі бурчаць. Міхалка ў адзін момант кінуўся да іх і хапіў аднаго і другога за морду. Ён гладзіў іх па галовах, заціскаў ім раты, і яны паслушна маўчалі. Міхалку ўжо здавалася, што канца не будзе гэтаму: сабакі былі паслушныя з ім, і ніякай нідзе трывогі. Яму надакучыла, і ён пусціў сабак. Яны зноў натапырылі вушы і забурчалі. У той жа момант захрыпеў сонным голасам Скуратовіч:

— Хто там?

Ніякага адказу Міхалка не чуў за сабакамі. Яны кінуліся к дзвярам, адчынілі іх і ўжо на двары зайшліся брэхам. Міхалка кінуўся ў сенцы. Там крычалі перапалоханыя гусі; зорнае неба відно было ў адчыненых дзвярах; і стаяла чалавечая постаць.

— Не выходзь!— гукнуў чалавек на Міхалку.

— Я тутэйшы, я тут у гаспадара каровы пасу.

— Ідзі ў хату.

Ён пайшоў адразу ў гаспадарскі пакой. Там стаяў збялелы Скуратовіч і даводзіў перад двума вайсковымі, што сын яго ў арміі.

— А дзе твой пастушок? Ага, от ён! Ну, дзе яго шукаць?

Гэта быў момант вялікай пакуты для Міхалкі. Хоць ён ужо ўдзень і расказаў усё, хоць нядаўна яшчэ і крычаў на Скуратовіча «давай сала, а то раскажу», аднак, бачачы сябе ўцягненым у гэтую справу, у якой «і суд і смерць» (а ён гэта ўжо бачыў з часу гаворкі з Зосяй), ён так захваляваўся і затрывожыўся, што нават з нейкай надзеяй глянуў на Скуратовіча. Той аж уеўся ў яго вачыма. «Маўчы або хлусі — азалачу, навек шчаслівым зраблю»,— гаварыў Скуратовічаў позірк. «Калі ж я ўдзень ужо расказаў»,— малілася перад Скуратовічам уся Міхалкава істота. Галодныя малыя сёстры і браты як бы выстраіліся перад ім у шарэнгу і патрабавалі хлеба, якога ў Скуратовіча многа. Вялікае ўтрапенне гняло Міхалкаву душу.

— Дзе яго сын?

Міхалка пачаў заікацца.

— Я чуў, што ён не ў арміі.

— Сам жа ты ўдзень сёння гаварыў, што бачыў яго. Гаспадара баішся?

Скуратовіч, як падстрэлены, раптам сеў на канапку. «Скончана ўсё»,— сказала смяротная халоднасць яго твару. З гэтай хвіліны ён ужо нічога не гаварыў. Ён сядзеў і глядзеў кудысьці ў шалёўку пры акне. Міхалка, трапечучыся, як злоўленая птушка, расказаў усё і нават свае ўсялякія здагадкі. Скуратовіч паварушыўся толькі тады, калі яму загадалі апрануцца. Яго пасадзілі на фурманку, і паабапал селі два чырвонаармейцы. Днела. Двое асталіся на хутары да раніцы, а тады прыйшлі з сельсавета і апісалі хутар. Міхалка вадзіў усюды і ўсё паказваў, як адзіны тут гаспадар. Перад вечарам сказалі, што тут лепш яму не быць: на гэтай адзіноце можа з'явіцца Толік і адпомсціцца, а помста гэтая інакшая не будзе, як вельмі страшная. Міхалка пакінуў хутар і з'явіўся дадому. Там даядалі Скуратовічаў хлеб. У яго адбылася такая гаворка з маткай:

— Цяпер, сынок, трэба табе дзе іншай работы шукаць.

— Толькі каб дзе не на адзіноце, бо там страшна. Толік можа мне адпомсціцца.

— Гадзіна гэты Толік, такі самы, як і яго бацька.

— Я каб ведаў, то адразу ўсё і сказаў бы. Толькі што хлеба ён вам даваў.

Маці збянтэжылася, і гэта яшчэ больш зблытала канцы і пачаткі Міхалкавых думак. Праз некалькі дзён яго паклікалі на допыт. Скуратовіч усё даводзіў, што не ведае, дзе яго сын: «пайшоў быў у войска, а калі дзе хто яго бачыў, то я нічога не ведаю». Міхалка сказаў, што ён сам бачыў, як Толік гаварыў з бацькам. Міхалку трымалі цэлы дзень. Ён бачыў, што стаў даволі важнаю пружынаю ў гэтай справе. Яму хацелася, каб хутчэй усё прайшло і скончылася. Пасля яго яшчэ клікалі на допыт. Да гэтага часу Скуратовіч прызнаўся, што некалькі разоў бачыўся з Толікам, але адмаўляў удзел сына ў забойствах і тое, што сам спаліў свой хутар. «Падумайце, што вы гаворыце! Як гэта і нашто паліць сваё! Гэты ж пажар маю жонку ў магілу звёў! Яна і так была хворая, а гэта — не вытрымала». Нарэшце была ўстаноўлена яго вінаватасць і ў пажары і ў бандытызме. Следства скончылася, і Міхалка спакойна ўздыхнуў. Ён сам таго не мог ацаніць, што ў ім зрабілася за гэты час, якая ў ім прайшла работа. Можна не зважаць на яго чатырнаццаць год. За некалькі гэтых тыдняў ён набыў сталасць дарослага чалавека. Праз шмат год з смуткам і трывогаю ён успамінаў гэты час: «Я тады раптам зрабіўся «бітай штукай». Тады канчалася яго маленства.

Ужо была першая восень. Іржэўнік пацямнеў, птушкі павырасталі і збіраліся разам. Птушкі крычалі на полі, каля лесу. Відзён быў апусцелы Скуратовічаў хутар. Міхалка стаяў каля мураванага скляпка; ён надумаўся прыйсці сюды і паглядзець: ён тут шмат з чым зжыўся. Ён паглядзеў у хлявы, абышоў сад і пайшоў у поле да дзічкі. Гэтая дзічка цягнула яго да сябе. Падышоў, азіраючыся, ці не глядзіць хто на яго. Нікога нідзе не было. Ён прыпёрся плечуком да дзічкі і пачаў глядзець на зямлю пад ёю. Ён гаварыў сам з сабою: «Бач ты, ужо і знаку няма! Ужо трава павыбівалася. Нікому і ў галаў не прыйдзе. Адзін я ведаю. Буду трымаць пры сабе! Ні адна душа ведаць не будзе! Я адзін! Няхай сабе чорная часіна прыходзіць, мне не страшна... Абы толькі Скуратовіч не вярнуўся...»

Дзікая радасць агарнула яго. У нейкім як бы экстазе ён слухаў птушыны крык і доўга не мог адарвацца ад дзічкі. А як пайшоў — усё азіраўся, каб хаця ніхто яго тут не падгледзеў. Назаўтра ён зноў сюды прыходзіў, напаслязаўтра таксама. Ішла і ўсталёўвалася восень, птушкі крычалі, іржэўнік рудзеў. Ён усё часцей і часцей прыходзіў пад дзічку, глядзеў, як больш і больш пад ёю

дзірванее зямля, і з дзікай радасцю слухаў птушыны крык і бачыў асеннюю смугу на даляглядзе. Так скончылася, назаўсёды прайшло яго маленства.

Калісьці да Скуратовіча на службу яго, малога, прывёў бацька. Цяпер ён ужо сам шукаў сабе работы па людзях. Заклапочаны гэтымі пошукамі, ён мала прыслухоўваўся да таго, што рабілася на свеце. Аднойчы Зося яму сказала:

— Ты чуў пра Скуратовіча?

— Не.

— Учора было ў газеце.

— Што?

— Гэтымі днямі яго расстралялі.

Гэтая навіна яго прыглушыла. Ён стаяў і маўчаў. А яшчэ праз некалькі дзён, тручыся ў мястэчку на кірмашы паміж людзей і прыпытваючы, дзе можна астацца служыць, ён падышоў да чалавека, які прадаваў лыжкі, кублы і цабэркі. Там стаяла шмат народу, і чалавек расказваў:

— Гэта што расстралялі старога бандыта Скуратовіча? То ён жа, здаецца, з вашага боку аднекуль, тутэйшы.

— А вы самі ж адкуль?

— Я з горада, цэлую ноч ехаў. Учора ў нас у горадзе вялікі пажар быў. Згарэла бальшавіцкая канцаляра, і каля вакзала гарэў склад са збожжам, куды развёрстку здаюць. Ледзьве ўтушылі, і двух вартавых чырвонаармейцаў знайшлі забітымі. Разам з канцалярай быў дзіцячы прытулак, то і той згарэў. Там усялякія дзеці былі, каторыя без бацькоў ці так сіраты якія, то ледзьве сонныя павыскоквалі праз вокны. Усё прадавольства згарэла, склады ад бомбы паўзрываліся, то, небаракі, жабраваць пайшлі, калі з голаду не пазаходзяцца. Зіма ідзе, можа, іх як-небудзь абуюць. Бандыцкі налёт быў...

— А-яй, скажы ты!

— Усяк гавораць. Нават і так, што гэта нібыта здагадваюцца, што расстрэлянага Скуратовіча сын камандуе бандыцкай хеўрай і за бацьку папомсціўся. Не глядзіць ні вока ні бока: паліць і крышыць. Усяк гавораць, а праўда ці не — то хто гэта можа ведаць. Мы людзі, сказаць, простыя і працавітыя. Калі не заробіш, то і есці не будзеш. Але чутно, паміж людзей гавораць.

Міхалку як гром аглушыў. Яму стала страшна. «Не пайду на адзіноту служыць». Яго ў трывозе пацягнула да Зосі. Знайсці яе было нялёгка, яна таксама хадзіла па лю-

дзях, шукаючы работы. Яшчэ ніколі не было ёй так цяжка жыць, як цяпер. Яна сказала Міхалку:

— Я пайду ў горад. Там і смялей, і там ёсць у мяне такія людзі...

— Якія людзі?

— Памятаеш, хворы чырвонаармеец ехаў дадому і Скуратовіч вёз яго. Ён быў у нас у хаце. Ён мне свой адрас пакінуў і гаварыў са мною, як брат родны. Ён як і ведаў, што мне так цяжка прыйдзецца. Можа, ён паможа мне прыстаць дзе. Я цяпер адна, нікога ў мяне няма...

— І я з табой пайду. Можа, і я там дзе астануся.

І яны згаварыліся ісці разам. Выйшлі яны ў дарогу яшчэ да ўсходу сонца, поўныя няясных надзей. На палавіне дарогі ён пачаў раздумваць: ці не вярнуцца назад? Яго цягнула к сабе дзічка на Скуратовічавым полі, яму здавалася, што ён не павінен далёка з гэтай мясцовасці адыходзіцца і павінен вартаваць тое месца. Зося заўважыла, што ён у нерашучасці і ўгаварвала яго ісці далей: ёй самой цяжка было адной аставацца. Яна гаварыла з ім, а ён найбольш маўчаў і слухаў, і было ў яго да Зосі такое пачуццё, што гэта нібы маці з ім гаворыць. Ён пачаў з вялікім добрым пачуццём гарнуцца да яе. Яны прайшлі яшчэ вёрст дзесяць і адчувалі страшную стому. У нейкай адзінотнай сушні яны прытуліліся адпачыць і паснулі на кастрыцы. Прачнуліся ўночы, вельмі было цёмна, праз дзірку ў страсе свяціліся рэдкія зоры. Было холадна. Седзячы адно пры адным, яны чакалі дня і хваляваліся ад нязнанага яшчэ ніколі адчування: плячом к плячу сядзелі яны вельмі блізка. Апоўдні таго, другога, дня падышлі яны да вакзала. Вытаптаны выган быў навокал, і непадалёку пачыналася першая гарадская вуліца. Яны абвандравалі ўвесь гарадок, пакуль дапыталіся кватэры Назарэўскага. На дзвярах вісеў замок. Блізка быў вечар. Суседзі сказалі, што Кандрат Назарэўскі ў арміі, а «ёсць малая яго сястрычка Ірынка, то яна раней была ў дзіцячым прытулку, а гэты прытулак спалілі бандыты, то немаведама, дзе яна цяпер. Дзеці параспырхваліся, як птушаняты, хто куды, з голаду і холаду. Пагарэла ўсё, ледзьве з агню выратаваліся». Зося і Міхалка селі на вулічны камень, не ведаючы, куды падацца. Меркнуў дзень. Яны не мелі пра што гаварыць. На вуліцы пуста і глуха. Нейкі чырвонаармеец, абпылены, стомлены, спыніўся перад імі:

— Ці тут кватэра Назарэўскіх?

— Тут.

— Дзе Ірынка?

Міхалка і Зося падняліся з каменя.

— Ніхто не ведае, дзе яна. Прытулак згарэў...

— Ведаю. Дзе яе шукаць лепш?

— Мы не знаем.

Жанчына выйшла з суседніх дзвярэй.

— Яе ўчора бачылі на вакзале.

Чырвонаармеец, а за ім і Зося з Міхалкам рушылі на вакзал. Усе ўтраіх увайшлі ў вялікі пакой для пасажыраў і ўбачылі пры акне натоўп людзей. Там як быццам нешта разглядалі. Натоўп маўчаў, толькі калі-нікалі чуліся заўвагі і меркаванні. Пад акном, пры сцяне, перад тварам цікаўнага натоўпу сядзела дзіця — дзяўчынка ў нейкім вялікім брудным і парваным лахмане. Рукі яна трымала схаванымі ў рукавах, але часамі з рукавоў выцягвала свае худзенькія кулачкі, каб пачухаць грудзі ці галаву. Кулачок тады ўзнімаўся ўгару, белы, касцісты. Ён аж свяціўся навылёт. Тварык белы, нос завастрыўся. Нейкая жанчына дала гэтаму дзіцяці хлеба і агурок. Дзіця страсянула галавою:

— Мне няможна гэтага есці, у мяне жывот хворы.

Яна гаварыла, як сталая. Усе чулі гэты цвёрды голас, у якім гучала шмат жорсткай практыкі. Нейкі стары, з сукаватай палкай і мехам за плячыма, раптам накінуўся на жанчыну:

— Што ты даеш ёй, добра кажа, агурок там нейкі! Можа б, ёй сала ці прысмакаў якіх! Бач, ты, абы-чаго есці не будзе! Вы тут над ім охкаеце, а яно на тры сажні ў зямлю бачыць! Яно больш за цябе ведае, дармо, што яно малое. Нябось, каровы дзе пасвіць, дык не ўгаворыш, каб прыйшлося, скажам. Я вам раскажу, як гэтым летам у мяне было. (Ён расказаў, як гэтым летам у яго было.) От, сядзіць ды выпрошвае, а непадалёку, напэўна, недзе маці або бацька сядзіць ды паглядае, ці многа навыпрошвае — абы работы не рабіць! От бо народ цяпер пайшоў, хай бог сцеражэ!

Дзіця выслухала ўсё і раптам усхапілася і пайшло да дзвярэй. Яно трымала рукі на жываце і ішло прыгнуўшыся.

— А што,— аж гукнуў чалавек з мехам,— недзе маці там або бацька чакае.

Дзяўчынка павярнулася да яго і холадна сказала:

— У мяне мамы няма даўно, а бацьку афіцэр нядаўна забіў.

І пайшла ў дзверы. Яна ішла так шпарка, так перабірала нагамі, хістаючыся, як цень, у бакі, такі мела выгляд, што здавалася, гэта сталая жанчына спяшае на работу. Праз нейкі час яна вярнулася назад і села на ранейшае месца, быццам гэта быў не казённы халодны вакзальны будынак, а вельмі прытульная, поўная ўцехі, яснасці і радасці ўстанова, у якой заўсёды будзе шчаслівае яно, гэтае дзіця. І калі яно не будзе тут, радасць і ўтульнасць усёй светабудовы рухне. І навек скончыцца ўцеха і радасць усіх, хто тут, каля гэтага дзіцяці. І яно гэта ведае, таму і трымаецца тут.

— Бач, зноў вярнулася,— не сціхаў чалавек з мехам.

— Яе жывот мучыць,— абазвалася жанчына.— Яна цэлы дзень так.

Зося ўвайшла ў кола людзей і стала перад чалавекам з мехам.

— Паспрабуй, сам сядзь на яе месцы,— сказала яна ўзбуджаным голасам.— Састарэўся, а розуму не нажыў. Толькі адну хітрасць ва ўсім бачыш.

Яна аж не магла гаварыць, аж заікацца пачала. Яе словы ўзварушылі ўвесь натоўп:

— Сам па сабе, мусіць, усё мерае!

— Ніякага спачування не мае.

Чалавек з мехам адцёрся назад. Зося падышла да дзяўчынкі. Дзяўчынка шаптала высахлымі губамі:

— Каб Кандрат быў дома...

— Кандрат Назарэўскі, гэта твой брат? — сказала Зося.

Дзяўчынка ўстрапянулася, як птушанё, і з надзеяй ускінула твар угару.

— Гэта мой брат.

— Ён у арміі?

— Кандрат... у арміі.

Тут падышоў абпылены чырвонаармеец. Ён нагнуўся над дзяўчынкай:

— Ірынка?

Дзяўчынка ўзнялася на ногі, і гэтулькі ў яе з'явілася надзеі, што твар яе стаў ясны, на ім знікла ранейшая хмурая халоднасць. Чырвонаармеец узяў яе на рукі, прытуліў да сябе і панёс. Натоўп перад ім расступіўся. Следам за ім рушылі і Зося з Міхалкам. Чырвонаармеец вынес дзяўчынку на ганак і паставіў на ўсходах.

— Куды вы мяне панясеце? — запытала яна, як быццам з расчараваннем, пасля таго як яе спусцілі з рук на драўляны памост ганка.

— Мы з табой, Ірынка, сядзем сёння ўночы ў поезд і паедзем да Кандрата.

— Ён жа на вайне.

— Нічога. Ён мяне прыслаў, каб я цябе забраў і завёз да яго. Ён даведаўся, што ваш прытулак згарэў. Ён цяпер не на фронце, а не вельмі далёка адгэтуль. Ён цяпер камандуе атрадам, які змагаецца з бандытамі.

— Вы сёння паедзеце? — запыталася Зося.

— Сёння.

— Скажыце Кандрату Назарэўскаму, што я прыходзіла ў горад і заходзіла да яго, але дом іх на замку. Скажыце яму, што майго бацьку і брата забілі бандыты... Можа, ён мяне ўспомніць...

І яна пачала расказваць чырвонаармейцу. Ірынка не магла доўга стаяць на нагах і прысела на памост. Міхалка не зводзіў з яе вачэй:

— І ў цябе нікога няма, апроч брата?

— Не,— выгаварыла яна.— Я была ў прытулку, але бандыты спалілі. Там у нас было многа меншых і хворыя былі, то іх паўладжвалі, а я пайшла, бо ўсім месца не хапіла. Я ж не такая ўжо малая...

Яна гаварыла, як зусім сталая. Такая яна была ў тыя дні, калі, пахаваўшы бацьку, даглядала хворага і раненага брата.

— А як забіралі твайго брата на вайну і як ён ішоў, то цябе адну пакінуў ці яшчэ тата твой жыў? — запытаў Міхалка.

— Яго не забіралі, ён сам пайшоў, і ўжо таты не было.

— Як жа ён цябе адну кінуў?

— Трэба было ісці, дык і пакінуў.

— А каб ты зайшлася адна, з голаду, ці як?

— Не зайдуся. Ён мне растлумачыў, што яму трэба ісці, і я яго пусціла. А ён гаварыў заўсёды праўду. Як была ў прытулку, то ён пісаў загадчыку, каб глядзелі мяне. І пісаў, што, можа, яшчэ праз колькі дзён прыедзе даведацца мяне. Я яго чакала. А можа, і зусім вайна скора скончыцца. Я ўсё выходзіла глядзець на поезд — усё думала, што ён едзе.

Тварык яе засвяціўся — яна марыла аб спатканні з братам.

Міхалка холадна зірнуў на Ірынку, як быццам яму было зайздросна, што яе трымаюць на руках. Ён ужо сам таго не заўважаў, што пачынаў любіць тую чарнату, што навісла над ім. Не ненавідзеў яе, а пачынаў яе любіць і сам таго не бачыў. І гэта ўжо засланяла перад ім пакутнае аблічча Ірынкі Назарэўскай. І от, пакрысе, пачало высоўваць і паднімаць у ім галаву гордае самаздаваленне.

Трымаючы на руках Ірынку, чырвонаармеец канчаў гаварыць з Зосяй.

— А твой брат цябе любіць і шкадуе? — прагаварыў Міхалка халодным голасам да Ірынкі.

— А як жа! — здзівілася яна яго словам.

— Гэтак, мусіць, ён цябе і шкадуе! — секануў Міхалка, сам таго не бачачы, што ўсё адно як сцебануў чым цвёрдым Ірынку па твары.

— Дурань ты! — адказала Ірынка і адвярнула ад яго галаву.

Чырвонаармеец прытуліў Ірынку да грудзей і панёс туды, дзе стаялі вагоны. На яго руках яна была такая худая і маленькая! Адной рукой яна абняла чырвонаармейца за шыю і так трымалася за яго. Зося і яе спадарожнік асталіся адны. Зося накінулася на яго:

— Ты зусім дурны: што ты гаварыў ёй! Ты якраз, як той стары з мяшком, абышоўся з ёю. Табе б быць толькі на Скуратовічавым хутары і памагаць гэтым бандытам.

— Памагаць бандытам? Я іх, гэтых гадаў, забойцаў, павешаў бы!

— Аднак жа памагаў!

— Я ратаваў галодных, а не памагаў бандытам. А пасля я сам расказаў.

Пасля ён змяніў тон гаворкі, а пасля яшчэ і зусім змоўк: яму стала страшна, што Зося можа зазлавацъ і зусім пакінуць яго.

— Чаго ты на мяне так? — запытаў ён, шукаючы прымірэння.

— Я чула, як ты гаварыў з Ірынкай Назарэўскай.

— Ну, то чаго ты, мала што сказаў... (Памаўчаў і зноў загаварыў.) Я астануся дзе-небудзь за парабчука, я ўжо магу рабіць усё. Я ўжо нават араць спрабаваў. А цераз год ужо добры араты буду. Калі буду парабчуком, то больш зараблю. А пасля, кажуць, будуць зямлю даваць, то і я на ўсю нашу сям'ю вазьму. Буду рабіць і абжывацца.

Нейкая, відаць, думка прайшла ў яго галаве, або ён успомніў што: грымаса радасці прайшла па яго твары,

таксама, як заўсёды тады, калі ён прыходзіў пад дзічку на Скуратовічавым полі. Нічога ён больш не сказаў Зосі: гэта быў ужо не пастушок Міхалка. Гэта ўжо быў разважлівы чалавек, Міхал Тварыцкі. Нават і стаяў ён ужо тут, перад вакзальным ганкам, як працавіты мужчына: шырока расстаўленыя ногі і босыя ступні стаяць, вывернутыя няроўна. Зося глядзела на яго і думала аб яго працавітасці. Можа, таму і пайшла яна разам з ім назад.

Цераз некалькі тыдняў ён ужо быў парабчуком на адным вялікім хутары. І неўзабаве наказаў Зосі, што яго гаспадару патрэбна і парабчанка. Такім парадкам яны зноў асталіся разам служыць і жыць у адной хутарской кухні.

Кончылася восень, трымаў мароз, нападаў снег. З-пад санных палазоў ішоў скрыпучы енк. Адзін раз перад вечарам цэлы абоз саней цягнуўся з гарадка гасцінцам. Сані былі з паклажай, фурманшчыкі ішлі кожны з боку сваіх саней. Патомленыя коні ледзьве цягнуліся. Мароз браўся папач вялікі. Фурманшчыкі спяшаліся даехаць да прыдарожнай карчмы і ў стадоле даць коням цэлую ноч адпачынку.

Пасярэдзіне абоза, побач сваіх саней, ішоў самы малады і самы меншы фурманшчык, ухутаны ў парваныя халаты, абвязаны паскручванымі ў вяроўку матузамі. Халаты на ім былі не на яго рост: рукавы звешваліся ніжэй рук можа на чвэртку метра; каб полы не баранавалі па дарозе, уся вопратка была падцягнена ўгору, пад плечы, і туга падперазана, ад чаго на спіне тырчаў горб самай фантастычнай формы. Шапка на гэтым фурманшчыку была ватовая, шмат разоў латаная кавалкамі старызны ўсялякіх колераў і форм. Так што сама шапка страціла ўжо ўсялякую сваю форму. Ступні ног былі таўшчэзныя, як калоды: яны паабкручваны анучамі так, што здавалася, гэта не так сабе анучы, а цэлыя мяхі тут пушчаны ў работу. (Можа, яно так і было.) Анучы на нагах стрымліваліся лапцямі і вераўчанымі аборамі. Ішла гэтая «зграбная» істота каля сваіх саней вельмі ж ужо неяк стала, праз меру па-гаспадарску, цягла па дарозе лапці цвёрда і ўпэўнена, і толькі калі часамі абзывалася на каня або на суседа, то голас яшчэ не меў у сабе роўнай вытрыманасці: праз яго прастудлівы хрып чуліся яшчэ дзіцячыя ноты. Часамі з натапыраных лахманоў паказваўся дробны твар, худы і завостраны, але не хваравіты, абветраны і загартаваны. Цераз увесь гэты твар ішла адна рыса: тут было і недавер'е да ўсяго, што

толькі ёсць на свеце, і хітрасць, і разам з тым спакойная цягавітасць.

Гэты фурманшчык больш як усе тупаў каля свайго каня, як прыехалі ў карчму. Ён абцёр яго саломай, накрыў халатам, знятым з сябе, добра даў яму сена: на хаду скубянуў пярэбірак сена з чужых саней і падкінуў свайму каню. Як конь астыў, звадзіў яго пад студню напаіць і ўсыпаў яму аўса. Сам паеў з торбы хлеба, запіў добра вадой, у самым цёмным кутку лёг спаць на заплёваную падлогу і быў здаволен. Прачнуўся раней за ўсіх, дагледзеў каня і самы першы быў гатоў у дарогу. Як паскідаў ён у карчме свае халаты і набыў чалавечы выгляд, льга было бачыць, што гэтаму хлапцу сама больш год так за чатырнаццаць, што ён пануры, што ён не мае вялікай ахвоты разводзіць гаворку. Сам-то ён можа паслухаць, як людзі гавораць, пасмяяцца, часам паддаць жару чужой гаворцы, а часам і звесці на сварку каго-небудзь, каб пасля з кутка паглядзець, але каб самому быць у старане. Але ўсё ж вялікім ініцыятарам ён тут не будзе.

Гадзін за дзве да рассвітання, даглядаючы ў стадоле перад выездам у дарогу свайго каня, гэты малады фурманшчык раптам пачуў дзесьці блізка за дзвярыма знаёмы голас. Адчыніліся дзверы, і ў стадолу ўехалі сані. Крэкчучы з холаду, чалавек стаў выпрагаць каня. Малады фурманшчык унурыўся: «заўважыць знаёмы чалавек мяне, то можна будзе пагаварыць, бяды ніякай ад гэтага не будзе, а не заўважыць,— то каб больш клопату не мець, і так абыдзецца». Але раптам ён успомніў адну справу, стаў думаць, меркаваць — лоб яго зморшчыўся, нос і барада набылі патрэбу ў тым, каб іх чухалі. І от ужо малады фурманшчык рашуча пайшоў сам да знаёмага чалавека.

— Дзень добры, дзядзька Сцепуржынскі,— сказаў ён.

— Дзень добры, Міхалка. Што ты тут робіш?

— У фурманцы. Паклажу вязу. А вы?

— У горад еду. Але ж і мароз, няхай бог засцерагае! Дзе ты цяпер, Міхалка? Як жывеш?

— Служу ў гаспадара. Астаўся там, да аднаго.

— Добры гаспадар?

— У яго трое коней, а я ў яго за службу нічога не бяру. А за гэта яго канём, як прыйдзе вясна і лета, буду рабіць сваю зямлю. На вясну будуць зямлю даваць, то я вазьму, падамся ў сваю старану, там зямля лепшая.

— На лета, значыцца, служыць кінеш?

— Не, дзе ж я каня вазьму на сваю зямлю.

— Дык як жа ты будзеш рабіць і ў сябе, і ў гаспадара? Здароўе падарвеш!

— Не падарву. А што ж інакш зробіш? Гуляць? Дык жа гуляючы прападзеш. А робячы, то... (Ён самаўпэўнена і з пагардай да ўсяго свету патрос галавой.) Гультаяваць? Ого! Многа і так гультаёў развялося!

Каб Сцепуржынскі мог глыбей адчуваць, ён мог бы жахнуцца ад празмернай сталасці гэтага хлапца.

— Так, можа, гадоў два якіх папрацую, а тады і сам стану на ногі. Свайго каня агораю, буду хату ставіць, сам у сілу ўбяруся. Камітэт беднаты паможа, і стану жыць. Зямля ж будзе!

З хвіліну ён маўчаў і думаў: хутчэй стану на ногі, калі захачу. (Ён успомніў дзічку на Скуратовічавым полі.)

— Слухайце, дзядзька Сцепуржынскі, а як вы жывеце?

— Так сабе, патроху.

— Скуратовіча старога няма?

— Няўжо ж ты не чуў?

— А Толіка не чуваць?

— А хто яго ведае, што я, стараюся знаць пра яго, ці што? Што ён мне? Не чуваць нідзе нічога пра яго!

— Жыта і ярына, значыцца, вам асталіся?

— Якія жыта і ярына?

— А што Скуратовіч у вас складаў? Я ж ведаю.

— Што ён складаў, пра што ты гаворыш?

— Як што складаў! Жыта і ярыну! Я з самага пачатку ўсё ведаў. Усё чысценька ведаў.

— То чаго ж ты маўчаў, калі ведаў! Ты што выдумляеш на мяне ліха ведае што. Нейкае Скуратовічава жыта ў мяне выдумаў і, можа, хочаш, каб я табе барыша ставіў? Я табе не Скуратовіч! Скуратовіч быў бандыт, як пасля выявілася, хто гэта мог ведаць! Ніхто гэтага не ведаў, а ты ведаў і маўчаў. Бандыта пакрываў і цягнуў ад іх усё. Эйш ты, смурод! Колькі цябе ёсць, а ўжо на хітрыках хочаш на свеце жыць! Ты не чапіся да мяне, бо закапаю, калі захачу. Я ведаю пра цябе.

Сцепуржынскі тупаў нагамі і моцным сваім шэптам, каб ніхто не чуў, палохаў Міхала Тварыцкага. А той спалохаўся не на жарты, аж у грудзях яго заныла. Ён, як пачынаў гаворку з Сцепуржынскім, думаў, што напалохае таго і яны сыдуцца на тым, што падзеляць напалам

Скуратовічава жыта. Аж выйшла, што сам Сцепуржынскі можа яго «закапаць».

— Я цябе навылёт бачу! — пырскаў слінай Сцепуржынскі, сам, аднак, млеючы ад страху: «а што, калі ён не спалохаецца і пойдзе заявіць пра маю справу з Скуратовічам? Ён за мяне можа быць смялейшы, ён яшчэ недарослы, а я?» Пасля ён убачыў, што Міхал Тварыцкі аж уныў са страху, і сам пасмялеў. Аднак жа брыдкі асадак страху і прыкрасці ў яго астаўся. Ён думаў, ці адважыцца пайсці на адкрытую і даць Міхалу Тварыцкаму грошай і такім парадкам, можа, удасца пахаваць справу навек, або нават і не падаваць віду, што былі ў яго з Скуратовічам якія-небудзь справы. Ён зрабіў апошняе: яшчэ раз крыкнуў на Міхала Тварыцкага, завярнуўся і, надаючы ўсяму павароту сваёй постаці смеласць і рашучасць, пайшоў у карчомную хату. Міхал Тварыцкі з самым мізэрным, беспарадным выглядам пачаў збірацца ў дарогу. Так яны, баючыся адзін аднаго, раз'ехаліся пасля выпадковага спаткання, кожны ў свой бок. Праз гадзіну абоз выехаў з карчомнай стадолы ў дарогу. У сіняй яснасці марозлівага рассвітання варушылася па дарозе гарбатая і гузаватая ад перавязаных падпяразкай лахманоў дробная постаць.

Прыехаў ён дадому яшчэ за гадзіну да вечара. Гаспадар дазволіў яму ўжо не рабіць нічога гэтую гадзіну, а быць на печы і адаграваца. Скруціўшы здаравенную папяросіну, ён да самага змроку праляжаў за комінам, а пасля прыйшла з гаспадарскай работы Зося і падала яму на печ міску з густым крупнікам, у якім было больш асцюкоў, чым круп. Зося села на край гаспадарскай печы абагрэцца. Ён падсунуўся да яе і ніяк яшчэ не мог адважыцца абняць рукой яе стан. Ён пачынаў ужо адчуваць першыя прыступы смутку па жанчыне.

## V

Недалёка ад роднага Кандрата і Ірынкі Назарэўскіх гарадка, калі ехаць з захаду на ўсход, стаялі ў той час дзве старыя хаты. Да гарадка адсюль было вёрст трыццаць. Адна хата была большая, на дзве палавіны, і да яе быў прыбудаваны ззаду вялікі хлеў, а к хляву — гумно. Другая хаціна была маленькая, з адным акенцам на дарогу. Дарога тут была малаездная, глухая, з разгружанымі і даўно не праўленымі грэблямі. Ніякага руху тут

не было. Тут хадзілі і ездзілі толькі людзі з трох бліжэйшых вёсак. Улетку, падкасаныя пад самае тулава, ішлі з косамі. Касілі асаку на балотах. А ўзімку, як грэблі і балоты замярзалі, выязджалі па гэтае асочнае, парыжэлае за восень, сена. Дзесьці тут, у балотах, на лясістым грудзе стаяла дробная пільня, саматужная і вельмі няспраўная. Яна найбольш была месцам, дзе можна ў вольную часіну сабрацца і пакурыць. У часы грамадзянскай вайны яна зусім спыніла сваю работу і запуставала. Да вайны яе арандаваў гарадскі мешчанін, у рэвалюцыю ён зусім выехаў з мясцовасці, і цяпер будыніна стаяла з наглуха забітымі вокнамі. Замшэлыя сцены аселі, і вельмі можа быць, што ўжо гадоў два ніякая жывая душа тут не была. Дарога да пільні за гэтыя гады зарасла.

У наваколлі тутэйшых трох вёсак зямля была вельмі няроўная. Дзе вышэй — радзіла добра, дзе ніжэй к балоту — усё ўшчэнт вымакала. У каго зямля была лепшая і было яе больш, той яшчэ да вайны выбраўся на адлегласць. Такіх было чалавек дваццаць. Такім парадкам, кіламетраў за шэсць ад пільні, дзе паміж лясоў ішлі паляны з добрай зямлёй, стаяла каля дваццаці хутароў. Тут жылі — Богараўскія, Сцепуржынскія (стрыечныя браты вядомага нам Скуратовічавага суседа-лесніка; яны сюды з'явіліся год за пятнаццаць да вайны, купілі ў князя зямлю), Ярмалінскія (не Ярмаліцкія, а Ярмалінскія! Ярмаліцкія асталіся ў вёсцы, на хутары не пайшлі, прозвішча не абдалікатнілі, нажыналі кожны год па капы дзве жыта і сыпалі ў хлеб тоўчаную кару. Хоць па гэта не гаравалі: навокал былі лясы, кары хапала, адно еш на здароўе).

Людзі з трох вёсак займаліся вырабам гонты і гэтым жывіліся. Вялікага, сказаць, збыту тут гонты не было, але, не выпускаючы з рук рамяства, чалавек усё ж мог прыкупіць мукі, каб было куды дасыпаць тоўчанай кары. Часамі толькі, калі дзе здараўся пажар, гонты куплялі больш. У такіх выпадках прыязджалі сюды па гонту здалёк, нават з таго боку, дзе стаяў Скуратовічаў хутар. А туды адсюль было вёрст семдзесят.

У дзвюх хатах пры дарозе жылі людзі, патрэбныя тут усім. У большай хаце жыў каваль. Ён не толькі займаўся кавальствам. У яго быў дробны кавалак зямлі, па якім льга было пратрымаць каня і карову. Каваль быў працавіты чалавек, ён не мог згуляць ані хвіліны. Яго ведалі за вёрст трыццаць адсюль у горадку. Узімку часам яго можна было там бачыць у кірмашны дзень; ён прывозіў на

продаж штук дваццаць вілак, штук пяць жалезных качэргаў і якое-небудзь самаробнае долата або пару нажоў. Ён запомніўся і Кандрату Назарэўскаму з самых яго малых год.

У меншай хаце, што з адным акном на дарогу і без аніякіх халодных прыбудовак, жыў другі тутэйшы рамеснік, кажушны кравец. Ні зямлі, ні каня ён не меў, дома сядзеў мала, а паўвека свайго правандраваў па свеце з адмысловай іголкай, шыючы людзям кажухі. З гэтага жыў і карміў сям'ю.

Каваль быў высокі і здаровы. Кравец меў выгляд чалавека кволага. Ён быў прысутулены, лысы і баяўся холаду. Душу меў мяккую і спачувальную да кожнага, хто такі самы, як ён. У часы вайны работы яму было мала, і ён ледзьве пражываў, наймаючыся часам малаціць, часам касіць. З сваім суседам-кавалём яны былі музыкі — абодва гралі на скрыпках. Каваль на першай скрыпцы, кравец утараваў. Гралі яны тое, што трэба было на абыходак тутэйшым людзям,— польку, кракавяка, чачотку. Гэтыя танцы яны цяпер гралі часта, хлопцы наймалі іх на гэта і плацілі жытам або салам.

У тую ноч, калі ў гэтым глухім кутку адбыліся незвычайныя тутэйшым людзям падзеі, быў даволі-такі моцны мароз, толькі пад самы дзень надвор'е змякчэла, пацягло туманам, і неба спахмурнела. А звечара было зорна, месячна. Кравец варочаўся з хутароў і нёс у мяшку за плячыма булку хлеба і ў руках збан капусты. Ён там шыў кажухі. Кравец ішоў паўз абымшэлую пільню, ён выбіўся сюды, каб скараціць дарогу. Толькі што змеркла, чорны сілуэт запушчанай пільні ледзьве вырысоўваўся над ядлоўцавымі кустамі, сярод выносістых хвояў. Кравец ішоў павалі і, як заўсёды, моцна адхарквоўся і адплёўваўся. Ад сцежкі да пільні было крокаў пяцьсот. Кравец апошні раз харкануў і спыніўся на сцежцы якраз насупроць пільні скруціць папяросу. Раптам яму здалося, што каля пільні бліснуў на момант агонь.

«Ваўкі, падлы, збіраюцца»,— мармытнуў сабе пад нос кравец і паддаў ходу. Крокаў цераз дваццаць яго ўзяў одум, і ён замармытаў сабе пад нос: «Агонь бліснуў занадта высока, як быццам у акне, а вокны ў пільні не нізка. У кожным разе воўчыя вочы так высока бліщчаць не будуць. Што за ліха! У пільні агонь гарыць? Вокны ж у пільні даўно пазабіваны дошкамі! Праз шчыліну свеціцца агонь? Хто ж яго там можа паліць? Можа, добрыя людзі

разбіраюць сабе пакрысе будынак, а я нічога і не ведаю! Чаму б, калі так, і мне бярвенняў з пяток не ўзяць? І ніякага грэху не будзе. Падумаць, чыя гэта пільня. Князь ставіў, а арандатар трымаў, чорт чорта знайшоў. А цяпер к чортавай матары пайшлі і адзін і другі, як вол языком злізаў абодвух... Што мелі гэтыя сцены гніць марна, то няхай лепш народу будзе... Хрр, цьфу!»

Здорава харкануўшы, кравец надумаўся як-небудзь неўзаметку наблізіцца пад пільню і праверыць, ці сапраўды гэта людзі разбіраюць сцены і яму не кажуць. Ён падышоў крокаў сто і прыпёрся да хвоі; агонь у будынку бліснуў яшчэ раз і патух. «Праз шчыліну ў вокнах блішчыць»,— думаў кравец. І раптам яго апанаваў страх: ён выразна заўважыў, што з коміна ў пільні ідзе дым. «Печ-то там ёсць,— мільганула ў краўца думка,— але хто там яе паліць?» Страх яго павялічваўся з кожнай хвілінай.

Тут нельга не сказаць пару слоў пра гэтага чалавека. Тып гэты сфармаваўся яшчэ да вайны. І фармаваўся ён, ходзячы па людзях і шыючы кажухі. Але па якіх людзях? Шыў ён кажухі найбольш па глухіх закутках, дзе аўчыны там на месцы радзіліся і там жа гадаваліся. У каго няма аўчын сваіх, той бярэ ў багатага суседа на адработак. Сукно, шарачок і палатно там былі свае. З свайго тавару былі боты, з свайго лыку — лапці: хто што мог насіць. Ходзячы па гэтых кутках, кравец меў акругу для свае дзейнасці на вёрст больш як сто. Ён шыў кажухі і на Скуратовічавым хутары, ён бываў і ў другім баку, за гэтулькі ж вёрст ад свае хаты. Зімовымі начамі ён праседжваў за работай да трэціх пеўняў, гэта быў у яго часамер; раз заспявалі трэція пеўні, то, значыцца, трэба класціся спаць. Гадзінніка ў такіх закутках ніхто не ведаў.

У тую хату, дзе кравец шыў кажух, кожны вечар збіраліся пасядзенкі: кравец ухітраўся і шыць і расказваць. А расказваць было што: ходзячы вечна па людзях, усяго наслухаешся. Ён пераносіў з адной мясцовасці ў другую і праўду і выдумку; пускаў на людзі, а пасля нёс назад ужо ў новым варыянце, падхопленым ад сваіх жа ранейшых слухачоў. І сам ужо не пазнаваў свайго апавядання. За свой век кравец наслухаўся ад людзей самых неверагодных і фантастычных апавяданняў пра ведзьмароў і чарцей, пра паноў і мужыкоў, пра папоў і ксяндзоў. Вядома, самае інтрыгоўнае было там, дзе апавядальнік фантастычнай таямнічасцю абставін і сітуацый распальваў нецярплівую цікавасць сваіх слухачоў аж да таго

месца, калі на сцэну з'яўляўся чорт у выглядзе франтаватага паніча і пачынаў свае злыя жарты з чалавека. Такім парадкам адзін раз панічы нанялі граць музыку на вечарынцы. Небарак-скрыпач нават атрымаў паўрубля задатку. Яго прывезлі ў панскія пакоі, і ён здзівіўся не бачанаму ніколі багаццю. Усё зіхацела золатам. Паіграўшы гадзін шэсць беспярастанку, ён раптам агледзеўся, што грае за сваім капуснікам у балоце, па пуп уплыўшы ў багну.

А то раз чалавек памяняўся з панічом на люлькі. Паніч раптам зарагатаў і згінуў, а ў чалавека ў зубах тырчала, замест выменянай люлькі, смярдзючая костка.

А то яшчэ было раз гэтак: знайшоў чалавек на дарозе барана. Усклаў на воз, а конь ледзьве воз плішчыць. Баран зарагатаў і згінуў, а чалавек у момант пасівеў ад жаху.

Многа было апавяданняў і пра заклятыя грошы, і пра «фармазонскія» рублі.

Адным словам, да часоў рэвалюцыі і грамадзянскай вайны кравец меў у сябе запас фактаў пра незвычайнае. Хутчэй за ўсё, што ён нічому гэтаму не верыў, але нейкія сляды гэта ўсё ж такі пакінула ў яго падсвядомасці. Цяпер яго апанаваў містычны страх. Розум яму падказваў, што не чэрці, а людзі паляць агонь у пільні. Але сама справа была занадта таемная, а месца і абстаноўка якраз адпавядалі злым чартоўскім жартам. Кравец перахрысціўся і рвануў з месца, бесперапынна азіраючыся. Але не зрабіў ён і дзесяці крокаў, як валасы на яго галаве зварухнуліся ўгору і сам ён скочыў у бок са сцежкі: раптоўна дарогу яму загарадзіла калматая і велічэзная постаць.

— Пачакай, стой на месцы! — загадала гэтая страшэнная здань.

Кравец анямеў і стаў.

— Хто ты?

— Кравец з Дзвюх Хат.

Так звалася месца, дзе жыў кравец. Сэрца яго трапяталася і аж распірала грудзі.

— Чаго ты тут ходзіш?

— Я быў на хутарах, там шыў кажух і нясу булку хлеба і збан шаткаванкі.

— У каго ты там шыў?

— У Ярмалінскага.

— Хлусіш! У Ярмалінскага ты шыў на тым тыдні.

(Валасы на краўцовай галаве зноў пайшлі ўгору.) Гавары праўду, чаго ты тут ходзіш?

— Братачка... (Кравец праз сілу выгукнуў з грудзей.) Я... братачка... Адкуль жа вы, братачка, ведаеце, што я на тым тыдні шыў у Ярмалінскага?

— Я ўсё ведаю. Паспрабуй толькі хлусіць, то...

— Каб я так, братачка, жыў, што я не хлушу. Каб мне з гэтага месца не сысці...

— І не сыдзеш!..

— Я гавару праўду. Шыў-то я на тым тыдні, але сёння хадзіў разлічвацца з Ярмалінскім.

— А чаго ты стаяў нядаўна і прыглядаўся да пільні?

— Я стаў закурыць, а мне здалося, што нібыта ў пільні агонь блісвуў.

— Ну, то што ты падумаў?

— Нічога не падумаў. Мяне ўзяло здзіўленне, а пасля страх апанаваў.

— Гэта ты ад страху бег цяпер?

— Ад страху, братачка.

— А каму гэта ты пазаўчора танцы граў?

— Як каму? Як і заўсёды, братачка. У кавалёвай хаце, удвух з кавалём. Дзяўчаты нанялі нас.

— А якія хлопцы танцавалі?

— Ат, якія цяпер, братачка, хлопцы! Няма цяпер хлопцаў. У войску ўсе хлопцы. А каторы дома, то той, братачка, няўдалы, што ў войска нягодзен. Ярмаліцкага Сцёпка быў, то ён жа глухі. Макар Шаўцовых, то ён кульгавы. А то ўсё недаросткі былі, то што гэта за хлопцы! Ён жа яшчэ не ўмее, як і за дзеўку рукою ўзяцца. Паверце, братачка, што не маню.

— Брэшаш, падла старая! А што гэта за хлопцы пад канец вечарынкі былі прыйшлі і танцавалі з дзяўчатамі?

— Не ведаю, іх было чалавек пяць. Яны казалі, што навабранцы нібыта, казалі, іх гоняць у армію, іх год падышоў, а то дэзерціры былі, а цяпер з'явіліся. У горад гоняць, казалі, і начаваць спыніліся, братачка, у Цецераўцах. От яны і прыйшлі на танцы, тут жа чатыры вярсты.

— А чаму ж яны пры сабе зброю мелі?

— Я гэтага, братачка, не заўважыў.

— Хлусіш! Гэта не чырвонаармейцы з атрада Назарэўскага?

— Адкуль жа я, братачка, ведаю! Як мне здаецца, то не — яны ж не ў шынялях, а ў кажухах і світках.

— Паджылыя сярод іх былі?

— Не сказаць... А хто ж вы, братачка, што вы ўсё ведаеце, і пра Ярмалінскага кажухі, і пра пазаўчарашнія танцы?

— Ты ўсё яшчэ не пазнаеш? Паглядзі добра.

Кравец пасмялеў і наблізіўся.

— А, братачка, што ж ты мяне так напалохаў?

— А чорт жа цябе ведаў, што гэта ты.

— Гэтаксама, братачка, і я.

— Ці не гэты самы ты кажух шыў? Ззаду ўточка з жаўцейшай аўчыны.

— Ён самы, братачка, гэты самы кажух. А, братачка, што я бачу! А я ж думаў, што ты ў Чырвонай Арміі.

— Дзе там, нас тут трох чалавек, і мы зімуем у пільні, а на вясну стане цёпла...

— А-яй, ай, братачка, што я чую? А твой жа бацька, як шыў я кажух, гаварыў мне, што ты ў войску.

— А калі цябе якія будуць незнаёмыя людзі пытаць, ці не ведаеш ты, дзе дэзерціры, то ты скажаш, што мяне бачыў, ці не?

— Барані божа, братачка, што ты выдумаў!

— Будзеш маўчаць?

— А што мне за інтарэс гаварыць, я з свайго языка хлеб ем, ці што? Я жыву з працы рук.

— Ну, то глядзі! Нас тут трох чалавек зімуе ў пільні — дома быць страшна. І калі ты пра гэта хоць паўслова каму скажаш, то жыць на свеце не будзеш.

— Каму ты гаворыш, што я сам не ведаю, ці што? Здаецца ж, не блазан.

— Ну, памятай. А як там за вашымі Дзвюма Хатамі, бальшавікі стаяць? Як, у Цецераўцах многа чырвонаармейцаў?

— Я там быў тыдняў два таму, у Паціеўскага і Лагуты кажухі правіў, то ніводнага салдата не было. А цяпер — не скажу, бо не ведаю.

— Там жа пазаўчора Назарэўскага атрад стаяў, і к табе танцаваць, пераадзеўшыся, прыходзілі.

— Дык от гэта што! — шчыра здзівіўся кравец.— А можа, і праўда гэта яны былі. Я бо гляджу — нікога ў вочы не ведаю.

— Што яны там пыталі ў вас, на танцах? Пра што гаварылі?

— Пра што ж гаварылі? Перш за ўсё, братачка, у танцы пусціліся. А пасля, тым часам, хто спрытнейшы, то вы-

браў сабе дзеўку і пачаў за яе трымацца. Ну, а пасля, на адыходзе, як мы з кавалём утнулі ім марша, адзін запытаў, братачка, потайкам у мяне, ці не чуваць тут дэзерціраў і бандытаў.

— О, цяпер я ўжо бачу, што ты праўду гаворыш.

— А калі я каму хлусіў, братачка! То я яму адказаў, што нічога не чуў. Бо і сапраўды, чуў я што-небудзь? Нічагуткі, братачка.

— Памятай! Калі хто цераз цябе дазнаецца, што мы тут зімуем, то галаву скруцім. Ідзі сабе.

Кравец пайшоў. Ён баяўся азірнуцца. Яму хацелася, каб сціснуцца, зменшыцца, схавацца. Яму здавалася, што Ярмалінскага сын ціха ідзе следам за ім і гатоў ужо спусціць абух яму на галаву. «Хоць бы ён не чапаў мяне, а яго то не зачаплю». Але так думаў ён, пакуль мінуў хмызнякі. Як толькі зашарэла паабапал яго поле, а наводдалек блiснулі агні Дзвюх Хат, думкі яго пайшлі інакш: «Эйш ты, Ярмалiншчык! Ты мне збіраешся галаву адкручваць? За што? За тое, што твой бацька паткнуў мне збанок пратухлай капусты? Я ж гадзіўся толькі пашыць кажух, а ты яшчэ даў мне чатыры старыя вылатаць. Каб табе дактары храпу латалі! Эйш, Ярмалінскі ты! Багатыр, магнат кажушаны! Ён мне будзе галаву скручваць! Што табе мая галава абыходзіць?! Ты яе хлебам корміш? Нічога каля цябе я за свой век не пажывіўся! Гэта ты, каліноймеш на работу, то ўсё стараешся абармоціць». З такімі думкамі кравец падышоў пад Дзве Хаты. Было яшчэ не позна, толькі змеркла. Браўся мароз. Цераз балота ў вёсцы гаманілі людзі. Кравец прыпыніўся ў сваім двары за шулам, завяршаючы ход сваіх думак. Выдумаўшыся да канца, ён паспакайнеў і хацеў ужо ісці ў хату, як пачуў за сабою чалавечыя крокі. Ішоў з-пад свайго гумна сусед каваль.

— Добра, што ты прыйшоў, а я ўжо баяўся, што па хутарах начаваць будзеш.

— А чаго ты баяўся?

— Як чаго? Граць танцы прыходзілі прасіць. Зараз пачнуць збірацца.

— Каб ты ведаў, як мяне нажахалі нядаўна на сцежцы каля пільні.

— Хто?

— Ведаеш, каго я напаткаў? Ярмалiншчыка з хутароў.

Каваль хапіў краўца за плечы.

— Не можа быць? То ён тут?

— Не маню. Казаў, што ўтрох зімуюць у пільні і калі я каму пра гэта скажу, то галаву скруціць.

— А хто там больш з імі, не казаў?

— Перуны яго, братачка, ведаюць, можа, і казаў, але я калаціўся, як чорт пад крыжам, дык, можа, не дачуў усяго. Ды і не хачу я пра ўсялякае паскудства слухаць. Яшчэ ў бяду ўскочыш, няхай яны ў вір галавою ўскочаць.

— Хто?

— Я ж кажу, усе гэтыя Ярмалiншчыкі, усе гэтыя, добра кажа... Ён казаў, што яны там утрох зімуюць.

— Няўжо ты думаеш, што ён табе будзе праўду гаварыць,— аж трос каваль за плечы краўца.— Ты раскажы, як усё там з табой было.

Кравец вельмі ахвотна расказаў, перадаўшы нават у асобах сваю гаворку з Ярмалiншчыкам. Выслухаўшы, каваль зашаптаў яму ў самае вуха:

— Які ты нездагадлівы! Ты пахітры розумам. Каб гэта было так, як ён гаварыў, то навошта б ён табе прызнаваўся б.

— Добра кажаш,— пачаў адразу згаджацца кравец,— я ж яму ні сват ні брат.

— Калі ён казаў, што іх там трох, то, значыць, іх там больш. Калі казаў, што яны там зімуюць, то, значыцца, яны там зімаваць не будуць.

— То, значыцца, яны і мне нічога дрэннага рабіць не будуць, дарма, што пагражаў ён.

Каваль зарагатаў, а пасля пачаў разважаць:

— Калі ён так адкрыта ўсё гаварыў, то, значыцца, наўрад ці яны там і да канца сённяшняй ночы выбудуць. Ён пытаў, ці няма ў Цецераўцах чырвонаармейцаў? Э, то тут можна так думаць: паўз Цецераўцы ідзе самая найглушэйшая лясістая дарога на захад, дзе канчаецца занятая бальшавікамі мясцовасць. Туды ім падацца трэба, яны ратуюцца, гэта ж рэштачка іхняя, гэта банда была. Хадзілі ж чуткі, што яны ў наш бок падаліся пасля таго як на іх наскочыў атрад Назарэўскага і перасек іх з кулямёта, каб траха, дык усіх. Самы іх бандыцкі начальнік — Скуратовіч — астаўся жывы, яго загналі цяпер на зіму сюды ў балотныя лясы. Напэўна, ён тут недзе і на захад скора рушыць. Ах, які ў цябе розум непаваротны,— аж калаціўся каваль, ціснучы краўцова плячо.— За Цецераўцамі, у Матылёўшчыне, чырвонаармейцы ёсць, бяжы хутчэй і накажы!

— Як жа я, мой ты братачка, буду ўмешвацца! Яны ж

мне адпомсцяць. Хай бог дасць, яны як-небудзь самі трапяць у бальшавіцкія рукі, гады гэткія.

— Каб ты згарэў, такі чалавек! Добра, я сяду на каня, і дамчуся, і зараз жа назад. А ты ідзі да мяне, зараз збяруцца, то ты, каб ніхто нічога не думаў, паграй адзін, пакуль я вярнуся.

— То хіба я тваю скрыпку вазьму?

— Бяры, бяры... А яно і лепш, калі ты тут будзеш: часамі пад акно падыдзе хто з іх, то цябе ўбачыць дома і надта спяшацца не будзе.

Каваль увапхнуў краўца ў сенцы, а сам сеў на каня, перакінуў, для людскога вока, цераз плечы звязаныя дротам вілкі і долаты (нібыта на продаж) і паволі ад'ехаў ад дома. Мінуўшы дзве грэблі, ён рушыў на поўны конскі ход. Праз дзве гадзіны ён вярнуўся і застаў у сябе ў хаце танцы (кравец абліваўся потам, стараючыся, каб не збіцца з рытму). Каваль узяў скрыпку і ўрэзаў польку. Танцы ішлі вяла. Дзяўчатам не хапала хлопцаў. Можна сказаць, усе, што былі тут, хлопцы былі яшчэ недаросткамі, якім у армію было рана яшчэ ісці. У танцах яны не ўсе былі яшчэ спрактыкаваны.

Пасля таго як каваль узяў у рукі скрыпку, прайшло хвілін дзесяць, не больш. Адчыніліся дзверы, і ўвайшлі два хлопцы. Дзяўчаты іх пазналі: яны пазаўчора прыходзілі танцаваць і назвалі сябе начлежнікамі ў Цацераўцах; іх, значыцца, гоняць у армію.

— Вы яшчэ ўсё тут? — пачуўся голас.

— А што ж, цяпер з намі не спяшаюцца, вайна скончана, армію зараз і так распускаць будуць.

Цераз хвіліну два хлопцы ўжо круціліся ў танцы з самымі прыгажэйшымі дзяўчатамі. Гэта былі «сапраўдныя хлопцы», спрытныя танцоры, ні то што якія-небудзь «нашы зялёныя падлеткі» — так, напэўна, падумала не адна дзяўчына, гледзячы на незнаёмцаў. Адзін з іх раптам папрасіў сваю дзяўчыну пачакаць, пакуль ён скіне ватоўку, «а то горача танцаваць». Скідаць ватоўку ён падышоў да каваля і штосьці шапнуў яму неўзаметку. Праз хвіліны тры каваль зрабіў перарыў у танцах, каб адпачыць, і шапнуў краўцу:

— Давай выйдзем у сенцы, я табе нешта скажу.

Як выйшлі і як каваль чыркануў запалку, кравец убачыў там на лаве чалавек пяць, і ўсе з вінтоўкамі. Кравец спалохаўся. Падняўся адзін з лавы і сказаў краўцу:

— Вядзіце нас пад пільню.

— Вядзі не дарогай, а Барцёўскім ляском, дзе выхад на Цацераўскую сцежку,— сказаў каваль і павярнуўся да краўцовага незнаёмца: — Я вас расстаўлю па ўсіх выхадах.

І выскачыў з сянец. На двары кравец убачыў поўна чырвонаармейцаў. Яны туліліся да цёмных куткоў. Кравец бачыў, як каваль узяў на клямку дзверы, каб ніхто ў гэты момант не выйшаў з хаты, і чуў, як ён тлумачыў аднаму, мусіць, чырвонаармейскаму старшаму:

— Займіце з таго боку масток, а па той бок — бераг рэчкі пры лесе. От вам і будзе ўсё на воку.

Чырвонаармейцы ў момант зніклі з двара. Каваль ускочыў назад у сенцы і праз паўхвіліны зайграў. Танцы зноў пачаліся. Кравец павёў пяцёра чалавек пад пільню, стараючыся загаварыць, каб зменшыць сваё хваляванне. Але гаварыць яму не дазволілі. З ляска выйшла да іх чалавек дзесяць чырвонаармейцаў і пайшлі разам усе. Кравец падвёў людзей пад пільню. Ніякага агню ў пільні ўжо не было. Чым далей ішоў кравец, тым смялей ён сябе адчуваў: з ім і за ім ішлі чырвонаармейцы. Нарэшце ён пачаў нават загаварваць ціхом. А каля пільні зусім павысіў голас:

— Эээ, нешта ж агонь не блішчыць ужо?

— Ціха! — хапіў яго жменяй за рот чырвонаармеец.

Нікога нідзе не было, пільня была пустая. Нікога не спаткалі і на дарозе. «Каваль гаварыў праўду,— думаў кравец,— яны мяне ашукалі, каб уцякаць было зручней». Ён увайшоў у ролю.

— Пыталіся, ці ў Цацераўцах салдаты ёсць,— зашаптаў ён свайму бліжэйшаму суседу.— Можа, нам каб туды падацца. (Падумаў і спалохаўся.) Але ж вы дарогу ведаеце, што мне з вамі, блізкі свет...

З-пад пільні ўсе пайшлі дарогай паміж поля і лесу і раптам пачулі, што дзесьці далёка часта страляюць. Краўцу сказалі варочацца дадому, а ўсе мелі каманду хутчэй дамчацца туды. Пакінулі па двух чалавек па выхадах з лесу і рушылі. Кравец дабег да суседняй вёскі і там астаўся начаваць — дадому яму было далей, а смеласць яго адразу скончылася. Неўзабаве хтосьці вясковы вярнуўся з-пад Цацераўцаў і расказаў, што на ўзлеску, непадалёку ад выхада на Цацераўскую дарогу, заўважылі чалавек дзесяць бандытаў — яны накіроўваліся на дарогу, але пусцілі наперад аднаго: ці няма каго на дарозе. Іх абстралялі і забралі ўсіх жывымі, але самага іхняга начальніка, якога даўно ўжо шукаюць, паміж імі не было. Бан-

дытаў запыталі, дзе іх начальнік, а яны сказалі, што ён адзін уцёк з гэтага боку. А калі бальшавіцкі начальнік закрычаў, што яны або памогуць яго злавіць, або ўсіх іх зараз жа пастраляюць (а так — то могуць і даравацъ тое-сеё), то з пара бандытаў абазвалася, што найбольш блізкі к начальніку быў Ярмалінпічык; яны ўдвух і адышліся ад усіх.

Кравец раптам пачаў чухаць над брывамі, вельмі шпарка скурыў адразу адна за адною дзве папяросы, чаго ніколі раней з ім не было, і нечакана ўсім заявіў:

— То ў мяне здогадкі ёсць. Я ж кажух шыў у Ярмалінскага. Тым часам уночы шыючы — ужо другія пеўні пераспявалі, каб я жыў! — чую, як бы нехта на гару палез. У хаце мне ўсё чуваць. А самога гаспадара няма. То я, што робячы, братачка, гаспадыні сказаў. А яна вельмі нешта смела кажа, што хто гэта будзе ўночы на гару лазіць! А я ж выразна чуў! Гаспадар вярнуўся аднекуль позна. А тым часам я сёння Ярмалінпічыка гэтага спаткаў. Ён з мяне, каб траха, то душу дастаў бы.

І ён доўга расказваў устрывожаным людзям пра сваё спатканне з Ярмалінпічыкам. Расказаўшы, ён прылёг на лаву падрамаць да раніцы, але гэта яму не ўдалося. Перш за ўсё — узрушанасць не дала яму адразу заснуць, па-другое, як толькі ён пачаў драмаць, хтосьці тузануў яго за нагу. Ён падняў галаву і ўбачыў чырвонаармейца.

Смутак раптоўна апанаваў краўца: «От папаўся ў бяду». Моўчкі павёў ён пяцярых чырвонаармейцаў на хутар Ярмалінскага. Там яны ўсе асталіся да канца ночы і на раніцу. Стары Ярмалінскі кляўся і бажыўся, што «нічагуткі, каб я з гэтага месца не сышоў, не ведаю». І глядзеў на краўца так, што той, ад слабавольнасці, не ведаў, дзе падзець свае вочы. Зранку Ярмалінскага пагналі з хутара. Ззаду ішоў кравец.

Каля Дзвюх Хат іх перапыніў патруль і сказаў зайсці ў кавалёву хату. Туды краўца не пусцілі, і ён пайшоў дадому, узрадаваўшыся. У сваім двары ён убачыў пусты вайсковы воз. У кавалёвай хаце Ярмалінскага ўзяў на допыт высокі вайсковец. Дапытваў ён яго аж да паўдня і выцягнуў з Ярмалінскага такую справу: «начальнік бандытаў Скуратовіч падаўся за граніцу, але перад гэтым яму трэба няйначай хоць з паўгадзіны пабыць на сваім хутары. Адсюль вёрст семдзесят». Ярмалінскі не выказаў, чаго Скуратовічыку там трэба быць.

Пасля такога паказання вайсковец выйшаў у сенцы

і загадаў сядлаць коней, а Ярмалінскага весці ў горад. Праз хвілін дзесяць ён сказаў кавалю:

— Глядзі яе, кармі, даглядай, як сваю.

— Братка ты мой! — адказаў каваль, цiснучы яму руку.

Вайсковец ускочыў на каня і рушыў у дарогу. За ім памчаліся дзесяць конных чырвонаармейцаў. Ярмалінскага павялі. Каваль увайшоў у хату і глянуў на печ за комін.

— Ну, абагрэлася? — запытаў ён.

— Горача,— пачуўся з-за коміна звонкі дзіцячы голас.

— То злезь. Малака выпі. Як цябе зваць?

— Ірынка.

— А, Ірынка, Ірынка, бач ты.

Ірынка злезла з печы і пайшла да стала есці малако. На ёй быў мініяцюрны салдацкі шынялёк, валасы падстрыжаны да вушэй. Яна з'ела малако і падзякавала. Кавaліха глядзела на яе і смяялася:

— Які зграбны салдацік.

Увайшоў чырвонаармеец і паклаў на стол хлеб:

— Еш, Ірынка.

— Што вы,— не вытрымала каваліха,— яна разам з намі будзе есці.

Чырвонаармеец падышоў да Ірынкі і пачаў кудлачыць ёй валасы.

— Не чапай!

І Ірынка залілася рогатам.

Чырвонаармеец пайшоў на дарогу змяніць варту, а Ірынка абедала з кавалёвай сям'ёй. Засвяціла сонца, у зацішку пацяплела, і Ірынка, апрануўшы паверх свайго шынялька чырвонаармейскі кароткі кажух, пайшла на двор і села на бервяно. Зімовае неба было сіняе і чыстае. Куст травы, не закіданы снегам, тырчаў з-пад прызбы. Травіны былі мёрзлыя і абледзянелыя. Ірынка вырвала травіну і паднесла да носа.

— Не пахне,— сказала яна сама сабе і пайшла ў хату. Нікому нічога не кажучы, яна ўзяла мятлу і падмяла падлогу.

Толіка Скуратовіча атрад не злавіў, хоць за хутарам і наглядалі неўзаметку і бесперапынна людзі Кандрата Назарэўскага. Адзін патруль з ляска наглядаў за полем, на якім расла дзічка. Скуратовічык на свой хутар не

з'явіўся, а абмінуў яго; ён даведаўся пра засаду. Як гэта ўсё было і чаму яму канешне трэба было цяпер пабыць на сваім хутары і не іначай каля дзічкі на полі — выявілася роўна праз адзінаццаць год.

Кандрат Назарэўскі пакінуў некалькі чалавек наглядаць за гэтым кутком, а сам рушыў пад Дзве Хаты, дзе тады было галоўнае месца дзейнасці яго атрада. Раз надвечар ён уехаў у вясковую вуліцу і пазнаў вёску: ён тут раней быў. Ён успомніў пра Зосю і хацеў пабачыцца з ёю. Ён пачаў успамінаць месца ў вуліцы, дзе стаяла яе хата. Пад'ехаў і ўбачыў пажарышча. Запытаў у чалавека, дзе Зося. Той адказаў:

— Служыць на старане, у людзей, парабчанка.

Кандрат Назарэўскі паехаў далей. Праз два дні ён быў каля Дзвюх Хат. Быў вечар, калі пад'ехаў ён пад кавалёву хату. У вокнах гарэў агонь, чутна была скрыпка. Кандрат Назарэўскі ўвайшоў у хату і ўбачыў: кравец і каваль гралі на скрыпках, дзяўчаты і хлопцы танцавалі. Танцавала і некалькі чырвонаармейцаў. Адзін з іх раптам закрычаў:

— Няхай Ірынка паскача. Ірынка, давай з табой.

Усе прыціхлі і разышліся ў бакі. Музыкі зайгралі «Казачка». Чырвонаармеец прайшоў раз у танцы і стаў. Тады ў круг увайшла Ірынка. Яна была ў шэранькай сукенцы, у валасах быў грабянец. Узяўшыся ў бокі, яна спрытна падскочыла і затупала ножкамі аб падлогу. Валасы ўпалі ёй на вочы. Яна вельмі спрытна зрабіла дзве фігуры і выйшла з круга. Чырвонаармейцы запляскалі ў далоні, з Ірынчынага тварыка лілася весялосць. Кандрат Назарэўскі падбег і хапіў яе на рукі і так трымаў з хвіліну, цалуючы яе галаву. Ірынка залівалася бесклапотным дзіцячым рогатам, не магла ўседзець на адным месцы і танцавала яшчэ раз.

Яшчэ нядаўна яна была такая маўклівая, цярплівая, упартая. Зусім сталая яна была, разважлівая, як дарослая. Тады, хворая з голаду, яна магла хаваць гэта ад цікаўных наглядальнікаў, ведаючы цану іхнім божканням і ахканням. Яна тады была самастойная; цяпер братава апека і клапатлівасць блізкіх да яго людзей атуліла яе, і ў ёй загаварыў дзіцячы ўзрост. Яна хацела па-дзіцячаму сваволіць. З хітраватым бляскам вачэй яна часта дамагалася ад брата, каб на яе глядзелі, як яна танцуе. Часамі яна прыкідвалася, што не ўмее танцаваць, і абы-як тупала нагамі. І самае важнае было тое, што яна сама ведала цану гэтаму «танцу», як бы зверху ўніз яна глядзела на

свае дзіцячыя забаўкі. Часамі, утаміўшыся, яна гаварыла сама сабе, але так, каб чуў брат: «пакруцілася, як малая». Але найчасцей была сапраўдным дзіцём, без такіх штучнасцей. Брат часта трымаў яе на руках, і яна, вырываючыся ад яго, звонка і весела рагатала. Зусім бесклапотнае дзіця! Як бы яна старалася дагнаць і аднавіць задушаныя раней цяжкімі днямі ясныя хвіліны маленства!

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### I

Дні два, у гарачую пару, над лесам можна было бачыць дзіўны малюнак: груганы і вароны ўзляталі з крыкамі густа і зноў спускаліся ў вершаліны хвояў. Так кіпіць вада ў крыніцы. Зверху плаваў дробны каршачок, баючыся спусціцца ніжэй: мусіць, там арудавала буйнейшая штука, якой каршачок баяўся. У канцы другога дня падзьмуў вецер, і на гэты бок звілістай ручаіны чутно стала трупным духам. Птушыны крык чуўся мацней.

Лес стаяў высока. Мясцовасць ішла да яго ўгору. Па гэты бок лесу, схаваная ў нізкарослых зарасніках, мінаючы каменні і ўзгоркі, імчалася ручаіна. Паўз яе, скрозь краем лесу, вілася добра вытаптаная сцежка. Змрок і цішыня панавалі тут.

Было яшчэ гадзіны дзве да вечара, сонца яшчэ толькі падыходзіла да лесу, калі на гэтай сцежцы з'явіўся чалавек. Ён быў шыракаплечы, на выгляд здаровы. Боты яго былі ў высахлай на іх зямлі. Нягледзячы на гарачыню, на ім была накінутая наапашкі жаўтаватая, злінялая салдацкая целагрэйка. Гэтая кароценькая вопратка была паношана: месцамі ўнізе ў ёй вісела, з-пад адпоратай падшыўкі вата. Ішоў чалавек паволі, стомленай паходкай. Адразу відаць было, што гэты чалавек спрацаваны. Твар яго быў вельмі малады. Наўрад ці было яму нават дваццаць чатыры гады, у кожным разе не больш. Але дзіўная справа: ён быў апусклівы, няголены. Барада і вусы раслі няроўна і нягуста. Чалавек нёс на плячы палавіну, відаць, знойдзенай на дарозе дугі. У адным месцы ён спыніўся, стаў спіной к лесу і паміж кустоў глянуў на прырэчнае поле. Там была папарная ралля. Чалавек гаварыў сам з сабою:

— Яшчэ павінна добра ўпрэць. Яшчэ паспею заскародзіць і раз перааараць пад жыта.

Ён акінуў вокам шырыню палетка і раптам занепакоіўся:

— Што за ліха, як бы ў мяне вузей, чым унь там. Мералі, чэрці, надзялялі, аднаму больш, другому менш. Душы ў кожнага, здаецца ж, роўныя!

Ён шпарка вярнуўся, перамераў крокамі суседні палетак, пасля свой і тады паспакайнеў:

— Чорт яго, гэта мне здалося.

І пайшоў далей, роўна пагойдваючы плячыма. Дзьмуў вецер, сонца падбіралася да самага лесу. Крокаў праз сотню чалавек падняў галаву ўгору:

— Зноў крычаць, унімку на іх няма!

Непадалёку, над самай прырэчнай хвояй, аж кіпела вараннё. Каршачок таксама плаваў, як і ўдзень, як і ўчора.

— Што там за ліха? — бурчаў сам сабе малады чалавек,— падлу хто выкінуў ці якая трасца? Другі дзень ад груганння як у гаршку кіпіць. Цьфу!

Ён пераклаў абломак дугі на другое плячо і рушыў далей. Яшчэ крокаў праз сотню ён увайшоў у паласу ветру якраз з таго месца, над якім узвівалася вараннё.

— Ого,— спыніўся чалавек,— у нос дае!

Цікаўнасць цягнула яго туды. Ён ішоў, размаўляючы сам з сабой:

— Хто б гэта мог падлу выцягнуць? Здаецца ж, ні ў кога... А можа, воўк здох?

Тут цікаўнасць яго вырасла ўтройчы: перспектыва ўбачыць здохлага звера не такая ўжо нецікавая рэч чалавеку, які нічога не бачыць, апроч сваёй хаты, свайго поля і гэтай сцежкі. Ён пайшоў подбегам. Дайшоўшы да месца, ён аж жахнуўся, аж адскочыў назад:

— Ах, браткі ж мае!

Ён убачыў чалавечы труп. Труп ляжаў у самай гушчарні, нагамі ў вадзе, грудзьмі ўгору, на крутым беразе. Здавалася, што труп сядзіць.

Да голай пяты ў рачным драсне папрыліпалі ракі. Варушачы клешнямі, яны лезлі адзін на аднаго, дабіраючыся да пачатага месца. Сонца глянула зверху і асвяціла труп, і іх, і ваду. Убачыўшы чалавека, груганнё знікла ў момант. Спалоханы нечаканасцю, чалавек апамятаўся. Ён падышоў бліжэй і агледзеў труп. Яму было страшна і агідна глядзець. Адно плячо ў трупа трымала-

ся вышэй, другое ніжэй. Было падобна, што труп стараецца абаперціся рукой на жвірысты грунт гэтай дробнай рачулкі і ўстаць. Пляшывая галава трымалася проста, рысы твару не былі сапсаваны гвалтоўнай смерцю — відаць, смерць адбылася адразу. Толькі стрыжаныя вусы былі запэцканы і закарэлыя.

Калі ж малады чалавек глянуў на труп ззаду, яму стала яшчэ страшней і агідней. Над вухам, бліжэй да задняй часці галавы, была рана. Льга было пазнаць, што па галаве стукнулі нечым цвёрдым. І ад гэтага галава пакінула жыць. Груганнё паспела ўжо раскляваць рану аж да шыі. Тое цвёрдае, чым, відаць, білі па галаве, валялася тут жа. Гэта была сукаватая ламачына, кавалак высахлай лясной старадрэвіны. Яна была ў крыві. Малады чалавек гэту даўбешку ўбачыў адразу. Ім апанаваў такі жах, што ён кінуўся адгэтуль ходу, адцураўшыся і знойдзенага на дарозе абломка дугі. Будучы ў гэтай справе нявінны, як ягнё, ён, аднак, з баязлівасцю думаў, паддаючы ходу: «заявіць ці не? А што, калі падумаюць на мяне? Чорт ім верыў? Няхай лепш хто іншы ўбачыць і заявіць, а мне навошта ўмешвацца, лепш трымацца стараны. А калі хто з-за куста глядзіць? Тады будзе яшчэ горш: бачыў і не заявіў! Пагнала ж мяне якраз сёння раллю аглядаць!» Такі кірунак думак паказваў, што чалавек гэты быў сапраўды нявінны тут, але разам з тым быў, відаць, напалохан жыццём; мажа, нават з прыглушанай, забітай душой. У яго вачах стаяў гэты спушчаны к вадзе з крутога берага труп.

Але ўжо адышоўшыся крокаў трыста, малады чалавек пачаў спакайнець. Ён пайшоў цішэй і думаў ужо, як ён зараз пойдзе ў сельсавет і заявіць. «От народ кінецца глядзець!» Такі паварот у думках выяўляў неўраўнаважаную натуру гэтага чалавека. Ён ішоў ужо зусім паволі. От ён убачыў пры дарозе сям'ю грыбоў.

— Мусіць, тут ніхто не хадзіў гэтыя дні,— гаварыў ён сам сабе.— Грыбы пры самай дарозе чарвівеюць. Дзіва, што гэтага мерцвяка не ўбачылі дагэтуль.

Прывычка гаварыць самому сабе бывае ў людзей, прывыклых да адзіноты або адданых ёй сваёй натурай. Малады чалавек вырваў грыбы і панёс іх у руках. Па дарозе адзін грыб вываліўся з рук. Чалавек нагнуўся падняць яго і ўбачыў у сябе пад нагамі грошы — дзве трохрублёўкі, зусім новыя, не зломленыя згортваннем. Радасна паднімаючы грошы, ён абсалютна не думаў, што гэта можа

быць як-небудзь звязана з трупам. Пра гэта ён падумаў толькі тады, калі праз некалькі крокаў знайшоў яшчэ грошы. Тут быў ужо цэлы пачак новенькіх трохрублёвак, акуратна пераклееных стужкай белай паперы. На паперы было напісана: «300 руб.».

— Пра мерцвяка заяўлю, а грошы — хто бачыў, што яны ў мяне? — шаптаў высахлымі губамі чалавек, запіхаючы грошы глыбока ў халяву.

Цяпер ён раскінуў розумам: калі чалавека забілі з-за грошай, то чаго яны валяюцца па дарозе? Калі забойцы гэтыя грошы згубілі, то як жа гэта яны не пільнаваліся іх, забіўшы з-за іх чалавека? А калі гэта толькі частачка грошай, то адкуль такая вялікая сума ў так бедна адзетага чалавека? (Труп быў у сялянскай ірванай адзежы, босы.) Не могучы ні да чаго дадумацца, чалавек пайшоў далей, ні разу не азірнуўшыся. Ён мінуў лес і спусціўся ў палявую лагчыну. Там стаяла некалькі хат, новых, але ніяк не ўладжаных: адна без шчыта, другая без сянец, трэцяя без агарожы і ўсялякіх гаспадарчых прыбудовак. Хоць новыя сцены і пашарэлі ўжо ад гадоў, але відаць было адразу, што жыццё тут ніяк не можа ўсталявацца. Калі ёсць адно — не хапае другога, і доўгімі гадамі будзе яно паладжвацца, пакуль не стане сашрубавана ўсюды як і трэба. Але пакуль гэта можа стацца, то першыя шрубы паржавеюць, а пакуль яны заменяцца новымі, то ўжо і апошнія павывальваюцца. Так і ідзе ўсё тут, не маючы ніколі свайго сталага завяршэння.

Хаты стаялі адна ад адной наводдалек, без вуліцы, у непарадку. Чалавек падышоў да першай. На маладзенькай рабінцы перад вокнамі чырванела пучкоў тры ягад — першы ўраджай на маладым дрэўцы. На плоце сушылася дзіцячая кашулька. Сонца пачынала заходзіць, на двары шарэла. Чалавек увайшоў у хату. Дзяўчынка, малая, наўрад ці ёй было і шэсць год, пераастаўляла на стале дробныя калодачкі, каштаны і жалуды.

— Тата,— узрадавалася дзяўчынка,— паглядзі, каштаны — гэта каровы, жалуды — гэта авечкі.

— Дзе ж маці? Бач, як ты гуляеш, жывёлы ў цябе многа. Ну, гуляй сабе.

Ён некалькі хвілін стаяў над дзяўчынкай, не зводзячы з яе вачэй. Ён штосьці думаў. Нарэшце пагладзіў дзяўчынку па галаве і пайшоў з хаты. У сенцах ён спаткаўся з жанчынай. Яна была здаровая, жоўтавалосая. Сонца стаяла нізка над полем і праз адчыненыя дзверы асвятляла

жанчыніну постаць. На твары яе былі рэшткі вяснушак, вочы былі задумёныя, разважлівыя. Як загаварыла яна, у голасе гучала сталасць. Сваёй жаночай сталасцю яна вабіла да сябе. Так гэтая сталасць натуральна была ёй да твару. З выгляду ёй можна было даць год дваццаць чатыры. З першай фразы, якую яна сказала да чалавека, льга было бачыць, што яна мае здольнасць наглядальнасці, можа шмат што заўважыць. Яна сказала:

— Што ты такі нейкі... Устрывожан ты чым, ці што?

Ён адказаў:

— Каб ты ведала што! (Урачыстая і трывожная паўза.) Толькі барані цябе божа, калі каму раскажаш або хоць адным словам...

— Гавары хутчэй!

— Нікому ні слова. Маўчы — і ўсё. От я табе зараз пакажу.

Ён паволі выцягнуў дзве трохрублёўкі.

— Што ты мне іх паказваеш! Што ты такі збянтэжаны?

— Знайшоў на дарозе. Нагнуўся грыб падняць. Бачу — грошы. Каб ты ведала, які жах мяне агарнуў! Ты ведаеш, што я каля рэчкі бачыў? Труп валяецца, нагамі ў вадзе ляжыць.

— Труп? Бяжы ў сельсавет, заяўляй хутчэй пра ўсё.

— Пра што — пра ўсё? — храбрыўся перад жонкай чалавек.— Пайду скажу, што труп валяецца. (Раптам не вытрымаў штучнай храбрасці.) Які жах! Нагамі ў вадзе, і ракі пяты грызуць. Гніць пачаў. Я іду, сонца над лесам спускаецца...

— То чаму нікому ні слова не казаць? Пра што гэта ты гаварыў, каб не казаць нікому? Можа, пра грошы гэтыя, што знайшоў каля трупа? Колькі ты іх знайшоў?

— Я ж табе паказаў.

— Хлусіш! Ты больш знайшоў! Ты ўстрывожыўся і прагаварыўся! Зараз жа ідзі, заяві і аддай грошы. (Губы яго задрыжалі.) Ты што кулакі сціскаеш? Ты глядзі! Пакажы кішэні.

Ён вывернуў усе кішэні.

— На, глядзі, ты мне не верыш? Ты заўсёды такая. Ты заўсёды мяне маеш чорт ведае за каго. А калі я гэтыя дзве трохрублёўкі і захацеў пакінуць пры сабе, то што гэта, важны інтэрас? Усё адно чалавек не ажыве, а жывому — шэсць рублёў гэта не грошы? Унь дзіця ў нас расце, перад векам сваім стаіць, а яшчэ ўсё па свеце можа быць. Ты

ніяк пра дзіця не дбаеш, ты думаеш, што дзень пражыў, то і дзякуй богу? А што наперадзе? Ты думаеш, вайны не будзе? Яшчэ, можа, прыйдзецца дзіцяці голаму і босаму па дарогах бадзяцца, без бацькі і маткі паміраць з голаду! А ты літасці ад людзей чакаеш? Кожны сабе зарваць стараецца, а ты думаеш, што ўсе добранькія?

Ён увайшоў у сваю ролю. Ён думаў: «Добра, што я ўпору схамянуўся і не паказаў ёй пачкі трохрублёвак. Чорт мяне пацягнуў за язык сказаць ёй, каб «нікому ні слова». Траха не прагаварыўся. Цяпер будзе здагадвацца. Што я нарабіў!»

Спусціўшы галаву, ён пайшоў з сянец. Постаць яго панура гойдалася над каляіністай дарогай. Праз хвілін дзесяць ён быў ужо ў сельсавеце і заявіў, што бачыў каля рэчкі труп. Дзве трохрублёўкі ён аддаў адразу.

Было ўжо зусім цёмна, калі з'явіўся міліцыянер, і да трупа набегла шмат людзей. Міліцыянер распарадзіўся труп не чапаць, пакуль прыедзе следчы. Назначылі двух вартавых. Але яны баяліся аставацца тут нанач. Прыйшлося назначыць чатырох. Расклалі агонь, пазасоўвалі за папружкі сякеры і асталіся. Народ не хацеў так скора разыходзіцца — трэба ж было яшчэ пагаварыць пра ўсякія страшныя здарэнні на свеце: сама абстаноўка патрабавала гэтага. Раптам хтосьці гукнуў:

— Браткі, гэта ж Сэдас!

Натоўп устрапянуўся.

— Не можа быць, які табе Сэдас?

— Не ведаеш, які Сэдас? Даўнейшы панскі сырнік!

— Што ты дурыш! Сэдас ужо год дзесяць, як за граніцу разам з панамі ўцёк.

— Гэта я не горш за цябе ведаю. Але ж паглядзі. Пляшывы?

— Ці мала пляшывых на свеце!

— То глянь на твар там, дзе груганы не падзяўблі.

— Глянуў. Ну, а вусы? У таго былі вусы стрэлкамі пазакручваны, а гэта зусім не Сэдаўскія вусы.

— Вусы не галава, адрэзаць можна.

— То як жа ён сюды трапіў?

— Перуны яго ведаюць! Можа, шпіёніць прыйшоў.

— Шпіёніць? Хэ-хэ! Ці маеш ты розум у галаве! Як жа ён з'явіцца сюды шпіёніць, калі ён тутэйшы і тут яго ўсе як лупленага ведаюць.

— То чаго ты на мяне крычыш! Што, я гэта цягнуў яго сюды, ці што? Няхай ён галавою наложыць.

— Наложваннем галавы ты яго цяпер не спалохаеш. Ото ты яго ўстрашыў! Ён цяпер смялейшы за цябе.

Вестка, што над рэчкай сядзіць забіты Сэдас, у момант разышлася па навакольных вёсках, і народу назбіралася яшчэ больш. Было пад поўнач, а народ не разыходзіўся. Міліцыянер угаварваў ісці спаць, і гэта яшчэ больш паддавала людзям цікаўнасці. Нагіналіся і разглядалі скарчанелы Сэдасаў твар. Цяпер пачалося ўжо дакладнае абмеркаванне:

— Сэдас-то Сэдас, але ж чаму ён такі абшарпаны! У старым шарачку, горш як хто.

— То, можа, гэта не Сэдас! Што ты ў метрыку яму глядзеў, ці што, што якраз бо гэта ўжо Сэдас павінен быць! Мала што табе здалося.

— Як здалося! Паглядзі, калі вочы маеш.

Так спрачаючыся, пасля паўночы пачалі разыходзіцца. Вартавыя клалі цэлую ноч агонь і гаварылі.

Малады чалавек, што першы ўбачыў забітага Стафана Сэдаса, таксама быў тут, каля трупа, разам з натоўпам. Ён некалькі разоў расказваў людзям, як «спачатку пачуў смурод, пасля бачыў — марцвяк. Я і анямеў!». Ён тут перад натоўпам адчуваў сябе ў гэтыя хвіліны героем. Сапраўды, ён жа першы ўбачыў гэты страшны малюнак! Пра знойдзеныя грошы ён, аднак жа, не сказаў нікому ані слова. Назаўтра, з самага ранку, ён выехаў на поле, і выгляд у яго быў такі, што яму больш не ў галаве думаць і гаварыць пра гэта здарэнне, бо яму ж і так многа работы! Так што назаўтра ён каля трупа нават і не быў, хоць некаторыя з яго суседзяў, самыя цікаўныя, віселі там кругам. Не адагнацца там было ад іх! Малады чалавек абсалютна не думаў пра тое, ці сапраўды забіты ёсць Стафан Сэдас, ці гэта толькі некаторым здалося. Ён гэтым не цікавіўся. У яго ў гэты час быў важнейшы клопат.

Ці то былі толькі здагадкі, ці то праўда, але пачалі перадавацца з вуснаў у вусны ўсялякія дакладнасці і падрабязнасці справы. Пасля, і вельмі скора, шмат што з гэтых гутарак пацвердзілася.

Перш за ўсё, хтосьці, выпадкова праходзячы, убачыў, што каля колішняга Скуратовічавага хутара (а гэта было тут жа, за ляском; там цяпер стаяла некалькі пасёлкаўскіх хат), на тым месцы, дзе расла калісьці Скуратовічава разгатая дзічка, зямля была ў некалькіх месцах параскопвана і паразварочвана рыдлёўкай. Рыдлёўка гэтая валялася тут жа — злізаная аб зямлю за доўгія гады, з

выгладжаным рукамі тронкам. Было падобна, што чагосьці людзі шукалі тут, штосьці выкопвалі. Спачатку гэтую раскапаную зямлю не ўзялі на ўвагу. І сапраўды, якое можа быць дзіва, што зямля пакапана! Але пасля сам гаспадар (той, каму асталася, пры раздзеле Скуратовічавага хутара, гэтая дзялянка) пачаў дзівіцца: што за ліха, хто на маім полі корпаўся! Пайшлі глядзець і знайшлі некалькі ўтаптаных у зямлю новенькіх трохрублёвак. Хоць каля трупа такіх трохрублёвак і не было, але малады чалавек знайшоў дзве такія непадалёку на сцежцы. Такім парадкам раскапаную зямлю паставілі ў сувязь з трупам. Прыехаў следчы і аглядаў тое месца. Ямы павыкопваны былі неглыбокія, іх было некалькі. Апроч таго, сама зямля была яшчэ і так у шмат якіх месцах пакорпана, як парыта. Прычым усё гэта было толькі з аднаго боку грушавага пня. Самой дзічкі ўжо некалькі год не было. Быў толькі нізкі і шырокі дуплісты пень. Следчы заўважыў, што тут арудвала двое людзей: на свежай зямлі адзін след быў ад вялікага бота, другі ад меншага, зграбнейшага. Цераз ноч следчы яшчэ раз пайшоў на гэтае месца і заўважыў яшчэ адну падрабязнасць: на грушавым пні, зачэплены за сучок, дрыжаў пад ветрам шкуматок з нейкай адзежыны, маленькі кавалачак старога шарачку. Следчы забраў яго з сабой і пайшоў к трупу. Выявілася, што гэта адарвана ад нагавіц, якія былі на нябожчыку. Стала ясна: ён сядзеў на пні, бо іначай не мог зачапіцца за сучок. І, відаць, быў неспакойны, калі так ірвануўся з пня.

Цяпер ужо ўсе ламалі галовы, чаго там нябожчык капаў зямлю і хто з ім быў другі і ці быў той, другі, забойца, дзе ён дзеўся, дзе яго шукаць?

Да гэтага раптам пачалі далучацца ўсялякія чуткі і гаворкі. (Трэба яшчэ раз сказаць, што хоць не ўсё, а шмат што з гэтых гаворак праз пэўны час пацвердзілася як чыстая праўда.) Пачалі гаварыць, што нібыта, дзён таму назад дзесяць, хтосьці з гэтай мясцовасці быў, з прычыны нейкіх там сваіх інтарэсаў (здаецца, па гонту ездзіў) па той бок гарадка, адсюль, значыцца, вёрст за шэсцьдзесят, калі не больш. І хоць там граніца далёка, нават, калі параўнаць з гэтай мясцовасцю, і вельмі далёка, аднак жа конны вайсковец у форме пагранічніка спаткаў яго, чалавека, значыцца, з нашай стараны, і пытаўся, ці не траплялася яму спаткаць на дарозе двух падазроных. Аднаго — добра ўжо-такі паджылага, другога — яшчэ ў самай сіле маладога мужчыну. «Не, такіх не бачыў»,— адказаў

наш чалавек, бо і сапраўды не бачыў. А пасля пачалі гаварыць, што бачыў, але не двух, а толькі аднаго, і вельмі падобнага да Стафана Сэдаса. Адным словам, шмат гаварылі і пераказвалі. Чалавек жа, аднак, той, што нібыта спаткаў там быў чалавека, падобнага да Стафана Сэдаса, ніадкуль не з'яўляўся і, значыцца, пацвердзіць нічога не мог. А хто ён такі і адкуль, выразна ніхто не гаварыў. Кожны ўсё «чуў ад людзей», а ад якіх людзей і дзе — гэтага ніяк дазнацца нельга было. Так што гэты момант мог быць проста выдумкай. Так яно, напэўна, і магло быць. У кожным разе верагоднасці тут не знайшлі ніякай.

Пасля пачалі гаварыць, што ўжо вёрст не за шэсцьдзесят, а за восемдзесят бачылі не аднаго, а шмат падазроных людзей і ніводзін з іх не быў падобны да Сэдаса. Нават такіх падазроных бачылі і па гэты бок гарадка. Усе яны кудысьці на адно месца накіроўваліся, ішлі з мяшкамі, торбамі і куфэркамі, вылазілі ў гарадку з поезда (відаць, некаторыя з іх прыехалі здалёк). Шмат дзе іх бачылі.

Нарэшце прыехаў з таго боку абоз з гонтай. Перадавалі такую гаворку:

— Дзе вы гонту бралі? — пыталі ў іх.

— Каля Дзвюх Хат, у Цецераўцах.

— А пачом плацілі?

— Пачом плацілі? Такую загарадзілі нам цану, што страшэнная моц, зроду такой цаны яшчэ не было.

— Чаму гэта?

— А таму, што гэта ўжо апошняя гонта, там ужо больш яе выраблядь не будуць.

— Не будуць?

— Не будуць. Там цяпер адкрываецца, як раней казалі людзям, Амерыка.

— Якая Амерыка?

— Заработкі. Чорт ведае, што там цяпер робіцца! Народ з усіх акруг валіць, канца-краю няма, страшэнная моц! Вы ведаеце Цецераўцы? Пакуль дабіцца туды ад Дзвюх Хат, то трэба на трох грэблях галаву зламаць. То там, бывала, з першай грэблі быў відзён узгорачак з алешнікам. Паглядзелі б вы цяпер на той алешнік! Там цяпер чатыры хаты робяцца і цецераўскай гонтай крыюцца, а ў кожнай хаце па сорак два акны ў сцяне і па чацвёра дзвярэй. У гарадку на вакзале горы жалеза ляжаць. Мы ехалі паўз Дзве Хаты, то там іх ужо не дзве, а чатыры. Дзве новыя прыбудаваліся — і не хаты простыя, а дамкі

з габляванага бярвення. Каморніцкая стужка цераз балота ляжыць — мераюць.

Такія гаворкі нічога новага не ўносілі ў справу. Але неўзабаве некаторыя акалічнасці прымусілі шукаць калі не пачатку, то адной стараны справы ў мясцовасці кіламетраў за дзевяноста ад таго месца, дзе цяпер ляжаў труп. Справа ў тым, што раптам сярод насельніцтва пачаліся гутаркі пра аграбленне аднаго раённага банка. Раён гэты ляжаў адсюль у кірунку на ўсход, быў глухі і лясісты, калісьці там, год дзесяць таму, арудавалі бандыты. Каб трапіць адсюль у цэнтр раёна, то трэба было праехаць спачатку праз гарадок, а пасля паўз Дзве Хаты. Гаворкі пра аграбленне банка мелі такую дакладнасць: нібыта вучоны сабака, які быў у следчых людзей, увесь час нюхаў дарогу ад аграбленага банка ў кірунку на захад і здолеў прабегчы так нешта аж пад тую паваротку, адкуль недалёка ўжо было да Дзвюх Хат. А там ужо сляды або прапалі, або выветрыліся, і сабака больш нічога не мог разнюхаць. Так што нібыта ў тамашніх следчых была думка шукаць грабежнікаў дзе-небудзь пад Дзвюма Хатамі. Вядома, такія людзі сядзець на адным месцы доўга не будуць, але, шукаючы іх, трэба мець на ўвазе кірунак на захад.

Такія дакладнасці былі ў гаворках, але ўсё гэта былі толькі чуткі. І от, нарэшце, навіну пра аграбленне банка прачыталі ў газетах. Тады ўсё стала ясней і верагодней. Што ж да следчага, то ён пра аграбленне банка дазнаўся на дзень раней за насельніцтва. Ён атрымаў ад свайго начальства дырэктывы паставіць следства аб забойстве невядомага чалавека ў сувязь з аграбленнем банка. Сума грошай, што прапалі з банка, была вялікая, нядаўна атрыманая з цэнтра на вельмі выдатную і небывалую тут справу, якая ўжо некалькі месяцаў хвалявала ўсю навакольнасць, можна сказаць, усю мясцовасць. Але пра гэта ў двух словах не раскажаш; значыцца, пакуль што трэба скончыць раней пачатае.

Паўстала пытанне: ці мае дачыненне знойдзены нябожчык да аграблення банка, ці яго самога аграбілі, а з гэтай прычыны і забілі. І хто ён такі і адкуль? Бо хоць і гаварылі людзі, што гэта даўнейшы тутэйшы панскі сырнік Стафан Сэдас, аднак жа цвёрда ўпэўніваць у гэтым следчага ніхто не браўся. А тым часам, чым больш ляжаў труп, тым больш ён зменьваўся. Ужо на другі дзень пасля таго, як яго знайшлі, ён вельмі счарнеў. К таму ж ён ужо

страшэнна смярдзеў, і да яго ўжо ніхто не хацеў падыходзіць. І от пачаліся гаворкі, што гэта зусім не Сэдас, мала што было спачатку здалося. Можа, якое падабенства і было, але хіба такіх выпадковасцей не бывае? Ды і чаго Сэдас тут мог апынуцца, калі ён таму назад год дзесяць уцёк адгэтуль разам з усімі тутэйшымі панамі. «Ясна, гэта не Сэдас, дурань той, хто гэта выдумаў»,— пачалі гаварыць ужо многія.

Тым часам выявілася яшчэ адна новая дэталь. Следчаму паведамілі, што з банка злачынцы як забіралі грошы, то там было на тысячу рублёў пазаклееных у пачкі новенькіх трохрублёвак. А раз некалькі такіх трохрублёвак было знойдзена на раскапанай зямлі, у тым месцы, дзе калісьці расла на Скуратовічавым полі дзікая груша, то следчыя органы ўжо выразна аб'яднала ў адну справу: абрабленне банка, раскапаную каля грушавага пня зямлю і знойдзены каля рэчкі труп (шкуматок яго адзежы быў на пні).

Труп вельмі дасканала абгледзелі і не знайшлі пры ім аніякіх папер, з якіх было б відаць, што гэта за чалавек. Пры трупе не было таксама ніякіх і грошай. Яго сфатаграфавалі і на чацвёрты дзень зранку закапалі каля самай сцежкі там, дзе яго знайшлі. Перад закопваннем трупа следчы яшчэ раз пытаўся ў некаторых, ці Сэдас гэта. Труп так змяніўся, што ўжо ў ім нічога нельга было распазнаць. Той малады чалавек, што першы ўбачыў мерцвяка, таксама трапіў пад допыт.

— Вы памятаеце Сэдаса?

— Не зусім добра, але памятаю.

— Калі вы яго апошні раз бачылі?

— Апошні раз бачыў яго таму назад год дзесяць. Тады, калі ён збіраўся ўцякаць адгэтуль разам з панамі. Я тады служыў за пастушка ў Скуратовіча, мне тады было нешта каля чатырнаццаці год. Сэдаса тады шукалі сяляне, каб адпомсціцца, бо ён на ўсіх паліцыянтаў навадзіў. Я памятаю, якраз перад поўднем Сэдас прыйшоў жытняй мяжой да Скуратовіча і сядзеў у хаце аж цераз поўдзень. З Скуратовічам яны доўга шапталіся, а ўвечары Сэдас знік. Пасля гаварылі, што ён ужо не мог з'явіцца дадому скончыць там перад уцёкам свае апошнія хатнія справы: яго там падпільноўвалі. Пасля, як ужо ўсё паспакайнела, Скуратовіч сам хадзіў у Сэдасаў дом, а чаго — я не ведаю. От тады я апошні раз бачыў Сэдаса.

— Як вам здаецца, гэта Сэдасаў труп ці не?

— Цяжка пазнаць. Але я ж бачыў яго раней, я першы ўбачыў. Спачатку я ашаламаніўся. А ўначы і назаўтра прыглядаўся. Як мне здаецца, то тут ёсць падабенства да Сэдаса. Можа, гэта і ён.

— А больш пэўна вы не можаце сказаць?

— Не. Я не гавару, што гэта няйначай Сэдас. Але падобны.

— Вельмі падобны ці так сабе?

— Хто яго ведае? У таго былі вусы. А тут — вядома, стрыжаныя вусы зменьваюць чалавеку твар.

— Ці не можаце вы як-небудзь памеркаваць, чаго там некаму трэба было раскопваць каля пня зямлю?

Малады чалавек, то зашпільваючы, то расшпільваючы сваю салдацкую аблезлую целагрэйку, разоў з восем паціснуў плячыма:

— Адкуль я магу ведаць?

— Як вы думаеце, можа, яны закопвалі там, каля грушавага пня, нагрdebленыя ў банку грошы?

— Каб яны закопвалі, то выкапалі б адну ямку, і ўсё. А то — навошта ім так многа зямлі раскопваць? Не, нешта не падобна, каб яны там грошы закопвалі.

— Чаму ж там знойдзены банкаўскія трохрублёўкі?

— Хто яго ведае? — паціснуў плячыма малады чалавек і, забыўшыся на тое, што хоць тут і не каля самага трупа, а ўсё ж чуецца жудасны дух, моцна пацягнуў у сябе носам. Гэтым ён стараўся надаць сабе нявіннага выгляду — «бачыце, я спакойна займаюся сваімі патрэбамі». Як-ніяк, а ўсё ж у яго дома хаваўся пачак знойдзеных непадалёку ад трупа трохрублёвак. І ў часе гутаркі з следчым гэта трывожыла яго.

Труп пахавалі, следчы праз некалькі дзён паехаў, нічога выразнага пакуль што не высветліўшы. Следства, як відаць, зацягвалася на доўгі час, яно як бы набывала кабінетную фазу. Яно ішло па ўсёй мясцовасці: і тут, дзе знойдзен быў труп невядомага чалавека, дзе на былым Скуратовічавым полі на раскапанай зямлі знайшліся банкаўскія трохрублёўкі, дзе жыў малады чалавек, што першы ўбачыў труп; і там, дзе ў цэнтры глухога раёна быў аграблен банк,— па ўсім тым раёне, і каля Дзвюх Хат, і каля Цецераўскіх грэбляў, на глухіх дарогах, сярод тамашніх запечных людзей,— спрадвечных майстраў спрытным саматугам рабіць на ўсю акругу яловую і асінавую гонту.

## II

Лепшыя работнікі нашых следчых органаў ламалі галовы над усёй гэтай справай і не маглі знайсці канцоў і пачатку. З глухога раёна, дзе быў аграблен банк, ніткі пацягліся праз Дзве Хаты ў мясцовасць, дзе стаяў калісьці Скуратовічаў хутар. І тут усё зблыталася, стала цьмяным, згубілася, як быццам бы знойдзены труп сумысля з'явіўся сюды і сеў над рэчкай, каб замесці і заблытаць усе сляды, звёўшы іх пад пень ад старой дзічкі на былым Скуратовічавым полі. Сама справа была з вялікай дозай прыгодніцтва. Але не гэта падганяла нашых следчых ужываць усе захады і не шкадаваць сіл на тое, каб як мага хутчэй выявіць справу. Тут прычына была іншая. Яна ляжала ў самай сутнасці адной вялікай і новай, небывалай справы, якая мела цеснае дачыненне, перш за ўсё, да ўсёй гэтай мясцовасці і цераз яе — і далей, да ўсёй краіны.

Мясцовасць гэта мела свой вельмі выразны характар. Калісьці Кандрат Назарэўскі, ідучы ранены на Скуратовічаў хутар дамагацца фурманкі, заўважыў быў такі пейзажны момант. З таго месца, дзе канчаўся ельнік і пачыналася дарога на хутар, відаць быў рог суседняга хвойнага ўзлеску. Гэта было вельмі блізка ад дарогі. Нізка пад лесам ляжаў скошаны паплавец. Ён быў такі забалочаны, што тут на дарозе чуўся адтуль запах гнілога карэння балотных раслін. З дарогі бачна была старая крыніца — мініяцюрнае азярцо, з багністым крынічышчам навокал. Вада з крыніцы неўзаметку сачылася па ўсім паплаўцы, сама крыніца была страшэнна глыбокая, чалавек самага высокага росту, з паднятымі рукамі ўгару, мог туды ўвесь схавацца. Вада была чорная, як туш,— гэта быў водсвет чорных тарфяных берагоў і дна — як бяздонная прорва. У народзе гэта завецца «чортава вока» (часамі «чорнае вока», як дзе). Кандрат Назарэўскі тады спыніўся, угледаючыся. Гэта ўсё было — точная копія з таго, што ён прывык бачыць з самых сваіх малых год паблізу свайго роднага гарадка. У тую хвіліну на яго павеяла атмасферай маленства, калі была жыва яшчэ маці, калі ён быў яшчэ бесклапотнае дзіця. Цэлыя летнія дні праходзілі тады за горадам, сярод дрэў і вады.

З гэтага кутка пры Скуратовічавым хутары і пачаліся такія адзнакі мясцовасці. Чым болей ён ехаў на ўсход, тым часцей трапляліся на вочы такія мясціны. Балоты

ішлі шырэй, мяняўся характар лясоў. Скуратовіч гаварыў тады Кандрату Назарэўскаму пра асушку балот: «багатыя рабілі б усё, бедны каля багатага жывіўся б». Але да гарадка не зусім востра была выяўлена змена мясцовасці. Па той бок гарадка, на ўсход, адразу лясы драбнелі, каржакаватая хваіна на балоце панавала ў пейзажы. Далей, пад Дзве Хаты, лясы зноў рабіліся буйныя, каб траха, то нечапаныя. Поле паміж лясоў тут было больш, балота — не ў такой меры, як каля гарадка, але глыбіня і гатунак торфу тут былі ідэальныя. «Чорных вок» тут было больш, чым дзе. Усё гэта ўваходзіла ў той глухі раён, у цэнтры якога быў аграблен банк. Цэнтр гэты быў на поўдзень ад Дзвюх Хат.

Так што тут была вялікая тэрыторыя, аднастайная сваёй прыродай. Першыя адзнакі яе характару пачыналіся там, дзе быў цяпер знойдзен труп. Яна ішла аж цераз Дзве Хаты на ўсход і поўдзень.

На захад жа ад былога Скуратовічавага хутара мясцовасць мела ўжо іншы характар. Зямля была там высокая, балот траплялася намнога менш. Там быў свой уклад жыцця. Саматужнага рамесніцтва там было мала, людзі трымаліся найбольш зямлі. Радзіла там інакш, чым тут. Па хутарскіх хлявах там пераганялася збожжа ў свіное сала, і на гэтым забагацеў свіны купец Хурс. Скуратовічаў хутар быў як бы на мяжы гэтых дзвюх мясцовасцей,— тут была пераходная паласа.

У гэтай жа балотнай мясцовасці было шмат дробных саматужных рамеснікаў, прадпрыемстваў курынага маштабу. Тут і гонту рабілі, і цэглу, і гаршкі, але — дома, у запечку, кожны сваімі дзвюма рукамі і адгароджваючыся ад суседа. Былі і брадзячыя рамеснікі — краўцы, стальмахі. Земляроб быў дробны: біўся як рыба аб лёд на нізкай зямлі, падпраўляў кару мукой. Малако ад кароў меў сіняе і таго не мог уволю ўжываць; карова больш была падобна да жабы, чым да рагатай жывёлы. Гаварылі, што прычынай гэтаму трава, якая тырчала на куп'ях над мохам.

Скуратовіч, бывала, калі пацягне два разы касой у сябе за гумном, то на цэлую ноч накосіць дзяцельніку ўсёй сваёй жывёле. Тут жа чалавек разоў пяць падменчвае касу, пакуль намахае на ноч карове асакі. Мясціны добрай зямлі хаваліся паміж лясоў і пячаткі сваёй на твар мясцовасці не клалі. Адтуль на «мужычка-караеда» з пагардай пазіралі ўсялякія Сцепуржынскія і Богараўскія,

але не з іх выходзілі брадзячыя «галетнікі» і прафесіянальныя старцы.

Нейкі прадпрыемец, яшчэ год за дваццаць да вайны, адкрыў у гарадку мануфактурную фабрыку. Авечая шэрсць ішла далёка на прадзільныя фабрыкі, і ўжо адтуль прывозіліся ніткі. Прадпрыемец вырабляў тоўстае сукно. На фабрыку пацягнуліся людзі. Бацька Кандрата Назарэўскага яшчэ маладым чалавекам з'явіўся сюды недзе з-пад Дзвюх Хат і, хоць кару есці не пакінуў, аднак змяніў саху на ткацкі чаўнок. І Кандрат Назарэўскі ўжо ніяк не памятаў бацькаўскага нядошлага канючка і разгатай сахі. Прадпрыемец быў — гарадскі памешчык. У вайну ён узяў падрад на шынялёвае сукно і нажыўся. З поўнымі кішэнямі ў першы год рэвалюцыі ён рушыў адсюль і ў часы акупацыі сюды не з'яўляўся. Далейшы лёс яго астаўся тутэйшым людзям невядомы. Лёс бацькі Кандрата Назарэўскага мы ведаем. Сам жа Кандрат Назарэўскі, пасля тых падзей каля Дзвюх Хат, калі кажушаны кравец, сам пра тое не думаючы, памагаў яго атраду лавіць рэшткі банды маладога Скуратовіча,— з тых часоў Кандрат Назарэўскі ў гэтай роднай яму мясцовасці не быў шмат год. І з'явіўся сюды неўзабаве пасля абрабавання тутэйшага раённага банка. Гэта і была прычына яго з'яўлення сюды.

Адзін раз адказныя работнікі Цэнтральнага Камітэта партыі і Саўнаркома радзіліся, каго пасланць у гэты раён. Называлі шмат людзей — практычных, выпрабаваных. Кожны з іх мог бы ехаць пачынаць справу. Усе былі добрыя работнікі. Але раптам адзін з работнікаў Саўнаркома сказаў:

— Усе нашы кандыдатуры добрыя, што і казаць. Але ў мяне ёсць яшчэ лепшая. Я ведаю чалавека, які не горшы за кожнага з тых, пра каго мы нядаўна гаварылі. Але адна якасць у яго ёсць такая, якой гэтыя не маюць. Гэта тое, што ён вельмі добра сам ведае ўсю мясцовасць і душу тамашніх людзей. Ён там усё навылёт будзе бачыць.

— А дзе ён, гэты чалавек?

— У раёне. З самага канца вайны то на партыйнай, то на гаспадарчай рабоце. Ён прывык працаваць у самых нізах, але маштабы яго работы найчасцей былі вялікія. Ён мае ордэн Чырвонага Сцяга за партызанскую работу. У часы партызаншчыны я з ім сустракаўся. У яго хаце я нават хаваўся некалькі сутак па падпольнай рабоце. Ён ні то каваль, ні то на зямлі сядзеў тады. З працы рук так-

сяк перабіваўся. У часы акупацыі ён падняў на ногі ўсё наваколле — лясы аж кішэлі партызанамі. Пасля ў яго хаце быў цэнтр, адкуль ішло нагляданне за бандытамі. Там тады быў атрад Назарэўскага, і ён накіраваў удары атрада туды, куды патрэбна было. З таго часу ён пайшоў на кіраўнічую работу. Завецца ён Антон Несцяровіч.

Цяпер сёй-той пачаў яго ўспамінаць. Выявілася, што некаторыя з работнікаў ЦК і Саўнаркома сустракаліся з ім — то цяпер, на працы, то ў часы партызаншчыны. Былі нават і такія, што калісьці з ім у лесе з адной торбы хлеб елі і пад адным кустом лапці плялі.

Цяпер многія ўспаміналі, што за работнік гэты чалавек.

Такім парадкам Антон Несцяровіч быў выклікан у цэнтр. Тут ён быў нешта каля дзвюх дэкад. Цэлымі днямі ён праседжваў у Дзяржплане і выходзіў адтуль шпаркай хадой, але з утомленым тварам. Ён доўга хадзіў па вуліцах, пакуль не прыходзілі ў раўнавагу ногі, нязвыклыя да шматгадзіннай нерухомасці. Нарэшце ўсё было высветлена, вывучана, разабрана. Справа была скончана. Антон Несцяровіч ужо склаў свой чамадан і толькі цяпер здолеў пайсці пашукаць блізкай яму асобы. Гадзіны за дзве да вечара ён увайшоў у карыдор даўжэзнага дома і акінуў вачыма нумарацыю над кожнымі дзвярыма. Увайшоў у пакой з двума вокнамі і чатырма залёнымі жалезнымі ложкамі. Ніхто не азірнуўся на стук дзвярэй — такая пільная там ішла работа. Паўспіраўшыся локцямі на маленькі столік, штосьці як бы разглядалі на ім чатыры дзяўчыны. Галовы іх былі ўгнуты і нахілены адна да адной, як быццам яны за нечым пільна сачылі на стале.

— Ну, так сказана ці не? — зазвінеў раптам урачысты дзявочы голас.— Я казала, што не!

Усе чатыры раптам адагнуліся і ўтраіх глянулі на адну.

— Тады гэта не тут, а ў іншым месцы, я пераблытала,— сказала тая з дакорам.

Антон Несцяровіч пайшоў проста к сталу і ўбачыў там разгорнуты том Маркса.

— Добры дзень,— сказаў ён яшчэ на хаду.

Раптам тая, што апраўдвалася толькі што перад трыма сваімі таварышкамі, крыкнула:

— Антон Паўлавіч!

І кінулася да яго. Спачатку яна трасла яго за рукі,

пасля вельмі хутка нагнулася да яго і пацалавала ў шчаку. Ён усміхаўся і быў нават як бы прыбянтэжаны.

— Чаму вы не вітаецеся з ім,— гукала яна да сваіх трох таварышак,— гэта ж мой бацька.

Усе тры па чарзе падышлі, і кожная падала Антону Несцяровічу руку. Адна з іх тут жа пырснула смехам і збянтэжылася ад гэтага, адразу густа пачырванела. Антон Несцяровіч бачыў, што гэта без пэўнай прычыны, проста ад маладосці, і, глянуўшы на яе, сам усміхнуўся. Яна тут жа пачала апраўдвацца:

— Чаму ж ты яго завеш Антонам Паўлавічам? — зірнула яна на тую, што пацалавала Несцяровіча.— Ты ж зусім не Антонаўна.

— І ты не раз гаварыла,— умяшалася другая,— што твайго бацьку афіцэр забіў.

— Яна — мая выхаванка,— сказаў Несцяровіч.— Ну, ні то што выхаванка...

— Я ў яго жыла два гады і вучылася там у пачатковай школе.

— Дык гэта каваль? — зноў абазвалася тая самая рагатуха.— Яна нам расказвала. І пра вашага смешнага суседа — кажушанага краўца расказвала.

— У вас калі канчаецца ўся гэтая інстытуцкая музыка? — сказаў Несцяровіч, азіраючыся, каб дзе прысесці. Ён не хацеў сядзець, яму хацелася прайсці пехатой кіламетраў дваццаць, так анямелі ад дзённай сядні ногі. Але яму здавалася, што вельмі ж ужо ён нязграбны сярод гэтага букета. Рагатуха, чаго добрага, яшчэ зноў зарагоча. Не раўняўся ён, пажылы чалавек, з імі, але такая ўжо была атмасфера ў гэтым пакоі, як бы ветрам маладосці дзьмухнула на яго.

— Наша інстытуцкая музыка скончыцца праз тры месяцы,— адказала рагатуха.— Вы пытаеце, калі мы інстытут скончым?

— А тады што?

— А тады працаваць.

— А кім жа ты, Ірынка, будзеш?

— Будзем выхоўваць маладое пакаленне,— перабіла ўсіх рагатуха.— Мы будзем педагогі, настаўнікі, выхавальнікі.

— Вы ж ведаеце, Антон Паўлавіч,— сказала Ірына.

— Я ведаю той інстытут,— пачаў апраўдвацца Несцяровіч, але рагатуха зусім стала перабіла:

— Мы будзем памагаць партыі выкарчоўваць з лю-

дзей тое, што збіралася вякамі, і выхоўваць у маладым пакаленні сацыялістычнае.

— Мы пра гэта спрачаліся, як вы ўвайшлі,— сказала Ірына.— Мы чыталі Маркса: традыцыі ўсіх мёртвых пакаленняў вісяць кашмарам над свядомасцю жывых. Я ім гавару: смерць майго бацькі я адчуваю трагічна. Што тут дрэннага? Іначай я не магу. А яна мне гаворыць, што ўжо само слова «трагічна» належыць зніклым пакаленням.

— Я не так сказала! — засаромелася рагатуха.— Мы яшчэ, наогул, нічога не сказалі. Толькі пачыналі гаварыць.

— Выкарчоўваць з людзей трэба не трагічнае, а эксплаататарскае і нявольніцкае.

Ніколі не думала Ірына, што сказаныя ёю цяпер гэтыя словы праз нейкі час ператворацца ў вельмі канкрэтную для яе справу, стануць як бы праграмай, шмат народзяць і пакутных і радасных думак. І ўсё гэта будзе ў самым цэнтры самага канкрэтнага і страшнага выкарчоўвання эксплаататарства і нявольніцтва з душы, можна сказаць, забітай, і выхавання душы, яшчэ не кранутай «вякамі».

— Ну, то мы пайшлі, нам пара,— сказала рагатуха, працягваючы Несцяровічу руку.— Будзем знаёмы.

Несцяровіч прыўзняўся і пацiснуў працягнутую руку. Тры дзяўчыны выйшлі.

— Гэта я іх прагнаў?

— Ну, то што! Яны вернуцца вечарам. Трэба ж нам пагаварыць. Мoжа, да Кандрата?

— А ён тут? Ён жа мне пісаў яшчэ з...

— Ён нядаўна зусім пераведзены сюды.

— Дай адрас. Не, лепш мы зараз зойдзем.

— Хадзем цяпер... А і праўда, я ўспомніла, дзе цяпер той кравец, ваш сусед?

— Я ж там ужо многа год не быў, не ведаю.

— Гадоў таму назад чатыры, як Кандрат быў упаўнаважаным у тым раёне, то спаткаў яго раз у гарадку.

— А мы паедзем з табой зноў туды. Добра? Прыедзеш да мяне.

— Чаго туды?

— Я ж туды еду. Балота сушыць, торф капаць, электрастанцыю рабіць. Я дзень пры дні над каштарысамі і планамі сяджу. Мяне назначылі гаспадаром усёй гэтай справы. Страшна... Дык канчай інстытут і — да мяне, туды, пад Дзве Хаты, адпачыць, пакуль да працы. Адзявайся к Кандрату.

Ён увайшоў у ролю. Ірына закружылася навокал яго, не патрапляючы рукой у рукаў паліто. Ён падумаў, што гэта яна сумысля, так, як калісьці, малая, танцавала пад яго музыку «Казачка» або садзілася Кандрату на плечы.

— Каза! — сказаў ён спавагу, хапаючы рукаў і накіроўваючы туды яе руку.

Яны выйшлі. Горад быў ружовы ад вячэрняга сонца.

Праз некалькі дзён Несцяровіч прыехаў у раён. Быў сакавік месяц. Хвойныя лясы зелянелі. На полі былі чорныя лапіны. На балотным куп'і рыжэла леташняя асака. Дні стаялі сонечныя, вада збіралася ў лагчыны і нанач прымярзала. К канцу месяца вада залівала балоты і грэблі.

Аднойчы праездам Несцяровіч спыніўся ў Дзвюх Хатах. Хто жыве ў яго хаце, ён ведаў: яшчэ ў першы год пасля вайны, будучы ў гэтым раёне старшынёй, ён аддаў сваю хату нейкаму прышламу чалавеку. Цяпер ён зайшоў у краўцоў двор. Хата зусім згніла і асела. Ніякіх слядоў былой агарожы пры ёй не было. Надзьмуты певень, задзірысты пакутнік, скрываўлены за дзень у бойках, стаяў на прызбе. Галава яго даставала акна з павыбіванымі шыбамі. Певень з пагардай пазіраў на ўвесь свет. Кроў сачылася з яго галавы.

Несцяровіч зарагатаў: «Пагуляў? Ці не гаспадар ты цяпер гэтай хаты?» Ён зазірнуў у пабітую шыбу. Цвіль укрыла сцены. Жаба, ажыўшы к вясне, села пасярод хаты і ўтаропілася ў чалавека лупатымі вачыма. Несцяровіч плюнуў і пайшоў у былую сваю хату. Там яго пазналі. Гаспадар затупаў па хаце, заварушыўся. Несцяровіч сказаў, што толькі на хвіліну, праездам і есці зусім не хоча. Ён толькі хацеў запытаць, дзе дзеўся кравец.

— Кравец? Па свеце ходзіць, кажухі шые. Жонка памерла, дзеці параспырхаліся па свеце, павырасталі, пападрасталі. Ён мала калі дадому з'яўляецца, па людзях і пражывае. Добры чалавек, няхай яму на здароўе пойдзе. Хата, можна сказаць, заўсёды пустуе. Наглядаць за ёю мне прыпаручана. Так і стаіць хаціна. Я туды нанач свае куры заганяю. От так яно і жывецца.

Гаварылася ўсё гэта з вялікім энтузіязмам, і адразу відаць было, што «факт курынага начлегу ў суседняй хаце» справа не малая і на яе могуць нават мерацца хваляванні жыцця. Пра гэты размах імкненняў і інтарэсаў думаў Несцяровіч, выходзячы з хаты. Ён сеў на каня і паехаў грэбляй, успамінаючы кожнае дрэва і камень і хва-

люючыся ад успамінаў. Часамі на грэблі вада даходзіла да страмёнаў. З-пад конскіх ног ляцела ўгору белая вада.

Праз дзён пяць ён быў тут з інжынерамі і тэхнікамі. Вада пачала змяншацца. Падзьмуў вецер. Лясы засінелі і зазвінелі крыкам птушак і звяроў. Гулка хадзіла рэха. На алешнікавым узгорку выбралі месца, каб будаваць першы барак для рабочых. У тыя дні Несцяровіч сам ездзіў у гарадок на чыгуначную станцыю; у запячатаным вагоне было дастаўлена першае прыладдзе: маторная лодка, лесапільны інструмент, рыдлёўкі. Несцяровіч даў публікацыю, і пачалі сцягвацца людзі на работу. Гэта была першая партыя рабочых. Другая прыйшла ўлетку, і гэта пра іх гаварылі тады пры трупе, калі пазнавалі, ці Сэдас гэта, ці не, што каля гарадка відны людзі з куфэркамі і торбамі.

Аднойчы Несцяровіч, увесь прамоклы ад дзённага вандравання па балоце, гнаў маторную лодку, стараючыся хутчэй даплыць да вядомага яму месца, дзе над самай ракой стаяць хаты — там ён думаў начаваць. Да месца пабудоў адтуль было кіламетраў шэсць. Заходзіла сонца. Вада ў рацэ разлілася шырока, залівала ўвесь нізкі левы бераг. Правы бераг высокі, на ім рос хвойны лес. Бераг проста абрываўся ўніз. Над самай вадой, пад хвояй стаяў чалавек — плячысты, шыракатвары і чарнавусы. Выціраючы хустачкай вусы, ён не спускаў вачэй з маторкі і пасля пайшоў берагам, следам за ёю. Несцяровіч даехаў да месца і прыгнаў лодку к берагу; хапаючыся рукой за падкрыўчысты альховы пень, ён вылез на бераг. Рабочы, што быў з ім, пагнаў лодку назад. Несцяровіч пайшоў берагам. Чарнавусы чалавек неўзабаве дагнаў яго і, загаварваючы, пайшоў з ім разам. Даведаўшыся, што Несцяровіч хоча тут начаваць, ён запрасіў яго ў сваю хату. Несцяровіч увайшоў і здзівіўся:

— Пачакайце, гэта ж Сцепуржынскага хата!

— Была,— адказаў чарнавусы.— А цяпер мая. Усе гэтыя тутэйшыя Сцепуржынскія, Богараўскія — параскулачаны гэтай зімой, і няма іх тут.

— А вы даўно тут? Тутэйшых людзей я ведаю.

— Не сказаць, каб даўно. З восені, можна сказаць; так, замаразкамі тут асеў. Хата пустая пасля гэтага, як вы кажаце, Сцепуржынскага асталася, а я работы шукаў. Дамоўкі ў мяне, сказаць, сваёй не было. Я службовы чалавек быў калісьці: то па маёнтках за аратага быў, то раз

у лесніка к пану ўбіўся, але доўга не набыў — не мог я з народам з-за панскага дабра ваяваць. У рэвалюцыю пачаў быў сваю дамоўку заводзіць, але пажар здарыўся, згарэла ўсё. Не вельмі даўно, сказаць, было. От я так і астаўся. А цяпер і рады, што сюды прыблытаўся: тут жа такая работа вялікая пачынаецца. Жыць можна будзе. Цяпер рабочы чалавек не прападзе.

Гаварыў ён так, нібы хваліўся сваім даўнейшым парабкоўствам. І тон гэты вельмі не спадабаўся Несцяровічу. З-за гэтага тону ён адразу не ўзлюбіў чалавека. Ён запытаў яго прозвішча.

— Наўмыснік,— адказаў той і паставіў на стале малако — частаваць госця.

Пасля Наўмыснік некалькі разоў трапляўся Несцяровічу на вочы і стаў на работу. Будавалі барак. Наўмыснік быў някепскі цясляр. Ён нават лепш за ўсіх стараўся, і пакрысе першае нядобрае пачуццё да яго ў Несцяровіча пачало згладжвацца.

Вада зменшвалася, грэблі пачалі абветрывацца. З'явілася першая землечарпалка. Рыхтаваліся да пачатку работ над першай асушальнай магістраллю. Касір выдаваў рабочым авансы і рыхтаваўся да разрахункаў у канцы месяца.

Каля таго часу Несцяровіч пачаў заўважаць, што старая краўцова хата не дае спакою Наўмысніку. Ён некалькі разоў гаварыў, што трэба гэтую ламіну разабраць на дровы, усё адно кравец тут не жыве. Праз шмат часу стала ясна, што ўсё гэта значыць. Цяпер жа ўвагі на сябе гэтая акалічнасць не брала. І от аднойчы Наўмыснік, цяпер ужо брыгадзір цесляроў, распарадзіўся разабраць хату на апал барака. За вечар хаты як і не было. Так што каб цяпер той кажушаны кравец надумаўся вярнуцца назад сюды, то яму Наўмыснік першы мог сказаць: «На свеце ўсё зменьваецца. Гэтак і твая хата — была і няма. Чаго ж ты пакідаў яе?»

А тым часам кравец мог бы сюды вярнуцца кожную хвіліну. Справа з ім была такая. Неяк раз, далёка адсюль, на захад, калі яшчэ зусім свежая была ў памяці грамадзянская вайна, увосень, кравец сеў на прыдарожны камень. Канчаўся ясны дзень, далягляд разыходзіўся далёка. Лес быў блізка толькі з двух бакоў.

— Даўно я тут не быў,— сказаў сам сабе кравец, выцягваючы ўтомленыя ногі і паглядаючы паабапал дарогі.— Напэўна ўжо год шэсць прайшло, як я тут апошні раз

кажухі шыў. Тут народ багата жыве. Калі які іншы майстар не забег наперад, то работа павінна знайсціся.

Недалёка ад дарогі купчасцілася некалькі дубоў. За імі ішлі загоны бульбы. Там корпалася жанчына. Завязваючы торбу і дажоўваючы хлеб, кравец рушыў туды. Жанчына была зусім маладая, з выгляду яшчэ зусім дзяўчына. Яна капала бульбу. Каля мяжы ў калысцы спала дзіця.

— Памагай бог,— сказаў кравец, падыходзячы.— Бульбу капаеце? Дзіця як спакойна ваша спіць. Гэта, мусіць, першае ў вас дзіця?.. Дык жа нічога бульба, урадзіла, ого! Тут у вас зямля — наўздзіў! На такой зямлі можна жыць. Ці не чулі, можа, каму тут кажухі трэба шыць?

— Ідзіце унь туды,— паказала жанчына рукой на лес.— Там жыве Сцепуржынскі, у яго і авечкі, і аўчыны свае. Там вам, напэўна, работа знойдзецца.

— То і ў вашай старане ёсць Сцепуржынскія?

— А вы самі нетутэйшы?

— Дзе бачылі! Я здалёк. Хаджу па свеце, талент мой, братачка, такі.

У гэты час з палетка падышоў чалавек, вельмі малады, такі самы, як і жанчына. Убачыўшы на сваім палетку незнаёмага чалавека з завязанай торбай пад пахаю, ён цікаўна пачаў прыслухоўвацца і прыглядацца.

— Я тут бываў,— гаварыў кравец.— От зямля ў вас! Не то што ў нас. Каб на такой зямлі асесці,— божа! божа!

Маладому чалавеку здалося, што раз незнаёмец сказаў, то ўжо і асядзе тут на зямлю. І, сам таго не заўважаючы, ён немаведама чаго ўстрывожыўся. У голасе яго загучала злая зайздрасць.

— Няма ў нас тут вольнай зямлі. Сказаць праўду, то раней была, але народ падзяліў. А што там непадзелены клін ляжыць, то ўжо і тая людзьмі панагледжвана. Самі здалёк?

— Аж на той бок яшчэ гарадка. Я ж кажу, я тут бываў. У мяне скрозь знаёмыя трапляюцца. Унь там, куды вы мне паказвалі, то калі ўзяць, здаецца, улева — хутар павінен быць. Я там адзін раз шэсць кажухоў пашыў. От бо багатыр жыве, братачка!

— Гэта Скуратовіч?

— Але, але, братачка. Успомніў.

— То яго цяпер няма. Быў бандытам, і яго — аман.

— У нас таксама нейкі бандыт Скуратовіч арудваў, можа, гэта з тых самых?

— Можа,— холадна паціснуў плячыма малады чалавек, не хочучы ўлазіць у гэтакую гутарку.

— А як жа! Быў у нас бандыт такі. Чулі пра яго? Назарэўскі з сваім атрадам яго каюкнуў. Пры мне гэта рабілася.

— То вы Назарэўскага ведаеце? — ажывілася жанчына.

— А як жа! Ён у маёй хаце бываў. Я памагаў яму. Раз мяне бандыты былі засцігнулі ў лесе, я ледзьве вырабіўся. А пасля павёў самога Назарэўскага на правільную дарогу. Ого, я чалавек бывалы.

— А дзе цяпер Назарэўскі, не ведаеце?

— Як-то не ведаю! Ён цяпер, братачкі вы мае, у нашым горадзе. Чакіст. Быў недзе інакш, а гэта нядаўна прыехаў і там будзе. Сестранё яго малое жыло ў майго суседа, каваля Несцяровіча, больш за год; не было пры кім быць, сам Назарэўскі быў заўсёды ў раз'ездах. А цяпер, можа, забярэ брат к сабе. Па-рознаму людзі, братачка, жывуць, як каму спосаб. Ого, Назарэўскі вялікі начальнік. Што захоча, тое зробіць. Я з ім добра знаёмы.

— А як яго сястра завецца? — праверыла маладая жанчына, бачачы, што краўцова слова плыве, як жыта з-пад малатарні.

— Ірынка завецца, такая ўвішная.

— То Назарэўскі вялікі начальнік? — сказаў малады чалавек з нейкім дрэнна схаваным ажыўленнем.

— Вялікі.

— Можа, у нас чалавек няхай паначуе,— сказаў малады чалавек жанчыне.— А заўтра пойдзе сабе работы шукаць. Куды чалавеку ісці напроці ночы.

Неўзабаве жанчына павезла ў калясцы дадому дзіця, а малады чалавек нассыпаў у мяшок бульбу і пайшоў з краўцом праз мяжу. Ён разгаварыўся і пачаў расказваць краўцу пра сябе:

— Я ў гэтага самага Скуратовіча некалі каровы пасвіў. А гэта зямлі ўзяў. Гэтым летам на свайго каня ўзбіўся. Каровы яшчэ не маю. Бульба, дзякуй богу, ніштаватая гэты год.

— А даўно жанаты? — цікавіўся кравец.

— Першае дзіця, чатыры месяцы як радзілася. Жонка таксама служыла. Бацьку яе і малога брата бандыты забілі.

Яны гаварылі, аж пакуль не прыйшлі да хаты. Гэта была малая хаціна, яшчэ няскончаная. Быў толькі зруб. Вокны без шуфлядаў і шалёўкі. Шыбы з рамамі ўстаўлены да часу, і дзіркі паміж імі і бярвеннем пазатыканы анучамі і кудзеляй. Так былі толькі два акны. Другія два зусім забіты дошкамі. Сянец не было, і страхі не было. Столь была прыкрыта ад дажджоў у адзін схіл саломаю пад колас.

— Усяго адразу не зробіш,— гаварыў малады чалавек.— Так паразімую, а там — пакрысе зробіцца.

Кравец пераначаваў у гэтай хаце і назаўтра сапраўды знайшоў у Сцепуржынскага работу. Разгаварыўшыся там, ён дазнаўся, што гэты Сцепуржынскі стрыечны брат быў таго Сцепуржынскага, які мае хутар каля Дзвюх Хат. Кравец шыў у Сцепуржынскага шмат дзён, а пасля пайшоў па тутэйшых хутарах. Ён паабшываў усё наваколле і спаткаў у гэтай мясцовасці зіму.

Аднойчы кравец зайшоў да маладога чалавека, у якога начаваў першую тут ноч. Ён застаў жанчыну ў слязах. Малады чалавек стаяў пасярод хаты ў нейкай задуме, круціў папяросу і перасмыкваў ніжняй паловай твару. Відаць было, што ён не рад, што чужы чалавек зайшоў у хату: як-ніяк, а могуць пайсці на людзі яго хатнія справы. Кравец, бачачы, што трапіў к людзям у нядобрую хвіліну, загаварыў:

— Я заўсёды кажу, зямля тут у вас — як здор, хоць ты ёю скавараду падмазвай. З поля добра збіраюць. (Выціраючы слёзы, жанчына выйшла з хаты.) Нешта перагавор з жонкаю быў? Жывучы, братачка, усяго бывае.

Малады чалавек давёў да краўцова ведама:

— Калі бо яна жыць прывыкла ліха ведае як. Самі бачыце, як на нагі станаўлюся. Вы тады як сказалі былі, што Назарэўскі вялікі начальнік і што захоча, можа зрабіць, то... а божа мой, гэта ж яе стары знаёмы! Няхай бы яна пайшла да яго ў горад або паехала, запрогшы каня, і папрасіла там, каб паспрыяў. Тут бы лесу далі б, перавозку маглі б зрабіць. Я мог бы дрэва прадаць — грошы хіба не патрэбны? А збожжа нам маглі б адпусціць? Дык не хоча ісці. Я, кажа, выпрошваць не пайду. Назарэўскі, кажа, мой таварыш (з гонарам выгаварыў гэтае слова) і не пайду, кажа, у яго выпрошваць; самім, кажа, трэба нажываць, так, як і ўсе людзі. Мала што ўсе людзі! Можа, каму і няма такой зручнасці, а гэта... Якое ж гэта выпрошванне! Гэта ў суседа просіш ці ў самога

гэтага Назарэўскага? Гэта ж усё казённае, дзяржаўнае!

— Пагаварыўшы, папрасіўшы, тым часам... Хррцьфу!

— Яно ж так.

Чалавек закурыў і падаўся з хаты. Кравец рушыў за ім. Пры дзвярах спыніўся і выпіў кварту вады. Жанчына ўвайшла ў хату і дастала з печы ваду купаць дзіця. Яна непрыхільна паглядзела на краўца.

— Жывучы, усё бывае,— уздыхнуў кравец.— Чалавек на свеце жыве, жыве...

— А тады што? — зірнула на яго жанчына.

— Я ж кажу, усё можа быць. Хрр-цьфу. (Пайшоў з хаты.)

— Здружыліся роўны з роўным... Божа мой, што гэта за чалавек, за каго я замуж пайшла! (Сляза ўпала на дзіцячы твар.) Як у мяшку жывеш з гэтым чалавекам.

— Як у мяшку? — абазваўся муж, з'яўляючыся на парозе.— А што я вінен? Не паможаш сам сабе, то хто табе паможа!

— Ты і некалі сам сабе памагаў, а выходзіла, што Скуратовічу.

— А што, ты тады памагла б маёй сям'і? Языком малоць кожны можа! А каб ты сабе памагала, а не чорт ведае каму і чаму, то бацька і брат і дагэтуль жылі б! Ты памагала ўсяму свету, а сама гінула.

Такая гутарка не была ў навіну ў гэтай хаце. Жанчына нагнулася над дзіцём. Яна зноў плакала, гаворачы:

— Я думала, што дзіця гэтае шчаслівейшае за мяне будзе... Па такой самай дарозе ты яго павядзеш.

— Па якой дарозе? Я вінават, што такая дарога? Я стараюся, як магу, каб гэтае дзіця не вырасла на пустым месцы, каб у яго за душой было што-небудзь! Я хату стараўся, я мясціну гэтую агледаў! Няпраўда, скажаш?

Гэта была праўда, але праўда гэтая не вязалася з душой жанчыны. Не гэтак яна думала.

— І яно, гэта дзіця, будзе такое, як мы,— гаварыў ён.— Нават будзе горшае. Гэтае пакаленне не на дабро радзілася на свет. Нашы бацькі на вайне мучыліся. Мы ў вайне і калатні гадаваліся. А гэтае малое перад чым, ты думаеш, стаіць? Хіба спакойна на свеце? Хто гэта не ведае, што скора зноў войны пачнуцца! І не такія войны, як былі. Гэтае малое пакаленне яшчэ горш за нашых бацькоў і за нас будзе.

— Няпраўда! Ты сам хочаш гэтага.

Яна пачала насіць па хаце дзіця, не могучы быць на адным месцы. На душы ў яе было чорна. Яна старалася больш не гаварыць і паспакайнець.

Так ішлі справы ў гэтай хаце.

Праз гадоў чатыры кравец зноў з'явіўся тут шыць кажухі. Міхал Тварыцкі к гэтаму часу меў ужо аўчыны. Праўда, адной не хапала, прыйшлося тэрміновым парадкам дакупіць у Сцепуржынскага. З Сцепуржынскім ужо даўно ўсталявалася маўклівая згода: ніхто нікому пра ўсялякія там старыя справы не ўспамінаў. Так што Сцепуржынскі нават ужо часамі заходзіў да Міхала Тварыцкага ў хату. Ён і цяпер, плячысты, шыракатвары і чарнавусы, разоў са два быў у хаце і стаяў над сталом, гледзячы, як кравец шые Міхалу Тварыцкаму кажух. «Першы кажух сабе спраўляе»,— думаў ён, жуючы саломіну.

Гэта быў час, калі Тварыцкага хата была ўжо накрыта, абгароджана і за гародам стаяла новае смольнае гумно. Шыючы кажух і падглядаючы за Тварыцкімі, кравец думаў: «Не ладзяць паміж сабою, дрэнна жывуць». Сцепуржынскі раз скардзіўся краўцу:

— Гэты Тварыцкі гнецца, бедніцца. Думалася спачатку, можа, і праўда. Аж пасля, як толькі хату скончыў, адразу нешта ўжо вельмі і гумно паставіў, і карову купіў, і каня змяніў. Адкуль гэта ён пацягнуў бы так адразу, каб такі ўжо бедненькі быў. Я падатак плачу — а як жа, Сцепуржынскі, значыцца, багатыр! А ён — бедлячок, жыве сабе, і ніхто яго не чапае. Недзе мае нейкі спосаб, і ніхто нічога не ведае. А з жонкаю сварыцца, гэта праўда, а чаго, каб яны быту не зналі.

— Добра кажаш, братачка, у чужую душу не залезеш.

Кравец зноў пайшоў па гэтай мясцовасці шыць. Здаралася, што дома, у сваёй хаце, ён не бываў больш як паўгода. Апошні раз ён ужо дома не быў другі год — сям'і ў хаце не было, і хата стаяла на замку. Так яе і ўбачыў цяпер Несцяровіч, а пасля, з Наўмыснікавай ласкі, замест хаты стала пустое месца. Пра гэта тутэйшыя людзі гаварылі мала; за гэтыя часы да ўсяго людзі папрывыкалі, і ўсялякая навіна скора рабілася абыкласцю. Хадзілі чуткі, што кравец недзе асеў жыць на сталым месцы. Як бы там ні было, а ён ужо даўно не з'яўляўся дадому. І гэта было нікому не ў галаў. Тут адбываліся большыя справы.

К маю месяцу стаялі чатыры баракі. Ужо капалася першая асушальная магістраль. Рабочыя ўжо абжыліся. Вечарамі гарэлі агні на ўзлесках. Начная птушка абзывалася нясмела.

Апошнімі днямі мая месяца была пераведзена сюды з цэнтра вялікая сума грошай, з сродкаў, асігнаваных на справу ў часы складання планаў. Грашовыя знакі былі пераведзены ў раённы банк.

## III

Была восень. Цёплыя туманы стаялі над зямлёю, і ціхімі раніцамі здалёк чуваць было, як шуршыць жоўтае лісце. Пад поўдзень выбівалася з туману сонца, трава і дрэвы яснелі, лясы як бы адыходзілі далей, неба ўзнімалася вышэй. Пахла кара на дрэвах, нікла пры дарогах бадыллё. Свет стаяў навокал, поўны вялікай сваёй прыгажосці.

Дзіця выходзіла на дарогу. Восеньскія кветкі жаўцелі над прывялай травой, у вадзе люстравалася неба і зубчасты верх лесу. Усё было поўна вялікага і таемнага сэнсу. Дзіця ішло да абрыву дарогі ўніз. Дробныя птушкі ўзляталі перад ім і абзываліся з прыдарожных зараснікаў. Дзіця азірнулася — нічога ўжо не было відаць, апроч спусцістай дарогі і неба над ёй. Дзіця пайшло назад, паднялося на ўзгорак — ізноў шырыня свету — зялёныя хвоі, жоўтыя дубы, шэрае поле; дом відзён; хата, рабінка з пучком чырвоных ягад, дробных птушак многа на страсе! Дом, значыцца, блізка, можна тут смела быць, бо сказана далёка ад дому не адыходзіць. Тут жа, значыцца, недалёка. Дзіця зноў пайшло ўніз. Наперадзе, вельмі блізка, увесь абліты сонцам, стаяў ельнік. На яго зялёнай сцяне чырвонілася асіна і жаўцелі дубы. Туды б пайсці! Раптам дзіця пачало прыглядацца на прыдарожнае поле: штосьці блішчала і пералівалася прывабнымі колерамі: «Далёка гэта ад дому ці не? Хоць і далёка, усё роўна, толькі каб скарэй».

Дзіця пабегла дарогай, пералезла цераз прыдарожную канаву і хапіла ў рукі жмут рухавых колераў. Гэта было шкло з жоўтай бутэлькі. Дзіця ведала, як такімі рэчамі карыстацца. Яно закрыла пальцамі адно вока, а да другога прыклала шкло. Свет адразу змяніўся. Ельнік стаў страшным, неба жудасным. Усё як бы закіпела, заварушылася. Ва ўяўленні пачалі нават існаваць як бы нейкія

гукі. Дзіця сумысля закрычала высокім сваім тонкім голасам. Стала яшчэ страшней. Здавалася, што расцярушаная па полі салома палае агнём. Дзіця адвяло шкло і глянула на свет сваімі вачыма. Усё стала звычайным. Так дзіця было тут нейкі час. Яно ўжо забылася, што не трэба далёка адыходзіць ад дому.

— Слава! Славачка! — гукаў жаночы голас.

На дарозе стаяла маці. Дзіця збянтэжана пайшло да яе.

— Паглядзі, мама, як усё здаецца.

— Кінь гэтае шкло, твар парэжаш.

Дзяўчынка прытуліла шкло да грудзей. Маці ўзяла яе на рукі і вынесла на дарогу. За гэты час дзяўчынка здолела яшчэ раз глянуць праз шкло.

— Мама, як усё здаецца страшным.

— Ты ведаеш, як маме няма часу і мама прасіла цябе, каб ты далёка не адыходзіла. А ты не слухаеш. Трэба на поле ехаць, а колькі я часу патраціла, цябе шукаючы. Я цябе не магу адну дома пакінуць.

Дзяўчынка ішла подбегам, раз-поразу прыкладаючы шкло да вока. Зачапілася нагою за няроўнасць на дарозе і ўпала. Маці ўзяла яе на рукі і панесла. У двары стаяў бацька, маўклівы і пануры.

— Цябе нейкія думкі ядуць. Што з табой? — сказала жанчына.

— Ніякія думкі мяне не ядуць.

— А чаму ты ўсе дні такі?

— Які? Жывучы, клопату многа. Садзіся на воз.

— Ты апанураў. Ты раней трывожыўся, я гэта па табе бачыла, толькі не гаварыла табе. Ну што, калі цябе разоў два дапытваў следчы? А як жа, гэта справа не малая. А цяпер ты ўсё думаеш пра нешта.

— Што ты выдумала?

Ён вяла ўсміхнуўся і крануў каня. Ехалі паволі.

— Ты сябе вазьмі ў рукі,— гаварыла яна.— Чалавек, калі захоча, натуру можа перастравіць. Ты ўчора двух рублёў не далічыўся, што я ўзяла дзіцяці туфлікі папрвіць. За што ты гвалт паднімаў? Ты крычаў, што калі холадна ў ногі, то дзіця можа ў хаце пасядзець? Ты гаворыш, што дбаеш, каб дзіця, вырасшы, мела на чым жыць, і калі чорная часіна агорне, каб было чым ратавацца, ці як ты кажаш... Пакуль там што будзе, то ты цяпер ужо не спрыяеш гэтаму дзіцяці. Ты скнараю робішся...

«Усё было б добра, каб не такая жонка»,— думаў ён,

нічога не адказваючы. Жанчына ўсё гаварыла. Ён нарэшце павярнуў да яе твар і гукнуў:

— Сціхні!

Дзяўчынка прытулілася да мацеры. Ужо ўз'ехалі на свой загон. Бацька ўзяў дзіця на рукі і паставіў на зямлю. Маці злазіла з воза. Дзіця чула, што бацька таксама, як і маці, лагодна прыцiскае яго да сябе. Усё было незразумелае. Дзіцячыя пачуцці не маглі выйсці са змроку, у якім губляліся ўсялякія яснoты. Дзіця стаяла паміж бацькам і маткай. Як бы на дзве палавіны трэба было разарвацца дзіцячай душы.

Дзяўчынка дастала з фалдаў сукенкі жоўтае шкло і прыклала к воку. Свет стаў страшным. Маці нагнулася корпацца ў зямлі. Бацька пайшоў за плугам. Дзіця адняло шкло ад вока. Свет стаў ясны і радасны. Зеляніўся ельнік, пахла поле, чырванілася асіна. Дзіця пачало зрываць жоўтае лісце з шыпшынавага куста.

Пад поўдзень Міхал Тварыцкі сказаў жонцы:

— Зося, трэба адпачыць. Пасядзі з дзіцем. Я пайду ў лес, можа, грыбы якія.

— Так позна грыбы?

— Чаму, цёплая восень.

Адышоўся ён паволі, а чым бліжэй падыходзіў к лесу, тым больш паддаваў ходу.

У гэтыя часы зусім прайшлі ў яго прыступы трывогі, пачатак якой быў у допытах яго следчым. Яму заўсёды было прыкра пасля сварак з жонкаю. Нелады гэтыя цяпер пайшлі вельмі выразна. Чалавек цяпер сам таго не заўважаў, што яго дачыненні да сям'і, да дзіцяці ператвараліся ў сваю супрацьлегласць.

У гэтую хвіліну, калі ішоў ён к лесу, штосьці цягнула яго паглядзець тое месца, дзе ён знайшоў быў той пачак новенькіх трохрублёвак. У лесе было ціха. Вытаптаная сцежка была вільготная ад начнога туману. Ён прайшоў узад і ўперад паўз смольныя ствалы хвояў. І раптам новая думка агарнула яго: «З банка ж украдзена не трыста рублёў, а больш. Кажуць, што дзесяткі тысяч. А можа, нават і сотні тысяч. І чаму толькі трыста рублёў тут магло валяцца? Чаму не можа тут валяцца больш? Прайшоў час ад таго? Але ж не чуваць было, каб больш хто грошы тут знайшоў». Ён аж калаціўся ад гэтай думкі. Ён некалькі разоў прайшоў краем лесу, туды і сюды, і пасля шпарка рушыў на сваё поле. «Каб хутчэй прайшоў дзень».

Увечары ён стараўся вельмі спакойна гаварыць з жонкай: сказаў, што пойдзе прынясе плашку, якую прыгнала аднекуль рэчкай вада. Сапраўды прыбілася к берагу плашка.

— Цяжкая, не прынясеш,— сказала жонка.

— Табе абы пярэчыць. Прынясу.

Плашку ён прынёс і паклаў сярод двара, а сам прыпёрся плечуком к сцяне і думаў. Зусім недалёка перад яго вачыма чарнелі няясныя абрысы. Там павінен будзе к канцу ночы ўзысці месяц. Ён думаў: «Гэта чарнее былы Скуратовічаў лясок». Навокал не было аніякага гуку. «Там пень недзе тырчыць ад той Скуратовічавай дзічкі. Паразварочваная там рыдлёўкамі зямля паўплёскавалася ўжо дажджамі. Хто яе раскапаў?» Ён усміхнуўся і сам сабе прагуў пад нос: «Першы раз я яе раскапаў і зноў загладзіў. Ніхто не ведае і ведаць ніколі не будзе. Толькі я маленькую ямку выкапаў. Я вельмі добра месца быў запомніў. А той, мусіць, месца не ведаў...» Апошняя фраза сама сабой лагічна выцекла з папярэдніх і кальнула яго свядомасць. «Або месца не ведаў, або забыўся, калі так зямлю корпаў. Хэ-хэ!» Ён аж затросся. «Значыцца, от хто гэта мог зямлю капаць! А калі так, то і забіты можа быць Сэдас. Няйначай гэта ён і ёсць». Доўга глядзеў на абрысы хмары над лесам. «А чаму Сэдаса біць трэба было? Хто яго забіў?» Тут усё патанула ў цемень незразумеласці. Ён перавёў вочы на чарнату лесу. Раптам ціха рагатнуў: «Але ж і пакорпаўся ў зямлі! Да сёмага поту працаваў! Злаваў на ўвесь свет і пайшоў як мыла з'еўшы. Хэ-хэ!» Тут ён спалохаўся свайго голасу: «Пра гэта трэба ні то што не гаварыць, нават і не думаць. Канец! Не трымаючыся стараны, то спакою не будзе. Я тут чалавек староннi. Я нікога не забіваў і крыўды нікому не зрабіў на самае найдрабнейшае каліва!»

Поўны нервовай узбуджанасці, ён прайшоў пад сваё гумно і назад ішоў паўз агарожу. Нага яго пакаўзнулася на вільготнай зямлі і паехала ўніз з узмежка. Адгэтуль пачалася яго новая думка: так раскоўзана была зямля на рачным беразе, на спуску к вадзе, непадалёку ад трупа. Як бы хтосьці некалькі разоў спускаўся ўніз і назад падпімаўся. «Можа, яны там хавалі ўкрадзеныя грошы?» Думка была наіўная, але ён доўга не раздумваў. Думкі яго рваліся, кідаліся, блыталі адна адну.

Ён тузануўся з месца і пайшоў к лесу. За хвілін пятнаццаць ён быў на ўзлеску пры рэчцы. Неўзабаве нага

яго ўжо абмацала заўважаны ім раней раскоўзаны спуск к рэчцы. Ён сеў на яго і з'ехаў уніз. Упёрся абцасамі ботаў у жвірыстае дно плыткай ручаіны. Ён абшнырыў усе кусты і норы пад каменнямі. Нічога там нідзе не было. Ён вылез наверх і падпёр плячыма хваіну. Мокрыя ад поту валасы ліплі яму да лба, каўнер рубашкі душыў яго. Аддыхваўся доўга, пакуль не стала яму холадна. Тады паварушыўся. Ён быў у гэты момант зусім спакойны. Дзіўная рэч — расчаравання ніякага не было. Гаварыў сам з сабой: «От зараз узыдзе месяц, тады пабачым». Месячнага святла ён прычакаў неўзабаве. Яно цадзілася з таго боку, дзе калісьці быў Скуратовічаў хутар, а цяпер, крыху ў баку адтуль, стаяла яго хата. Ён пайшоў сцежкай паўз лес. Хата яго стаяла ціха, у ёй спалі. Ён быў няўтомным у сваіх пошуках. Праз колькі хвілін ён апынуўся каля грушавага пня. На раскапанай тады і ўплясканай дажджамі зямлі былі яшчэ сям-там незраўняныя гузы. Месяц стаяў ужо над ельнікам, пень ад дзічкі здаваўся белым. Чалавек сеў на пень.

«Дзе ты тут будзеш шукаць тых грошай! Не можа быць, каб яны іх тут закапалі. Для гэтага не трэба было так многа зямлі раскопваць. Ясна, чаго яны тут зямлю капалі і хто гэта капаў. Забіты, значыцца, Сэдас. А той чорт зямлю капаў. Але ж нашто ён Сэдаса забіў? Каго іншага, а Сэдаса ён будзе біць? Можа, гэта не Сэдас? З'явіліся яны сюды, каб тут у зямлі пакорпацца? Нічога дзіўнага ў гэтым няма. Банк абакралі яны? То чаго яны забрылі так далёка адсюль, калі ім трэба было толькі тут пабыць? Сэдас гэта ці не? І ён сядзеў на гэтым самым пні, і, можа, ужо тут яго біць пачалі?»

Жах раптам апанаваў чалавека, набыўшы адценні містычнасці. «Адзін тут, на гэтым месцы, дзе адбыліся такія страшныя і няясныя справы?» Ён подбегам кінуўся адгэтуль. Дайшоўшы да хаты, ён пасмялеў і думаў: «А ўсё ж такі ёсць чалавек адзін, які больш як хто іншы можа здагадвацца аб праўдзе ва ўсёй гэтай справе, і гэты чалавек — я». Тут была пэўная даніна самаздаволення.

Каб нікога не будзіць, ён лёг у адрынцы, прадрамаў на канюшыне да ранку, а тады быў ужо такі, як і заўсёды: выбіраўся на поле, хадзіў паволі, падкармліваў перад работай каня. Сказаў на жонку:

— Ну, скарэй збірайся, от бо паварочваецца!

Выбраўся на поле на цэлы дзень з плугам — зябліць. Быў той дзень хмурны, туманны, лес стаяў мокры і не

зварухнуў голлем. Чалавек араў нехаця, яму карцела іншая справа. Гадзін праз дзве работы ён выпраг каня і пусціў на паплавец, а сам, жуючы хлеб, прайшоў сюды-туды паміж узлесных кустоў, а пасля па той бок сцежкі. Ён добра цяпер разгледзеў тое месца над рэчкай, па якім коўзаўся немаведама чаго ў мінулую ноч. Нічога там цікавага для сябе не ўбачыўшы, ён пайшоў наўскас лесам, туды, дзе пакінуў на сваім полі ўбіты ў зямлю плуг. Раптам ён убачыў на зямлі, справа ад сябе, бліжэй да дарогі тое, ад чаго ў яго пацямнела ўваччу і стукнула ў галаве. На зямлі была трохрублёўка. Яна была ўтаптана ў зямлю, толькі край быў відзён. Яна зліняла, парыжэлая, запэцканая. Але выразна відаць, яна нядаўна была новая, не была згорнута. «З тых самых трохрублёвак». Ён падняў грошы і падумаў: «Трэба няйначай яшчэ знайсці адну трохрублёўку. У якім кірунку яна будзе ляжаць ад гэтае, у той бок трэба ісці, каб напасці на след. Тут, мусіць, была паміж імі нейкая валтузня. (Дзіва, што валтузня, яшчэ і якая! Скончылася забойствам!) Яны гэтыя грошы развалтузілі, растрэслі, а пасля губілі пакрысе, ідучы». Ён брадзіў доўга і другой трохрублёўкі не знайшоў. Тады ён пачаў так меркаваць: «Ісці ад месца, дзе ляжаў труп, цераз тыя пункты, дзе я знаходзіў грошы і тады, і сёння. І падавацца далей проста, гэта будзе патрэбны кірунак». Памеркаваўшы і азірнуўшыся, ён убачыў, што гэта была, без малога, простая лінія. Было адно нязначнае адхіленне ўбок, якога можна не браць на ўвагу. Лінія была якраз на захад. Раскапаная зямля на былым Скуратовічавым полі была ўбаку. «Гэта або была пабочная выпадковасць... але ж не! І там знойдзены трохрублёўкі. Таго месца не трэба гарнуць у гэтую лінію. Трэба ісці проста. Паспрабуем. Не будзем блытаць самі сабе дарогі!» У тумане чалавек ішоў праз лес. Гэта было высока. Поле ляжала справа, унізе. Там жа ўнізе імгліліся ў тумане прысады, старасвецкі гасцінец з усходу на захад. Ідучы, чалавек акідаў пільным вокам кожны свой крок і ўсё, што льга было абгледзець направа і налева. Так ён прайшоў з кіламетр. Лес канчаўся, хвоі стаялі радзей і зусім знікалі; пачаліся кусты. Наперадзе быў лог і за ім вёска. Туды спускалася і дарога. Ён вярнуўся назад, усё таксама абглядаючы дарогу. У адным месцы ён убачыў нацярушаную салому. Загуў сам сабе пад нос: «Салома зусім свежая, нацярушана нядаўна, не пачарнела пад дажджамі. Браць яе на ўвагу не трэба». Пайшоў далей. Ён спыняў-

ся, падаваўся ў бакі — так пільна шукаў. Ён сам мала верыў, што можна што-небудзь знайсці тут, пажывіцца па гэтай справе, зробленай чужымі рукамі, але пасеяныя тут трохрублёўкі гналі яго ў пошукі. Ён мала наараў за той дзень, усё шукаў. Цераз дзень была нядзеля, работы не рабілі, і ён з самага рання прыйшоў сюды.

Ён выхадзіў усе лясныя сцежкі, шнырыў пад кустамі і ў адным месцы, можа крокаў за дзесяць у бок ад глухой, мала абходжанай, лясістай сцежкі, заўважыў, што тут як бы хтосьці быў некалі: нізкі сук чэзлай алешыны з доўгай паласой кары валяўся, адарваны ад дрэва. Відаць, на суку хтосьці сядзеў, і сук не вытрымаў цяжару. Адломленае месца зачырванела і пацямнела. Не зусім нядаўна гэта было. Пасля таго, як сук абламаўся, чалавек, відаць, сеў на зямлю і сядзеў так, бо было відно, як ён раскоўзаў абцасамі імшыстую зямлю і пассоўваў хвойныя іголкі, то выцягваючы, то падгінаючы ногі — так робіць вельмі стомлены, намучаны працай або змаганнем чалавек. След так ад абцасаў і астаўся: ён быў накрыт ад дажджоў навіссю хвойнага, яловага і альховага голля. У дадатак да ўсяго, тут ляжаў яшчэ ахапак моху, высахлага, пацёртага. Мох быў там, дзе павінна была ляжаць галава таго, хто тут спыніўся аддыхацца. Вельмі можа быць, што той чалавек, пад якім абламаўся сук, лёг на зямлю і, адчуўшы яе гузаватасць, адным махам рукі згроб сабе пад галаву імшыстую купіну. Сцежка, каля якой усё гэта рабілася, была глухая, і нават днём незнаёмы з ёю чалавек доўга будзе блудзіць тут, пакуль выйдзе з лесу. Гэта была самая найкарацейшая сцежка, каб прайсці лес, і існавала яна тут здаўна. Але каб узысці на яе з таго месца, дзе ляжаў труп, трэба было прайсці цераз куп'істы балотны лог з крынічышчамі, вытокі якіх былі ў блізкім «чортавым воку». Незнаёмы з мясцовасцю чалавек у крынічышчах мог бы ўплыць па горла. Так што, напэўна, той, хто хадзіў гэтай сцежкай і, можа, нават адпачываў тут, быў або тутэйшы, або так добра ведаў усе ходы і выхады ў гэтым лесе. А чаму той чалавек адразу не сеў або не лёг на зямлю, а спрабаваў яшчэ на суку пасядзець? Калі ў той час ішлі дажджы, то зямля, хоць і пад навіссю голля, магла быць мокрая — вада з голля лілася. Так што спачатку ён мог паспрабаваць прымасціцца дзе сушэй. Гэта магло быць.

Так думаў малады чалавек, абглядаючы месца пад дрэвамі. Успамінаючы пасля гэтыя хвіліны, ён сам дзівіў-

ся такой разважлівай яснасці і лагічнасці гэтых сваіх думак — у яго было вялікае ўзбуджанне.

«Калі толькі тут хоць найменшая адзнака будзе сувязі таго, хто тут адпачываў, з трупам і грашыма, то, значыцца, гэта тутэйшы чалавек, бо так добра ўсё тут ведае. Гэта, значыцца, ён, бо ён жа і зямлю каля пня капаў. Але ж нашто ён Сэдаса забіў, калі гэта сапраўды Сэдас? Не падзялілі награбленых банкаўскіх грошай? Ага! Дык гэта от хто банк аграбіў! Гэта ён. Гэта ён сюды з'явіўся! Мае думкі могуць памагчы следству. Можа, сказаць? Можа, памагчы следчым? Сапраўды, пайду і раскажу. І жонка будзе рада, гэта на яе натуру выйдзе. Яшчэ ў малыя гады яе і мае яна была такая. Колькі гэта ўжо год таму будзе? Год дзесяць? Ат, што там успамінаць! А калі я скажу следчым, а яны мяне захочуць сюды ўблытаць? Следчы — не свой брат. Але што ж я вінават? Я ж богу душою не вінен. Ніякага дачынення да ўсёй гэтай справы і наогул да ўсялякай іншай нядобрай справы я не маю. А што я раней за іх каля пня быў зямлю капануў, то хто гэта можа ведаць? Пень жа нікому не скажа. Усё будзе як у магіле. Ды і хіба гэта дрэннае што? Наадварот, я гаду печанаму, ворагу, адпомсціўся. Пайсці і сказаць следчым свае думкі? Пайду і скажу!»

Раптам ён убачыў грошы. Гэта быў ужо не трохсотрублёвы пачак. Тут пахла ўжо не сотнямі, а тысячамі. Гэта было некалькі пачак буйных паперак, звязаных тонкім шпагатам. Так звязваюць грошы ў банках. Пачак гэты, вялікі, тоўсты, быў уціснут адным кантам у той мох, на якім магла ляжаць тады галава чалавека. Пад мохам быў пласт прагнілых хвойных іголак, і пачак праваліўся, калі на яго пачалі ціснуць. Так што ён толькі верхнім кантам быў відзён зверху. Ён увесь уехаў у правал. Можна было меркаваць: чалавек, лёгшы адпачнуць, націснуў бокам ці плечуком на грошы і ўціснуў іх у спарахнелы пласт моху, хвойных голак і зямлі, заўважыўшы тое ці не заўважыўшы. Сам ён сумысля адцураўся гэтых грошай, чым-небудзь напалоханы, ці проста згубіў іх, вытрас з торбы, кінуўшыся на зямлю? Гэта было цяжка ўгадаць. Але сказаць праўду, у лішнія думкі чалавек цяпер ужо не падаваўся. Хвалюючыся, бялеючы тварам, ён выцягнуў з правалу грошы. Пачак быў цяжкі. Колькі тысяч? Ці дзесяткі тысяч? Ці сотні тысяч? Ці мог такія грошы пакінуць сумысля? Згубіў? Значыцца, быў вельмі неспакойны, устрывожаны, стомлены. Пасля ўжо, праз шмат

тыдняў, чалавек сам успамінаў, сам прызнаваўся, што ў той момант, калі нёс ён пад палой свае вопраткі грошы, усё ясна памятаў і ведаў, што робіць і як разважае і раздумвае наконт усіх сітуацый, з-за якіх маглі тут апынуцца і астацца гэтыя грошы. Гэта была самая чыстая яснасць думкі і, можа, нават ад узбуджанасці, бо, як гаварыла пасля яго жонка, ён ніколі не вызначаўся асаблівай выдатнасцю логікі ў думках. Самае большае і мацнейшае, што ў яго было, гэта ўпартае трыманне таго, што яму здаецца праўдай. А меркаваць наконт таго, наколькі гэтая «праўда» ёсць праўда, ён не быў вялікі ахвотнік. У гэтым сэнсе ён быў — супрацьлегласць жонцы. Яна бачыла, што можа быць заўтра. Магла здагадвацца, як яно пойдзе на паслязаўтра. Яна думала пра тое, што калі сёння павыбіваліся з зямлі на ясны свет хвойкі, то праз гады тут будзе лес. Ён жа ўяўляў свет так, як яго бачыў у той момант, калі глядзеў на яго.

«Свет! Свет, у якім жыве і на які глядзіць чалавек! Ён цяпер будзе не страшны! Цяпер ёсць паратунак! Няхай сабе будуць войны і трывогі, моцны будзе ратавацца ад няшчасця. Мацнейшаму будзе лёгка ратавацца, слабейшаму цяжка, зусім слабы не вытрымае і згіне. А я цяпер смелы».

Такім адчуваннем поўнілася ўся яго душа, калі ён нёс знойдзеныя грошы.

Чым бліжэй падыходзіў ён дадому, тым трывожнейшы рабіўся. Раптам усё гэта пачало яго гнясці і мучыць. У адну хвіліну ясныя колеры зменьваліся змрочнымі, пасля зноў успыхвала яснасць. Так бывае ў слабавольных натур. У моцных жа гэта бывае ў моманты найвялікшых утрапенняў, калі ўжо і ад самай моцы іхняй натуры на той момант мала што астаецца.

Міхал Тварыцкі ўвайшоў у хату ціхом і вінавата паглядзеў на жонку.

— Цэлы дзень ты недзе хадзіў.

— Усялякія інтарэсы.

— Ты зноў стаў нейкі дзіўны. Туляешся, мала гаворыш, людзі бачылі, што ты нечага паўз лес і па лесе ходзіш, кінуўшы араць. Што ты, зноў грошы шукаеш, ці што?

Гэта слова патрапіла ў самую цэль. Яна ўспомніла тыя дзве першыя трохрублёўкі і сказала жартам, а ён збялеў, збянтэжыўся. Але адагнаў ад сябе гэтую слабасць адразу. Ён гукнуў:

— Ідзі ты к чорту!

Яна жахнулася: можа, і праўда грошы шукае, калі спачатку так сумеўся, а пасля так хвараніта крычыць. Раптам яе страсянула думка, у якую яна і сама не верыла: а можа, гэта ён сам прычынен як-небудзь да таго забойства? Бо што з ім робіцца? Яе яшчэ пеканула думка пра тое, што як гаварыў ён ёй тады навіну пра труп і знойдзеныя дзве трохрублёўкі, то сказаў: «каб нікому ні слова». Што ж ён такое не сказаў мне, пра што трэба маўчаць?

— Слухай, Міхалка,— паклала яна яму рукі на плечы,— ты мне ўсё скажы, што цябе мучыць. Ты нешта хаваеш ад мяне.

— Адчапіся, што табе здаецца?

«Каб людская жонка, можна было б разам з ёю рабіць усё, а то туляйся, як ад ворага»,— так ён думаў і злаваў.

— Ты крычыш? Гавары мне ўсё!

— Ідзі вон!

І тут жа, гукнуўшы, падумаў: «Трэба будзе ўночы грошы гэтыя дзе-небудзь перахаваць, трэба, каб яна за мной не падглядала, няхай паспакайнее». І ён сказаў:

— Крычу, бо ты мяне з цярплівасці выводзіш. Якія грошы шукаў, што ты выдумляеш! — І не вытрымаў да канца ролі. Раптам закрычаў: — Што за допыты ты тут мне робіш?

Зазлавала цяпер і яна.

— А чаго ты гаварыў мне тады, што каб нікому ні слова! Можа, грошы знайшоў і хацеў прызнацца, а пасля ўтаіў. І на мяне крык паднімаеш, калі я з табой гавару па добрасці.

— Твая гэтая добрасць — мне няшчасце.

— Няшчасце? Ты рубля шкадуеш даць на дзіця, а крычыш, што ты любіш і шкадуеш яго. (Яна плакала.) Калі ты так вар'юешся, то, мусіць, нешта зрабіў нядобрае.

Ён знайшоў зручны момант. Выйшаў з хаты, ляпнуўшы дзвярыма. Было цёмна. Ён узяў за вуглом рыдлёўку і пайшоў пад гумно. Даўно ўжо быў вечар. Распагоджвалася. Халадала. У гумне ён выцягнуў з-пад сена грошы, запакаваў у скрынку, шчыльна накрыў зверху дошкай і хацеў забіць, але баяўся стуку. Усё прыслухоўваўся, ці не ідзе «яна». Выйшаў за гумно, дзе пачыналася поле. Там былі заднія гуменныя дзверы і над імі вузенькая падпаветка — вытыркаў кавалак страхі, каб дождж не зася-

каў. Там ён у гэтым сухім месцы і пачаў капаць зямлю. Паставіў у яму скрынку і засыпаў. А зверху пацярушыў саломы, прынёс з дрывотніка дробнай кары і прысыпаў.

Увайшоў у хату і не сказаў жонцы ні слова. З гэтай хвіліны ён стаў як бы ўраўнаважаны. Было падобна, што дайшоў да звычайнага свайго стану. Вельмі многа рабіў, нават больш як раней. Здавалася,— яму вялікая асалода ў рабоце, нават лішняй: ён пааблямаваў плугам ад дарогі свой палетак, перавіў нанава плот, хоць ён быў яшчэ моцны. Пачаў рабіць сані, хоць і старыя былі зусім як новыя. Нельга было нічога дрэннага падумаць, гледзячы на гэтага нявіннага працавіка. З жонкай ён пачаў абыходзіцца лепш, і яна паспакайнела.

Ён меў прывычку да самых халадоў спаць у сенцах. Аднойчы (было яшчэ цёмна) яна ўстала і пайшла з ліхтаром у пограб. Ён спаў і не чуў, як яна праходзіла праз сенцы. Яна спынілася ля яго, соннага, і пачала аглядаць яго адзежу. Кішэні былі пустыя. Тады яна падышла бліжэй да пасцелі. Заўважыла, што пад падушкай у яго штосьці ёсць, старанна завязанае ў хустачку. Хустачка была малая і не закрывала як належыць таго, што было ў ёй. Льга было заўважыць зеленаваты колер. Ціхом, баючыся дыхнуць, яна падсадзіла руку пад падушку і пачала цягнуць. Ён спаў, напрацаваўшыся за дзень. Яна адвярнулася, каб не свяціць яму ў вочы, і паглядзела. У хустачцы быў пачак новых трохрублёвак, крыху змятых ад таго, што іх насілі ў кішэні ці за пазухай. Яна вярнулася ў хату, паставіла на зямлю ліхтар і падперла рукой твар. Дзве маўклівыя слязіны ўпалі з яе твару на зямлю.

«Нават калі і не прычынен ён да забойства, то ці не зрабіў якога-небудзь іншага тут злачынства? Адкуль у яго гэтыя грошы? Новенькія трохрублёўкі. Што ён ад мяне, ад людзей, ад следства, ад улады хавае? Чаму ён такі? Ці ён напалоханы чым-небудзь і шукае для сябе толькі аднаго ратунку?»

Яна была так аглушана, што сама з сабой гаварыла. Такі кірунак думак паказваў на яе здатнасць думаць і разбірацца ў справах.

Яна сядзела так доўга. У цьмяным свеце ліхтара постаць яе была вялікая, важная. Рыжаватыя валасы густа звісалі над скронямі, твар, ледзь крануты рэшткамі не сышоўшага яшчэ з лета загару, быў у гэтыя моманты як акамянелы. Яна чула, як ён устаў, як грукаў ботамі, як грукаў нечым драўляным — шукаў, мусіць, грошай. На-

рэшце ён увайшоў у хату і нічога не сказаў. Моўчкі перапароў шуфляду ў стале, перамацаў кішэні ў вопратках.

— Грошы згубіў! — сказала яна з пагардлівым здзекам.

Ён маўкліва паглядзеў на яе.

— У мяне твае грошы. На. Дзе ты іх узяў?

— Зарабіў.

— Каля трупа?

— Знайшоў на дарозе.

— Гэта пра іх казаў, што каб нікому ні слова?

— Пра іх.

— А колькі больш знайшоў?

— Больш не.

— Брэшаш!

«Яна ведае, падглядзела. Ці на маны гаворыць, ловіць мяне? Мая ўласная жонка ловіць мяне?»

— Сціхні! Дай есці, мне трэба за работу брацца!

— Прызнайся мне ва ўсім.

— Ты лазіш уночы па маіх кішэнях? Шукаеш у мяне пад галавою? Я напрацуюся за дзень і сплю як забіты, мне ўсё цела ные ад працы, а ты... Чаго ты шнырыш па маіх кішэнях?

Ён хапіў са стала хлеб і шпурнуў у яе. Дзяўчынка сядзела на пасцелі. Яна закрычала, заплакала. Ён крыкнуў:

— Цераз цябе дзіця спакою не мае, калоціцца, расце, як у брыдкіх людзей.

— Не чапай дзіцяці! Апякун такі знайшоўся!

Яна падышла да дзяўчынкі і прытуліла да сябе. Ён ірвануў яе за руку:

— Адыдзі! Мая дачка, маё прозвішча носіць!

— Вон! — загадала яна.

Твар яе стаў сухі. Кусаючы губы, ён падаўся к сталу. Угнуў плечы, варушыў губамі і барадой, адкусваў паперку, сыпаў у яе з кішэні махорку, паклаў незакураную папяросу ў кішэню, пасля дастаў назад, закурыў, падышоў да самага акна і глядзеў у поле. Пасля выцягнуў з-за печы брусок і пачаў вастрыць сякеру. Бруском пацягнуў разоў дваццаць, паклаў яго назад, сякеру заткнуў за папружку, нагнуўся і падняў з зямлі хлеб. Адламаў кавалак, запхнуў за пазуху, другі кавалак пачаў есці, дастаў з паліцы сала, разы два ўкусіў, шпурнуў і хлеб і сала на стол, шырока расставіў ногі і закрычаў:

— Чаго ты на мяне глядзіш? Вачэй не зводзіш!

Рушыў к дзвярам. Яна загарадзіла яму дарогу:

— Так ты не выйдзеш з хаты! Ты ўсё мне раскажаш! Ты маўчыш? Ты мяне за чалавека не маеш? А сам ты — чалавек? Ты зверам робішся! У цябе душа, як у гада. Я думала, што ты паразумнееш, што ты будзеш магчы пераступіць часамі і высокі цяжкі парог, калі трэба. А ты такі самы і астаўся, як і змалку быў. Я за цябе пайшла, я шанавала ў табе працавітасць, але ў які бок ты скіроўваеш гэтую сваю працавітасць?

Ён адапхнуў яе і выйшаў. Праз хвілін дзесяць ён выехаў з плугам на поле і араў цэлы дзень. Увечары прыехаў, моўчкі з'еў хлеба і кінуўся на пасцель.

— Зося,— сказаў ён, шукаючы прымірэння.— Мне халодна, накрый мяне зверху чым... Ты гэтыя грошы, трыста рублёў, занясі ў сельсавет і аддай. І скажы, што пры дарозе ў лесе знайшлі. Скажы, што нядаўна, што ўчора знайшлі. А то будуць пытацца, чаму раней не аддалі. Скажы, што ты знайшла, бо мяне ўжо два разы дапытвалі. А на цябе нічога і думаць не будуць, на цябе там вока маюць, ты ў сельсавеце ўсё адно як дэлегатка якая лічышся.

— Не, ты грошы сам аддай. І ўсе аддай. Я табе не веру, што трыста рублёў. Падумай сам, як жа я табе буду верыць! Ты ж мне праўды не гаворыш, каб я сама не знайшла, то ты ад мяне таіўся б. Падумай сам — гэта не якія-небудзь Скуратовічавы грошы, гэта з дзяржаўнага банка ўкрадзены. Як я гавару, так ты і зрабі. Я не пайду. Што ж ты маўчыш?

— Вон!

Ён усхапіўся, хапіў пад паху кажух і кінуўся ў пуню. Яна чула з сянец, як ён, пакуль заснуць, доўга стагнаў там і лаяўся.

Так пайшлі дзень за днём. Яна яму не верыла аніяк. Яна была ўпэўнена, што ён штосьці ведае пра ўсе гэтыя справы і маўчыць. А можа, нават сам туды ўмешан? З яе думак не выходзілі колішнія справы з Скуратовічам, калі яму было чатырнаццаць год. З кожным днём яны ўсё больш пачыналі ненавідзець адно аднаго. Грызня была траха не кожны дзень. Ім было праціўна быць блізка разам. Тую работу, якая вымагала гэтай блізасці, яны craраліся як мага хутчэй скончыць, збыць з рук. Так яны малацілі ў два цапы, так ссыпалі ў пограб бульбу. Калі малацілі, то першы пасад збілі абы-як. Пасля заўважылі, што ў каласах асталося шмат зерня. Праклінаючы ў дум-

ках увесь свет, яны перабілі салому нанава. Нарэшце пачалі рабіць работу па адным. Так было ім лягчэй. Япа дамагалася ад яго праўдзівага прызнання. Ён або адмоўчваўся, або крычаў і лаяўся. Нарэшце прыйшоў момант, калі зроблен быў канец усёй гэтай пакуце.

Быў марозлівы дзень. Снегавыя хмары стаялі над лесам. Зося цэлы дзень малола ў жорнах. Ён нешта корпаўся ў гумне. Перад змрокам яна села на парог, глядзела на прымёрзлую зямлю. На душы ў яе было чорна, ад жорнаў балелі рукі і плечы. «Больш ніколі не буду малоць. Нашто мне гэтак ірвацца!» Ён ішоў з гумна.

— Што, утамілася? Гэта цябе нічому не вучыць?

— Вучыць. Больш так мучыцца не буду, калі навокал млыны стаяць.

— Ага! А там дарма табе зробяць? Ты хочаш усё ад сябе раскідаць і каб было за што па-панску жыць, каб лёгка рабіць, каб не самому, а каб недзе табе ўсё гатовае, зробленае... Каб гэтыя трыста рублёў я і ўтаіў, то гэта на згубу нам пайшло б? З банка прапала, то туды больш прывязуць і пакладуць, банк пуставаць не будзе. А тут — жыць лягчэй можна было б! У цябе адна рука не ведае, што робіць другая.

— Ты на такую дарогу ідзеш? Ты так думаеш ратавацца?

— А, ты зноў? Гэтага ніколі не будзе. Грошы можна аддаць, а гаспадаркі рашаць я не буду. Каму я аддам яе? Калгасу? Каб там усё згінула, прапала?

— Людзі ўжо блізка год жывуць і не прападаюць.

— То прападуць!

— Я не буду ў гэтай нары! Я не хачу ў гэтым пекле жорны круціць!

— Ну, то выбірайся к чорту вон!

— От што, ты паслухай...

— Я не буду цябе слухаць. На гэты кавалак я змалку кладу сілу і спрыяю сюды, на гэты кавалак, на сям'ю. Ты была б рада, каб я з хаты ўсё рашыў? Мая зборлівасць табе не па душы? Ты хочаш, каб у чорную гадзіну і дзіця маё зайшлося, за душой нічога не меўшы?

— Ты паслухай. Занясі, аддай грошы і раскажы ўсё, як было. Можа, ты ведаеш, то памажы следчым. Я табе не веру. Ты памятаеш, як тады, каб не я, то ты не памог бы з бандытамі расправіцца. Ты не сціскай зубоў, а зрабі ўсё, што я кажу. Бо калі не, то я сама пайду і ўсё

скажу. Зараз жа, сёння пайду. Ты чуў, напэўна, што следчы тры дні як зноў тут.

Ён не верыў, што яна можа сказаць. Яна ж жонка! Падагнуўшы плечы, ён пайшоў назад у гумно.

— Пойдзеш ці не? — гукнула яна яму ўслед.

Ён нават не азірнуўся. Тады яна ўвайшла ў хату, адзела дзяўчынку, узяла на рукі і пайшла.

— Я з злачынцам быць не хачу, і ў маёй сям'і злачынства не будзе! — крыкнула яна цераз двор.

Але ён быў у гумне. Чуў ці не чуў, але не паказаўся. Ён убачыў яе ўжо на дарозе. Ён падумаў, што яна хоча зусім сысці ад яго. Гэта не было яму непрыемна, хоць трывога і кальнула яго. Але ніколі ён не думаў, што яна пайшла заяўляць: «ёй жа самой будзе згуба, калі яго забяруць».

— Дзіця пакінь,— крыкнуў ён.— З такой маткай яно прападзе!

Яна азірнулася на яго голас і пайшла шпарчэй. Следчага яна знайшла ў сельсавеце. Там быў і старшыня сельсавета, і так некалькі чалавек, і старшыня калгаса.

— Што, Тварыцкая! — сказаў старшыня калгаса.— Можа, заяву прынесла, можа, угаварыла ўжо мужа ў калгас ісці?

— Гэта пасля можна, тут іншая справа... Я вам хачу сказаць...— глянула яна на следчага.

Той выйшаў з ёю ў бакоўку. Яна расказала пра грошы, сказала ўсе свае думкі, сваю падазронасць.

— Можа, ён і ведае што. Я не кажу, што ён канешне вінават, але грошы гэтыя...

Людзі бачылі, як яна пасля гэтага ішла з дзіцем дадому. Сыпаўся дробны і мёрзлы снег. Неба шарэла нізка. У яе пад нагамі раскоўзвалася заледзянелая зямля. Яна глядзела далёка перад сабой, быццам старалася разгледзець штосьці за абледзянелым полем. Яна туліла да сябе дзіця, гаварыла з ім пра лес, паўз які ішла, пра снег, які сцірала з яго тварыка. Узнімаўся вечар, змрок пачаў рабіцца яснейшы. Хмары пайшлі за лясы, на небе ўжо адчуваліся першыя зоры. Яна любіла зорнае неба!

Пад дом яна падышла баючыся. Каб не дзіця, яна, можа, і зусім не пайшла б сюды. У вокнах цёмна. Яна пхнула дзверы — яны замкнёны. Падняла руку — ключ, як і заўсёды, схован над дзвярыма. Увайшла ў хату, накарміла дзяўчынку, паклала спаць. «Славачка, дачушка, спі, расці здарова. Будзь шчаслівa...» Славачка заснула,

паклаўшы кулачок на губы. Зося пайшла з хаты. Міхал яшчэ, здаецца, упарцей як калі працаваў. Пот цурком ліўся з яго. У гумне, пры такім газовачным святле, якое хутчэй было падобна да цемрыва, ён абчэсваў бервяно. Гэта не была пільная работа, але вельмі можа быць, што яна была яму тым, чым ёсць у пустыні страусу пясок, куды ён хавае ад страху сваю галаву. Ці было страшна гэтаму чалавеку цяпер? Не. Гэта можна сцвярджаць. «Уласная жонка не згубіць мяне». Але трывога, вялікая, незразумелая, змагалася ў ім з спакоем. І ён тапіў яе ў працы. Ён біў з-за вуха сякерай, гэты працавічок, лічачы сябе нявінным ахвярай перад усім светам і вельмі ж перад жонкай. А як жа! Ён жа хіба забіваў каго, ці абкрадаў, ці грабіць хадзіў? Гэтая нявінная авечка сваімі рукамі не мела дачынення ні да якога злачынства. Гэтая авечка арала і сеяла. І ў гэтую восень яшчэ больш як калі працавала! Хіба яна не выпоўзвала з плугам на поле, калі людзі яшчэ спалі? А грошы? Яна іх знайшла, а не крала!

«Жыццё ж няпэўнае, і кожнае стварэнне сваё месца павінна абгарадзіць... Дзіця малое! Слабенькая дзяўчынка! Можа, бацьку заб'юць на вайне калі-небудзь, а яна астанецца басаногая сірата. Хіба не павінен бацька падбаць пра яе? А тая справа, на якую гэтыя грошы былі прывезены ў банк? А што яму да таго! Гэта ўсё чужыя людзі, ён іх ніколі не бачыў і, можа, бачыць не будзе. Пайдзі, паспрабуй папрасі ў іх чаго. Дадуць? Ніколі. Прыдбаеш — будзеш мець. А не прыдбаеш — не будзеш мець».

— Слухай,— перарвала жонка яго думкі.— Я заявіла.

Ён выпрастаўся над абчэсанай дзеравячынай, спусціў да нагі сякеру. Абцёр рукавом пот з ілба. Штосьці накшталт усмешкі з'явілася на яго цёмным ад брыдкага святла і неахайнасці твары.

— Заявіла?

— Я заявіла. Следчы ўжо ведае, што ты знайшоў грошы і не аддаеш іх. Падазронасць на цябе кладзецца, што ты больш недзе хаваеш грошы. Цяпер старайся давесці, што ты толькі іх знайшоў, калі гэта сапраўды так. А калі не — прызнайся ва ўсім. Усё адно дазнаюцца, тады горш будзе.

Авечы твар раптам распоўзся ў сабачую грымасу і вышчарыў зубы.

Ён убачыў, што справа пайшла не на жарты, што жонка не прыйшла жартаваць з ім. Ён падняў з-пад ног ся-

керу, яшчэ чамусьці пацёр ёю аб жывот і, раптам размахнуўшыся, кінуў на жонку. Яна стаяла ад яго даволі далёка, у самых дзвярах, бліжэй не падыходзіла. Але сякера ўсё ж кранула яе плячо. Жанчына хістанулася, крыкнула, яшчэ не разабраўшыся добра, што здарылася:

— Вар'ят!.. Што ты...

— Вар'ят? Што я раблю? А ты што робіш!

Па-воўчы ляснуў зубамі.

Яна адчула боль у плячы і кінулася бегчы. Заціскаючы рукой рану, убегла ў хату. Пакінутая ёю нядаўна лямпа курадымела, але яна не магла спусціць агонь. Яна толькі падумала пра дзіця, што яно спіць і не прачнецца, мусіць, аж за поўнач, як заўсёды. Яна хацела апусціцца на лаву, страціўшы яснасць думак — што рабіць, і з'ехала на зямлю. Неўзабаве ўбег у хату ён. Вочы яго бегалі па сценах, па рэчах, ён як бы шукаў чаго. Нарэшце падбег да дзіцяці. Як шалёны, ён нагнуўся над дзіцём і казытнуў яго сваёй неахайнай барадой. Дзіця заварушылася. Ён штосьці прахрыпеў (нешта хацеў сказаць), азірнуўся на хату. Зося ляжала на зямлі. З пляча ў яе сачылася кроў. Выскачыў на двор і пайшоў слізкім няроўным полем. Лёд трашчаў і лопаў у яго пад нагамі. Праз хвіліну ён пусціўся бегчы. Так дабег да бліжэйшай хаты. У вокнах свяціўся агонь.

— Зайдзіце зараз жа да Міхала Тварыцкага! — гукнуў ён у самую шыбу.

І адразу адскочыў ад акна, каб яго не пазналі. «Дзіця яшчэ зусім малое»,— мармытаў ён, ідучы полем. Цяпер ён ішоў зусім павалі. Ногі як бы прырасталі да зямлі. Перад ім ціха чарнеў лес. Выносістыя хвоі як застылі. Ён прыпёрся плечуком да дрэва. Загрымела ў вушах, віхор іскраў ірвануўся ў вочы. Шпаркай хадою кінуўся ўздоўж сцежкі. От рэчка. Праз лёд дзесьці прабіваецца вада. «Тут ляжаў Сэдас! Сэдас ці не? Сэдас, гад, так яму і трэба». Не думаючы, ён пайшоў проста цераз рэчку на той бок. Лёд праламаўся, ён праваліўся па пояс у ваду. Ломячы лёд, рушыў назад к берагу, вылез наверх і ўжо, каб сагрэцца, пабег. Як дабег да сваёй хаты, зусім задыхаўся. Горача было. Мокрая адзежа ацякла і правяла. У хаце гарэлі дзве лямпы і былі людзі. Ён сеў на прызбу і пачаў слухаць, што гавораць. Ніводнага слова не разабраў. Пайшоў назад пад гумно, абышоў яго. Каля задніх дзвярэй нагнуўся, грабянуў рукой. Дробная кара з дрывотніка набілася ў пальцы. «За такія мае пакуты аддаць

ім грошы? Не знойдуць! Трыста рублёў знайшоў, і ўсё... Нашто я сякеру кінуў! Божа мой, гэта горш як грошы... Увайсці цяпер у хату? Сысці зусім з гэтай мясцовасці?»

Ён паволі ішоў паўз гуменную сцяну. Бралася на дзень, неба палавела, шэрыя палотны цягліся на ўсходзе.

— Хто? Стой!

Ён прыціснуўся к сцяне.

— Выходзь! Хто? Страляю.

Ён пачуў сухі стук вінтовачнага жалеза. Сілуэт чалавека застыў на крокаў дваццаць ад яго, на выхадзе ў двор. Ён адышоўся ад сцяны.

— Рукі ўгару і ідзі ў хату! Хто? Як завешся?

Ён пайшоў у хату. Чалавек з вінтоўкай рушыў за ім. Жанчына ляжала на пасцелі і стагнала. Местачковы доктар (ён адразу пазнаў яго) перавязваў ёй плячо. Былі людзі. Міліцыяпер стаяў пасярод хаты. Міхал Тварыцкі папрасіў дазволу пераадзецца ў сухое.

## IV

— Мама, дзе наш тата? — запытала Слава.

— Тата паехаў, ён пасля прыедзе.

— Ён паехаў зарабіць грошай, каб нам лепш жыць?

— Паехаў зарабіць грошай.

— Ён мне казаў, што ўсё стараецца, зарабляе і ён нашу хату зрабіў, дык нам і ёсць дзе жыць. А каб не зрабіў хаты, то мы жылі б на дварэ і нам было б холадна. А калі будзе вайна, то нас выганяць з хаты, бо ўсе людзі брыдкія і не шкадуюць нас. Мама, раскажы мне, якая вайна. Ты бачыла вайну?

— Вайны не будзе, і ніхто ніколі нас з хаты не выганіць. Нам будзе добра жыць.

— А чаму ж тата гаварыў? Ён нёс мяне на руках і гаварыў мне.

— Ён не ведае, гэта яму так сабе здалося.

— Ён ведае. Ён нават умее хату зрабіць.

— Ты будзеш, Славачка, падрастаць і ўбачыш, што не трэба нічога баяцца, а смелай быць.

— Добра, я не буду баяцца.

— Калі не будзеш баяцца, то будзеш харошая.

— А чаму ж тата баіцца?

— І ён не баіцца, а так сабе гаварыў.

— Ну, добра.

Маці адзела Славу, вынесла на двор, пасадзіла пры

асветленай сонцам сцяне і сама пачала сеч дровы. Сонца грэла слаба, насеяны за ноч сухі снег пад ім не раставаў, але пры сцяне было зацішна і нават цёпла. На небе стаяла бледная яснасць, над зубчастым верхам лесу стаяла хмара — пульхная нерухомасць, з ясным верхам і цёмным сподам.

— Мама, гэта хмара?

— Хмара.

— А хто гэта робіць хмары?

— Самі робяцца.

— А як яны робяцца?

І, не дачакаўшыся адказу, дзіця саскочыла з бервяна, на якім сядзела, і памчалася ў канец двара. З-пад каменя дастала яно шкло з жоўтай бутэлькі, прыбегла назад, прыклала шкло да вока і пачало разглядаць хмару.

— Дзе ты гэтае шкло зноў узяла? Твар парэжаш!

— Я хаваю гэты фарфурак пад камень, бо ты ж на мяне за яго крычыш. Мама, паглядзі, якая страшная хмара! Як будзе вайна — таксама ўсё будзе страшна, як праз фарфурак хмара? І лес страшны, і поле, і ты страшная. Мама, паглядзі праз фарфурак на мяне — я таксама страшная?

Маці падышла да дзіцяці.

— Дачушка, ты ж была ў лесе. Хіба там страшна? Там зялёныя дрэвы, там мы з табой грыбы знаходзілі, там мы многа птушак бачылі. Гэтаксама і на полі. Гэта толькі здаецца, праз шкло гледзячы. А так — хіба ж страшна? А хіба я страшная?

— Не, ты не страшная.

— Тату ўсё здавалася, таксама як табе, калі ты праз шкло глядзіш. Ты закінь куды далёка гэтае шкло, ты ж сама сябе палохаеш. Нашто табе праз шкло глядзець. Я табе знайду лепшую цацку. Ты пасядзі на сонцы, я раскалю дроў, пойдзем з табой у гумно.

Яна ўзяла ў дзіцяці шкло і закінула далёка.

«Што ён мог бы зрабіць з гэтага дзіцяці?»

Усе гэтыя часы яна не спускала з сваіх вачэй дзіця, часта з ім гаварыла і знаходзіла разрыўку ў бесперапыннай рабоце. Яна клікала да сябе суседніх дзяцей і старалася, каб Слава была найбольш з імі, а не адна.

Зіма ўсталёўвалася паволі. Снегу было мала, на каляінiстых дарогах чарнелі мёрзлыя земляныя гузы. Скачучы па іх управа і ўлева, аднойчы пад'ехаў сюды лёгкі аўта-

мабіль і спыніўся каля хаты. Быў вечар, дарога пустая, суседнія хаты стаялі наводдалек, машына ішла ціха — і ніхто не прыйшоў стаяць тут і абмацваць машынныя колы. З машыны выйшаў даволі высокі чалавек, вайсковец з выгляду. У хаце ён убачыў жанчыну — яна шыла, прыгінаючыся к лямпе над нізкім сталом. Хата без падлогі, на зямлі накідана дроў, дробных калодачак, бульбін. Сярод іх корпалася дзяўчынка: яна ставіла палена і наверх клала бульбіну. Бульбіна і палена падалі, і дзяўчынка залівалася рогатам.

— Мама, чаму ты не глядзіш, бачыш жа — дурань падае, і галава з яго звальваецца.

Праз хвіліну было зноў тое самае. Вайсковец даў добры вечар, пацёр рукі, падыходзячы да жанчыны, якая здзіўлена глядзела на яго, устаўшы з свайго месца. Дзяўчынка падымчалася к маці, абняла яе за ногі і зашаптала:

— Мама, гэта вайна ўжо?

— Яна баіцца вайны? — сказаў вайсковец і пагладзіў дзяўчынку па галаве.

Жанчына не ведала, што адказаць; дзяўчынка зазірнула вайскоўцу ў твар і пасмялела. Яе ўжо цікавілі яго чырвоныя пятліцы.

— Вы Тварыцкая? — запытаў вайсковец.

— Тварыцкая.

— Вам, вядома, цяжка мяне пазнаць. Я таксама вас ніколі не пазнаў бы. Быў час, калі вы яшчэ былі малая, мы з вамі бачыліся, гаварылі; вельмі даўно было, я хацеў з вамі ў тыя часы другі раз пабачыцца і замест вашай хаты ўбачыў пажарышча.

— Я не магу вас ніяк успомніць,— сказала яна, і ён заўважыў у яе голасе ноткі нейкай як бы надзеі.

— Я Назарэўскі. Памятаеце, чырвонаармеец хворы ехаў?

— Назарэўскага я памятаю. (Твар яе пабялеў.) Я ўсё чыста памятаю, што тады было; тады так цяжка мне прыходзілася.

Не ведаючы, як трымацца ў гэтую мінуту перад Назарэўскім, нават не здагадваючыся, чаго ён сюды прыехаў, яна сабрала ўсе свае сілы, каб гаварыць спакойна і не даваць волю слязам, якія падступалі к горлу.

— Вам і цяпер цяжка прыходзіцца.

Ён змоўк і сам прыбянтэжыўся. Парывістым рухам яна ўскінула на яго вочы, і раптам уся яе штучная спа-

койнасць скончылася. І гэтулькі было ў яе вачах просьбы аб спачуванні і скаргі на пакуты душы, што чулы чалавек мог жахнуцца ад гэтага малюнка. Яна плакала ціха і доўга, і ён сядзеў і моўчкі глядзеў на яе. Пасля яна паспакайнела, аблягчыўшы душу слязьмі, і сталым позіркам акінула Назарэўскага. Перад ёю стаяў не той колішні змучаны, худы, з зямлістым тварам, у вываленым у зямлі шынялі, чырвонаармеец. Гэта быў зусім іншы чалавек. Можа, хіба захаваўся без змен голас, але ж яго голасу яна не памятала. Гэта быў чысты і зграбны чалавек, з белымі рукамі і гладка выбрытым тварам. Шэры колер яго шыняля быў цямнейшы за звычайны колер вайсковага шыняля; пояса на ім не было. Валасы на яго галаве былі здорава крануты сівізной. У гэты момант ёй здалося: з тым Назарэўскім можна было пра ўсё гаварыць, з гэтым — хто яго ведае. Але тут яна падумала пра яго сівыя валасы: «Ён яшчэ вельмі малады, а ўжо сівы». І раптам рысы яго твару сталі такія самыя, як былі тады, многа год таму назад. Толькі ён пастарэў, дзве тонкія маршчынкі ляжалі ўжо ў яго каля рота. Так жа сама цёплай разважлівасцю свяціліся вочы, так жа сама спакойная ўсмешка часта з'яўлялася ў яго, калі ён гаварыў. Як ёй хацелася ўжо цяпер адкрыць яму сваю душу! Ён угадаў усё, ён бачыў яе імкненне, ён чытаў яго на ўсіх рысах яе, маўклівага ў гэты момант, твару. І ён аблягчыў яе душу, знімаючы нейкую невядомую прыкрасць з свае душы і адчуваючы радасць душэўнага збліжэння з гэтай жанчынай, колішнім тым недаросткам-парабчанкай, якая ў тыя далёкія часы так імкнулася да яго і ненавідзела свайго гаспадара Скуратовіча. Прывыкшы разумець людзей, ён адчуваў усе парывы яе душы.

— Усё будзе добра, усё стане як не трэба лепш,— сказаў ён.— А на душы, вядома, цяжка,— гэта не жарты ўсё, што здарылася ў вашым жыцці.

Яна пачала здагадвацца, што яго прыезд мае нейкае дачыненне да справы яе з мужам.

— Я рабіла ўсё ад шчырай душы. Мне яго шкада, я плачу над ім, ён гэтулькі вынес гора з самых малых сваіх год.

— Ён скалечаны чалавек, і яго душу трэба лячыць.

— Праўда, праўда! — зноў заплакала яна, з удзячнасцю гледзячы яму ў вочы, хапаючыся за яго гэтыя словы, як тапелец за саломінку.

Ён аддаў бы ўсяго сябе, абы толькі стварыць ёй якую-небудзь уцеху ў гэты цяжкі для яе час. Тут ён штосьці ўспомніў.

— Я зараз прыйду назад,— сказаў ён, выходзячы на двор да свае машыны.

Праз мінуты тры ён увайшоў назад у хату з нейкім папяровым скруткам у руках.

— Я забыўся адразу прынесці,— сказаў ён, бадай што бянтэжачыся, і высыпаў на лаву з паперы некалькі каляровых дзіцячых цацак. Як загарэліся Славіны вочы!

— Мама! — закрычала дзяўчынка, захапляючыся ў першы момант пакуль што толькі колерамі. Назарэўскі ўзяў Славу на рукі і пасадзіў на лаву.

— Мама! Мама! — некалькі разоў выгукнула дзяўчынка і прыгарнула да сябе цацкі. З гэтай мінуты яна, апроч сваіх цацак, нічога ўжо не бачыла і не чула.

— Адкуль жа вы ведалі, што ў мяне ёсць дзяўчынка?

— Мне расказаў Тварыцкі. Вы не думайце, што тут такая ўжо нечаканасць ці лёс які-небудзь. Я працаваў у цэнтры ўвесь гэты час. А як адбылася ўся гэтая цёмная справа, я сам папрасіўся сюды паехаць, і са мной згадзіліся. Можа, мне лягчэй, як каму, тут усё высветліць. Я ведаю і людзей, і мясцовасць, і мінулыя справы. Так яно і выйшла. Я тут нядаўна, а ўжо многа чаго выясніў.

— То слухайце,— устрапянулася яна,— вінават ён ці не? Ці ён толькі знайшоў грошы, ці можа... (з мінуту ні слова). Ці ўсяго трыста рублёў ён знайшоў, ці больш? Ён прызнаўся?

— Гэта яшчэ не высветлена, ці знайшоў ён грошы, ці забраў. Вядома толькі, што ў яго вялікая сума грошай і іх трэба знайсці. Я таму прыехаў да вас. Вы многа значыце для савецкай улады, і вы гэта самі ведаеце. Я памятаю, як тады ў Скуратовіча авёс жалі; а пасля дачуўся, што вашага бацьку і малога брата малады Скуратовіч з сваёй бандай...

— Гэта ён зрабіў?

Яна заварушылася ўся.

— Яны. Пасля разграмілі банду... Слухайце, Зося, памажыце знайсці грошы. Зрабіце ўсё, што можаце, каб знайсці.

— Добра, я не буду мець спакойнай часіны, пакуль не знойдуцца грошы. Я ўвесь час буду шукаць.

— Я да вас яшчэ зайду, цераз дзень які... Што вы самі пра ўсю гэтую справу думаеце?

— Што я магу думаць? Што я ведала і што думала — адразу тады расказала. Мне было цяжка з ім жыць... І я вам скажу чаму. Яшчэ з тых часоў, калі ён пасвіў каровы ў Скуратовіча... Яго бацька быў галодны і хворы... Скуратовіч меў многа ўсяго...

Твар Кандрата Назарэўскага праясніўся ўсімі жывымі рысамі. Ён слухаў. Жывыя карціны праходзілі ў яго вачах: вось яна наіўна пытае ў Скуратовіча, чаму ён не запрог лепшага каня, вось ён у яе хаце гаворыць з яе малым братам, забітым пасля бандытамі, вось яна цяпер перад ім гаворыць. Ён меў багатую практыку бачыць людзей навылёт, чытаць на іх тварах, разблытваць у іх душах тое, што яны і самі часам не могуць разблытаць.

— Часамі я яго ненавідзела, часамі шкадавала. Ён здолен быў здзекавацца з другога, ён здолен быў мучыць сваю сям'ю, а, здаецца, шчыра верыў, што дбае пра яе. Я часам думаю: чаму ён такі? Я не магу тут разабрацца... Дзе ваша сястра цяпер, Ірынка?

— Вы яе ведаеце?

Яна пачала расказваць пра колішні разбураны вакзал у гарадку, пераказала сцэну з Ірынкай і старым чалавекам з мехам, які бачыў у Ірынчыных пакутах хітрасць. Назарэўскі сказаў:

— Ірына скончыла інстытут. Паехала гэтым летам у госці да Несцяровіча, начальніка пабудовы электрастанцыі на балоце, каля Дзвюх Хат. Яна ў яго жыла некалі малая. І цяпер там асталася працаваць: на пабудове шмат людзей з сем'ямі і дзецьмі, папрыязджалі здалёк, прыйшлося там адмысловую школу адкрыць і дзіцячы сад. Гэтым яна і загадвае. Несцяровіч клапаціўся, каб яна там асталася...

Зося думала: «І пра Ірынку ён са мной шчыра гаворыць, і пра мяне, і пра першае спатканне на Скуратовічавым полі...»

Назарэўскі пагладзіў па галаве Славу.

— Як ты завешся, малая?

— Слава.

— Ты думала на мяне, што гэта вайна?

— Бо вайна страшная.

— А ты вайну бачыла?

— Тата казаў.

— А я хіба страшны?

Слава схавала твар, адвярнуўшыся да маці.

Назарэўскі працягнуў Зосі руку.

— Бывайце, Зося. Трымайце сябе ў руках, трымайце душу ў спакоі.

— А вы там ратуйце яго, каб ён стаў чалавекам; ён цяжка жыў малы...

Твар яе перасмыкнуўся, яна адвярнулася да акна, глытаючы слёзы.

Назарэўскі пабялеў і ўздрыгануўся. Ён чуў, які наказ дала Зося — гэты слаўны, разумны чалавек, да якога ён гарнуўся ўсім сваім сэрцам. Як яму хацелася не разлучацца з ёю ў гэтыя мінуты! Але ён не мог марудзіць нават на самы карацейшы момант.

Неўзабаве ён зачыніўся ў машыне, ужо трасучыся па гэтай палявой дарозе, якая нічога ніколі не бачыла, апроч сялянскіх колаў, ён думаў аб малой дзяўчынцы Славе, якая пачынае ўжо баяцца свету, яшчэ не дайшоўшы яго праўдзівага сэнсу.

Аўтамабіль уехаў у яловы лес. Назарэўскі папрасіў шафёра ехаць самым ціхім, самым павольным ходам. Прычыніў дзверы, прыгнуўся к ім і дыхнуў на поўныя грудзі. Ад паху мёрзлага лесу магла закружыцца галава. Запаліў ліхтарык і трымаў у руцэ, накіраваўшы яго на сцяну ціхіх ялін. Сцяна гэтая ішла паволі, за ёю адчувалася спакойная цемень; зверху ляжала, поўная водыру, навісь, знізу — снегу яшчэ не было. Пад гэтым прыкрыццём мёрзлае зяленіва слалася паўз дарогу, ядловец пераліваўся ўсімі адценнямі зялёнага колеру. Каб чым даўжэй так ехаць і уціхамірваць душу!

У той самы час хтосьці ціхом пастукаў у акно Тварыцкіх хаты. Зося ўздрыганулася, падышла да акна. Асветлены з хаты, там прыткнуўся да шыбы дробны твар. Вельмі ж лезла ў вочы бародка, шчуплая і рэдзенькая, па адным воласе. Пасля ўжо, як чалавек увайшоў у хату, Зося пазнала ці, праўдзівей кажучы, успомніла. А спачатку яна не хацела адчыняць дзверы. Чалавек дробна сыпаў у шыбу.

— То вы кажаце, што Міхала Тварыцкага няма дома? Паехаў? Нічога, я дзе-небудзь на тапчанчыку або хоць на зямлі — куль саломы, братачка, і каб толькі здароўя, што за мілую душу пасплю і падамся заўтра далей... А, б-божа мой, яшчэ ж напэўна не знасілі таго кажуха, які я вам пашыў.

— То трэба адразу гаварыць, хто такі, а то — каб усе здагадаліся! — узлавалася Зося, адчыняючы дзверы.

Кажушаны кравец увайшоў у хату. Твар замакрэлы, кажушок злубянелы, нос пачырванеў. Кравец зняў шапку.

— Добры вечар у хату, як маецеся? Ого-о, малая ўжо якая вырасла!

— Не забыліся?

— Божа мой, дзе тут забыцца! Я дзе раз пабуду — аман. Навек у памяці астанецца. У вас жа я шыў, начаваў. Я навылёт ведаю ўсіх ад самых Дзвюх Хат і аж у той бок. (Ён махнуў рукой нешта ў шэсць ці ў сем бакоў.) То я вам скажу — падыходжу я пад Сцепуржынскага дом, зазірнуў у акно — аж там за сталом сям'іска, пане мой, сядзіць, можа, чалавек дваццаць, і з стала пара ў столь дае. Бачу — гарачую бульбу ядуць. І ўсё незнаёмыя людзі. Што за ліха, думаю, гэта ж не Сцепуржынскага сям'я. У таго сям'я — раз-два і ўсё. Пытаю — э-э, кажуць, Сцепуржынскага няма, раскулачан даўно. А-яй, што парабілася!

— Ён не раскулачан, а ўцёк, знік некуды перад самым раскулачваннем. Ніхто не ведае, дзе дзеўся. Папродаў каровы. Паламаў малатарню і дзеўся немаведама дзе.

— Глядзіце, ай!

— Распранайцеся, я вам зараз бульбы звару.

— А, калі ласка ваша, з дарогі гарачага... Я, сказаць, так... (Распранаючыся, чакаючы вячэры, ядучы, кладучыся спаць, расказваў.) Прыходжу сюды — трэба начаваць, ноч агарнула. Куды тут кінуцца! Я да Сцепуржынскага — вы думаеце, я там нанач не прытуліўся б? Гэтулькі я яму кажухоў за свой век пашыў. Ажно ж глядзі ты, што з ім выйшла? Я ж сабе прыйшоў спакойна, думаю — ну! У свой бок падаюся, пад Дзве Хаты. Я сядзеў-сядзеў, работы нідзе ніякай. Каля калгасаў гэтыя людзі цяпер кіпяць, як у гаршку варацца. То тым часам, братачка, я сабе так падумаў — што меў я сядзець без работы ды праядаць, што зарабіў дагэтуль, то тым часам... Я там хату наймаў — ат, якая там хата, на ліхога казана, кузня з крывым парогам. Усе гэтыя часы дагэтуль работы там было — хоць на дзесяцярых, а гэта — як нажом адрэзала. Сказаць праўду, то перад гэтым раскулачваннем некаторыя, як і чулі,— яшчэ за паўгода авечкі пазводзілі, рашылі і раптоўным парадкам аўчыны выраблялі і кажухі шылі — паехалі пасля ў тых кажухах па кулацкую выселку. Я, прызнацца, думаў спачатку астацца тут на векі вечныя, спадабалася тут мне і зямля, і людзі; так год і прасядзеў склаўшы рукі. А гэта, думаю сабе, братачка,

чую ад людзей — у маім жа баку, каля Дзвюх Хат, фабрыка такая людзям адкрылася, зарабляць можна. Няма кажуха шыць, то ёсць зямлю капаць або, можа, і лягчэйшае што. У газетах раз-пораз (гаспадарскі, дзе я жыў, хлопец кожны дзень усё газеты вычытвае) — каля Дзвюх Хат цераз балота асушальную канаву канчаюць, а цераз тыдзень у тых жа самых газетах так пішуць: з куп'істага логу пад Дзвюма Хатамі прапала ўся вада. То я і думаю, слухаючы: Дзве Хаты! То я ж адтуль родам, божа мой! Там жа мая хата стаіць, ліха матары вашай! (Зося адвярнулася і прыкусіла губу, каб не зарагатаць.) От я і пайшоў, якія там у мяне зборы: стол і тапчан — то гэта гаспадарскія, на стале я шыў, а на тапчане сядзеў. (Кравец зрабіў паўзу: дастаў з торбы сала і падсунуўся к бульбе. Абмацаў у пінжачнай кішэні пляскатую, часоў нямецкай вайны, пляшачку, пачаў адкручваць накрыўку. Пацягнуў з пляшкі, ахнуў, зморшчыўся, налёг на бульбу, падняў пляшачку ў руцэ.) Можа б, вы на апетыт узялі б кроплю? Не хочаце! Не п'яце! А можа, дзіця ў губу ўзяло б каліва? Спіць? Ну, няхай здарова спіць. Дзе я цяпер шыў, то яшчэ зямля лепшая, як у вас. Гэта туды, пад граніцу. Чорт яго ведае, можа, пяцьдзесят вёрст адгэтуль будзе, калі не ўсе шэсцьдзесят. Там свіней кормяць людзі — а-яя-яй! Бачыце, якое сала! Пакаштуйце. Ну, пакаштуйце, ну. От я вам адрэжу. (Адрэзаў, Зося села есці.) Там у іх свінагадоўчы саўгас — то каб вы паглядзелі! Парсюкі стаяць такія, што, каб я жыў, мядзведзь не ўбярэ. Як горы! Сала там на ім — дык — паўвагона. Збожжа там, агародніны ўсялякай. Кажуць, што з той іх мясцовасці вельмі нешта многа гарадоў свінінай жывяцца і яшчэ за граніцу пачалі гнаць. Там жа некалі быў такі свіны купец Хурс — купляў, перапродваў, адпраўляў — мільёны нажыў. Я яго раз бачыў калісьці, кажухі шыў у прыдарожнай хаце, а ён на пары коней з фурманам кацію. Колы адно ляскочуць, а сам — чарнявы, драбнатвары, пруткі капялюш.

Кравец пацягнуў з пляшкі. («Ах, добра ў дарозе».) Вочы яго сталі вузкімі, губа пачала перасмыквацца.

Асалавелы кравец вылез з-за стала і разоў пяць падзякаваў гаспадыні. Пачаў слацца на лаве, перакідаючы слова цераз слова:

— У свой бок падамся, такая слава цяпер пайшла пра Дзве Хаты. Якой хочаш работы там знойдзеш, такая фабрыка закруцілася там! Там жа прытулак, хата мая ўлас-

ная стаіць. Ого, свой куток! Прыйшоў — і дома, жыві сабе, абы здароўе. Спіце, гаспадынька, здаровенькія.

У наступную хвіліну ён ужо спаў здаравенным сном. Назаўтра ён пачаў збірацца ў дарогу яшчэ зацемна: спаць ён многа не прывык, а ногі яго не палохаліся ніякай дарогі. Гаспадыня яшчэ не ўставала.

— Куды ж ваш паехаў?

— Паехаў, трэба там было.

Зося хацела, каб ён хутчэй пайшоў. Яна баялася, што ён зноў распачне сваю бесканцовую гаворку. Кравец пайшоў. Зося стала пасярод хаты, як акамянела, не хацелася ні за што брацца. «Каб хоць хутчэй усё скончылася». Як развіднела — пайшла шукаць. За той дзень, да самага вечара, яна перапарола ўсё ў сваёй сялібе. Аставалася толькі хіба ўздзіраць гной у хляве. На гэта то яна ўжо не мела ніякага намеру. Нічога яна не знайшла, ніякіх нідзе грошай. «От даў работы,— думала яна пра Міхала,— няхай бы хоць сам адзін, дык яшчэ і другому спакою цераз яго няма». Вельмі вырасла да Міхала варожасць. Часамі нават з'яўляліся адзнакі зларадНага жадання: каб няйначай знайсці які-небудзь доказ яго вінаватасці. Увечары яна запаліла ліхтар і нанава перавярнула ўсё ў клеці. К вечару гэтага другога дня яна дайшла да самага большага напружання сваіх нерваў. Апанаваная чорным настроем, яна ўзялася за лямцаватую вопратку свайго мужа — тую самую аблезлую салдацкую целагрэйку, у якой ён прахадзіў усё тое лета і восень і якую скінуў з сябе тады, калі, у часе арышту, папрасіў дазволу пераадзецца ў сухое. Перамацваючы гэты запаскуджаны лахман, яна заўважыла, што ў адным месцы як бы што зашыта пад падшыўку. Пачала распорваць шво, расскубла счарнелую вату, і — вочы яе шырока расплюшчыліся, рукі асцярожна паклалі адзежыну на стол. Там быў зашыты пачак трохрублёвак. «Няхай так і ляжыць на стале, чапаць не буду, пакуль не з'явіцца Назарэўскі. Зноў трохрублёўкі? Якія? Тыя трыста рублёў забраў следчы. Першыя дзве трохрублёўкі ён сам аддаў. Значыцца, у яго больш было грошай. Недзе схаваў, а гэтыя зашыў — можа, які абыходак меўся мець з імі». (Так яно і было, пасля выявілася.) А калі будзе гаварыць, што гэтыя ўжо апошнія, што больш няма? Хто ж яму цяпер паверыць?

— Мама, чаму тата не прыязджае? — сказала Слава.

Маці нічога не адказала. Дзве слязіны скаціліся з вачэй на твар і так застылі. Яна ўстрапянулася, сціснула

губы. Калі дагэтуль яшчэ часамі надыходзілі моманты і хістанні, была няпэўнасць у дачыненні і да мужа і да свайго ўчынку, то з гэтай хвіліны яна перамагла ўсё гэта.

Назарэўскі з'явіўся якраз у часы такіх яе думак. Быў вечар. Зноў аўтамабіль ціхом спыніўся каля гэтай хаты.

Яна сказала Назарэўскаму:

— От грошы, я іх не вымала, так пакінула, як знайшла.

— Больш нідзе няма?

— Не знайшла. Я шукала ўсюды. Ужо больш няма дзе шукаць. Хіба дзе ў полі, за гэтыя пошукі я не вазьмуся.

— Што вы пра ўсё гэта думаеце?

— Думаю, што яму няможна верыць, калі ён будзе даводзіць, што гэта грошы апошнія. Раз ён увесь час мне хлусіў... Трэба дамагацца ад яго, каб сказаў, дзе больш грошы. А не — то няхай давядзе фактамі, а не пустым словам, што грошай у яго больш няма.

Твар Назарэўскага страціў сваю застыгласць. Назарэўскі працягнуў Зосі руку:

— Я веру вам ва ўсім. Я прыехаў нядаўна, памагчы следству. Я праглядаў пратаколы яго паказанняў. Ён бесперапынна гаворыць адно: знайшоў некалькі трохрублёвак, а пасля трыста рублёў. І ўсё. І больш нічога не ведае. Слухайце, што вы можаце тут дагадвацца ва ўсёй гэтай справе?

— Я многа думала яшчэ і раней. Ні да чаго не магу дадумацца.

— Ведаеце, гэта вялікая справа. Несцяровіч, стары партызан, ардэнаносец, заслужаны чалавек, начальнік усяго будаўніцтва — трапіў у такі стан, што ніхто не пазайздросціць. Частка работ спынілася на два месяцы — не было чым плаціць рабочым. Людзі пачалі разыходзіцца. Пасля зноў прыйшлося збіраць. Толькі такі чалавек, як Несцяровіч, мог не дапусціць да панікі і развалу. Каб дасканала было вядома, што забіты быў Сэдас — то можна было б меркаваць больш дакладна. Вы нічога не можаце разабрацца ў гэтай справе?

— Не, ні ад яго нічога не чула, ні сама не магу меркаваць.

Калі Назарэўскі выйшаў і паехаў, яна адчула сябе адзінокай.

Яна як бы чакала чаго, усё ішло ў яе і рабілася як да часу. Ні за што не хацелася брацца — так уся гэтая спра-

ва перaтрэсла яе. Яна чакала, каб хутчэй праходзіла зіма, хоць што будзе вясной — выразна пра гэта думак не было. З Славай разам яна старалася часцей бываць на людзях — гэта была ёй разрыўка. Яна запісалася ў калгас, здала ўсё, што трэба было, і пачала хадзіць на работу.

З тых людзей, якія вялі справу Міхала Тварыцкага, а значыцца, і ўсю тую справу, ніхто не мог сказаць — ці лічыць следства закончаным, ці не. Калі лічыць следства закончаным, то, значыцца, трэба пагадзіцца з тым, што нічога не высветлена, і няведама было — за што брацца далей, каб што-небудзь высветліць. Ясна было адно — толькі адзін Міхал Тварыцкі мог быць тым пунктам, з якога трэба пачынаць ход следства. У яго грошы, і ён бесперапынна хлусіў і жонцы, і следчым. Хто яму мог верыць? Ва ўсіх следчых работнікаў укаранілася думка: ён штосьці можа ведаць у гэтай справе, і мог бы памагчы разблытаць справу. Спачатку ён усё гаварыў: «хто гэта не пакваліўся б на грошы, калі знайшоў». Пасля ён пачаў спасылацца на сваю цемнату: «я цёмны чалавек, хіба я мог разабрацца, як мне лепш рабіць?»

— Вас жонка вучыла, як рабіць.

— Яна магла рашыць усё, і жыць не было б як. Яна такая.

— Якая?

— Дзень пражыць, і больш ёй нічога не трэба. А што я дзіцяці пакіну? Які спосаб у рукі дам? Дзіця перад векам сваім стаіць.

Пасля ён пачаў гаварыць пра сваё маленства, як яму цяжка прыходзілася, як ён прывык не шкадаваць у працы сваіх сіл.

— Я працавік, нікому кепскага не рабіў, я пот ліў.

— Гэта мы ведаем, што вы пот лілі, але таксама ведаем, што зрабілі і тое кепскае, якое вы адмаўляеце. Вы пашкодзілі вялікай справе тым, што не аддалі грошай.

— Трымастамі пашкодзіў?

— Вы хлусіце.

— Не, не хлушу.

— Вы гэта з поўным сумленнем гаворыце?

— З поўным сумленнем.

— А гэта вы бачылі калі-небудзь? (Следчы паказаў злямцаваную вопратку з грашыма ў бруднай ваце.) Нам вядома ўсё, толькі трэба, каб вы самі ўсё нам расказалі.

Тварыцкі пачаў траціць логіку, якую меў у сваёй гаворцы.

— Я думаў, гэта Сэдасавы грошы, а не банкаўскія.

— Мы ведаем лепш за вас, што гэта Сэдас. Але вы самі раскажыце.

— Не, я не ведаю, што гэта Сэдас, але мне так, як і ўсім, здалося...

— А мы ведаем, што гэта Сэдас. І калі вы не раскажаце ўсяго, то я супроць вас пастаўлю абвінавачванне, што гэта вы аграбілі банк, забілі Сэдаса, памаглі знікнуць таму, другому, з якім разам вы ўсё гэта зрабілі. Больш я гаварыць з вамі не буду. Як сабе хочаце.

— Калі якая напасць, усе на мяне, на беднага чалавека. Заўсёды на такога, як я. Ну, я знайшоў грошы, я быў рад — жыць будзе як.

— У вас банкаўскія грошы. Дзе яны? Або будзеце адказваць за ўсю справу, або ваша прызнанне зменшыць вашу віну.

Тварыцкі сядзеў белы, як мярцвяк. Тонкія губы яго штосьці шапталі — такое было ўражанне. Яго вывелі ад следчага. Цераз дзень ён сказаў:

— Усе грошы, якія я знайшоў, я схаваў за гумном, у дзвярах, прысыпаў карой з дрывотніка.

Назаўтра следчы, які сядзеў увесь час на месцы, атрымаў шыфраваную тэлеграму і з'явіўся ў Тварыцкага хату. Зося пайшла з ім к гумну. Было двое панятых. Раскапалі зямлю і дасталі скрынку з грашыма.

Назарэўскі да гэтага часу ўсё вывучаў блытаныя паказанні Міхала Тварыцкага — ён будзе гаварыць на судзе абвінаваўчую прамову. Суд будзе адбывацца там, на месцы, дзе тысячы рабочых рабілі справу змены мясцовасці і не маглі траха не два месяцы атрымаць поўны свой заработак: вялікія дзяржаўныя грошы ляжалі ў скрынцы, у зямлі, пад Тварыцкага гумном. Няма чаго і казаць, што пасля свайго прызнання Тварыцкі раптам стаў цікавай усім асобай. Кожны хацеў хоць паглядзець на гэтага чалавека, які «хто яго ведае, мала што ён гаворыць, што знайшоў гэтыя грошы, хто яму паверыць! Ён жа раней гаварыў, што зусім грошай гэтых няма ў яго. Гэта нічога, што ён у той час, як грабілі банк, сядзеў у сваім кутку, дома. Гэта, мусіць, проста, каб замесці сляды. А сапраўды, то ён самая жывая пружына ў гэтай ганебнай, цёмнай, заблытанай і дагэтуль нічым ніяк не высветленай справе». Можна сказаць, абсалютна такі настрой быў ва ўсёй той масе народа, якая з розных канцоў краіны сышлася сюды, на балота каля Дзвюх Хат на вялікую работу.

У той дзень было ясна, сонечна. Пасля паўдня моцна прыгрэла сонца, і з дрэваў закапала снегавая вада. (Былі апошнія дні лютага.) З самага ранку пачалі сыходзіцца людзі да аднапавярховага доўгага будынка з новага бярвення — клуб на пабудове. У гэтым клубе было тысяча дзвесце месц для сядзення. Яны былі заняты ўсе адразу. Густым натоўпам людзі стаялі ва ўсіх праходах. Былі не толькі рабочыя з пабудовы. Сышліся людзі і з навакольных вёсак. (Трэба сказаць, што многа народу з гэтых вёсак працавала тут, на пабудове.) Усе чакалі з нецярплівасцю. Нарэшце ўвялі Міхала Тварыцкага. Усе здзівіліся, што ён такі малады — такому ўражанню не перашкаджала і звычайная яго неахайная бародка, расчуханая, як і заўсёды, пальцамі ва ўсе бакі. Суд ішоў у атмасферы варожасці да падсуднага тысяч людзей, якія акуратна ўвечары пасля работы збіраліся ў клуб. Так, як і следства, суд не мог узбіцца на след — хто аграбіў банк. Фактычных доказаў на Тварыцкага не было; у той час ён, як і заўсёды, быў дома, нікуды не ад'язджаў і не адыходзіў.

Пасля ўжо суда, праз пэўны час, выявілася, што даволі было Тварыцкаму сказаць адно слова, як усё следства магло б скіравацца на правільную дарогу і, можа, нават захапіць у рукі першапачатковых злачынцаў. Але такога слова ён не сказаў ні следству, ні суду. Ні следчы, ні суд не пачулі нічога, хоць Кандрат Назарэўскі быў упэўнен у тым, што Тварыцкі тут штосьці ведае. У гэтым ён упэўніўся пасля сваёй двухразовай гаворкі з Тварыцкім яшчэ перад судом. Ён тады распытваў у Тварыцкага пра ўсе важныя, ці найбольш важныя, моманты ў яго жыцці, пачынаючы з самага маленства. І ў некаторых момантах Тварыцкі ні то што прагаварваўся, а як бы заблытваўся ў тым, расказаць пра што яму значыла б адмовіцца ад усіх сваіх прывычак, перакананняў, вытрасці з сябе сваю душу, перакроіць яе на іншы лад і пачынаць жыць спачатку. І ён сцінаў зубы і пачынаў згладжваць няроўнасці ў сваіх расказах. Тут выяўлялася яго інстынктыўная хітрасць, закаранелае трыманне толькі сябе самога.

Так што суд, нарэшце, стаў над адным пунктам, які быў ясны і даведзены: Тварыцкі трымаў у сябе ўкрадзеныя ў банку дзяржаўныя грошы. Грошай было шмат сот тысяч. Пры абкрадванні банка быў забіты чырвонаармеец, які займаў варту ля ўвахода ў банк. Тварыцкі закапаў грошы з цвёрдым намерам ніколі не аддаваць іх і прызнаўся ў гэтым толькі выпадкова. (Сам сказаў, калі яго

пачаў лавіць на словах следчы.) Тварыцкі ведаў, што з-за ўсяго гэтага ненармальна ішло будаўніцтва каля Дзвюх Хат, некаторая частка рабочых разышлася, спалохаўшыся цяжкасцей. Усё гэта перамаглося, але факт астаецца фактам. Міхал Тварыцкі рабіў замах на забойства жонкі за тое, што яна ўвесь час ішла на выкрыццё яго злачынства. Не ведаючы яшчэ, што ў яго вялікая сума грошай, жонка даводзіла яму ўсю шкоднасць яго ўчынкаў. Ён ішоў зусім свядома супроць яе праўдзівых доказаў.

Калі далі Тварыцкаму слова, ён, як умеў, гаварыў не пра самую справу, а пра тое, што ў жыцці ён шмат бачыў гора.

Пасля абвінаваўчай прамовы выступіў абаронца. Ён таксама пачаў з гэтага «гора» і з «жыццёвай забітасці» падсуднага. Вядома, усё гэта было так, але святло на гэта кідалася з пункту гледжання нейкай безвыходнасці, бесперспектыўнасці, з пункту гледжання пасіўнасці чалавека ў гэтым «горы» і як бы адчыняла дзверы ў сферы самаздаволення сваім песімізмам.

Прамова абаронцы была даволі доўгая, і ў адным месцы яе раптам пачуўся голас з публікі:

— Я таксама быў і пастушком, і парабкам. Значыцца, па-вашаму, мне можна дараваць, калі я, з сваіх уласных інтарэсаў, буду прысвойваць дзяржаўныя грошы, прапажа якіх пашкодзіла ўжо вялікай справе?

Старшыня зазваніў у званок; Кандрат Назарэўскі ўсміхнуўся; яго думкі падтрымліваліся ў масах.

Як толькі падняўся Назарэўскі на трыбуну, шмат хто з тутэйшых людзей яго адразу пазналі. Успомнілі часы адразу пасля вайны, калі ён стаяў тут з сваім атрадам.

— Таварышы, давайце глянем на падсуднага так, як ён сам пра сябе гаворыць,— так пачаў Кандрат Назарэўскі сваю прамову.— Перад намі цёмная і прыглушаная асоба, якая выйшла з гора. Дадамо яшчэ сюды такое слова: асоба з нявольніцкай душой. А вунь на стале ляжыць яго вопратка, у якую ён зашыў пачак грошай, рыхтуючыся іх траціць. Глянем на гэтую адзежыну. Яна парваная, каравая, смярдзючая, хоць і дала, а можа, і не раз давала прытулак вялікім грошам. Такая ж каравая і тая хата, сапраўдная нара, у якой жыў гэты чалавек. Такое ж было і яго маленства, гэта факт. Што трэба, значыцца, рабіць такому чалавеку — любіць усё гэта ці ратавацца ад яго? Ратавацца, гэта ясна. Мы ўсе ратаваліся і ратуемся ад гэтага. Але мы тут бачым перад сабою вынік іншага кі-

рунку гэтага ратавання. У гэтага маладога чалавека ёсць малая дачка, дзіця. Яно яшчэ не ведае, што такое свет, што такое жыццё, а ўжо дрыжыць перад жыццём і перад усім светам. Усё навакольнае — страшнае, нікому і нічому не вер, вер толькі сабе, спадзявайся толькі на сябе, калі можаш — крышы ўсё, што не ты, ваюй з усім. Але ты адзін, а перад табою ўвесь свет, адкрытай вайны тут быць не можа. З'яўляецца і вырастае хітрасць, хцівасць, машэнства, несумленнасць, панурасць самога ў сябе, злобная недаверлівасць, сябелюбства, неспачуванне нікому. А ён жа быў у горы, яму, значыцца, трэба было спачуваць! А тут спачувальнасць адмаўляецца. Так усё ператвараецца ў сваю супроцьлегласць. Гэтая асоба зашылася ў сваю нару. Яна яе абгароджвае ад усяго свету і дзічэе там. Уявім на хвіліну, што мы гэта ўвялі ў прынцып усяго нашага грамадства. Усё, значыцца, грамадства — гэта дробныя норы, якія ненавідзяць адна адну. Хто шчыра прыйшоў бы к гэтаму чалавеку, каб памагчы яму? Што зрабіў бы гэты чалавек? Ён помач прыняў бы, лісліва зазіраючы ў вочы, а пасля, спажыўшы ўсё з спачувальнага чалавека, пагнаў бы яго вон.

Наш барадаты малады чалавек любіць з гонарам гаварыць пра тое, што ён калісьці служыў за парабчука ў кулака Скуратовіча. А от, скажам, цяпер, затаіўшы вялікую суму дзяржаўных грошай, ператварыўшы іх у якія-небудзь матэрыяльныя каштоўнасці і прычакаўшы якое-небудзь, скажам, падумаем на хвіліну, прыходу іншай улады, не савецкай, не наняў бы ён тады сабе парабкаў, як той самы Скуратовіч? Наняў бы, бо не мог бы ж ён адзін управіцца з сваім багаццем. А як гаспадар любіць парабка, ён ведае з сваёй уласнай практыкі.

Каравая вопратка, барадатая неахайнасць! Ён узвёў гэта ў гонар. Толькі ён спазніўся. Уся краіна рвецца з неахайнасці, вылазіць з трантаў, а ён, як сцяг свой, можа гэтую лямцаватую вату падняць напаказ: я працавік да сёмага поту, я плюю на вас, чыстых, бо пры рабоце ж пот, а ад поту адзежа чарнее. Ён мог бы мець чалавечы выгляд, але ж трэба ўсё, што мае, хаваць на чорны дзень. А на чорны дзень многа трэба, бо ў той дзень увесь свет паўстане супроць яго. Значыцца, няхай жыве чарната! Мы тут будуем электрастанцыю памераў велічэзных. Энергія з яе павінна даць і святло і рух усёй мясцовасці на сотні кіламетраў. Ён бы з вялікім задавальненнем асвятліў бы гэтым святлом сваю нару. Але каб усё гэта

было зроблена чужымі рукамі, так як ён калісьці рабіў на Скуратовіча. Больш таго, мы разбіраем тут большую яго справу. Ён шкодзіў гэтай нашай рабоце, хочучы прысвоіць тое, што належыць усёй мясцовасці, усяму народу. Ён раз сказаў — я сам з народа. Гэта праўда, ён-то з народа, але стаў адшчапенцам і ў такім выглядзе ворагам народа.

Што такое яго тая хвалёная забітасць і яго баязлівасць чорнага дня? Перш за ўсё — мы ў паласе пяцігадовага плана будаўніцтва. Колькі, значыцца, прайшло год з таго часу, калі Міхала Тварыцкага пакінуў эксплаатаваць Скуратовіч? Хто яго гэты час эксплаатаваў? Ніхто. Наадварот, яму бесперапынна памагалі. Ён сам спасылаўся на камітэт беднаты і сельсавет. За гэты час ранейшыя парабчукі сталі інжынерамі, калгаснікамі, майстрамі. А ён стаў адшчапенцам. Сярод усіх сваіх навакольных — ён адзін такі. Нават сям'я яго, жонка, адвярнулася ад яго. Тут яшчэ адно. На сваю дарогу ён накіроўваў сваё дзіця, убіваў яму ў душу жудасць перад светам. Пасіўная баязлівасць страшнага і варожага. А мы трымаемся не баязлівасці, а змагання з страшным і варожым.

Вядома, такога чалавека трэба перавыхаваць. Нідзе ён не дзеўся б, само жыццё, усталяваўшыся навокал яго інакш, выбіла б з яго душы тое, чаму ўжо не было б там дзе трымацца. Але мы тут маем справу з злачынствам. Няхай ён не хаваецца за сваю ганарыстую цемнату і забітасць. Зараз будзе паўтара дзесятка год рэвалюцыі, і хто можа казырацца забітасцю? Пад ёю хаваецца хітрасць складзістага мужычка так, як ён сам хаваецца пад сваю смярдзючую вопратку. Гэтыя смярдзючыя транты ён любіць і не хоча з імі развітацца, і яго заскрабе смутак, калі яму скажуць, што дзіця яго мае права ненавідзець іх. Сваю нявольніцкую душу ён любіць, яна ў яго стала гарманічнай, ён узвёў яе на пастамент святасці і рад. З сваёй нары, якая нам здаецца цеснай, як магіла, ён з ганарыстай недаверлівасцю паглядае на ўвесь свет. Ён гатоў падтрымаць прыход усялякіх цёмных сіл, гатоў прадаць усялякую вялікую народную справу, што мы і ўгледзелі выразна.

У нас ёсць усе прычыны меркаваць, што банк аграблен, каб перашкодзіць будаўніцтву. Шкоды такі яны нарабілі нямала. Хто гэта рабіў? Хто гэтыя яны? Вядома, мы нікога не злавілі за руку. Але як бы там ні было — гэта прадыктавана тым, хто пакінуў гэтую мясцовасць са смуткам у сваёй сабачай душы і з няспынным жаданнем зноў

сюды вярнуцца, каб гаспадарыць над усімі намі. А ён, наш падсудны? Яны або далі яму гэтыя грошы, або, у лепшым выпадку, ён іх знайшоў, як сам стараецца давесці. Іх была мэта забраць грошы — яны забралі. Ім трэба было, каб гэтыя грошы не былі ў нашых руках. Ён і давёў да канца іх жаданне: закапаў у сябе грошы і скруціў губы ў нявінны вузел. Анёлак, авечая бясхітраснасць, кротасць, нявінны авечы твар! Унь стаіць гэты авечы твар, падагнуўшы плечы, з-пад авечай губы воўчы чуб тырчыць.

Таварышы, я прашу прабачэння за тое, што, можа, крыху адыду ад непасрэднай справы, але не магу не расказаць пра адну справу, якая назаўсёды асталася ў маёй памяці. Аднойчы мяне малога маці павяла ў царкву глядзець архірэя, які прыехаў быў у наш гарадок. Мне было тады год дзевяць. Людзей назбіралася страшэнна многа, было запоўнена ўсё — і сама царква, і ганак, і двор. Маці ўбілася ў царкву і мяне на руках унесла. Натоўп не стаяў на месцы, ён варушыўся; кожны стараўся выпхнуцца наперад, каб самому ўсё бачыць. Такім парадкам мяне адцерлі ад маці, і я астаўся адзін сярод натоўпу. Твар мой быў на ўзроўні жывата кожнага з тых, што абкружалі мяне. Мяне сціскалі, не заўважалі, злавалі, што такое малое трэцца пад нагамі і трэба сцерагчыся, каб не растаптаць яго. Мяне сціснулі, я задыхаўся ў цёмнай цеснаце. Я ціснуўся паміж людзей, сам не ведаючы куды, плачучы, просячыся, каб як выбрацца на прастор, на двор. От я дабраўся да такога месца, дзе быццам было прастарней. Прынамсі, я мог падняць галаву і бачыць некалькі твараў. Людзі стаялі сцяной. Мне трэба было прабіцца праз яе. Яна была нерухомая, як скала. Але ж гэта не камень, не гара, уверсе ж чалавечыя твары! Я падняў галаву і ціха заплакаў: прапусціце. Вочы ўставіліся на мяне, але ні адна рыса на кожным з твараў не зварухнулася. Яны сабе стаялі ў добрых суконных світах, задаволеныя тым, што так добра бачаць, кожны з свайго месца, тое, што прыйшлі глядзець. Я прасіўся, енчыў, іхнія вочы глядзелі на мяне, але гэта былі вочы акамянелых статуй — нерухомасць і холад. А як жа, паспрабуй прапусці мяне! Для гэтага прыйдзецца зварухнуцца, а зварухнуўшыся — можна страціць занятую пазіцыю, тады не так добра будзе відаць.

Так можа стаць на дарозе, у добрай свіце, у здаравенных ботах барадаты Тварыцкі. Што яму там да каго-небудзь, хто не ён? Ні адна рыса на яго твары не павару-

шыцца. Ён будзе пхаць сабе ў кішэні, душыцца, сабе грабці і таптаць усё. Узлюбіў душу свайго былога гаспадара Скуратовіча.

Усё гэта яго душа. За гэта мы не судзім. Але з гэтага вырасла канкрэтнае злачынства. Разбярэмся ў праявах гэтага злачынства. Можа, каму здаецца...

У гэты час злёгку скрыпнулі дзверы і ўвайшоў чалавек у кароткім злубянелым кажушку. Ён стаў ля самых дзвярэй — ісці наперад не было як, усюды цесна стаялі і сядзелі людзі. Чалавек некалькі хвілін стаяў і слухаў Назарэўскага. Твар яго пачаў ажыўляцца, ён стаў на пальчыкі. «Ого, сам Назарэўскі гаворыць. Даўно ж я яго не бачыў. Бач, які зрабіўся! А можа, гэта не ён? Не, такі ён!» Ён пачаў працiскацца наперад, выбіўся к сцяне. «Бач, колькі народу! Што ж, нічога дзіўнага няма. Цэлы банк аграбілі, нейкі труп знайшлі — чорт ведае дзе, за светам,— а гавораць пра гэта ўсюды. От, нехта справы нарабіў! Хоць паглядзець на яго, на гэтага майстра!» Ён прабіўся на сярэдзіну зала, стаў на парог запасных дзвярэй, трымаючыся аберуч за вушак, і ўбачыў падсуднага. Ён працёр вочы, хістануў галаву ўбок, каб з профіля паглядзець на таго. І раптам спусціўся з парога на падлогу, здорава шмаргануўшы плечуком аб суседа, і з разгубленай усмешкай пачаў зазіраць у людскія твары. От ён убачыў знаёмага і рынуўся к яму. Замест таго, каб прывітацца з чалавекам, з якім даўно не бачыўся, ён дыхнуў яму ў твар і зашаптаў:

— Божачка, братачка літасцівы, гэта ж Тварыцкі. Я ж яго ведаю, я ж яму кажух шыў!

І ў тую ж хвіліну тутэйшыя людзі, што стаялі ў гэтым кутку, зашапталіся:

— Кравец дадому з'явіўся. А думалі, што ён ужо навек асеў недзе жыць. Прыйшоў у сваю хату, а ад хаты толькі пустое месца асталося.

Кравец пачаў прывітвацца з сваімі тутэйшымі людзьмі і падняў такі гармідар, што старшыня зазваніў.

— Я знаў, што тут судзяць,— даводзіў кравец моцным шэптам,— скрозь гавораць, мне і не ў галаў, я яшчэ на людзях чуў, беручыся дадому, спыніўся ў саўгасе за горадком кажухоў колькі пашыць. Аж цяпер падыходжу сюды, бачу — небывалая тут будыніна, і агонь гарыць. Я сюды. Бачу — суд. Гэта клуб ваш? От бо ўсё на свеце ідзецца, варушыцца сабе... Падамся хіба дадому, здаро-

жыўся, знябыўся; падпалю ў печы якога ламачча і прылягу, няхай ногі адыдуць.

Якраз абвясцілі перапынак, народ рушыў у дзверы. Кравец вельмі спрытна вынесся на двор і паклыбаў да сваёй хаты, пастукваючы палачкай па прыдарожным куп'і. Да яго хаты адсюль было нешта з кіламетр. Ідучы, ён разважаў:

— Як бы там ні было, а ў сваёй хаце, то яно патом... Старая-старая хата, а ўсё ж такі... То гэта Тварыцкі нарабіў? Ай-яй, такі ціхманы чалавек, здавалася, і справядлівы. Каб хто сказаў, канаў бы, а не паверыў.

Ён зірнуў перад сабой, правей знаёмага алешніку, і раптам змоўк і спыніўся. Пастаяўшы з хвіліну, ён азірнуўся ва ўсе бакі, загуўшы сабе пад нос:

— От што значыць не быць у сваёй старане доўгі час — забыцца можна, дзе твая ўласная хата стаіць. Чакай жа, якое там к чорту забыцца! Унь алешнічак, а гэта сухі грунт, а унь сасняк, а унь бярозка-каржачок, а унь Несцяровічава даўнейшая сяліба. А божачка, што за ліха, гвалт, хаты няма!

Ён ірвануўся подбегам, паплёўваючы направа і налева, неўзабаве дапаў да сваёй радзімы. Было толькі печышча, ды і тое пакорпана парасятамі. На гэтую маляўнічую гузаватасць паспела ўжо густа ўзгнездзіцца лебяда. Выпетралае за зіму бадыллё яе тырчала ва ўсе бакі, як калючая загарадзь. Краўцова душа заныла, і сам ён ледзь адцягнуў голас:

— Што гэта зрабілася, няшчасце на чалавечую галаву!

Рыжы певень вытыркнуў галаву з-за кучы пабітай цэглы, уставіў дробнае вока ў апанаванага ўтрапеннем чалавека і кукарэкнуў яму ў самы твар. Кравец падаўся ў былую Несцяровічаву хату.

— Дзень добры!

— Дзень добры... А-а, гэта вы прыйшлі? А тут ужо мы думалі, што вы навек адцураліся сваёй стараны. Колькі часу не паказваліся. Далёка дзе былі? Бачылі, што з вашай хатай?

— Хто гэта зрабіў?

— Брыгада цесляроў, барак рабілі. На апал. Барак абагравалі. А старшы ў іх быў брыгадзір іхні — Наўмыснік.

— А чаго ж вы, суседзі, глядзелі? Няхай бы вы гэтаму Наўмысніку слова якое сказалі. Якое ён меў права маю хату чапаць?

— Я яму гаварыў.

— Дык ён што?

— Ён кажа, мала што, кажа, кравец нікому не казаў, што хаты сцураўся! Раз, кажа, яго так даўно няма, а гэтая ламачына зараз ад ветру абваліцца, то...

— Ламачына! Я яшчэ яе абгледзеў бы і веку дажыў бы. Божа мой!

— То вы цяпер дамагайцеся, каб будаўніцтва вам новую хату дало, раз вашу зачапіла.

— Дамагайся! Чорт яго ўжо даможацца!

— Чаму? Самы большы начальнік тут — гэта ж ваш добры знаёмы.

— А хто?

— Несцяровіч.

— Антон? Не можа быць!

— От вам і не можа! Гэты самы, што мне гэтую сваю хату даўно ўжо аддаў. За вашу ж яшчэ памяць, вы тут тады былі.

— Што я чую? Ён-то такі адразу ў рэвалюцыю гэту быў, братачка, падаўся. То бач, як выбіўся. Хто смелы і ўвішны...

— Пагаварыце з ім...

— Дзіва што пагавару. Ну, а вы як жывеце?

— На работу хаджу, на будаўніцтва.

— А што робіце?

— Раней пры машыне стаяў — зямлю на канаве чэрпалі. А гэта — зараз муравацъ пачнём.

— Вы хіба муляр?

— Э-э, тут усяму навучаць. На ўсялякую справу майстрам зробяць.

— А я тут, каб прыйшлося, мог бы дзе прыстаць?

— Ці гэта ж трэба яшчэ пытацца? Адно толькі ідзі, будзь ласкаў. Работу ў рукі дадуць і яшчэ падзякуюць.

— Дык жа добра. Я пытаю, бо тутэйшых парадкаў не ведаю. Трэба будзе, мусіць, па сваёй сіле работу апытаць. Да Несцяровіча з'яўлюся і... сказаць праўду — рамяство маё цяпер на заняпад пайшло. Можа, пасля там, а цяпер — калгасы, знаеце.

— То гэта вы толькі з дарогі?

— З дарогі.

— Чаго ж вы стаіцё! Скідайце кажух ды на печ лезьце. Зараз перакусім чаго. Пакуль што асталёўвайцеся тут, што ж рабіць, нейк жа будзе.

Кравец пачаў распранацца. Ён паглядаў на гэтага вет-

лівага свайго суседа, заўважаў яго задаволены і вясёлы выгляд і думаў: «Добры чалавек, бач, як прыняў адразу, ні то што іншы які. У ботах добрых, жакетка якая на ім... Зарабіў. Відаць, народ добра зарабляе і жыве сабе. А як толькі з'явіўся сюды — такі быў небарак лапцевознік!» У краўца адлягло ад сэрца. Яму хацелася выказаць ветліваму чалавеку такую сваю думку: «Калі Несцяровіч тут самы большы начальнік, то, можа, і добра, што той падла Наўмыснік маю хату прыбраў. Трухліна была, каб на яе агні. Цяпер, можа, мне хату дадуць іншую. Антон Несцяровіч мне пашкадуе, ці што? Сусед з даўных. Я ж яму яшчэ памагаў калісьці бандытаў браць». Але гэтай думкі ён не выказаў. Баяўся: а што, калі гэта як-небудзь пашкодзіць справе? Ніколі не трэба наперад нічым хваліцца. Назаўтра ён пайшоў шукаць Несцяровіча і не знайшоў, той недзе ад'ехаў да вечара. Кравец пайшоў дахаты, лёг на печ і ўвесь вечар то курыў, то лушчыў гарбузікі. Ён так раздумваў: «На год які мне аднаму пражыць — будзе за што, не ўсё ж пражыў, што падзарабіў. А там — бог бацька. Так што паспею яшчэ знайсці Несцяровіча». Пасля, аднак, яго брала злосць. «Хоць ты к яму к канцу ночы заходзь! І ўдзень заходзіў, і ўвечары — няма дома, што ты зробіш?» Нарэшце ён такі злавіў Несцяровіча. Несцяровіч быў дома. Ён жыў на ранейшых хутарах, на ўзгорку, за лесам. Змяркалася, ён запаліў лямпу. Зося, адзетая ў дарогу, сядзела каля дзвярэй на табурэце. Душа яе не вытрымала, яна прыехала сюды.

— Назарэўскі паехаў,— гаварыў Несцяровіч,— на месца сваёй сталай працы паехаў. Але ён мне гаварыў пра вас. Калі вы захочаце астацца тут на работу, я вас заўсёды прыму. Нам работнікі патрэбны.

— Я з ім гаварыла, ён мне раіў астацца тут на работу. Гэта і праўда, мне туды варочацца, дзе гэтулькі было ўсяго... Але я не ведаю яшчэ, я вам напішу з дому, калі што якое, і вы мне адкажаце, ці можна прыязджаць.

— Можаце напісаць, і я вам адкажу, але і без гэтага можаце заўсёды. Вы б раздзеліся, а то яшчэ гадзіну чакаць. Да горада вас давязе наша грузавая машына, якраз праз гадзіну пойдзе.

У гэты момант у хату ўвайшоў кравец. Зосю, абкручаную вялікай хусткай, ён не пазнаў, а яна аж прыўстала з свайго месца: гэта нешта дзіўнае, гэты чалавек аж сюды з'явіўся, як бы нейкі лёс час ад часу ставіць перад яе вачыма гэтага чалавека.

— Здароў, братачка Антон! Ці пазнаў ты хаця мяне?
— Гэта ты, дзе ж ты бадзяўся?
— Або ты не ведаеш майго рамяства?
— Э-э, лысіна ў цябе пабольшала. А сам — такі ж рухавы. Пехатой усё ходзіш?
— Няўжо ж так, як ты, на аўтамабілі. Хто гэта мог спадзявацца, што ты так выскачыш!
«Чорт яго ведае, усюды ён усіх ведае»,— думала Зося.
— Хата твая, здаецца, растала?
— Як гэта ты дапусціў да гэтага? Я к табе і прыйшоў — будаўніцтва маю хату сплавіла, то ты ж тут начальнік, дай мне які-небудзь прытулак.
— Ты ўжо, можа, другі раз ажаніўся?
— Табе жарты ўсё.
— Якія там жарты?
— Дзе бачыў! Я па гадах і не стары, але — жывецца так, валочышся вечна па свеце. Ці тут у цябе якая-небудзь работа мне знойдзецца?
— Чаму не.
— То пастаў мяне, браце, дзе-небудзь на работу, па маёй сіле, і каб прытуліцца дзе.
— Займай якую-небудзь тут кулацкую хату, ні Богараўскіх, ні Сцепуржынскіх даўно ўжо тут няма.
— А хіба хаты пустуюць?
— Некаторыя пустуюць. Дзве брыгады рабочых перабраліся ў баракі, па той бок лесу, цэглу рабіць будуць. Хаты запуставалі.
— То ты хіба, братачка, выдай мне хату Богараўскага. Не таго, што над рэчкай, а таго, што туды, пад дарогу. Ведаеш якога? Таго, што з індыком біўся.
— Ну, добра,— зарагатаў Несцяровіч.— Ты нейкага індыка памятаеш. Я пазабываў усе гэтыя інтарэсы.
— Ну, у цябе галава іншым забіта.
Тут кравец пачаў прыглядацца да Зосі і раптам пазнаў:
— І вы тут? Прыйшлося вам! Бывае, не пашанцуе чалавеку. (Павярнуўся да Несцяровіча.) Некалькі тыдняў таму я ж у іх начаваў у хаце. Хто гэта мог думаць? От бо ўсё на свеце круціцца.
Кравец сеў за стол і як мае быць расклаў на стале капшук з махоркай, паперу і локці. Пасля доўгай паўзы ён уздыхнуў і павярнуў твар да Зосі:
— Я вам у вочы скажу, хочаце сабе, майце на мяне крыўду, хочаце, не. Я такі чалавек. Я да людзей шчыры і

хачу, каб і да мяне былі шчырыя. Я ніколі сваёй думкі не затаю. Яшчэ даўно, калі я шыў у вас кажух, памятаеце, то сусед Сцепуржынскі прыходзіў часамі паглядзець, як я шыю. Раз ён мне так сказаў: Тварыцкі, кажа, бедніцца і стогне, а каня адразу купіў. Нейкую, відаць, гатоўку мае. То цяпер я і думаю: раз мае як пражыць на свеце, то на чорта ён у гэтую авантуру палез? Што ён выйграў?

Зосю як разанулі нажом па сэрцы. Яна ўспомніла: сапраўды, была калісьці такая справа: трэба было набываць усё ў гаспадарку. І ў Міхала раптам з'явіліся аднекуль грошы. Яна запытала: дзе ты ўзяў? Ён адказаў: «як дзе ўзяў! Хіба ты не бачыш? Я ж увесь час збіраў». Ён-то збіраў, але не мог гэтулькі сабраць. Так яна тады падумала. І пасля забылася на ўсю гэтую гаворку. Цяпер новая думка кальнула яе: «можа, ён і тады ўжо ў якіх нячыстых авантурах быў?» Пасля, праз пэўны час, усё высвятлілася, стала ясным да самых найдрабнейшых дэталей. Цяпер жа, апроч аднаго толькі Міхала Тварыцкага, ніхто нічога не ведаў.

Каля хаты спыніўся аўтамабіль. Зося развіталася і паехала. Яна застала Славу заплаканую. Дзіця з крыкам кінулася да маці і не магло ад яе адарвацца. Суседка сказала, што Слава бесперапынна пыталася, «дзе мама», і не верыла, калі казалі, што «мама скора прыедзе».

— Яна нейкая напалоханая, вельмі баязлівая,— гаварыла суседка.

Зося вярнулася ў сваю хату. Гэтыя сцены душылі яе. Усё тут ёй было брыдкім. Яна адчула нянавісць і да гэтай хаты і да ўсяго, што было з ёй звязана. Трымаючы Славу на руках, яна доўга сядзела і думала. Яна ўспаміналa знаёмых, былых сваіх таварышак, думала пра іх. Некаторыя з іх пакончылі вышэйшыя школы, некаторыя ўжо выявіліся і выславіліся на рабоце вялікіх маштабаў. Пра адну сваю колішнюю таварышку яна чытала ў газеце як пра выдатнага інжынера. А яна — у самыя лепшыя свае маладыя гады глядзіць гэтай нары, тхланіць гэтую цесную і разам з гэтым ненаедную прорву. Самыя лепшыя яе гады праходзілі ў агідкай гэтай нары.

І яна пачала дзейнічаць. Былі б рады, каб яна засталася ў калгасе, але ёй хацелася з'ехаць хоць на нейкі час з гэтага месца. І праз некалькі дзён яна напісала ліст да Антона Несцяровіча.

А яшчэ праз колькі дзён Зося трымала Славу на руках пры выездзе з горада: яна чакала грузавой машыны з бу-

даўніцтва. Каля яе стаяў чамадан і мяшок з рэчамі. Быў ранні вечар, свяцілі зоры, у гарадку было ціха. Здарожаная Слава флегматычна пытала:

— Мама, калі мы вернемся назад дадому?

— Мы зараз прыедзем дадому, але гэта будзе новы дом.

— Гэта далёка ад старога дома?

— Сама паглядзіш, зараз паедзем на машыне.

— А ў якім доме лепш, у новым ці ў старым?

— У новым.

— А чаму тут такі самы месяц, які і дома?

— Бо гэта той самы месяц.

— А чаму месяц адзін?

Пасля доўгай паўзы Слава зноў пытала:

— Я ў новым доме буду вучыцца?

— Будзеш, Славачка.

— А ты будзеш працаваць?

— Буду.

— Мяне будзе вучыць Ірынка?

— Ты будзеш у яе вучыцца.

— Яна малая?

— Не, яна вялікая.

— Раскажы мне яшчэ раз пра Ірынку.

І Зося пачынала расказваць:

— Я тады была яшчэ не такая вялікая, як цяпер, а Ірынка зусім малая. Ірынчын брат біў на вайне паноў, а Ірынка адна жыла ў гэтым самым горадзе, дзе мы цяпер з табой чакаем машыны. Адзін раз уночы бандыты напалі на горад...

Так Слава-дзіця-дзяўчынка — Слава Тварыцкая — уваходзіла ў свет чалавечага жыцця.

## V

Несцяровіч паказаў Зосі на будыніну пры лесе:

— Бачыце? Хата запуставала. Кулак з яе выселен даўно, там жылі нашы рабочыя, пасля выбраліся ў барак — ад'ехалі далей на работу. Ідзіце, займайце і жывіце. Там некалькі баковак, у адной жыве той кравец, якога вы ведаеце.

— Кравец?

— Ён вам перашкаджаць не будзе, а вы яму. (Несцяровіч усміхнуўся.) Нічога, мне ён таксама не надакучае, стары дзівак. Няхай сабе жыве ў кутку.

Зося пайшла. Вялікая хата была прыткнута ў самы рог прагаліны паміж хвойніку, проста ў вокны зазіраў арэшнік, агарод цягнуўся паўз дарогу. Мокры лёд укрываў двор, па ім цяклі раўчукі снегавой вады. На ганку стаяў кравец, кідаў здалёк ад сябе хлебныя крошкі і падзываў курыцу. Тая выцягвала шыю і баялася падысці бліжэй. Другая курыца была на прывязі: адзін канец шпагату завязан за курыную нагу, другі за слупок пры ганку. Замест таго, каб хоць запытаць, чаго ў гэтай старане зноў з'явілася Зося, або каб даць дзень добры, кравец адразу пачаў растлумачваць:

— Дастаў дзве курыцы. Каб на іх паморак, ніяк да хаты не прывыкнуць. Пазацягваюцца чорт іх ведае куды, бегай тады, шукай. («Пачнецца гаворка»,— думала Зося.) Здаецца, курыца — плёвая справа, а тым часам... Тут жа народ тысячамі кішыць. Зловіць курыцу, адкруціць галаву ды ў гаршчок.

— Хто гэта?

— Народ! Я ж кажу... Курыцы — і той пільнуйся.

Зося пайшла ў хату, нічога не кажучы. Збянтэжаны кравец убег следам.

— Я сюды прыехала на работу. Несцяровіч мне сказаў, каб я тут жыла.

— Ён жа мне гэтую хату адпусціў.

Зося моўчкі пачала аглядаць: кухня і тры пакоі. І з кожнага ў кухню асобны ход.

— Вы які пакой занялі? — запыталася Зося.

— Як які? Усе! Жыву...

— Адзін?

— А нашто мне хто?

— А вы хіба банкеты якія збіраецеся рабіць? Нашто вам гэтулькі пакояў?

— У кожнага чалавека свая фантазія. І паводле, братачка, гэтай фантазіі ён мае густ.

Зося стаяла і раздумвала. Кравец раптам да чагосьці дадумаўся і змяніў тон:

— Божа мой, то вы б адразу так і казалі. Займайце які сабе хочаце пакой.

— Каторы спакайнейшы, каб праз яго не хадзілі... Гэты я вазьму.

— Бярыце сабе гэты, мне ўсё адно. Праўда, гэты большы, але як з вас, то я даражэй браць не буду. Адна цана будзе што за гэты, што і за той.

Зося ўсміхнулася і пайшла па Славу і рэчы. Назаўтра

кравец даведаўся, што Зося нічога яму плаціць не будзе, і памчаўся да Несцяровіча.

— Што гэта робіцца? — закрычаў ён.— Хіба гэта парадкі? Маю хату раскідалі? Раскідалі. Калі ласка! Замест маёй хаты ты мне даў другую? Даў.

— Калі ласка,— перафразіраваў краўца Несцяровіч.

— Табе смех. А нашто ж ты мне людзей жыць пасылаеш? На чорта мне гэтыя кватаранты?

— Ну, добра, калі не хочаш мець кватарантаў, то сам стань за кватаранта ў таго, хто там з табой жыве.

— Падай мне маю хату!

— То давай, калі так, ацэнім тваю хату, і за яе табе будаўніцтва сплоціць.

— Добра. А колькі дасцё?

— Падумаем, колькі можна даць за тры шуркі трухлявых дроў.

— Э, брат ты мой, ты, мусіць, ужо зусім забываеш на наша даўнейшае суседства?

— Мы табе за хату заплацім, але ты не думай тут нажыцца. Мы табе заплацім не больш, чым твая хата варта. А цяпер табе далі дзе жыць? І ты жывеш? То чаму на работу не ходзіш? Кулацкія хаты цяпер належаць будаўніцтву, і там могуць жыць толькі нашы рабочыя. Людзей нам патрэбна многа, але такіх, якія працуюць.

— Дай жа мне абжыцца.

— Як абжыцца? Абжывацца трэба працуючы.

— А я што, з чужой ласкі абжываюся?

— Не хапала яшчэ гэтага. Станавіся сёння з паўдня на работу.

Не чакаючы такога рашучага тону, кравец адступіў на крок ад Несцяровіча.

— Я і сам думаў ужо станавіцца на работу. Чаго ты так вельмі ўсхадзіўся!

У глыбокім задуменні кравец пайшоў дадому, а назаўтра зранку пайшоў на работу. Некалькі чалавек ачышчалі месца пад забудову — seклі кусты і раўнавалі грунт. Кравец узяў у рукі сякеру. Праз гадзін дзве яму гэтая работа страшна апрыкрыла, і ён сказаў брыгадзіру:

— Прызнацца сказаць, то я рамеснік, а гэта чорнарабочая справа. Я не кажу, вядома, што на гэтым будаўніцтве трэба даць мне голку ў рукі і аўчыну,— на, шый кажух. Хоць, калі сказаць праўду, кажух рабочаму чалавеку трэба ці не?

— Трэба.

— Гэта факт. Але тут не да гэтага. Тут сеч, капаць і мураваць трэба. То я ж не толькі кравец, а і муляр. Я не толькі кажухі шыў, а і печы рабіў. Я не горшы муляр, як кравец. Я яшчэ ўмею гонту рабіць, у ганчарні гаршкі круціць.

— Добра, я скажу ў канторы, што вы муляр.

— Скажыце, братачка.

Такім парадкам, неўзабаве, кравец быў далучан да адной з мулярскіх брыгад. Як пасля выявілася, муляр ён быў вельмі добры. Хоць ён ужо і не думаў больш пра тое, каб браць кватэрную плату з Зосі, хоць і пагадзіўся з тым, што не адзін займае цэлы дамок, аднак жа звысоку пазіраў на Зосю: што яна тут перад ім, спрадвечным тутэйшым тубыльцам, які не толькі ведае ўсю гэтую мясцовасць і тутэйшых людзей, а нават самому Несцяровічу гаворыць «ты». Аднак жа неўзабаве адбылася справа, пасля якой ён пачаў глядзець на Зосю інакш. Больш таго, часамі нават пачаў яе пабойвацца. Аднойчы, у выхадны дзень, у клубе адбыўся агульны сход. Перш за ўсё далі слова Несцяровічу. Ён гаварыў пра тое, што от ужо скора год, як на гэтым месцы з'явіліся будаўнікі, што за гэты год праведзена галоўнай асушальнай магістралі больш як тры чвэрці ўсёй даўжыні. (Ён сказаў дакладную лічбу — колькі.) За гэты год распачата будаўніцтва галоўнага корпуса электрастанцыі, арганізавана мясцовая вытворчасць цэглы, тут жа, кіламетраў за шэсць ад самага будаўніцтва, так што няма патрэбы прывозіць цэглу здалёк. (Несцяровіч гаварыў усё падрабязна, ён нават называў людзей, якія кіравалі і кіруюць пэўнымі галінамі.) Так ён сказаў: — Я сам тутэйшы і здаўна ведаў, што па той бок хвойнага лесу, за берагавымі ўзгоркамі, ёсць добрая гліна. Даследы паказалі, што там яе гэтулькі, што можна было б зрабіць вялікі цагельны завод. Пакуль што нам вялікага завода не трэба, мы зрабілі невялікі, каб мець сваю цэглу на будаўніцтва. У нас ужо ёсць запасы, нястачы цэглы не будзе. Лепшай брыгадай цагельнікаў там кіруе Наўмыснік.

«Той, што маю хату раскідаў»,— думаў кравец.

— Таварыш Наўмыснік,— сказаў Несцяровіч,— гэтымі днямі мы пачынаем бесперапынную кладку сцен. Не будзе ў нас прастояў з-за нястачы цэглы?

— Не будзе,— абазваўся дзесьці з сярэдзіны зала голас.

Кравец падскочыў. «Што гэта? Што гэта за голас? Усё адно як брата роднага, такі знаёмы голас! Чый гэта голас,

хто гэта, дзе я гэтага Наўмысніка чуў, дзе яго бачыў?!» Гэтая думка, можа, з гадзіну свідравала краўцовы мазгі, ён выцягваў шыю, круціў галавой, перабіраў вачыма кожнага чалавека, стараючыся ўбачыць — каторы гэта Наўмыснік. Нарэшце зашаптаў да суседа:

— Дзе гэта Наўмыснік, каторы ён?

— Сядзіць там недзе пасярэдзіне,— нехаця адказаў сусед.— Ціха, дай паслухаць.

Кравец адвярнуўся ад суседа, і пакрысе яго думкі набылі такі кірунак: «От бо здаецца часам чалавеку! Абазваўся чалавек адным словам, а мне ліха ведае што пачулася. Каб сапраўды быў знаёмы голас, то я ўспомніў бы хто. І прозвішча незнаёмае — Наўмыснік нейкі. Ліха яго бяры, здалося мне, і больш нічога».

Пасля Несцяровіч сказаў, што зараз жа пачынаецца будаванне дома на сорак кватэр — гэта будуць кватэры інжынернаму персаналу і лепшым ударнікам.

— Мы зараз, таварышы, разгледзім архітэктурны праект дома і пакрытыкуем гэты праект (Несцяровіч усміхнуўся), бо, бачыце, гэты дом можа быць пачаткам будучага сацыялістычнага горада, і трэба, каб пачатак быў добры. Мы тут, на гэтым глухім месцы, дзе дагэтуль былі толькі грэблі і само месца называлася Дзве Хаты, засноўваем сацыялістычны горад.

На сцэну падняўся інжынер-архітэктар, раскруціў вялізны ліст паперы і прыкалоў яго кнопкамі да падсунутага к самому краю дэкарацыйнага палотнішча. Гэта быў праект дома. Людзі прыўсталі з сваіх месц.

— Садзіцеся! — закрычалі ззаду.

— Ну, давайце, каму падабаецца праект, каму не?

— Ну, добра, што там, інжынер лепш ведае,— загулі галасы.

Рысунак усё ж разглядалі доўга, распытвалі, інжынер даваў тлумачэнні. Нарэшце к самай сцэне праціснулася жанчына. Усе заўважылі, як яна штосьці загаварыла да інжынера, паказваючы на рысунак. Але гаварыла яна так ціха, што толькі бліжэйшыя да сцэны яе чулі. Інжынер прыгнуўся, каб яе расслухаць.

— Мацней,— загукалі ззаду.

Устанавілі цішыню. Жанчына загаварыла мацней. Усе пачулі:

— Чаму ж такі нізкі дом?

— Як нізкі? — пацісnуў плячыма інжынер.— Гэта чатырохпавярховы дом. Хіба ж ён нізкі?

— Чатырохпавярховы, але вельмі, здаецца, нізкі. Можа, гэта так нарысаван.

— Ага,— усміхнуўся інжынер.— Я ведаю, што вы хочаце сказаць. Бачыце, дом высокі, але так здаецца. Гэта стыль такі.

— Чаму ж каб ён здаваўся нізкім, калі сапраўды ён высокі?

— А чаму вам не падабаецца?

— Я, таварыш інжынер, не магу разабрацца ў гэтых справах, я нідзе не вучылася і ў вялікіх гарадах не была, якія-небудзь вялікія там пабудовы бачыла толькі калі-небудзь на здымках, на рысунках. Тут на будаўніцтве разглядала нядаўна альбом. І, можа, я гавару няпраўду, але калі запыталі, то хачу выказаць сваю думку. Вы мяне выбачайце.

— Ну, калі ласка.

— Можа, гэта будзе смешна.

— Калі ласка, калі ласка.

— Бачыце, як сказаць... Можа, гэта ў мяне адной такое.

— Калі ласка, я слухаю.

— Мне самой дык хочацца, калі ўжо будаваць што новае і дарагое, то каб яно мела выгляд... Мне здаецца, што ўсё нізкае — непрыемна. Я сама, колькі жыла, то ўсё ў нізенькіх трухлявых хатах. Столь, здаецца, прыдушвае нават голас. Паднімеш руку — і дастанеш столь, дастанеш страху, дастанеш усё, сярод чаго жывеш. Усё нізкае, прыгінаецца да зямлі. Няма прастору. А тут такі дамiна — і таксама, здаецца, сцелецца па зямлі, а не ўзнімаецца ўгару.

— Ага, я вас разумею. Вы хочаце іншы стыль.

— Каб сам выгляд быў высокі, угару каб ішоў. Каб не было падобна да гэтай нізкай спрадвечнай столі. Яно-то не так тут, высока, але ў вочы кідаецца, быццам нізка.

— Правільна,— абазваўся са свайго месца Несцяровіч.— Сапраўды, гэтая глухая паласа сцяны над верхнім радам акон...

— Гутарка ідзе пра стыль.

Жанчына адышлася на сваё месца і села.

— Што гэта за яна? — зашапталіся ззаду.

— Работніца. З пабудовы. Хто ж?

— Праўду сказала,— сказаў хтосьці.

Інжынер пачаў шукаць вачыма жанчыну:

— Я, таварыш, не ведаю, як вас...

— Тварыцкая.

— ...Таварыш Тварыцкая, некалькі слоў з вамі яшчэ, калі ласка, пасля сходу, наконт праекта...

Думка, выказаная Тварыцкай, паклала пачатак спрэчкам, і праект быў адхілен. Усе бачылі, разыходзячыся са сходу, як інжынер гаварыў з Тварыцкай і ставіў на рысунку карандашныя знакі. Кравец спыніўся на выхадзе, паківаў галавой, гледзячы на інжынера і Тварыцкую, і прагуў сам сабе пад нос:

— От жа бачыш, хто гэта ад яе спадзяваўся.

І пайшоў, зусім ужо забыўшыся на тое, што Наўмыснікаў голас здаўся яму знаёмым. Тут трэба сказаць, што Наўмысніка ў клубе даўно ўжо не было. Здарылася так, што ён пайшоў са сходу пасля выступлення Несцяровіча і не чуў, як на абмеркаванні праекта дома жанчына сказала, што яе прозвішча Тварыцкая. Каб ён пачуў тут гэтае прозвішча, ён не ішоў бы цяпер так спакойна ў свой бок, ён, напэўна, ламаў бы галаву, што цяпер рабіць. Таксама ён нічога яшчэ не ведаў і пра тое, што на пабудове з'явіўся кравец, хату якога ён так стараўся разбурыць. Каб ён пра ўсё гэта дазнаўся, у галаве яго, напэўна, пайшлі б спець рашучыя планы. Але нічога гэтага не было. Ён спакойна, падзьмухваючы праз вусы, пайшоў за кіламетраў шэсць па той бок лесу, дзе яго брыгада рабіла цэглу. Там ён і жыў. І вельмі мала калі з'яўляўся на самай пабудове, па гэты бок лесу. Душа гэтага чалавека была цяпер зусім спакойна. Калі судзілі Тварыцкага, ён на суд не прыходзіў, толькі раз з'явіўся ўвечары, пастаяў у самых дзвярах, зірнуў на дробную Тварыцкага галаву і адразу падаўся назад, маўклівы як магіла. І ні адна душа тут пра яго нічога дрэннага не думала, і наогул мала пра яго думалі: ён сваю работу рабіў, але нікуды наперад не вытыкаўся. Ён быў задаволен сам сабою, але не тым, сярод чаго хадзіў сваёй роўнай хадой. Надышоў час, калі яго душа адкрылася перад усімі. І хоць гэта было незадоўга пасля гэтага часу, аднак жа першая чарга будаўніцтва тады ўжо ішла к свайму канцу. Тады адбыліся справы, якія прымусілі многіх азірнуцца назад, некаторых нават у сваё маленства. Былі нават успомнены імёны двух нябожчыкаў, быццам іх закаранелыя цені з'явіліся раптам сюды і прайшлі па гэтай ператворанай ужо тады мясцовасці. Ператварэнне ж гэта ішло намаганнямі тысяч людзей.

Крыху збянтэжаная ад гутаркі з інжынерам, Зося Тварыцкая павярнулася к выхаду. Раптам да яе падышла ма-

КУЗЬМА ЧОРНЫ

# ЛЮБА ЛУК'ЯНСКАЯ



ДВБ · МЕНСК · 1937

Вокладка аповесці «Люба Лук'янская».
Выданне 1937 г.

ладая дзяўчына. Зося яе не ведала. На Зосіным твары былі яшчэ рэшткі наіўнай нясмеласці, з якой яна выказвала свае думкі інжынеру. Каб у гэты момант быў тут Кандрат Назарэўскі, ён з аднаго гэтага выразу твару мог бы ўспомніць колішнюю дзяўчынку ў той даўны момант, калі яна з дзіцячай наіўнасцю пыталася ў Скуратовіча, чаму ён не запрог хвораму чырвонаармейцу лепшага каня.

Дзяўчына сказала Зосі:

— Я чула, як вы гаварылі. Вы быццам выказалі мае думкі. Я даўно ведала, што вы тут, але — і знайсці вас не магла і — вельмі я занятая. Я — сястра Кандрата Назарэўскага. Брат мне гаварыў, што вы пра мяне ў яго пыталіся.

Зося яшчэ горш збянтэжылася. І нават адступіла на крок, глянуўшы ў Ірынін твар. Яна ўбачыла перад сабою чырванашчокую дзяўчыну, вельмі з выгляду маладую. Сіняе паліто з чорным коцікавым каўняром было моднае, шчыльна аблягала яе постаць. У паліце яна здавалася высокай. Пасля ўжо, калі Ірына была без паліта, Зося бачыла, што яна куды меншая ростам. На галаве была такая ж чорная, як і каўнер, мехавая шапачка. Усё па модзе і з густам, пад гарнітур.

— З братавых расказаў я ведала даўно, што вы ёсць на свеце, але якая вы — не ведала дагэтуль.

Хвіліны тры абедзве не ведалі, што сказаць адна адной.

— Вы мяне раз бачылі, яшчэ ў маленстве, на вакзале, вы былі беспрытульніца, чырвонаармеец прыехаў забіраць вас.

— Вашу дачку я ўбачыла раней як вас. Учора я заходзіла ў дзіцячы сад. Мне паказалі Славу Тварыцкую. Я з ёю крыху пагаварыла. Яна неахвотна мне адказвала, найбольш моўчкі глядзела на мяне.

Ірына і Зося ішлі ўжо з клуба прамёрзлай к ночы сцежкаю. Быў блізка вечар. Краем лесу прайшлі яны да былых хутарскіх хат — Дзве Хаты былі пад дзіцячым садам. Яны ўвайшлі — Зосі трэба было забраць Славу. Быў час разыходу дзяцей. Некаторыя аставаліся нанач, тых пераводзілі ў другі пакой, цераз сенцы. Жанчыны адзявалі сваіх дзяцей каля нізенькай вешалкі. Дзеці самі бралі сваю адзежу. Дзеці гаварылі, расказвалі, пыталі, скардзіліся. Чуўся Славін галасок:

— Я ведаю сваё месца на вешалцы, у мяне там прыклеены яблыкі. Мама мне выразала з газеты, а я сама за-

рысавала чырвоным карандашом. А ты гаворыш, што я не пазнаю, дзе мая адзежа вісіць. Эх ты!

Зося ўсміхнулася, падышла да Славы, пацалавала яе ў лоб, пагладзіла па стрыжаных «пад грыўку» валасах і памагла ёй апрануцца. Ісці дадому было недалёка, усё краем лесу, узгоркаватым лясным берагам. Унізе павольна варушылася пад сінім ільдом рэчка. Месцамі вада ўжо выйшла наверх, лёд асеў, гатовы ламацца і рушыць. Лес рос над рэчкай высока, бесперапынна стукалі дзятлы. Па той бок рэчкі нізка і роўна ляжала балота. Далёка над ім чарнелі хмызнякі, за іх спускалася вялікае сонца. Ружовыя водсвіты дрыжалі на мёрзлай зямлі, на імшыстым куп'і, на сінявай вадзе. У адным месцы, пры высокім беразе, лёд зусім праламаўся і адпоўз пад напорам вады к нізкаму берагу. Вада бесперапынна білася ў берагавы схіл, нараджаючы бесперапынны меланхалічны, звінячы гук. Водыр лесу і вады цёк скрозь.

Слава трымалася за Зосіну руку. Ірына ішла наперадзе. Слава распытвала пра лёд, пра спуск сонца за далёкія хмызнякі, пра берагавы мох і леташнюю траву. Пасля папрасілася на рукі «ненадоўга, толькі на адзін раз сказаць на вуха», прытулілася губамі да Зосінага твару і шапнула:

— Мама, хто гэта ідзе з намі?

— Памятаеш, я табе многа разоў расказвала пра Ірынку Назарэўскую.

— Гэта яна?

— Яна.

— Такая вялікая. Ірынка ж малая.

— Яна ўжо вырасла.

Слава не зводзіла вачэй з Ірынкі. Зося сказала Ірыне:

— Слава дзівіцца, што вы не малая, а вялікая,— і яна перадала Ірыне ўсю нядаўнюю гаворку з Славай.

— А чаму яна так?

— Я ёй часта расказвала пра вас малую. І яна ўжо цяпер мне любіць расказваць «казку пра беспрытульніцу Ірынку».

— Раскажы, Славачка,— папрасіла Ірына, узяўшы Славу на рукі.

Славу доўга ўпрашвалі. Нарэшце Зося сама пачала:

— Жыла малая Ірынка...

— Не так,— перабіла Слава.— Трэба так гаварыць: у Ірынкі быў тата, і яго забіў пан. Тады малая Ірынка заста-

лася адна, і ёй было вельмі кепска. У Ірынкі быў брат... Мама, гэта той, што на машыне прыязджаў?

— Той. Ну, дзе ж ён быў, калі ў Ірынкі не было таты?

— Ён быў на вайне і там біў паноў.

— А што рабіла Ірынка?

— Ты ўсё мне не даеш расказваць. Ірынка была беспрытульніца. Бандыты спалілі той дом, дзе жыла Ірынка, і тады Ірынка пайшла начаваць на вакзал. Мама, бандыты — паны?

— Яны для нас тое самае, што і паны.

— Ірынка была хворая і хацела есці. А адзін дзядзька, такі самы гад, як пан, пачаў гаварыць, што Ірынка хітрая і каб ёй не давалі есці. А там была малая дзяўчынка Зося. Ёй стала шкада Ірынкі, і яна закрычала на таго брыдкага дзядзьку, каб ён ішоў вон і не гаварыў так на Ірынку.

— Пачакайце, гэта сапраўды было,— аж спыніла хаду Ірына і з непаразуменнем стала глядзець на Зосю.

— Гэта была я там, на вакзале.

— Праўда, вы мне ўспаміналі пра гэта. Я толькі цяпер успомніла гэты момант. А пасля на ганку мяне трымаў чырвонаармеец на руках, а падышоў хлопец і сказаў мне, што мой брат мяне не любіць, калі пакінуў мяне адну, а сам пайшоў ваяваць.

— Гэта быў Тварыцкі.

Слава ўвайшла ў ролю расказчыцы.

— А пасля чырвонаармеец забраў Ірынку і завёз да брата, і тады пабілі ўсіх паноў, і Ірынка пачала падрастаць.

— Славачка,— туліла да сябе Ірына Славу.

З той хвіліны ў Ірыны нарадзілася і пачало вырастаць пачуццё вялікага замілавання да Славы. Цяпер яна скрозь несла яе на руках і пайшла шпарчэй. Зося старалася не астацца. Ірына ведала, дзе жыве Зося, але павярнула ўбок. Зося хацела ўзяць Славу. Ірына сказала, што «толькі на хвілінку зойдзем».

У адной з былых хутарскіх хат жыў Несцяровіч. Ён быў дома. Ірына ўнесла Славу.

— Антон Паўлавіч,— адразу загаварыла Ірына.— У гэтага дзіцяці ўжо складваюцца ў галаве ні то казкі, ні то легенды нават пра маё пакаленне, пра мяне, а ні то што пра майго, скажам, бацьку. Беспрытульніцтва, голад, сіроцтва — усё гэта ім будзе толькі як казка пра мінуўшчыну.

Славу пасадзілі за стол, сталі частаваць, і яна зноў, ужо з новымі нечаканымі варыянтамі, расказала пра беспрытульніцу Ірыну.

— Не будзе яна любіць мінуўшчыну і ніколі не будзе на яе аглядацца. Яна будзе любіць сваю сучаснасць. Нам трэба яе навучыць ненавідзець рэшткі чорнай мінуўшчыны ў сучасным. Але для гэтага трэба, каб яна ведала мінуўшчыну такою, якая яна была,— гаварыла Ірына.

Гэта быў вечар нейкага як бы з'яднання трох чалавек — Антона Несцяровіча, Ірыны Назарэўскай і Зосі Тварыцкай. Праўдзівей кажучы, Зося Тварыцкая далучылася да першых двух. З імі была Слава, малое дзіця, Слава Тварыцкая.

Несцяровіч правёў сваіх гасцей і паціху варочаўся дадому. Было позна, ужо была ноч. Лес маўчаў. Свяцілі зоры. Ішлі павевы вясны. Несцяровіч стаяў перад лясной прасекай. Далёка ішла паласа зорнага неба над балотам. Вада білася ў бераг мацней. На месцы кладкі сцен гарэла некалькі ліхтароў, асвятляючы чырвоны колер цэглы. Вельмі рэльефна выдзялялася постаць у жоўтым кажуху з вінтоўкай — вартаўнік. На высокім грудзе свяціліся восемдзесят чатыры акны двух першых баракаў. Адтуль чулася гармонь і песня хорам — там ніяк не маглі ўгаманіцца. Несцяровіч стаяў і думаў: яшчэ толькі пачатак. За гэты год трэба, каб відаць стала, што не балота пануе, а над балотам пануюць. Як быццам ён адчуваў цяжкую і непадатлівую сілу дзікага прастору. За баракамі ледзьве вырысоўваўся чорны сілуэт Дзвюх Хат. Там цяпер была толькі адна хата, у якой ён пражыў свае маладыя гады. «Зараз у хаце ўпадзе столь. Ужо чалавек паставіў дзве падпоркі». Узнімаўся вецер, цягнуў вострую свежасць. Водыр прастораў даў чалавеку ў твар.

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

### I

Спатрэбілася блізка года часу на тое, каб усё дайшло да самай чыстай яснасці. Тады ўсе ўбачылі выразна і прычыну няшчасця з краўцом на рыштаваннях, і Славіну палахлівасць перад «дзядзем з чорнымі вусамі». Тады пачалі ўспамінаць, што «Наўмыснік і сапраўды часта трымаў

сябе не так, як усе». Успомнілі, напрыклад, што Наўмыснік немаведама чаго пекалькі разоў лазіў на рыштаванні, мураваў сцяну разам з усімі. «Муруе, бывала, з гадзіну, а можа, і больш, і за гэта яму ніхто не плаціў. І заўсёды гэта рабіў на другой змене. Праўда, ён тады быў вольны, сам ён на цагельным заводзе быў заняты на першай змене, але такое размеркаванне часу якраз бо падыходзіла, каб краўца на рыштаваннях не было». (І гэты быў на першай змене.) Наўмыснік гаварыў, што ён муруе, каб напрактыкавацца ў гэтай рабоце. «Але нашто яму было практыкавацца, калі і так цэгла пад яго рукамі аж сама клалася; такі ён быў спрытны муляр». Усё гэта была праўда, але ўсё гэта выявілася і ўспомнілася пасля. Цяпер жа Наўмыснік быў адным з лепшых работнікаў, і «сам Несцяровіч не мог пад яго падкапацца». Гэта была праўда, што Несцяровіч насіў у сабе нейкае нядобрае і вельмі невыразнае пачуццё ў дачыненні да Наўмысніка. Адкуль яно ішло, цяжка сказаць. І ніякага фактычнага ўгрунтавання яму не было. Аднак жа яно бесперапынна тлела. Найбольш яно трымалася навокал таго, што Наўмыснік заўсёды шукаў выпадку, каб перад Несцяровічам пахваліцца сваім былым парабкоўствам, беднасцю і нават сваім нібыта ўдзелам у змаганні з акупантамі. Які гэта быў удзел — выразна не гаварылася ніколі, так толькі, намёкамі, пабочным словам. «Што там, значыцца, пра старое гаварыць, мала хто якія заслугі мае». І Наўмыснік гаварыў Несцяровічу пра справу на цагельным заводзе. Справа сапраўды ішла добра. І ўсё-такі Несцяровічу не падабаліся бесперапынныя Наўмыснікавы намёкі на ангельскую чыстату сваёй асобы. Занадта ўжо часта Наўмыснік даводзіў да ведама, што ён гараваў на свеце. Нядобрае пачуццё нараджалася тут.

Аднойчы Слава ўбачыла Наўмысніка. Быў ясны дзень. Усе дзеці з дзіцячага сада былі ў лесе. Слава адбілася ад гурту. Стаўшы на калені, яна не зводзіла вачэй з зялёнай казюлі, якая бегала па імшыстай купіне. Час — пасля абеду. У лесе ціха, пад дрэвамі няма спёкі, пахне растопленая на сонцы смала. З дарогі пад дзіцячы сад чутны галасы дзяцей.

— Слава, дзе ты дзелася? — крычаць дзеці.

— Зялёная казюля! — адгукаецца Слава.

Раптам яна пачула чалавечыя крокі. Гэта ішоў Наўмыснік. Слава ўбачыла чарнавусага дзядзьку з дубцом у руцэ. Ён моцна ступаў вялікімі ботамі і то сцёбаў дубцом сябе па халяве, то адкусваў кончык дубца і выплёўваў.

Ён убачыў Славу і адразу спыніўся. Ён стаў нерухома, і вочы яго сталі круглыя і вялікія. Ён аж адступіў крок назад. Так ён стаяў і маўчаў. Пасля ён стаў падыходзіць да Славы. Навокал дрэвы, трава, мох; дзіцячыя галасы сталі цішэй. Аднастайна шумяць хвойныя вершаліны. А гэты дзядзька ідзе проста на яе і не зводзіць з яе сваіх вачэй. Гэты нерухомы позірк спалохаў дзіця. Яно забылася на зялёную казюлю і ўсхапілася на ногі, гатовае кінуцца бегчы.

— Як ты завешся? — абазваўся раптам дзядзька.

Вочы яго пільна разглядалі Славу. Слава пабегла.

— Дурное, чаго ты,— памчаўся наўздагон голас, і дзіця пабегла мацней, адчуваючы на сабе позірк незвычайнага чалавека. Праз хвілін дзве Слава была з дзецьмі, а Наўмыснік усё стаяў з шырока расплюшчанымі вачыма. Пасля ён пайшоў, але ўжо не такой хадой, як раней. Цяпер ён ішоў вельмі павольна, здзіраючы зубамі горкую кару з дубца. Калі перад ім бліснуў канец лесу, ён вярнуўся і пайшоў к дзіцячаму саду. Дзеці, пабраўшыся за рукі, ішлі шукаць зялёнай казюлі. Наперадзе ішла Слава. Яна зноў убачыла чарнавусага дзядзьку з тым самым позіркам. Цяпер яна была не адна і не баялася. Некалькі разоў азіралася і кожны раз бачыла, як незнаёмы дзядзька не зводзіць з яе вачэй. Назаўтра дзядзька зноў з'явіўся. Ён шпарка, быццам выпадкова, прайшоў паўз дзяцей і ўвесь час трымаў позірк на Славе. Так было некалькі дзён. Некалькі раз ён пытаў яе, як яна завецца, і кожны раз яна, спалоханая, уцякала. У яго ўжо быў намер запытацца ў дзяцей імя гэтай дзяўчынкі, як адна акалічнасць прымусіла яго забыцца на ўсю гэту справу.

На будаўніцтва Наўмыснік прыходзіў звычайна мала калі. Заўсёды ён быў на цагельным заводзе. Толькі апошнія дні прыходзіў у гэты бок сачыць за Славай. А цяпер яго пачалі заўважаць траха не кожны дзень на будаўніцтве. Але ніхто гэтага на асаблівую ўвагу не ўзяў.

Аднойчы Наўмыснік шукаў Несцяровіча. Першая змена яшчэ працавала. Наўмыснік прыехаў да Несцяровіча на лодцы, яму трэба было параіцца, ці не пара пакінуць рабіць цэглу, а цагельнікаў паставіць на іншую работу: сапраўды, цэглы было наробленa многа. Яна ляжала вялікімі ярусамі. Наўмысніку сказалі, што Несцяровіч на пабудове, ён туды і пайшоў. Як толькі выйшаў ён з лясной дарогі, перад яго вачыма разбеглася знаёмая яму карціна. Гэта была няроўная лагчына, з двух бакоў абгорну-

тая лесам і з двух бакоў адкрытая. Наўмыснік стаяў плячыма к лесу на самым дне балотнай лагчыны. Адсюль зямля паволі падымалася ўгару, з кожным крокам сушэла, дарога вілася па ёй, як разасланая стужка, мінала вялікі камень і ўжо была відна над ім. Чыстае неба спускалася на гэты зялёны ўзгорак, увесь купчасты ад хмызнякоў. Направа быў абрыў к рэчцы, за рэчкай без краю балота, не так зялёнае, як чорнае — торф. Налева ледзьве відна была хатка. Паміж ёю і абрывам, на вялікай разлегласці ўсяго ўзгорка (кіламетраў паўтара), варушыліся чалавечыя постаці. Іх было многа. Дзе-нідзе яны былі па некалькі чалавек, часта — вялікім гуртам. Найбольш іх было сабрана на двух пунктах. Злева былі баракі, і вышэй над імі вырысоўваліся чырвоныя абрысы няскончаных сцен з праваламі будучых акон. Сцены стаялі трыма карпусамі, на верхніх рыштаваннях кожнага корпуса густа стаялі людзі. Нават і адсюль відна было, як хадзілі рукі муляроў — умуроўвалі цэглу. Ні галасоў, ніякіх іншых гукаў не чуваць было. Адлегласць не малая, і гукаў не чутно. Пякло сонца, было відна, што то той, то другі падыходзіць к вядру, некалькі разоў чэрпае з яго і п'е. А пасля шпарчэй ходзяць рукі, каб дагнаць страчаны каля вядра час. Верхняе рыштаванне было высока, край сцяны над ім узвышаўся яшчэ вышэй, а калі глядзець адгэтуль, знізу, усё было яшчэ вышэй — страшэнная вышыня. (Адзін дом будзе на чатыры паверхі, два другіх — на тры.) Бесперапынна спускаліся ўніз і падымаліся ўгару прымацаваныя к канатам бочкі і звычайныя ручныя насілкі, падаючы на рыштаванні цэглу і гліну. Унізе, на зямлі, людзей здавалася яшчэ больш. У руках хадзілі рыдлёўкі, кладучы гліну і вапну ў бочкі. Знімалі проста з вазоў цэглу і клалі на насілкі. Тут жа былі павольныя і сагнутыя кругам постаці цесляроў. Яны часалі бярвенне. Рух сякер відзён быў па рухавым бляску сонца на іх. І было дзіўна, што ад гэтых удараў ледзь чуваць стук.

Правей, за чвэртку кіламетра ад гэтага месца працы, быў другі пункт. Тут узвышаўся толькі адзін корпус. Сваім фасадам ён глядзеў проста на лес. Корпус быў шырокі, кубічнай формы — гэта льга было заўважыць нават адгэтуль. Ён быў выведзен яшчэ куды ніжэй за тыя тры. Ён рос павальней, хоць людзі тут стаялі на рыштаваннях таксама густа, як і там. Унізе тут людзей было вельмі многа. Найбольшы рух іх быў там, дзе сцяна корпуса дзялілася напалам шырокім пралётам. Адсюль ледзь даходзіў да ву-

шэй звон жалеза, як бы шмат малаткоў кляпалі. Направа, з боку рэчкі, паднімаўся на ўзгорак абоз з цэглай. Мясцовыя конікі ледзь перамагалі круты ўздым дарогі. Насустрач ім варочаліся пустыя фурманкі. Наўмыснік пайшоў далей.

Дарога ўзвівалася к адзінокаму вялікаму корпусу. Цень ад корпуса паўзла па зямлі. Сонца неміласэрна пякло. Двое рабочых разбівалі на кавалкі даўжэзны прэнт. Ён ляжаў на раскладзеных скрозь рэйках і займаў месца траха не на ўсю даўжыню корпуса. Адзін рабочы прыстаўляў да прэнта зубіла, другі біў зверху молатам. Адзін стаяў на сонцы, другі ў цяні. Яны часта мяняліся. Яны адбілі канец і перайшлі біць далей. Абодва былі ўжо ў цяні. Але пад канец работы над гэтым кавалкам сонца пачало даганяць іх. Малатабоец зноў быў у сонцы. Ён абліваўся потам. Мяняцца яны пачалі часцей. Так было і за трэцім кавалкам. Двое людзей спяшалі, каб апярэдзіць сонца на адзін кавалак, бо тады можна заўсёды працаваць у цяні; у такой самай меры, як паўзе за імі цень, будуцьісці і яны. «Каб хто адзін кавалак адбіў побач з намі. Запасны молат і зубіла вунь ляжаць. А перасоўваць прэнт не хочацца, цяжка, горача, трэба на падмогу клікаць,— усе занятыя». Так, напэўна, думалі гэтыя двое рабочых. Мяняліся яны ўсё часцей і часцей, малатабоец усё шпарчэй і мацней гасіў з-за вуха молатам. Гэта было сапраўднае змаганне двух чалавек з сонечнай спёкай. «Пяць бы хвілін перадыхнуць. Але тады ўжо няйначай трэба будзе перацягваць прэнт, тады ўжо ніяк сонца не выперадзіш». У гэты час сюды падышоў чалавек. Запырсканую вапнай сваю кепку ён трымаў у руцэ і абціраў ёю спацелы лоб. Худашчавы твар яго быў чыста выбрыты, але ў пырсках вапны. На чалавеку быў мулярскі фартух, чырвоны ад гліны і цэглы. Рукі таксама мелі такі колер. Чалавек выціраў пот, стаяў у цяні, спусціўшы галаву, і глядзеў у той пункт, дзе молат з вострым дзвінклівым гукам падаў на зубіла. Гэты чалавек толькі што злез з рыштаванняў. Злез ён самы першы. Да абедзеннага перапынку аставалася хвілін дваццаць. Норму сваю ён зрабіў — суседзі яго даганялі цяпер: укладаў цэглу ён з самага рогу, і там сцяна на цаглін чатыры была вышэй, як дзе.

— Адбі адзін кавалак. Бачыш — сонца,— сказаў той, што стаяў на каленях з зубілам.

Муляр нічога не адказаў і нейкі час стаяў у акамянелай позе стомленага чалавека. Пасля абазваўся:

— З кім жа я, дзе зубіла і молат?

— Вунь ляжаць.

Муляр узяў у рукі зубіла, некалькі разоў плюнуў сабе пад ногі, агледзеў зубіла з усіх бакоў і стаў над прэнтам на калені, чакаючы, пакуль хто падыдзе. У гэты момант падышоў Наўмыснік.

— Пастукай малатком зверху,— гукнуў яму малатабоец.

Наўмыснік ахвотна ўзяў молат і, шырока расставіўшы ногі, стаў над мулярам. Муляр нават і не глянуў: ён адпачываў, спусціўшы твар і вочы ў зубіла. Наўмыснік гахнуў молатам па зубіле. Раз, другі, трэці. Біў бесперастанку. Зубіла ўядалася ў прэнт. От ужо двое рабочых адбілі свой кавалак, мінулі муляра і Наўмысніка і там пачалі біць. Цяпер яны былі абое ў прыемным цені, сонца было далёка.

— Падаецца, падаецца, зараз адаб'ем. Дай мацней! — сказаў муляр у такт сваёй руцэ, якая з кожным стукам молата па зубіле адскоквала ўбок.

Наўмыснік аслупянеў ад гэтага голасу. Молат затрымаўся ў паветры і пасля апусціўся вельмі слаба. Другі і трэці раз было тое самае. Наўмыснік разглядаў чалавека, які стаяў на каленях пад яго размашыстай пастаццю.

— Ну, як жа ты біць пачаў! Утаміўся? Адбі скарэй, і скончана.

«Голас! А твар пабрыў!» Пад Наўмыснікам стаяў на каленях кравец. Ён ні разу не падняў угару сваёй стомленай ад гарачыні і працы на рыштаваннях галавы і не бачыў, хто б'е молатам па зубіле. У гэты момант з рыштаванняў злезла яшчэ некалькі чалавек і абступілі краўца і Наўмысніка. Наўмыснік раптоўна сунуў молат у руку аднаму з рабочых, і той даў некалькі апошніх разоў па зубіле. Наўмыснік з пабялелым тварам ужо быў па той бок абведзенага рыштаваннямі корпуса. Там чалавек званіў у рэйку, рабочыя пакідалі работу. «Убачыў ці не? — думаў Наўмыснік пра краўца.— Напэўна, не ўбачыў, калі маўчаў. У яго натура такая, што каб убачыў, то адразу кінуўся б у гаворку». Адценне радаснага хвалявання перасмыкнула твар. «А можа, і ўбачыў, але сумысля маўчаў: тут і не такія натуры зменьваюцца». Зноў трывога заварушылася ў Наўмыснікавай душы. Цяпер ужо ён не шукаў тут Несцяровіча. «Абед, Несцяровіч пойдзе напэўна ў сталоўку...» Наўмыснік рушыў уніз к рэчцы, і неўза-

бавe яго постаць схавалася зусім у прырэчных зарасніках. Ён тут пайшоў павальней, апанаваны глыбокім одумам.

Вечарам таго дня ён прыйшоў к Несцяровічу. Было позна. Наўмыснік выбраў гэты час, каб застаць Несцяровіча дома аднаго. З самага вечара Несцяровіч мала калі бываў дома. Цяпер ён маўкліва сядзеў у большым пакоі, адзін, і курыў. Наўмыснік закурыў сам і таксама моўчкі сядзеў насупраць Несцяровіча. Такім парадкам ён не парушыў атмасферы маўклівага спакою пасля працавітага дня.

— Я ўдзень цябе шукаў і не знайшоў,— прагаварыў Наўмыснік пасля доўгага маўчання і флегматычнага пазяхання (гэта дапаўняла атмасферу спакою).

Несцяровіч не адказаў, чакаючы. Наўмыснік памаўчаў і зноў абазваўся:

— Па-мойму, то можна цагельню прыпыніць. Цэглы — чорт што. Трэба прыдумаць які-небудзь іншы транспарт. Фурманкі — і дорага, і марудна вазіць.

Несцяровіч стомлена кіўнуў галавой. Наўмыснік гаварыў:

— Я надумаўся пераехаць у Мінск.

— Як пераехаць?

— Зусім. Тут, бачыце, як сам ведаеш, дачка ў мяне канчае гэтымі днямі тут школу, і так яе пакідаць не хочацца, што яна недавукам будзе. Няхай вучыцца далей, у які-небудзь інстытут ці куды няхай ідзе.

— Ну і вельмі добра, няхай ідзе.

— То от я думаю і пераехаць у Мінск або хоць куды, дзе інстытут. А тым часам і другая падрастае, таксама неўзабаве далей вучыцца трэба будзе. Найлепш, калі і вучацца і дома, пры бацьку.

— А чаму ім быць пры бацьку? Няхай едуць і вучацца.

— Ды і так, хочацца пажыць у горадзе; што ж, я ўжо не малады, што я дзе калі бачыў, парабкуючы ў паноў. Паспрабаваць усяго хочацца.

Несцяровіч падпёр лоб рукамі. «Зноў парабкоўствам хваліцца. А ну, што з цябе будзе далей!»

— Ты ж тут патрэбен, на будаўніцтве. Чаму ты пра гэта не думаеш?

Наўмыснік весела зірнуў:

— Пра гэта я-то думаю. Але ўдарнікам можна быць усюды. Дай ты мне добрую даведку аб маёй тут у цябе працы, і няхай партком падпіша, напішы праўду, як я пра-

цаваў — і я адразу, куды б ні з'явіўся, стану на работу. Гэта няможна так глядзець, што толькі тут будаўніцтва, а дзе іначай — то не. У нашай дзяржаве ўсё ў адну мэту ідзе.

— Падумай, можа, астанешся, ты тут патрэбен, што я так буду патрэбнымі людзьмі раскідацца!

— Я добра падумаў даўно ўжо. Усё збіраўся табе сказаць.

— Чаму ж не сказаў?

— Дождж за карак не ліў.

— Раптам паліў?

— Дачка ж школу канчае.

Несцяровіч заўважыў, што Наўмыснік усюды гаворыць яму «ты». Раней ён гаварыў і «ты» і «вы». Як быццам не адважваўся зусім перайсці на «ты».

— То напісаць табе, значыцца, даведку?

Несцяровіч не зводзіў вачэй з Наўмысніка.

— Даведку.

— Якую ж табе даведку? (Несцяровіч выцягнуў з кішэні каранадаш.) Карандашом добра будзе? Карандаш хімічны.

— Лепш бы чарнілам.

— Нічога, пасля машыністка перадрукуе. Дзе ж ты бачыў, каб такую даведку даваць ад рукі пісаную?

— Праўда і гэта.

Наўмыснікаў твар свяціўся ўсімі адценнямі радасці. Несцяровіч пісаў, прыкусіўшы губу, і гаварыў следам за пяром кожнае слова: «Дадзена гэта лепшаму ўдарніку пабудовы...»

— Ну, гавары, што далей пісаць?

— Былому батраку.

— Добра. Былому кулаку...

— Як гэта кулаку?

— А адкуль я ведаю, што ты батрак! Я ж ніякіх фактаў пра гэта не маю.

Наўмыснік сядзеў белы як палатно. Пасля ён паківаў галавой.

— Эх ты, чалавеку не верыш! Ты глядзі на чалавека па рабоце.

Несцяровіч вытрымаў паўзу і зарагатаў:

— Спалохаўся? Я жартаваў. Ніякай даведкі я табе не дам, ты мне тут патрэбен. Аставайся далей рабіць цэглу — пасля будзем закладваць новы корпус. Ідзі, браце, спаць, я таксама лягу, пара на адпачынак.

Збянтэжаны, злосны і трывожны, Наўмыснік выйшаў з кватэры. «Хоць бы запрасіў пераначаваць, ведае ж, што мне далёка». Ён спусціўся к рэчцы, пхнуў у ваду лодку, на хаду ўскочыў у яе і боўтнуў вёсламі. Цёмныя берагі пабеглі насустрач. У гэты самы час Несцяровіч, лежачы ў пасцелі, думаў пра тое, што Наўмыснік пабялеў пры слове «кулак».

Назаўтра быў той першы дзень, калі Наўмыснік узлез на рыштаванне. Дзейнічаць ён пачаў вельмі планава і шпарка. Пасля высветлілася, што ён так адразу пайшоў на гэтую справу не таму, што думаў сапраўды тут аставацца, хоць бы да канца пабудовы першага корпуса, і баяўся, што яго кравец калі-небудзь сустрэне і пазнае. Яму аставалася пражыць тут месяцаў якіх тры-чатыры, а гэты час ён мог прасядзець на цагляным заводзе, дзе кравец ніколі не бываў. Але справа ў тым, што ён думаў пра Славу. «Гэта яна, гэта Тварыцкага дзіця. Чаго яно тут? З кім яно? Зося Тварыцкая тут?» Што яна тут, ён ужо ведаў тады, калі прасіў у Несцяровіча даведку. Па дарозе сюды ён зайшоў у кантору. Спачатку пастаяў пры сцяне, коса зазіраючы ў акно — ці няма там часамі краўца. Пасля ўвайшоў і глянуў на выклееныя спісы брыгад ударнікаў, і вычытаў прозвішча Зосі Тварыцкай. «Кравец, Тварыцкая, можа, і яшчэ хто. Як перабыць гэтыя месяцы? Хоць бы хто адзін знік». Пасля выявілася, што тэрмін гэтых «трох ці чатырох» месяцаў быў, можна сказаць, рэальны. Ён скончыўся нават раней. Тады была ўжо восень. Цяпер жа Наўмыснік стараўся як-небудзь дажыць да гэтага тэрміну.

На рыштаванне ён узлез пад канец працы другой змены, калі кравец недзе, мусіць, адпачываў. Перад гэтым жа, удзень, ён з-за дрэваў убачыў краўца на рагу сцяны. Той умуроўваў цэглу. Наўмыснік здзівіўся спрытнасці рук гэтага чалавека. «Паспрабуем, хто лепш муруе»,— з нейкай збянтэжанасцю падумаў Наўмыснік.

— Хачу падвучыцца муравацць,— сказаў ён, узлезшы на рыштаванне.— Завод цагельны, мусіць, скора стане, трэба перакваліфікавацца.

— Дык жа ты муруеш добра! Якое тут табе перакваліфікаванне! — сказалі некалькі муляроў у адзін голас.

— Трэба ўспомніць, даўно не мураваў.

Ён «успамінаў» мураванне дзён тры ці чатыры. Пасля пачаў прасіцца ў Несцяровіча зняць яго з завода і паставіць сюды. «Я тут больш выраблю, мне трэба грошай са-

браць, дачцэ даць на дарогу, якая паедзе вучыцца»,— гаварыў ён Несцяровічу.

На пяты дзень зранку, мала больш як праз гадзіну работы, кравец упаў з рыштавання. І не толькі кравец. Упаў і яшчэ адзін чалавек. Яны разам стаялі на адной дошцы. Дошка была самім краўцом прыбіта да папярочкі. Трэба сказаць наперад, што цвік гэты выцягнуў Наўмыснік. На гэтай жа дошцы ляжала і цэгла. Нагінаючыся браць яе, Наўмыснік неўзаметку вырваў цвік і абцужкі схаваў назад у кішэню. Злазячы з рыштаванняў, ён адсунуў дошку самым канцом на папярочку. Але дошка не ўпала. Пакуль яе кравец збіў, тупаючы ботамі, ён ужо вылажыў высока рог сцяны і прыстроіў вышэй сабе пад ногі новую дошку. Тады, пад вечар, Наўмыснік выцягнуў цвік з самай папярочкі, там, дзе яна была прыбіта да падпоркі. Такім парадкам папярочка адным канцом пакрысе гнулася ўніз, і нарэшце з яе слізганулася дошка. Два чалавекі ўпалі. Насмерць ніхто не забіўся. На зямлі быў насыпан прывезены жвір, і гэтую акалічнасць Наўмыснік не заўважыў, аднак жа людзі здорава пабіліся. Кравец пабіўся ад таго, што, падаючы, грукаўся аб выступы ніжэйшых папярочак і з размаху шмаргануўся аб дошкі. Ён упаў плячыма і галавой у жвір, але нагою здорава даўся аб тоўсты выступ самай ніжэйшай папярочкі і зламаў нагу. Ён адразу пачаў енчыць, збялеў, худашчавы твар яго неяк адразу яшчэ больш выцягнуўся.

— Забярыце мяне, браткі, адсюль,— ледзьве прагаварыў ён да натоўпу рабочых.— Лячыце мяне, я адзінокі.

— Які ты адзінокі, мы ж тут! — гукнуў хтосьці ўзбуджаным голасам, з ноткамі азлаблення.— Ты маўчы, то лепш будзе, здаравей.

Кравец заплюшчыў вочы. Дагэтуль яго лічылі працавітым дзіваком і за гэта любілі яго, цяпер убачылі, што ўсялякае дзівацтва скончылася і пачаліся пакуты блізкага чалавека. Праз некалькі хвілін ён быў ужо ў амбулаторыі, а праз гадзіны дзве ён ляжаў у аўтамабілі. Яго везлі ў гарадок, у больніцу. Там ён астаўся ляжаць і правіцца.

Ніхто не падумаў пра Наўмысніка. Несцяровіч, калі думаў пра яго, то не ў сувязі з гэтай справай. Наўмыснік не даваў Несцяровічу праходу, прасіў пусціць яго на пабудову. «Я тут больш выраблю». Наўмыснік думаў так: калі цяпер адразу пакінуць прасіцца з завода сюды, то могуць падумаць, чаму гэта так раптам адпала ахвота пасля таго, як упаў кравец?

Несцяровіч нарэшце згадзіўся. На Наўмыснікава месца на завод стаў другі чалавек. Наўмыснік пайшоў у муляры. Ён падніма̂ўся кожны дзень на ўзровень сцяны і кожны раз перад тым як стаць мураваць, мацаў нагой дошку пад нагамі: ці моцна, значыцца, трымаецца. «Тут жа так, абы-як зробяць, а тады — бач, якое няшчасце нядаўна з людзьмі адбылося». Спрабаваў ён нагой дошку так, каб усе гэта заўважылі. Ён быў смелы: кравец у гарадской бальніцы, а Тварыцкая за кіламетраў дзесяць, дзе далей ідзе асушальная магістраль і пачынаюцца тарфяныя распрацоўкі. Так Наўмыснік чакаў «свайго тэрміну». Дні яму цягнуліся вельмі павольна. Лета здавалася доўгім. Ён прагнуў, каб хутчэй восень. Тады ён думаў зусім расквітацца з усімі гэтымі справамі і зноў стаць тым, кім быў змалку. Што гэта так будзе, ён быў упэўнен. Ён усё зрабіў добра. А лёс яго вырашаць у добры бок іншыя людзі. Уласна кажучы, яго місія цяпер была закончана. Цяпер можна і памураваць, каб не кідалася нікому ў вочы, што ён лазіў на рыштаванне перад няшчасцем з краўцом. «Усё ж такі варта было б мець даведку. А раптам пачнуць заўважаць, разведаюць, трэба будзе пайсці адгэтуль, можа, куды далёка знікнуць. Праўда, у «тыя дні» трэба будзе на малы час зноў сюды з'явіцца, спаткацца, убачыцца, дагаварыцца, перадаць сябе на волю тых людзей». Аднак жа лепш за ўсё ён дапускаў думку, што не прыйдзецца знікаць адгэтуль. Яму так удавалася! Ён быў распешчаны ўдачамі! Вечарамі ён часам заходзіў да Несцяровіча і ўсё намякаў на даведку: «Увосень я выеду».— «Тады і даведка будзе». Падоўгу ў Несцяровіча Наўмыснік ніколі не сядзеў. Таму нічога дзіўнага не было ў тым, што аднойчы ён пастараўся вельмі адразу, раптоўна, выйсці адсюль.

Несцяровічава кватэра — гэта была вялікая хата на дзве палавіны (цераз сенцы). Большая палавіна перагароджана дошкамі на тры бакоўкі, меншая палавіна была без перагародак. Тут была простая пабеленая ляжанка, абтынкаваныя і пабеленыя сцены. У гэтым пакоі жыла Ірына. Тры бакоўкі цераз сенцы займаў Несцяровіч. У Ірыны часта бывала Слава. Жыла Слава ў інтэрнаце, разам з тымі дзецьмі, бацькі якіх былі або на цагляным заводзе, або на распрацоўцы торфу. Зося Тварыцкая была на торфе, і Слава асталася ў інтэрнаце. Кожны раз перад выхадным днём Ірына з'яўлялася ў інтэрнат, забірала Славу да сябе і адводзіла назад назаўтра ў позную раніцу.

У той вечар Наўмыснік, седзячы ў Несцяровіча, пачуў Зосін голас. Зося гаварыла на двары. Голас Наўмыснік пазнаў адразу. І адразу ж, ледзьве паспеўшы адвітацца, выскачыў з кватэры. Было цёмна. Ён бачыў, як Зося стаяла пры адчыненым акне Ірынінай кватэры. Гаварыла і смяялася. Наўмыснік кінуўся ўбок, каб яго не пазналі. «Добра, што выбег ад Несцяровіча, можа, яна туды пойдзе». Зося пайшла ў сенцы, Наўмыснік адышоўся пад дрэва і ў самым цёмным месцы стаў насупраць адчыненага акна. Яму было відно, як Зося ўвайшла ў пакой, як падышла да ложка. А там, акрыўшыся адной коўдрай, ляжалі Ірына і Слава. Зося пачала тармашыць валасы на Славінай галаве. Слава рагатала, старалася хапіць Зосю таксама за валасы. Ірына смяялася.

— Чаму ты раней не прыйшла, мы думалі, што ты зусім не прыйдзеш, і леглі спаць,— крычала Слава, цягнучы маці за валасы.

«Яна тут»,— думаў Наўмыснік, ідучы лесам у свой бок. Ён цяпер жыў зноў у той самай хаце, дзе яго ў першы раз убачыў Несцяровіч.

Зося прыходзіла да Славы кожны выхадны дзень. Яе вельмі ўразіла няшчасце з краўцом. Яна яго шкадавала і лічыла, што ён зваліўся таму, што не быў здолен да такой работы. Яна не зусім верыла, калі ёй расказвалі, як ён спрытна муравеў. Да самага высвятлення ўсіх гэтых падзей ён уяўляўся ёй як дзівак, мала практычны і яшчэ менш сталы.

Ірына аднойчы паехала ў гарадок і зайшла ў больніцу. На яе адразу тхнула днямі маленства. Пакутныя вобразы мінулага апанавалі яе. Гэта была больніца, тая самая, куды калісьці яна прыходзіла з братам да хворага бацькі і не знайшла яго жывым. Ідучы больнічным дваром, па дарожцы, сярод густой травы, яна думала аб ходзе часу. Краўца яна застала ў карыдоры. У халаце і туфлях, ён глядзеў у акно і вадзіў пальцамі па барадзе. Ён узрадаваўся Ірыне:

— Вы ўсе добрыя людзі. Мяне і то не забываеце.

— А чаму мы вас павінны забываць?

— Мала што вы гаворыце! У вас добрае сэрца... Я думаў, што не выжыву, так мне цяжка было. Я напісаў сыну, каб прыехаў, а ён мне толькі грошай сыпануў — не буду таіцца — сыпануў. А прыехаць, піша, не магу; хачу, а не магу (знізіў голас да шэпту і падняў угару палец). Ён інжынер там, дзе жалеза з сырца выплаўляюць. Горы там,

піша, страх. Не так, як у нас, што поле і ўзгоračкі, а — горы, горы. Я ж думаў, што я на свеце многа бачыў, ходзячы па людзях і шыючы кажухі. Думаў, што паўсвету прайшоў. Аж, як пагляджу цяпер, то дзе я, сказаць, вельмі быў? Нідзе я не быў і нічога не бачыў. Па сваіх закутках хадзіў, і больш нічога. Каб, скажам, ад гэтага няшчасця памёр, то так, без карысці сабе і людзям. Я прывучваў сына змалку да кажушанага рамяства. Божа мой, які я тады быў дурань. Ён жа цяпер інжынер. Я яму пісаў усё, што са мной было і што праўлюся і скора з больніцы выйду... А я яго, дурны, да брадзячага кажушніцтва налажваў.

— А што вы маглі інакш зрабіць? Такім жыццём прыціснуты былі.

— О, о гэта праўда. Я зусім не вінават... Ах, ах, як гэта я мог так зваліцца! Хто хоць там на маім месцы рог сцяны дамураваў? Сцены ўжо, мусіць, дамуравалі?

— Дамуравалі. Наўмыснік там мураваў.

— Наўмыснік? Ён маю хату быў раскідаў. Ён нейкую злосць на мяне мае, мяне зусім не ведаючы. Хоць бы паглядзець, што там за Наўмыснік? Я такі скора выпішуся. Прызнацца — то нудна мне тут. Каб хіба работу якую мець, каб калупацца над чым.

З'явіўся ён з больніцы праз паўтара месяца пасля няшчасця. Быў ветраны і хмурны дзень. Ён ехаў у кабінцы грузавога аўтамабіля поруч з шафёрам. Ён раздумваў: «Цяпер я вярнуся. Дзе буду жыць? Кватэра, напэўна, кім-небудзь занята, вядома — не свая. Можа, успомняць, што я стаяў на рабоце, калі скалечыўся, а можа, ужо і забылі. Ірына мяне даведалася, бо ў яе добрае сэрца. А ўсе? Як са мной спачатку Несцяровіч быў абышоўся, калі я толькі яшчэ на работу збіраўся станавіцца? Ён вельмі грозна са мной гаварыў. А былы ж сусед! То што ад усіх хацець!»

— Што кажаце? — запытаў шафёр, пачуўшы краўцова мармытанне.

— Нічога, сам з сабой развагу маю.

Машына стала кіламетраў за два ад пабудовы забіраць нейкую паклажу. Кравец пайшоў пешкі. Яму нават прыемна было размяцца, нага была ўжо зусім здаровая. Пасля такой вялікай ляжні ў больніцы ён як бы варочаўся нанава ў свет таго, з чым зжыўся за жыццё. Галава яго была, як у тумане. Ён так забыўся на ўсё, што быў апанаван ілю-

зіяй: быццам гэта ён звычайна сабе варочаецца дадому пасля шыцця кажухоў па людзях. Зараз адчыніць сваю старэнькую хату, пабядуе, што цяжка жыць на свеце, хлопец пачне гаварыць, што ў яго няма ботаў, дзяўчына пачне плакаць, што няма вопраткі. Ён дастане зробленыя грошы, палічыць, пачне рахаваць — не хапае на боты сыну і на вопратку дачцэ. Можна сказаць, што заўсёды так спатыкала яго свая хата.

З Цецераўскай грэблі ён пачаў падымацца на ўзгорак. Грэбля прэла і гніла. «Па ёй цяпер не ездзяць, на заняпад пайшла». Так думаў ён, не маючы ў гэты момант ад гэтага факта ні радасці, ні суму. Ён проста адзначыў факт. За чвэртку кіламетраў ад грэблі, цераз асушаны кавалак балота глядзеў высокі насып і ляжала дробнае каменне. Зараз тут будзе шасейная дарога. Падняўшыся на ўзгорак, ён спыніўся і астаўся так стаяць. Перад ім нечакана разгарнулася панарама. Ён перад тым, як акінуць яе вокам, пачаў перабіраць дэталі. Перш за ўсё — зусім блізка ад яго было тое, што як быццам бы не належала да ўсёй карціны. Гэта было не што іншае, як густы зараснік чартапалоху і лебяды. Некалькі сытых канаплін узвышалася над усім гэтым упартым зборышчам. Вераб'і аж кішэлі навокал. Гэта было месца, дзе калісьці стаяла яго хата. «Пачакай жа... ага... ну, вядома. Сын абуты і дачка адзетая... Пра што я думаю! Сын інжынер, а дачка доктар. І без майго старання ўсё так пайшло, жыццё скрозь так выйшла». Ён глянуў далей. Корпус электрастанцыі быў ужо закончан. Адгэтуль відаць той рог сцяны, на якім мураваў ён. Цяпер толькі некалькі чалавек было на версе сцен. «Дах майструюцца рабіць?» Работы найбольш ішлі на зямлі. У шарэнгу сталі горны і кавадлы. Сыпаліся іскры з-пад кавальскіх малатоў, вішчала пад пілой жалеза. Направа стаялі гатовыя тры карпусы кватэрных дамоў. Неабтынкаваная цэгла адлівала пад сонцам густой чырванню. Тхнула смалістым водырам, ішлі дымы, і трапяталіся агні. Людзі мяшалі кіпучы асфальт. Наскора зробленыя з дошак, цягліся адна за адною сталярні. Падышоўшы бліжэй, кравец пачуў скогат гэбляў.

— Ого-го, наш муляр прыйшоў,— закрычала разам з сотню галасоў.

— Ну, як здароўе?

— Скора на работу станеш?

— Што ж ты пехатой? Садзіся, адпачывай, а братка ты мой!

К яму падбягалі людзі, наскора віталіся і адбягалі да работы. Ён стаяў збянтэжаны і не ведаў, што гаварыць. Седзячы, ён скурыў папяросу і пайшоў далей шукаць Несцяровіча. Несцяровіча ён не знайшоў, утаміўся і пайшоў на сваю кватэру, няўпэўнены, што ў ёй ніхто не жыве. «Ці рэчы хаця цэлыя?» Так думаў ён, узыходзячы на панадворак. «Так і ёсць, акно адчынена». Ён уляцеў у хату, зняважаны тым, што парушана яго права. Тым часам дзверы былі замкнёны. Ён увайшоў у суседскі пакой. Там было двое дзяцей. «Ага, Тварыцкая ўсё яшчэ на торфе». Хлопчык дастаў з шуфляды ключ і працягнуў яму.

— Дзядзя, гэта вы кравец з больніцы?

— Я. Нашто табе?

— Маёй маме сёння на будаўніцтве сказалі, што вы сёння прыедзеце. За гэта ёй на будаўніцтве сёння сказалі, што залічаць за гэта ёй сёння за тры гадзіны працы на будаўніцтве,— за прыборку вашай кватэры. Мая мама працуе на будаўніцтве.

— Колькі табе год? — пачаў бесперапынна ўсміхаючыся кравец.

— Мне сем год, а папа мой таксама на будаўніцтве.

— А, бачыш ты.

Кравец адамкнуў свой пакой і ўвайшоў. Падлога чыста вымыта, яшчэ мокрая. На ложку новая пасцель — бялізна пасцельная толькі што з-пад уцюга. Бялізна нацельная прыгатавана зверху. Перад ложкам на падлозе кавёр з аблямаванага чорным шэрага тоўстага сукна. На стале настольнік.

— Адкуль гэта ўзялося, божа мой!

— Мама сказала, каб вам сказаць, калі вы прыедзеце, што гэта вам ад будаўніцтва прэмія. Тут давалі прэміі ўсім ударнікам, а вы не ведаеце, бо вы ляжалі ў больніцы. Я вас чакаў, а цяпер, можа, можна ўжо мне ісці?

— Ідзі сабе, ты маладзец.

Кравец скінуў боты, абцёр з іх анучкаю пыл і паставіў каля парога. Сам абуў на ногі лямцавыя туфлі, яшчэ раней ім самім пашытыя і, хвалюючыся, раздумваючы, стрымліваючы ў сабе ўдзячнасць усяму жывому, пратупаў па пакоі аж да самага вечара. За паўгадзіны да захаду сонца ён пачуў на двары вельмі блізка галасы. Акно ўсё яшчэ было адчынена. Ён выгнуўся з акна. Паперадзе ішоў той самы муляр, што разам з ім упаў з рыштавання. Ён у больніцы не быў, паправіўся скора і ўжо больш як месяц працаваў. За ім ішло поплеч двое, таксама знаёмых, муля-

роў. Пасля яшчэ чалавек шэсць. Ішоў і Несцяровіч. «Куды гэта яны?» — думаў кравец.

— Здароў! — закрычалі ўсе гуртам.

«Пакуль не мінулі маёй хаты — можа, ім падзякаваць за іх клопаты пра мяне?»

А яны якраз завярнулі к яму на ганак. Тут ён заўважыў, што кожны з іх штосьці трымае пад пахаю. Несцяровіч таксама. Усе ўвайшлі ў пакой.

— От ты і дома,— сказаў Несцяровіч.— Здароў, суседзе.

— А мы да цябе,— сказаў адзін з муляроў.— Ну, кладзіце, хлопцы.

Усе паклалі на стол свае скруткі. Там было — мяса, хлеб, яблыкі, булкі.

— Адным словам, мы разам у цябе павячэраем і ўручым табе тое, што ты, лежачы ў больніцы, не мог сам атрымаць. На, бяры сваю ўдарніцкую грамату.

Кравец стаяў і маўчаў. Грамату ён узяў у рукі, пільна агледзеў яе, паклаў на акно. Ён быў збянтэжаны і расчулены.

— То сядайце, браткі. От я зараз буду гатоў.

— А што ты рабіць збіраешся?

— Хоць боты абую, а то я на ногі ўступкі ўссунуў.

— Будзь так, як табе лепш, не на вяселле збіраешся. Свае людзі.

Кравец усё ж такі абуў боты і сеў за стол. Яго там ужо чакалі. Выпілі па чарцы гарэлкі, налілі ў шклянкі піва.

— Шкада, што я не ведаў... хоць пабрыўся б,— вінавата гаварыў кравец.— Гэта ўсё неахайнасць чалавечая.

— Ну, бачыў, колькі мы ўжо тут без цябе зрабілі?

— Бачыў, як ішоў.

Краўцова душа напоўнілася шчырасцю да ўсіх гэтых людзей. Ён акідаў вачыма кожнага, пасля выбраў Несцяровіча і, гледзячы яму ў вочы, пачаў гаварыць:

— Што я такое рабіў на свеце, што вы так да мяне... Я паўвека свайго прахадзіў па свеце, шыючы кажухі. Там было так — што зарабіў, то і сцерабіў. Толькі ад таго і асталося, што ўспомніць, ні сабе, ні людзям. А тут — хіба я тут што такое зрабіў? Ну, я мураваў, цэглы клаў. Там у мяне паўвека прайшло, а тут усяго некалькі месяцаў.

Несцяровіч яго перабіў:

— Ты хочаш сказаць — за што мы цябе так шануем?

— Можа такі і гэта я хачу сказаць.

— Цябе тут шануем таксама, як і ўсіх гэтых людзей, што тут цяпер з табой сядзяць, заадно. Ты кажаш, што ты мураваў? Мільён людзей, скажам, працуе. Адзін муруе, другі цэглу робіць, трэці дрэва чэша, чацвёрты зямлю арэ. Кожны робіць сваё, а разам — гэта адна справа. А ведаеш, якая гэта ў нас справа? Ад гэтага будзе людзям лёгка жыць, і ніхто не будзе з чалавека здзекавацца.

— Божа мой, я сам па сабе ведаю. Колькі я на сваім вяку меў над сабою гаспадароў, а сам чалавекам ніколі не быў.

Пасля ўсе пайшлі, толькі астаўся адзін Несцяровіч.

— Слухай,— сказаў ён,— як гэта ты быў зваліўся?

— Як жа зваліўся! Дошка пайшла ўніз, як жа я мог адзержацца.

— А як магла дошка пайсці ўніз, калі яна ляжала на папярочцы?

— Казалі, што папярочка адным канцом пайшла ўніз. Казалі, мне самому было ўжо не да таго, каб глядзець.

— Папярочка была прыбіта, яна павінна была трымацца моцна.

— Аднак жа не трымалася.

— Калі пачалі глядзець, то ўбачылі, што нехта выцягнуў цвік, толькі ржавая дзірка ад цвіка асталася. Можа, хто на цябе злосць меў якую і знарок табе падстроіў?

— А за што на мяне хто будзе злосць мець? Мне здаецца, я нікому ніколі ніякай крыўды не зрабіў.

— То, можа, ты каму перашкаджаеш у чым-небудзь?

— Здаецца, не. Ні на чыёй дарозе я не стаю.

— Аднак жа калісьці Наўмыснік тваю хату разбурыў. Чаму гэта ён?

— Можа, так гэта, як-небудзь выпадкова сышлося. Я гэтага Наўмысніка не ведаю, а ён мяне. Што яму мая хата? Я-то, прызнацца сказаць табе, спачатку на яго за гэта злосць меў, вялікую нават. А пасля — што той ламачыны шкадаваць! Сядзеў бы ў той трухліне і дагэтуль, а цяпер, сам ведаеш, як мае быць кватэру маю.

— А ты Наўмысніка бачыў калі?

— Не, ніколі не бачыў.

— Кажуць, што ён перад тым, як ты ўпаў, некалькі разоў на рыштаванні лазіў.

— Не ведаю, не бачыў.

— А ён якраз лазіў тады, калі цябе там не было.

— Глядзі ты, якраз бо прыбіраў часіну.

— От бачыш. А пасля ён мураваў той самы вугал, на якім заўсёды быў ты.

Кравец пачаў смяяцца.

— То хіба можна такую думку мець? Стане ён мяне скідаць, каб самому на маё месца стаць. Ай, ай! Нашто яму такая справа, калі тут усякае, якое хочаш, работы заўсёды і ўсюды.

— Можа, і так. Мы, бачыш, стараемся дазнацца, хто цябе ў такое няшчасце пхнуў... Гэта добра, што так лёгка абышлося.

— Дай жа рады. Магло быць горш.

— Як ты з работай думаеш?

— Думаю заўтра ісці. Як там з муляркай, ёсць яшчэ?

— Колькі хочаш.

— Заўтра пайду.

— А ўвечары прыходзь да мяне, чай будзем піць.

— Дзіва што прыйду, што мне цэлы вечар рабіць.

Кравец сапраўды адчуў, што яму трэба куды-небудзь выходзіць з дому, яго пацягнула на людзі, ён неахвотна сядзеў адзін дома. Прыйшоўшы назаўтра з работы, ён гадзін дзве адпачываў, адчуваючы пад сабою прыемнасць чыстай пасцелі. За паўгадзіны да заходу сонца ён пайшоў да Несцяровіча піць чай.

Несцяровіч даўно яго чакаў і быў не адзін. У той дзень знайшоў на пабудове Наўмысніка і сказаў яму:

— Зайдзі пад вечар, калі хочаш, дам даведку. Праўда, дачку трэба вучыць.

Наўмыснік не паверыў у шчырасць гэтых слоў і нейкі час раздумваў, што адказаць і як зрабіць. Ён адчуваў свой промах: з-за гэтай даведкі на яго пазіралі коса, чуючы за ёй штосьці іншае. Лепш было б гэтай даведкі не браць і тады не ўспамінаць пра яе. Але ўжо не ўзяць яе — таксама будуць думаць аб такім яго раптоўным павароце думак. Праўда, даведку ўсё ж такі варта было б такую мець. «Паглядзім, як там будзе, як выявіцца з гаворкі. Схадзіць да яго трэба, каб нічога не думаў». І ён адказаў:

— Я, прызнацца, перадумаў. І праўда, хіба дачка адна не можа паехаць вучыцца? Буду працаваць, мне тут не кепска.

Гэта было сказана так холадна і разважліва, што зусім збіла з толку Несцяровіча. «Можа, ён сапраўды гаварыў так, як яно ў яго ёсць? Аднак жа, няхай зойдзе».

На стале стаяў чай, Наўмыснік павалі размешваў лыжачкай і ўжо зусім быў спакоен. Несцяровіч гэтак спа-

койна пісаў даведку, па адным слове паміж глыткамі чаю, некалькі разоў нават зусім адрываўся ад пісання і піў спакойна чай. Пра тое, што кравец вярнуўся з больніцы, Наўмыснік яшчэ не ведаў. Тварыцкая, як і заўсёды, была адсюль не блізка. А самому яму нядоўга ўжо аставалася тут быць — яшчэ месяц, найбольш два; тады скончыцца павядомлены яму тэрмін. Тады ў яго і без Несцяровіча будзе даведка, і такая, якую ён сам сабе хоча. Цяпер ужо, калі так блізіўся і прыходзіў час і ўсё з ім было спакойна, ён быў упэўнен, што ўцякаць яму да таго чаканага моманту нікуды не прыйдзецца, усё абыдзецца так. Ну, можа, самы найменшы элемент трывогі ў яго быў апошнімі часамі, і то гэта з'яўлялася не часта.

— То даваць табе даведку ці не? Можа, не трэба?

— Мусіць-такі не трэба. Астануся тут, і больш мне нічога не трэба.

«Так спакойна гаворыць, можа, усё гэта пустыя думкі пра яго?»

Змяркалася. Увайшоў кравец.

Пры самым акне стаяла вялікая шафа. Яна засланяла святло з акна, і шырокая ценевая паласа была скрозь паўз дзверы. Самое ж акно яшчэ ўсё было ў водсветах захаду, на ім яшчэ добра трымалася яснасць. Гэты кантраст яшчэ больш павялічваў змрок пры дзвярах. Так што прайшло хвіліны тры, пакуль Наўмыснік пазнаў краўца, які ўвесь гэты час стаяў пры дзвярах і шморгаў ботамі аб саламяны круг.

— Здароў, здароў,— сказаў Несцяровіч.— Можа, падпішаш за сакратара даведку? Ты, як ударнік будаўніцтва, маеш права падпісаць.

— Адчапіся, я ніколі нічога не падпісваў.

Наўмыснік настаражыўся, пачуўшы як быццам дзесьці чуты, вельмі знаёмы голас. Пакуль ён з лёгкім адценнем трывогі стараўся дадумацца, чый гэта голас, Несцяровіч моцна пачаў чытаць: «Дадзена гэта ўдарніку Наўмысніку...» Ён прачытаў усю даведку.

— Ну, ідзі падпісвай. Тут і сам Наўмыснік сядзіць.

Кравец выйшаў з цёмнай паласы, стараючыся разгледзець, што там хаця за Наўмыснік такі, як ён выглядае. Наўмыснік убачыў краўца і раптам хістануўся ўсёй сваёй постаццю ўбок.

— То гэта Наўмыснік? — зацягнуў кравец, праціраючы вочы і сам сабе не верачы. (Несцяровіч не спускаў з іх абодвух позірку.) То гэта Наўмыснік гэтакі? Ого, доб-

ры Наўмыснік! А божачка мой! Што гэта робіцца! Здароў, Сцепуржынскі!

І працягнуў яму руку. Але раптам нейкая думка з'явілася ў яго. Ён спахмурнеў, сцяў зубы і адступіў крок назад.

— Гэта ты, значыцца, Наўмыснік?

Так ён і астаўся стаяць на некалькі момантаў, як застыглы, апанаваны новай і ўпартай думкай.

## II

Гэта быў сапраўды Сцепуржынскі. Кравец не памыліўся. У краўца не з'явілася аніякага здзіўлення. Каб гэтае здарэнне раней, у ранейшай яго звычайнай абстаноўцы, кравец бы охкаў, тросся, гаварыў бы бесперапынна: «Братачка, што гэта на свеце робіцца». Цяпер кравец прывык да нечаканасцей: стаяла ад веку хата — яе раскідалі, быў ён век краўцом — цяпер стаяў мулярам, раней тут векавалі цецераўскія грэблі, пястрэлі на сонцы Дзве Хаты, цяпер робіцца нешта небывалае: вузкакалейная чыгунка, шасейная дарога, карпусы муроў, і ўсё кіпіць ад рабочых людзей. Сам ён, калі хадзіў па свеце, мала калі бывае, нагу абмуляе — так усцілаў боты саламянымі вусцілкамі, а гэта зваліўся з высокай сцяны і думаў — каб як хаця выжыць на свеце. Думаў, што сын будзе брадзячы кравец, а дачка пойдзе замуж за якога-небудзь гантарніка і будзе дамешваць у кару купленай мукі, аж — сын інжынер, а дачка — доктар. Свет стаў іншакшы, і кравец страціў здольнасць усяму здзіўляцца.

Ён спачатку быў памкнуўся падаць Сцепуржынскаму руку, а пасля раптам адступіў крок назад і ўзвысіў голас. У гэты момант у яго запрацавала зусім ясная і вельмі лагічная думка: «То гэта, значыцца, от хто раскідаў маю хату. Чорт яе бяры, гэтую ламачыну, але нашто ён гэта рабіў? Калі я шыў у яго кажухі, то расказваў, адкуль родам, расказваў пра ўсю мясцовасць і пра ўсіх тутэйшых людзей. Ён ведаў, што я адгэтуль родам і што тут пустуе апошнім часам мая хата. Ён баяўся, каб я яго не пазнаў, калі сюды з'яўлюся? А калі не будзе хаты, то, значыцца, з'яўлюся і, не маючы прытулку, зноў адгэтуль падамся?»

— Брэшаш,— закрычаў кравец.— Я тут прытулак знайшоў такі, пра які ніколі раней і не сніў!

— Які прытулак? — прагаварыў Несцяровіч, бачачы,

што кравец, сказаўшы гэта, змоўк з выглядам чалавека, упэўненага ў тым, што ён усё сказаў і ўсім гэта ясна.

— Я ж сказаў пра ўсё.

— Можа, гэта ты думаў, а не сказаў.

— Можа, і думаў. Я ж кажу.

І кравец пераказаў усе свае нядаўныя думкі. Несцяровіч бачыў, што гэты чалавек гаворыць вельмі смела і адкрыта, не аглядаючыся назад. Сцепуржынскі ўжо даўно не сядзеў; ён стаяў, упёршыся плячыма ў шафу. Сцепуржынскі быў белы як палатно. Несцяровіч накіраваў краўцову гаворку:

— Можа, ты памыліўся? Гэта ж Наўмыснік, а не Сцепуржынскі.

Страшная цікаўнасць свяцілася ў Несцяровічавых вачах.

— То, значыца, ён змяніў прозвішча. Бо ён кулак. Я ў яго шыў кажухі, то бачыў. Хаты мне не шкода, але нашто ты мяне з рыштавання скінуў?

— Я цябе скідаў з рыштавання?

Вядома, тут выразных доказаў не было, але маглі быць верагодныя здагадкі. Раптам і краўца і Сцепуржынскага здзівіў тон Несцяровічавых слоў:

— Ведаеш што (глянуў на краўца), тут можа быць так: ты пазнаў чалавека, чалавек быў кулак. Мы ўсё гэта разбярэм. Але гэты кулак нам не шкодзіў. Наадварот, ён ударнік. Мы кідацца карыснымі людзьмі не можам. А наконт рыштавання — то гэта трэба мець доказы, а гаварыць так... Мы праверым, паглядзім, пастараемся знайсці факты. («Хітруе ці шчыра гаворыць?» — думаў Сцепуржынскі.) Калі будуць факты, то ясна, што цацкацца не будзем і пастараемся разабраць, нашто гэта было зроблена. Вы пасядзіце хвілінку, я скажу, каб чай падагрэлі.

— Маня! — гукнуў ён жонцы.— Падагрэй нам чай.

І, хапіўшы чайнік, ён шпарка выйшаў у кухню. Менш як праз хвіліну ён вярнуўся.

— Зараз будзе чай.

Сцепуржынскі ўжо сядзеў на сваім ранейшым месцы, стараючыся выглядаць спакойна.

— Ну, то што цяпер будзеце са мной рабіць? — сказаў ён паважна.

— Я, здаецца, ясна гаварыў.

— Гэта што ты гаварыў... Гаворка — гаворкай, а я калісьці быў кулак. (Тут ён павысіў голас і ўстаў з месца.)

Але ніхто супроць мяне не скажа слова, што я не вырваў з сябе кулацтва. Што было, тое прайшло. Я жыў заможна, але я савецкай уладзе не шкодзіў. Я спрыяў ёй. А цяпер — ты бачыш маю работу тут. Я ўдарнік і брыгадзір, і мая работа відна. А што ты на мяне страшнае слова сказаў, што я цябе з рыштавання скінуў, то давядзі фактамі гэтую жудасць, якую ты на мяне вернеш. Ты словамі на вецер не раскідайся, за гэта адказваюць.

Кравец штосьці хацеў сказаць, але Несцяровіч перабіў яго:

— Ты маўчы і нікому пра гэта не гавары, каб не было ніякіх гаворак. Трэба даць чалавеку спакойна працаваць. (Глянуў на Сцепуржынскага.) А як цяпер ужо цябе называць — Наўмыснік ці Сцепуржынскі?

Несцяровіч смяяўся, Сцепуржынскі маўчаў нейкі час, пакуль адказаў:

— Я ўжо даўно Наўмыснік, такім і хачу быць.

— Добра. (Глянуў на краўца.) А табе яшчэ раз кажу — маўчы і працуй сабе на здароўе. (Паглядзеў на гадзіннік.) Ну, давайце, таварышы, спаць, заўтра ўсім жа нам рана на працу ўставаць.

Наўмыснік і кравец пайшлі. Несцяровіч выйшаў за імі. Ён астаўся стаяць на ганку, гледзячы на гэтых двух чалавек. Ён бачыў момант іх развітання.

— Ну, бывай! — сказаў кравец даволі ветліва.

— Дабранач! — хмурна кінуў Наўмыснік.

Яны разышліся, кожны ў свой бок. Несцяровіч думаў аб слабавольнай краўцовай натуры: вельмі лёгка паддаецца чужой волі, адразу быў узгарэўся, а як пачуў слова, што няма нічога страшнага ў тым, што Наўмыснік ёсць Сцепуржынскі,— адразу змякчэў і нават развітаўся з ім па-чалавечы. Несцяровіч сам сабе ўсміхнуўся. Ён бачыў, як Наўмыснікава постаць пацяглася дахаты. Несцяровіч вярнуўся ў пакой, узяў тэлефонную трубку, сказаў упаўнаважанаму па ахове будаўніцтва:

— Вельмі можа быць, што Наўмыснік неўзабаве захоча зусім адсюль знікнуць.

Павесіў трубку, навёў будзільнік на сем гадзін раніцы і кінуўся ў пасцель.

Кравец рабіў так, як і сказаў яму Несцяровіч,— маўчаў. Больш таго, ён нават забывацца пачаў на гэтае здарэнне. І гэтаму спрыяла тое, што Несцяровіч адным сваім словам упэўніў яго ў тым, што тут нічога асаблівага няма. Толькі адзін раз кравец не вытрымаў і зага-

варыў пра гэта, але толькі з той прычыны, што справа павінна быць цікавая сама па сабе для Наўмыснікавых землякоў. Кравец расказаў пра гэта Зосі Тварыцкай. Гэта было ў выхадны дзень. Зося Тварыцкая прыйшла, як і заўсёды, да Славы. Яна прыйшла зранку і застала Славу ў яслях. Слава кінулася да Зосі на рукі, сціснула яе за шыю рукамі, зарагатала, тузалася, выцягвала з Зосіных валасоў грабяні і ўсё гаварыла:

— Мама, я цябе от так люблю, от так моцна.

— І я цябе, Славачка, люблю,— адказвала кожны раз Зося.

— Мама, сёння зноў выхадны дзень, што ты прыйшла? Ты цэлы дзень будзеш са мной?

— Цэлы дзень. Пасля сходзім да Ірыны. Чаму ты ў яе сёння не начавала?

Слава ўставілася ў твар маці поўнымі смеху вачыма.

— А от мы якраз сёння да Ірыны не пойдзем.

— Чаму не пойдзем да Ірыны?

— Ніколі не ўгадаеш... А таму не пойдзем (гаварыла з паўзамі пасля кожнага слова, гледзячы, якое ўражанне гэта зробіць на маці), што сама Ірына скора прыйдзе сюды і нам будзе расказваць новую казку. Кожны раз яна расказвае новую казку. А цяпер я табе, мама, нешта пакажу. Ты ціха ідзі за мной. Ціха, ціха. О, так. А цяпер стой і нічога не гавары, каб не напалохаць.

— Каго? — шапнула Зося.

— Ты бачыш, пад тым унь ядлоўцам папарацъ, а навокал мятліца. То туды няможна падыходзіць.

— Чаму?

— Бо там птушаняты. Іх няможна палохаць. А цяпер ідзі сюды і можаш гаварыць. Ого, ужо так многа!

— Чаго!

— Бачыш, учора тут выткнуліся два грыбы, я гэтае месца нагледзела, каб сёння прыйсці. Аж бачыш — гэтыя два грыбы ўжо якія вялікія, а каля іх колькі малых за ноч выйшла з зямлі. Гэта нібыта іх дзеці. Гэтыя грыбы воўчыя, іх есці няможна, я ведаю. Яны шкодныя. А паглядзець на іх — то яны прыгожыя. А ведаеш, мама? Мне чакаць асталося не многа, пакуль ісці ў школу. А там у школе загадчыца Ірына... Глядзі, глядзі, на тваёй назе рыжы мураве!!..

Слава не можа ўстаяць на адным месцы ні моманту. Яна кружылася, бегала, паказвала маці на мох і верас, старалася разглядзець на дрэве птушку і аўтарытэтна

называла яе. Яна тлумачыла маці, чаму ў лесе пазней трымаецца раса, чым у полі, чаму ў гэтым годзе павінна быць многа грыбоў.

— Вельмі цёпла і дажджы праходзяць. Гэта Несцяровіч казаў. Скора сапраўдныя грыбы будуць.

— Трэба гаварыць «дзядзя Несцяровіч».

— Калі я ўсё забываю. Ну, добра.

Праз гадзіну прыйшла Ірына, дзеці сабраліся гуртам. Седзячы на траве, яна трымала на сваіх каленях Славу. Ірына пачала расказваць дзецям сваю чарговую «казку выхаднога дня». Такая казка звычайна займала дваццаць хвілін часу. К канцу казкі Ірына і Зося ўбачылі краўца. Ён стаяў, прыткнуўшыся плячом да дрэва, і слухаў. Казка была скончана, дзеці пайшлі гуляць, кравец падышоў да Ірыны.

— У казцы, скажам, гаворыцца так,— загаварыў ён,— ішла дзяўчынка купацца, і яе застала навальніца. Яна стаяла пад дрэвам, змокла, пакуль не прайшла навальніца. Аж убачыла, што ляжыць вывернутае дрэва і з-пад вывернутага карэння відны ўсялякія залатыя рэчы. У казцы гаворыцца, што гадоў там за колькі да гэтага бандыты тут гэтыя рэчы закапалі, прыхавалі, значыцца, калі іх ціснуць пачалі. Ну, добра. То вы паставілі дзецям у канцы казкі задачу — што зрабіла гэтая дзяўчынка і яе сям'я з гэтымі рэчамі? Праз дзесяць хвілін, калі дзеці нагуляюцца, вы раскажаце ім яшчэ адну казку, з якой дзеці ўбачаць, ці правільна яны ўгадалі. А што там будзе відаць з другой казкі? Я не маю часу даслухаць да канца.

— Ну, а як вам здаецца?

— Як мне здаецца, то — гледзячы якая сям'я, якія людзі, так яны і зрабілі. А калі пойдзе справа, ці маюць яны права забраць рэчы сабе, то раз яны знайшлі, то... Ні ў каго ж яны не ўкралі, не забралі... Але тут, калі пра закон сказаць... Ну, к слову прыйшлося, калі, скажам, даўней закон быў. Былі бедныя і багатыя. Бедны ўкрадзе ў багатага — судзяць. Багаты ўкрадзе ў беднага — судзяць таксама. Злодзей — злодзей, гэта праўда, але ж, сказаць між намі, мая душа будзе гарнуцца к таму злодзею, які ўкраў у багатага, хоць ён і злодзей...

— Ну, а цяпер, калі няма ні багатых, ні бедных, а жывуць людзі роўныя, усе к багаццю ідуць, к сытасці, пасля к роскашы пойдуць, калі чалавечае жыццё ў нас ужо стала такое, што калі чалавек родзіцца на свет, то

ён ужо, значыцца, будзе жыць як чалавек, а раней бацькі яшчэ думалі: як жа прыстроіць яго к жыццю?

— Раздумаўшыся, то можна сказаць так: нашто цяпер чалавеку хавацца ад людзей? Нашто яму быць скнарай, хцівым, цягнуць сабе ў нару, туляючыся ад людзей? Што было б, каб гэта раней, скажам, маю хату ці раскідалі, ці яна згарэла? А цяпер — братачка! Вам, можа, смешна?

— Нічога нам не смешна.

— Я стары чалавек, я многа на сваім вяку бачыў... (Тут ён з паўхвіліны падумаў, успомніў, падышоў да Зосі. Дзеці збіраліся слухаць другую казку.) Ведаеце што? Навіну хочаце пачуць? Толькі я вам скажу, каб нікому лішняе не расказваць, так ,Несцяровіч мне сказаў. Памятаеце Сцепуржынскага, што ў вашай старане жыў пры лесе? То ён тут, і яго прозвішча цяпер Наўмыснік. Ён сюды ўцёк ад раскулачвання... А тут працуе добра. Праўда, падазронасць на яго... але гэта, як кажа Несцяровіч, трэба давесці, без гэтага, як ён кажа, мы кідацца людзьмі не можам.

— Тут? Ён? Пад іншым прозвішчам?

— На мой розум, то Несцяровіч занадта далікатны чалавек. Як гэта так адразу пакінуць думаць дрэнна пра яго, калі ў мяне самога думкі пра яго з галавы не вылазяць! Несцяровіч мне кажа — нікому пра гэта не расказвай, працуй сабе... Я, тым часам, так і пачаў рабіць. А сёння ўначы, пад дзень нешта выбіўшыся са сну, думаў, думаў і ўспомніў. Мяне як хто агнём пекануў. Я хадзіў Несцяровічу расказваць цяпер, але не застаў яго дома.

— А што вы ўспомнілі?

— Мне даўно часам здавалася. Але я кожны раз падумаю сам пра сябе: не дагледзеў надта, і здаецца ліха яго ведае што. Аж цяпер думаю, што такі гэта праўда.

— Што вы і дзе бачылі?

— Я шыў кажухі ў вашым баку, здаецца, гэта апошні раз ужо там быў. То раз прыйшоў і хацеў пераначаваць у Сцепуржынскага, гэтага самага. Падышоў пад яго хату, аж там незнаёмыя мне людзі. Памятаеце, я ў вас тады начаваў і расказваў вам пра гэта, а вы мне сказалі, што Сцепуржынскага няма ўжо тут. Я тады ў яго хаце праз прамёрзлае акно ўбачыў вялікую сям'іску, людзей поўнае застолле, вячэраюць, ядуць гарачую бульбу,

і з міскі пара ў столь дае. А там як быццам бы, мне здалося, падае на стол есці знаёмая мне жанчына. Якая? Тутэйшая родам, жонка тутэйшага Сцепуржынскага. Таксама кулакі былі, багатыры, аж страх. Ад раскулачвання таксама ўцяклі. То чаму мне не думаць, што гэта яны сваякі і памяняліся хатамі пад чужымі прозвішчамі? Гэтыя сюды, а той туды. Мне тады праз акно здалося, што нібыта гэта яна, жонка тутэйшага... Ат, чаго яна тут будзе,— падумаў я тады. А цяпер, калі яно так пайшло...

— Ідзіце, раскажыце пра гэта Несцяровічу. Толькі больш нікому не расказвайце.

— Дзіва што я раскажу Несцяровічу!

Такім парадкам у той дзень у Несцяровічавых думках пра Наўмысніка заняла месца яшчэ новая дэталь. У той жа вечар ён пра гэта гаварыў з упаўнаважаным аховы будаўніцтва. Хоць выразных доказаў не было, але Наўмыснік пачынаў рабіцца тым пунктам, навокал якога хадзілі думкі нават і тых людзей, якія ў свой час вялі следства той справы, з-за якой пайшоў пад суд Міхал Тварыцкі.

Сам жа Наўмыснік у гэтыя часы быў вельмі трывожны. Хоць ён і спакойна хадзіў сабе кожны дзень на работу, аднак з вялікай трывогай думаў пра тое, што ўжо ведаюць яго сапраўднае прозвішча. А значыцца, чаму б ім не дагадвацца пра тую справу, у якую ён быў умешан і завяршэння якой ён так чакаў. Ён кожны дзень адрываў лісток з адрыўнога календара і пакутна адчуваў, як павольна цягнуцца дні. На восень гэтую Наўмыснік вельмі спадзяваўся. Цяпер ён прагнуў аднаго: дабыць тут спакойна.

Ён прыглядаўся і прыслухоўваўся да ўсяго, што рабілася на будаўніцтве. Трэба сказаць, што ён мог наперад шмат што бачыць па ходу будаўніцтва. Так, напрыклад, ён за тыдняў тры наперад сам бачыў, што зараз на будаўніцтве спатрэбіцца на нейкі час новая партыя рабочых, чалавек так пад сто. Бо работа скрозь яшчэ ішла тая самая, а пачалі будаваць яшчэ два дамы, і ўсе вольныя муляры апынуліся там. А тым часам была яшчэ непачатая апрацоўка саміх карпусоў станцыі і гатовых дамоў у сярэдзіне. Будынак станцыі трэба было падрыхтаваць да ўстаноўкі машын. Цяпер сюды спатрэбяцца зараз манцёры і механікі. А з восені павінна была пачацца работа над другой чаргой электрастанцыі.

І сапраўды, праз месяц пасля таго, як кравец пазнаў

у Наўмысніку ранейшага Сцепуржынскага, Несцяровіч пачаў набіраць новых рабочых. Разам з усімі наняўся на работу адзін чалавек нейкага няпэўнага выгляду, з дакументамі селяніна-аднаасобніка раней, а пасля манцёра з аднаго глухога гарадка, адсюль не вельмі далёкага, але і не блізкага. Той раён, дзе гэты чалавек быў селянінам-аднаасобнікам, быў адсюль таксама не блізка і не далёка. Падобных да гэтага чалавека людзей з падобнымі дакументамі наймалася сюды нямала. Выгляд у гэтага чалавека таксама быў нейкі невыразны і зусім такі, калі чалавека і заўважыць цяжка, і што-небудзь асаблівае ў ім ніколі не ўбачыш, каб і хацеў нават. Кідалася ў вочы адно: гэты чалавек, мусіць, вельмі працавіты, просты і нават як бы крышку неахайны — вядома, прывык да працы, выйшаў з працы, радзіўся, мусіць, у цемнаце і цяжка да яго, значыцца, прышчапляецца культурнасць. Гэты чалавек робіць добра і здацен да ўсялякай работы, напрацаваўшыся, любіць паспаць, адпачыць. Зробленых грошай на вецер не траціць, купляе толькі тое, без чаго ўжо аніяк нельга абысціся. А колькі яму год — адразу не скажаш. Добра прыгледзеўшыся, можаш прызнаць: так як бы ў сярэдніх гадах чалавек, а можа, і намнога менш; выгляд нейкага няпэўнага ўзросту. Як бы там ні было, а гэты чалавек разам з усімі стаў на работу і скромна працаваў у корпусе электрастанцыі, падрыхтоўваючы там усё да ўстаноўкі машын. Людзей там працавала многа, і да ўсіх ён быў падобен. Ён узяў сабе прывычку ў часе перарыву ў рабоце або пасля яе, нейкі час сядзець з махорачнаю самакруткай у губах на цэглах або на бярвенні і прыглядацца да людзей навокал сябе. Так сядзелі тут многія, заўсёды так вельмі шмат людзей тут сядзела. Але ўсе не мелі на гэта сталай прывычкі: сёння сядзіць, а заўтра і не. А гэты сядзеў вельмі часта.

Прыглядаючыся так да людзей, гэты чалавек убачыў раз Наўмысніка. Наўмыснік толькі што злез з рыштавання. Ён, як і ўвесь апошні час, мураваў. Чалавек пачаў кашляць, і Наўмыснік азірнуўся на гэты голас. Чалавек, звыклы да тонкай наглядальнасці, мог бы заўважыць, як прайшла па Наўмыснікавым твары грымаса радасці, калі ён глянуў на гэтага чалавека. Але гэта было толькі ў першы момант. Грымаса адразу згінула, і Наўмыснік стаў такі, як і заўсёды. Ён пайшоў сабе ў свой бок. Чалавек жа дакурыў спакойна на цэглах сваю самакрутку, кашлянуў, пацягнуўся плячыма, пазяхнуў і пайшоў у

барак, дзе спаў уночы. Назаўтра ў гэты самы час Наўмыснік зноў праходзіў тут і зноў бачыў чалавека. Ён таксама сядзеў на цэглах разам з многімі і курыў. А яшчэ цераз дзень Наўмыснік сам падсеў сюды і якраз поплеч таго чалавека. Людзі рабілі тут перакурку, пакуль ісці — хто на рэчку мыцца, хто чытаць газеты, а хто ў клуб — глядзець чарговую пастаноўку драмгуртка. Наўмыснік скурыў папяросу, пачухаў шыю, пацёр рукавом лоб, моцна пазяхнуў: «Ох-о-хэ-хэ!» Збіраючыся ў свой бок, гледзячы сабе пад ногі, запытаў без ніякай цікавасці ў голасе:

— Здалёк, чалавеча?

— З-пад Пракудовіч.

— Далёка.

— А самі?

Наўмыснік назваў мясцовасць. Абодва памаўчалі. Наўмыснік плюнуў сабе пад ногі, сказаў, калупаючы ў вуху:

— У Пракудовічы з нашай стараны дзеўка была замуж пайшла.

— За каго гэта, можа, я ведаю?

— Чорт яго, я і сам не ведаю. Нейкі Цыбулевіч, здаецца.

— Мусіць, Цыбульскі, у нашым баку Цыбульскіх некалькі хат ёсць.

— Можа, і Цыбульскі, клопат там.

— Цыбульскі — то нават у мяне дзядзька ёсць, па мацеры, мацерын брат. Бо сам-то я па бацьку Чарпакевіч.

— От жа бачыш, хэ-хэ!

Было адразу відаць, што Наўмыснік смяецца з каравага дурня, які ліха ведае нашто нейкага свайго дзядзьку ўспомніў, сам адрэкамендаваўся. Які яго чорт пытаў? Назаўтра, як ішоў Наўмыснік з работы, каля таго ж месца трапіўся яму на дарозе той усё самы чалавек з самакруткаю ў губах. Наўмыснік прыпыніўся прыкурыць і шапнуў:

— Да мяне ў хату няможна, ведаюць, што я Сцепуржынскі.

— Сукін ты сын, калі так,— адказаў чалавек.— Не мог вытрымаць, каб цябе не пазналі.

— Я ўжо другі год, можна сказаць, кожны выхадны дзень на паляванне хаджу. Да гэтага прывыклі. Заўтра выхадны дзень. Будзь у драчым алешніку.

І пайшоў Наўмыснік, а чалавек сціснуў кулак у кішэні, злосна зірнуўшы ўслед Наўмысніку. Назаўтра ён спат-

каўся з Наўмыснікам у алешніку, і адразу паміж імі ўсталявалася злосць аднаго на другога. Так злосна яны і гаварылі адзін з адным. Чарпакевіч сказаў Наўмысніку так:

— Ты думаеш, табе гэта жарты?

— Не думай ты, што я такі дурань.

— А якраз так і думаю. За тое, што цябе раскусілі, табе не варта даравацъ. Ты думаеш пра тое, што калі пасля гэтага мяне ўбачаць з табою, то мне самому будзе адгэтуль цяжка выбрацца? Дурань ты! І замест таго, каб ціхом, курачы са мной ці як там, зранку, увечары, уначы, як сам ведаеш, перадаць мне што трэба, ты пра нейкую дзеўку, пра нейкага Цыбульскага, за якога яна пайшла замуж. Каб цябе чорт забраў з дзеўкай разам. Ну, давай сюды, і сёння ж уначы мяне тут не будзе.

— Як не будзе?

— Ты што, думаеш смешкі строіць? Раз цябе пазналі, то калі цяпер убачылі мяне каля цябе... Давай, ну.

— Даць-то я дам, але ж — ты памятаеш, на якіх правах я тут сядзеў? Ты ўжо забыўся? Як жа ты адсюль пойдзеш, калі яшчэ нават машын не станавілі, калі толькі сцены голыя стаяць, ды і тыя толькі што крыць пачалі?

— Ды от ты і давядзеш справу да канца.

— Я? А якая ўмова была, што мне ты ж сам гаварыў тады?

— Тады была гаворка адна, цяпер гаворка другая. Ты не крычы. Ты сам ведаеш, што для іх такія справы — ноль. Ну, будзе аварыя на станцыі, ну, можа, нават узарвём машыны. То не пройдзе і паўгода, як яны паставяць новыя. Самалёт разаб'ецца — яны зробяць два. Мост упадзе — лепшы паставяць. А от каб кіраваць імі пачалі дрэнна, яны б тапталіся на адным месцы. За добрых кіраўнікоў іхніх можа быць прыйдзецца ўзяцца. Слухай, Назарэўскі тут быў, калі судзілі Тварыцкага. Я ведаю з газеты. Мне пра гэта там гаварыў сам Хурс. Больш Назарэўскі не бываў тут?

— Ад таго — не.

— От такіх, як гэты... Ён сядзіць у цэнтры, кіруе скрозь людзьмі... от такога... Або Несцяровіч. Ты не бачыш, якая тут махіна вырастае ў яго пад рукамі?

— Бачу. Ну, што ж з гэтага?

— Пасля тое, што ты ведаеш. Ведаць далёка ўглыбь, што тут робіцца. Дзе што будаваць думаюць, дзе якое войска стаіць.

— Я ўсё гэта рабіў някепска.

— Пачакай. Цяпер новыя часы, павінны быць і новыя справы. Цяпер інакш трэба. Цяпер і сам Хурс так думае. У Хурса — галава. Іх там цэлае згуртаванне, усе грашавітыя і маёнткавыя людзі, тутэйшыя родам і выгнаныя адсюль. Хоць Хурс маёнткаў тут і не пакінуў (ён на гандлі мільёны нажыў), але ён у іх за галаву. Высокія эмігранты!

— Але што з гэтага! Будзе так, як я дагаварваўся з табой?

— Пра што ты гаворыш?

— Ты забыўся? Ты вельмі забывацца майстар! Я гавару проста і адкрыта: мы вексалёў не падпісалі, на такую справу дагавораў друкаваных няма. Але так было дагаворана: я збіраю па цэлым раёне ўсе весткі, я прасачыў, калі пакладуць у банк тыя грошы, я навёў цябе на ўсю справу, я астаюся тут, усё новыя і новыя весткі збіраю, у гэтую восень з'яўляешся ты або хто-небудзь іншы на тваім месцы, робіцца аварыя на электрастанцыі — узрыў, ці як будзе відно, пасля ты мяне праводзіш туды, і там Хурс мне дае за работу хутар. Такая гаворка была?

Як бы што нядобрае чуючы, Наўмыснік аж затросся. Гэта быў яго незвычайны выгляд. Ён заўсёды мог трымаць сябе спакойна. Чарпакевіч адразу выяўляў сваю гарачую натуру. Ён увесь час стаяў, сціснуўшы кулакі і плюючы ў куст. Ён не даў Наўмысніку скончыць гаварыць.

— Такая гаворка была са мной, калі я той раз прыходзіў. Але цяпер іншыя справы. Я ж табе кажу, дурань ты, што аварыя для іх ужо не страх. Аставайся тут і чакай наказу, каго тут звесці са свету. Толькі пасля гэтага цябе або я, або хто іншы правядзе туды пацалаваць Хурсу ў руку за падараваны хутар.

— Я яго заслужыў ужо і цяпер.

— Не кажу,— заслужыў, але замест ранейшай аварыі з машынаю зробіш аварыю з чалавекам. Гэта будзе завяршэнне тваёй службы.

— Дай пісьмовую ўмову.

— А каму ты яе пакажаш? У суд падасі?

— Гадзіна ты! Я і так многа зрабіў. У мяне цэлыя кучы матэрыялаў сабрана мной.

— Давай іх сюды.

— І сам з табой пайду адгэтуль.

— Ты яшчэ астанешся тут. І яшчэ, я забыў табе сказаць, падшукаеш тут на сваё месца надзейнага чалавека.

Наўмыснік адумаўся: ён ніколі не траціў спакойнай вытрыманасці, а цяпер так растрывожыўся і разнерваваўся. І ён прымусіў сябе наспакайнець. Ён цвёрда глянуў на Чарпакевіча.

— Нікога я тут не магу на сваё месца паставіць. Прышлі сам чалавека. А аставацца тут больш я не магу. Што я тут магу зрабіць, калі я ўжо не Наўмыснік?

— А чаму ты не хаваўся да канца?

— Я рабіў усё, што мог, каб як цябе гэты раз прычакаць. Краўцову хату раскідаў, каб ён не жыў тут і не пазнаў мяне. А ён астаўся тут. Я яго з рыштавання скінуў, ён выжыў. Ды і сказаць, ён тут не адзін з тых, што мяне ведаюць.

— А хто яшчэ?

— Тварыцкага жонка, Зося (Чарпакевіч перасмыкнуў усімі рысамі твару), таго самага Міхалкі жонка. Трасцы, папаўся ж і ён, усё прывык пры чужым агні рукі грэць.

— Сядзіць?

— Сядзіць.

— Ведаеш, колькі там было грошай?

— Ну, колькі?

— Паўмеха грошай, найбольш буйнымі паперкамі. Я адарваў плечы, пакуль дабраўся туды з гэтымі грашыма. Праўда, мы ўдвух неслі. З начлегу былі коні ўкралі, конна паселі і за ноч вёрст трыццаць, калі не больш, зрабілі. Коні пусцілі, а самі пайшлі далей. То гэтая самая Тварыцкая тут, кажаш? Бачыш, не толькі табе, але і мне тут не трэба доўга быць.

— Яна цябе не пазнае такога, ды і колькі год прайшло.

— Пазнае ці не пазнае, а быць тут не трэба. Усё гэта не жарты. Я з табой згодзен. Але ты перабудзь тут яшчэ месяц. За гэты час сюды на тваё месца з'явіцца чалавек. А пакуль — дай мне твае матэрыялы.

— То ён, гэты чалавек, можа з'явіцца і без мяне. Ты хітруеш! Ты мне набрахаў тады, што Хурс мне падаруе за верную службу хутар.

— Як сабе хочаш. Будзь сабе тут раскулачаным, а там можаш быць тым, кім быў раней. Толькі трэба мяне паслухаць.

— Я табе не веру.

— Ты зноў пачаў гарачыцца. Гэта табе ніколі не было да твару.

— Як жа я тут астануся! Ты ж сам толькі што сказаў, што згодзен са мной.

— О, так, гавары спакойна, а не пстрыкай губамі. Так, можа, да чаго і дагаворымся.

— Мы пойдзем цяпер адсюль з табой разам. І аж туды.

— Гэта не так лёгка, у цябе дзве дачкі.

— А тады, як гаварылі, у мяне дачок не было?

— Нічога, перапраўлю цябе туды, толькі астанься на месяц, пакуль новы чалавек...

— Не астануся.

— Ну добра. Калі ты мне дасі матэрыялы?

— А мы іх панясём удвух.

— Удвух?! Ну, добра. І там ты ніякага хутара не будзеш мець.

— Хурс маю работу ацэніць.

— Перш за ўсё павінен ацаніць тваю работу я, а тады ўжо Хурс.

— Пакуль да бога, дык чорт душу выме.

— Пакуль да Хурса, дык я над табою начальнік. Або ты аддасі мне зараз жа матэрыялы, або...

— Або мы панясём і перадамо матэрыялы ўдвух, або я адзін, і тады...

Тут Наўмыснік зрабіў доўгую паўзу. Ён думаў. Ён шукаў слова, якім бы ўкалоць Чарпакевіча. А той разануў Наўмыснікава вуха:

— Добра. Я пайду без матэрыялаў, скажу, што ты нічога тут не зрабіў. А сам без мяне ты туды не перабярэшся.

— Перабяруся і скажу, што ты забіў найлепшага работніка?

— Каго? — уставіўся Чарпакевіч вачыма ў Наўмысніка.

— Сэдаса. От каго!

Трэба сказаць, што Наўмыснік не чакаў такога эфекту, ён гэта сказаў наўздагад, сам у гэта не верачы. За што Чарпакевіч будзе забіваць Сэдаса? Наадварот, ён яго заўсёды павінен быў бы бараніць і ратаваць. Наўмыснік дагадваўся ўвесь час, чуючы адтуль весткі, што раз забіты быў падобен да Сэдаса, то, значыцца, гэта быў Сэдас. Найбольш ён так думаў: яны неслі забраныя з банка грошы і, мусіць, якія-небудзь грабежнікі напалі ўначы на іх і забілі Сэдаса. А Чарпакевіч з грашыма здолеў уцячы, будучы здаровым і маладым. Цяпер ён кальнуў Чарпакевіча гэтым словам, так мяркуючы: чым ён там, скажам, Хурсу давядзе, што гэта не ён яго забіў? Аж тут выйшаў страшэнны эфект: Наўмыснік бачыў, як пасля яго слова

Чарпакевіч раптам пабялеў, але гэта было толькі на адзін момант. Далей ужо Чарпакевіч трымаў Наўмысніка за каўнер і цягнуў так, што Наўмысніку было цяжка дыхаць. Наўмыснік так пхнуў ад сябе Чарпакевіча, што той адарваўся і хістануўся. Чарпакевіч устояў, і губы яго хадзілі ў бакі.

— Значыцца, ты яго забіў? — прашаптаў Наўмыснік.

Слова «значыцца» навяло Чарпакевіча на думку: мусіць, толькі здагадваецца. Наўмыснік жа думаў: калі і не ён забіў, то буду гаварыць яму, што ён. Няхай давядзе. А не давядзе — то, можа, мякчэйшы зробіцца. Чарпакевіч узяў такую тактыку: высмаркаўся і дастаў з кішэні сігарэтку. Наўмысніку не даў. Курыў, пасля плюнуў убок.

— Цьфу! Брэша ён, сабака, дурань. Такімі словамі не кідаюцца.

— Я і не кідаюся. Я гавару праўду.

— А ну, давядзі гэтую сваю праўду.

«Злуе, мусіць, нешта тут ёсць»,— падумаў Наўмыснік.

— От што,— сказаў ён.— Я ведаю. Ёсць чалавек, які бачыў, ён маўчыць як магіла. Але можа загаварыць.

— Дзе гэты чалавек?

— Ён там.

— Хто ён?

— Ты хочаш, каб я табе сказаў?

Пра «чалавека» Наўмыснік выдумаў, але гэтым узяў пад сваю ўладу Чарпакевіча. Чарпакевіч, праўда, трымаўся, але ў гэтым трыманні было штосьці такое, ад чаго Наўмыснік цвёрда думаў: «Забіў Сэдаса ты!»

З гэтай прычыны яны паміж сабою ніяк не маглі дагаварыцца. Наўмыснік не даваў матэрыялаў, а таму было важна забраць матэрыялы і пакінуць тут на нейкі час Наўмысніка, пакуль яго не зменіць хто-небудзь іншы. Так было яму сказана. Наўмыснік усё больш і больш забіраў Чарпакевіча пад сваю ўладу. Сонца рушыла з паўдня, калі яны пачалі гаварыць спакойна. Толькі часамі ў гаворцы выбухала ўспышка злосці, але гэта было не часта.

Трэба сказаць, што, разгаварыўшыся, паспакайнеўшы, яны пачалі адчуваць самі сябе вельмі блізкімі адзін да аднаго людзьмі. Як-ніяк, а яны былі абодва ў чужой ім краіне, дзе людзі думаюць інакш, дзе думкі нават самых адсталых, цёмных, несвядомых людзей за апошнія гады пайшлі ў іншы бок; дзе нават самыя закаранелыя пачуцці старога свету ў канкрэтных людскіх асобах пачалі ператварацца ў іншую якасць і нават даходзіць да сваёй

супрацьлегласці. Гэта было, і гэта Наўмыснік сам бачыў. Тым часам ён працёс праз увесь гэты час свае ідэалы,— быць зноў такім, якім быў раней. У гэтыя хвіліны, калі ён пачаў спакойна гаварыць з Чарпакевічам, ён вельмі востра адчуваў сябе ў акружэнні варожага сабе свету. Чарпакевіч таксама не быў спакойны. Менш за ўсё, у параўнанні з усім іншым, яго трывожыў Наўмыснік. Ён усё ж адчуваў сябе далёка, вельмі больш як за сотню вёрст ад той тэрыторыі, дзе ён вольна хадзіў па зямлі. Тут ён, перад тварам Наўмысніка, быў, як на маленькай выспе, навокал якой кіпіць бурлівая хваля. Таму так і было, што і Наўмыснік, і Чарпакевіч пасля сваёй неспакойнай і злоснай гаворкі адзін з адным пачулі сябе так, што можна ім пагаварыць і па-таварыску, стварыўшы навокал сябе нават атмасферу інтымнасці (праўда, не да канца, а ў пэўных памерах, хітруючы адзін перад адным). Элементы гэтай хітрасці можна бачыць хоць бы з таго запытання, якое даў Наўмыснік Чарпакевічу і з якога пачалася гэтая іхняя інтымная гутарка. Наўмыснік сказаў так:

— Я з самага пачатку ведаў, хто забіў Сэдаса. Але што мне да гэтага! Я сваю справу ведаў і ёю займаўся. Але часамі думаў сабе так: усё ж, калі падумаць, то прычыны сапраўднай і не было яго забіваць.

— Я яго і не забіваў, хочучы яго забіць. Я толькі выйшаў з цярплівасці і даў яму нейкай ламачынай, якую хапіў з-пад ног на дарозе. Ён хапіў мяне за галаву, за шыю, трос, як вар'ят стаў, крычаць на мяне пачаў. А ты ведаеш, што значыць тады было, калі крычыць хто! Гэта значыцца папасці на мой і на яго самога след. Што мне іначай было рабіць! Я хапіў ламачыну, і то гэта было пасля таго, як ён хапіў мяне за горла. Я даў і якраз па галаве каля вуха. Ён адразу ўпаў і духу не ўказаў. Я зацягнуў яго з дарогі і спусціў уніз да ручаіны. Прызнацца, я ледзьве стаяў на нагах, такі быў змораны. Я зняў з Сэдаса тую частку грошай, якую ён нёс, і далучыў да сваіх. Стала вельмі цяжка змoранаму, стомленаму. Я такі здорава павалтузіўся з гэтым дурным старым. Я ўспомніў мясцовасць, лес, сцежкі. Усё асталося на месцы з тых часоў, калі апошні час я тут прайшоў. Пачало світаць. Я мог зваліцца з ног. Я сеў на нізкі сук нейкага дрэва. Ён абламаўся. Я так і астаўся сядзець на зямлі, пасля лёг, падклаўшы грошы пад галаву, нагробшы пад сябе моху. Я так праляжаў цэлы дзень і толькі трохі забраў з сабой грошай, каб паказаць, што я зрабіў справу. Мне было ісці яшчэ далёка, а спяшаць трэ-

ба было. І дарога воўчая. Цераз два дні я ўжо быў па той бок.

— А цяпер скажы ад душы — памятаеш, калі ты зусім адсюль адыходзіў тады даўно, то два дні сядзеў у мяне ў хаце, пакуль зусім знікнуць. Ты думаў, што ўжо больш не вернешся? То чаго ты два дні чакаў у мяне? І каго ты ці чаго выглядаў з лесу, калі можна было проста ўзяць ды пайсці ў твой бок, дарога было вольная, я толькі бачыў і гаварыў табе, што каля хутара падпільноўваюць цябе. Чаго ты выглядаў, скажы?

Чарпакевіч уздыхнуў. Пасля сказаў:

— Ты — сукін сын. Ты як мяне стрэў у гэтыя дні і сёння ў гэтым месцы? Ты чорт ведае як трымаеш сябе са мной. А нам трэба абодвум трымацца блізка, разам.

— А я што гавару, я тое самае...

«Яшчэ пагавару з ім па-шчырасці, і, можа, аддасць матэрыялы. Што мне за інтарэс выдумляць і хлусіць яму». Так думаў Чарпакевіч. І ён сказаў:

— З-за таго самага і была справа з Сэдасам. Гэты стары зусім быў страціў розум. Я такі спачатку падумаў быў, калі яго са мной паслалі сюды, што тут нешта не так — такога старога пасылаюць у цяжкую дарогу, у немаведама якія прыгоды. Сядзеў бы ты, думаю сабе, на месцы, аціраўся б каля паноў, вынюхваў бы на месцы бальшавіцкі дух у мужыкоў і гаварыў каму належыць. Дык не, у дарогу пусціўся. Аж пасля мне стала ясна, што ён сам нешта з паўгода прасіў, каб яго паслалі сюды. Лягчэй такім парадкам прайсці, дарогу пакажуць. А яму трэба было. Выйшла, што мне таксама трэба ў тое самае месца і з такога самага інтарэсу. Скажу табе проста. Мой бацька паказаў быў мне, калі я сядзеў у лесе і прыходзіў к яму, месца пад нашай дзічкай на полі. У гэтым месцы, сказаў ён, я заўтра закапаю золата. Повен гаршчок. Гэтая штука ніколі ў крыўду не папусціць. Усё можна занядбаць, а гэтага трымайся і не пускай з рук.

— Праўда?! — узгарэўся Наўмыснік.

— Гэтага я і выглядаў з лесу, калі мяне атрад Назарэўскага гнаў к самай граніцы. Я тады ў цябе затрымаўся і ўсё чакаў зручнага моманту, каб адкапаць гаршчок і тады — смела сабе ідзі куды хочаш. Можа, я тады зусім сюды ні разу не прыходзіў бы. Я думаў так: адчыню вялікі гандаль або маёнтак арандаваць буду. Аж гаршчок забраць мне не ўдалося, ты сам паведамляў усё мне, што там пільнуюць чырвонаармейцы. Прыйшлося ісці так. Што вый-

шла? А там абіваю парогі чые хочаце, нават самага апошняга арандатара, а тут золата, бацькава кроў, закапана. Я пайшоў к Хурсу на службу, каб тут пабываць і забраць сваё. Калі са мной тады былі выправілі Сэдаса, ён мне сказаў так: пад вашай дзічкай закапана маё золата, повен гаршчок. Як мяне, кажа, сяляне гналі адсюль, калі бальшавікі находзілі, я не паспеў ні схваціць золата з сабой, ні схаваць яго. Мне, кажа, удалося праскочыць к твайму бацьку і сказаць яму пра гэта. А ён мне адказаў, што ён яго закапаў, і сказаў точнае месца, дзе гэта будзе. Так мне сказаў Сэдас. Нарабіўшы спраў у банку, мы абодва павінны былі прайсці цераз наш хутар і адкапаць кожны свой гаршчок золата. Сэдасу гэта таксама быў ратунак. Ён стары быў ужо, пан яго, з якім ён уцёк, там маёнткаў не мае, а такіх, як Сэдас, там многа, і рабіць ім там цяпер няма чаго. І такія грошы на Сэдасаву старасць, ды яшчэ, можа, і на старасць таго самага пана, хто ведае... Бо хоць пан і сядзіць з Хурсам у адной арганізацыі, а ўсё ж — пранырлівы мільянер Хурс гэта адно, а такі пан — другое. І от прыйшлі мы з Сэдасам на наш хутар. Яшчэ не было поўначы. Самое дзічкі няма, дарогі старой хутарской няма, шырокай мяжы няма, на якой расла дзічка. Месца мы пазналі па пяньку ад дзічкі. Пачалі капаць. Я вельмі добра памятаў тое месца, дзе бацька закапаў гаршчок.

— Цяпер я табе скажу, што ты — сукін сын,— перабіў Наўмыснік.— Ты думаў, што я забяру тваё золата, што не сказаў мне пра гэта, седзячы ў мяне ў хаце.

— Ты пакрыўдзіўся?

— Не, я на чужое рукі не падымаю. Ну, гавары далей.

— Я пачаў капаць у тым самым месцы,— пуста, ніякага гаршка. Памыліўся бацька месцам — падумаў я. А Сэдас бярэ ў мяне рыдлёўку і кажа — адпачні, цяпер я ў сваім месцы капяну. Капянуў і адразу зашаптаў: «О, ёсць той самы гаршчок, дротам аплецены». І аж заспяваў: «А-а, грошыкі, вылежаліся, вычакаліся мяне»... Я пачаў капаць скрозь каля пня і нічога нідзе не знайшоў. Больш за дзве гадзіны я корпаўся ў зямлі, пачалі ўжо ў вёсках даўно спяваць пеўні, я ўбачыў, што дарэмная работа, грошай няма. Я падумаў так: бацька памыліўся месцам, закапаў там, а Сэдас цяпер адкапаў. І напэўна гэта так і было...

— А калі не?

— А як жа інакш?

— А дзе ж Сэдасавы грошы дзеліся?

— Перш за ўсё наш гаршчок таксама быў аплецены, гэта раз. Пасля мне бацька ні разу не ўспамінаў нават, што ён калі-небудзь закопваў Сэдасавы грошы. Я так думаў. А той стары, падла, паставіў на пянёчку гаршчок, аж трасецца ўсім тулавам, губамі цмокае і спявае бесперастанку: «Грошыкі, вылежаліся, вычакаліся»...— От што,— сказаў я.— Пашукайце сваіх грошай яшчэ, от вам рыдлёўка.— Як гэта так? — абазваўся ён. А я гаршчок з пня сабе ў рукі, пад паху, узваліў на плечы банкаўскія грошы і сказаў яму: — Я вас пачакаю, а вы шукайце, бо гэтыя грошы не вашы, а мае. Тут ён і пачаў вар'явацца. Я пайшоў, ён пабег за мной. Мы выбеглі на дарогу пры лесе над ручаінай... Ведаеш, нам трэба абодвум адгэтуль чым скарэй: каго б тут на тваё месца пакінуць?

— Мне тут няма як чакаць таго чалавека.

— Добра, добра, я гэта ведаю. Так мы і зробім, пойдзем разам. У цябе многа матэрыялаў?

— Менш, як тых банкаўскіх грошай, лягчэй будзе несці.

— Адным словам, у маю жакетку зашыць. Дзе мы гэта зробім? Трэба сёння ўночы. Самае апошняе — гэта заўтра ўночы мы адсюль павінны выйсці.

— Яны ўжо даўно зашыты ў маёй жакетцы.

— Ну, добра, я яе апрану. Трэба, каб усё гэта было пры мне.

— Чаму, яно можа быць і пры мне.

— Цябе тут ведаюць, мяне не. Мяне там ведаюць, а цябе не.

— Нічога, я з табой буду ісці і тут і там.

— Які ты дурань! Я ж гэта і гавару. Толькі матэрыялы павінны быць у мяне.

— Калі мы будзем разам, то яны будуць як і ў цябе.

— Ты думаеш, што я цябе тут пакіну? Ты мне не верыш?

— Чаму не веру, мы з табой цяпер, здаецца, добра гаварылі.

— І я табе расказаў тое, што нікому не расказваў. Бачыш, як я на цябе гляджу. Ты за мяне старэйшы. А памятаеш, як мы жылі тады па-суседску, як быў яшчэ хутар. Ты па мяне абапрэшся і там, калі там ужо будзем. Ты думаеш, што там так усё лёгка будзе табе, калі табе Хурс дасць хутар? Перш за ўсё — вялікага хутара не дасць, такім, які быў мой бацька да вайны, не зробішся. Парабка не заўсёды будзеш трымаць.

— Хоць бы і так. Каб хоць падобна было на даўнейшае.

— На даўнейшае! Даўнейшае гэта тое, што прайшло. А што прайшло — тое прайшло. І няма чаго пра гэта думаць. Прыйдзецца мне цябе там прымаць у хаўрус, гандляваць разам. Асяду і рэстаран свой адкрыю, а на другой вуліцы каўбасны магазін. Мне такі чалавек, як ты, патрэбен будзе.

— Не, я лепш на хутары.

— Будзь сабе на хутары. Але трэба яшчэ яго зарабіць.

— Я яго зарабіў.

— Але я цябе яшчэ павінен буду адрэкамендаваць.

Наўмыснік выйшаў з цярплівасці і назваў рэчы сваім імем:

— Мае шпіёнскія матэрыялы мяне адрэкамендуюць!

— Ты зноў пачынаеш крычаць, а я гавару з табой добра. Ты заўсёды жыў тут і не ведаеш, як там усё.

— Я не малы і не дурны.

— То ты павінен ведаць, што дзе б ты ні быў — адзін у аднаго будуць зубамі рваць з зайздрасці і злосці. Я служу, а калі служыць пакіну? У мяне ёсць стары, яшчэ бацькаўскі, капітал. Я і смела жыву. А ў цябе што ёсць? Як ні круці, а прыйдзецца табе аб мяне церціся. Я быў на кані і пад канём; я многа чаго ведаю. З горла вырве ў цябе кожны, калі не прытрымаеш або сам другому ў горла не ўпілішся.

— Гэта праўда, на гэтым свет стаіць, і гэта заўсёды было і будзе. Я памятаю, як твой нябожчык бацька не раз гэта свайму пастушку, цяперашняму дурню Міхалу Тварыцкаму, гэта самае тлумачыў. Вучыў яго. Толькі што той дурань не ўмеў спажыць... Такое шчасце яму здарылася з гэтымі грашыма, а ён, дурань, папаўся...

— Чорт яго бяры, такіх не шкада.

— Я яго не шкадую. Гэта быў ваўчок. Ён яшчэ малы быў, а раз дапамінацца ў мяне пачаў таго жыта, якое вы з бацькам у мяне хавалі. Я яго так прабраў...

— Дык калі ты мне сваю вопратку з паперамі перадасі?

— Божа мой, як быццам бы я няясна дагэтуль гаварыў?

— І я ясна гаварыў! (Чарпакевіч аж падскочыў.) Без мяне ты туды з'явіцца не можаш! Я павінен цябе адрэкамендаваць, яшчэ раз гавару. Калі такі дарагі час, калі так трэба спяшаць, ты прымушаеш мяне гэтулькі балбатаць!

Ты павінен трымацца за мяне, я там ведаю ўсе ходы і выхады. Без мяне прападзеш! Яшчэ на свеце ўсё можа быць. Ты думаеш, сам Хурс да канца верыць ва ўсе свае ўдачы? Расказваюць, што ён аднойчы на нейкім сакрэтным паседжанні сказаў, што, можа, яшчэ да смерці не раз прыйдзецца перавандроўваць з адной краіны ў другую.

— Чаго?

— Ад рэвалюцыі.

— То гэта Хурс. А мы з табой людзі прасцейшыя, меншыя. Пражыў жа я аж дагэтуль тут.

— Там рэвалюцыя калі ўжо будзе, то будзе заядлая. Свет азвярэў, усё калоціцца і трасецца, хоць і здаецца зверху спакойна.

Гэтыя словы пераканалі Наўмысніка. Ён нейкі час маўчаў. Чарпакевіч яго падагнаў:

— Ну, доўга не думаць! Балбатню гэтую я спыняю. Даволі. Гавары, дзе і калі перадасі мне...

— Можа, сюды я вечарам падыду. А не — то, можа, паехаць на ноч рыбу лавіць. Узяць лодку...

— Добра, вазьмі лодку. К якому месцу падплывеш?

Яны паволі ўсталі і пайшлі. Тым часам, прайшоўшы крокаў трыста, якраз дайшоўшы да таго месца, дзе канчаліся кусты і пачыналася паляна, куды загіналася рэчка і дзе Чарпакевіч павінен быў на нейкі час астацца, а Наўмыснік паважнай хадой сталага паляўнічага падацца дадому,— тут, у гэтым месцы, яны спыніліся, убачыўшы чалавека. Чалавек стаяў на беразе рэчкі, пры самай вадзе. Ён быў босы: нядаўна, відаць, скінутыя з ног боты стаялі каля яго. Яны былі запыленыя і вялікія, з доўгімі халявамі. Боты такія носяць паляўнічыя або меліяратары. Чалавек паволі скідаў з сябе пінжак, кінуў на траву шапку, закасаў рукавы. Пасля чалавек нагнуўся к вадзе, дастаў з кішэні мыла, памачыўшы, пацёр яго ў руках, зусім прыгнуўся і лінуў прыгаршчы вады сабе ў твар. Чарпакевіч бачыў, як Наўмыснік адступіў крок назад і нейкі час разглядаў чалавека, увесь трымаючыся за кустом. Пасля Чарпакевіч заўважыў па Наўмыснікавых вачах і твары, што ім апаноўвае ні то здзіўленне, ні то трывога.

— Хто гэта? — запытаў Чарпакевіч.

Наўмыснік спачатку не адказаў. У гэты момант новая трывога кальнула яго. «Трэба сёння ж адсюль уцякаць. Няхай забірае мяне і вядзе. А дакументаў я яму не дам, бо тады ён можа ад мяне адзін уцячы. З'явіўся яшчэ адзін чалавек, які мяне ведае. Навакол збіраюцца адусюль... Гэ-

ты, калі пазнае, калі ўбачыць, то... божа мой, што ён тут робіць?» Так думаў Наўмыснік і траха не шаптаў, пераўтвараючы свае думкі ў словы. Ён стаяў і не сыходзіў з месца. Чарпакевіч ірвануў яго за рукаў.

«Не аддам яму папераў, няхай ён будзе ў маіх руках, а не я ў яго. Няхай стараецца правесці мяне, ён ведае дарогу».

Ужо цвёрда дайшоў да гэтай думкі Наўмыснік.

— Хто гэта, чаго ты так глядзіш? — яшчэ раз запытаў Чарпакевіч.

Наўмыснік з дакорам, злосцю і трывогай шапнуў Чарпакевічу ў самае вуха:

— Хто? Ты не пазнаеш?

— Гавары, хто гэта.

— Гэта Міхал Тварыцкі.

— От ён які?! А ты злуеш, дурань, не пазнаеш! Ён жа вырас без мяне. Я ж яго апошні раз малога бачыў!

## III

Міхал Тварыцкі мыўся доўга. Пасля ён сядзеў на траве — абуваўся і курыў. І гледзячы на яго твар, чалавек, здольны да наглядальнасці, мог бы заўважыць, што ён стараецца перамагчы нейкае сваё хваляванне. Ён ішоў ад рэчкі павалі, калі было відаць, што ногі яго рвуцца шпарчэй ісці; ён разглядаў навокал сябе «чортавы вокі», траву, чаротавыя зараснікі, калі вочы прасіліся прыжмурыцца, каб не перашкаджаць думкам трымацца аднаго пункту. Ён нёс за плячыма свой клунак — свае рэчы ў мяшку, перавязаным накрыж шпагатам. Ён мінуў той куст, за якім сядзелі Наўмыснік і Чарпакевіч, і неўзабаве ўвайшоў у вузкую граду лесу. Чарпакевіч і Наўмыснік бачылі зблізку яго загарэлы, абветраны твар, чулі скрып яго ботаў. Прайшоўшы лес, Міхал Тварыцкі ўбачыў панараму будаўніцтва. Выхадны дзень — і работы няма. Людзей відно мала. Міхал Тварыцкі ўбачыў перад сабой нешта накшталт скрыжавання гарадскіх вуліц, толькі што дамы тут яшчэ недабудаваны: ён глядзеў здалёк на карпусы кватэрных дамоў. Ён тут быў раней толькі раз, калі яго судзілі, і нічога тады тут не разглядаў і не заўважыў. Ён паволі і доўга ўзыходзіў на ўзгорак, сярод складзеных і накіданых горамі будаўнічых матэрыялаў, прайшоў да галоўнага корпуса станцыі, дзе ўбачыў некалькі чалавек. Ён запытаў, дзе баракі, і пайшоў да іх. Ён адчыняў дзверы ў некаль-

кіх бараках і, не спатыкаючы нідзе знаёмых твараў, ішоў далей. Нарэшце ён адчыніў дзверы ў другую палавіну крайняга барака. Там быў толькі адзін чалавек. Ён ляжаў на сваім ложку, трымаў рукі пад галавой і глядзеў на супрацьлеглае акно. На стук дзвярэй чалавек не агледзеўся. Міхал Тварыцкі паволі прайшоў паўз ложкі і стаў перад чалавекам.

— Здароў! — сказаў ён чалавеку, з якім пазнаёміўся ў той жа дзень зранку.— Дзе тут вады ўзяць, пабрыцца трэба.

Міхал Тварыцкі сеў за столік брыцца. Яго таварыш выцягнуў з-пад падушкі нейкую кніжку і пачаў чытаць. Нішто не парушала цішыні. Міхал Тварыцкі бесперапынна стрымліваў сваё хваляванне. Ён даўно не бачыў ні Славы, ні Зосі, ужо гадоў два ён іх не бачыў. Можна сказаць, што нянавісць да Зосі к гэтаму часу ў яго скончылася. Пакуль што ў ім жылі цяпер два пачуцці ў дачыненні да яе: сорам перад ёю і нічым не абгрунтаваная крыўда, што яна яго не пашкадавала тады. Гэта было цяпер у яго душы. З першага ж дня пасля суда, як толькі яго адаслалі на месца, ён узяўся за работу, маючы ў ёй сваю найвялікшую асалоду, і такім парадкам, душачы свой чорны настрой, ён працаваў бесперапынна, заўзята ўдасканальваючыся на кожнай новай рабоце. Такім парадкам ён зрабіўся майстрам у некалькіх спецыяльнасцях. Калі яго пачалі ставіць кіраваць якой-небудзь работай, ён у першыя часы адчуваў сябе нядобра. Душа яго гарнулася да таго, каб неўзаметку, ціха, панура, часам дзе-небудзь у цёмным і зацішным кутку, абчэсваць бервяно, каб капаць зямлю. Гэтым часам ён быў повен сваёй звыклай панурасці, мала калі гаварыў. Толькі часамі ім апаноўвала ажыўленне, у яго з'яўлялася патрэба штосьці камусьці расказваць, быць у вялікім гурце людзей. Гэта было ў тыя хвіліны, калі ён, думаючы пра Славу, успамінаў пра адну рэч, якую ён ёй хавае. Да суда ён не звязваў гэтую рэч з Славаю, ён проста меў яе за сваю жыццёвую апору. Пасля суда ён пачаў думаць, што захавае на доўгія гады гэтую рэч для яе, і яна, вырасшы, ацэніць яго клопат аб ёй. Гэта давала вялікія парывы яго хваляванню. Гэты пункт яго думак і пачуццяў умацоўваўся доўга і, дайшоўшы да самага высокага свайго ўзняцця, пачаў прытупляцца і часамі ападаць. Сама справа гэтая пачала траціць сваю апору ў душы, бесперапынна падаграючыся думкамі. Было падобна, што чалавеку страшна развітацца з тым, што нараджалася змалку і

вырастала цяпер. Так было ўжо тады, калі ён пачаў прывыкаць кіраваць работай і цераз гэта адвыкаць пачаў ад сваіх цёмных куткоў. У добрай працы ён адбыў свой тэрмін і цяпер прыехаў сюды працаваць і шукаць сям'і. Але раней з дрыжаннем сэрца ён рушыў туды, дзе стаяла тая яго хата. Ён не цешыў сябе ілюзіямі, ён адчуваў і ведаў, што цяжка будзе ўсталявацца ясным дачыненням паміж ім і Зосяй, хоць цяпер ён і хацеў гэтага. Яго цягла Слава і тая справа, якую ён рыхтаваў ёй. Трэба сказаць, што на гэтую справу ён спадзяваўся і ў тым сэнсе, што яна, можа быць, перакіне мост паміж ім і Зосяй. («Самы яго ўчынак тут шкодзіў толькі ворагу. І як ён клапоціцца пра Славу!»)

І от ён з'явіўся ў тую мясцовасць, дзе жыў раней заўсёды. Ён убачыў на месцы старых дарог узаранае поле і пракладзеныя новыя дарогі там, дзе іх раней не было, ён убачыў новыя забудовы і, азіраючыся, дайшоў да сваёй хаты. Быў вечар, змеркла нядаўна. У хаце гарэла лямпа. Ён зірнуў у акно, думаючы ўбачыць там Славу. Аж там зусім незнаёмыя людзі сядзелі за сталом, і ніколі раней не бачаная жанчына ставіла на стол вячэру. Двое невядомых дзяцей (адно ўзростам такое, як Слава) крычалі жанчыне:

— Мама, давай нам першым.

Міхал Тварыцкі адступіў ад акна. З сянец выйшаў чалавек. Міхал Тварыцкі падышоў да яго.

— Тварыцкая тут жыве?

— Не,— адказаў чалавек,— яна раней тут жыла, цяпер яна зусім выехала туды, пад Дзве Хаты, недзе там працуе на пабудове электрастанцыі.

— А хто тут жыве?

— Я жыву. Я тутэйшы калгасны каваль. Быў раней у тым калгасе, за лесам, а цяпер сюды перайшоў, тут каваля не было. А там мой сын. А вы хто ж будзеце?

— Я тут да Тварыцкай інтарэс меў. З-пад горада я.

— Э-э-э, чалавеча, тут ужо і забылі пра Тварыцкіх, даўно было. Ну, то заходзь, чалавеча, пераначуеш, назад жа пад горад не пойдзеш напроці ночы.

Тварыцкі ўвайшоў у хату, убачыў новую падлогу, адбітую дошкамі баковачку.

— Цесная хата,— сказаў гаспадар,— як тут жыць, як у катуху. Будавалі ж раней хаты!

Тварыцкі павячэраў і папрасіў, каб яго паклалі спаць дзе-небудзь у гумне, калі там ёсць хоць крыху саломы. Гаспадар завёў яго ў гумно і пажадаў добрай ночы. Тва-

рыцкі заснуць ніяк не мог. Над дзвярыма ўверсе была вялікая шчыліна, і відно было зорнае неба. Вырысоўваўся верх шула, абчэсанага калісьці і пастаўленага ім самім. Каля гэтага шула тады стаяла Зося, калі ён кінуў у яе сякерай і рассек ёй плячо. Міхал Тварыцкі праляжаў гадзіны са дзве. Было зусім ціха. Напэўна ўжо ўсе паснулі. Ён устаў, чыркануў запалку. На таку ўбачыў некалькі тонкіх дошак, даўгіх і кароткіх. Патушыў запалку, абмацаў самую кароткую дошку (адрэзаны канец дошкі) і палез у старану к сцяне. Там абмацаў вугал, стаў каленкамі на пацяруху. «Напэўна, гэта яшчэ тая перацёртая салома, якую я пакінуў». У самым вуглу разгроб пацяруху, абмацаў рукамі невялікі камень. Камень быў увесь у зямлі, толькі адным бокам даходзіў да паверхні зямлі. «Усё на месцы, ніхто не зачапіў». Ён доўга там і не корпаўся. Знайшоў усё адразу. Папацёмку некалькі разоў капянуў дошкай зямлю. Тут быў сыры пясок і капаўся вельмі лёгка. Камень, які служыў за адзнаку месца, ён дастаў рукамі адразу. Неўзабаве рукі яго ляглі на шчыльна накрыты зверху бляхай і аплецены дротам гаршчок. Ён яго выцягнуў наверх, зямлю зноў засыпаў, укапаў камень, усё, як і было. Закрыў зверху перацёртай саломай. Аплецены дротам гаршчок схаваў у свой клунак. Усё ўпарадкаваў, нічога не забыў. Нават канец дошкі, якой капаў, абцёр саломай ад зямлі — каб ніхто нічога не заўважыў. Цяпер ужо лёг на салому і яшчэ заснуў гадзіны тры. Яму стала спакойна. Пакінула рупіць тое, што рупіла доўгія гады, можна сказаць з маленства. Ён сам не заўважыў, што цяпер ужо ў яго адчуванні ўсёй гэтай справы было штосьці новае. Да радаснага адчування ашчасліваць і «раз назаўсёды выратаваць ад магчымасцей усялякіх няшчасцяў Славу, адгарадзіць яе ад усялякіх злых намераў» далучалася пачуццё патрэбы самому збыць з сваёй галавы ўсё гэта, ачысціцца ад усялякіх слядоў мінулага. Але другога ён яшчэ не заўважыў. Развітаўся ён з гаспадаром вельмі рана і адразу рушыў у дарогу, стараючыся, каб яго не ўбачылі і не пазналі знаёмыя людзі. Ён нікога не баяўся, але яму скарэй хацелася адысціся ад гэтай мясцовасці. Адчуў ён сябе зусім добра і вольна, калі з'явіўся сюды, на будаўніцтва. Тут нішто не звязвала яго. Цяпер у бараку, пабрыўшыся, пераадзеўшыся ў чыстае, ён схаваўся ад таварыша за ложак, нагнуўся, ціхом пераклаў з аплеценага гаршка залатыя манеты ў некалькі хустачак, пазавязваў і параспіхаў па кішэнях. Выпрастаўся, усміхнуўся, узяў пад паху

аплецены дротам гаршчок, закручаны ў газету. Сказаў свайму таварышу, які ўсё чытаў кнігу:

— Ну, я пайшоў.

— Бывай пакуль.

Выйшаў. Сонца стаяла высока. Часамі толькі на сонца находзілі абрыўкі высокіх хмар, і на некалькі хвілін рабілася хмурна. Ён пайшоў к лесу, у той бок, дзе чулася сваім запахам рэчка. Ён вельмі шпарка мінуў тэрыторыю самога будаўніцтва, дайшоў да рэчкі і пайшоў берагам туды, куды выходзіць цэлы шэраг хат і домікаў. Па дарозе ён боўтнуў аплецены дротам гаршчок у ваду. Ён яшчэ раней распытаў у тутэйшых людзей і ўжо ведаў, дзе жыве Слава, дзе Зося, у каго і дзе яны бываюць і дзе іх хутчэй у выхадны дзень можна знайсці. Ён дайшоў да таго доміка, дзе жыў Несцяровіч, а цераз сенцы — Ірына. Ён падышоў сюды з боку рэчкі. Гэта была задняя сцяна дома. Сюды выходзіла толькі адно акно, малое, відаць, кухоннае. Яно было шчыльна зачынена, і ніякага руху за ім у доме не заўважалася. Каля наступнай сцяны было абгароджана месца для кветак. Тут многа было высокай травы, такой высокай, што вяршкі яе былі на ўзроўні дзвюх лавак. Некалькі круглых градак з кветкамі, і нядаўна пасаджаныя два клёнікі. Вокны адчынены, і адтуль шмат галасоў. Гэта не дазволіла яму адразу пайсці туды. І ён увайшоў толькі ў сенцы, думаючы ўжо, ці не пайсці назад і прыйсці пасля, у зручнейшы момант. Але раптам ён пачуў Славін голас. І гэта затрымала яго тут. Ён пазнаў гэты голас. Праўда, голас стаў больш роўны, але гэта быў той самы голас яго дачкі, яго дзіцяці. Ён стаяў у сенцах, гледзячы на зачыненыя дзверы, і дрыжаў ад таго, што хто-небудзь можа ўвайсці сюды і ўбачыць яго. Перад сваім уласным дзіцём, якое ён любіў, ён стаяў, як злодзей, якога не падпускаюць да дарагой рэчы. Можна сказаць, што ён пачаў усвядомліваць гэты свой стан, увесь змест гэтай хвіліны, якая падрыхтоўвалася гадамі і яго ранейшымі паводзінамі. Думка яго ў гэтую хвіліну была вельмі ясная. «Я сам зрабіў усё гэта, Зося заўсёды казала праўду, я сам глядзеў на свет праз такое шкло, якое зменьвае колеры свету, і рад быў, калі дзіця маё так вучыцца глядзець на свет». У такім кірунку ішла яго думка. Вельмі ясна ўяўлялася яму, што стаіць ён тут, як пабіты сабака.

Стаяў ён доўга — хвілін дзесяць. Ніхто не прыходзіў і не ўваходзіў. Але от знадворку ўвайшло двое дзя-

цей. Ён паклікаў да сябе большага хлопчыка і папрасіў, каб ён прывёў сюды Славу. Слава выйшла адна. Ён убачыў перад сабою вельмі выраслую дзяўчынку. Яна была ў бархатнай сукенцы, у лёгкіх туфельках. Ясны позірк яе вачэй нагадваў Зосю. Непаразуменне свяцілася ў дзіцячых вачах — што гэта за чалавек такі? Ён бачыў з усёй яе постаці, што яна жыве радасна і весела, што яна здарова і не ведае якога-небудзь там пакутнага жыцця і страшных сірочых дарог.

Праз хвілін сорак пасля гэтага моманту, калі ўжо ўсе гэтыя справы, пачынаючы з тых дзён, калі ён пасвіў у Скуратовіча каровы, і да гэтага часу, дайшлі да свайго кульмінацыйнага пункту і, можна сказаць, катастрафічнага завяршэння, ён сам вельмі выразна сфармуляваў свае адчуванні і сваю свядомасць таго, што Слава радасная і не ведае пакутнага жыцця. Там ён тады думаў і пра сябе. Цяпер жа запытаў Славу:

— Ты ведаеш мяне, Слава?

Яна маўчала і думала. Яна ўспамінала, блізка было да таго, што яна яго зараз пазнае.

— Якія там людзі з табой у хаце?

— Госці.

У гэты час прыадчыніліся дзверы, і выйшла Ірына.

— Славачка, чаму ты пайшла? — сказала яна, але ўбачыўшы, што з Славай гаворыць незнаёмы чалавек, яна пайшла назад. І, мусіць, там сказала пра чалавека Зосі, бо неўзабаве Зося выйшла ў сенцы.

Убачыўшы Міхала Тварыцкага, Зося здзіўлена стала пры дзвярах і твар яе збялеў. Ён заварушыўся, моўчкі выцягнуў з кішэні нейкія паперы і падаў ёй. Яна глянула. Гэта былі адзнакі яго ўдарніцкай працы, яго новыя спецыяльнасці. Яна не ведала, што рабіць з гэтымі паперамі і што гаварыць, і стаяла так моўчкі, трымаючы паперы ў руках.

— Зося,— сказаў ён.— Я вольны чалавек, тут буду працаваць... Я, сказаць табе... Я для Славы...

Ужо ў гэты момант ён выразна адчуваў, што ўся справа не мае пад сабою аніякага грунту, што ўсім гэтым яго думкам, марам, упэўненасцям — абсалютны канец. Але не мог чалавек не завяршыць усяго словам, якое гэтулькі год насіў у сабе.

— Я дзеля Славы... Яна яшчэ малая, кожны... ну, не кожны, але можа яе пакрыўдзіць... Дзеля яе шчасця я... Каб абаперціся на што магла...

Тут ён пачаў даставаць з кішэняў пазакручваныя ў хустачкі залатыя манеты.

— Што гэта? — запытала Зося.

Запытанне і самы голас яе ацвярозілі яго. Ён глянуў на стол, дзе ляжала ўсё, што падаставаў з кішэняў, і, як бы апраўдваючыся, сказаў:

— Гэта кулацкае, Скуратовічава, таго гада...

Зося падышла, паглядзела.

— Дзе ты ўзяў?

— Я ж кажу, гэта таго гада, ворага.

— Як гэта, калі і дзе?

— Даўно, многа год ужо ад таго прайшло... Я яшчэ недарослы тады быў...

— Чаму ж я дагэтуль нічога не ведала?

— Тады я цябе баяўся, а цяпер хацеў паказаць Славе, як я яе шкадую, стараюся.

— А што яна будзе рабіць з гэтым? Нашто гэта ёй?

— Я ж бачу, што гэта ёй ужо не трэба, што яна жыве... Усе жывуць... Ну, перадайце тут, куды самі ведаеце... Я трымаў пры сабе гэтулькі год...

У гэты ўжо час дзверы з пакоя былі шырока адчынены і ўсе, хто там быў, стаялі ў сенцах. Ніхто не абзываўся, усе маўчалі і слухалі гаворку Зосі і Міхала Тварыцкага. Тут стаяў Несцяровіч, кравец, яшчэ некалькі мужчын, некалькі жанчын. Каля самых дзвярэй Ірына трымала за руку Славу.

На стале ляжала золата. Гэтулькі багацця! Зося халадна глядзела на гэтыя пакуначкі. Ніводзін твар не перасмыкнуўся рысай хцівасці, ні ў каго вочы не кінулі позірку сквапнасці. Як быццам бы ніхто з гэтых людзей не мае прагнасці забраць сабе ад другіх, забраць сабе аднаму, трымаць у сябе далёка ад людзей. «І гэта сапраўды такія гэтыя людзі»,— такая думка мільганула ў Міхала Тварыцкага. Нават кравец (яго Тварыцкі адразу пазнаў) спакойна стаяў, курыў папяросу і не здзівіўся нечаканаму з'яўленню тут такога чалавека. Кравец змяніўся! Каб ён хоць крыху паказаў свае ранейшыя рысы, гэта магло б паслужыць, хоць на нейкі час, апірышчам рэштцы старых ідэалаў Міхала Тварыцкага. Яна, гэтая рэштка, чаплялася за ўсе цёмныя куткі чалавечай душы, шукала спачування ў людскіх позірках і тварах. Сам таго не заўважаючы, Міхал Тварыцкі перавёў свае вочы на краўца, быццам спадзеючыся, што гэты чалавек скажа слова ў апраўданне гэтых пакуначкаў, што ляжалі на стале. А тым

часам кравец у напружанай цішыні дакурыў сабе папяросу, паглядзеў навокал сябе (ясна, шукаў попельніцы, каб пакласці недакурак) і тады перарваў маўчанне:

— Дык гэта, значыцца, Тварыцкі?

Пасля гэтага ўсе пачалі гаварыць. Частка людзей адразу ж вярнулася ў пакой, дзе стол ламаўся ад усякай яды. Сэрца Міхала Тварыцкага быццам упала кудысьці ўніз. На гэты час у душы яго стала страшэнна пуста. Душа на гэты кароткі момант як бы зусім спустошылася, каб быць гатовай для напаўнення.

Міхал Тварыцкі з пабялелым тварам і дрыжачымі губамі паволі павярнуўся і моўчкі пайшоў з сянец. Несцяровіч, які чуў усю яго гаворку з Зосяй, бачачы такую яго збянтэжанасць, шапнуў краўцу:

— Ты яго ведаеш? То прайдзі з ім, пагавары, бачыш, які ён?

Кравец дастаў з партабака новую папяросу і выйшаў следам за Тварыцкім. Той ішоў роўна, павольна, гледзячы перад сабой. Усё ўпала, рушылася; у фальшывай дарозе ішлі першыя маладыя гады; навокал чаго трымаліся калісьці цэлыя гады мары — ёсць непатрэбнасць. Не прымаюць гэтыя людзі таго, чым раней думаў усё жыццё трымаць, чым думаў ратавацца і ратаваць блізкіх сваіх. Няма хцівасці, няма скупасці, няма ў аднаго да другога нянавісці. Не рвуць адзін аднаго за горла, рады адзін аднаму, не ходзяць па пакутных дарогах босыя і галодныя, дзеці сіроцтва не ведаюць!

Страшэнны смутак па той мясціне, дзе ён жыў змалку, вырас у ім. Быў смутак і па малой Славе, той, якая калісьці глядзела праз каляровае шкло на свет. Быццам ён прагнуў зноў вярнуць усё і пачаць жыць спачатку. І самае важнае — хутчэй вярнуцца да Зосі і Славы і жыць з імі разам.

Раптам пачало варочацца тое, выразныя адзнакі чаго былі ўжо ў яго. З чым ён ішоў сюды? Пачала працаваць цвярозая думка. «Я сам адчуваў, што не можа ніхто тут прыняць гэтага. Ці прыняў бы гэтую справу ўжо я сам?» Яму пачало рабіцца лепш, весялей. Ён ішоў і чуў за сабою краўцовы крокі. Кравец пайшоў з ім поплеч і працягнуў яму свой партабак з папяросамі.

— Што ты тут будзеш, Тварыцкі, рабіць? — сказаў кравец.

— Працаваць буду.

— Бачыш ты... От і добра.

Кравец не ведаў, што і як у такім стане гаварыць. Міхал Тварыцкі менш за ўсё цяпер думаў пра краўца. Ён выйшаў на бераг лесу, бачыў адгэтуль забудаваны няскончанымі мурамі ўзгорак, аблітыя сонцам дарогі, чуў каля сябе спакойную цішыню лесу. Чуў увесь гэты сонечны і шырокі дзень. Здалёк, з рэчкі, чуліся песні хорам. Міхал Тварыцкі ішоў берагам лесу, куды вяла дарога. Кравец ішоў з ім поплеч. Дарога завярнулася ўлева, выйшла к рэчцы. На рэчцы плылі лодкі, поўныя людзей. Грымела песня. Ён пайшоў далей, не заўважаючы пры сабе краўца, ён бачыў тут, з гэтага боку лесу, пачатак асушальнай канавы, яна пачыналася на гэтым рачным беразе. На гэтым жа беразе быў куток, прыціснуты к рэчцы і абведзены кругом зараснікамі, якога яшчэ чалавечая праца не зачапіла. Некалькі «чортавых вок» маўчала ўсёй сваёй чарнатой, крынічышчы хаваліся ў жорсткай траве. Усё было перавіта вытаптанымі сцежкамі. Дзе толькі льга было прайсці паміж крынічышчаў, там вілася сцежка. Адна ішла паўз самы край «чортавага вока» і каля яго ўзыходзіла на куп'істы ўзгорачак, дзе раслі хмызнякі. Гэта і было тое месца, куды зранку Наўмыснік прыходзіў на паляванне і гаварыў з Чарпакевічам. Налева ад гэтых кустоў было тое месца на рачным беразе, дзе тады Міхал Тварыцкі мыўся і адкуль яго бачылі Наўмыснік з Чарпакевічам. Міхал Тварыцкі цяпер зноў прыйшоў на гэтае месца, сеў і пачаў глядзець на цішыню рачной вады. Кравец пастаяў хвілін з пяць і пачаў чагосьці шукаць у прырэчным чароце. Неўзабаве ён дастаў адтуль дзве вуды, пачаў іх раскручваць і, як бы апраўдваючыся перад маўклівым Тварыцкім, сказаў:

— Тут гэтыя вуды ў мяне і хаваюцца заўсёды. Часамі я люблю прыйсці сюды пасядзець з вудай.

Тварыцкі нічога не адказаў. Кравец закінуў вуды і прымасціўся сесці над самай вадой. Праз нейкі час рыба пачала браць прынаду. Кравец захапіўся гэтай забаўкай. На Тварыцкага ён глянуў толькі тады, калі той вырваў чароціну, пачаў драбіць на кавалачкі і кідаць у спакойную плынь вады. «Няхай адыдзе чалавек, паспакайнее»,— думаў кравец. «Скарэй бы заўтрашні дзень — і на работу»,— думаў Міхал Тварыцкі. Так думаючы, ён з вельмі вялікай павольнасцю пайшоў сцежкай назад ад рэчкі, цераз кожныя крокаў пяць, а то і за кожным крокам, спыняючыся і разглядаючы траву, кветкі, пеньчукі, зрываючы вяршкі асакі, тручы іх у пальцах, жуючы, пе-

ракусваючы і выплёўваючы травіну. Кравец глядзеў то на свае плыўкі, то на яго — куды ён пойдзе. А ён зусім стаў на сцежцы, стаяў хвілін дзесяць, апанаваны думкамі, пасля ступіў крокаў дзесяць далей. Так ішоў час. Сонца спускалася ніжэй. Міхал Тварыцкі так падышоў да самага «чортавага вока», глянуў у чорную прорву. Ён ішоў так паволі і так ціха, што яго аніяк не чуваць было нават і за паўкрока. Сама сцежка была мяккая, тарфяная, мялася пад нагамі і скрадвала шум крокаў. Тварыцкі пачаў узыходзіць на куп'істы ўзгорачак. Алешнік і ядловец стаялі зялёнай сцяной. Выдзяляўся высокі куст, ён купчасціўся навокал пня спілаванай алешыны. Гэта было якраз тое месца, дзе гаварылі тады Наўмыснік і Чарпакевіч. Куст быў не самы крайні, але з-пад яго някепска відаць было к рэчцы. Ён рос крокаў за дзесяць ад таго месца, дзе балотная сцежка крута ламалася на ўзгоркі і пачынала віцца паміж куп'я. Як толькі Міхал Тварыцкі ступіў на цвёрдую ўзгаркаватую глебу, яго хаду сталі чуць. Сцежка тут была ўжо цвёрдая. Такім парадкам Чарпакевіч пачуў, што хтосьці ідзе. Чарпакевіч сядзеў тут з таго самага часу. Яны з Наўмыснікам выглядзелі тады, што Тварыцкі, памыўшыся, пайшоў адсюль, і трывога іх зменшылася. Больш трывогі асталося ў Наўмысніка; ён ужо зусім згодзен быў аддаць Чарпакевічу ўсе паперы, абы толькі сёння ж назаўсёды рушыць адсюль. Чарпакевіч усё дакляроўваў, што так будзе. Наўмыснік блытанымі сцежкамі, дзе найбольш кустоў і дрэў, пайшоў дадому: перабыць да вечара, а ўвечары да Чарпакевіча і — марш... Чарпакевіч увесь час праседзеў на адным месцы пад гэтым кустом. Ён быў тутэйшым рабочым, усе яго такога і ведалі, праўдзівей кажучы, нікому ніколі тут гэтая шэрая асоба не кідалася ў вочы. Ён тут сядзеў смела. Да вечара недалёка, а заўтра ўжо стануць тут на работу без яго.

Пачуўшы цяпер Тварыцкага крокі, ён прыўзняў галаву. Убачыў Тварыцкага, пазнаў, што гэта той самы, што мыўся ў рэчцы, і трывожная грымаса на адзін момант скрывіла яго твар. Хавацца ці ўцякаць было позна. Ён мог спадзявацца, што яго не пазнаюць. Як бы там ні было, ён ужыў, якую мог, асцярожнасць, каб толькі ўсё абышлося ціха. Ён павярнуўся на бок, можна сказаць, тварам у самую траву, накрыў рукою твар. І — зусім сонны чалавек ляжыць, тутэйшы рабочы, замест пінжака апранены нават у сінюю спецвопратку.

Міхал Тварыцкі стаў на адным месцы. Перш за ўсё ён убачыў твар гэтага чалавека, пакуль той пераварочваўся і лажыўся. Ужо нават у першы момант Міхал Тварыцкі быў упэўнен, што пазнаў гэтага чалавека. Пасля — яшчэ адно. Калісьці, у свае дзіцячыя гады, пасучы на Скуратовічавым хутары каровы, ён не дагледзеў чараду, і адна карова забрыла ў лес. Ён доўга шукаў яе, і пакуль знайшоў, пачало цямнець. Толік Скуратовіч прыйшоў глядзець, што такое здарылася...

— Чаму каровы трымаеш так позна? — закрычаў ён.

— Адна карова была згубілася, я яе шукаў,— адказаў пастушок, выганяючы карову з лесу.

Толік Скуратовіч бачыў, як пастушок, падганяючы карову, ледзьве цягнуўся, моцна прыпадаючы на адну нагу і аж стогнучы.

— Чаго ты так ідзеш?

— Я шукаў каровы, і ў лесе, бегучы, ступіў у зарослую дзеразой яму, і ўпаў, і вельмі нага баліць. Мусіць, гэта я нагу звіхнуў.

— Я табе зараз галаву звіхну.

— Але я карову затое знайшоў,— енчыў пастушок.

— А што ж, ты будзеш губіць, а каб нехта за цябе шукаў?

— А на другой назе я скуру аб корч абдзёр.

Сапраўды, з другой нагі, з-пад пальцаў, цякла кроў. Пастушок ішоў цераз сілу, скалечаны, напалоханы. Ён ледзьве падкульгаў да гаспадара і заплакаў.

— Чаго ты?

— Мне так баліць. Я ісці не магу.

Ён сапраўды не мог ісці. Паспрабаваў скакаць на адной назе і ўпаў на зямлю, сашчаміўшы зубы. Больш ад яго не пачулі ні слова, ні гуку. Ён ужо змалку прывучаўся цярпець боль моўчкі. Скуратовічыку здалося, што пастушку стала лепш, калі ён змоўк.

— Ну, ідзі,— сказаў Скуратовічык.

Пастушок нават і не падняўся.

— Ну, уставай!

Пастушок патрос галавой.

— Ты пойдзеш ці не?

— Я паляжу трохі, баліць.

Скуратовічык ірвануў пастушка за плечы, дэманстратыўна і злосна перакінуў цераз сваё плячо, галавой назад, нагамі сабе ў рукі, і панёс, трымаючы адну нагу так, каб не запэцкацца ў кроў.

— Баліць, баліць,— заенчыў пастушок.

У гэты момант ён быў прыціснут к плячу свайго гаспадара, тварам у самы яго карак, у самую шыю. На шыі былі барадаўкі і праходзіла тонкая, але вельмі выразная рыса, белая, падобная як бы да шраму. Гэта назаўсёды асталося ў яго памяці.

— Я пайду, пайду,— енчыў пастушок.

Скуратовічык, мала клапоцячыся пра тое, што гэта жывая істота, скінуў хлапчука на зямлю і пагнаў каровы. Пастушок праляжаў на зямлі хвілін дзесяць і папоўз.

Цяпер Міхал Тварыцкі бачыў перад сабой тую самую шыю, з барадаўкамі і з белай рысай. Ён падступіў бліжэй. Чалавек не паварушыўся, ён драмаў, небарака, напрацаваўшыся за ўсе дні на пабудове. Міхал Тварыцкі стаяў і глядзеў на гэтую загарэлую шыю. На ёй павысядала кароткае шчаціннe. Можна было заўважыць, што ў сваім месцы, у пэўны час, шыя гэтая бывае пад добрым доглядам: яна брыецца, мажацца, а тут давялося ёй (а можа, гэта не раз бывае, час ад часу) спрабаваць ветру і пылу. Густы загар ляжаў на ёй.

У першую хвіліну Міхал Тварыцкі сам сабе не верыў. Пасля ён адумаўся. Страшэнная ўзнятасць заварушылася ў ім і пачала вырастаць. Увесь свет стаў поўны з'яў і рэчаў вялікага сэнсу. Нідзе ніякай пустаты. Усё сыходзілася сюды, станавілася бліжэй, густа вызначалася колерамі. І ў сярэдзіне ўсяго была агідная шыя з сабачым пахам.

Крокаў за некалькі назад глядзела ў неба «чортава вока», пад нагамі была вытаптаная сцежка, дзятлы дзяўблі кару, сонца залівала бляскам нават самы лясны змрок пад кустамі. Шыя з барадаўкамі ляжала і не варушылася.

— Пане Скуратовіч! — сказаў Міхал Тварыцкі.

Шыя не зварухнулася.

— Пане Скуратовіч! — гукнуў Міхал Тварыцкі.

Шыя, як вал у малатарні, закруцілася.

— Пане Скуратовіч! — ядавіта прашаптаў Міхал Тварыцкі.

Шыі не відаць стала. Усё закрыў сабою твар. Ён быў, таксама, як і шыя, недагледжаны — пазнаў, небарака, і вецер і пыл. Нічога, яго пабрыюць, памажуць і напудраць, калі будуць мець ласку вярнуцца туды. Прыйдзе ўвечары Наўмысвік, прынясе шпіёнскія матэрыялы і — бывайце здаровы тым часам! Толік Скуратовіч, нарыхтаваны да ўсяго, не зводзіў вачэй з Міхала Тварыцкага.

Ён быў пастарэлы, патаўсцелы, але ўсё той жа самы Скуратовіч, і Міхал Тварыцкі гэта бачыў. Толік Скуратовіч у гэтыя першыя моманты ніяк не быў пэвен у Тварыцкім. Хто яго ведае, які, хто і што ён, гэты асуджаны чалавек. Можа, яго можна пакінуць тут на месцы Наўмысніка? А можа, ён гатоў пажывіцца і на гэтым бальшавіцкім будаўніцтве, і на Наўмысніку, і на тым, і на гэтым, так як раней было з тымі грашыма? Рашучы і кемлівы, Скуратовічык цяпер маўчаў і чакаў, куды ўсё павернецца далей.

Міхал Тварыцкі некалькі момантаў маўчаў, не зводзячы вачэй з Скуратовіча. Гэтыя моманты былі момантамі вельмі яснай работы думкі, і думка бесперапынна падагравалася страшэнным агнём з самай глыбіні чалавечай істоты. Вядома, не да гаворкі было цяпер Міхалу Тварыцкаму. Ды і каб хацеў ён выказаць тое, што гняло яго цяпер, ён, напэўна, не мог бы знайсці стройных і моцных слоў. З яго душы от што прасілася ў свет:

«Твой бацька і ты, мучачы мяне, убівалі мне ў галаву, што чалавек на свеце ад веку да веку будзе рваць горла другому. І кожны павінен быць гатоў сам ірваць кожнаму горла, каб абараніцца. Выварочваючы маю дзіцячую душу, вы ўпэўнівалі мяне, што нявінныя дзеці, змучаныя і сіратлівыя, як пакалечаныя птушкі, будуць бадзяцца па пакутных дарогах і з грымасамі на сваіх нявінных тварах піць усю прагоркласць свету. Вы гандлявалі маім маленствам і пакутамі майго абязвечанага вашым жа ўстанаўленнем бацькі? Цераз вас бачыў я сваё дзіця босым і голым на гэтых жа дарогах! Цераз вас я смяяўся з вялікага подзвігу малога дзіцяці Ірынкі, асоба якой цяпер для мяне ў арэоле! Цераз вас я сам сябе бачу разарваным на дзве часткі! Адзін я цяпер, другі раней. І паміж гэтых двух стаіць постаць вашага пастушка, які дрыжаў пад вашым голасам і якога вы калечылі!»

Міхал Тварыцкі стаяў перад Скуратовічыкам і маўчаў. Але от Скуратовічык як быццам заўважыў на яго твары штосьці для сябе спагаднае. Праўдзівей кажучы, ён гэта ўявіў сабе, ён хацеў гэта ўбачыць. Нейкая грымаса, падобная спачатку да ліслівай усмешкі, нарадзілася і застыла на твары Скуратовічыка. Міхал Тварыцкі загаварыў:

— Што скажаце, пане Скуратовіч?

Той маўчаў.

— Што ты тут робіш?

Тон гэтых апошніх слоў быў вельмі выразны. Скуратовічык устрапянуўся ўвесь і ў адзін момант, дзесьці са сваёй сіняй спяцоўкі, выхапіў рэвальвер, малую прыгожую штучку самай апошняй замежнай фірмы. Міхал Тварыцкі не заўважыў гэтага. Ён схапіў Скуратовіча за рукі вышэй локцяў і пацісnуў яго перад сабой. Але Скуратовіч пачаў выбіраць позу, каб нацэліцца Тварыцкаму ў грудзі. Тварыцкі пусціў яго рукі і кулакамі даў яму ў твар. Зброя ўпала. Скуратовіч кінуўся на Тварыцкага. У іх абодвух, здаецца, пена пачала падаць з губ. Тварыцкі пачаў адступаць. От ужо ён сышоў уніз, дзе няма кустоў, дзе сцежка дыхае пад нагамі. За плячыма яго чорнай прорвай глядзела ў неба «чортава вока». Скуратовіч так і выкіроўваў, каб Тварыцкі, не бачачы, задам адыходзячыся, упаў туды. Скуратовіч ішоў з паднятымі кулакамі. Тварыцкі таксама трымаў паднятыя кулакі. Раптам Тварыцкі з сілай даў зноў Скуратовічу ў твар. Той на момант апусціў кулакі. Тварыцкі хапіў яго проста ўпоперак цела і падняў гэты страшэнны для яго цяжар. Той бесперапынна біў Тварыцкага па твары і галаве. Тварыцкі, задыхаючыся, адчуваючы, што калені яго дрыжаць і згінаюцца, бачачы, што сам ён пачаў ужо грузнуць у багну, сабраў апошнія сілы і кінуў Толіка Скуратовіча ў «чортава вока».

Растрывожаныя рыжыя казюлі і чэрві ўсплылі на паверхню чорнай прорвы.

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Наўмысніка ўзялі ў той жа вечар з яго хаты, калі ён быў ужо гатоў ісці туды, дзе ўмовіўся спаткацца з Чарпакевічам. Ён быў апрануты ў вопратку з зашытымі ў ёй паперамі, наконт якіх так многа ў той дзень Чарпакевіч з ім спрачаўся.

На месцы Дзвюх Хат праз некалькі год вырас сацыялістычны горад, які напоўніў сваёй энергіяй тры суседнія гарады. Тут ішло далейшае жыццё і дзейнасць Міхала Тварыцкага. У новым горадзе расла і ўваходзіла ў жыццё Слава Тварыцкая. Тут жа расла вялікая дружба паміж Славай Тварыцкай і Ірынай Назарэўскай — людзьмі двух пакаленняў. Усё гэта будзе зместам новай кнігі. Тэма ж гэтай хронікі закончана.

Славе Тварыцкай цяпер восем год.

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Вэня Шпулькевіч быў родам з Камароўкі. Цяпер гэты мінскі квартал ці, праўдзівей сказаць, кварталы змяньваюць сваё аблічча. Тады ж, калі Вэня Шпулькевіч лёгка насіў на сваіх плячах першае сваё юнацтва, гэта сапраўды была Камароўка. Тут нават не «тракціры» былі, а карчмы. Карчма — вядома, што гэта за ўстанова такая. Само паветра, якое тут стаяла, спрыяла таму, што чалавечая душа абгортвалася карой фальшы і дробнай хітрасці. У тых людзей, якія тут жылі, і ў тых, што тут бывалі, размах жыцця быў вераб'іны. Такая была і хітрасць. Чулы чалавек яе мог бачыць навылёт. Але справа ў тым, што на гэты вераб'іны маштаб мералася не толькі ўкраДзеная дошка з агарожы якой-небудзь тагачаснай мінскай фабрыкі ці завода, але і ўсё чалавечае жыццё. Быццё вызначае свядомасць кожнаму, а ён, гэты «кожны» з тубыльцаў нашай планеты, жыве ці жыў на свеце, а значыцца, мае справу з такой вялікай штукай, як само жыццё. Такім парадкам не дзіва, што часамі і пад вераб'інай хітрасцю камянела гадаўскае сэрца, якое магло абязвечыць свайго, скажам, блізкага навек.

От што вядома пра самыя першыя маладыя гады Вэні Шпулькевіча. Ён зваўся Іван, але бацька яго не выгаварваў чыста некаторых гукаў і замест «Ваня (Ванька)» у яго выходзіла «Вэня (Вэнька)». Так яно і пайшло назаўсёды. Вэня Шпулькевіч тупаў сваімі ўвішнымі нагамі па ўсім тагачасным Мінску, а найбольш цёрся на Нямізе і «таўкучках» і жыў добра. Ад каракулевага каўняра яго шыкарнага паліто заўсёды пахла духамі. Дарагі каракуль і добрыя духі, вядома, могуць быць у дружбе, але што ж калі над гэтым пахучым каўняром узвышаўся застылы, здаецца, без апіводнай рысы на сабе твар з валовымі вачыма. Вельмі можа быць, што гэта

была маска, каб схаваць душу, у якой — хто ведае, што там кішэла і варочалася! Калі так, то Вэня Шпулькевіч быў добры акцёр.

У канцы імперыялістычнай вайны Вэня Шпулькевіч знайшоў сабе талент: ён ад'ехаў з Мінска кіламетраў за сто і там астаўся на службу да свінога купца Хурса, які браў падрады ад казны на пастаўку ў армію свіных туш. Вэня, як толькі ўбачыў Хурса і пагаварыў з ім, пачаў старацца быць падобным да яго. Вэнева душа паставіла перад сабой Хурса, як самы закончаны ідэал. Ён пераняў яго словы і прыказкі, таксама, як і той, пачаў нізка стрыгчы, а часамі і галіць галаву, запусціў вусікі і падтуліў адно плячо. Усё гэта было як бы і так, але не гэтак. Чарнявы Хурс быў рухавы, бялявы Вэня адразу стаў падобны на падпёрты знізу нагамі мяшок. Падстрыжаныя Хурсавы вусы чарнявілі яго губу, і толькі, у Вэні ж вусікі звісалі ўніз бялявымі і вострымі кончыкамі. Вэня стаў Хурсавым агентам і пачаў ездзіць па вёсках, вынюхваючы свіней. Ён напрактыкаваўся на свіной і перакупшчыцкай справе, і так застала яго рэвалюцыя, якую ён прывітаў, гледзячы на людзей, і нават раз выказаўся, што рэвалюцыя добра таму, што яна супроць Хурса. «Я на яго стараўся, а ён гроб сабе ў кішэні. Што, не праўда?»

— То чаму ты сабе не стараўся, а Хурсу? — абазваўся нейкі скептык.

— А дзе ў мяне той капітал! — з выглядам няшчаснага пралетарыя адказаў Вэня Шпулькевіч.— Каб у мяне была вялікая кішэня, то я б тады ого!

Ён вярнуўся ў Мінск і быў тут на адным месцы да польскай акупацыі, а тады адразу стаў сальнікам. Набыў ён добрага каня з маляванымі драбінкамі і ад'язджаў купляць затанна свінні часта вёрст за пяцьдзесят і больш ад Мінска. Аднойчы ён ехаў па даволі лясістай мясцовасці. Паўз самую дарогу было снежнае поле, а крыху наводдалек, паабапал дарогі, стаяў хвойны лес. Было ціха і блізка да вечара. Конь ішоў паволі, і Вэня ўсмак курыў сабе сігарэту. Ён праехаў ужо вялікую дарогу і тут дзе-небудзь павінен быў спыніцца — і ґанач, і самае важнае, апытаць пару кормных свіней. Тут у глушы, далёка ад чыгункі, цана на свінні была нізкая. Вэня весела пра гэта раздумваў і меркаваў — ці ехаць проста ў вялікую вёску (мясцовасць ён ведаў, ён тут быў ужо некалькі разоў), ці заехаць на край лесу да чалавека, у якога ён часамі падначоўваў, бываючы тут. Неўзабаве ён пачаў

заўважаць, што далёка наперадзе раскалыхваюцца ў паволынай хадзе дзве чалавечыя постаці. Ён пагнаў каня і дагнаў людзей.

Адзін быў стары, другі малады. Маладому было год дзевятнаццаць. Стары быў высокага росту, тонкі. Вельмі доўгімі сваімі нагамі ён рабіў малыя крокі, ішоў быццам спацырам, а малады ішоў на поўную сваю хаду; так яны ўвесь час і ішлі поплеч. Стары быў у валёнках, у чорных суконных штанах і кароткім кажушку з раменнай падпяразкай на ім. Кажушок на хлопцу быў пацягнен зялёным сукном, а каўнер у ім — з чорнага коціка. Гэта было вельмі падобна на франтаўство. Стары нёс за плячыма маленькі куфэрак, малады — дзве сталярскія пілкі і дзве сякеры. Дагнаўшы гэтых людзей, Вэня пусціў каня паволі, злез з саней і дастаў з кішэні партабак з сігарэтамі. З выглядам чалавека, звыклага да ўсялякіх сустрэч, высокі стары на хаду ўзяў з працягненага яму партабака сігарэту і неўзаметку міргнуў хлопцу: «бяры, чаго мардзіш!» Малады адразу хапіў сігарэту, пстрыкнуў моднай тады машынкай і даў усім агню. Вэня і не заўважыў, як хлопец так шпарка выхапіў машынку з кішэні. Такая спрытнасць спадабалася яму. Адразу ён адчуў сябе на кароткай назе з гэтым хлопцам.

— Здалёк? — запытаў Вэня Шпулькевіч.

— Не,— адказаў хлопец.

Конь пайшоў наперадзе, яны ўсе ўтрох ззаду, поплеч. Стары павярнуў галаву і пільна паглядзеў на Вэню, быццам распазнаючы, што за натура ў гэтага чалавека і ці не лепш перад ім памаўчаць. Аднак, мусіць, нічога падазронага для сябе на Вэневым твары ён не заўважыў, бо падаў голас:

— Ідзем не здалёку, а самі то мы здалёк.

«Сукін сын,— падумаў Вэня Шпулькевіч,— ужо загаварвае, хоча на сані сесці».

— Адкуль жа вы? — запытаў ён.

— З Мінска,— адказаў стары.

— Чаго ж вы так далёка зайшлі?

— А мы ўжо дома месяцаў два не былі, усё ходзім.

— Чаго?

— Мы стальмахі.

— Гэта сын?

— Сын.

— Работы хапае?

— Чаму не. Там хутары (кіўнуў направа), то мы

чатыры малатарні паправілі, а цяпер вунь за ляском будзе вёска, зараз прыедзем, то ўжо на дзён дванаццаць, калі не на ўсе пятнаццаць, астацца там трэба будзе.

— Чаго?

— Млын райманціраваць. Пазаўчора гаспадар прыязджаў. Казаў, запушчан вельмі млын; тое — паправіць, тое — новае зрабіць... Дзе вы такіх цыгарак дасталі? Пасля тутэйшага расляку...

— Сігарэты мінскія

— У Мінску былі?

— Я сам мінскі.

— А-а-а, дык жа свой чалавек. Ну, што там чуваць? Млын зробім, і трэба будзе дадому падацца. Адкуль вы там?

— З Камароўкі.

— Я там многіх ведаю. Калі крыўды не будзе залішне, то як жа саміх прозвішча?

Вэня памаўчаў хвілін, напэўна, тры, пакуль адказаў:

— Шпулькевіч.

— Там ёсць Шпулькевіч, што рамізніцкую біржу як бы трымаў.

— Мой бацька.

— Ведаю, а як жа. Толькі што не знаём, а ведаю. У твар ведаю, колькі разоў паказвалі мне.

— Хто паказваў?

— Ну, значыцца, што яго ведаюць каторыя. Правасвяшчэнны Мелкасядзех служыць, а ён пры свечках стаіць. У саборы і паказвалі. Я чалавек такі, што маё рамяство ў горадзе вялікай славы, сказаць, не мае, а вашага айца... Яго павінны ўсе ведаць.

— А як ваша прозвішча?

— Ян Стафанковіч.

Куфэрак і пілы з сякерамі ўжо ляжалі ў санях.

— Не чуў вас у Мінску.

— Дзе ж вы маглі чуць! Гаворка!

Стафанковіч ужо сядзеў у санным перадзе, падмошчваў выгадней пад сябе салому і падміргваў хлопцу. Сеў і той, а пасля ўжо і Шпулькевіч. Ён пачаў абмацваць грунт:

— Як тут з свіннямі, затанна можна купіць?

— Як сказаць, свінні ў людзей ёсць.

— Цана?

— Схаднейшая, як у Мінску. Маеце інтарэс?

— Хачу купіць пару.

— Ёсць, ёсць па людзях. На хутарах правілі малатарні, то па хлявах стогнуць. Да Мінска везці далёка, вёрст больш за пяцьдзесят.

Мінулі дробны лес, і перад імі зачарнела вёска. Стафанковіч запытаў млынара. Спыніліся каля хаты. Стафанковіч пайшоў у двор. Неўзабаве выйшаў назад на вуліцу і міргнуў Вэню:

— У гаспадара два япрукі на продаж. Заязджайце ў двор; таргуйцеся, дорага не давайце. Спусціць, чорт яго не возьме.

Пакуль Вэня ставіў у двары каня, Стафанковіч гаварыў з гаспадаром:

— Танна не аддавайце, загарадзіце цану як належыць, з пустымі санямі назад у Мінск, блізкі свет, не паедзе. Яго бацька рамізніцкую біржу трымаў... Раймонт пачнем заўтра зранку, так як гаварылі, харч ваш тры разы на дзень. Павэдлук харчу пойдзе работа.

Праз паўгадзіны зусім змеркла. Усе сядзелі ў гаспадарскай кухні за сталом. Белавусы млынар, бесперапынна вышчараючы чорныя зубы, таргаваўся з Вэнем — той купляў адразу два япрукі. Палілася печ (нанач браўся мароз); у печы скварылася свежына. Гаспадар, не спускаючы вачэй з Вэні, кроіў хлеб. Стары Стафанковіч цягнуў у раздзьмутыя ноздры пах смажаніны. Сын жа яго меў іншы занятак.

Каля печы стаяла істота, якая сваім выглядам магла здзівіць кожнага. Гэта было зборышча розвакаляровых лахманоў. На падлозе відны былі лапці, вышэй — тоўста накручаныя анучы, пераціснутыя тонкімі вераўчанымі аборамі. Далей — штосьці, падобнае ні то на спадніцу, ні то на мяшок, у якім распаролі канец і ў які ўлез чалавек. Мяшок гэты быў зроблен з усялякіх кавалкаў — і суконных, і паркалёвых, і чорных, і белых. Усё гэта было пасшывана суравымі ніткамі, шво скрозь было буйнае, раскідзістае. Відаць было адразу: тут абсалютна не думалі аб зграбнасці, а толькі аб неабходнасці. Яшчэ вышэй было штосьці, падобнае да цёплай вопраткі. Рэшткі чорнага корту яшчэ сям-там захаваліся, скрозь жа вісела сфастрыгованая кудзеля, тырчала камякамі, гузамі, гарбамі. Гэтае хараство было падпяразана нечым брудным і раскудзеленым. Цяжка было ўявіць, што ў гэтых строях можа быць хоць якая чалавечая зграбнасць. Ніякай формы чалавечага цела тут заўважыць нельга было, і нават калі пачаць уяўляць яго лініі, то яны няйначай

выклікалі б да сябе агіднасць: такім брудным страхоццем павявала ад усяго таго, пад чым яны хаваліся. Можна было гэтыя лахманы начапіць на бервяно, на кій, на пень, на самы дасканалы твор скульптурнага мастацтва, на самую найпрыгажэйшую жанчыну — поспех быў бы той самы, што і цяпер, зграбнасць была б адна і тая ж. Пілавінне, павуцінне, мучны пыл і пыл драўлянай трухліны — усяго было поўна на швах, на рубцах, на фалдах. Тое ж самае было і на белай хустачцы, завязанай на галаве. Галава ўсё ж такі мела сваю форму. З-пад хусткі выбіваліся растрапаныя валасы цёмнага колеру. Яны былі такія густыя, што ссоўвалі хустку назад.

Гэта была жанчына. Яна рыхтавала вячэру. З яе не зводзіў вачэй малады Стафанковіч. Глядзець на яе ён пачаў з таго моманту, калі першы раз убачыў, як яна павярнулася тварам на хату. Кожны мог жахнуцца ад кантрасту паміж гэтым тварам і бясформенным зборышчам трантаў, пад якімі нялёгка было ўявіць чалавека. Гэта быў белы, паружавелы пры агні твар, з самымі тонкімі рысамі; высокі лоб і вялікія чорныя вочы, глянуўшы ў якія нельга было не занядбаць у думках і ўяўленнях і лахманы і бруд. Твар быў малады, дзяўчыне гэтай нельга было даць больш васемнаццаці год.

Трэба думаць, што Стафанковічык не вельмі ўзяў на ўвагу прыгажосць гэтага твару. Нават можна быць упэўненым, што дзявочы твар узбудзіў у яго цікаўнасць да такіх акалічнасцей: раз выявілася, што гэтая істота ёсць жанчына, ды яшчэ маладая і прыгожая, то, значыцца, яна такая і астаецца, нягледзячы на лахманы. Даволі толькі скінуць іх з яе, і яна адразу стане такая, якая ёсць. І ён ужо больш ні разу не глянуў на дзяўчынін твар, хоць яна некалькі разоў і абарачвалася на хату. Ён шукаў такога месца, адкуль быў бы які-небудзь намёк на тое, што хавала пад сабой гэтая агідная адзежа. Яго позірк раптоўна ўпіўся ў дзяўчыніну нагу: у адным месцы абора разбэрсалася, анучы аб'ехалі ўніз і вызначалася форма нагі. Вэня Шпулькевіч, таргуючыся з гаспадаром аб двух япруках, таксама пачаў раз-поразу кідаць вокам на дзяўчыну, як толькі заўважыў, што гэта зусім не якое-небудзь увасабленне згорбленай старасці і калецтва.

Быў момант, калі Вэня зірнуў на Стафанковічыка, той не адрываў вачэй ад выбранага ім пункту. Вэня ўсміхнуўся. Усмешку гэтую Стафанковічык як бы адчуў на сабе. Ён перавёў вочы на Вэнеў твар і ўбачыў на ім пячаць тых

самых думак, якімі быў апанован цяпер і сам. Абодва яны зразумелі адзін аднаго вельмі добра. Вэня міргнуў Стафанковічыку, той адказаў яму такім жа пахабным міргам.

— Люба, пастаў на стол лямпу,— сказаў гаспадар.

Дзяўчына ўзяла лямпу з заслона і падышла да стала. Стафанковічык і Вэня зноў скрыжавалі свае позіркі і зноў міргнулі адзін аднаму. Гаспадар заўважыў гэта і, каб паказаць, што ён зразумеў, пра што Вэня думае, таксама падміргнуў яму. Гэта гаспадару трэба было, каб устанавіць з Вэнем нейкую ім абодвум блізкую, інтымную рысу, а яна магла б быць патрэбнай у торгу аб япруках.

— Давай на стол вячэру,— сказаў гаспадар дзяўчыне, а пасля Вэню: — За вячэрай старгуемся (зноў устанаўляў момант інтымнасці). Павярнуўся да Стафанковіча: — Вашу работу трэба замачыць.

— Раймонт! — невядома чаму выгукнуў Стафанковіч.

Вэня выйшаў на двор і дастаў з саней бутэльку «пазнанкі». Праз хвілін дваццаць Стафанковіч, абсмоктваючы косць, крычаў у гаспадарскі рот:

— Пане млынар, раймонт, райманціраваць! Млын, кажаце, цэлы год не меў дзейсцвія? Я яго ў дзейсцвіе пушчу! Патрухлявела там, пагніло? Райманцірую і давяду да дзейсцвія. Млын закідан рыштункамі і плашкамі на дровы. Трэба ачысціць.

— Яна там прыбірала сёння,— кіўнуў гаспадар на дзяўчыну.

— Я прыбрала ўсё.

І Вэня, і Стафанковічык цяпер першы раз пачулі яе. Голас яе быў пявучы і таксама, як і твар, страшэнна не пасаваў да ўсяго яе выгляду. Пачуўшы яе, Стафанковічык і Вэня яшчэ часцей пачалі падміргваць адзін аднаму і ўжо зусім пасябраваліся. Млынар і Стафанковіч бесперапынку «райманціравалі дзейсцвіе», дзяўчына ж аставалася на сваім месцы. Яна загарнула жар, засланіла печ, дастала штосьці з падпрыпека і пачала вячэраць, сеўшы на заслон. Стафанковічыку раптоўна прыйшла ў галаву думка:

— Люба,— смальнуў ён развясёлым голасам,— бяры чарку!

Вэня ляпнуў сабе па калену: «як гэта я сам не дадумаўся да гэтага?»

Люба нават не зварухнулася.

— Люба, чуеш? — аж прыўстаў з месца Вэня.— Пі!

— Я не буду.

— Э, чаму? Ну!

Люба пачырванела і маўчала.

— Ну, то як будзе?

Дзяўчына не адказвала.

— Яна нясмелая, усё маўчыць, ціхманая,— сказаў гаспадар.— Ідзі, Люба, у пуню, прынясі пару кулёў, распусці на падлозе людзям спаць.

Люба зараз жа выйшла і вельмі скора прынесла салому.

— Сцялі ў бакоўцы,— загадаў млынар. І да Шпулькевіча:— Танней нідзе не купіце, я гавару як аддаць. Якое ваша апошняе слова?

Стафанковічык намерыўся ісці следам за Любай у бакоўку:

— Я памагу слаць.

— Шмаравоз! — вызверыўся Стафанковіч.— От, як дзеўку ўбачыць, дык хоць ты яго на прывязь бяры. (Яму раптам захацелася на каго-небудзь пакрычаць.) Я ў тваe гады нічога гэтага не ведаў. (Жаданне лірычных успамінаў агарнула яго душу.)

— А самі ў колькі год ажаніліся? — зацікавіўся раптам млынар.

— У трыццаць чатыры,— з пагардай да ўсяго свету адказаў Стафанковіч і раптоўна паглыбіўся ў лірыку сваёй душы,— з першай жонкай дзяцей не меў.

— Так і жылі да трыццаці чатырох год?

— Не, чаму так, было дзейсцвіе.

Вэня адразу падлавіў:

— Шармачок?

— Павэдлук халасцяцкага палажэння,— змрочна абарваў яго Стафанковіч і ўстаў з-за стала.

Прайшло з паўгадзіны. Гаспадар і Стафанковіч пайшлі спаць. Стафанковічык і Вэня асталіся ў кухні і ўсё загаварвалі з Любай. Яна амаль не адказвала, так што тыя ўдвух аж дзівіцца пачалі такой яе маўклівасці. Яна прыбірала са стала і толькі некалькі слоў сказала. Каб Вэня і Стафанковічык маглі глыбей бачыць, адчуваць і чуць, яны б мелі асалоду слухаць яе голас. Але яны найбольш узіраліся ў яе паходку. Бачачы, што Люба астаецца ўсё такая ж, яны выйшлі ў бакоўку і там папоцемку закурылі, самі не ведаючы, што рабіць, і чагосьці чакаючы. Люба прыбірала ў кухні. Стафанковічык зацягваўся сігарэтай з Вэневага партабака і пазіраў на Вэню, як на старога друга. Люба слала сабе пасцель. Шамятанне саломы ў сен-

ніку пацягнула Вэню і Стафанковічыка да кухні. Але раней яны папрыкладалі вочы да шчылін у дрэнна збітай з дошак сцяне. Люба раздзявалася.

Адзін за адным спадалі з яе лахманы і аставаліся ляжаць на падлозе: там, каля сваёй пасцелі, яна складала іх у кучу. І ў той меры, у якой вызвалялася яна з-пад сваёй агіднай адзежы, выступала стройнасць яе цела ў вялікай гармоніі з яе тварам. От яна ўжо стаіць у адной кашулі. Лямпа асвечвае гэтую апошнюю пакрыўку на яе целе. Зрэбная кашуля скрозь вылатаная, але яна не можа ўжо калечыць абрысы яе цела. Люба стаіць такая, якая яна ёсць. Пасля яна садзіцца на пасцель, збірае на галаве валасы, абвязвае іх хусткай. Яе постаць, уся яе істота абуджвае радасць, ставіць яе вышэй сябе. Але ў гэты момант адбываецца штосьці недарэчнае і дзікае: дзяўчына нагінаецца, бярэ з падлогі свае лахманы і раскладае іх на пасцелі. Уяўляецца, што яна сядзіць на кучы гною, душачыся ўсім тым, што ёсць агіднага ў чалавечым жыцці. Лахманы абкружваюць яе з усіх бакоў. Таксама як удзень віселі яны на ёй гузамі і гарбамі, так цяпер заўладалі яе пасцелю. Яна падлазіць пад іх, укрываецца імі, так ляжыць на сваёй пасцелі, працягвае руку да лямпы, каб укруціць агонь, і на момант так застывае, разглядаючы тое, што ляжыць на яе грудзях: брудная кудзеля і вышмарганыя да белага колеру суконкі маюць падабенства да лапцяватых струпоў. Твар яе цяпер бляднейшы, як тады, калі яна стаяла пры печы. От яна патушыла лямпу. Скрыпнуў тапчан, на якім яна сабе паслала. І ўсё ціха і цёмна.

Вэня штурхануў Стафанковічыка ў плячо. Стафанковічык абазваўся моцным шэптам:

— Патушыла агонь.

— Хадзем спаць,— адразу заявіў Вэня і пацягнуў за сабой Стафанковічыка.

Яны ляглі поплеч. Хвіліны тры маўчалі, пасля Стафанковічык уздыхнуў:

— От лярва!

— Каб яе агонь спаліў,— адказаў Вэня.

— А ёсць і лепшыя.

— Ёсць.

— Такую няцяжка ўзяць.

— Такую цяжка. Ціхманыя — яны не паддаюцца.

— Што! Я ведаю! Эт, гэта толькі здаецца. Я заўсёды хаджу па вёсках, то ў кожнай вёсцы навіпа.

— Ну, што ты кажаш?

— На хутарах, дзе малатарні правілі, то не такая была. І нічога. Трэба ўмець, як падысці. А то яшчэ пад Мінскам было. Спала на печы. А дурна-ая! Рагоча ўсё бесперастанку. Бацька мне сам на яе міргнуў. Мой бацька — зух!

— Хэ-хэ, добра такога бацьку мець.

— А раз у адной вёсцы такая была дзеўка, што прыступу не было. То я нахрапам. Таксама дурная. Я табе, кажу, пісьмо напішу.

— Напісаў?

— Што я, дурань? На чорта ёй тое пісьмо, яна і чытаць не ўмее. А гэтая ціхманая Люба, ці як яе гаспадар клікаў... Кожная з іх замуж хоча.

— То тут жа не «замуж».

— Пакуль яна разбярэцца, то... У галаве, як у тым лапці, што ў яе наназе.

— Каб прыадзеў, то была б добрая дзеўка.

— Каб жа прыадзеў! Ты таксама ездзіш па людзях?

— Бывае, што і езджу.

— Ну, як у цябе выходзіць?

— Давай будзем спаць.

Стафанковічык адразу змоўк. Ён падумаў: «можа, гэты мяне пасля дзе абсмяе, што я так усё яму гавару. Сам дык, бач, пра сябе маўчыць». Праз хвіліны тры Стафанковічык дадумаўся вось да чаго: «можа, ён мне не верыць і тады сапраўды абсмяе, будзе думаць, што я няспрытны і няўдалы». І ён пачаў выдумляць новую, больш верагодную прыгоду. Ён пачаў:

— А раз дык было яшчэ цікавей.

— Давай будзем спаць.

— Пачакай, я раскажу, вельмі цікава.

— Заўтра раскажаш.

Стафанковічык сціх, як мыла з'еўшы. Але яго не ўзяў сон. Можа, паўгадзіны ён ляжаў і не варушыўся. Раптам ён пачуў, што Вэня ціхом устае і ідзе да дзвярэй. Стафанковічык рушыў за ім следам і ўжо на парозе ў кухню хапіў яго за рубашку. Яны да самай дасканалай яснасці разумелі адзін аднаго. Вэня зашаптаў:

— Ты ідзі спаць. Я ж зранку паеду, а ты астанешся. Табе яшчэ будзе час.

Аднак Стафанковічык не выпускаў з рук Вэневай рубашкі. Вэня штурхануў яго ад сябе і ўвайшоў у кухню. З парога Стафанковічык бачыў, як Вэня з хвіліну паста-

яў пры стале насупраць акна, пасля ціха кашлянуў і нагнуўся над пасцеллю.

— Хто тут? — устрапянулася Люба.

— Не палохайся, чаго ты, не бойся.

Люба саскочыла з пасцелі. Вэня адступіўся да дзвярэй і зноў рушыў да Любы. Стафанковічык і цяпер хапіў яго за рубашку і зашаптаў:

— Паабуджваеш старых, няхай іх чорт, ідзі спаць.

— Дурань, у цябе яшчэ малако на губах не высахла, сам заўтра нічога не зробіш. Я табе дарогу пакажу.

У гэты момант Люба запаліла лямпу. Млынар у бакоўцы дэманстрацыйна кашлянуў.

— Чорт яе ведае, хто яна яму — наймічка ці сваячка, ці...— шаптаў Стафанковічык, каб абы не маўчаць перад Вэнем.

Люба пачала адзявацца. Вэня сказаў Стафанковічыку:

— Ідзі дастань з майго фрэнча сігарэты, закурым.

— Я не ведаю, дзе яны там у цябе, ты сам хутчэй знойдзеш.

Тут жа перад Любай Вэня размахнуўся і смальнуў Стафанковічыку ў твар. У таго на момант аж сківаца з'ехала набок. Пакуль ён паспеў стаць у позу, Вэня ўжо варочаўся на саломе, пстрыкаючы запалкай, каб запаліць сігарэту.

— Што там робіцца ў вас? — заспяваў Стафанковіч.— А-а-а, от жа маюць гатунак вашы цыгарэткі, пахнуць, як ладан. Можа, дзе недалёка ваш партабак, калі крыўды не будзе. Я ўночы разоў са два ўстаю курыць.

Праз паўгадзіны ўсе спалі. Не спаў толькі Стафанковічык. Ён зларадна думаў пра тое, што Вэня зранку адсюль паедзе. Устаў ён пазней за ўсіх. Люба даўно ўжо стаяла пры печы. Увесь яе выгляд быў такі, як і ўчора на гэтым самым месцы. Вэня пайшоў глядзець каня. Стафанковіч пісаў дадому пісьмо. Люба падала на стол снедаць. Стафанковіч аддаў Вэню пісьмо.

— Тут так, можа, калі крыўды не будзе з-за фатыгі, перадаць пісямко. На Даўгабродскай вуліцы, значыцца, нумар я на канверце выпісаў, дом на тры кватэры, то вы дзве праміньце, а ў трэцюю так проста адразу і трымайце ход.

Гаспадар быў у добрым гуморы, што прадаў двух япрукоў. Ён паказаў свае чорныя зубы і міргнуў да Любы:

— Нейкая тут валтузня ўночы была. Ты глядзі, каб байструкоў не было тут мне.

Люба нічога не адказала, нават не зварухнулася. Што́ гэта, знявага да ўсялякіх чужых слоў ці толькі да тых, якім яна ведае цану? Прывычка да такога абыходжання з сабой ці ўжо нейкая чалавечая атупеласць? Млынар зірнуў на Стафанковічыка:

— Ведама, хлопцы, ім што!

— Ссссу-кін сын,— паглядзеў Стафанковіч на сына. Але праз гэтую заўвагу гучала: «урвіцель, падла, эйш, які спрытны, па мне пайшоў».

Паснедаўшы, Стафанковічы пачалі збірацца ў млын. Вэня з гаспадаром высцілалі саломай сані і пасля клалі на іх свінні. Стары Стафанковіч і Люба памагалі, Стафанковічык, каб не памагаць, недзе схаваўся ў нетрах млынаровай сялібы. Кабанам цяжка было даць рады, яны раўлі, як звяры, і не хацелі ці не маглі падняцца. Трэба было саматугам усаджваць іх на сані. Раззлаваны такой нечаканай работай, наконт якой ён з млынаром не ўмаўляўся, Стафанковіч яхнуў на ўвесь двор на сына.

— Сашка, сукін сын, ідзі памагай, бо шыю звярну!

Стафанковічык вылез з нейкага хлевуха, робячы выгляд, што аж дагэтуль заняты быў там пільнай патрэбай. Трымацца ён стараўся каля Любы, нават разоў са два ўзяўся за яе руку. Пасля, убачыўшы, што Вэня пнецца з усіх жыл каля япрука, падстроіў яму штуку: у самы крызісны момант, калі япрук гатоў быў ужо легчы ў сані, ён пусціў рукі і адцягнуў неўзаметку Любу; япрук паехаў уніз і на ўвесь мах свайго раскошнага зада сеў у снег. Стафанковіч аж заенчыў:

— Каб ты, пане браце, згарэла, такая работа!

Прыйшлося пачаць спачатку. І так было разоў тры, пакуль Стафанковіч не заўважыў, што гэта работа яго Сашкі. Тады ён пацягнуў рукаў свайго кажушка і знячэўку стукнуў Сашку па карку. Сашка адышоўся да брамы і пачаў круціць папяросу. Япрукоў неяк паклалі і без яго, і сані гатовы былі да выезду, але Вэня марудзіў, кідаючы вачыма, дзе паварочваецца Люба. Можа, прайшло яшчэ з паўгадзіны, калі ён пачаў з усімі развітвацца. Спачатку ён даў усім, апроч Сашкі, закурыць. Усе доўга смакталі сігарэты. Пасля ён можа разоў з дзесяць абышоў навакол саней, нібы што папраўляючы, і ўсё паглядаў на Любу. Пасля ўсім, апроч Сашкі, падаў руку, а Любу на адвітанне так жартаўліва ляпнуў рукой па спіне, што было падобна, што ён яе ўдарыў. Нарэшце ён выехаў на вуліцу.

— Люба,— гукнуў млынар,— зараз жа параўнуй гной у хлевуху, каб перагнаць сюды падсвінакі... Ну, пане Стафанковіч, хадзем жа, я вас правяду ў млын.

— Я вас даганю, ідзіце,— сказаў Сашка Стафанковічык і ўвайшоў за Любай у хлеў.

Сэрца яго трэслася, і вочы гарэлі зларадствам: яны толькі што бачылі свежы след на вуліцу ад Вэневых саней. Люба трымала ў руках жалезныя вілы (сахор) і раўняла імі гной. Сашка нават і слова не сказаў, а адразу хапіў Любу за стан. Яна вырвалася і адбеглася ў кут. Сашка кінуўся за ёю і зноў абхапіў яе рукамі. Стараючыся зноў вырвацца, яна прыставіла вілы к сцяне зубамі ўгару. Сашка моцна трымаў яе рукамі. Яна з усіх сіл штурханула яго ад сябе. На раскоўзаным гнаі ён пакаўзнуўся і, падаючы, даўся далоняй рукі аб вілы. Аб цвік, якім жалеза было прыбіта к тронку, разрэзаў палец і ўбачыў на ім кроў. Кроў капала на яго вопратку і на снег, калі ён выскачыў ужо на двор.

У гэты самы момант недзе зусім блізка пачуўся стрэл, чалавечыя галасы, жаночы плач, конскі тупат. Па вуліцы прамчаліся два вайсковыя коннікі. Вэня са сваімі япрукамі ад'ехаў быў ужо хат за дзесяць. Коннікі яго дагналі і далей ехаць не пусцілі. Адзін саскочыў з каня, разгарнуў у санях салому і ўбачыў, як там трэсліся свіныя чэравы.

— О, то добжэ! — радасна гукнуў ён.

Вэня зняў шапку. Ён аніяк не быў падобен цяпер на самога сябе тады, калі, яшчэ нядаўна, ляпаў па спіне Любу.

— Мой пане, гэта я купіў толькі што.

— А нам до тэго ніц нема.

— Пашукайце вы па хлявах, там знойдзеце.

— Го-го-го-го! Вшыстке зробімы. Вруцэй коня, прэнтко!

Не паспеў Вэня сказаць якое-небудзь новае слова, як вайсковец штурхануў яго ў спіну.

— Не чапайце мяне, я вам пакажу, у каго тут свінні добрыя, лепшыя за гэтых. Я тут усіх ведаю, хто мае і хавае, я ўчора і сёння ў многіх таргаваў і ў цане не сышоўся, я вас завяду, пакажу, а яны хаваюць, у пограбах, пад саломай...

— Ну, ідзі.

Адзін коннік астаўся стаяць пры санях, другі паехаў за Вэнем. У суседнім двары салдаты выганялі з хлява ка-

рову, чалавек цягнуў карову за рогі назад у хлеў, салдат біў яго па твары. Вэня Шпулькевіч адразу ацаніў свой стан. Ён узяў сталы выгляд і паважна мінуў гэты двор. Для выгляду прайшоў яшчэ хат пяць і завярнуўся да той хаты, якая першая апынулася тут перад яго вачыма.

— Тут два кабаны, па пудоў шаснаццаць кожны, я іх учора таргаваў.

Высокі чалавек, трымаючы ў руках шапку, выскачыў з сянец.

— Паказвай свае свінні,— сказаў яму Вэня.

— У мяне зусім няма свіней.

— Як няма! Дзе ж ты падзеў тыя, што я ўчора таргаваў?

— Што ты, чалавеча, я цябе ў вочы не бачыў, я не ведаю, хто ты і адкуль!

— Затое я цябе ведаю.

— Мільч! — гукнуў вайсковец на чалавека.

— Паночкі, ідзіце глядзіце.

Вэня надаўгад адчыніў хлеў. Там сапраўды было пуста.

— Дзе схаваў? — крычаў Вэня,— учора яны былі тут!

Крычучы так, ён нават вокам не міргнуў. Чалавек стаяў і маўчаў, паціскаючы толькі плячыма. Як і перад кім ён тут давядзе, што гэты незнаёмец хлусіць? Вайсковец наскочыў на яго і пачаў біць. Праз колькі хвілін чалавек так і астаўся ляжаць на гнаі. Вэня павёў вайскоўца ў другую хату. Там адбылася такая ж самая мітусня. І як толькі яна пачалася, Вэня ціхом выбраўся на вуліцу і пабег да сваіх саней. Тут якраз і выскачыў на вуліцу Сашка Стафанковіч з акрываўленым пальцам. Ён яшчэ не ведаў, што гэта за шум такі на вуліцы, і выбег зірнуць. Кроў з пальца запэцкала ўсю далоню і здорава-такі абкапала яго вопратку. Бегучы па вуліцы, Вэня Шпулькевіч адразу і ўбачыў Сашкаву скрываўленасць і запомніў яе на доўгія гады. Выехаўшы ў поле і паспакайнеўшы, ён аб гэтым доўга раздумваў. Цяпер жа ратаваўся сам як мог. Дабег да саней, адразу дастаў з кішэні свой складны дарожны бумажнік, выняў адтуль пачак грошай і сунуў у руку вайскоўцу, які ўвесь час сядзеў каля саней на кані. Той адступіўся адразу. Вэня ўскочыў у сані і пагнаў каня. Але конь з цяжарам у санях не мог многа бегчы. Праз хат дзесяць ён пайшоў паволі. Вэня злез з саней і ішоў збоку, беспярапынна азіраючыся. Бумажнік свой ён ад-

разу склаў надвое і, не паглядзеўшы ў яго, сунуў у кішэню. Пісьмо, якое зранку даў яму Стафанковіч, выкінулася з бумажніка і асталося ляжаць на снезе. Людзі баязліва выглядалі з двароў і хаваліся назад. Нейкі хлапчук, перабягаючы вуліцу, убачыў пісьмо, падняў і гукнуў Вэню наўздагон:

— Дзядзька, пісьмо згубілі!

— Чорт яго бяры! — закрычаў Вэня, лупячы пугай каня.

Хлапчук з пісьмом у руках кінуўся цераз вуліцу ў сваю хату. Вайсковая навала кацілася ў гэты бок. Вэня паспеў выехаць з вуліцы. Каб напалохаць людзей, вайскоўцы стралялі ўгару. Па вуліцы бегла скрываўленая жанчына. Пайшла чутка, што аднаму старому вырвалі бараду. Млынар і Стафанковіч да млына не дайшлі, іх не пусцілі з вуліцы. Сашка Стафанковіч азіраўся ва ўсе бакі і толькі цяпер здагадваўся, што гэта робіцца. Стафанковіч убачыў, што ў сына акрываўлена рука, і ледзь не самлеў.

— Божачка, і цябе ранілі? Уцякай куды-небудзь, хавайся! Штых ці куля?

Спачатку сын нічога не зразумеў з бацькавых слоў. Ён туліў да рукі мокрую ад крыві хустачку. Бацька хапіў яго за плячо і пацягнуў у хату. Люба, як аслупянелая, стаяла ў кухні, яна думала пра тое, што цераз яе ласку хлопец абліваецца крывёй. Убачыўшы цяпер яго, яшчэ больш скрываўленага, з бацькам, яна адчула сябе як у магіле.

— Вады халоднай! — закрычаў Стафанковіч.

Люба кінулася падаваць ваду. Стафанковіч пачаў мыць сынаву руку, пасля хапіў з вешала ручнік і забінтаваў.

— Божа, божа,— енчыў ён.— Чаго бо ты вытыкаўся, заўсёды маеш натуру ўлезці куды не трэба. Можа бараніць каго ўздумаў? Наша справа — старана. Гавары, як гэта было? Глыбока? Куля ці штых?

— Вілы,— адказаў Сашка, прыбянтэжаны мітуснёй і бацькавым крыкам.

— Якія вілы?

— У хляве.

— У хляве? — аж нема закрычаў Стафанковіч.

Люба не вытрымала. Як быццам над яе галавой беспярэпынна біла гармата, пастаўленая на тое, каб яе забіць. Гледзячы Стафанковічу ў вочы, яна сказала:

— Я не хацела. Ён хапіў мяне за плечы...

— То гэта так?! Ай, яй, яй, яй! Хто з жартамі, а ты

з віламі, з калецтвам на чалавека?! Блытаешся пад нагамі ў гэтых сваіх анучах!

Стафанковіч разумеў ужо ўсё з паўслова. Ён падступіў да Любы, хапіў яе за тую жудасную раскудзеленую вопратку і шпурнуў у дзверы. Люба ўпала на парог, стукнулася галавой аб вушак, аж Сашка на момант зажмурыў вочы. Стафанковіч яшчэ кінуўся біць. Сашка пачырванеў і рвануўся да бацькі. Тут былі ўсялякія пачуцці. Можна сказаць, што на яго руцэ раны сапраўднай і не было. Другое — гэта тое, што яму было брыдка перад бацькам і перад кожным, калі будуць бачыць, што нейкая там абарваная і абсыпаная пылам і смеццем дзеўка гэтакі дала яму падарунак. Але было яшчэ самае важнае: нягледзячы на ўсе гэтыя справы, яго ўсё больш і больш цягнула да гэтай дзеўкі. І гэтае небывалае раней імкненне пачалося з той хвіліны, калі яго рукі трымалі яе стан. Стары Стафанковіч хацеў больш біць Любу, але сын адцягнуў яго.

— Я так сказаў, што вілы. Гэта салдат штыхом. Мы з ёю дурэлі, і я, праўда, даўся аб вілы, але нават не абадраў рукі. А пасля выбег на вуліцу, а жаўнер падскочыў. Яна не вінавата.

— Глыбока ён табе штыхом?

— Не, толькі зверху драпнуў.

Стафанковіч, таксама як тады каля саней, нацягнуў рукаў і выцяў сына, але слабей, і не ў карак, а ў плячо.

— Сукін сын, з бацькі смяешся! Нашто ж я гэта біў яе цераз цябе!

Люба стаяла ў парозе і спачатку не магла паверыць: першы раз на яе жыцці здарылася так, каб чалавек, якому яна зрабіла кепска, выгароджваў яе з бяды, заяўляў, што ў яго, калі не няшчасці, то прыкрасці, яна не вінавата. Стары Стафанковіч выйшаў з такім выглядам, як быццам яго самога білі. Нейкі намёк на добрае пачуццё да Сашкі Стафанковіча пачаў з'яўляцца ў Любінай душы. Падаючы са Стафанковічавых рук пад парог, яна стукнулася галавой аб вушак, і цяпер галава яе страшэнна балела. Толькі цяпер яна дакранулася да самага балючага месца — там быў мокры гуз. Боль рабіўся большы. Хістаючыся ў бакі, яна выйшла ў сенцы, пасля цераз двор пайшла ў адрынку. Ужо адтуль яна чула, як выйшаў з хаты Стафанковіч, як падышоў аднекуль гаспадар і цешыўся перад Стафанковічам.

— Хваліць цябе, божа, што я гэтых япрукоў паспеў прадаць, цяпер смялей, калі грошы ў кішэні... Ах, не па-

шанцавала вам з хлопцам, гэта ж трэба, штыхом руку! Як жа з млынам будзе?

— Раймонт? Кажа, што няглыбака прабілі, можа, бог дасць, нічога.

— Хіба хадзем удвух там пакуль што.

Люба чула, як яны пайшлі. У адрынцы быў кут, дзе стаяла скрынка з яе рэчамі і ляжала салома. На салому яна і кінулася. Адчувала яна сябе, як разарваная на кавалкі. Трэба было б вышэй падкласці пад галаву саломы, але ёй было цяжка паварушыцца. Вельмі можа быць, што гэта адазвалася спрацаванасць. Прайшло хвілін дваццаць. Дробныя крокі пасыпаліся па снежнай мерзлаце. Пасля ляпнулі дзверы, праз нейкі час яшчэ, і зноў дробны стук ног.

— Дзядзька, дзядзька!.. Люба!..

Хлапчук дабег да прычыненай адрынкі і ўскочыў у яе.

— Можа, тут хто ёсць?

Ён пачаў аглядаць усе куткі і ўбачыў Любу.

— І цябе пабілі? — сыпануў ён адразу струменем слоў.— А можа, паранілі? За маім дзядзькам гналіся, то ён як пабяжыць! А Андрэй Рыльскі, можа нават, тата казаў, і памрэ, так яго моцна збілі. У хляве на гнаі астаўся ляжаць, увесь крывёй падплыў, доўга ляжаў, а як яны ад'ехаліся далей, забралі яго ў хату і паклалі. Ён ледзьве дыхае, ціхом сабе енчыць і, мусіць, памрэ. Я сам нават у хату з дзядзькам туды прыходзіў, то сам бачыў. Гэта табе стрэльбай далі, што гуз на твары, ці як? А пасля прыехаў абоз, пазабіралі свінні і каровы і пагналі, а мой тата гаворыць, што нават і дзякуй не сказалі. А ведаеш, чаму Рыльскага білі? Нейкі невядомы чалавек у чорным паліце прывёў іх да Рыльскага і пачаў хлусіць і выдумляць, што нібыта ў Рыльскага ёсць кормныя свінні і што ён іх хавае і не хоча аддаваць, і пачаў хлусіць, што ён нібыта сам гэтыя свінні таргаваў і сам бачыў. А гэтага чалавека ніхто не ведае, а ён, мусіць, усіх ведае, а мой тата гаворыць, што гэта, мусіць, шпіён нейкі. А гэтаму вашаму стальмаховаму сыну, што ўчора прыйшлі да вас млын папраўляць, таксама палякі руку навылёт штыхом прабілі. Усе бачылі, як ён з рукі абліваўся крывёй і па вуліцы бег. Ажно ж гэта праўда, бо я цяпер убег у вашу хату, аж бачу, што ў яго рука абвязана ручнікам і вопратка ў яго ў крыві. Я пытаю, дзе дзядзька, а ён на мяне як закрычыць — няма дзядзькі! Я выскачыў на двор і сюды — можа, думаю, хоць ты дзе-небудзь. Моцна цябе збілі?

(Хлапчук перавёў дух. Аддыхваўся з хвіліну, пасля зноў сыпануў словамі.) А гэты чалавек, што ў вас начаваў і двое свіней павёз, дык ведаеш? На яго таксама напалі былі. То ён дастаў з кішэні пук грошай ды калі суне паляку ў рукі! Той яго і пусціў. (Зноў перадышка.) А дастаючы грошы, згубіў пісьмо, а сам каня як пагоніць! Я бачыў і падбег і хапіў тое пісьмо. А як паказаў тату, то тата мне сказаў, каб я гэтае пісьмо вам аддаў, бо гэты чалавек у вас начаваў і, мажа, гэта які ваш сваяк, ці што. На мяне тата накрычаў, каб я пісьмо вам у хату прынёс і абы-дзе не кідаў, а аддаў у рукі. Дык я з пісьмом і пабег, а на вуліцы пуста і палякаў ужо няма. То я бачу, што Рыльскіх Сцёпка ва ўвесь дух у санях па вуліцы імчыцца. Я крычу Сцёпку, што куды гэта ён так імчыцца, а ён мне крычыць, што ў мястэчка па фельчара, бо дзядзька яго можа памерці — гэтак палякі збілі. То я адразу ўскочыў на задок саней і, стоячы, праехаў са Сцёпкам у канец, а там ужо Сцёпка паехаў адзін па фельчара, бо я саскочыў і пабег назад сюды. Аж бачу, на вуліцы Сцёпкаў бацька ўвесь учарнеў, як зямля, бо баіцца, што брат памрэ, і пайшоў да яго ў хату. А я пабег сюды. У вашай хаце нікога няма, адно гэты паранены палякамі стальмахоў хлопец і больш нікога. На пісьмо! Толькі, тата казаў, не кідай абы-дзе, а я пабягу да Рыльскіх.

Ён кінуў Любе на грудзі пісьмо і даў ходу; дробныя крокі зноў застукалі па двары. Люба ўзяла пісьмо ў рукі, падняла канверт да твару. На канверце шмат было панапісвана: Стафанковіч вельмі дакладна выпісаў адрас. Люба нейкі час разглядала пісьмо, і нічога ёй яно не сказала: яна не ўмела чытаць. З абыякавасцю працягнула яна руку і ўкінула пісьмо ў скрынку, дзе ляжалі яе рэчы. Там была яе старая, ужо ёй нягодная нават, бялізна.

Хтосьці ўвайшоў у прычыненыя дзверы і стаў у іх. Яна прыўзняла галаву. У дзвярах стаяў Сашка Стафанковіч.

— Я цябе шукаю,— сказаў ён.— Чаго ты ляжыш тут на холадзе? Пакажы, дзе цябе бацька мой біў?

Яна нічога не адказала.

— Гэты стары,— дурны, хоць і мой бацька. Я з ім пасварыўся з-за цябе.

Яна маўчала.

— Хадзем у хату, я табе халодным прыкладу да галавы.

Мала калі за доўгія гады з ёю так гаварылі. Яна пача-

ла глядзець на Стафанковічыка. Рука ў яго была ўжо разбінтавана, толькі палец абверчан белай хустачкай.

— Дурная, сказала б хоць слова, калі я пажартаваў, а то адразу штурханула і проста на вілы. Я ж зусім мог скалечыцца. А бацьку што — ён убачыў кроў і... Я яшчэ яго вылаю за гэта, хоць ён мне бацька. Я табе, здаецца, нічога кепскага не зрабіў, а ты такая... Прыйшлося хлусіць бацьку, што гэта польскі салдат.

— Уночы вы мяне напалохалі, я баялася, калі вы да мяне лезлі.

— Мы лезлі? Гэта ж ён лез, а я цябе бараніў ад яго. Я яго за рубашку адцягваў, не пускаў. А ён мне за гэта ў твар даў. Ты хіба не бачыла? От як ты мне аддзякавала.

Сашка так спусціў вочы ў зямлю, што нявіннасць і чыстата яго душы была тут жа адразу і выяўлена.

— Братачка,— заплакала Люба.— Каб я ведала.

— Ты ж бачыла.

— Я думала...

Яна ўжо глядзела толькі на Стафанковічыка.

— Не ляжы тут, захалодзішся. Ідзі, я табе памагу.

Яна не прывыкла, каб ёй памагалі, і пачала ўставаць сама. Сашка пацягнуў яе за руку. Разам увайшлі ў кухню. Яе жудасная адзежа чаплялася за ўсё, каля чаго яна ішла. Яна памачыла халоднай вадой хворае месца і завязала хустку.

— Ты даўно тут жывеш?

Адказ быў не адразу:

— Даўно.

— Адкуль ты сама?

— Я не памятаю.

— Чаму?

— Я даўно ўжо сюды прыбілася.

Стафанковічык усміхнуўся. Яму смешным здалося слова «прыбілася». Люба сядзела насупроць яго; спушчаная на лоб хустка закрывала яе твар больш як на палову, лахманы сядзелі на ёй так, як і заўсёды.

— Адкуль жа ты сюды прыбівалася?

Ён з моцным націскам выгаварыў слова «прыбівалася».

— З дарогі, што за лесам.

Ён падсунуўся бліжэй да яе.

— Э, дык жа трэба было праз лес прайсці. Вялікі лес.

Яму было абы гаварыць, хоць што.

— Тады лес быў яшчэ большы.

— Калі гэта было?

— Можа, гадоў пяць прайшло, а можа, больш.
— Куды ж ты ішла дарогай, што сюды прыбілася?
— Я не ведала, куды ісці.
— Чаму?
— Бо я асталася адна.
— Нікога з табой больш не было?
— На дарозе было многа людзей.
— А са сваіх нікога?
— Нікога.
— Чаго ж ты адна была на той дарозе?
— Я выйшла разам з усімі з вагона і ўсе пайшлі хто куды мог.
— З вагона?
— У вагоне мы ехалі дзень і ноч.
— Адкуль ехалі?
— Ад вайны ўцякалі.
— Ты адна ўцякала?
— На дарозе маці і сястра памерлі.
— А бацька?
— Бацька быў на вайне. З самага пачатку вайны забралі.
— А дзе цяпер бацька?
— Я не ведаю. Як сюды прыбілася,— больш нічога пра яго не чула. Можа, ён з вайны вярнуўся і дзе жыве, але я нічога не магу ведаць.
— Баліць табе?
— Мне лепш робіцца.

Сашка сядзеў поплеч яе, падсунуўся бліжэй, пагаварыў яшчэ хвіліны дзве, паклаў руку ёй на плячо. Пасля падсунуўся зусім блізка. Яна быццам нічога гэтага не заўважала: напэўна, так і было, бо калі ён ужо зусім бесцырымонна прыціснуўся да яе, яна ўздрыганулася, устала і адышлася ад яго. Ранейшая маўклівасць зноў апанавала ёю. Ён пашкадаваў, што так неабдумана сапсаваў сваю справу, і, сказаўшы ёй колькі слоў, пайшоў з кухні.

Ён стаяў на вуліцы. Там было ўжо зусім ціха і пуста, толькі пры адной хаце стаяла чалавек дзесяць мужчын. Яны штосьці гаварылі. Сашка пацягнуўся туды. Адзін чалавек паглядзеў на яго і сказаў да ўсіх:

— І гэтага паранілі, гэта той самы стальмашук, што гаварылі. Я тады бег па вуліцы, бачу — стаіць ён з акрываўленай рукой, кроў на снег льецца. Глыбока?

Апошняе слова было запытанне да Сашкі. Ён бачыў: стаяць каля яго людзі, абураныя на палякаў, твары ў не-

каторых пасля польскага збойства паабвязаны хусткамі, у аднаго таксама, як і ў яго самога, забінтавана рука, і ён адразу прыняў у сябе іхні настрой.

— Не вельмі глыбока, але здорава парнуў штыхом, каб на яго халера.

— Як гэта было?

Сашка ажывіўся і пачаў вельмі гладка гаварыць, як удвух былі напалі на чалавека, як ён падскочыў і пачаў іх прасіць, каб яны пусцілі чалавека, як адзін раптоўна некуды пабег, а другога ён хапіў за зброю. Чалавек кінуўся наўцёкі, а паляк затое яму, Сашку, штыхом у руку. Сашка так увайшоў у роль, што ўжо сам сабе пачынаў верыць, сам ужо вельмі выразна пачаў уяўляць усю карціну, пачаў у сваім расказе пускаць у ход самыя найдрабнейшыя дэталі: «падбягаю, бачу — млее чалавек перад жаўнерамі і калені ў яго трасуцца. Я падумаў — а што, калі не даць маху, можа, і выратую чалавека. Кінуўся бліжэй — палякі, бачу, раззлаваныя. У аднаго ад злосці сківаца — дрык-дрык, чэк-чэк!» Гаворачы, ён ужо не думаў ні пра сваю руку, ні пра Любу, ні пра выдуманага чалавека з палякамі. Ён меў асалоду ад свайго расказа і асабліва ад таго месца, дзе ў паляка сківаца вырабляла «дрык-дрык, чэк-чэк». І ён яшчэ разоў са тры сказаў раз-поразу:

— Бачу, аж сківаца — дрык-дрык, чэк-чэк!

А пасля дадаў яшчэ: «торк-торк», так што выйшла зусім ужо добра: «дрык-дрык, торк-торк, чэк-чэк!»

— Хадзем паглядзім, як ён маецца,— сказаў адзін з мужчын.

Сашка разам з усімі ўвайшоў у хату. На пасцелі ляжаў чалавек і стагнаў. Скрываўлены твар яго быў абвязаны, вочы папрыпухалі, жанчына ўвесь час выцірала каля іх намочаным у халоднай вадзе ручніком. Каля збітага чалавека стаяў высокі мужчына. Як толькі ўвайшлі людзі, ён загаварыў адразу:

— Цяпер яму лепш крыху стала, хоць стагнаць пачаў, а то ледзьве дыхаў. Сцёпка зараз павінен фельчара прывезці... Ці не ведаеце, браткі, што гэта за ён такі быў у чорным паліце, што праз яго ласку людзей пазбівалі? Шпіён гэта які польскі, ці што? Адкуль ён узяўся? Прывёў проста ў двор палякаў і адразу як з перуна смаліць: тут свінні пахаваны. А тыя давай біць. Каб яшчэ крыху — насмерць забілі б.

Пасля ўжо Сашка дазнаўся, што збіты чалавек на па-

сцелі завецца Андрэй Рыльскі, а высокі каля яго — яго брат. Цяпер Сашка цьмяна здагадваўся, што гутарка ідзе пра Вэню Шпулькевіча. Ён слухаў далей.

— Гэта зусім нейкі і не паляк, і не вайсковец. Гаворыць па-нашаму, а не па-польску.

Тут пачуўся голас, які даў больш яснасці:

— Як мне здаецца, то гэты чалавек начаваў у млынара і купіў у яго пару свіней.

Рыльскага брат устрапянуўся:

— Дзе ён дзеўся, можа, хто ведае?

Сашка падумаў: «От каб яго злавілі, ды каб далі добра, ды каб я тады яго ўбачыў, от бы зарагатаў у самыя яго лупатыя вочы: ну што, добра далі? Гэта табе не за дзеўку другому ў морду біць! Ты раз даў, а табе ў сто разоў больш наклеілі». Яшчэ больш ён напоўніўся настроем гэтых людзей, з якімі стаяў цяпер каля збітага Андрэя Рыльскага. Ён загаварыў вельмі заўзята:

— Гэта мінскі сальнік Шпулькевіч. Ён паехаў у мінскую дарогу. Воз са свіннямі цяжкі, наўдачу ці ён далёка мог ад'ехаць. Каб на добрым кані, то яшчэ можна гэтага паскуднага спекулянта дагнаць.

— Вы самі мінскія? — аж затросся Рыльскага брат.

— З Мінска.

— Дзе там жыве Шпулькевіч, ведаеце?

— Не, я яго толькі ўчора першы раз убачыў, ён начаваў у млынара.

Відаць, што думка з'явілася ў брата Рыльскага цяпер адразу, не важна, ці была яна падказана Сашкам, ці сама ўзнікла. Праз гэта выявілася яго рашучая і смелая натура. Ён паглядзеў кудысьці ў дзверы і пайшоў з хаты, сказаўшы жанчыне:

— Сцёпка зараз прывязе фельчара, то не шкадуйце яму нічога, абы толькі памог.

Ніхто не ведаў яго думкі і не пайшоў следам за ім. А ён выйшаў на агароды, паўзагуменню падышоў да двара адной хаты, неўзаметку ўвайшоў у яе і паклікаў у сенцы хлопца, маладога, гадоў дваццаці. Яны пашапталіся, пасля пазатыкалі за паясы сякеры, паселі на коней і кожны са свайго двара выехалі на агароды. Там не было ні душы, і ніхто іх не заўважыў. З'ехаліся яны разам ужо за вёскай, у алешнікавых кустах. Адсюль ужо разам на ўвесь ход сваіх коней памчаліся ў мінскую дарогу і праз хвілін дзесяць даскочылі да лесу. Лесам яны імчаліся таксама не больш як хвілін дзесяць і ўбачылі наперадзе сябе Вэню

Шпулькевіча з саньмі і свіннямі. Пасля выявілася, чаму Вэня дагэтуль так недалёка ад'ехаў. Ён вельмі доўга стаяў з краю лесу, у самай гушчырні, з боку дарогі і трымаў пад сенам каня: лясной дарогай ехалі тыя самыя польскія ўланы, якія нядаўна трэслі вёску. Яны праехалі не адразу, а трыма кучкамі, і Вэня чакаў, пакуль яны ўсе праедуць і далёка ад'едуцца. Чакаў ціхом, баючыся, каб конь не заржаў. Як усе праехалі, ён яшчэ чакаў больш за паўгадзіны. Усё было ціха, і ён паволі выбраўся на дарогу. Цяпер ён убачыў двух коннікаў, але ўжо не вайсковых. Спачатку яго душа была спакойная, ён сеў на сані, каб даць коннікам месца на дарозе мінуць яго. Але коннікі паволі пачалі ехаць за ім следам, і ён яшчэ раз на іх азірнуўся. Тут ён як быццам пазнаў Рыльскага брата: калі білі Андрэя Рыльскага і ён стаяў пры гэтым, то Рыльскага брат прасіў улан злітавацца і спрабаваў адцягнуць іх ад брата. У той меры, у якой Вэня пазнаваў цяпер гэтага чалавека, у яго вырастаў неспакой, яго скаланула трывога і пачала вырастаць у злосць. Ён засадзіў руку за бравэрку і абмацаў там рэвальвер. Скоса ён паглядаў на коннікаў, сочачы, ці не дастаюць і яны зброі.

— Стой! — закрычаў Рыльскага брат.

Замест адказу Вэня наставіў рэвальвер на Рыльскага брата. Тыя ніколі не думалі аб такім спатканні. Яны збянтэжыліся адразу і асталіся стаяць на месцы. Шпулькевіч стрэліў у коннікаў і зусім ужо затрымаў іх. Уся яго бяда была ў тым, што ён не мог пагнаць каня: сані былі цяжкія. Два коннікі пра гэта падумалі, і ён ведаў гэтыя іхнія думкі. Ён бачыў, як яны ад'ехалі назад і пачалі радзіцца. Ён падумаў: «Калі яны зараз пагоняць коней назад, то, значыцца, яны паехалі па зброю, вернуцца, дагоняць і адпомсцяць мне». Але было крыху не так: толькі Рыльскага брат паехаў назад, а другі кінуўся на кані кудысьці ўбок, лесам. Вэня думаў: «Тут нешта будзе, гэты, відаць, падаўся ў аб'езд, каб засцігнуць мяне насустрач». Праз хвіліны дзве конскага тупату ўжо не чуваць было. Вэня ўжо адразу бачыў, што яму рабіць. Кіламетраў за два адгэтуль, калі ехаць у бок ад дарогі лясной дарожкай, стаяла на краю дробнай вёсачкі трухлявая хата. Уласна кажучы, яна стаяла ад вёскі за паўкіламетра якога, пры самай сцяне хвойнага лесу. Вэня Шпулькевіч, калі раней прыязджаў сюды шукаць свіней, тры разы начаваў у гэтай хаце. Чалавек тут жыў бедны і рад быў абарваць капейку з якоганебудзь выпадку. Тыя разы ён нават рэкамендаваў Вэню,

дзе шукаць свіней, раіў, у каго тут паблізу іх пытаць. У Вэні ўсюды, дзе ён ездзіў, былі такія людзі. Знаёмства тут вялікага не трэба, раз пагаварыў з чалавекам — і даволі. За начлег і за параду Вэня плаціў. Цяпер ён, не раздумваючы доўга, завярнуў каня проста ў той бок. Пад'ехаў да хаты, не пытаючы ў гаспадара, сам уехаў у пуню, зачыніў дзверы і толькі тады спаткаўся з гаспадаром — той выйшаў з хаты.

— От што, браце,— сказаў Вэня чалавеку,— у мяне так выйшла, што пакуль я дацягну гэтых свіней да Мінска, то яны схуднеюць, бо да ночы я ехаць не магу: па дарозе палякі ездзяць вельмі пачалі, уночы, мажа, спакайней будзе. Я надумаўся так: ты іх сёння закалі, як змеркне, у лесе ціхом асмалі, выверні вантробы з кішкамі — за фатыгу вазьмі там сабе, а не — то я заплачу. Да паўночы пастарайся справіцца, а тады я і паеду, уночы смялей цяпер ехаць, а жывы тавар на возе доўга трымаць не выпадае. Пакуль ты будзеш гэтым займацца, я пехатой адскочу на хутары, прыгавару пару япрукоў і праз дзён тры прыеду забяру. Толькі рабі ўсё ціхом, у самую лясную гушчырню залезь, бяры каня і завязі, навідавоку і повідну не рабі, каб палякі не заўважылі. Чым скарэй старайся зрабіць, прыгатуй мне ў дарогу сані, пакладзі пад салому ачышчаныя тушы, увяжы вяроўкамі. І каб конь быў, глядзі, накормлены і напоены — якраз у дарогу.

Чалавек меў кучу дзяцей, якіх не было чым карміць, і ўзрадаваўся выпадку зарабіць кавалак мяса. Праз гадзіны дзве пачало змяркацца, і ён узяўся за работу. Вэня ж тым часам пайшоў нібыта пытаць на хутарах свіней. Да змроку ён перабыў у лесе, стуліўшыся ў паддрэўным хмызняку. Адтуль ён бачыў, як Рыльскага брат зноў праехаў дарогай па яго слядах; ён быў не адзін, з ім было яшчэ двух. Вэня сядзеў ля самай дарогі і чуў Рыльскага брата: той гаварыў сваім двум таварышам, што ім трэба вёрст дзве праехаць і пачакаць, бо насустрач яму, Шпулькевічу, паехалі ў аб'езд і, засцігнуўшы яго, прыпыняць і стрэляць, тады можна будзе ведаць, дзе ён. Другі пачаў гаварыць, што не трэба чакаць на дарозе, а ехаць далей, пакуль не дагоняць. Вэня слухаў, і яшчэ больш яго намеры ў ім укараніліся. Ён шаптаў сам сабе:

— Мужыкі, хамаўё, трасцы вы мяне знойдзеце. Паблытайцеся тут па лесе да вечара, а тады я вам пакажу такую цацку, што вы адразу памчыцеся дадому, не ў галаве вам будзе мяне шукаць.

Прычакаў вечара і рушыў да вёскі, прыслухоўваючыся і азіраючыся. Неўзабаве паўз дарогу да самай вёскі пацягліся кусты; ён сышоў з дарогі і ішоў кустамі. Нейкія сані ехалі дарогай, на санях двое спявалі песню. Вэня прысеў у кустах, пакуль праехалі сані, і пайшоў зноў. Ужо з гадзіну як змеркла. Вэня стаяў за гумнамі і прыслухоўваўся. Тут нікога нідзе не было, толькі з вуліцы часамі чуліся галасы.

У гэты час канчаў сваю работу ў вёсцы фельчар. Рыльскіх Сцёпа прывёз яго з мястэчка яшчэ завідна. У гэтага майстра была вельмі ж ужо ўдалая выпраўка і правае вока як быццам вечна збіралася падміргнуць. Ён быў у шмат якіх хатах, бо многа людзей у той дзень было збіта і паранена. Кожны клікаў яго да сябе, і перад кожным ён адгаварваўся, што не мае часу, што яго чакаюць у іншым месцы, аднак жа з кожным як мае быць умаўляўся ў цане і ішоў лячыць. Беручы грошы, ён гаварыў кожнаму:

— Трымайце ў сакрэце, бо калі ўлада даведаецца, што я лячыў, то будзе тады і мне і вам.

Быў жа ён вельмі здаволен тым днём: зарабіў ён някепска. Нават пашкадаваў, што не ў кожнай хаце ёсць хворыя. Паклікаў яго і Стафанковіч, хоць Сашка гэтага і не хацеў. Ён адразу, як толькі ўбачыў Сашку, падумаў, што тут, напэўна, можна добра ўзяць: Сашкавы боты і абстаноўка млынаровай хаты спрыялі такой думцы. Каб мець поспех, ён адразу напалохаў Стафанковіча: памацаў Сашкаў лоб, паслухаў пульс, паглядзеў на абадраны палец і ўздыхнуў.

— Ці не быў іржавы штых? Ход крыві ў гэтага хлопца робіцца раптоўны. У медыцыне такі выпадак называецца гематос.

Стары Ян Стафанковіч не ведаў, які ў яго самога ход крыві: раптоўны ці не. І таму ён, пачуўшы такую характарыстыку крыві свайго сына, збянтэжыўся. Але гэта была яшчэ лёгкая трывога. Калі ж ён пачуў ужо выразны медычны тэрмін, таемны сэнс якога яму быў ясны не больш, як глухому музыка, ён аслупянеў.

— Як, як вы кажаце? — перапытаў ён, падступаючы бліжэй да бравага фельчара.

Той памаўчаў, пакуль прыдумаў яшчэ новы тэрмін, першы, які ўзбег яму на памяць.

— Гематос, олеум рыцыні,— адсек ён.

У Стафанковіча адвісла губа, і ён ледзьве выгаварыў:

— То ратуйце хлопца, лячыце яго! За вашу фатыгу я цанавацца не буду!

«Цяпер-то ты заплаціш добра»,— думаў фельчар, і вялікай сталасцю беручыся за работу. Разоў два ён пэцнуў Сашкаву руку ёдам, абліў яшчэ зверху чымсьці жоўтым, забінтаваў і, беручы ад Стафанковіча грошы, вытаргаваў набаўку. Праходзячы праз кухню, ён убачыў Любу — яна ляжала з абвязанай галавой.

— Збітая ці раненая? — запытаў ён, спыняючыся, каб прыкласці і тут свой спрыт.

«Відаць, наймічка, што так адзетая, тут вялікай платы не будзе. Але колькі дадуць, гэтулькі вазьму, добра і гэта»,— думаў ён.

— Э, не, гэта так сабе,— заспяваў ззаду Стафанковіч.— Учадзела.

Фельчар выйшаў і паехаў, шкадуючы, што няма больш каго лячыць. Адвозіў яго назад той самы Рыльскіх Сцёпка. Ён выехаў на загуменне і імчаўся паўз тое гумно, пры якім стаяў Вэня. Вэня прытуліўся да сцяны і думаў: «Хто ведае, можа, і гэта памчаліся за мной наўздагон». Паслухаўшы, як сціхае конскі тупат і стук саней, ён, крадучыся, падышоў, дзе гумны стаялі гусцей, паслухаў, праверыў, ці блізка падыходзяць сюды кусты, азірнуўся на ўсе бакі, стаў на выступ гуменнага шула, схаваў далоні рук у застрэшшы і чыркануў там запалку. Трымаў рукі ў саломе, пакуль запалка не дагарэла да пальцаў, тады сагнуўся, пабег да кустоў і перабег іх упоперак. Бег па той бок кустоў крокаў трыста, а тады азірнуўся. Рог гуменнай страхі пачынаў гарэць. Праз новыя крокаў трыста агонь ужо шыбаў па страсе. Пакуль ён дабег да лесу, агонь над вёскай бушаваў, як у пекле. На небе трэслася зарыва, і Вэня быў рад. Цяпер ён мог спакойна сабе ехаць. Больш ён ужо не азіраўся і скрозь паўз лес бег да старой хаты. Дапаў да сваіх саней, і душа яго агарнулася лагодным спакоем: конь быў накормлен і запрэжан, асмаленыя і ачышчаныя тушы былі ўвязаны пад саломай. Але пакуль да гэтага моманту, то ён перажыў страшную хвіліну, і ніхто пра гэта не ведаў, апроч Рыльскага брата. І цяпер Вэня, радуючыся, што ўсё гатова ў дарогу, трымаўся, аднак, за свой бок і грудзі і стараўся, каб не застагнаць.

— Бывай, братка! — гукнуў ён чалавеку, набаўляючы яму яшчэ звыш платы.— А я, браце, на хутарах двух кабаноў стаpгаваў. Гэтымі днямі прыеду забіраць.

— Напроці ночы паедзеце?

— Э, глупства.

І пагнаў каня. І толькі цяпер застагнаў.

Гумны ў вёсцы стаялі ад хат наводдалек, і хат агонь не зачапіў. Гумнаў жа згарэла цэлы рад. Сапраўды людзям было цяпер не да Вэні Шпулькевіча. Невядома, дзе быў Рыльскага брат да канца дня і звечара, ці ён чакаў са сваімі таварышамі Вэню на дарозе, ці шукаў яго па лесе, але на пажар ён з'явіўся ўжо тады, калі дагаралі апошнія гумны. На пажары быў і Сашка Стафанковіч. Нават і тут ён стараўся трымацца блізка да Любы. А як прыйшлі з пажару, ён гаварыў з ёю, седзячы ад яе далёка: баяўся, каб яна не пайшла ад яго так, як гэта было ўдзень.

Назаўтра, як толькі бацька з гаспадаром пайшлі ў млын, ён зноў падсеў да Любы і нанава пачаў тую самую гаворку, з якой учора дазнаўся, хто яна і адкуль. Цяпер ён нават і пра сябе крыху расказаў. І так ужо кожны дзень па некалькі разоў ён стараўся гаварыць з Любай, сумысля накіроўваючы гаворку на тое, што магло яе расчуліць. Такім парадкам праз некалькі дзён ён першы раз заўважыў, што Люба пачала выяўляць да яго нейкую прыхільнасць. К гэтаму часу ён ужо хадзіў з бацькам на работу ў млын. Дзень на дзесяты пасля свайго знаёмства з Любай, увечары, ён пайшоў памагаць ёй насіць у кухню дровы; сказаў, што адзін зробіць гэтую работу, і яна была рада даць спакой адзервянеламу за дзень працы целу і асталася сядзець на бярвенні. Зусім было цёмна, дрэвы і сцены зліваліся з чорным небам. Пакуль набраць новае бярэма дроў, Сашка кожны раз гаварыў з Любай па некалькі хвілін. Пагаварыў з ёю, ці памятае яна свайго бацьку. Выслухаўшы яе сумную споведзь і паспачуваўшы ёй, ён ужо ясна адчуў, што Любіна душа пачала да яго гарнуцца. Скончыў насіць дровы і сеў поплеч яе.

— Доўга яшчэ, пакуль зіма скончыцца,— сказаў ён.

— Я ўжо даўно чакаю вясны, я вельмі мерзну ў гэтай адзежы.

Яго здзівіла — як гэта яна, такая маўклівая заўсёды, неахвотная да слова, так цяпер адразу адказала яму. Ён угадаў праўду, калі падумаў, што гэта ад яго паводзін каля яе. Аднаго ён не мог ніяк зразумець — таго, што яна сама гаворыць пра сваю адзежу: калі ёсць неабходнасць насіць на сабе гэтае страхоцце, то гаварыць пра гэта не

трэба, нашто лішні раз даводзіць самому да людскога ведама пра тое, з чаго чалавека можна толькі абсмяяць. У такім кірунку ішлі яго думкі. Ён падумаў, што на яе месцы лепш за ўсё што-небудзь прыдумаць, каб апраўдаць на сабе жудасныя транты: «гэтыя дні я самую чорную работу рабіла і лепшую адзежу шкадавала адзяваць, пры такой рабоце трэба было так адзецца»,— от як можна было б сказаць.

— У мароз трэба цяплей адзявацца.

І цемрыва ночы схавала яго ўсмешку.

— У мяне больш няма ніякай адзежы,— адказала яна.

Ён падумаў: «Дурная, маўчала б ужо, калі так».

— То табе тут кепска жыць?

— Кепска, я інакш ніколі і не жыла.

— А калі з бацькам жыла?

— Тады я была малая і яшчэ клопату не мела. Толькі як бацьку пагналі на вайну, тады мне прыйшлося ўсё дома рабіць, бо маці пайшла на фабрыку, туды, дзе бацька працаваў. Мой бацька быў ткач. Я цяпер памятаю толькі тое, што ён быў высокі ростам, а твару яго не памятаю. Мне ўсё здаецца, што ён недзе жыве. Як маці памірала, то сказала мне, каб яго як-небудзь я старалася знайсці, хоць тады, калі скончыцца вайна. А як яго шукаць? Дзён тры мы ішлі, а пасля ўдалося сесці ў поезд. Тут я асталася адна, маці памерла ў вагоне, я выйшла яе хаваць, а далей ішла пешшу па дарозе.

Сашка Стафанковіч сядзеў, прыціснуўшыся да Любы. Яна не толькі не адсоўвалася ад яго, а нават яшчэ, здавалася яму, больш да яго тулілася. Адзежы яе не відаць было, ён адчуваў цеплыню яе твару. Яна ўсё гаварыла і гаварыла, як быццам гэта была зусім іншая дзяўчына; у гэтыя хвіліны той ранейшай маўклівай Любы не было.

Яна гаварыла ціха, але не шэптам, голас яе чуцён быў на двары. Чалавек, які ўвайшоў у двор з вуліцы, адразу пачуў Любу і пайшоў проста сюды.

— Люба, ты? — сказаў ён.— Добры вечар. (Прыгнуўся, каб паглядзець, хто з ёю сядзіць. Пазнаў Сашку.) А, гэта вы? Скора млын скончыце? То гэта і вас палякі паскублі, калі вы чалавека ратавалі і хацелі стрэльбу ў паляка адабраць? Як ваша рана, зажыла? Стрэліў ён у вас?

— Штыхом кальнуў,— адказаў, не міргнуўшы вокам, Стафанковічык.

І ён яшчэ раз расказаў тое, што прывык ужо расказваць. І цяпер захапіўся сваім расказам: «дрык-дрык, чэк-чэк!» Люба ціхом праслухала і была рада, што ён не ўспамінае, як яно сапраўды было.

— Я хачу яшчэ з вамі пагаварыць,— сказаў чалавек,— мяне тады як збілі, то я сёння першы раз з хаты выйшаў, ды і то яшчэ ледзьве іду. (Сашка пазнаў цяпер, што з ім гаворыць Рыльскі Андрэй. Сашка бачыў, што пасля яго расказу Рыльскі адчуў сябе тут як дома.) На мяне навёў нейкі гад. Мне брат гаварыў, што ён з Мінска, а вы таксама з Мінска, і ён тут у вас начаваў. Праўда, Люба? Як ён завецца?

Люба пацiснула плячыма, адказаў Стафанковічык:

— Шпулькевіч.

— Вы яго ведаеце?

— Не, я яго датуль не бачыў ніколі.

Андрэй Рыльскі пастаяў, пабедаваў, што няма як знайсці Шпулькевіча, пакляў яго, паспачуваў Сашку, што таго паранілі палякі, і павольна, быццам у глыбокім одуме, пайшоў. Стафанковічык больш яшчэ прыціснуўся да Любы. Люба была ўдзячна Сашку: ён жа сумысля выдумляе ўсялякія гісторыі наконт сваёй параненай рукі, абы толькі не блытаць яе перад людзьмі ў гэтую справу. Гадзіны праз дзве вячэралі; за вячэрай была гаворка пра тое, што ў вёсцы шмат хлопцаў недзе падзелася, не відаць іх стала. А сярод хлопцаў — шмат і мужчын. Рыльскага брата таксама не відно. Млынар сказаў:

— Можа, пабралі стрэльбы і ў лес пайшлі, думаеце што! Нічога не чула, Люба?

І дапытліва на яе паглядзеў.

— От бо, неспакой,— абазваўся Стафанковіч.— Наша справа такая, жыць па-чалавечы, па-божаму і не чапаць нікога.

І сказаўшы так, пайшоў спаць і пагнаў Сашку. Люба асталася ў кухні адна. Сашка пачакаў, пакуль захроп бацька, ціхом увайшоў у кухню і астаўся там.

За тыя дні Стафанковічы адрамантавалі млын як мае быць, і гаспадар пусціў яго ў ход у першую вялікую адлігу. У штучным азярцы на перагароджанай плаціной рэчцы пасінеў лёд, і з аднаго боку пры беразе яго затапіла вада; яна білася з-пад ільду. Гаспадар пусціў яе на кола. Яе было нямнога, але хапіла на тое, каб паспрабаваць млынавы рамонт, і млынар змалоў сваіх некалькі мяшкоў збожжа і пахваліў Стафанковічаў. Калі ж скон-

чылася веснавая паводка і рэчка ўвайшла ў берагі, млынар ужо на сялянскі завоз пусціў млын. Ён пачаў заўважаць дробныя дэфекты: то кола не ішло роўна, а ў адным месцы тузалася, то вал не служыў проста, а паязджаў на сваім месцы. Млынар запрог каня і паехаў у Мінск. У Мінску ён доўга хадзіў па Кальварыйскім квартале і пытаў Стафанковіча. І хоць на паперцы ў яго выразна быў запісаны адрас — знайсці ніяк не мог. У каго ён ні пытаўся — ніхто нават і не чуў такога. У доме, нумар якога быў запісан у млынара, нават і не было трэцяй кватэры, як было адзначана ў адрасе, там проста быў дамок, праўдзівей — хата, з чатырма вокнамі, і жыла сям'я, нават не падобная на Стафанковічаву. Млынар вярнуўся дадому, думаючы пра Стафанковіча як пра шарлатана: «Дрэнна зрабіў, грошы ўзяў і адрас скрыў». Праз некаторы час ён пачаў прыпамінаць, што калі стары Стафанковіч даваў тады зімой Шпулькевічу пісьмо да сваёй сям'і, то называў Даўгабродскую вуліцу. Тут млынар моцна вылаяўся. «Стары сабака ды па-шчанячы брэша! Мінскі майстар Стафанковіч, абармот!» І тут адразу падышла да млынара Люба. Яму было дзіўна, што яна першая загаварыла з ім (чаго за ўсе гады ні разу дагэтуль не было — яна заўсёды маўчала); праўда, загаварыла, хвалюючыся, баючыся і сароменючыся. Млынар бачыў як бы нейкую змену ў гэтай дзяўчыне, быццам яе існаванне, поўнае дагэтуль толькі цягавітасцю ў працы, набыло адразу нейкі сэнс, быццам новыя інтарэсы абудзіліся ў яе. Адразу, як толькі гаспадар успомніў моцным словам Стафанковіча, яна сказала:

— А няхай бы вы, будучы ў Мінску, зайшлі да яго і сказалі, што млын кепска меле.

— Я гэтага і ездзіў.

— То што ён кажа?

— Гэты абармот даў мне няправільны адрас, і я яго не знайшоў.

Млынар бачыў, што Люба раптам змянілася ў твары, Яна запытала:

— А хто вам даваў адрас — Сашка ці стары?

— Я гаварыў старому, а Сашка перахапіў: я, кажа, сам вам напішу на паперцы. Узяў і напісаў.

Люба апусціла рукі, твар яе перасмыкнуўся грымасай, і яна пайшла да работы. Назаўтра яна сказала млынару:

— Гэта ж можна запытацца на хутарах, туды яго прывозілі малатарню правіць, там ведаюць, дзе ён у Мінску жыве.

Няма ніякага дзіва, што такія паводзіны Любы пачалі здавацца падазронымі млынару: вельмі шчыра яна ўваходзіць у яго інтарэсы з млыном. Дагэтуль было ўражанне, што яна нават і сваіх інтарэсаў не мае.

— Чорт яго бяры,— адказаў ён, не зводзячы з Любы вачэй,— я сам пагляджу млына, невялікая там штука, з-за гэтага другі раз каня гнаць не буду.

Праз некалькі дзён млынар дазнаўся, што Люба была на хутарах і пытала, дзе ў Мінску жыве стальмах Стафанковіч, і ёй нічога выразнага сказаць не маглі, бо самі не ведалі: яго не прывозілі, а ён сам праходзіў тут, пытаючы работы. Млынар некаторы час прыглядаўся да Любы і аднойчы сказаў ёй:

— Ну? Скора ў цябе будзе байструк ад гэтага Стафанковічыка?

Млынар плюнуў і скончыў сваю кароткую гутарку так:

— Памятай, што ў маёй хаце байструка быць не павінна.

З тых дзён усе заўважылі ў Любе перамену: яе маўклівасць саступіла месца імкненню да людзей, прычым гэта было часта нават, можа, і празмерна: яна загаварвала з жанчынамі так, быццам хацела і не смела пра штосьці паведаміць. Яна цэлую вясну і пачатак лета была прыстаўлена гаспадаром да млына, там яна памагала гаспадару. Аднойчы, у канцы чэрвеня месяца завознікі раз'ехаліся за гадзіну да захаду сонца. Млынар пайшоў таксама і даручыў ёй падчысціць млын, замкнуць і прынесці дадому ключы. Яна асталася адна. Пакуль тупала ў млыне — зайшло сонца. Яна выйшла на ганак замыкаць млын. На захадзе неба яшчэ ружавела, густыя кусты алешніку яшчэ адлівалі зялёным колерам, змрок летняга вечара ледзь перамагаў рэшткі яснага дня. Люба стаяла на высокім млынавым ганку, прыробленым да верхніх дзвярэй накшталт балкончыка — яна зараз замкне гэтыя дзверы, спусціцца на ніз, каб замкнуць і там. Зверху ёй, паверх кустоў, відна была бітая дарога, пабеленыя каменні паабапал яе вельмі ясна выдзяляліся ад навакольнага змяркання. Гэта была тая самая дарога, з якой яна прыбілася сюды. У яе пад нагамі рэчка ціха гнала ваду; млын стаяў, і вада спакойна абыходзіла яго бакавой латочынай. Навокал млына быў густы альховы зараснік, за чвэртку

кіламетра ён пераходзіў у высокі хвойнік. Нечакана яна пачула чалавечыя крокі — шастала трава пад нагамі. Яна кінула вочы ўніз і ўбачыла, як чалавек з аброслым тварам стаяў на адным месцы і шморгаў нагамі па траве.

— Гэта я натое раблю, каб ты мяне пачула,— сказаў ён.— Абзавіся адразу — то ты спалохаешся.

Люба шпарка замкнула дзверы і пабегла ўніз з ганка.

— Люба, пачакай, куды ты?

Цяпер яна пачала разбіраць, што голас як бы знаёмы. Прыгледзеўшыся, яна пазнала Рыльскага брата.

— А ты добрая служанка — не ўцякаеш адразу, а раней гаспадарскае дабро замкнеш. (Люба маўчала.) Ну як, Люба, жывеш? Скора цябе млынар прагоніць? Я чуў, што ён гэтымі днямі апытваў сабе новую дзеўку замест цябе. Што ён табе гаворыць? Чаго ты маўчыш, ты не саромейся, скажы. Раней пасылаў цябе да бабы, то чаму ты не пайшла? Усё з дня на дзень адкладала, баялася? А цяпер позна? Млынар-то ўжо цябе з дзіцём трымаць не будзе.

— Ён гэта мне кожны дзень сам гаворыць.

— Слухай, Люба, мяне ў вёсцы не вельмі пытаюць?

— Чаму не, гавораць — што немаведама дзе вы падзеліся. Гавораць, што бы за Мінскам на нейкай пільні на рабоце, а мой млынар гаворыць, што вы няйначай у лесе.

— І ўсім так гаворыць?

— Не, мала калі. Ён баіцца, не хоча нікога чапаць, нікому ні памагаць, ні перашкаджаць. Кажа, што каб спакайней пражыць, то ва ўсім на свеце яго справа — старана.

— Ох, гэты твой млынар! Чаму ж ён пры табе — то не вельмі стараны трымаецца.

— Ён адно што мяне прагнаць збіраецца.

— Чаму ж ён цябе не адзене, як чалавека. Ты ж у яго і за гаспадыню і за гаспадара! Як ты ходзіш, на цябе глянуць страшна! Хіба гэта спадніца? Ты ў гэтым мяшку і зімой хадзіла і цяпер, толькі што цяпер тут лат больш стала.

Люба не прывыкла саромецца сваёй адзежы, а цяпер ёй стала няёмка, хоць перад ёй і стаяў чалавек, сам абарваны і вывалены ў зямлі, аднак жа ён ведаў цану рэчам. Люба адказвала мала, толькі адзін раз загаварыла, што не ведае, што цяпер рабіць і дзе дзецца.

— Ты пачакай,— сказаў Рыльскі,— усё наперадзе, ты лішне не думай і не ный.

Што ён мог сказаць ёй цяпер?

— Люба,— гаварыў ён далей,— цябе млынар скора прагоніць, я ўсё ведаю. Ты маўчы, што мяне бачыла, бо тады забяруць маю жонку і дзяцей. У цябе ў самой будзе дзіця, тады ты пазнаеш, што такое яно табе будзе. А я тут не адзін — такія самыя са мною, якіх палякі забралі б, каб мы былі дома. Ты нам паможы, палякі скора адыдуць зусім.

— Што ж я вам памагу?

— Ты нас пакармі.

— Дзе ж я вазьму?

— У млыне, можа, ёсць мука або крупы — ты ўпусці мяне ў млын, я вазьму і пайду.

— Тады млынар мяне заб'е — ён жа мне пакінуў ключы, каб я замкнула. Як жа я магу гэта зрабіць?

— Я праламлю падлогу — нібыта зладзеі. Ёсць у млыне сякера?

— Я не ведаю. У млыне ўсяго паўмеха круп, больш нічога няма.

— Добра і гэта. Адамкні млын.

— Я і так забавілася, яшчэ млынар гатоў прыйсці праверыць, што я тут так доўга раблю.

— Калі так, то не трэба марудзіць. Адамкні, скоранька.

Яна стаяла ў нерашучасці, тады ён узяў яе за руку і павёў да верхніх дзвярэй.

— Скора, Люба, скора, мы ўсе вельмі галодныя, я ледзьве на нагах стаю. Я ўжо некалькі вечароў тут чакаю цябе каля млына і ніяк не мог застаць тут цябе адну. Мне здалося ўчора, што млынар мяне заўважыў, а можа, і не, можа, гэта мне здалося. Але калі ты ўчора гэтай парой выйшла з млына, я хацеў цябе запыніць, аж следам за табою ён з дзвярэй выйшаў і нешта доўга прыглядаўся ў той куст, за якім я стаяў. Давай ключы хутчэй.

Ён сам адамкнуў дзверы, і яны ўвайшлі ў млын.

— От крупы,— сказала яна.

— А мукі ніяк няма?

— Крыху нявыбранай у скрыні асталося, з-пад каменя. Гаспадар сваё малоў.

— Пашукай мяшка.

Ён выбраў усю муку ў мяшок, узваліў на плечы і крупы і спусціўся з ганка. Паставіў мяшкі ў куст і вярнуўся. Люба замкнула дзверы і пайшла замыкаць ніжнія.

— Люба,— сказаў Рыльскі,— дай сякеру, я тут штонебудзь зраблю, каб часта прыходзіць і браць муку без цябе. Бачыш, я тут выламлю гэтыя дзве дошкі ў падлозе і пакіну іх трымацца толькі на адным цвіку. Ты будзеш пакідаць тут у мяшку муку або крупы, а я ўжо сам уночы буду прыходзіць, паднімаць дошкі і забіраць. Пасля дошкі буду ставіць на месца. Добра, Люба? Ён нават не чакаў яе адказу. Некалькі разоў стукнуў сякерай па дошках, засадзіў лязо сякеры паміж іх і павярнуў, як рычагом. Дошка пайшла ўгару. Тады ён адсек кавалак ліштвы, на якой яна трымалася. Дошка легла на зямлю адным канцом. Тое самае ён зрабіў і з другой дошкай. Цяпер ужо льга было чалавеку ўлезці ў млын, вылезці назад і паставіць дошкі на месца — яны будуць трымацца на прыгнутых цвіках. Гэта быў самы цёмны кут у першым паверсе млына; тут ляжалі ўсялякія рыштункі, і станавіцца нагамі на адарваныя дошкі мала было патрэбы. Зрабіўшы ўсё як належыць, Рыльскі пачаў ірваць з дошак цвікі, каб пасля знадворку, падлезшы пад падлогу, прымацаваць імі дошкі (падлога ляжала на паўметра над зямлёй).

— Доўга, пакуль падастаеце цвікі,— сказала Люба,— унь там стаіць скрынка з цвікамі.

Рыльскі адразу пазагінаў цвікі ў адарваных дошках і пайшоў у другі кут, дзе стаяла скрынка. Люба асталася на месцы.

— Скарэй, скарэй,— нецярпліва падганяла яна Рыльскага,— скарэй, а то гаспадар ужо і так думае, дзе я падзелася, гатоў прыйсці.

— Гэта праўда. Бяжы хутчэй і замкні ніжнія дзверы, а сама пачакай мяне на двары. Я зараз вылезу праз дзірку.

Подбегам выскачыла яна з дзвярэй і замкнула іх. Цяпер ёй стала спакайней на сэрцы. Яна абышла млын і стала каля таго вугла, з-пад якога праз дзірку павінен быў зараз вылезці Рыльскі. Раптам яна пачула, што на ніжні ганак узышоў млынар. Вельмі выразна чула яна грук гаспадарскіх ботаў, да якога прывыкла за некалькі год. Млынар быў не адзін. Праз момант дзве пары ботаў грукалі па падлозе ў сярэдзіне млына. Любіна сэрца гатова было разарвацца. Млынар адамкнуў млын сваім ключом.

— Чорт яе ведае, што яна дзе робіць да паўночы, ніколі гэтага не было.

— Хэ,— абазваўся другі голас,— ціхая-ціхая, а чэрава нагуляла.

Люба пазнала па голасу млынаровага швагра, які ўчора змалоў воз жыта.

— Чорт яе забяры з яе чэравам, тут нешта можа быць іншае. Мяне адразу цюкнула падазронасць, ці не звязалася яна з якімі зладзеямі, дачуўшыся, што я шукаю на яе месца другую. Учора, ці гэта, можа, мне здалося, нехта як бы за кустамі хаваўся, калі я з ёю выходзіў з млына. Люба, ты тут? Чыркані, швагрусь, запалку.

— Дзе яна тут будзе да такой пары!

Люба цяпер баялася толькі аднаго: каб не заўважылі ў млыне Рыльскага. «Ён можа схавацца дзе і перасядзець, пакуль можна будзе вылезці праз дзірку. А яны, калі нічога падазронага не ўбачаць,— пойдуць. Трэба толькі падняць дошкі».

Яна кінулася пад падлогу, падняла спушчаныя да зямлі канцы дошак і прыставіла да іхняга месца. Трэба было трымаць рукамі, каб усё было як належыць.

— Ці чуў? — моцна зашаптаў млынароў швагер.— У кутку як бы дошка скрыпнула. Эй, хто там? Выстралю зараз жа. Давай, швагрусь, лямпу, от запалкі.

— Гэта табе здалося, што дошка скрыпела, усё на месцы.

— Можна праверыць. Свяці ў той кут.

Дзве пары ботаў загрукалі да адарваных дошак.

— Ты бачыш? Як бы дошка адна дыша, зварухнулася.

Гэта была праўда. Люба стаяла на каленях, сагнуўшыся, пад падлогай. Дошкі яна трымала рукамі, рукі памлелі, яна падперла дошкі галавой і плячыма; у гэты момант дошка і скранулася на момант з месца. Далей яна ўжо стаяла на каленях у сваёй няспрытнай позе як акамянелая, яна баялася дыхнуць на поўныя грудзі. «Яны зараз паглядзяць, што дошкі на месцы, і адыдуцца». Было страшна цёмна, праз шчыліны паміж дошкамі падалі пад падлогу ад лямпы ніткі святла.

— Гэта табе, швагрусь, здалося.

— Не, гэтая дошка быццам...

— Памацай нагамі.

І от млынар грукнуў ботамі ў адарваную дошку і стаў на ёй.

— Не, такі на месцы.

— Я ж табе казаў. Бачыш.

І другая пара ботаў грымнула ў дошку. Двое мужчын стаялі на адарванай дошцы і «мацавалі» яе — ці

моцна яна трымаецца на месцы. Люба цярпела страшэнныя пакуты, трымаючы на сваёй галаве і плячах жывы такі цяжар, які яшчэ жывасілам ціснуў дошку ўніз. Прайшла хвіліна, другая, трэцяя, прайшло пяць хвілін, час цягнуўся далей, а сталыя гаспадары не сыходзілі з месца, спакойна мяркуючы сабе, што ўсё спакойна, як мае быць, і што трэба ісці класціся спаць. Аднак жа, пакуль яны пайшлі, Люба некалькі разоў мела намер упасці на зямлю, і трэба было мець нечалавечую цярплівасць, каб устаяць на месцы. Боль у левым плячы, якое найбольш падпірала дошкі, дайшоў да найвялікшага гарту, ёй здавалася, што косці выйшлі з сваіх суставаў. Аднак яна стаяла, збіраючы ўсю сілу сваёй волі. Калі дзве пары ботаў з грукатам сышлі з дошак, яна ведала, што трэба яшчэ хоць з хвіліну пабыць у такой позе, пакуль яны не адыдуцца. Аднак жа, хоць цяжару зверху ўжо і не было, боль не сціх, а зрабіўся яшчэ большы. Плячо балела ўжо само па сабе. Яна сціснула зубы і з вялікай нецярплівасцю прычакала таго далёкага моманту, калі забразгаў замок — млынар замыкаў дзверы. Рыльскі паволі выйшаў са свайго цёмнага кута. Ён прыслухоўваўся, пакуль не сціхлі на дарозе крокі і галасы, і палез праз дзірку пад падлогу, трымаючы ў зубах цвікі. Люба ляжала пад падлогай.

— Вылазь,— сказаў Рыльскі.

— Зараз,— падала яна голас праз сціснутыя зубы і не кранулася з месца.

Ён каменем убіў два цвікі, прыгнуў іх, і падлога зноў мела свой сапраўдны выгляд.

— Вылазь, Люба.

Яна маўчала. Рыльскі крануў яе, яна застагнала. Ён узяў яе на рукі і, сагнуўшыся як толькі мог, выпаўз з ёю з-пад млына.

— Я, мусіць, вывіхнула плячо, я на плячы трымала дошкі і іх.

Рыльскі дакрануўся да пляча, яна крыкнула ад болю. Адзежа была ўшчэнт парвана на плячы і сашморгнута з яго. Рыльскі чыркануў запалку. Плячо было чорнае ўсё, з крывавымі падцёкамі. Рыльскі сеў на траву і заскроб жменяй над вухам. Пасля ён прыгнуўся да самага Любінага вуха і зашаптаў:

— Сашчамі зубы і пацярпі дзве ці тры хвіліны, калі плячо вывіхнута, я табе пастаўлю яго на месца. Толькі ты маўчы, бо калі хто пачуе...

— Добра,— ледзь выгаварыла яна.

Ён сціснуў далонямі яе плячо, яна нават не застагнала. Рыльскі быў невялікі хірург, ён некалькі разоў сціскаў то счарнелае плячо, то здаровае — усё стараўся распазнаць — ці такое адно, як і другое. Адзін раз яму здаваліся яны аднолькавыя, другі раз — што ў хворым плячы вытыркаюць косці. Нарэшце яна абазвалася.

— Не трэба, пакінь мяне мучыць.

Ён яшчэ раз сціснуў счарнелае плячо і пусціў рукі:

— Нічога страшнага няма. А калі часамі трэба будзе лячыцца, то на табе грошы. Ты як-небудзь заўтра ці паслязаўтра дай мне ведаць, як табе. Я тут буду паблізу. Я з табой цяпер пасяджу, пакуль ты здолееш падняцца. Пачакай, я табе прыкладу намочаную хустку. Лепш стала? Любачка, сястрыца, калі ўжо стане табе лепш, зрабі мне адну ласку: у твайго млынара недзе хаваецца вінтоўка, якую пакінулі салдаты, як уцякалі з нямецкай вайны. Ты ведаеш, як я не магу без вінтоўкі. Выкрадзі яе і перадай мне.

Гадзіны, мажа, тры ён быў пры ёй. Ёй стала холадна, ён накінуў на яе сваю вопратку. Пасля яна ўстала і пабрыла дадому. Рыльскі падаўся ў куст, там сядзеў яго таварыш. Удвух яны пабралі мяшкі на плечы і, кожны трымаючы перад сабой сваю вінтоўку, пайшлі хмызняком скрозь паўз дарогу. Цалюткую тую ноч Люба не магла заснуць ад болю, а назаўтра работа валілася з яе рук. Млынар убачыў прычыну гэтага ў яе цяжарнасці і з трывогай падумаў, што трэба хутчэй яе пазбыцца, каб не прыйшлося пасля важдацца з ёю. І ён заварушыўся яшчэ больш, каб наняць новую дзеўку.

Люба адгортвала ў млынавай скрыні муку з-пад каменя.

— Чаму ты адной рукой, дзіва што ў цябе так няўдала выходзіць,— абазваўся млынар.

Люба ўзялася аберуч. Аж твар яе пачарнеў ад болю, аднак нічога падазронага млынар не заўважыў. Як толькі ён адышоўся, Люба левую руку спусціла як нежывую. Так было дзён пяць, і толькі тады боль пачаў з кожным днём сыходзіць. Яна старалася падстроіць так, каб кожны дзень у млыне асталося мукі або круп. Калі ўдавалася астацца адной перад самым вечарам, яна насыпала муку ў мяшок і ставіла ў кут каля адарваных у падлозе дошак. Назаўтра яна бачыла, што мяшка няма — значыцца, Рыльскі прыходзіў. І тут у яе з'явілася і вырасла новае пачуццё. У апош-

нія часы ў яе душы жыла трывога, якая часта даходзіла да роспачы. Нікога нідзе на свеце яна не заўважала блізка сябе. На момант быццам з'явіўся быў Стафанковічык, але цяпер яна ведала, што тут не было ніякай абсалютна блізасці, у лепшым выпадку — тут была насмешка. І от у роспач перад будучыняй увайшла нейкая новая справа. Спачатку, калі толькі яна нечакана ўбачыла пры млыне Рыльскага і пачула ад яго, чым яна павінна памагчы яму, яна неахвотна пачала справу, нават з дрыжаннем сэрца: усё гэта было так нова, нязвыкла. Пакрысе ж яна стала чуць у сабе патрэбу быць блізка да Рыльскага, быццам тут знайшлося тое, чаго яна апошні час шукала сярод людзей: яна шукала рады, роспач гнала яе на споведзь перад многімі. Тое, што было наперадзе, зацямнялася новай справай — гэта была не толькі быццам разрыўка, уся яе душа гарнулася да Рыльскага. Ён выразна ёй не гаварыў многа, яна ад яго мала што і чула, але ўгадвала, што ён робіць у лесе. Яна карміла іх там усіх з гаспадарскага млына. Тры раніцы, пакуль устане млынар, яна патраціла на тое, каб знайсці вінтоўку. Яна ператрэсла ўсе цёмныя куты гаспадарскай сялібы, капала зямлю ў пограбе, перапарола ўсё сялібнае застрэшша і вінтоўку такі знайшла. Вечарам таго ж дня Рыльскі, улезшы ў млын, убачыў на мяшку доўгачаканую зброю. Люба стаяла пры чорнай сцяне і заўважыла, што ён вылез з-пад падлогі, з мяшком і з вінтоўкай. Яна рабіла ўсё, што ён ёй сказаў, але не паказвалася яму на вочы — можа, гэта яму не трэба ці нядобра? Праз некалькі дзён яна заўважыла, што мука, якая асталася ў скрыні, нечапаная, ляжыць роўна, яе не паменшала. Назаўтра было тое самае. І так было дзён дзесяць. Дзве ночы запар яна пакідала сваю пасцель на саломе ў пуні і хадзіла баязліва да млына, каб убачыць Рыльскага — каб хоць сказаць яму пару слоў, але яго не было. Другую ноч яна прачакала да рассвітання і вярнулася назад сумная. Смутак апаноўваў яе, быццам душа яе чула тыя вялікія находы бяды, якія навісалі над чалавекам.

Пад сярэдзіну ліпеня людзі бачылі па мінскай дарозе абарваную дзеўку, якая вельмі спяшалася ісці. Праўда, каля ўваходу ў лес, недалёка яшчэ ад млына, яна на некалькі хвілін спынілася і раздумвала. Шырокая мінская дарога ішла проста, а ўлева зварачвала дарога вузкая, зарослая травой, з ледзь выезджанымі каляінамі. Каб хто ў гэты момант бачыў абарваную дзеўку, ён бы мог заўважыць, якая яна неспакойная: некалькі разоў яна рвалася

ісці далей у мінскую дарогу, некалькі разоў строілася скіравацца ў дарогу бакавую. Нарэшце яна такі пайшла ўлева. Неўзабаве перад ёю была трухлявая хата, а на парозе сядзеў той самы чалавек, што калоў і смаліў зімой у лесе Вэню Шпулькевічу япрукі. Чалавек адбіваў касу.

— Корбут прыслаў па грошы за мліва? — абазваўся ён адразу, як толькі ўбачыў дзяўчыну.— Скажы яму, Любка, няхай пачакае. Можа, я яму паплавец скашу, а грошай — дзе іх узяць?

— Не,— сказала Люба,— я зусім іду, ён мяне прагнаў.

І заплакала.

— А табе ўжо скора раджаць?

Чалавек чухануў пад вухам і ўставіўся вачыма ў Любін жывот.

Люба шырокімі вачыма глядзела яму проста ў вочы. І ў слабавольных, і ў моцных натурай людзей могуць быць такія моманты ў жыцці, калі чалавек можа адчуваць сябе быццам знішчаным перад усім светам. Хоць сапраўды ён можа і ўзвышацца ў гэты момант над многім і многімі, але тое, што яго акружае цяпер, прыгнечанне, якое падае на яго душу,— усё гэта можа паставіць чалавека ў план бязвольнасці, слабасці і гнілой мяккасці. І калі тут падзеі пачнуць абрушвацца на чалавечую галаву, то слабавольнаму вельмі лёгка ўбіць у свядомасць, што ён сусветны злачынец, хоць сапраўды ён чысты, як крынічная вада, і не мае за душой ніякай віны. Чалавек жа з цвярдзейшай натурай таксама можа тут пайсці на сваю прыніжанасць, якой пасля пасаромеецца. Тады ж усялякі сорам знікае, і чалавек бывае даведзен да такога стану, што будзе прыніжана глядзець у вочы кожнаму. І толькі выдатныя натуры не трацяць самога сябе нават і ў такія выключныя і рэдкія моманты. Што хацець ад Любы, усё жыццё якой было такім момантам? Яна глядзела ў вочы гэтаму чалавеку, абы-якаваму да яе, і нават каб ён пачаў яе абсмейваць, яна б магла выпрошваць у яго рады. Пячаць усяго гэтага ляжала на Любіным твары.

— Куды ж ты ідзеш цяпер?

— Я не ведаю, куды мне ісці цяпер. Я думала ісці ў Мінск шукаць яго, можа, ён што памог бы мне.

— Хто?

— Гэта ж яго дзіця.

Роспачным сваім позіркам яна выпрашвала, вымальвала параду, апеку ад гэтага чалавека, якога ведала даўно. Яго жонка часта прыходзіла на работу да млынара, і яны



Сцэна са спектакля «Ірынка» ў БДТ-2. 1941 г.



Кузьма Чорны сярод удзельнікаў
спектакля «Ірынка» ў БДТ-2. 1941 г.

здружыліся. Чалавек адкляпаў касу. Люба ўсё стаяла, чакаючы яго слова. Ён сказаў нарэшце:

— Зайдзі хіба ў хату.

Яна паслушна зайшла.

— То ты не ведаеш, дзе ён там у Мінску жыве?

— Каб я ведала!

— Што ж цяпер рабіць з табой? Табе няма дзе і дзецца? Га? Чаго ж ты маўчыш? Ты пачакай, прыйдзе жонка... Нейк жа будзе, не ты першая, жывуць жа на свеце.

Спакойны яго тон пачаў здымаць з яе ўтрапенне.

— Дзядзька, вы ведаеце Шпулькевіча з Мінска. Ён у вас часамі начаваў і вы яму памагалі па людзях свіней пытаць. Я таго і зайшла да вас. Ён у нас начаваў зімой, як у млынара свінні купляў, гэта было тады, калі паўвёскі згарэла вечарам. Я памятаю, што Стафанковіч пісьмо праз Шпулькевіча перасылаў дадому ў Мінск. Ён па адрасу перадаваў, то павінен ведаць, дзе жывуць Стафанковічы.

— Ты думаеш, што гэты Стафанковічык з цябе жывот здыме, ці што?

— Але ж я цераз яго гіну. І калі родзіцца дзіця, то гэта ж яго дзіця! Ён гаварыў са мною як чалавек, ён распытваў, як я раней жыла, і шкадаваў мяне. Няўжо ж ён можа спакойна глядзець, як яго дзіця будзе пад плотам канаць! Мне абы знайсці яго. Калі вы скажаце мне, дзе знайсці Шпулькевіча, то я і Стафанковіча знайду.

— Шпулькевіч то ў мяне начаваў некалькі разоў. Нават я дзіўлюся, што з той начы ён больш ні разу не прыязджаў. Нешта тады з ім здарылася было. А справядлівы ён чалавек, мне за фатыгу заўсёды, бывала, заплаціць і яшчэ крыху набавіць. Праўда, я яму як сабе пастараюся, бывала — ён з дарогі ляжа адпачыць, а я яму за гэты час свіней апытаю. А дзе ён там у Мінску жыве, то гэта трэба падумаць. Ён-то мне такі і казаў, што недзе на Камароўцы, ёсць там такі кавалак Мінска. А дзе там, то выразна не гаварыў. Мне не было інтарэсу пытаць. Што ж такое прыдумаць, каб ты магла знайсці Стафанковіча? Цераз Шпулькевіча можна было б, калі ён, кажаш, пісьмо перадаваў. Ён, значыцца, ведае дзе. А як яго шукаць? Чакай, я, можа, што-небудзь успомню. Ён нейк гаварыў мне, што яго бацька рамізейнікаў уласных меў і з гэтага жыў і яго самога ў людзі выводзіў. Але ж ад гэтага яго не знойдзеш. Можа, хто-небудзь так з людзей ведае, дзе там ён у Мінску?

— Не, не ведаюць, я пытала ў шмат каго.

— У тую ноч ён ад мяне нешта вельмі раптоўна выехаў. Нейкі быў як утрапёны. Прымчаўся з вашымі тымі свіннямі, папрасіў, каб я яму закалоў іх, асмаліў і прыгатаваў у дарогу, а сам, кажа, адскочу на хутар свіней пагытаю. Адскочыў. Я ў лесе япрукі з хлопцамі смалю, а яго няма. А, вядома, калі смаліш, то духам смаленым пахне. Я ўжо, сказаць, асмаліў быў, ужо скроб, як чую, нехта ідзе, лапцямі па снезе шастае. Бачу — Рыльскі, збітага, значыцца, Рыльскага брат. Я сумеўся. Чые гэта ты, пытае, япрукі смаліш? Што мне казаць! Шпулькевіч прасіў трымаць у сакрэце. Я і гавару Рыльскаму: палякі, кажу, прымусілі ім прыгатаваць. Зараз прыедуць забіраць. То Рыльскі спалохаўся палякаў і пайшоў з гэтага месца. За папружкай у яго сякера. Што ты тут, пытаю, робіш у такі час? Бічоў на цапы хачу ўкрасці,— прызнаецца ён. Іду, кажа, пацягнуў носам, чую пахне смаленым і спаміж дрэў агонь паблісквае. Я падкраўся, бачу — ты завіхаешся. І пайшоў Рыльскі. Я япрукі ўскаціў з хлопцам на сані — цяжка было, ледзь каламі падважылі. Дома хуценька вывернуў вантробы, склаў на воз, усё як мае быць, і стаю на двары. Бачу — зарыва пачалося, спачатку слабенькае. Чую ў лесе гук — выстралілі, крыкнулі два разы як бы на дарозе, і мне здалося, што спачатку гэта быў Рыльскага голас, а пасля Шпулькевічаў. А пасля праз хвілю якую спацелы, як узвар'яцелы, прыскочыў Шпулькевіч, кінуўся ў сані і пагнаў як толькі мог каня. Больш я яго і не бачыў. Ён называў мне Камароўку. То калі на Камароўцы ў Мінску пачнеш пытаць Шпулькевіча, які трымаў многа раміззейнікаў, і яны раз'язджалі па ўсім Мінску, то можа і дапытаешся. А я ж кажу, тады ён раптоўна, як вар'ят, выехаў і ўсё трымаўся за левы бок і нават некалькі разоў ойкнуў, быццам яму вельмі балела, але ён не хацеў мне прызнацца. А я тады адразу пабег на пажар.

У той вечар жонка гэтага чалавека гаварыла Любе:

— Што ж ты мяне цяпер просіш! Каб ты раней, а цяпер позна. Раней, спачатку, то я табе парэкамендавала б бабу, і яна цябе б ачысціла. А цяпер, хіба каб ты пачала што цяжкае падымаць, тады, можа, выкінеш. Ты падымай перад сабой што найцяжэйшае. Сядзь, Люба, будзем вячэраць.

Праз дзён тры Люба ішла далей па мінскай дарозе. Усё таксама яна спяшала. На плячах у яе трымаўся прывязаны клунак, такі самы, як і яе адзежа,— з латамі, дзіркамі і брудам. Дарога была пустая. Страшэнная стаяла гарачы-

ня. Пад Мінскам на полі не было ніводнага чалавека нідзе, толькі адусюль сцягваліся польскія салдаты. Яны вялікімі часцямі і па некалькі чалавек рухаліся на Мінск. Пад самым ужо Мінскам яна размінулася з вялікім абозам сялянскіх фурманак: замучаныя коні цягнулі вазы з раненымі салдатамі польскай арміі. Тут ісці стала цяжэй, часта запынялі патрулі. У Мінск яна ўвайшла на самым змроку і тут ужо зусім не ведала, куды падацца. Вуліцы губернскага горада Мінска яе ашаламанілі. Кожны двухпавярховы дом ёй здаваўся гмахам. Брэсцкі вакзал паўстаў перад яе вачыма, як страшная вялічнасць — яна палохала і яшчэ больш трымала чалавека ў разгубленасці. Па вуліцах бесперапынна грымелі абозы, ішлі салдаты, і, бачачы іх, людзі залазілі ў самыя цёмныя шчыліны сваіх абшарпаных сцен. Люба ледзьве дацяглася да нейкай дашчанай агарожы і села на кучу камення ў самым цесным куце. Было ўжо зусім цёмна, і на вуліцы нідзе не гарэлі ў вокнах агні. На небе свяцілі зоры. З цёмнага Любінага кута ледзь можна было заўважыць рог дома і пачатак завулка. У гэтым горадзе было ў яе толькі двое знаёмых людзей — Вэня Шпулькевіч і Сашка Стафанковіч. Заўтра яна пойдзе шукаць іх, а цяпер прыгнечанасць душы адразу скончылася: Люба заснула, седзячы на каменнях. Пабудзіў яе грукат гармат — некалькі артылерыйскіх залпаў пачулася здалёку, пасля зноў стала ціха, толькі часта чуліся з вуліц галасы і грукат колаў. Зморанасць усяго цела магла скончыцца толькі пасля сну, але спаць не даваў холад: каменне адсырэла. Люба забрала свой клунак і перайшла за некалькі крокаў к вуліцы. Там яна лягла на пяску і зноў заснула. Можа, прайшло гадзіны дзве, а можа, і больш — яе пабудзіў крык. Над ёй ляцелі іскры і неба траслося зарывам. Яна такая была змучаная, што ледзьве і неахвотна ўстала і пайшла ў вуліцу. Здаецца, і ідучы яна спала, цьмяна ўяўляючы, што блізка гарыць горад і па той бок пажару, на вуліцы, павялічыўся грукат колаў. Пачынаўся дзень. Цэлую раніцу яна праблукала па самых глухіх вуліцах і нарэшце выбілася туды, дзе было цішэй. Але як толькі яна дайшла да нейкага запушчанага двара, як раптам атрад польскай пяхоты выбег з-за рога і памчаўся пасярод вуліцы. Салдаты крычалі немаведама што, можа быць, каб падбадзёрыць сябе, білі прыкладамі ў вокны, паўз якія яны беглі. Звон шкла дапаўняў карціну мітусні. Гэта зняло з Любы рэшткі сну, які яе апаноўваў. Яна выбілася на мост, прайшла яго і змяшалася з

натоўпам людзей. У гэтых кварталах горада зноў пацішэла, і народ стаяў на вуліцы. У натоўпе гаварылі, што вельмі блізка да горада падышлі часці Чырвонай Арміі і што нібыта на рассвітанні на ўскраіне бачылі партызан — узброеных людзей, «босых, у лапцях і ў ботах. Некаторыя страшэнна паабрасталі барадамі. Яны з-за могілак стралялі па польскім абозе, а пасля адышлі за горад». З гэтага моманту Люба пачала думаць аб Рыльскім. Ёй здавалася, што зранку ён быў тут жа ў горадзе, і былі моманты, калі яна была больш схільна шукаць яго, чым Сашку Стафанковіча. Некалькі разоў вуліца рабілася пустая, і па ёй беглі толькі польскія салдаты, пасля натоўп зноў з'яўляўся на ёй. Пад гадзіну адзінаццатую на гэтай вуліцы і праз вокны ў шчытах, і праз слухавыя вокны гарадскія партызаны стралялі па апошнім атрадзе улан, які прамчаўся тут. Каля дванаццатай гадзіны натоўп заўважыў, што некалькі коннікаў Чырвонай Арміі ціхом выехалі на набярэжную і раз'ехаліся скрозь па ёй. Адзін уз'ехаў на мост і спыніўся. Натоўп кінуўся туды. Чырвонаармеец распытваў, дзе палякі і ці даўно яны беглі тут, і ўгаварваў усіх разыходзіцца. Аднак жа ўсе стаялі навокал яго і не разыходзіліся. Можна сказаць, што кожны стараўся сказаць яму некалькі слоў. Закрычалі «ўра», і ён тады проста-такі загадаў, каб было ціха. Ён увесь час трымаў вінтоўку так, што ў кожны момант мог страляць. Да яго пад'ехала яшчэ чалавек пяць. Усе яны сталі на мосце, ціха перагаварваючыся. Адзін сказаў другому:

— Праўда, што Лук'янскі выбыў са строю?

Другі адказаў:

— На адзін дзень. Учора. Лёгкая рана ў шчаку. Сёння ён сам высылаў разведку.

— Ты яго бачыў?

— Бачыў.

— Кажуць, што ён адразу можа навесці гармату без трубы і бусолі.

— Не ведаю. Але з вінтоўкі цэліцца адным махам і ніколі не прамахнецца.

— З самага пачатку нямецкай вайны на франтах і на франтах.

— Ён вельмі пра гэта расказваць любіць.

— Я чуў раз, як ён гаварыў пра мабілізацыю. З першых дзён нямецкай вайны пагналі ў войска, і тымі ж днямі сям'ю выгналі ў бежанства. Так і дагэтуль не ведае,

што сталася з дзецьмі і жонкай. Цешыць сябе: скончым, кажа, ваяваць, тады знайду.

Люба чула, што гаварылі конныя чырвонаармейцы, і старалася прабіцца да іх праз натоўп, але ў гэты момант цераз плыткае месца ў рэчцы з суседняй вуліцы пачаў пераязджаць атрад. Коннікі рушылі з моста і далучыліся да атрада. Люба прабегла за імі некалькі крокаў і вярнулася назад. Атрад імчаўся, бачачы польскіх коннікаў. Яна была сведкай таго, як у той дзень рэгулярныя часці Чырвонай Арміі ўваходзілі ў Мінск, як пасля, у наступныя дні, праз горад праходзілі вайсковыя часці, кіруючыся на Варшаву. Прайшла, значыцца, праз Мінск і пайшла далей і тая часць, дзе, як відаць, камандаваў нейкі Лук'янскі. У пакалечаным вайной і акупацыяй Мінску Люба шукала сабе прытулку, носячы ў сабе смутак па бацьку і па Рыльскім, у якім яе душа чула друга. На гэтых абшарпаных вуліцах яна пачала шукаць таго, чаго не згубіла тут. Пад сэрцам у яе жыла істота, якую яна рыхтавалася пусціць на свет. Смутак па бацьку межаваўся з радасцю, што, можа, і сапраўды ён жыве, і калі гэта ён, то, значыцца, яна нават ведае, што з ім і як. Але знайсці яго нельга цяпер, таксама як і Рыльскага. Яна пайшла шукаць трэцяга. Яна выхадзіла некалькі дзён па Камароўцы і не магла дапытацца Шпулькевіча. «Як жа ты хочаш знайсці, не ведаючы нумара дома»,— гаварылі ёй. Шукаць жа Стафанковіча адразу, не знайшоўшы Шпулькевіча, нават і пачынаць не варта было: тут яна нават не ведала, у якой гэта частцы горада.

На даволі людной вуліцы яна хадзіла з дома ў дом, пытаючы работы. Ваенная хваля адышла на захад, і ў горадзе паспакайнела. Зайшоўшы ў адзін з двароў, яна апынулася сярод зборышча дамкоў, падобных да местачковых кузняў, і хацін, падобных да сабачых будак. Двор быў на скоцістым узгорку, крутым і няроўным. Угару — узгорак мала быў забудован — скрозь відны былі платы і паасобныя дамкі. Далей за ўсё ўзвышалася вежа чырвонага касцёла і амаль побач з ім двухпавярховы драўляны дом з жоўтымі вокнамі. На дамку гэтым былі дзве шыльды на пярэдняй сцяне і на бакавой. Кавалак бакавой сцяны з шыльдай даволі выразна быў відзён адгэтуль, з узгоркаватага двара, але Люба не магла прачытаць шыльды, каб і хацела. Нейкі чалавек параіў ёй пайсці ўвечары ў той дом і папытаць работы. Пакуль жа да вечара Люба тут шукала хоць прытулку — цяпер і, можа, надалей. Яна выбірала

дзверы чым найстарэйшыя і найкрывейшыя: чым бядней-шы чалавек, тым прасцей з ім можна гаварыць. Яна ўвайшла ў трухлявую прыбудоўку да нейкай мураванай сцяны і адчула тут сябе добра: усё навокал было прывычнае: пасцель з кучыануч, стол, прыбіты да сцяны (у яго асталіся толькі тры нагі), вядро вады на табурэце і больш, здаецца, нічога. Поўная гармонія з абарванай чараватай дзеўкай.

— Хто там? — абазваўся жаночы голас.

Люба ўбачыла, што на ложку, на накіданых абы-як дробных лахманах ляжыць жанчына і курыць самакрутку з махоркі, па-мужчынску сціскаючы недакурак паміж пальцамі. Жанчына была доўгая і тонкая, займала ў даўжыню ўвесь ложак, а ложак той быў збіты з непагабляваных дошак.

— Добра,— сказала жанчына, выслухаўшы Любу.— Падай мне вады. Пабудзь некалькі дзён, а там відна будзе. Я захварэла, і нікога ў мяне няма. Быў некалі муж, але не вярнуўся з нямецкай вайны. (Жанчына гаварыла хрыплым басам.) Зімою я ў рэстаране падлогу і сарвэты мыла, а з вясны ляжу хворая. Пазаўчора прынесла вядро вады, а сёння мне горш. Дай мне напіцца. Э-э, ты з жыватом? Дзе твой муж? Так? Што ты робіш? З чаго ты жывеш?

Увечары Люба дастала работу: у драўляным дамку побач чырвонага касцёла яна нанялася падмятаць, мыць, чысціць, бегаць на пасылках, выносіць і прыносіць. На двухпавярховым дамку шыльда паведамляла: «Гасцініца «Бельгія». (Яшчэ не было такой драбязы, якая не імкнулася б да гучнага імя.)

Праз два дні доўгай і тонкай жанчыне стала яшчэ горш. Прыходзячы з работы, Люба даставала ў яе з-пад галавы рэшткі адзежы і бегала мяняць на хлеб. Часам гэта ўдавалася. Жанчына душылася кашлем і ўсё больш і больш глытала махорачны дым, цвёрда верачы, што гэта «асаджвае кашаль». Аднойчы на змроку, прыйшоўшы з работы, Люба застала яе мёртвай. З двара пасыходзіліся суседзі, і пачалася несканчоная шматгалосая гаворка. Цераз суткі яе паклалі ў труну і павезлі на могілкі, а Люба заўладала кватэрай — з мэбляй, столлю, асобным ходам, двума цвікамі ў сцяне і шыкарным відам на заднюю сцяну гасцініцы «Бельгія». Цяпер чараватая дзеўка смела магла тут распараджацца, асабліва пасля таго моманту, калі з'явіўся гаспадар і аформіў папяровым парадкам яе права

жыць у гэтай кватэры. Яна як хацела расклала анучы са свайго клунка паверх тых ануч, на якіх учора ляжаў труп, падбіла ўгару падушку, колер якой быў колерам патэфоннай пласцінкі, на якой запісана самая найтанчэйшая музыка. Чорны бляск на падушцы трымаўся моцна: ён быў навек сюды ўшмальцован і ліп да валасоў і цела, але гэта было не страшна. Яго магло хапіць на доўгія гады, кольні б ён ні ліп да ўсяго навакольнага. Такі самы колер мела столь; праўда, тут чорны колер быў без бляску; усё, што надавала столі такі колер, не магло ліпнуць да чалавечага цела, бо каб дастаць столь, то трэба было падняць угару руку, а чалавек, як вядома, не заўсёды ходзіць з паднятымі рукамі. Толькі над дзвярыма ў Любінай кватэры можна было дастаць столь, не падымаючы рукі ўгару: тут дошкі адарваліся канцамі і навісалі ўніз, але калі Люба не хацела счышчаць галавой са столі чорны колер, то магла нагінаць галаву. Так што ўсё было вельмі выгадна. Найбольш усё гэта наліпала на чалавечую душу, але ад гэтага зеленаваты бляск сцен і чорны бляск пасцелі ўжо аніяк не маглі страчвацца.

Люба апынулася адна сярод сваіх уладанняў. У вядро, якое асталося пасля жанчыны, яна набрала вады і скінула з сябе кашулю, каб памыць. Першы раз за шмат дзён яна ўбачыла сваё цела. Плячо, на якім яна трымала млынара і яго швагра, было ўсё чорнае. «Так і астанецца?» — кальнула яе думка. Гэта быў інстынкт прыгожай дзяўчыны, але ён не меў над чалавекам улады; ён саступіў месца старым думкам: у сярэдзіне жыла новая істота, перад якой зараз адчыняцца дзверы ў свет. Тут пачынаўся смутак. Люба нагнулася над вядром мыць і адчула боль у спіне і жываце. Яна падняла вядро на акно і пачала мыць не згінаючыся. «Баба голая!» — закрычалі за акном хлапчукі. Яна адышлася, зняла вядро на падлогу, стала на калені і так мыла. Намыліць кашулю не было чым, і яна доўга церла яе рукамі. Развесіла сушыць на біле ложка вобмацкам — агню не было. Да раніцы кашуля яшчэ не дасохла і прыйшлося адзець яе так. У той жа дзень Люба, ідучы з работы, украла з гасцінічнага ўмывальніка кавалак мыла. Дома яна павыбірала самыя тонкія анучы, стала над вядром на калені і мыла да самага вечара. А як толькі змеркла, легла, сціскаючы зубы ад прыступаў вострага болю. Вялікі цяжар душыў яе. Узняцце вострых думак ападала да бяздум'я.

«Мне пашанцавала, што я тут апынулася, пад плотам

было б горш... Так рана? Яшчэ няма дзевяці месяцаў. Можа, раней часу родзіцца? Ад таго, што я пад млынам трымала на сабе такі цяжар?.. А можа, яно родзіцца нежывое? Гэта будзе добра ці кепска? Добра. Гэта будзе добра. Гэта будзе шчасце! Як добра не мець дзіцяці, не мець жывата, не мець болю, быць такой, як да той зімы! Як было добра ў млынаровай кухні!.. А калі народзіцца нежывое дзіця, і прыйдуць і скажуць, што я яго задушыла? Няхай бы хто зайшоў!..»

Гэта было быццам адчуванне вінаватасці перад усім светам. І ўсё танула ў страшэннай роспачы. Яна падняла галаву прыслухацца, ці не ідзе хто, ці не ўвойдзе сюды да яе. Раптам яна кінула галаву на падушку і пачала каламіцца ад новага прыступу болю. Каб быў дзень або каб хоць тут гарэў агонь і каб хто прыйшоў сюды, ён убачыў бы, што твар у жанчыны пачарнеў, на губах выступала пена, вочы ўпалі ўніз і ўсё цела гнулася ў дугу. Але тут і агонь не гарэў, і нікога не было. Ёй здавалася, што прайшла бясконцасць, што яна цягнецца далей і ніколі не скончыцца. Вобмацкам яна сцягвала з сябе тую адзежу, што на ёй была, то падграбала пад сябе лахманы, то выцягвала іх назад. Ноч! Якая прыйшла ноч! Лягчэй было трымаць на плячы пад млыном жудасны цяжар, лягчэй было сумаваць на пустой дарозе над магілай маці! Няхай бы хутчэй усё выйшла з цела, разам з сэрцам і з душой! Столь спусцілася нізка, сцены сышліся цесна, і ўсё душыць-душыць і не выпускае з цела страшэннай пакуты.

Раніцай пачало ўсходзіць сонца. Яно доўга выбівалася з-за хмар, і як першы яго слабы прамень лёг на сцены, жанчына расплюшчыла вочы. Яна ўбачыла, можа, нават праўдзівей сказаць, адчула, як трапяталіся і жылі колеры на сценах і ў паветры, як яны зменьвалі самі сябе пад ясным позіркам сонца. Жанчына перавяла вочы на сваю скрываўленую пасцель, на свой жывот — ужо апалы і роўны — і глыбока ўздыхнула. У целе была вялікая лёгкасць, пакутны цяжар выйшаў адтуль. Яна прыўзняла галаву, каб зірнуць на тое, што так цесна ляжала пры яе грудзях. Сонечная ружовасць клалася на яго малую галаву, вочы, якія толькі што ўпершыню ўбачылі свет, былі заплюшчаны: Любін сын спаў. Маці ўкрыла яго звечара яшчэ нарыхтаванымі вымытымі анучамі і мацней прытуліла яго да сябе. Бледны твар яе быў апанован рысамі імкнення да сну і спакою. Яна заплюшчыла вочы і яшчэ раз глыбока ўздыхнула. Перад вечарам сонца не магло з-за сцен кі-

даць праменні ў акно гэтага прытулку, і змяркацца тут пачало раней, чым зайшло сонца. Люба ціха ступала босымі нагамі па зямлі, баючыся пабудзіць свайго сына. Яна падпаліла ў печы і нагрэла ў гаршку вады, паклала сына сабе на калені, мачала ў ваду анучку і выцірала ружовую істоту, якая за ўвесь першы дзень свайго жыцця заплакала толькі раз, быццам ведаючы, што і без гэтага крыку ў маці ёсць з чаго ныць душы і балець сэрцу. Аднак жа гэта было толькі першы дзень. Назаўтра суседзі чулі, як у трухлявай прыбудоўцы да мураванай сцяны бесперапынна крычыць дзіця. Прайшла гадзіна, другая, трэцяя, дзіця то сціхала, то зноў пачынала крычаць. Некалькі жанчын пайшло туды. Яны ўбачылі, як маладая жанчына, абарваная горш за ўсялякую жабрачку, хадзіла ад дзвярэй да акна і назад, трымала пры сваіх грудзях дзіця і ўсё гаварыла адно і тое ж:

— Чаго ты, мой хлопчык, чаго ты.

Убачыўшы жанчын, яна змоўкла, і вочы яе так пачалі глядзець на іх, быццам яна зрабіла перад усім светам вялікую віну. У той дзень стала вядома на ўсім двары, што ў «прыбудоўцы абарваная дзеўка прывяла дзіця і яно крыху неданошанае». Па поўдні Люба вынесла свайго сына на двор, на сонца. Над горадам ішлі ясныя павевы блізкай восені. Люба доўга трымала свайго сына на сонцы, і яе вочы былі або на яго твары, або на зямлі: ёй думалася, што з кожнага акна на яе паказваюць пальцамі. Праз некалькі гадзін, кладучы яго спаць на тую чорную падушку, яна прыклала свой лоб да яго бясформеннага яшчэ тварыка і заплакала:

— Хлопчык мой, у тую ноч я хацела, каб ты радзіўся нежывы.

Да гэтых спраў пачала мець дачыненне адна асоба, дагэтуль невядомая героям гэтай хронікі. Люба была маленькай і выпадковай прычынай таго, як далей накіравалася яе жыццё, а праз некалькі год яны спаткаліся ўжо зусім інакшымі людзьмі і як мае быць ацанілі ўсё, што было раней. Нязначная выпадковасць часта зводзіць людзей зусім чужых быццам на тое, каб паміж імі вырасла або замілаванне, або нянавісць.

Гэта была Валя Іваноўская. Блізка таго часу, калі рамантавалі разбураны і спалены ў вайну Віленскі вакзал, кожны дзень яе можна было бачыць а гадзіне адзінаццатай на Ленінскай вуліцы: яна спяшала на біржу працы. Там, у змрочным доме, у глыбіні двара на пляцы Волі ў

гэты час сутак кіпеў натоўп беспрацоўных, адгароджаны ад рэгістратараў скрыпучымі драўлянымі бар'ерамі. Валя Іваноўская заўсёды станавілася ў чаргу каля аднаго з бар'ераў і стаяла там нецярпліва — каля яе заўсёды было шумна, там, дзе яна стаяла, крычалі цераз бар'ер да рэгістратара, каб іх перавялі ў першую катэгорыю. Гэтае нездавальненне і біржай, і рэгістратарамі ішло ад Валі і перакідалася на ўсіх. Калі да яе даходзіла чарга і яна чула ўжо звыклую фразу «яшчэ няма работы», яна моўчкі ішла ад бар'ера, але з такім выглядам, быццам выразна гаварыла: вядома, чаго больш чакаць ад гэтых тупіц, якія сядзяць за гэтымі сталамі з кучай спісаў і анкет. Адзета яна была заўсёды ў адно і тое ж адзенне, зграбна і з густам, але з вельмі выразнымі слядамі тагачаснай агульнай беднасці.

Цёмныя валасы яна гладка зачосвала і касу хавала пад сіні жакет, старанна зацыраваны на локцях сінімі ніткамі. Чалавек, здольны да наглядальнасці, мог бы з некаторых рыс і дэталей убачыць, што — і гладка зачосаныя валасы, і каса, схаваная пад жыкетам,— усё гэта зроблена так, а не інакш, таму, што гэта ёй да твару. Замест чаравік на нагах яе былі самаробныя сандалі: выразаная па назе дошчачка (з двух кавалкаў — каб льга была згінаць ступню) трымалася перакрыжаванымі вышэй костачак раменьчыкамі. Людзі, што доўга сюды хадзілі, да яе так прывыклі, што аднойчы адразу заўважылі, што яна не прыйшла. Быццам неўзаметку пачалі адчуваць, што яе тут не хапае. Так было на другі і на трэці дзень. І от некаторыя пачалі пытацца ў рэгістратара, ці не асталася яна на работу, і куды. Рэгістратар спачатку адказаў, «што, мусіць, шкадуеце яе затым, што без яе не ўмееце пачаць гармідару», а пасля, каб адчапіцца, паведаміў, што яна «не кожнаму з некаторых тут раўня, а настаўніца, і пайшла ліквідаваць непісьменнасць адсталых мас». Гэта была праўда, але не так проста ўсё зрабілася. Спачатку яе паклікалі ў секцыю народнай асветы і сказалі, што яна можа быць назначана за настаўніцу ў вячэрнюю школу для дарослых, але толькі тады, калі яна сама паможа арганізаваць гэтую школу. Справа тут была такая, што школа існавала ўжо некаторы час, але карысці з яе ніякай не было, бо людзі, якія ў ёй вучыліся, кідалі гэтую нязвыклую ім справу, ледзьве пабыўшы ў ёй тыдзень або найбольш два. Вербавалі тады новых «вучняў», але тыя неўзабаве добраахвотна саступалі месца трэцім. Цяпер настаўнікам гэтай школы сказалі, што яны павінны ўвайсці

ў такі «кантакт» са сваімі вучнямі, каб тыя выйшлі са школы як мае быць пісьменныя. Валя Іваноўская ўзялася за справу.

Ёй не зусім да густу гэта было. Яна марыла быць настаўніцай не ў такой «выпадковай», а ў сапраўднай школе. На гэта яна і вучылася.

Аднак трэба было ісці і ў такую школу, калі лепшай не было. Яна была дачка панскага каваля, бацька з ёю ўцёк у Мінск са сваёй мясцовасці адразу пасля таго, як мясцовасць, пасля міру з Польшчай, апынулася па той бок граніцы: у маёнтак вярнуўся пан, якога каваль хацеў злавіць і прытрымаць на сялянскую расправу, калі той уцякаў пры находзе, пасля акупацыі, Чырвонай Арміі.

Валя Іваноўская пачала ўваходзіць у «кантакт» са сваімі вучнямі. Іх было ў яе няшмат, чалавек дзесяць паджылых рабочых. Найбольш яны працавалі цяпер на рамонце Віленскага вакзала. Аднойчы ўдзень яна з'явілася да іх на работу. Яны былі такія занятыя, што гаварыць з імі нельга было, але Валя абышла іх і з кожным прывіталася. Да абеду было далёка, і яна пайшла хадзіць па вакзалу і навокал яго. Палова вакзальных сцен стаяла, як шкілет — без акон, дзвярэй, страхі і столі, цэгла была абкуродымленая пажарам. Такі малюнак быў тады не навіна ў Мінску. Дрэва, вапна і жалеза ляжалі скрозь каля вакзала, а ў самым далёкім кутку гэтай прывакзальнай плошчы, схаваная за зборышчам усялякіх будаўнічых рыштункаў, трымалася на чатырох нізкіх слупах дашчаная паветка і пад ёю ўмураваны ў нізкія і шырокія падмуркі два катлы. Пад катламі цэлы дзень гарэў агонь, і падкладала ў яго дробна наколаныя дровы маладая жанчына. Яе тут бачылі цэлы дзень з цямна да цямна. У адным катле варыўся абед, у другім цэлы дзень кіпела вада. Абед выдаваўся рамонтным рабочым у гадзіну дня, гарачая вада была кожную хвіліну.

Валя, падышоўшы сюды, бачыла, як маладая жанчына, адзетая страшэнна бедна, мяшала ў кіпучым катле нечым выструганым з тонкай дошкі; гэтая «кухонная» прылада была падобна да доўгай і тонкай лапаты. Густыя валасы ў жанчыны былі не зачосаны і проста трымаліся канцамі пад каўняром мужчынскага пінжака з адарванымі штрыфлямі, на нагах былі грымучыя чаравікі з падэшвай, выструганай з дошкі. Валя ўвайшла ў гэтую адкрытую ўсім ветрам і людскім вачам кухню.

Там на нізкіх сталюгах ляжалі дзве дошкі, якія слу-

жылі замест кухоннага стала. На іх ляжаў шырокі нож, стаяла вядро з мукой, а пад ім мяшок з буракамі. Пасярэдзіне ж, прыпёрты да вядра, ляжаў нейкі скрутак, зусім не падобны на кухонную прыналежнасць. Валя прыгледзелася і ўбачыла, што гэта дзіця.

— Якое гэта дзіця? — запытала Валя, здзіўленая такім дзіцячым прытулкам.

— Маё,— не зусім ветліва адказала маладая жанчына і ні на хвіліну не пакінула мяшаць у катле.

— Чаму ж яно тут ляжыць.

— Бо яму няма дзе інакш ляжаць.

— А ўночы?

— А ўночы ён са мною спіць.

— А ўдзень заўсёды так?

— Няма на каго пакінуць.

Валі хацелася запытацца, дзе ж муж, бацька дзіцяці, але яна не пасмела спачатку, а пасля падумала, што ён, напэўна, дзесьці на рабоце. Яна павяла далей сваю справу.

— Вы пісьменная?

— Я не ўмею ні чытаць, ні пісаць.

— Хочаце вучыцца?

Маўчанне.

— Вам трэба толькі даць згоду, і вас навучаць. Я сама буду вучыць. Увечары, пасля работы, адна гадзіна.

— Мне трэба зарабляць і дзіця гадаваць.

— Калі вы станеце пісьменная, то вам лягчэй зарабляць будзе.

— Усё адно я ўжо не навучуся так, каб з гэтага хлеб есці, а распісацца толькі ўмець — то малая палёгка, а клапату і часу многа затраціш.

— Зусім не многа, важна толькі пачаць.

— Я не ведаю, што вам сказаць, я падумаю.

Валя бачыла, што жанчына хоча ад яе хутчэй адчапіцца. Сапраўды, яна паглыбілася ў сваю работу: яшчэ больш заўзята пачала памешваць у катле. Валя больш не надакучала ёй сваёй гаворкай і пайшла. Назаўтра яна зноў была тут і зноў гаварыла тое самае, паглядаючы, як жанчына крышыць буракі і кідае іх у кацёл. Дзіця, як і ўчора, ціхом ляжала сабе пры вядры.

Адбылася тая самая гаворка, што і ўчора. Маладая жанчына была таксама не вельмі ветлівая. Валя бачыла адну толькі панурасць. Яна ўжо думала, што прыйдзецца больш сюды не прыходзіць, і з простай цікавасці запытала на адыходак:

— А дзе ваш муж?

Маладая жанчына выцерла рукі аб фартух і апусціла іх уніз. Так заўсёды робяць гаспадыні, калі ў часе работы збіраюцца пагаварыць пра што-небудзь, што іх цікавіць. Валя не была такая наглядальная, каб заўважыць гэтую рысу, і думала: «Выслухаю які-небудзь нязначны адказ і пайду». Жанчына сказала:

— Мужа няма.

Толькі цяпер Валя заўважыла, як раптам уся змянілася гэтая жанчына. Валя ў душы ўсміхнулася; мусіць, значыцца, зараз пачне лаяць нейкага мужчыну, скардзіцца на яго, уводзіць незнаёмага чалавека ў курс сваіх спраў. Найбольш ашуканыя простыя дзяўчаты так робяць, і ўжо шкадавала Валя, што ўшчала гэтую гаворку. Але «ашуканая дзяўчына» сказала некалькі слоў такім тонам, у якім аніяк не было ні бурклівай злосці, ні назойлівых скаргаў, была толькі адкрытая душа і пявучы, небывалы за ўсю дагэтуль гаворку з Валяй, голас:

— Як прыйшла я ў Мінск (у тыя дні, калі адыходзілі палякі), то некалькі дзён усё шукала яго і не знайшла. Мне абы тады было знайсці...

— А каго вы шукалі?

— Шпулькевіча.

— А хто ён такі, гэты Шпулькевіч?

— Прыязджаў туды, дзе я служыла, свінні купляць. Я добра ведаю, што ён недзе на Камароўцы жыве, але колькі ні шукала... Камароўка вялікая, там усялякіх вуліц і завулкаў... Я пытала-пытала, а вядома — я цёмная, вясковая, ніколі ў горадзе такім не была, адно што ў самым маленстве...

— Ды яшчэ і непісьменная,— ухапілася за сваё Валя.

— Няхай сабе і непісьменная,— згадзілася дзяўчына.

— Шпулькевіч, на Камароўцы,— гаварыла сама сабе Валя.

Яна глядзела на дзяўчыну і думала пра тое, што яна вельмі заклапочана гэтым сваім шуканнем. Гэта тая струна, якая найбольш гучыць цяпер у ёй і заглушае ўсё іншае. Даволі было зачапіць яе, як адразу сышла з чалавека ранейшая нявetлівасць, панурасць, у дзяўчыны адразу і голас змяніўся, і вочы сталі жывыя, і душа стала адкрытая. Можа, гэта і ёсць яе сапраўдная натура, а ранейшае ўсё было штучнае, вымушанае абставінамі, якія заганяюць жывую душу ў цёмны склеп недавер'я да ўсяго навакольнага.

— Як жа вас завуць?
— Люба Лук'янская.
— А мяне — Валя Іваноўская.
Люба паглядзела на Валю з удзячнасцю. Валя гэта заўважыла і, адыходзячы, падала Любе руку. Назаўтра яна не прыйшла да Любы, яна ў гэты час сядзела ў адрасным стале. Цераз дзень яна зноў не прыйшла,— хацела знайсці Шпулькевіча. Не прыходзіла яна да Любы некалькі дзён. Два разы яна заставала Шпулькевічаў дом на замку. Ёй хацелася ўвайсці ў сярэдзіну, быццам выпадкова, шукаючы каго-небудзь іншага, паглядзець самога Шпулькевіча і расказаць Любе, які ён з выгляду, каб тая адразу ішла туды, упэўненая, што гэта той самы. За трэцім разам дзверы былі толькі прычынены. За імі быў карыдорчык з маляванай падлогай і акуратна падвешанымі на круку лескамі. Усё было дагледжана, пастаўлена на сваё месца добрым гарадскім гаспадаром, быццам вайна і рэвалюцыя прайшлі тут лёгкім жартам. Каб Валя была больш наглядальная, яна заўважыла б на ўваходных з параднага ганка дзвярах гэтага дамка след ад раней прыбітай тут, меднай, напэўна, дошчачкі, на ёй напісана, мусіць, было прозвішча гаспадара. Цяпер прозвішча было знята з людскога вока. Здаецца, гэта і была толькі адна вонкавая даніна трывожнаму часу. Валя ўвайшла ў карыдор і пастукала ў кухонныя дзверы. Чутно было, як там цвірчыць тонкім струменем вада.
— Хто там? — пачуўся голас.
Валя адчыніла дзверы і ўбачыла чалавека з шырокім тварам, з чыста выгаленай галавой. Ён цадзіў праз кран з бочкі квас. Нацадзіўшы поўную кварту, ён залпам яго выпіў, падвёў далоню да рота і зрабіў такі рух, быццам прывык заўсёды пасля пітва выціраць вусы, а цяпер забыўся, што яны зголены. Прынамсі, такая думка магла прыйсці кожнаму, хто мог бачыць гэты рух. Валя акінула чалавека пільным позіркам і сказала фразу, якая першая ўзбрыла ёй на язык:
— Выбачайце, гэта тут жыве Стрыгельскі?
— Не, тут ніякі Стрыгельскі не жыве.
— А які нумар гэтага дома?
— Трыццаць шосты.
— То я гэта памылілася. Выбачайце.
І пайшла. Інстынктыўна яна азірнулася і ўбачыла, як мужчына дапаў тварам да акна і не зводзіў з яе вачэй. Хоць ён ёй з першага разу стаў агідны, аднак жа яна

адчула сябе як звязаная, пакуль не зайшла за рог вуліцы. Як толькі яна сышла з двара, чалавек выйшаў з сваёй кухні, выткнуўся на вуліцу з двара і сказаў сам сабе пад нос:

— Чорт яе ведае, чаго яна прыходзіла, можа, выглядае чаго. А спрытная, ліха ёй, баба.

Такі кірунак думкі паказваў, што ён або быў напалохан ужо раз якім-небудзь «падглядваннем», або меў пры сабе такое, што трэба было хаваць ад людскога вока. Але прайшло гадзіны тры, блізіўся вечар, ён спакойна сабе выпіў яшчэ кварту квасу і пачаў пераадзявацца. Вельмі не выфранчваўся, але адзеў лепшы гарнітур і навейшыя боты, пад пінжак белую рубашку, спачатку патрымаў у руках гальштук, але паклаў яго назад у шафу, дзе ляжала шмат гутаперчавых каўнерыкаў. Адзеўшыся, ён сядзеў ля адчыненага акна, адразу відаць было, што чагосьці чакае. Нарэшце зазванілі ў саборы. Ён устаў і паволі пайшоў. У саборы адправа яшчэ не пачалася. Ён акінуў вокам пляц Волі, разгледзеў добра натоўп на скверы і сеў на лаўку. Сядзеў ён да таго часу, пакуль не пачалі ісці ў сабор людзі. Тады ён увайшоў у прытвор і праводзіў вачыма кожнага, хто ўваходзіў сюды. Так ён стаяў, пакуль не пачалася адправа. Не дастаяў і да сярэдзіны яе, пайшоў. Ідучы па вуліцы, разважаў сам сабе.

— Казаў, што майго бацьку пры свечках часта ў саборы бачыў, значыцца, сам часта тут бывае. Не прыйшоў сёння. Можа, у Мінску няма?

Назаўтра была нядзеля, і ён зноў пайшоў у сабор. Так, як і ўчора, стаяў каля дзвярэй і азіраўся на кожнага. Калі народу назбіралася многа, ён раптам убачыў, што стары Стафанковіч ставіць перад іконай свечку. На твар чалавека лягла пячаць поўнага задавалення. Ён чакаў, пакуль Стафанковіч адмахае сваю норму крыжоў і стане на сваё месца. Тады падышоў бліжэй і заняў такую пазіцыю, з якой можна было бачыць, калі Стафанковіч пойдзе. Стары стальмах, як на тую злосць, быў вельмі ўдалы да малітвы — выстаяў да самага канца, пайшоў апошні, ды і то яшчэ спыніўся ў дзвярах разоў пяток перахрысціцца. Нарэшце-такі засцібаў сваімі доўгімі нагамі. Чалавек дагнаў яго і сунуў для павітання руку. Ласкавы стальмах аж заенчыў з ветлівасці:

— Ці не Шпулькевіч? Такі гэта вы, выразна пазнаю. От жа тады мы намучыліся, пакуль вашыя свінні на сані ўскацілі. Як і цяпер усё ў вачах стаіць. Вы, мусіць,

і не ведаеце, што ўночы, пасля вашага ад'езду, палавіна вёскі была згарэла.

— Што вы кажаце! Ну?! Не чуў.

— А як жа, паўвёскі! Як вол языком злізаў. Як жа маецеся, што парабляеце?

— Жыву. Чаму не жыць. Што Сашка робіць?

— Сядзіць дома, што ж ён робіць! Цяпер жа так, спакою няма на свеце. Кожны цяпер з гатоўкі жыве, калі зарабіў дзе раней якую капейчыну. От няхай бы зайшлі калі пагуляць.

— Зайду,— катэгарычна адсек Шпулькевіч.— От і цяпер маю час.

Стафанковіч скрывіў губу і падумаў: «От халера, ніякага далікацтва не ведае. Я яму так сабе, па-чалавечы сказаў, а ён ужо і гатоў ісці. Тут жа так не абыдзешся, калі прыйдзе, гэта ж ужо як бы знаёмы нейкі, то фундуй, частуй, трактуй, згары ты!» І ён вельмі ґорача прагаварыў:

— А-а-а, як жа не пашанцавала, гэта ж трэба якраз я не дадому іду, а Сашкі якраз дома няма.

— Сказаць праўду, то я да Сашкі вельмі пільны інтэрас маю. Дайце адрас.

Стафанковіч сказаў адрас і падумаў: «Калі якаянебудзь справа да Сашкі, ды яшчэ і добрая, то няхай зойдзе сабе, а каб на пачостку не спадзяваўся, то ось я адно яму дам на памяць». І ён сказаў:

— А пісямко вы тады забыліся перадаць.

— Я не забыўся, а яно ў мяне тады вытраслася дарогай. Такі быў рэзрух! Вы ведаеце, што тады са мной было па дарозе? На мяне напалі палякі, збілі, рабрыну зламалі, нават знак астаўся, на ўсё жыццё памятка будзе. Каб не на вуліцы — то паказаў бы вам.

— Што вы кажаце!

— Што чуеце. Я ледзьве ў сані ўкаціўся, ледзьве дапаў у мястэчка да фельчара, ён мне ўвесь бок убінтаваў. Пакуль я ў яго быў, ён мне расказаў, што толькі што вярнуўся з той вёскі — расказваў, што там таксама палякі народ пазбівалі і ён прыязджаў лячыць.

— А-а-а, то і вам прыйшлося тады ў яго ўбандажоўвацца! Ён жа і Сашку тады руку ўбандажаваў.

— А што гэта было з Сашкам? Я тады бег па вуліцы і заўважыў, што ў яго рука ў крыві.

— Паляк штыхом парнуў.

Тут Шпулькевіч ні то што сумеўся, а стаў раптам

Кузьма Чорны

Насцечка



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
ПРЫ СНК БССР

Вокладка аповесці «Насцечка». Выданне 1941 г.



Сцэна са спектакля «Бацькаўшчына».

задуменны. Аднак жа ненадоўга. Ён развітаўся са Стафанковічам і пайшоў дадому, вырашаючы ў сваёй галаве нейкія планы і меркаванні. Адразу ён не адважыўся ісці да Сашкі, відаць, тут быў нейкі рызыкоўны ход. Ён усё меркаваў. І от аднойчы, перад самым вечарам, ён з-за густога зарасніку вазонаў убачыў праз акно на вуліцы, насупроць свайго дамка, дзве асобы. Адна была тая самая дзяўчына, якая некалькі дзён таму заходзіла пытацца нейкага Стрыгельскага, другую ён пазнаў не адразу. Валя Іваноўская паказала пальцам на Шпулькевічаў ганак і пайшла далей, а другая так проста і пайшла ў дзверы. Вэня Шпулькевіч збялеў, яго страсянула думка: можа, гэта вядуць якія-небудзь сляды ад спаленай вёскі? Твар у гэтай жанчыны быў такі знаёмы! Адчыніліся дзверы, і перад ім стаяла Люба. Яна азірнулася на ўсе бакі ў чужым доме і нясмела загаварыла. З першых жа яе слоў у Вэні адлягло ад сэрца, думкі яго нават зрабіліся вясёлыя, яму нават жартаваць захацелася. «Дык от што? Яна шукае Сашку, у яе ад Сашкі дзіця! От, малакасос, усё ж такі дамогся тады! Ах, такая была дзеўка! Ды і цяпер яна такая самая, як мае быць від мае, адно што пахудзела, але затое адзета лепш». Ацаніўшы Любу, ён тады ўхапіўся за ўсю гэтую справу, каб загарнуць што-небудзь і ў свой бок. Ён запрасіў Любу сесці, яна папрасіла вады, ён прынёс ёй квасу, папытаўся, як здароўе, пагаварыў, у гэты час вымеркаваў свой інтарэс і сказаў Любе:

— Ах, як шкада, Любачка, я і адраса яго не ведаю, дзе ён жыве. Я неяк выпадкам на рынку спаткаў Сашкавага бацьку, то казаў, што Сашка ў войску і там, мусіць, астанецца на доўгі час. Стары адзін жыве і лае Сашку, што адцураўся яго, нават пісаць не хоча.

Люба сашчаміла зубы і паднялася ісці — сядзець ёй тут больш не было чаго. Вэня вельмі ветліва правёў яе да брамкі. Ідучы, запытаўся:

— Хто гэта з вамі ішоў?

— Мая настаўніца, я ў яе вучуся.

— Вучыцеся? — аж вытарашчыў вочы Вэня.

— Увечары, дарослых чытаць і пісаць вучаць.

Вэня падаў Любе руку і весела ўвайшоў у свой дом. Цяпер ужо яму можна смела ісці да Сашкі Стафанковіча, няхай сабе таго і палякі былі ранілі! Як добра сцямнела, ён быў на Даўгабродскай вуліцы. Сашку ён застаў дома. Яны селі на скрыпучых венскіх крэслах з

фанернымі кружкамі (відаць, Стафанковіч «раймонт у дзейсцвіе пускаў») і прагаварылі да гадзін трох ночы. Сашка анічуць за гэтыя гады не змяніўся, меў выгляд такога ўсё самага маладзенькага бландзінчыка. Спаткаў ён Шпулькевіча не зусім ветліва, але быў падрыхтаваны да яго прыходу: бацька расказаў яму пра сустрэчу. Праўду сказаць, то ён і сам не ведаў, як яму трымацца перад Шпулькевічам: старая злосць даўно мінулася, да таго ж ён выйшаў перад Вэнем героем: той паехаў, а ён дамогся свайго! Ён не ведаў, што там у Шпулькевіча да яго за справа такая і найбольш меркаваў, што той проста з-за якой-небудзь драбязы прыйшоў. Ён сеў пры самым стале, успёршыся на яго локцямі, і глядзеў на Вэню, пакуль той пачне гаварыць. А той думаў так: «Пачакай жа, малакасос, ты ў мяне зараз затрасешся, а пасля я дам табе адпушчэнне грахоў, і мы з табой памірымся на нашу агульную карысць».

Вэня так пачаў гаворку:

— Ну, як ты жывеш з таго часу?

— Нічога. А ты як?

— І я нічога. Як табе тады ўночы паводзілася?

Сашка адным махам захацеў струшчыць у пыл Вэнеў гонар і аўтарытэт. Ён адсек:

Так павялося, як я сам захацеў.

— Раскажы,— тут ужо зусім шчыра папрасіў Вэня.

Сашка падумаў: «Раскажу, няхай пачухаецца, што не ён, а я». І пачаў расказваць:

— ...Назаўтра ж вечарам, як ты паехаў, я падсеў, пагаварыў... А дурна-ая!..

Тут ужо Вэня намерыўся адным махам струшчыць у пыл Сашкаў гонар і аўтарытэт. Ён смальнуў, як з гарматы:

— Калі яна была тады дурная, то цяпер паразумнела: ходзіць па Мінску з дзіцем на руках і цябе шукае, каб дзіця гадаваў.

Сашка спалатнеў і зняў локці са стала. Дзе дзелася яго пагардлівасць да Вэні!

— Ты хлусіш?

— Сёння перад самым вечарам прыходзіла да мяне — нейк дапыталася, дзе я жыву, і на твой след напасці хоча. Пыталася ў мяне, дзе ты жывеш.

— То яна заўтра можа і ка мне з'явіцца!

Вэня з хвіліну памучыў Сашку: памаўчаў, пагойдаў левай нагой, закінутай на калена правай. Пасля змяніў

тон і тэму, быццам усё, пра што дагэтуль гаварылі, самая сапраўдная драбяза:

— Я, брат, да цябе не гэтага прыйшоў, у мяне справа іншая, больш важная.

— Табе не важна, а мне якраз гэта важна,— раскрыў адразу сваю заячую душу Сашка.

— Нічога, і табе не важна.

— Як жа не! — з надзеяй у голасе сказаў Сашка.

Вэня думаў: «Зараз ты будзеш у мяне як міленькі» і сказаў:

— А ты пра ўсё гэта не думай і займайся сваім, што табе трэба.

— А калі яна пачне за мной следам хадзіць?

— Не пачне. Я ёй сказаў, што цябе нават і ў Мінску няма, ды і наогул я не ведаю твайго адраса.

— Ты так сказаў?

— А што ты думаеш, я табе буду прыкрасць рабіць?

— Ты, праўда, так ёй сказаў?

— А як жа я ёй скажу! — зрабіў Вэня выгляд пакрыўджанага чалавека.— Ты пачакай, усё гэта глупства. Яна нават гэтымі днямі і зусім выедзе з Мінска,— падліў Вэня Сашку порцыю радасці,— што табе да яе! А хто гэта можа пацвердзіць, што гэта ў яе дзіця тваё? Чаго ты мелеш, няхай сабе яна едзе куды ёй трэба, а ты сабе жыві здароў. Я да цябе прыйшоў наконт аднаго інтэрасу. Ты ўжо, напэўна, запісаўся, дзе трэба, што ты партызан?

— Як гэта?

— А што ж ты робіш цяпер? Я думаў, што ўжо чорт ведае якую пасаду маеш! Ты ж рану меў у руку ад палякаў!

— Як гэта пасаду?

— То ці ведаеш ты, што цяпер такім, як мы з табой, усе дзверы адчынены? Ты быў ранен, ты партызан, палякі наскочылі на вёску, грабілі сялян, ты бараніў. Дзе ж твае партызанскія дакументы! Чаго ты сядзіш дома, калі табе такі ход можа быць! У мяне трудней, бо мяне ранілі аднаго, у лесе, не было сведак. Ёсць два чалавекі, ды далёка адгэтуль.

— І ў мяне далёка.

— Але ў цябе іх больш, напэўна ж, уся вёска ведае.

— Ведае. Усе там ведаюць. І Рыльскі ведае, і ўсе.

— Ну от бачыш.

— А ты не думай, што я сяджу сабе дома. Я ў мілі-

цыі астаўся, у канцылярыі пры начальніку, ужо чацвёрты дзень сёння хадзіў.

— Эт, у канцылярыі пры начальніку, знайшоў і хваліцца.

— Гэта спачатку, пасля далей, не адразу ўсё можна зрабіць.

— Мусіць, гэта твой бацька цябе так вучыць. Каб ведалі, што ты партызан, што ты ранены быў, то адразу далей пайшоў бы. Цябе тады ўсе ведалі б, ты тады камандаваў бы, а так — будзеш сядзець ды пяром скрыпець.

«Усе ведалі б, камандаваў бы!» Гэта было тое, што не давала Сашку ніколі спакою. Але ён быў героем толькі ў глухіх кутках, дзе-небудзь далей, ён не меў яшчэ практыкі і звычкі лезці на аўтарытэтную вышыню. Цяпер яму ўсё стала ясна. Перад ім паўстаў малюнак, калі ён ужо раз быў выславіўся як герой, калі расказваў у Рыльскага хаце людзям, як яго польскі салдат штыхом парнуў, пасля ён успомніў, як усе тыя дні пра яго гаварылі ў вёсцы, што ён вельмі смелы хлопец, калі не пабаяўся бараніць ад паёняка чалавека. Цяпер яму самому дзіўна стала, чаму ён неўзаметку апошнімі часамі пакінуў расказваць знаёмым пра свой геройскі партызанскі ўчынак. Усё яму здалося такім звычайным і нармальным, што ён і Вэню цяпер расказаў усё так, як гаварыў тады ў Рыльскага хаце. Паверыў Вэня ці не, Сашка не цікавіўся дазнацца, яму важна было пасмакаваць рамантычныя дэталі падзей. Вэня выслухаў і павёў далей справу:

— То ты даставай усялякія паперкі, пацверджанні сведак, можа шрам ад раны астаўся,— усё збяры разам і выклапачы дакументы, што ты ў партызанскім руху ўдзельнічаў.

Сашка паглядзеў на руку:

— Не, шрама не асталося.

— Ах, ліха на яго, нядобра. Але нічога, людзі ж ведаюць, падбяры сведак. А сам у мяне за сведку пабудзь.

— У цябе? Я ж не бачыў.

Ён не дзівіўся таму, дзеля чаго будзе сабе шукаць сведак, а наконт Вэні — душа яго ўпіналася.

— Ты не бачыў самога факту, але справу ж ведаеш. Не забыўся ж, які тады быў дзень — рэзрух, улан панаязджала, афіцар'ё па хатах пайшло, грабіць пачалі, уночы вёску спалілі — твой бацька пра пажар мне расказваў. У гэтай калатні і я быў. Я два кабаны вёз — то

мала, што яны іх у мяне адабралі, яны яшчэ мяне страшна ранілі. Не за кабаны, не. Не за грошы, якія ў мяне ўсе адабралі, не. А за тое, што я ім не спадабаўся.

Сашка засмяяўся:

— Адным словам, я ведаю — табе трэба, каб партызан пасведчыў такі, як я. Але ж ты навёў быў на Рыльскага палякаў, цябе Рыльскі шукаў?

Вэня штучна рагатнуў, хоць на лбе ў яго і выступіў пот.

— Гэта выдумка.

— Якая ж выдумка, калі ўсе гаварылі.

— Калі тут і была кропля праўды, то людзі гавораць, што гэта не кропля, а возера. І апроч таго — я пакажу свае рубцы ад ран і пасведчу за цябе. Тут выходзіць так: нават тыя, што ніколі не былі партызанамі, а толькі збоку паглядалі, пайшлі ў славу, бо савецкая ўлада нават за самую маленькую справу дзякуе, а мы з табой, сапраўдныя партызаны, так і астанемся аціраццa каля чужых спін, а самі наперад не выйдзем. Вельмі ўжо ты душу сваю ў крук гнеш. Так і з'ясі зубы на пабягушках, пісарчуком.

— Чакай, чаго ты на мяне так?

— А гэтай Любы з дзіцем я да цябе не дапушчу.

Назаўтра Сашка зноў успомніў усе дэталі справы, і ў міліцэйскай канцылярыі таксама, як калісьці ў Рыльскага хаце, пачулі — «дрык-дрык, чэк-чэк!». Цяпер ужо шпарчэй як тады Сашкава фантазія дадавала да справы новыя дэталі і эпізоды, так што аж сам Вэня Шпулькевіч пачаў пасміхвацца, гледзячы на свайго маладога друга. Так паміж імі ўсталявалася самая сапраўдная дружба, і мела яна пад сабою цвёрды грунт. Іх абодвух апанавала кіпучая дзейнасць, і Сашка ўбачыў, што народная мудрасць ёсць сапраўды мудрасць: гэта праўда, што пад ляжачы камень нават і вада не пацячэ. Камень больш не ляжаў на месцы, а пачаў варушыцца. Ніякая змрочнасць не засцілала далягляду перад вачыма двух дружбакоў. Нават і Люба больш ім не траплялася на вочы. Валі Іваноўскай спатрэбілася некалькі часу, каб яна раскусіла Любу па-сапраўднаму, знайшла ў ёй новыя якасці і праз яе (чаго ніяк не чакала) убачыла і пазнала новыя грані жыцця. Не ўсё так проста на свеце! Можна сказаць, што праз гэта практычная натура Валі Іваноўскай узбагацілася.

Валя мела тады дваццаць тры гады. Гэта была душа

ясная і галава моцная. Яна пражыла дзіцячыя і першыя гады юнацтва ў маёнтку і, пакуль бацька не аддаў яе вучыцца,— кожны дзень насіла яму абед у кузню. Так было там узаконена; абед — паўгадзіны, а кузня далёка ад хаты. Малады кавальчук, бацькаў падручны, пачаў неішта вельмі зарана на яе прыглядацца: у рухавым падростку ён пазнаваў будучую прыгожую жанчыну. Гэты кавальчук быў бландзіністы, тонкі і стройны. Калі ёй было васемнаццаць год, яна першы раз прыехала дадому на двухтыднёвыя вакацыі, была дома за госцю і ўжо не з абавязку, а з ахвоты панесла бацьку абед. Кавальчук раптам убачыў, што перад яго вачыма не падростак, а як мае быць сфармаваная дзяўчына. Ён на яе так паглядзеў, што яна пачырванела, аднак жа крыху замарудзіла, калі трэба было ісці. Кавальчуку раптам спатрэбілася ісці цераз двор к тачылу і якраз тады, калі яна пайшла. Вельмі можа быць, што яны адно аднаго зразумелі без слоў.

— Я падыду ўвечары пад вашу хату,— сказаў ён.

— Чаго? — бліснула яна вачыма і больш нічога не сказала.

Вечарам кавальчук трымаў яе за рукі — абое нясмелыя і збянтэжаныя. Яго мучыў сум, што цяпер цісне мароз і навокал горы снегу. Назаўтра яна паехала і ўжо ўночы, у горадзе, злезшы з воза, скарчанелая і змучаная доўгай дарогай, адчувала на сваіх руках яго рукі і бачыла пасму белых валасоў над яго брывом. Пад дзень, адагрэўшыся ў пасцелі, яна адчула неспакой у сэрцы і млосць у целе. На сваіх руках яго рукі яна яшчэ ўсё адчувала. І такое адчуванне варочалася да яе часта праз некалькі тыдняў. За ёю хадзілі хлопцы, але ніводзін не быў падобен да яго. Калі ўсе ўлетку раз'язджаліся, яна сказала сваім блізкім сяброўкам:

— Я яшчэ тры гады буду круціць хлопцам галовы, а тады выберу таго, каторы мне да густу, і пайду за яго замуж.

Прыехаўшы дадому, яна кавальчука не ўбачыла: ён быў у арміі. Праўда, пачуццё да яго прытупілася, але зусім не прайшло. Вядома, тут справа была не ў якіх-небудзь асаблівых яго якасцях, а толькі ў тым, што гэта быў першы хлопец, які даў ёй зразумець, што яна ўжо выйшла з падросткаў, і разварушыў яе дзявочыя імкненні. Пасля, не скончыўшы навукі, ёй прыйшлося з бацькам уцячы ў Мінск. Тут яна часамі спатыкала старых знаёмых, але вельмі цеснай дружбы ні з кім не мела.

Яна думала аб бацьку і сабе. Можна сказаць, бацька аставаўся на яе рукі — ён быў ужо стары. Яна бачыла, як жыццё пасля вайны пакрысе ў спакайнейшыя ўваходзіць берагі, часамі ў яе ўзнікала думка вучыцца далей, але разам з тым яна рвалася да настаўніцкай працы — тут была пэўная рамантыка, хоць сядзела яна ў ёй неглыбока. Яна хадзіла ў кіно і адным дыхам перачытвала кнігі. Яна думала так: «Вайна скончылася, цяпер з кожным годам жыццё будзе паляпшацца, можна пайсці вучыцца, а калі вельмі цяжкая навука будзе — я ўжо і так магу знайсці добрую працу». Далей гэтага яна думкамі не забягала. Калі яна ўбачыла Любу і соннае дзіця на стале пры вядры і даведалася, што больш нікога і нічога ў Любы няма, яе агарнуў жах — як, напэўна, страшна так жыць! Сэрца яе ад болю сціснулася, і яна, ведаючы ўжо, дзе жыве Шпулькевіч, з абурэннем да яго павяла туды Любу. Ведала, што, напэўна, яны ні да чаго не дагаворацца, і тады яна, назваўшыся Любінай сяброўкай, пойдзе да яго смела і хоць адхвошча яго па твары. Убачыла яна Любу назаўтра пад вечар на занятках. Люба ўжо чытала асобныя словы. З заняткаў пайшлі разам і зайшлі да Любы. Дарогай Валя запытала:

— Што ён табе сказаў?

— Дарэмна я да яго хадзіла, ён не ведае, дзе жыве той.

— Хто той?

— Бацька дзіцяці.

— Чакай, хіба гэта не Шпулькевіч? Чаго ж ты мне адразу не сказала? А гэты не пры чым?

Злосная Валя ўвайшла ў Любіну кватэру, не думаючы, і толькі там агледзелася, што яе акружае. Столь гатова была ўпасці, але яе трымалі тры свежа абстругания жардзіны. Пабітыя шыбы ў акне былі старанна паасклейваны тоўстай паперай. Сцены нядаўна пабелены, яшчэ нават і рэшта вапны стаяла ў вядры. Валя не ўбачыла на ложку тых ранейшых лахманоў, аднак жа тут яшчэ многа было такога, чаму яна здзівілася, і цяпер таксама зашчымела яе сэрца.

— Тут гэтае дзіця радзілася?

— Тут.

— А хто пры гэтым быў?

— Нікога.

— Гэта цяжка раджаць? — ужо з чыстай дзявочай цікаўнасцю пытала Валя.

— Большай пакуты, мусіць, на свеце няма. Але ў мяне гэта было таму, што я крыху не данасіла, я натрудзілася страшэнна была, і, напэўна, ад гэтага мне так цяжка было.

— Як натрудзілася?

Люба скінула верхнюю вопратку і сцягла з пляча кашулю. На плячы была зусім чорная пляма.

— Што гэта?

Люба расказвала доўга, і Валя не сказала ніводнага слова, пакуль не дaслухала да канца.

— А чаму ты так цярпела?

— Каб я пусціла дошку, яны ўбачылі б усё, што там рабілася.

— Цябе ўсё адно гаспадар прагнаў. То чаго ты перадім таілася?

— А Рыльскі?

— Рыльскі не мог быць не ўзброены, ён уцёк бы і яшчэ нагнаў бы жаху на млынара з яго шваграм.

— Я не ведаю, як табе тут сказаць. Рыльскі быў са мною, як брат родны, а ўсе да мяне, як звяры. А яму і ўсім там трэба было есці, у лесе седзячы. А каб убачылі, што Рыльскі ў млын прыходзіць, гэта нашкодзіла б і яму, і ўсім ім.

З гэтага моманту Валя пачала бачыць у Любе не тое, што бачыла раней: яна навылёт не відна, і не такое простае ў яе жыццё, і, можа быць, нават не вельмі ёй гэтая Валіна ласка і патрэбна — шуканне Шпулькевіча, пустыя агульныя словы, з якіх нават і не відаць, што ў яе, у Валі, па-сапраўднаму балела сэрца, калі яна бачыла яе дзіця пад паветкай на стале. Дружба сапраўдная пачынаецца тады, калі людзі як мае быць ведаюць адзін аднаго. Валя адчула сябе тут быццам лішняй і непатрэбнай. Тут жыццё не такое прымітыўнае, а складанае, хоць і месціцца яно ў шалупінні прымітыўнай просталінейнасці. Валя стаяла пры акне і глядзела, як Люба мыла сына, як надзявала на яго чыстую кашульку, як пасля насіла яго па хаце і спявала яму, забаўляла і ўсміхалася. Нейкая работа ішла ў Валінай душы, яна раней глядзела на Любу зверху ўніз, адчувала сябе сапраўды Любінай настаўніцай, цяпер жа глядзела на яе знізу ўверх і была настаўніцай толькі ў той меры, у якой вучыла яе чытаць і пісаць. Адчуваючы перад Любай нейкую незразумелую віну, яна падала ёй руку, хочучы хутчэй пайсці.

— А можа, ты пасядзела б,— сказала Люба,— у мяне

няма чым частаваць, але я дастала цукру і чаю ў мяне ёсць заварыць. А пайковы хлеб я з сабою прынесла. Ты выбачай, ты гэтулькі мне зрабіла! — Любін твар быў ясны.

— Я зайду гэтымі днямі.

Люба падышла да акна і доўгім позіркам правяла Валю. На твары яе і цяпер ляжалі ясныя рысы. Быццам думкамі сваімі яна толькі цяпер пачала акідаць свае справы і дні. На стале ў яе ляжала кіло тры хлеба, і яна кожны дзень ходзіць на работу, на такую, куды можна браць з сабой і сына. Яна здолела зняць з ложка лахманы і пакласці замест іх пашытую сваімі рукамі ватовую коўдру. Самае важнае тут было наперадзе, момант гэты падыходзіў. Яна наняла чалавека, і ён падмацаваў столь, яна выбеліла сцены — быццам рыхтавалася да гэтага моманту. Ці момант гэта толькі? Можа, ён, пачаўшыся, будзе жыць заўсёды, вырастаючы з кожным годам у вялікую сілу? Ёй ужо здавалася, што заўсёды так было і трэба, каб было: сын і работа, і з кожным месяцам што-небудзь новае з'яўляецца ў дзіцяці. Яго твар набывае сталыя рысы, і ў іх пачынае ажываць сэнс. Кожны ясны дзень, калі заходзіць сонца, ружовае святло кладзецца на нязграбнае акно і змяняе ўвесь выгляд і сцен, і столі. І гэта дзейнічае на Любіну душу — задуменнасць і журботнасць апаноўваюць ёю, і яна рада гэтым хвілінам: цяпер работа не перашкаджае ёй быць толькі з сынам. З некаторага часу гэтыя адвячоркі былі тымі момантамі, калі яна першы раз за ўвесь дзень ад самага ранку пачала браць сына на рукі: яна змяніла работу і кожную раніцу заносіла дзіця ў яслі. Аднойчы ў такі адвячорак зайшла да яе Валя.

— Я табе скажу навіну,— загаварыла яна,— учора я пахавала бацьку. І я падумала — да каго я магу цяпер пайсці, і толькі пра цябе думала (у яе вачах стаялі слёзы). У мяне ўвесь час стаіць у вачах тваё чорнае плячо, і я вельмі рада, што мой бацька вымушан быў уцячы адтуль сюды... Ты гадуеш сына, і як ты яго раджала — я ніколі не забуду твайго расказу. Які ты чалавек!.. Я цяпер не ведаю, што буду рабіць далей, так хочацца жыць!

— Чаму ты так гаворыш, быццам асуджаная на смерць. Ты ж жывая, жыві!

— Я такая сёння пасля страты бацькі.

Яны праседзелі доўга, не запальваючы агню. Папоцемку Люба накарміла сына і паклала спаць. Валя адчувала з гэтага моманту вялікую блізасць да Любы. Чаго ніколі раней не было, на развітанні яны пацалаваліся.

Люба не заўважала хады часу. Было лета, была восень. Кожную раніцу яна заносіла дзіця ў яслі, была на рабоце, прыходзіла дадому, ішла па дзіця. Аднойчы ёй у яслях сказалі, што сын ішоў, трымаючыся за руку нянькі. Прынёсшы яго дадому, яна паставіла яго на ногі, узяла за рукі і кранулася з месца. Ён пачаў перабіраць нагамі і рушыў за ёю. Яна хапіла яго на рукі і закружылася на адным месцы, адчуваючы сваёй шчакой лагодную мяккасць яго твару. Яна гатова была плакаць ад радасці: ён рабіўся нармальным дзіцем — яму даўно была пара хадзіць, і яна тужыла, што ён не можа станавіцца на ногі. І кожны раз, калі яна бачыла чорную лапіну на сваім плячы, яна думала пра гэта. І як толькі прыйшла Валя, яна паказала ёй, як ходзіць яе сын. Валя не адчувала ўсёй Любінай радасці, але глядзела на малога, як ён ужо ішоў сам, ні за што не трымаючыся.

У гэты вечар Валя была ўзбуджана як ніколі.

— Я зусім выязджаю з Мінска. Дамаглася таго, пра што думала: я сапраўдная настаўніца. Паеду ў школу, самую сапраўдную. Сёння далі мне адказ як мае быць. Я табе буду пісаць, ты мне таксама. Я ж цябе навучыла пісаць?

Яна смяялася і трэсла за плячо Любу.

— А куды ты паедзеш?

Валя назвала горад.

— Вялікі, такі як Мінск. Я вельмі рада.

Яшчэ перад прыходам да Любы ў Валі выспеў у галаве план. Калі раней яна нешта падобнае рабіла, то гэта было са спачування да Любы. Цяпер гэта была быццам і яе ўласная справа, хоць яна і не задумвалася, ці вельмі гэта патрэбна і нашто ўсё гэта. Як толькі яна выйшла ад Любы, зірнула на гадзіннік і ўбачыла, што да вечара яшчэ гадзіны дзве. Яна пайшла шпарка і менш як праз гадзіну дайшла да Шпулькевічавага дома. Яна была ўзбуджана сваімі маладымі гадамі, пачаткам новай паласы ў сваім жыцці, яснотамі сухой восені, невядомым і доўгачаканым — што было наперадзе. Кроў бурліла ў яе жылах. «Яшчэ калі вучылася — марыла, калі гэта надыдзе такі час... Перад ад'ездам паспрабую — Шпулькевіч, можа, ведае яго адрас, буду прасіць, можа, мне скажа... Ах, нават не запытала ў Любы, як ён завецца. Ну, нічога, гаварыла мне, што малады стальмах. Цяпер хоць з нажом да горла — не хоча нават і ўспамінаць пра ўсё гэта... Невядома, калі з ёй зноў убачуся, можа, на доўгія гады развітаюся.

Апошні раз паспрабую дзеля яе...» — так думала яна, увайшоўшы ў Шпулькевічаў двор.

Ад двара нізкімі шчыкетамі быў адгароджан сад. Там ужо гусціліся першыя адценні вечара. Валя ўзышла на ганак і ўбачыла на дзвярах замок. Сышла з ганка і зірнула навакол: можа, Шпулькевіч дзе на двары? Тут яна ўбачыла ў садзе на лаўцы маладога чалавека. Выгляд яго здзівіў яе: ёй у першы момант здалося, што яна бачыць перад сабой таго кавальчука, які з'явіўся быў на яе дарозе ў самым пачатку яе юнацтва. Нейкія рысы ці то ў постаці, ці то ў позе, у якой ён быў цяпер, нагадвалі таго. Праз некалькі хвілін яна выразна бачыла, што тут падабенства сапраўды ёсць — у колеры валос і форме галавы. Убачыўшы яе, хлопец адразу падышоў да агарожы і ўзлёг на яе грудзьмі. Далёкія адзнакі суму па кавальчуку ўстрапянуліся ў яе сэрцы, і яна стала на адным месцы, трацячы на момант думкі.

— Вы да Шпулькевіча? Яго няма, я таксама яго чакаю.

— А дзе ён? — запытала яна, абы не маўчаць, гатовая ўжо ісці.

— Я не ведаю.

Ён ужо выйшаў на гэты бок брамкі і стаяў каля яе. Яна бачыла, што гэта адзін з тых тыпаў, які кожную жанчыну, якую бачыць, ацэньвае па-свойму. Цяпер ён ацаніў яе з першага моманту, і гэтая ацэнка была добрая. Валя належала да таго тыпу дзяўчат, якія падабаліся гэтаму хлопцу. Усім сваім інстынктам Валя зразумела гэта адразу. Позірк яго не сыходзіў з яе, і ў душы яе накіпала злосць, паралізаваная адчуваннем таго, што яна яму спадабалася. Таму яна нічога жорсткага і не сказала, калі ён ветліва з ёю абышоўся.

— Ідзіце ў сад на лаўку, там пачакайце.

— А вам ужо надакучыла чакаць? Мусіць, ведаеце, што ён скора не прыйдзе.

— ...Не, я таксама буду яго чакаць, я тут як свой чалавек. Калі ласка.

Ён адчыніў брамку ў сад, яна выйшла на вуліцу і стала каля кутковага акна. Ён выйшаў за ёю. «Галава, як у кавальчука і голас падобны». Душа яе заныла. Яна паволі пайшла і ведала, што ён зараз рушыць следам. Сапраўды, ён дагнаў яе праз хвіліны дзве.

— Чаму ж вы не хочаце чакаць?

— А вы доўга чакалі?

— З гадзіну.

— То і яшчэ чакайце. Вы хочаце, каб і я час траціла?

— А вы вельмі часу шкадуеце? Скупая.

— А вы шчодры?

— Я? Як для каго.

Так, перакідаючы пустыя словы, яны апынуліся каля вялікага сквера і ўвайшлі ў яго. Праз дзён пяць Сашка позным вечарам забег да Вэні. Ён быў узбуджаны і гаварлівы:

— Гэтымі днямі я да цябе заходзіў і чакаў цябе ў садзе на лаўцы. Дзе ты быў? Я табе хацеў расказаць, хацеў параіцца з табой — ці ехаць, ці не? Мне было прапанавана, выбіралі кандыдатуру. А назаўтра назначылі. Нічога, чын не малы, начальнік. Я згадзіўся ехаць. Праз чатыры дні павінен быць на месцы. Усё вельмі добра пайшло. Горад такі самы, як і Мінск, так што нудна не будзе. Я, прызнацца табе, і рад, што з Мінска выеду: ты кажаш, што яна выедзе ці выехала з дзіцем? Але ўсё ж можа з'явіцца ў Мінск мяне шукаць, я ж мінскі. А так — не знойдзе.

— Калі ўжо ты выязджаеш, то скажу праўду: я хацеў, каб ты быў спакойны, гэта патрэбна было нам абодвум, калі нам трэба было дзейнічаць. Дзейнасць наша скончылася добра, ты выходзіш у чыны, і ў мяне наклёўваецца, я, мусіць, пайду па каапeрацыі, я люблю таварную справу. Цяпер скажу — яна ў Мінску, я так сабе гаварыў, цешыў цябе.

— Тым лепш, што я еду.

— Я астаюся тут, мне даручаюць зрабіць вялікую прадуктовую аперацыю. Мы цяпер абодва заслужоныя людзі і партызанскія дакументы маем. У цябе, праўда, шрам на руцэ не астаўся, але ў мяне на грудзях знак выразны. Як ты думаеш, калі ўсё цвёрда будзе,— каб у партыю падаць заяву?

Яны абодва былі ўзбуджаны радасцю жыццёвых удач, перайшлі ў Вэнеў куткавы пакой і выпілі ад шчырага сэрца, пасля пацалаваліся. Сашка быў зусім адкрыты перад Вэнем:

— Я, ведаеш, нядаўна пазнаёміўся з дзяўчынай — от баба! І імя такое, ведаеш,— Валя. Каб ты бачыў, што за яна! І прыгожая, і з усіх бакоў. І якраз жа паехала на працу ў гэты самы горад.

— У які?

— Ну, у які і я еду. Буду заходзіць да яе, што б там ні было. Я ўжо з ёю разы тры ў кіно хадзіў. Паходка ў

яе — каб ты бачыў! Як ступіць нагою — дык уся як ёсць адчуваецца.

На трэці вечар пасля гэтай гаворкі Вэня Шпулькевіч спацыраваў на пероне пасажырскага вакзала і нецярпліва азіраўся. Поезд стаяў, гатовы да адыходу. Нарэшце выйшаў Сашка Стафанковіч.

— Што ты так позна прыйшоў, а каб білета не ўзяў, такая чарга стаіць.

— Э, глупства, з такімі дакументамі, як мае, ды яшчэ ў чаргу станавіцца! Пляваў на ўсялякую чаргу, прыйшоў і ўзяў.

— То і я ж магу так,— расплыўся ад усмешкі Вэня.

— Можаш і ты. Ну, аставайся здаровенек. Ах, як я рад, што еду.

Вэня махнуў шапкай. Сашка стаяў пры акне ў вагоне, і, як толькі поезд крануўся, на душы ў яго стала страшэнна лёгка: з кожнай секундай ён аддаляецца ад таго месца, дзе жыве яна і з ёю нейкая малая істота, агідная і непатрэбная. І яна, Люба, гэтая дурная дзеўка, уздумала яшчэ шукаць яго! Станцыі праз дзве ён пра гэта ўжо не думаў і радасна імчаўся ў сваю будучыню. Яна вабіла яго. Назаўтра к вечару ён ужо асталяваўся і на працы і на кватэры, так што к дванаццаці гадзінам ночы быў ужо вольны, сядзеў у ботах і галіфэ перад люстэркам, разглядаў дробны прышч на губе і думаў: «Каб не так позна, можна было б яшчэ схадзіць да Валі. Ах, я ж не ведаю яе кватэры. Прыйдзецца заўтра зайсці да яе ў школу». І сапраўды, назаўтра ён зайшоў і правёў яе да самай кватэры, так што ён ужо ведаў, дзе яна жыве. Неўзабаве ён пісаў Вэню першы свой ліст, там была такая фраза: «я ўвесь як у тумане ад гэтай дзеўкі». Нарэшце ён пачаў бываць у Валі кожны вечар. І дзіўная справа: калі ўвечары ён ішоў ад яе, калі да наступнага вечара канчалася да яе яго блізасць, на некалькі момантаў з глыбіні істоты ўяўленне ўзнімала колішнія хвіліны блізасці да Любы. Але гэта тут жа бясследна і раставала. Самахоць ён яе ніколі не ўспамінаў, як такую, розум яго дыктаваў яму да Любы нянавісць: яна можа яго знайсці і зрабіць яму прыкрасць. І як ён быў удзячан Вэню Шпулькевічу, што той даў ёй самы рашучы адказ. І часта яго трывожыла думка, што яна недзе пра яго думае, мусіць, напэўна не кідае думкі знайсці яго.

Люба сапраўды пра яго думала. От што раз было. Ён і Валя выехалі з Мінска ўвосень, а гэта быў ужо канец

зімы. Мінскія вуліцы былі мокрыя ад апошняга скіданага ў дварах снегу. Перад днём адпачынку Люба прыйшла з работы раней. Шпарка збегала яна ў яслі па сына і несла яго паволі. Гадзіны за дзве да свайго заходу сонца выбілася з-за шэрых засцілаў нізкага неба, заходняя старана яго зазіхацела першым веснавым блакітам, і адразу ўсё жывое адчула, як лагодна грэе сонца і як ясна яно свеціць. Люба яшчэ і на сваім двары стаяла нейкі час, трымаючы на сонцы свайго малога. Пасля яна заспяшалася ў сваю прыбудоўку і ўзялася за справу. Сына яна пусціла бегаць па падлозе, а сама ўзяла са стала заверчаны ў газету пакунак і раскруціла яго. Дастала адтуль новае прасцірадла, навалачку і падкоўдранік. Ясным позіркам яна разглядала гэтыя рэчы, пасля з таго самага пакунка дастала бялізну і таксама разглядала. Хапіла на рукі сына, падкінула яго ўгару, паставіла назад на падлогу і ўзялася грэць ваду. Тым часам, пакуль вада грэлася, яна падняла з ложка сяннік, вынесла на двор і выпыліла яго. I перад тым, як пакласці яго назад на ложак, зняла адтуль кучу лахманоў — тых, што раней былі ёй замест пасцелі. Тут былі яшчэ і тыя (іх было найбольш), што прынесла ад млынара. Цяпер яны ляжалі каля парога вялізнай кучай. Яна выкінула іх у сенцы ў самы цёмны кут. Ужо без лахманоў паклала на ложак сяннік, накрыла яго новым прасцірадлам, нацягнула на падушку новую навалачку, паклала коўдру з новым падкоўдранікам. Пасля пачала мыць галаву, маючы асалоду ад паху мыла. Скінула з сябе зрэбную і палатаную бялізну і надзела новую, тонкую. Адзеўшыся, яна памыла і адзела сына, села на ложак, перажываючы ўсім целам вялікую лёгкасць ад чыстай бялізны. Зробленыя і сабраныя грошы дазволілі ёй скінуць з сябе рэшты тых лахманоў, якія вяліся яшчэ з часоў млынара. У той меры, як спадалі яны з яе, яна быццам нанава нараджалася на свет. Нязведанае ніколі за ўсё жыццё адчуванне лёгкай і чыстай бялізны запоўніла яе ўсю, першае, можа, на жыцці адчуванне чыстаты туманіла галаву. Яна сядзела доўга, быццам у забыцці, і толькі, калі пастукалі ў дзверы, яна схамянулася і раптам набыла здольнасць заўважыць тое, што раней было абыякавым — што і падлога гнілая (чорная і з дзіркамі), што і ложак з іржавага жалеза, што і стол ледзьве трымаецца, прыбіты да сцяны цвікамі. Увайшлі яе таварышкі з работы.

— Мы згаварыліся,— сказала адна,— прыйсці пазней, чым казалі табе, каб ты мела час адпачыць. Мы таксама

пакуль пераадзяваліся, пасля збіраліся разам. А от табе тое, пра што мы не гаварылі,— і працягнула да Любы штосьці, закручанае ў паперу.— Толькі не глядзі, пагля-дзіш тады, калі мы пойдзем.

Яны былі ўсе маладыя, маладосць любіць таемнасць, сакрэты і сюрпрызы. Яны сядзелі з гадзіну, разглядалі яе сына і пыталі, гэтыя дзяўчаты, ці цяжка раджаць. Як пайшлі яны, Люба кінулася глядзець, што яны прынес-лі — там быў поўны камплект бялізны і верхняга адзен-ня яе сыну. Яна доўга стаяла, заклаўшы рукі за шыю, і мноства ўсялякіх пачуццяў поўнілі яе, пачуццяў самых супярэчлівых. І смутак, і радасць едналіся разам, і пры-ступы бурнай весялосці, і ціхія струмені лёгкай журбы. Было цёмна, ледзь даходзіў сюды грукат дзесьці з вуліцы. Яна запаліла агонь, пачакала, пакуль засне сын, выйшла з лямпай у сенцы і пачала звязваць лахманы, каб цяпер увечары, без людскіх вачэй, вынесці іх адгэтуль назаў-сёды і дзе-небудзь дзець іх. Быццам усё жыццё нанава пачалося, так праходзіла яно перад яе вачыма. Вось рэшт-кі той спадніцы, падобнай да мяшка, у якой яна траціла свой чалавечы выгляд. От рэшткі той злямцаванай кудзелі, якая адбірала ў яе дзявочае хараство і прыродную прыга-жосць. Нарэшце яна дабралася да самай драбязы: рукаў з нейкай вопраткі, кашуля — такая, што нават і тады яна не магла яе адзяваць, рэшткі палатнянай ватоўкі... Яна несла ўсё гэта калісьці адтуль на плячах — як жа чалаве-ку выбірацца ў сваю жыццёвую дарогу, нічога не меўшы за плячыма? І от, сярод усяго гэтага агіднага зборышча, ёй натрапілася ў рукі адна рэч. Гэта быў зусім змяты і пацёрты заклееены канверт; яна распрастала яго рукамі і ўбачыла гатовае, заадрасаванае пісьмо. Не ведаючы, што гэта такое і ніякага значэння гэтаму не надаючы, яна адкінула яго к дзвярам, забрала лахманы і панесла. Праз хвілін дзесяць яна вярнулася з пустымі рукамі, узяла з падлогі лямпу і пайшла к сабе. Ужо адчыніўшы дзверы, убачыла кінуты канверт, падняла і паклала на табурэтку, на якую паставіла лямпу. Раздзелася, лягла ў свежую пас-цель, і сапраўды-такі ніколі большай асалоды яна не пе-ражывала. З падкладзенымі пад галаву рукамі яна ляжала і чула вялікую лёгкасць ва ўсім целе. Ужо хацела нату-шыць агонь, працягнула руку да лямпы і ўзяла канверт. Зімой тысяча дзевяцьсот дзевятнаццатага года яна, так-сама лежачы, збітая старым Стафанковічам, трымала гэты самы канверт у руках і не магла нічога на ім прачы-

таць. Цяпер яна чытала. За гэта яна заўсёды была ўдзячна Валі Іваноўскай. Таксама як лёгкасць чыстай бялізны поўніла яе цела фізічнай асалодай, так і тут была своеасаблівая асалода. З літар складаецца слова. Слова піша чалавек. Напісанае чалавекам слова праз сотні і тысячы год можа загучаць вялікай сілай. Чалавек гаворыць слова, яно прагучыць і сціхне. Хто яго не чуў — ніколі больш не пачуе. Хто чуў — можа забыць. Напісанае слова гучыць заўсёды, па-свойму, але гучыць. Яно плыве, яно даносіць свой сэнс праз час, праз ход часу. Люба чытала на канверце, і раптам вочы яе сталі шырокія. На канверце выразна значыўся Стафанковічаў адрас. Гэта было тое пісьмо, якое Стафанковіч ад млынара пісаў сваёй сям'і, якое Вэня Шпулькевіч згубіў, якое аддаў Любе хлапчук, якое яна кінула ў скрынку са сваімі лахманамі, якое яна з імі прынесла сюды. Люба ўжо сядзела на ложку, і намеры яе, яе ўпэўненасць выплывалі з новага пачуцця, якое зусім ужо заўладала ёю. Гэта было новае пачуццё. Крыніцы яго былі і ў тым, што на ёй была чыстая, новая зусім бялізна, і ў тым, што сядзела яна на чыстай пасцелі, і ў тым, што лахманы ўжо далёка ад яе, там, дзе ім сапраўднае месца, і ў тым, што яна сама прачытала на канверце, і ў тым, што ў яе ёсць дружба, шчырая і глыбокая. «Няхай ён прыкладзе свой клопат, каб дзіця заўсёды было ў такой чыстаце, каб яго маленства з гэтага дня ўжо заўсёды праходзіла без таго бруду і лахманоў, у якія ён адразу трапіў, нарадзіўшыся на свет. Няхай ён не памятае іх, няхай яны не астануцца ў яго памяці».

Назаўтра яна ўзяла Стафанковічава пісьмо і пайшла. Стары Стафанковіч яе не пазнаў. Усміхаючыся, яна працягнула яму пісьмо:

— От тое пісьмо, якое некалькі год таму Шпулькевіч згубіў. Я яго знайшла.

— А хто ж вы такая?

— Я — тая Люба, што была ў млынара, дзе вы млын правілі.

— Э, то даўно ж гэта было. Цяпер я вас як жывую бачу. А вы, сказаць, мала і змяніліся, адно што адзежа ў вас цяпер зусім інакшая. То гэта і дзіця ваша? За кім жа вы замужам? То хіба сядайце. Дзе ж самі, што параб-ляеце?

— Я не замужам. Гэта дзіця вашага Сашкі.

Стафанковіч зрабіў два крокі назад і разявіў рот.

— Гэта праўда, ці гэта вы — абы сказаць?

Ён зусім сумеўся, зусім збянтэжыўся.

— Чаго вы так спалохаліся? Я нічога ад вас не хачу, жывіце сабе спакойна. (Яна смяялася.) Я прыйшла да яго, да вашага сына. Скажыце, чым ён займаецца, дзе ён і хто ён цяпер.

Стары Стафанковіч адумаўся і пацвярдзеў:

— А каб ён свету не ведаў, дзе ён, урвіцель, прайдзісвет. Ужо гадоў тры як адцураўся мяне, ніякага слыху не падае.

— Скажыце яго адрас, калі яго тут няма. Вы самі стары чалавек, падумайце, гэта ж ваш унук, няўжо ваша сэрца не будзе балець з-за таго, што ён гадуецца ў голадзе і брудзе?

— А чым гэта можа быць даказана, што гэта мой унук? Дзе ж ты дагэтуль была?

— Я яго шукала і не магла знайсці.

— А хто ведае, з кім ты там гуляла!

Жудасная грымаса прайшла па Любіным твары. Тады ёй так не балела, калі той раз Стафанковіч шпурнуў яе пад парог. Цяпер яго словы секанулі яе мацней.

— Добра. Калі вы са мной нават пагаварыць па-чалавечы не хочаце, то і я з вамі гаварыць не буду. Вас я прымушу сказаць, дзе ён, а яго прымушу абыходзіцца з сваім сынам інакш.

— Ён таксама парцейны! — адсек Стафанковіч, гайдануўшыся на сваіх доўгіх нагах.

— А вы ж казалі, што нічога пра яго не ведаеце?

— А чорт яго забяры, шукай яго сама, я яго ведаць не хачу, такога сына! Што мне да яго! Яго пры мне няма і не будзе, нават і ў Мінску няма, а дзе — перуны яго ведаюць.

Ён сеў на нізенькі кухонны табурэт і нарыхтаваўся доўга маўчаць. Яна пайшла. Ён выйшаў за ёю на ганак. Пайшоў дождж, і ёй не было як ісці. На ганку яны моўчкі прастаялі хвілін дзесяць. Нарэшце ён нейкім ліслівым і глухім голасам яшчэ раз сказаў:

— А чым жа гэта можа быць даказана?

— Я і даказваць перад вамі не буду. Памятаеце, як у яго была рука скрываўлена? Ён не даваў мне праходу, і я яго адапхнула ад сябе, а ён аб вілы руку абадраў.

— А польскі салдат штыхом?

— Занадта мала я падобна на польскага салдата.

Стафанковіч пачырванеў і змоўк, як прыглушаны гарматай; як пабіты стаяў ён і маўчаў: да самых найменшых

дэталей ён успомніў, як тады шпурнуў яе пад парог. Пакутуючы ад маўчання і ад дажджу, ён не ведаў, што ў гэтыя хвіліны рабіць, як трымаць сябе. Да гэтага яшчэ далучалася нейкае цьмянае пачуццё: «Можа, гэта і сапраўды мой унук на такую пакуту народжан?» І яшчэ была баязлівасць, што пачнецца, можа, справа, што ўсе пачнуць гаварыць. Як наеўшыся мыла ён глядзеў кудысьці пад сцяну свайго скляпка. Дождж не пакідаў сеяцца. Так ён мог цадзіцца круглыя суткі. Стафанковіч, мыляючы губамі, сарваў з сенечнай вешалкі нейкую старую вопратку і падаў Любе.

— Каб дождж не прамачыў вашага дзіцяці (на слова «ваша» ён вельмі націснуў). Гэтая адзежына мне не патрэбна.

Люба зразумела і з прыкрасцю да самой сябе пайшла, накрыўшы вопраткай свайго хлопчыка. Дождж пабольшаў. Пакуль яна дайшла да дома, усё было скрозь мокра. Струмені вады ліліся з неба. Дома яна ўбачыла, што льецца са столі. Яна палезла на гару і заўважыла, што дождж засякае ў акенца без шкла ў шчыце, адтуль вада працякае праз столь. Яна хапіла дадзеную Стафанковічам вопратку і заткнула акенца ў шчыце. Адзін рукаў і палавіна футровага вылезлага каўняра звесіліся ўніз з аконнай дзіркі. Гэта было даволі высока ад зямлі, вопратка моцна была ўціснута ў дзірку.

Нянавісць да Стафанковічаў душыла Любу. Яна думала пра свайго бацьку. «Бацька, дзе ты?» — ледзь не вымавіла яна і моцна заплакала.

У тыя дні прыйшоў да яе ліст ад Валі. От што пісала Валя:

«...Я пайшла замуж. Можа, пра гэта трэба было напісаць з самага пачатку, але я, скажу табе праўду, перад табой не пасмела гэтага зрабіць.

Яшчэ ў Мінску, калі я першы раз убачыла яго, я быццам адчула з першага разу, што так здарыцца. Мне здаецца, што ён крыху легкадумны, але я сама і ў сабе адчуваю гэта, праўдзівей сказаць, пачала бачыць сама сябе. Ведаеш, я не ўмею табе выказаць, але замужаства адкрывае жанчыне вочы на самую сябе... Урэшце ўсяго скажу коратка — я рада, што пайшла замуж, мы будзем, мне здаецца, жыць шчасліва, ён мне падабаецца, а я яму, і мы адно аднаго любім... Я ведаеш дзе яго спаткала? У Шпулькевіча. Я заходзіла перад ад'ездам — можа, ён тады гаварыў няпраўду, што не ведае, дзе знайсці таго, бацьку твайго

дзіцяці. Прыйшла і Шпулькевіча не застала, а ён, мой цяперашні муж, таксама чакаў Шпулькевіча. От дзе мы першы раз спаткаліся. Назаўтра я таксама зайшла да Шпулькевіча, дома яго застала, і ён мне даў слова, што не ведае, дзе шукаць таго, бацькі твайго дзіцяці. Як толькі атрымаю пенсію, прышлю твайму сыну гасцінец, усё думаю, што купіць».

Гэтым лістом быў зроблен пачатак перапіскі паміж Валяй і Любай. Перапіска гэта ішла да лета тысяча дзевяцьсот трыццаць пятага года. У кожным разе, калі яна ідзе і цяпер, то ўжо мае зусім інакшы характар, яна не можа не змяніцца, бо змянілася навокал і ўсё. Нават на адну секунду кінуўшы вокам, бачыш не тое, што было нават, скажам, летась. Хоць рукаў і каўнер з Сашкавага фрэнча яшчэ і цяпер матляюцца з акна ў шчыце той прыбудоўкі, у якой Люба нарадзіла сына, але сёння гэта ўжо толькі дэкарацыйны кантраст з усім тым, што ўзвышаецца над ім. Гэты каўнер і рукаў у акенцы дробнай трухліны, перад тварам задняй сцяны Дома ўрада, мае сваю гісторыю тут жа, у гэтай хроніцы. Перапіска паміж Валяй і Любай выразна паказала рух у жыцці гэтых асоб, таму яна для гэтага апавядання і цікавая. У гэтым першым пісьме Люба, напрыклад, задумалася над словам «легкадумны». У апошнім жа сваім пісьме да Валі ўлетку тысяча дзевяцьсот трыццаць пятага года яна пісала пра такія рэчы, якія могуць характарызаваць яе як зусім іншага чалавека. Але пра ўсё гэта ў сваім месцы. У першым сваім пісьме да Валі Люба напісала, што яе пасылаюць вучыцца на рабфак. Пісьмо было простае, кароткае, лаканічнае. Валя трымала яго ў руках і задумалася. Валін муж падышоў да яе і, стараючыся выбіць яе з задуменнасці, успомніў:

— Чаго ты, Валя, заходзіла тады да Шпулькевіча, калі мы з табой першы раз убачыліся? Нашто табе быў Шпулькевіч?

— Мне ён не патрэбен быў, але я ў яго дабівалася даведацца, ці не ведае ён, дзе жыве бацька дзіцяці адной маёй сяброўкі. Калісьці, было недзе ў вёсцы, яна там жыла, а ён прыходзіў з бацькам млын правіць, а Шпулькевіч прыязджаў нейкія, здаецца, свінні купляць.

Валін муж пабялеў, адвярнуўся і прыпаў ілбом да халоднай шыбы.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

У часе, калі пішацца гэтая кніга, нідзе ў Мінску вочы не ўбачаць такой поўнай карціны кантрасту паміж новым і старым, як у кварталах за задняй сцяной Дома ўрада. Як толькі палац быў пабудован, перад ім цэлыя вуліцы набылі раптам выгляд як бы дзіцячых цацак. Асуджаныя на знос дамкі і хаціны гэтых вуліц і завулкаў, ужо не саромеючыся, вымушаны выставіць напаказ сваю местачковую натуру. Паржавелая да дзірак бляха і трухліна дошак, аблезлыя колеры фарбаў і стылёвыя дасканаласці — усё ў гармоніі з маштабам гэтага квартала колішняга губернскага горада рускай імперыі. Перад тварам Дома ўрада гэтыя вулічкі быццам і стаяць на тое, каб рэзаць вока. Тое, што імперскім патрыётам было сапраўдным размахам, перагварылася ў няма-нішто, асела і страцілася зусім. Галоўная ў гэтых кварталах Нова-Маскоўская вуліца калісьці была значнай магістраллю Мінска — яна звязвала заходнія раёны горада з яго гандлёвымі цэнтрамі; людзі, што ўязджалі ў горад з Койданаўскага тракта, цераз Брэсцкі вакзал, траплялі па ёй на Нізкі, рыбны і Траецкі рынкі і на Нямігу. Ад гэтай магістралі цяпер ужо як мае быць павявае мізэрнасцю, хоць яна і не змянілася ў горшы бок з часоў сваёй маладосці. Магістраль гэтая мае дачыненне да сталіцы рэспублікі Мінска, як вол да экспрэса. На ёй ёсць у адным месцы студня-вадакачка, то каб пры ёй паставіў упоперак на ўсю вуліцу карыта і беспераpынна паіў чароды козаў і бараноў, гэтая карціна не парушыла б тут агульнай гарадской гармоніі. Паміж гэтай вуліцай і Домам урада ляжыць узгоркаваты пляц, да часу створаны з паразгароджваных прыватных двароў. Ні то што ў Мінску, але нідзе, напэўна, у рэспубліцы новае і старое не стала так поплеч, сабраўшы такія згусткі сваіх рыс. Тут густа стаяць яшчэ трухлявыя прытулкі, дзе раджаліся, жылі і сыходзілі ў магілу пакаленні. Самы выгляд іх пераносіць думкі ў мінуласць чалавечага жыцця тут. Яны даўно ўжо страцілі свой змест і дастойваюць свае апошнія дні як голая форма. Частка іх відна і з Савецкай вуліцы. Яны маглі б гарманіраваць толькі з дзевяностагоднім рамізнікам, які сядзеў калісьці на скрыпучых козлах растрыбушанай ламачыны і паглядаў праз туман сваіх вачэй, як упрэжаны ў яе конь ледзьве перастаўляе ногі.

Паўз пярэдні фасад Дома ўрада імчацца аўтамабілі, і

частка іх, выгнуўшы свой ход паўкругам па асфальтаваным пляцы, спыняецца каля ўваходаў у палац. Пасля аўтамабілі пераязджаюць упоперак цераз Савецкую вуліцу ў супроцьлеглы палацу завулак з эпічнай назвай Земляробскі і стаяць там.

Аднойчы ў першай палове ліпеня месяца тут, поблізу гэтых машын, некалькі дзён падрад відзён быў Ян Стафанковіч. Адразу відно было, што ён штосьці цяжкае перажыў апошнімі часамі або проста прайшлі гады з таго, калі ён «райманціраваў» млын і калі пасля прымаў у сябе, у дажджысты дзень, Любу Лук'янскую: ён з выгляду вельмі на многа пастарэў, асунуўся, стаў сухі і, здаецца, яшчэ даўжэйшы, як быў. На сваіх дугаватых (напэўна што ад старасці) нагах ён стаяў пад клёнамі Земляробскага завулка, упёршыся плячыма ў агарожу, якая ідзе ад дома педагагічнага інстытута пад так званы дом металістаў. На твары яго ляжала пячаць і збянтэжанасці, і расчаравання, і смутку, і злосці, і надзеі. Падобнае адлюстраванне пачуццяў яго твар меў тады, калі ён старым фрэнчам накрываў Сашкава дзіця на Любіных руках. Ён так пільна быў заняты разглядваннем машын, што не заўважыў таго нешматлікага народа, які гэтым завулкам ходзіць. Ужо дзён чатыры ён прыходзіў сюды амаль што зранку і станавіўся як на варту. Пастаяўшы, ён садзіўся на ганак педагагічнага інстытута, нейкі час сядзеў, а пасля станавіўся зноў. Спачатку ён пільным вокам акідаў машыны, завулак, асфальтаваны пляц перад Домам урада, пасля пачынаў таміцца. Часцей курыў і, выпускаючы з носа дым, кожны раз прыжмурваў вока і глядзеў другім непрыжмураным, як дым рассмоктваецца ў стаячым паветры. Было падобна, што гэта забаўка чалавека, якому або няма чаго рабіць, або надакучыла тое, дзеля чаго ён сюды прыстаўлен. Паглядзеўшы на дым пасля кожнай зацяжкі, ён зноў пераводзіў вочы на машыны і на пляц. Расчуханы пальцамі драбнюткі кліночак барады быў зусім сівы. Нягледзячы на цеплыню ў надвор'і, ён быў апранут у шматкішэнны фрэнч з шэрага тоўстага сукна — адзежына, захаваная яшчэ з часоў ваеннага камунізма — і хромавыя зграбныя боты на высокіх абцасах і з тонкімі халявамі да кален. У выходны дзень Стафанковіч тут не стаяў, машын таксама ў гэты дзень у завулку амаль што не было. Назаўтра пасля выходнага дня ён зноў стаяў на месцы. Адзін універсітэцкі работнік, праходзячы тут па некалькі разоў на дзень, добра ўжо заўважыў высокага

starога на гэтай невядомай варце і аднойчы пачаў азірацца — ці не ляжаць дзе тут поблізу будаўнічыя матэрыялы, за вартаўніка пры якіх гэты чалавек мог бы стаяць. Але нічога тут такога нідзе не было. Універсітэцкі работнік, адышоўшыся далей, яшчэ раз азірнуўся. Раптам ён убачыў, што высокі стары адарваў ногі ад тратуара і пабег упоперак цераз завулак. Туды пад'ехала і стала машына. Кідаўся ў вочы колер яе: ад усіх машын яна выдзялялася тым, што была блакітненькая. Блакітнасць гэтая мела свае асаблівасці, яна была занадта ўжо нейкая бялявая. Стафанковіч дробным трухам падбег да машыны і хацеў ужо штосьці загаварыць з шафёрам, але раптам убачыў, што за шафёравымі плячыма, схаваны за брызентам, шклом і цыратай, нерухома трымаецца страшна шырокі і круглы чыйсьці твар. Стафанковіч, як толькі ўбачыў гэты твар, дык адразу ажывіўся і напоўніўся ўвесь чаканнем: от так яму зараз гэты знаёмы і нават як бы прыяцель і адчыніць дзверы машыны! Што тут гаварыць з шафёрам, калі ў машыне сядзіць свой чалавек! Дзверцы сапраўды адчыніліся, і з гэтай цеснай люхты выплыла мурластае рыла Вэнькі Шпулькевіча.

— Вы мяне ўсхвалявалі,— сказаў Вэня з бяздушнай інтанацыяй гэтую штучную фразу.— Вы так шпарка пабеглі да мяне цераз вуліцу. Пазаўчора я таксама вас бачыў, як вы стаялі на тым тратуары.

— Пакуль я пазаўчора дабег да гэтай машыны, яна пстрыкнула і знікла з маіх вачэй.

— Каб я бачыў, што вы беглі, я пачакаў бы, я не бачыў гэтага.

— Я чатыры разы бачыў гэтую машыну каля Дома ўрада, і кожны раз з яе вылазіў Сашка.

— Гэта мая машына.

— Як-то ваша? Уласная? Айцец ваш, рамізніцкую біржу трымаючы, над фаэтонамі і брычкамі распараджэнне меў, а вы да машыны аўтамабільнай дажыліся.

Вэня злосна скрывіў твар і плюнуў у машыну сабе пад ногі. І назаўсёды з яго твару перад Стафанковічам знікла грымаса той ветлівасці, якую ён толькі што быў на сябе напусціў з закаранелай прывычкі ладзіць з людзьмі і мець ад гэтага сабе прыбытак. Ён дастаў гадзіннік і паглядзеў. Устрапянуўся і сказаў шафёру пад'язджаць пад адзін з пад'ездаў Дома ўрада. Як толькі машына рушыла, ён зірнуў ззаду ў акенца і ўбачыў, што Стафанковіч на ўвесь мах сваіх сухіх ног імчыцца следам.

— Спыніся,— гукнуў Вэня шафёру ў самае вуха,— ускінем, братка, гэтую старую пачвару к сабе, а то яшчэ сораму наробіць, няхай яго халера. Уздзяцінеў, падла.

Машына стала. Вэня адчыніў дзверцы і запрасіў Стафанковіча. Той ахвотна палез, памацаў рукамі сядзенне і тады ўжо сеў.

— Машына не мая, а той установы, дзе я начальнік,— буркнуў Вэня.

Стафанковіч не адказаў. Ён адразу паглыбіўся ў свае клопаты. Машына тут жа спынілася пры адным з пад'ездаў.

— Вы, мусіць, нешта хочаце Сашку сказаць? — запытаў Вэня.— То, можа, я перадам, скажыце мне.

— Не, я сам хачу яго ўбачыць... То гэта ён на вашай машыне ўсе гэтыя дні ездзіць?

— Не бойцеся, будзе мець і сваю. Ён тут дзесяты дзень ужо вядзе перамовы, каб зусім астацца ў Мінску і з павышэннем. Мусіць, у Доме ўрада будзе працаваць (Вэня назваў адзін з камісарыятаў). Я яму па-сяброўску машыну даю.

— А пэўна што! — ажывіўся адразу Стафанковіч.— Зусім інакшы выгляд мае чалавек, калі ў машыне... Падумайце, дзесяты дзень! Каб я выпадкам не ўбачыў яго, як ён з вашай машыны перад Домам урада вылазіў, то і не ведаў бы, што ён тут. Жарты! Ужо шосты дзень, як нарыхтавана ў мяне і кілбаса, і вяндліна, і гарэлка. Прыйшоў вечар. Няма яго. Я з брамы выткнуўся на вуліцу — не ідзе. Я праз акно перавесіўся, перагнуўся. Дзе бачылі, і следу няма! Вечары чакаў, дні чакаў, на работу хадзіў, з работы прыходзіў — няма. Я стаў на варту, некалькі разоў бачыў, як ён з вашай машыны вылазіў, і ніяк злавіць не магу. То ён, кажаце, зараз сюды выйдзе.

— Зараз выйдзе.

— От жа пашанцавала мне на вас натрапіць.

Тут з дзвярэй выйшаў Сашка. Гэта быў стройны чалавек, белатвары, спрытны ў кожным сваім руху. Цёмна-сіні гарнітур ляжаў на ім вельмі дасціпна, белая, з шоўку, рубашка пад пінжаком вельмі ўдала падпяразана была каўказскім паяском з усялякімі дробнымі клямарчыкамі і бляшкамі. Яшчэ не бачачы, што ў машыне сядзіць бацька, ён пачаў паволі спускацца з ганка. Тут стаяла яшчэ некалькі машын, насупроць якіх Вэнева мела даволі-такі мізэрны выгляд. Яна была раскляпаная, блакітная фарба лупілася і лапцяватымі шматкамі вісела і тырчала. На-

проці ж Сашкі сам Вэня здаваўся няспрытным і мешкаватым, раскормленым і старым. Сашка рвануў к сабе дзверцы і раптоўна адхіснуўся ад нечаканасці: бацька распяўся цераз усю машыну галавой у дзверцы, і на дробным яго твары ажывала і шырылася ветлівасць.

— От дык сюрпрыз! — штучна зарагатаў Сашка.— Ніколі не думаў, што цябе тут убачу. Збіраўся зайсці даведацца цябе, але ўсё не выпадала. Гэтулькі справаў усялякіх.

— Я нарыхтаваў усяго, чакаў, думаў.

— Добра, што так здарылася, што ты надумаўся сюды пад'ехаць, бо я мусіць-такі ўсе гэтыя дні вельмі не буду мець часу, а пасля прыйдзецца назад паехаць.

— Так і не зойдзеш?

— Я ж кажу, добра, што пабачыліся.

Ветлівасць у момант знікла са Стафанковічавага твару.

— Не можа быць, каб чалавек не моґ знайсці моманту з бацькам пабачыцца, якога год дзесяць не бачыў.

— Ну, добра, я зайду сёння ўвечары.

— Сёння ўвечары мяне дома не будзе.

— А дзе ж ты будзеш?

— У мяне пільны інтэрас.

— То я калі-небудзь пасля зайду.

— Пасля таго, як я цябе дзесяць год чакаў, ты калі-небудзь зойдзеш?

— Чаго ты крычыш?

— Гэта я павінен бегаць за табою і прасіць тваёй ласкі, каб ты са мной пабачыўся?

Сашкам апанавала злосць. Так раптоўна нервуецца франт, якога ў часе доўгачаканай загараднай маёўкі з галавы да пят абалье дождж.

— Ты на той самай кватэры жывеш? — спытаў Сашка.

— На чорта мне аднаму тая самая кватэра! Я цяпер адзін пакой займаю. Ты нават не ведаеш, як я жыву!

— Гэта праўда, што крыху нядобра, але каб ты ведаў, што такое мая праца! У мяне заўсёды была вельмі адказная работа.

— Адказная работа! А каб я памёр?

— То ты ж жывеш.

— А каб я захварэў?

— То ты ж здаровы! Табе проста выдумка прыйшла ў галаву, а ў мяне па горла справаў. От і цяпер мы з ім (міргнуў на Вэню) паедзем не так сабе. Я з самага ранку да вечара...

Да гэтых фраз ён нічога выразнейшага не дадаў і астаўся так моўчкі стаяць, як на невядомым раздарожжы. Маўчанка цягнулася з хвіліну, пакуль Сашка не заўважыў, што шафёр усміхаецца сабе ў каўнер. Тады ён, адчуваючы прыкрасць, збянтэжана сказаў:

— Трэба ехаць, бо спознімся!

І ўсё стаяў і не садзіўся ў машыну. Ці адразу Стафанковіч зразумеў стан рэчаў, ці не, гэта невядома, але ён яшчэ добрыя дзве хвіліны сядзеў у машыне поплеч Вэні, нават да яго прыціснуўшыся, каб даць каля сябе і Сашку месца, але неўзабаве ён зразумеў, што перашкаджае Сашку садзіцца і ехаць. Сагнуўшыся, пачаў ён выпаўзаць з машыны. Стаў цвёрда на ногі, разагнуўся і, нічога не сказаўшы Сашку, пайшоў, ні разу не азірнуўшыся. Шафёр пакінуў усміхацца і ўнурыўся ў каўнер. Зморанай паходкай Стафанковіч дайшоў Савецкай вуліцай да так званай «чыгуначнай царквы» і, пакуль перайшоў на Нова-Маскоўскую вуліцу, не вытрымаў і азірнуўся. Блакітнай машыны нідзе ўжо не было відно. Ён пайшоў у Нова-Маскоўскую вуліцу, стаў каля нейкага трухлявага ганка, гайдануўся на нагах, паглядзеў, як на імшыстых дахах папстрыкваюць вераб'і, і зноў пайшоў. На твары яго была напісана злосць, у заціснутым да грымасы роце ён пастукваў зубамі, што было адзнакай узбуджанай працы яго мазгоў. Ён падняў галаву ўгару, каб паглядзець, дзе стаіць сонца, але было хмурна, і ён забубніў:

— От бо надвор'е, каторы дзень сонца не відаць.

Пасля ён запытаў у першага стрэчнага, колькі часу, і здзівіўся:

— Так рана?

Гэтыя пабочныя справы былі яму як разрыўка якая, ён пачаў спакайнець: сеў на нейкім высокім ганку і сядзеў так з паўгадзіны, паставіўшы вочы проста на сцяну Дома ўрада. Дамкі, хацінкі і ўсялякая іншая гнілая драбяза ўнізе пад гэтай сцяной была відна яму як на далоні. Ён доўга глядзеў на ўсё гэта, пасля замыляў губамі, яшчэ больш паспакайнеўшы.

— Вывелі сцяну пад самыя хмары. Тут гэтыя дамкі маглі б яшчэ і пастаяць крыху, яшчэ і кватараваць у іх народ сякі-такі мог бы, каб не гэтая сцяна. А так ні то што не фасон ім стаяць тут, а проста брыдка, каб іх тут пакінуць. Душа не прымае!

Інакш ён не ўмеў выказаць сваіх пачуццяў. З выглядам вялікага знаўцы падобных спраў і рэчаў, ён пайшоў

у адізн з двароў і ўзышоў на ўзгоркаваты пляц перад сцяной Дома ўрада. Верас, дробная цэгла, лопух, ямы, каменне было скрозь паміж трухлявых будынін, падобных да сабачых будак.

— Хі-хі-хі-хі,— тоненька засмяяўся Стафанковіч, азіраючыся навокал.— Да чаго дайшло. Здаецца, і дамы былі раней, а цяпер як зірнеш, то пад'язджай з возам, кладзі рыдлёўкай іх на воз і вывозь на агароды, каб капусту ўгнойваць. Ці гэта самі гаспадары яшчэ тут дажываюць, ці квартар'янты ад жакта? А унь там ужо, мусіць, і ніхто не жыве.

Ён падышоў бліжэй. Будыніна стаяла без вокан, вецер зганяў драўляны пыл з яе спарахнелых сцен. Было відаць, што калісьці яна была прыбудавана да муру, бо яшчэ захавалася рэштка цаглянай сцяны, да якой усё гэтае прыстройства было прыткнута.

— І тут жа жылі людзі,— прагаварыў Стафанковіч, разважліва ківаючы галавой.— Э, столь упала і, мусіць, даўно. Ляжыць на падлозе. Ну, доўга ж яно тут не пастаіць. Не пройдзе і тыдня як забяруць на падпалку. Замест страхі рэшата. А шчыт трымаецца, здаравейшыя дошкі былі, а можа, гаспадар паднавіў быў. Ага, і акенца нейкай вопраткай затыкалі, мусіць, каб дождж не засякаў.

Ён уставіўся вачыма ў шчыт, дзе сапраўды праз акенца вылазіла нейкая вопратка. Каўнер і рукаў матляліся на ветры. Стафанковіч можа хвілін дзесяць не зводзіў вачэй з гэтага каўняра і рукава, моршчыў лоб, прыжмурваў вочы, і постаць яго трымалася ў дзіўнай позе. Ён не браў на ўвагу нікога і нічога, стаяў, шырока растапырыўшы свае дугаватыя ногі, вельмі нейк удала, проста-такі па-ваяцку, трымаючы тонкае сваё тулава, ссунуўшы набакір блінаватую шапку з раменным казырком.

— Якраз як той Сашкаў фрэнч, на які я сам даставаў футра на каўнер. Ледзьве дастаў! Гэтулькі клопату даў галаве і ходу нагам.

Спачатку ў яго была проста цікаўнасць. Ён працягнуў угару руку, дастаў рукаў і пацягнуў. Звесілася ўніз крысо, відзён стаў фрэнч, падшыўка і аблямоўка ўнізе на ёй. І калі нядаўна ён думаў, што «вельмі падобна», то цяпер быў упэўнен, што глядзіць на самы сапраўдны той колішні Сашкаў фрэнч. Спачатку ён не ўспомніў таго моманту гісторыі гэтага фрэнча, калі ён знік з яго кватэры. Але пакрысе, момант за момантам, памяць яго аднавіла ў

сабе і гэтую справу. Пакуль жа да гэтага, то ён яшчэ прашаптаў:

— Як тут апынулася гэта адзежына?

Ён пачаў здагадвацца. Нейкае пачуццё, вельмі падобнае да смутку, пацягнула яго ў сярэдзіну гнілых рэштак колішняга чалавечага прытулку. Дзвярэй не было. Куча цэглы ляжала там, дзе раней была печ. Каля цэглы, прыпёрты білам да сцяны, стаяў нізкі жалезны ложак, вузкі, без матраца ці без дошак, увесь пагнуты. Праз праваленую столь і разбураную страху на яго заўсёды лілі дажджы, і ржа на ім сядзела шышкамі. Столь, падаючы, сагнула яго зусім. Стафанковіч не пабыў тут і хвіліны. Ён адразу выскачыў адсюль, мыляючы губамі:

— Напэўна, ён тут і жыў малы. Колькі год прайшло ад таго? Мала што гады прайшлі і столь упала. Але і тады, адразу цяпер лезе ў вока, было як пад плотам. А калі і не тут ён радзіўся і жыў, то дзе ён лепш мог, такая сірата.

Гэта быў такі дзень у яго жыцці, што ўсё спрыяла таму, каб ён у гэты момант размяк, як гнілая салома. Апанаваны глыбокім одумам, ён ішоў вуліцай, падагнуўшы плечы. І толькі цяпер, калі за яго плячыма асталіся нікому ўжо не патрэбныя сцены і над імі старая адзежына, якую ён дзесятка паўтара год таму назад спраўляў свайму сыну, толькі цяпер ён як мае быць адчуў і ўбачыў самога сябе ў гэтыя дні, калі, як сабака пад парогам, стаяў пад клёнамі, маючы пражытых год восемдзесят. Ён так і прамармытаў пад нос: «Як сабака, абліты памыямі». Душа яго пакуль што была яшчэ мяккая, яму зрабілася шкода самога сябе, ён аж пачаў без патрэбы пакульгваць на адну нагу. Але пакрысе душа яго рабілася больш жорсткай, а ў адпаведнасці з гэтым і словы, якія ён бесперапынна мармытаў сабе пад нос, пакуль ішоў. Цвёрдыя намеры спелі ў яго галаве, думкі змагаліся адна з адной, і ён вымармытаў такі маналог:

— Я табе, сынку, гэта футэрка на каўнер у фрэнч так даставаў, што каб не мая цярплівасць, то без каўняра хадзіў бы. Тады былі такія часы, што не так лёгка і дастаць льга было. Якраз так, як цяпер пад клёнамі я цябе чакаў, так тады каля замкнёных дзвярэй стаяў таго шпігулянта, у якога гэты каўнер абслухаў. Трэба ж было запабегчы наперад, каб іншыя ахвотнікі каўнярок з рук не вырвалі. Але мне была радасць на дажджы мокнуць, абы ты франтаваты быў, каб з тваёй паставы не

толькі я, а і людзі каб цешыліся. А цяпер цераз цябе я астаўся адзін. Ты ж ужо год дванаццаць, калі не ўсе трынаццаць, з жонкай жывеш, а ні разу мне яе не паказаў, я нават не ведаю, якая яна, і ў вочы яе не бачыў. Можа, яна лепшая за цябе і са мной абышлася б не так, як ты. Дзесяць год ты да мяне і вачэй не паказваў, і нават ліста мне першы не прыслаў. І я павінен быў ад людзей распытваць твой адрас і пісаць табе, пытацца, як хаця тваё здароўе, і па два ці па тры гады адказу чакаў. А каб жа я паміраў? Ты мне на гэта адсек сёння, што я не памёр, а жыву! Быццам бы ты і хочаш, каб я хутчэй памёр. А каб жа я ўзяў ды захварэў, у маіх уласных гадах будучы? То я ж такі хворы і ёсць. Не верыш? Бок у мяне робіцца як з дрэва і нагу цягне ўгару. Гэта я такі цярплівы чалавек, што нікому не скарджуся. Але ж каму я паскарджуся, каб прыйшлося. А калі я абсунуся, то хто ж мне вады падасць? Ты шалахвост халерны? Нікога з сям'і ў мяне няма, і сына ў мяне няма! Я цябе ведаць не хачу! Так будзе на век вечныя аман! Як сабака, я за тваімі пятамі бегаў, каб ты хаця зірнуў на мяне, на свайго бацьку! Ты мяне сёння з машыны выгнаў, не хочучы сесці поплеч мяне! То няхай жа нікога ў мяне не будзе, нікагуткі. Можа, хто-небудзь і ёсць на свеце, але мяне не ведае, і я яго не ведаю. Але ёсць. У мяне ж родны мой унук ёсць! Ёсць! Ты, унучак, сам пакутаваў, ты рос там, дзе гэты фрэнч матляецца. Мяне ведаць не хоча сын, а цябе ведаць не хацеў бацька. Але як жа я да цябе з'яўлюся? О, гэта праўда, табе будзе тое, што я хаваў для Сашкі, для твайго паганага бацькі. Я табе прынясу, я табе аддам, падарую, рабі, што сабе хочаш, такія рэчы, што ніхто не адкіне. Што павінна было астацца пасля маёй смерці Сашку, то будзе табе, хоць ты мяне і не ведаеш. От як я да цябе з'яўлюся. Я маці часта тваю на вуліцы спатыкаю, то ты павінен быць тут, калі ты вырас і здароў. А Сашку скажу: «Я аддаў тое, што хаваў табе праз усё жыццё, што пасля бацькі пайшло б табе ў спадчыну, аддаў, бо яно мне замінае, яно не дае мне спакойна дажыць майго веку!»

Цяпер ён так падбадзёрыўся, што і пакульгваць пакінуў, і ішоў вельмі шпарка, трымаючы твар угару і размахваючы рукамі, быццам стары вайсковы кадравік на маршыроўцы. Уся выпраўка яго была цяпер вельмі ўдалая. І з твару, і з постаці ён у гэты момант быў падобен да самога сябе тады, калі яшчэ мог камандаваць

сваім Сашкам, або, скажам, у момапт, як калісьці шпурнуў быў пад парог Любу Лук'янскую. Сваё доўгае мармытанне ён скончыў так:

— Я яшчэ, на злосць табе, магу разгарнуць свае плечы, я яшчэ моцна трымаю гэбаль у руках. На сваім вяку я ў меру еў, у меру піў і ў меру меў усялякі іншы салодкі і горкі чалавечы ўжытак. З мяне яшчэ не так ужо вельмі і сыплецца парахня. Ты ў мяне будзеш памятаць да канца сваіх дзён, як бацькі цурацца! Але ж трэба мне дастаць адрас майго ўнука!

Ён ірвануў з месца на ўвесь ход сваіх ног. Працаўніца даведачнага бюро праз хвілін пятнаццаць дзівілася з усхвалёванага высокага старога, які забыўся прозвішча таго, каго шукаў. Ён аддыхваўся пасля сваёй хады і ўсё прасіў дзяўчыну:

— Калі ласка, майце цярплівасць, я зараз успомню.

Прайшло не менш як паўгадзіны, пакуль ён успомніў Любіна прозвішча. Атрымаўшы тое, што яму трэба было ў бюро і аддыхаўшыся, ён пабраўся назад, і яму пачало здавацца, што ён даўно ўжо занепаў здароўем і не заўважаў таго. Ён пачаў прыслухоўвацца, ці не ные бок і ці не дранцвее нага. Як быццам бы і ныла, і дранцвела. Ён падумаў: «Так і прыйдзецца быць. Людзі-то ёсць, але роднага сына няма. Добра, што я хоць даведку гэтую ўзяў, дзе мой унук жыве». Грабучы нагамі па тратуары, раптам пачаўшы зноў пакульгваць, ён думаў пра тое, што ён многа год пражыў на свеце, што ён стары, што доўга не пажыве, што яму трэба нешта нейкаму расказаць або зрабіць перад нейкім нейкі ўчынак, а што — ніякай выразнасці ў яго галаве не было. Пакуль ён дайшоў, куды яму трэба было, то ўжо быў упэўнены ў тым, што ў яго мноства хвароб. Яму пачало недабрыцца: то ў спіну кальне, то сярэдзіна заные, то ў галаву стукне. Ён прыслухоўваўся: баліць ці не? Прыслухаўшыся, то яно сапраўды баліць, і яшчэ як моцна. А яшчэ раз прыслухаўшыся, то болю ніякага няма. Тады ён прыслухоўванне сваё даводзіў да найвышэйшай ступені і меў задавальненне: баліць, на яго выйшла! А можа, яму і сапраўды балела, але без прыслухоўвання, то яно адчувалася так, як і кожны дзень. Адно толькі было бясспрэчна, што за гэты дзень, нават, праўдзівей сказаць, за гэтыя гадзіны ён атупеў, быццам адзеравянеў і набыў нахіл стаяць сярод якой-небудзь глухой вуліцы і глядзець у адно месца. Ідучы цяпер, ён так спыняўся і стаяў некалькі разоў, і праз

халодную маску на твары (новая, небывалая раней якасць!) білася адна рыса — адлюстраванне таго, што яго бесперапынку пілуе нейкая думка, нейкі клопат.

— Адкладаць не трэба, сёння ж увечары я з'яўлюся да свайго ўнука,— моцна сказаў Стафанковіч.

Праз хвілін дзесяць пасля таго, як ён меў моманпнае і доўгачаканае спатканне з Сашкам, блакітненькая Вэнева машына спынілася каля адной з газетных рэдакцый. Вэнева машына стала ў адзін шэраг з некалькімі іншымі машынамі, такімі, перад якімі вельмі ж ужо кідалася ў вочы яе аблупленасць. У машынах сядзелі найбольш вайсковыя шафёры, але былі і цывільныя. Чыстата іх адзежы гарманіравала з бляскам іх машын. Сашка спыніўся на рэдакцыйным ганку: ён тузануў за рукаў Вэню, паказваючы на машыны. Вэня зразумеў Сашкаў намёк. Ён занатурыўся:

— Няхай бачаць, што мы пралетарыят і наша машына...

— Брыдка,— перабіў яго Сашка, нагінаючыся, каб змахнуць хустачкай пыльную лапіну на халяве свайго бота.

Вэня моўчкі згадзіўся і вярнуўся да сваёй машыны. З яе высунуўся твар Вэневага шафёра, няголены і з прыжмуранымі вачыма.

— Прыедзеш па нас гадзіны праз тры... Трэба будзе як-небудзь машыну перафарбаваць.

Сашка чакаў Вэню на ганку. Пад'ехала яшчэ адна машына, у паліроўцы якой адлюстроўвалася вуліца. У тую секунду, як яна спынілася, з яе выскачыў вайсковы чалавек высокага росту і шпаркай паходкай рушыў на ганак. Раней за Сашку і Вэню ён увайшоў у карыдор. Ішоў ён, быццам крыху прыпадаючы на левую нагу. Сашка прыгледзеўся, як ён абут і адзет, і падумаў аб сабе, што яму, бадай, лепш падышла б не цывільная, а вайсковая адзежа. Вэня ж накіраваў сваю думку на іншую акалічнасць.

— Бачыш,— штурхануў ён Сашку, калі яны пайшлі следам за вайскоўцам.— Таксама партызан або ваяка нейкі.

— Чаму? Адкуль ты ведаеш? — абыякавата шапнуў Сашка, адрываючы вочы ад спрытна складзенай фалды на адзежы пад поясам у вайскоўца.

— Паглядзі на яго твар.

Тут Вэня не памыліўся. Перад імі ўзыходзіў на другі паверх чалавек, на твары якога вельмі выразна была на-

пісана яго гісторыя. Гэтую гісторыю Сашка і Вэня праз гадзіну пачулі з вуснаў самога ж гэтага чалавека, а пакуль што яны следам за ім увайшлі ў адзін з рэдакцыйных пакояў. Тут было паўнютка народу. Былі вайсковыя і цывільныя. Яшчэ ўсё адзін за адным уваходзілі.

— Позна зацягнецца,— сумна сказаў Сашка, які любіў лёгкі і спрытны рух больш, чым глыбакадумную сядню.

— Дурань ты, пстрыкун,— адказаў Вэня.— Ты, мусіць, забыўся, чаго сюды прыйшоў. Успомні. Праз два дні на трэці свята адзінаццатага ліпеня. Ты ведаеш, што гэта значыць, калі твае ўспаміны трапяць у друк. А ты ведаеш, што ўся група будзе знята і надрукавана фатаграфія ў газеце. Я ўсё разведаў. А пасля матэрыялы могуць выйсці асобнай брашурай. Ты ведаеш, што сюды з'ехаліся людзі, вось гэтыя, што тут сядзяць, не толькі з усёй Беларусі, а некаторыя і далей.

Сашка акінуў вачыма запоўнены людзьмі пакой і інстынктыўна падаўся да стала, які стаяў пры сцяне паміж двух акон: за сталом стаяў чалавек, каля яго некалькі сядзела, і ўсё гэта было вельмі падобна на прэзідыум.

Гэты Сашкаў рух быў зусім механічны, і яго трэба растлумачыць.

Хіба не знойдзем мы ў нас людзей, якія, трымаючы ў руках не то што не малы, а нават вялікі і адказны кавалак работы, ёсць не што іншае, як толькі ганаровыя члены ўсялякіх урачыстых і неўрачыстых прэзідыумаў? Гэтыя людзі быццам і заняты па вушы даручанай ім работай, быццам і канкрэтна гавораць пра ўсё, што належыць да іх дзейнасці і нават быццам ідуць наперадзе вытворчых актывістаў. Калі гэты чалавек кіруе чым-небудзь у абутковай, скажам, прамысловасці, ён можа сваім тонкім нюхам дазнацца наперад, што неўзабаве прэса будзе крытыкаваць дрэнную працу абутковых фабрык, і якраз да гэтага моманту раптоўна запоўніць магазінныя вітрыны якім-небудзь адмысловым абутковым шырпатрэбам. На гэтым абутку будзе якая-небудзь небывалая раней дэталь, хоць пустая і непатрэбная, але затое новая, якая можа нейкі час рабіць уражанне. Паднімецца шум, і чалавек, у славе ініцыятара і кіраўніка, усплыве на яго паверхню. Але пройдзе час, шум пацішэе, абутак за некалькі дзён зносіцца, чалавек выступіць з крыкам аб дрэннай якасці найлепшай сыравіны і зноў усплыве наверх. Так ён можа плаваць на паверхні, набываючы сабе папулярнасць, імя і неадменнае права выседжваць у ганаровых прэзідыумах, без якіх яму ўжо

нарэшце і свет робіцца не міл. А тым часам сапраўдная армія працаўнікоў дзень за днём працуе без шуму і крыку, не дамагаючыся выкрычаць сабе славу, а толькі як найлепш зрабіць работу. Слава да гэтых людзей прыходзіць ціха і спакойна, і заўсёды ім самім нечакана. Тады чалавек, аб якім гаварылася вышэй, вылазіць з скуры, каб штонебудзь і тут узначаліць сабой, падхоплівае думкі, жаданні і меркаванні скромных працаўнікоў і імчыцца выступаць за іх як адвакат. Такая кар'ера заўсёды канчаецца трагічна, але можа часамі цягнуцца доўга, залежна ад таго, колькі чалавек мае таленту быць вечна ў курсе спраў, якія бліскуча могуць абысціся і без яго. Характэрная асаблівасць гэтага чалавека тая, што ён у адзін дзень можа з дырэктара саўгаса стаць электразваршчыкам метала, з хіміка — моваазнаўцам, з архітэктара — аграномам. Але ніколі ён не возьмецца ні за хімію, ні за электразварку, ён толькі будзе «кіраваць» гэтымі справамі, з лёгкай душой уваходзячы ў іх курс за адну гадзіну. І з вуснаў яго не сыходзіць фраза: «на кожным фронце трэба працаваць, куды б партыя ні пасылала». Перакруціўшы па-свойму і дзеля сваіх мэт і апаганіўшы змест гэтай фразы, тып гэты знаходзіць тут сабе заслону ўсім сваім махінацыям і дамагаецца трымаць у руках скромных і спакойных работнікаў, гледзячы ў глыбіні сваёй душы на іх, як на таго асла, на якім Хрыстос быў уехаў у Ерусалім.

Гаворачы так пра Сашку Стафанковіча, трэба сказаць, што ў яго не было толькі апошняй акалічнасці. Перад людзьмі ён не быў смелы на вялікія справы, ён дзейнічаў ціхом, чорным ходам. І гэта было прычынай таго, што пра яго ніхто не мог сказаць у сувязі з чым-небудзь вельмі вялікім, выдатна зробленым ці ўдала выкіраваным. Ён стаў папулярным немаведама за што.

Здаецца, ён быў душой усіх спраў, а каб хто запытаўся, што ён і дзе такое зрабіў? Ні ён і ніхто на гэта ніколі не сказаў бы і слова. Заўсёдашняя яго работа называлася «кіраўнічая работа», але што гэта было за кіраўніцтва! Кіраваў ён шмат чым, але толькі там, дзе льга было абысціся без «кіраўнічай кваліфікацыі» і дзе не пахла глухім куткм, з якога трэба было сапраўднай кіраўнічай працай выганяць дух глухога застою. Яшчэ ў першыя гады сваёй дзейнасці ён выпадкова натрапіў быў на свой верны шлях. Едучы ў часе сваіх нескончаных маскоўскіх камандзіровак, ён на адной са станцый убачыў праз вагоннае акно выбрукаваны клінкерам перон. Што такое клінкер, ён ведаў з

прачытанага ў газеце артыкула. Тут яго і апанавала думка, вельмі добрая сама па сабе. Прыехаўшы ў свой глухі раённы гарадок, з якога ён пачаў умацоўваць сваю кар'еру, ён выбрукаваў клінкерам адну вуліцу, па якой кожны дзень праязджаў у сваёй машыне, іншыя ж вуліцы пакінуў тапіцца ў гразі. Аднак жа ўсё гэта было абстаўлена так, што на паседжанні гарсавета яго імя бесперастанку ўспаміналася, а назаўтра ў мясцовай газеце было распісана, што ён першы і сапраўдны бацька горада, ініцыятар дабрабыту і ўсяго іншага. Горад быў выслаўлен як узорны сваёй чыстатой і культурна-бытавым абсталяваннем. Разам з горадам выславіўся і ён. Расказвалі, што ён нават атрымаў нейкую ўзнагароду і з таго дня бесперастанку вышукваў прычыны, каб у кожнай сваёй прамове сказаць так: «Наш горад стаў вядучым па бытавой культуры». А вядома, раз горад «вядучы», дык і ён самы «вядучы». Аднак жа гэты «вядучы», грунтоўна абмазаўшы сам сябе такой славай, праз некалькі месяцаў пастараўся вельмі спрытна сплавіцца ў іншы раён, каб на ўсялякі выпадак быць далей ад крыніц сваёй славы. На яго месца прыехаў новы работнік, які ўзяўся як належыць наводзіць у горадзе чыстату і культуру. І калі гарадок сапраўды стаў культурны і чысты, некаторыя з яго насельнікаў усё адно бачылі ў гэтым заслугу Сашкі Стафанковіча — так моцна падзейнічаў на іх Сашкаў крык аб уласных заслугах. Аднак жа ў вялікія фігуры Сашка не выйшаў, бо ў душы яго жылі моцныя пачаткі баязлівасці адкрытай дзейнасці на вялікі размах. Славу сваю ён здабываў з чорнага ходу. За гэтую баязлівасць вельмі часта ўпікаў яго Вэня Шпулькевіч. Ён часамі, здаралася, накіроўваў Сашку туды, адкуль з-за яго плячэй і сам выглядаў больш трывалае для сябе крэсла.

Пра свае партызанства Сашка зусім пакінуў думаць і на сход у рэдакцыю прыйшоў проста таму, што ў яго выпрацаваўся рэфлекс быць заўсёды там, дзе ўрачысты прэзідыум, дзе бляск — або чалавечых душ, або модных гарнітураў. Ён увесь атупеў у дачыненні да таго, што называецца свядома бачыць душу кожнай справы. Думка яго не заходзіла далей прыемнасці зіхацець у сваім кабінеце, у першым радзе тэатральных крэслаў, адведзеных для афіцыяльных асоб, у прэзідыуме сходу або за плячыма каго-небудзь большага за яго, чыім аўтарытэтам ён быў асвечан у хвіліны, калі стаяў тут поблізу. Вельмі можа быць, што ён сам жахнуўся б, каб хто-небудзь збоку сказаў яму, што ён зусім не якая-небудзь выдатная персона, а самы

звычайны злачынец. Партызанская самазванасць абрасла карой далейшых поспехаў, а жонцы ён не верыў. Ён стаў жыць механічна, кроку не ступячы, каб не падумаць: «Ці ад гэтага мне што-небудзь прыбудзе, ці я проста патрачу час на бескарысную асалоду сонцам і пахам травы, хоць гэта і ёсць сапраўдная асалода». Валя Іваноўская кахала Сашку, але вось што яна раз пісала Любе:

«...Некалькі год таму назад я пісала табе аб сваёй радасці, што пайшла замуж за таго, за каго пайшла. Усе заўсёды гавораць, што такое пачуццё сцьмее, як толькі пэўны час пажывеш з чалавекам. Можа, гэта і праўда, але я гэтага не адчуваю. Я дагэтуль захавала да яго ўсю вастрыню свайго кахання, і з кожным пражытым годам мне ўсё больш і больш хочацца захаваць яго для сябе, бо ён можа ў адзін які-небудзь момант так паказаць сябе перада мной, што маё пачуццё да яго вельмі шпарка пачне зменьвацца. Я пачынаю ўпэўнівацца, што ў яго няма глыбокіх сардэчных сувязей з кім бы там ні было, і гэта мяне палохае. Часамі ён са мной радзіцца ў сваіх справах, і я стараюся разварушыць яго. Мне, напрыклад, не падабаецца, што ён зусім забыўся на свайго бацьку, раз у гады два даведаецца стараной, што той працуе і жыве добра, і гэтым усё канчаецца зноў на два гады. У першыя гады жыцця з ім мне падабалася яго імкненне да бляску, да дасціпнасці, яго нават легкадумства і свавольства давала мне радаснае адчуванне нашай маладосці. Але прайшлі гады, прыходзіць сталасць, і, ведаеш, усё больш і больш мне прыходзіць у думкі той момант, калі я глядзела, як твае вочы першы раз убачылі сваё дзіця ў чыстаце. Мне здаецца, я і цяпер яшчэ бачу, як святлом усёй тваёй душы быў асветлен тады твой твар. Гэта, па-мойму, і ёсць сапраўдная сувязь з жыццём. Я думаю пра бацьку, пра тое, як хадзіла на біржу працы; захаваўся ў мяне кавалак сіняга матэрыялу з той вопраткі, якую я тады кожны дзень зацыроўвала. Гэта мяне хвалюе. Калі і цяжка часамі прыходзілася ў маладосці (вядома, не так, як табе), то я, аднак, не вырываю ўсё са сваёй душы. Калі грыбы запахнуць, то я быццам у маленстве з бацькам іду лесам. Калі я пачую адзін музычны матыў, то быццам з мужам яшчэ да таго, як пайсці за яго замуж, сяджу ў мінскім тэатры. Тады пачыналася наша каханне. Усё перажываю спачатку, і гляджу на яго, і, здаецца, зноў, як тады, гатова кідацца яму на шыю. Гудок паравоза і пах вапны прымушае мяне ўспомніць, калі я ўбачыла цябе з дзіцем першы

раз, а выгляд неабтынкаванай сцяны ў якім-небудзь вялікім пакоі і хмурны дзень пры гэтым як жывую ўзнімае перада мной карціну, калі я першы раз увайшла ў школу як настаўніца. І каб ты ведала, як мне горка, калі ён гаворыць, што ўсё гэта выдумка ад няма чаго рабіць. Я прашу, каб ён расказаў мне што-небудзь пра сябе. Ён як быццам часам і пачне сёе-тое расказваць, але бачу я, што ўсё гэта абы адчапіцца. Усё ў ім заглушае прагнасць да таго, каб мець славу, але лёгкую. Гэта ён называе весці палітыку, а мне гэта не падабаецца. Пра самае важнае я хачу табе сказаць: з некаторага часу, ужо даўно нават, я нашу ў сабе жаданне, каб у мяне нарадзілася дзіця. Пачалося з таго, што я падумала: калі будзе дзіця, ён глыбей будзе звязан з сапраўдным жыццём. А пасля я адчула, што ўсёй істотай прагну мець сына або дачку. Але ён без ніякіх жартаў сказаў мне: «Я скора перабяруся ў Мінск, буду мець вялікае павышэнне, тады падумаем і пра дзіця». Зноў тое самае! Усяму адна мерка! Я з горкім пачуццём і здзекам адказала: «У цябе цяпер самы лепшы чорны гарнітур, то пачакаем, пакуль ты пасля свайго павышэння пашыеш сіні, і тады...» «Дурная»,— ласкава адказаў ён, і мае пачуцці раздвойваюцца. Ты бачыш, як я табе ўсё адкрыта пішу. Гэта таму, што цяпер я цябе зусім адчуваю, ты свайго сына выпасіла ўсёй сваёй душой...»

Сашка падышоў да самага таго стала, дзе быццам быў прэзідыум. І ўжо сеўшы, ён адумаўся, што тут жа яго ніхто не ведае. Пасля выявілася, што тут і прэзідыума ніякага не было, а проста адзін з рэдакцыйных працаўнікоў папрасіў, каб кожны расказаў пра сябе.

Тут былі людзі і сярэдняга ўзросту і старыя, але найбольш было Сашкавых год. Ён прыглядаўся да аднаго чалавека, высокага ростам, у цывільнай адзежы. Яму можна было даць год пяцьдзесят. Ён быў чарнявы, з дробнымі вусамі, і Сашка мучыўся, стараючыся ўспомніць, дзе і калі ён яго раней бачыў. Ён напружваў памяць нават тады, калі стэнаграфісткі скрыпелі пер'ямі і шморгалі алоўкамі, запісваючы расказы людзей, якія гаварылі адзін за адным. Але пакрысе яго ўвага пачала збірацца на расказе таго самага вайскоўца, які апярэдзіў быў іх з Вэнем у калідоры. Глянуўшы на яго, Сашка падумаў: «Чаму Вэня сказаў, што гэта таксама партызан або ваяка?» А пасля не зводзіў вачэй з яго твару.

Гэта быў твар чалавека, пра якога нельга было ўга-

даць, колькі яму год. Калі ён гаварыў, маршчыны старасці збіраліся на яго твары. Але разам з тым пра яго можна было і так сказаць: яму не можа быць больш сарака год. Самая важная рыса, якая была Сашку навіной, гэта тое, што твар чалавека быў спаласаваны шрамамі і рубцамі. Над вокам былі два тонкія шрамы, на шчацэ пад вухам тонкі рубец і на шыі збоку такі ж самы. Сашка ніколі не бачыў такіх пячатак на чалавеку і цяпер падумаў: бач ты, гэта ж яго маглі і забіць на вайне. Гэты чалавек гаварыў не больш за ўсіх, не гарачэй, але Сашка запомніў яго расказ.

Ёсць мясцовасць недзе на Гародзеншчыне (чалавек назваў дробны гарадок), дзе ён у маленстве выхадзіў усе сцежкі і дарогі, пайшоўшы следам за падзёншай работай, пакуль не асеў на доўгі час у родным гарадку, дзе была дробная ткачоўская фабрыка і дзе бацька даўно ўжо быў ткач. На цэлыя гады тут было сталае аселішча. Тут чалавек стаў пры ткачоўскім варштаце, але тут жа яго адарвалі ад сям'і ў тысяча дзевяцьсот чатырнаццатым годзе. Рух па чыгунках у салдацкіх вагонах, спёка ў паходзе па пыльных дарогах — усё гэта было цяжка, але тут была і своеасаблівая разрыўка. Чорны ж смутак ужо як мае быць апанаваў чалавека, калі ён сеў на адным месцы ў раскапанай зямлі. Была восень. Дажджавая вада сцякала ў акопы, чалавек тры ночы прадрамаў стоячы. На чацвёрты дзень, ледзь пачало развідняцца, ён разам з усімі бег наперад і крычаў «ура», трымаючы перад сабой вінтоўку са штыхом. Беглі больш як кіламетр, пасля кінуліся назад. Перабраліся цераз свае, нядаўна пакінутыя, поўныя вады акопы і ўсё беглі і беглі далей. Дабеглі да дробнай рачулкі з плыткім жвірыстым дном. Толькі тут ён заўважыў, што наўздагон бесперапынна сякуць кулі: яны цяпер з выццём падалі ў ваду. Ён пабег па вадзе, вада дайшла да каленяў і зноў паплытчэла. Ён упаў, як бег, адчуўшы боль у плячы. Усхапіўся і зноў пабег, а пасля пайшоў, абнямогшы. З ім ішло цяпер чалавек дзесяць, яны бралі наўздагад. Церусілася імгла. Часамі сціхала. К вечару яны ледзьве дабрылі да палявога шпіталя, дзе яму перавязалі неглыбока раненае плячо. Праз два тыдні ён павінен быў зноў узяць на раненае плячо вінтоўку. Яго мучыў смутак. Ён пачаў пісаць рапарты і абіваць парогі, трымаючы руку на перавязі. Нарэшце яму ўдалося: яго пусцілі на чатыры дні дадому пабачыцца з сям'ёй — гэта ж зусім блізка ад шпіталя, вёрст не больш як сто. Ён прыехаў у свой гарадок. У той бок ішоў нейкі вайсковы абоз, і ён папра-

сіўся на адну з фурманак. Але яшчэ не даязджаючы вёрст пяцьдзесят да гарадка, ён напоўніўся небывалым яшчэ дагэтуль сумам: мясцовасць з кожнай вярстой усё больш пусцела, войска стаяла гусцей, і вельмі многа часцей бесперапынна ішло на ўсход. Вёрст за дзесяць ад гарадка яны праехалі зусім пустую вёску. Тут не было аніводнага чалавека; хаты былі пустыя, вокны і дзверы ў некаторых накрыж пазабіваны дошкамі. Усе выехалі ўжо ў далёкі свет. Далей абоз не паехаў. Ранены ў плячо салдат-адпуснік пайшоў пешшу. У гарадок ён увайшоў апоўдні. Апроч войска, ён тут нікога і нічога жывога не бачыў. З дрыжаннем сэрца дабег ён да завулка, дзе быў доўгі і нізкі дом, знаёмы з маленства. Прабег двор, убег у сенцы, дайшоў да сваіх дзвярэй, не асмеліўся адразу адчыніць іх, пастукаў, паслухаў. Цішыня адарвала яму сэрца. Тут адбылася змена ў яго душы: усё ўжо ясна, значыцца, ужо няма трывогі перад невядомым. Ён смялей ступіў крок, які аддзяляў яго ад дзвярэй, і тузануў дзверы. Яны адчыніліся. Стол і чатыры табурэты пры ім, два ложкі і шафа. Прамень восеньскага сонца ляжаў на падлозе, ад акна да супрацьлеглай сцяны. Сэрца яго пачало калаціцца. Але дзве рэчы найбольш уразілі яго. На сцяне каля акна, на цвічку, вісеў стары кафтанік яго дачкі. Падзёрты пры рабоце кафтанік! Паркаль сіні ў белыя гарошынкі. Ён падышоў бліжэй. Вышмарганыя локці. Месца, якім надрукаўнік ляжаў на вострым плечуку недарослай дзяўчынкі. Другая рэч была — вазон, дробная герань. Дзяўчынка калісьці палівала яго кожны дзень. Цяпер ён чэзнуў без вады, але яшчэ жыў. Значыцца, яны нядаўна выехалі! Лісці вазона спусціліся ўніз і пакарабаціліся. Гэта быў момант смутку, на мяжы якога стаяла роспач. Чалавек кінуўся да вядра з вадой. Вада ў вядры была ў дне, але конаўкі нідзе не было. Ён ужо хацеў ліць ваду ў вазон з вядра нагном, але ў гэты момант паветра ўздрыганула ад артылерыйскага залпа. Чуючы гук, ён ведаў, што страляюць не зусім блізка адгэтуль, але апошні раз акінуўшы вокам пакой, сарваў з цвіка сіні ў белыя гарошынкі кафтанік і выбег з ім, назаўсёды пайшоўшы адгэтуль. Роўна год, як развітаўся ён тут са сваёй сям'ёй. На вуліцы ён убачыў яшчэ запозненую ўцякацкую фурманку і інстынктыўна зазірнуў у яе. Там былі незнаёмыя людзі. Тое ж самае было і на вакзале. Там яшчэ стаяла некалькі паяздоў. Сярод салдат мільганула некалькі жанчын. Гэта ўсё былі незнаёмыя твары. Ён убіўся ў напханы салдатамі вагон і, стоячы, пра-

ехаў шмат станцый, сам не ведаючы, на якой з іх сысці. А нарэшце сышоў у вялікім горадзе, ахоплены прагай кінуцца ў пошукі сям'і. Гэтае імкненне ён насіў у сабе доўгімі гадамі. Ён яшчэ пасля той восені зноў быў у акопах і пакінуў фронт самавольна з усёй часцю, у якой служыў. Ні да якіх чыноў ён не дaслужыўся, медалёў не зарабіў, абарваны і змучаны з'явіўся з фронту ў адзін з тылавых гарадоў, бесперапынна пасылаючы заявы і лісты ва ўсялякія бежанскія пункты і камітэты. На след сям'і ён так і не натрапіў. Ён атрымаў даручэнне аднаго павятовага рэўкома, які ў тыя дні толькі што пачаў існаваць, кіраваць захопам сялянамі панскай зямлі. Але неўзабаве ён зноў ужо маршыраваў па гарадскім бруку: ён быў у чырвонагвардзейскім атрадзе. Атрад гэты належыў да тых часцей, якія мелі першыя сутычкі з палякамі з самага пачатку вайны з імі. Гэты добраахвотны атрад пачаў існаваць у адзін дзень. Людзі сышліся адразу. Яны зрабілі на гарадскім пляцы мітынг, пасля мітынгу ўзяліся пад рукі і так калонай прайшлі галоўнымі вуліцамі да вакзала і ў той жа вечар выехалі на фронт.

Увосень тысяча дзевяцьсот дзевятнаццатага года салдат, які не мог знайсці сваёй сям'і, цяперашні франтавік вайны з палякамі, быў у ліку чатырох чалавек, якім камандаванне даручыла зрабіць разведку ў тыл ворага. Цераз шырокую раку яны перабраліся на варожы бераг. Раку яны перайшлі бродам і дайшлі да першага паселішча. Ноч была на пераломе к дню. Яны ў трох месцах чулі гаворку польскіх салдат, якія невялікімі атрадамі ехалі па дарозе. Чатыры разведчыкі зайшлі ў глыб мясцовасці на кіламетраў дзесяць ад перадавых польскіх атрадаў. Яны даведаліся аб трох найбольш густых зборышчах польскай артылерыі і ўвайшлі ў густы лес, так думаючы вярнуцца назад, зрабіўшы круг улева ад таго месца, адкуль пачалі сваю разведку. І ўжо абгледзеўшы той край лесу, павінны былі па адным перабірацца цераз раку на свой бераг. Лес яны прайшлі добра і вытнуліся на край. Адзеты яны былі ў сялянскую адзежу, так лягчэй было дзейнічаць. На ўзлеску яны разышліся па адным, прыслухоўваючыся і прыглядаючыся, кожны на разлегласць даволі шырокую. Восень стаяла ясная, першыя адзнакі зімы былі ўжо досыць выразныя. Балота зверху ўмерзла, калматая ад травы дарога праз лес была скрозь абледзянелая. На гэтай дарозе пераадзеты разведчык і быў акружан польскім раз'ездам. Яго забралі. Са звязанымі рукамі яго правялі праз лес,

трымалі да дня на ўездзе ў нейкую вёску, а з самага ранку ў штабе пачалі дапытваць. Яму не верылі, што ён «тутэйшы селянін», скінулі верхнюю адзежу і абгледзелі бялізну. На кашулі была пячатка нейкага вайсковага складу. Тады з новай заядласцю пачалі дапытваць далей. Пыталі, з якога палка і адкуль ён прыйшоў, дзе, колькі і якіх стаіць чырвонаармейскіх часцей. Ён маўчаў. З ім праваждаліся да вечара. Збіты і скрываўлены, ён не вымавіў слова. Яго адвялі далей у тыл, у галоўны штаб. Пасля трох допытаў ён чацвёра сутак праляжаў у хляве на саломе, пакуль цела яго пакінула ныць ад збойства. Салдат зноў павёў яго на допыт. Ён прагнуў ужо, каб яго застрэлілі, каб спыніліся пакуты, а яго ўсё трымалі. Гадзіны за дзве да заходу сонца яго пакінулі дапытваць, упэўніўшыся, што ён не скажа ні слова. Двое коннікаў вывелі яго за вуліцу і пагналі перад сабой да невялікага ляска. За гэтыя дні нападала снегу. Снег быў не глыбокі, сухі ад марозу. Крокаў пяцьсот яго прагналі ціхом, а пасля загадалі скінуць абутак і адзежу і бегчы. Босы і ў адной бялізне ён пабег па мёрзлым снезе, і коннікі памчаліся за ім, страляючы пакуль што ўгару.

— Стой! — закрычаў адзін коннік.— Гавары, якія і дзе стаяць бальшавіцкія часці, і мы цябе пусцім!

Дагэтуль ён маўчаў, а цяпер, жадаючы, каб яго хутчэй застрэлілі, абазваўся:

— Не скажу.

Коннік стрэліў у паветра. Ён павярнуўся і зноў пабег. Разоў некалькі стрэлілі яшчэ ў паветра, а тады пачалі страляць у яго. Ён ужо дабег да самых хвояў; куля завыла паўз самую яго галаву. Полем ён бег ужо быццам у бязум'і, быццам адной нагой ужо стоячы ў магіле. Але тут перад яго вачыма мільганула чырванаватае хвойнае стволле. Лес! Хоць гэта быў і малы і рэдкі лес, зараснік, але ён змяніў аднастайнасць аснежанага поля. У чалавека ажыла прага да ратунку. І тое, што ў ратунак ён не верыў, яшчэ больш павялічвала яго імкненне. Коннік зноў стрэліў, і абодва моцна вылаяліся: лес перасякаўся старым акопам яшчэ з часоў імперыялістычнай вайны; акоп ішоў густым зігзагам і, каб пераскочыць цераз яго, трэба было паставіць каня насупроць аднаго з выступаў, якія калісьці былі выразаны ў жвірыстай зямлі, а цяпер паабсыпаліся і падзірванелі. Прайшло хвіліны паўтары. Адзін выкіроўваў каня, другі страляў, напэўна, ужо шкадуючы, што не застрэліў свайго палонніка яшчэ ў полі.

Палоннік бег, стараючыся трымацца за стволлем. Зямля пайшла ўніз вельмі крута, і гэта стала яго ратункам. Ён дамчаўся да апошніх хвояў і кінуўся ўправа. Там быў густы і стары лес. Выгінастая рэчка яшчэ цякла звінючай чарнотай у аснежаных берагах, але перабягаць на той бераг ён не адважыўся. Цяпер ужо думка яго працавала вельмі ясна і востра. Свядомая воля да жыцця гнала яго далей і далей. Здаецца, снег буйнымі ручаінамі імчаў пах вольных разлегласцей. У тую секунду, калі ён пачуў за сабой, хоць ужо і далей, конскі тупат, ён адчуў смяротную пакуту ў нагах. Яны дзеравянелі. Тут пачаўся лес. Ледзьве перастаўляючы ногі, ён паблытаўся ў змрочнай гушчырні, хістаючыся ў бакі, але яшчэ маючы цвёрдую думку, што трэба выбіцца з лесу на левы край: гэта бліжэй за ўсё, і там хутчэй могуць яго знайсці людзі, а ў самай гушчырні ён адразу зойдзецца. Ён паблытаўся налева. Гэта было далёка ад фронту, на допыт у галоўны штаб яго завялі ўглыб. Войска тут густа магло і не стаяць. Гэта была яго апошняя думка. Ён упаў, дайшоўшы да нейкай вузкай прасечыны ў хмызняку. Прасвеціна ў поле бялела яшчэ дзесьці наперадзе. Свядомасць пакідала яго, але ён сабраў яе ўсю і, апанаваны ўжо з наступнай секунды амаль што бяздум'ем, падняўся і падаўся ў сцежку. Яна канчалася крокаў праз сто, і там блішчаў агеньчык у дробным акенцы. У той момант ён упаў. Ён ужо не чуў, як забрахаў сабака і як з хаты выйшаў чалавек. Ачомаўся ён праз дзень ці праз два. Яго ногі чымсьці мазаў невядомы яму рыжы чалавек.

— Хто ты такі? — запытаў рыжы.

— А хто ты?

— Я тут жыву... Але ж і даў ты мне клопату. Толькі я цябе ўкінуў у салому, як два палякі следам за табой. Ці не прыбег, пытаюцца, такі сюды? Я перакалаціўся, пакуль іх выправадзіў.

— Чым ты мне ногі мажаш?

— Заячым салам. Назнарок учора пайшоў зайца шукаць. Цэлы дзень з сабакам хадзіў па лесе, пакуль застрэліў. Ты не бойся мяне, цябе прыйдзецца дзе-небудзь схаваць.

Больш як месяц праляжаў ён у чалавека ў нейкім свінуху, укрыты па бараду кудзеляй, кажушынамі і саломай. Калі трэба было зноў мазаць яго заячым салам, рыжы чалавек закасваў руку, залазіў ёю пад усю таўшчыню вокрыўкі і так лячыў яго, не раскрываючы. На яго гру-

дзях стаяла пустая кадушка, падпёртая пад дно ўбітымі ў зямлю калкамі, а збоку ў загарадзі стаяла карова. Тут жа ляжаў ахапак саломы, якім у кожны момант льга было накрыць твар і галаву хворага. У другім месяцы ён першы раз вылез са сваёй нары. Быў мароз. Рыжы яго гаспадар прырыхтаваў ужо яму лапці, анучы, двое штаноў (лата на лаце, лепшых ён не меў дзе ўзяць), вопратку — кароткую, з фарбаванага палатна, падбітую кавалкамі старой кажушыны. Адзеўшыся, нядаўны хворы яшчэ некалькі дзён праседзеў у рыжага ў хаце. Пасля пацалаваўся са сваім гаспадаром і другам і пайшоў, трымаючы кірунак на ўсход. Ён ішоў цэлую ноч і на світанні апынуўся перад невядомай вёскай. Тут ён сышоў з дарогі і пайшоў кустамі. Але нейкі лямант у вёсцы прымусіў яго не выходзіць з кустоў і тут чакаць дня. Пасля ён адышоўся лявей ад дарогі ў поле. Тут быў лог, на дне якога ўлетку стаяла вада: сухі аір тырчаў счарнелымі вяршкамі з снегу. Вялікі камень урос у зямлю на самым схіле, пры ім снегу было менш. Тут чалавек перабыў за поўдзень. Пасля ён узышоў на высокі край схілу, зноў убачыў кусты і вёску і яшчэ штосьці, вельмі яму падазронае: з куста відзён быў чалавечы твар. Здавалася, што гэты твар дзіцячы, такі ён быў дробны і малады. Чалавек выйшаў на самы край схілу і стаў над ім. Дробны твар у кусце ўставіў на яго вочы, і ў іх свяцілася просьба аб спачуванні. Чалавек паклікаў яго да сябе махам рукі.

— Чаго ты сядзіш тут? — сказаў ён, стараючыся, каб голас яго гучаў грозна.

— Я тут начаваў у вёсцы, а пад канец ночы палякі наехалі грабіць, і я ледзьве ўцёк сюды.

— А хто ж ты такі?

— Падарожны.

— То чаму ж ты не ідзеш у сваю дарогу, калі ты падарожны, а сядзіш тут?

— У мяне там асталіся валёнкі, як я пайду без іх! А выскачыў я ў гаспадарскіх атопках, ледзьве хапіў іх з-пад парога.

— Куды ж ты ідзеш?

Замест адказу хлопец уставіўся вачыма на свайго дапытніка і ўздыхнуў. Ён гаварыў чыстай рускай мовай, з маскоўскім акцэнтам. Чалавек аб гэтым адразу падумаў, бо, будучы ў салдатах і ў Чырвонай Арміі, бываў у Маскве і каля яе і ведаў гэтае маскоўскае вымаўленне.

— Далёка ж табе ісці,— сказаў ён надаўгад, змякчаючы голас.

Хлопец ажывіўся. Ён сказаў:

— Я вас бачыў, як вы на світанні ішлі кустамі, а пасля спусціліся ўніз.

— То, можа, разам пойдзем?

— А валёнкі? Пачакаем вечара. Без валёнак можна прапасці — такія маразы стаяць. У мяне два пальцы на назе адмарожаны, без валёнак яны мне вельмі баляць на марозе. Мне валёнкі даў у горадзе адзін чалавек, у якога я начаваў.

— З палону ўцякаеш?

— Не.

— А як?

— Мы наступалі спачатку зімы, наша часць зайшла ў тыл. Мы захапілі іхнюю артылерыю, і, калі адступалі, мяне ранілі ў нагу, і я астаўся. Сяляне мне дасталі доктара, ён мяне падлячыў, і я цяпер блукаю па ўсёй мясцовасці, не ведаючы, як выбрацца на той бок фронту.

— Колькі ж табе год?

— Васемнаццаць.

— Сам пайшоў?

— Добраахвотнік.

— Адкуль родам?

— З-пад Масквы.

— Прыйдзецца нам ісці разам.

Увечары хлопец пайшоў украдкі ў вёску даставаць свае валёнкі. Яго не было доўга і прыйшоў ён без валёнак, іх абуў гаспадар хаты, збіраючыся ў страшную дарогу: яго арыштавалі і пагналі палякі. Сваіх ботаў ён абуць не мог: паляк укінуў іх у печ. Хлопец сказаў, што вельмі многа людзей з вёскі арыштавалі і пагналі. У чалавека адразу пачала выпрацоўвацца пэўная думка.

— Можа быць, мы цяпер спакойна пераначуем у вёсцы? — запытаў ён.

— Можа быць.

Было відно, што хлопец вельмі схілен да гэтага. Пры тым ён так даверліва ставіўся да новага свайго спадарожніка і так яго ўся істота прасілася пад яго апеку, што здавалася, быццам яны знаёмыя ўжо шмат год.

— Калі гаспадара твайго забралі, то гаспадыня, напэўна, нам паспачувае?

— Мусіць, я першы зайду ў хату, мяне ўжо ведаюць.

Пад поўнач у некаторыя хаты дапаўзла нясмелая чут-

ка, што «тут начуюць два бальшавікі». У той жа час хлопец ціха енчыў, седзячы ў кутку на лаве: пасля таго, як ён цэлы дзень пабыў у атопках па марозе, адмарожаныя пальцы балелі. Азіраючыся на ўсе куткі, у хату нясмела ўвайшоў малады мужчына.

— Ці не дастану запалак? — сказаў ён да гаспадыні.— Хто гэта ў вас енчыць?

— Адмарожаныя пальцы баляць,— абазваўся хлопец.

— Салам мазаць трэба.

— Яны раней адмарожаны, цяпер з холаду баляць.

— Трэба абувацца цяплей.

— Мае валёнкі гаспадар абуў.

— А, то гэта вы тут начавалі ўжо? Бярыце валёнкі. (Ён скінуў з ног валёнкі.) Я чуў, што вы начавалі. Мне казалі, што з вамі сёння яшчэ адзін таварыш прыйшоў. Мы падумалі, што не можа быць, каб вы былі пераадзетыя палякі, а цяпер бачу, што і сапраўды, калі пальцы адмарожаны.

— Хто гэта падумаў так? — сказаў пераапранены чырвонаармеец, выходзячы з цёмнага кута.

— Нас тут разграбілі і многа народу пагналі. Што рабіць?

— Што рабіць? Адзін бароніцца, другі рад, калі яго б'юць. Гэта як да чалавека.

— Рад! Хто гэта рад, калі б'юць, добры інтэрас! Такой парады я і без вас дастаў бы. Вы такі ж людзі вайсковыя.

Пераапранены чырвонаармеец выйшаў на сярэдзіну хаты, заклаў рукі ў кішэні:

— Бярыце вінтоўкі і бараніцеся. Адкуль ты ведаеш, што мы людзі вайсковыя? На лбе напісана?

— Вінтоўкі, можа, і знайшліся б, каб добра пашукаць. Можа, у каго ад нямецкага фронту асталася, а можа...

— А можа, у каго куры знеслі?

Чалавек усміхнуўся, і пасля гэтага яны ўжо больш не гулялі ў словы адзін перад адным, а пайшлі ў адну з блізкіх хат. Туды сышлося чалавек пяць: яны з гадзіну прагаварылі, патушыўшы агонь, а на світанку шаснаццаць чалавек пакінулі вёску. У кожнага была вінтоўка і мяшок з хлебам. З імі ішоў пераапранены чырвонаармеец і хлопец з адмарожанымі пальцамі на нагах, ён быў у валёнках. Праз кіламетраў дзесяць яны спыніліся ў лесе. У вершалінах старых хвояў стаяў безупынны і роўны, як вечнасць, шум. Пад навіссю галля снегу было

мала, пад самым дрэвам вытыркала ўверх магутнае карэнне. Мароз зменшваўся, ціхі і хмурны дзень прайшоў неўзаметку. Пакуль знайшлі зручнае месца ў лесе, пачало цямнець. Усе адзін аднаго ведалі з маленства, чалавек жа і хлопец, што начавалі ў вёсцы, былі ўсё ж такі невядомыя. Чалавек гэта адчуваў і, робячыся камандзірам над гэтымі людзьмі, спяшаўся гэтую невядомасць знішчыць. На змроку ён паслаў аднаго з людзей у места, дзе была жандармерыя і дзе трымалі забраных. Пасланец вярнуўся толькі назаўтра ўночы і расказаў, што арыштаваных яшчэ нікуды далей не адсылалі, а больш нічога невядома. Разведка была пустая. Тады пераадзеты чырвонаармеец, быццам партызанскі цяпер камандзір, пайшоў сам у места. Таварышы сабралі яму паміж сябе на дарогу крыху грошай. У месце ён купіў вясло лыкавых скруткаў і два гаршкі. Лыка ён перавесіў цераз плячо на шыю, гаршкі трымаў у руках і так, лапцяваты, лямцаваты і абраслы, цёрся паміж людзей на рынку і паміж саней ля жандармерыі. Нічога ён у той дзень не дазнаўся, начаваў там, быў яшчэ дзень і толькі цераз гэтую ноч, зранку, сяго-таго выразнага дайшоў: на санях ля жандармерыі сядзела заплаканая жанчына і сказала, што яе мужа дапытвалі апошняга, пагражалі яму яшчэ страшнейшым допытам у большым горадзе. Калі ж іх павядуць ці павязуць у той горад — невядома. Але раз допыт скончыўся, то, значыцца, доўга тут трымаць не будуць. Пасля гэтага чалавек адразу рушыў у лес да сваіх. Па дарозе ён напаткаў чатырох польскіх коннікаў, але яны не зачапілі гэтага мужыка з гаршкамі і лыкам. Да вечара ён дапаў да лесу і, як толькі ўмеркла, павёў людзей полем да дарогі. Гадзіны тры яны мясілі снег, пакуль выбралі далёкае ад паселішч месца дарогі, аброслае хмызнякамі і недалёкае ад лесу. Гэта быў біты і адзіны шлях да чыгуначнай станцыі. Чатыры дні і ночы яны тут прачакалі, пры самай дарозе. На другі бок дарогі мясцовасць спускалася ўніз; мала язджалая палявая дарога, як праехаць санкам, вілася там. На даляглядзе сінелі лясы, кіламетраў за шэсць ад дарогі стаялі рэдкія дрэвы, а да іх параскідаўся хмызняк. Вечарэла. Было зусім ціха.

«Я стаяў поплеч сваіх таварышаў, людзей, якіх дзён некалькі да гэтага не ведаў, не чуў нават нічога аб кожным з іх. Мне было відно, што яны не зусім яснымі вачыма глядзяць у будучыню: вайна, акупацыя, голад, зі-

ма, без канца будзе беспрытульнае бадзянне па лясах. Калі выпадак не падашле справы, у якой будзе ўдача, то дрэнна прыйдзецца, з панурымі людзьмі нічога не зробіш,— так думаў я. Сам я ў гэты момант адчуваў, як шэсць маіх ваенных год ціснуць мяне да зямлі. І сям'я невядома дзе, і я год шэсць не маю дзе і як галаву прытуліць. Прызнаюся, гэта быў момант упаду духу, за які цяпер чырванею. Мы пачулі на дарозе нейкі шум, мусіць, вельмі здалёк: было ціха, а яго ледзь чуваць. Кожны выбраў сабе прыдарожны куст і стаў за ім. Мы заўважылі, што бярэцца на дзень. Шум чуваць бліжэй, ужо льга чуць, што гэта чалавечыя крокі і павольны конскі тупат. Гэта былі тыя, каго мы чакалі, хоць яны былі не ўсе. Васьмёра ішло са звязанымі рукамі, і коннікі ехалі следам. Я скамандаваў. Мы далі ў паветра залп. Коні ўзвіліся на дыбкі ад раптоўнага страху. Мы з крыкам кінуліся на дарогу. Коннікі рассыпаліся па хмызняку, а праз некалькі хвілін, адумаўшыся, выстраіліся ланцугом, рэдка адзін ад аднаго, і пачалі страляць, маючы адзін намер пастраляць арыштаваных, якія не ведалі, што гэта робіцца і, ашаломленыя, стаялі. Я скамандаваў ім разбегчыся, пасля чаго коннікі раз'ехаліся паўкругам і рушылі на нас. Наша ўдача была ад таго, што нас было больш. Яны гэта бачылі і стралялі не цэлячыся. Я скамандаваў лажыцца на дарожным адкосе. Раптам я ўбачыў, што тры коннікі заехалі нам у плечы і проста на нас імчацца. Спераду пакінулі страляць і таксама памчаліся на нас з голымі шашкамі. Крайні злева імчаўся той, што ўвесь час падаваў каманду. Мае людзі не былі спрактыкаваны ў момантных зменах спосабаў бою і шпаркай стральбе. Яны нас маглі змясіць усіх. Тут мы ўбачылі, што наш хлопец з адмарожанымі пальцамі на нагах успоўз з адкосу на край самай дарогі і ў той момант, калі яго мог падмяць пад свае капыты ашалелы конь, стрэліў у іхняга начальніка. Конь узняўся на дыбкі і пераскочыў цераз хлопца, коннік жа грукнуўся вобземлю, застрэлены адразу. Мы далі залп, выскачылі на дарогу і яшчэ далі залп. Коннікі завярнуліся і памчаліся назад. І адзін з іх секануў шашкай нашага хлопца. Мы далі ім услед некалькі залпаў і яшчэ маглі заўважыць, што двое з іх зваліліся з коней. Мы развязалі арыштаваных, нам трэба было адразу ж рушыць адсюль. Наш хлопец ляжаў нежывы, з рассечанай галавой. Мы выбралі мясціну ў лажку, дзе было больш снегу, у снег яго пахавалі і пайшлі. Нас стала

больш. Перад адыходам я сказаў: «Над гэтай снегавой магілай нашага маладога друга мы даём слова быць разам і прабівацца да сваіх». З той хвіліны я афіцыйна пачаў лічыцца камандзірам гэтага атрада. За тыя дні мы прайшлі некалькі лясоў, з адной вёскі прагналі польскі карны атрад. На чацвёрты дзень мы падышлі блізка фронту. Праз тыдняў тры ў маім атрадзе было больш шасцідзесяці чалавек. Тут мы сталі ў адзін фронт з другім, выяўленым намі тут партызанскім атрадам. К вясне нашы атрады зліліся, і я гэтай часцю камандаваў увесь час, да самага канца вайны. Мы ўліліся ў бліжэйшы нам франтавы полк, прабіўшыся да яго праз польскія часці».

— А сям'ю вы знайшлі?

— Не,— жорстка адказаў вайсковец і сеў.

— А гісторыя вашых шрамаў?

— Два шрамы асталіся з таго часу, калі бралі Мінск. А адзін — тады, калі на дарозе адбівалі арыштаваных. Я лёгка быў ранены ў шыю.

Сашка слухаў і думаў, што вельмі добра мець такія заслугі і ордэн на грудзях. Ён утаміўся слухаючы. І тое, што далей гаварылася, ужо лёгка прасейвалася праз яго галаву. Галава яго толькі тады зноў пачала затрымліваць у сабе ўсё, што чулі вушы, калі праз нейкі час загаварыў той чалавек у цывільнай адзежы, якога ён раней стараўся пазнаць і не пазнаў. Чалавек гаварыў пра тое, як і чаму ён пайшоў у партызаны. Самы голас гэтага чалавека абуджаў у Сашкі пакутнае жаданне пазнаць яго, быццам у яго, у Сашкі, з гэтым чалавекам былі нейкія сувязі. Сашка павярнуў галаву ўбок, прыжмурыў вочы і напружваў памяць. Увушшу яго гучаў струмень слоў апавядальніка, вочы кідалі вялы позірк на дзверы, дзе ў натоўпе сядзеў на сваім месцы Вэня. Вэнева галава была Сашку адгэтуль добра відна. Раптам гэтая галава прыўзнялася, Вэневы вочы ўпёрліся ў апавядальнікаў твар, пасля галава паехала ўніз, пасля зноў прыўзнялася. І раптам Сашкава ўвага пачала накіроўвацца на дзіўныя Вэневы паводзіны: Вэня выразна зменьваўся з твару. І ў той момант, у які Сашка хацеў ужо рушыць да Вэні і запытаць, што з ім такое робіцца, Вэня падагнуў адно плячо і выпаўз за дзверы ў карыдор. Сашка сам сабе ўсміхнуўся: са здароўем, мусіць, нядобра ў Вэнькі. Чалавек расказваў:

«Мой брат ледзьве выжыў, так яго збілі. У той самы дзень я і яшчэ адзін хлопец з нашай вёскі кінуліся даганяць адну асобу: гэтая асоба вадзіла па хатах палякаў

і паказвала, каго біць. У лесе мы чалавека гэтага дагналі, ён у нас страляў, мы вярнуліся, больш узялі людзей, але яго ўжо не знайшлі. Усе хто куды разбрыліся, я астаўся ўсё ж такі пільнаваць яго. І от, ужо ўвечары, як сцямнела, я ўбачыў яго. Ён быў вельмі нейкі ўстрывожаны, бег дарогай, скіраваў на сцежку пры выхадзе з лесу. Ён мяне не бачыў. Я падпусціў яго на крокаў дзесяць, намерыўся і шпурнуў у яго сякерай — іншай зброі ў той момант са мной не было. Сякера прайшла ў яго па грудзях, але я думаю, што толькі зачапіла яго, бо ён выхапіў рэвальвер і закрычаў на мяне: «Ідзі лепш тушыць сваю хату». Тут я заўважыў, што неба за лесам аблілося зарывам. Я пабег. Я пачаў думаць, што, можа, гэта ён і падпаліў вёску. Чалавек, што жыве акрай таго лесу, гаварыў пасля, што ён якраз у той час хадзіў кудысьці, паставіўшы ў яго каня. Быццам хадзіў на хутары свіней пытаць, але хутарскія людзі ўспаміналі, што ніхто ў той дзень да іх не прыходзіў. Я пабыў дома ўсяго некалькі дзён. Нас сабралася чалавек дзесяць, і мы пакінулі вёску. Да вясны нас было ўжо больш за сорак чалавек, і ў ліпені месяцы пад Мінскам мы некалькі разоў атакавалі польскія часці. Адны з першых мы ўвайшлі ў Мінск, выбіўшы з яго ўскраіны палякаў. Успамінаецца, як мы яшчэ трымаліся ў лесе поблізу сваёй вёскі. Мы туды вярнуліся ў пачатку лета. У нас не хапала вінтовак і нам было галаднавата. Там быў млын; у млыне працавала наймічка Люба Лук'янская. Яна выкрала ў свайго гаспадара вінтоўку і перадала нам, і цераз яе мы бралі ў млыне сабе муку. Яна нам памагала.

— А дзе цяпер яна, не ведаеце? — загучаў перарывісты голас таго вайскоўца, які нядаўна расказваў сваю гісторыю.

— Не ведаю, дзе яна цяпер.

— А як вы яе апошні раз бачылі? — хваляваўся вайсковец.

— А было так. Перш за ўсё трэба было прыдумаць, як даставаць з млына муку. Мы з ёю адарвалі ў падлозе дзве дошкі. Тут якраз найшоў млынар. Я схаваўся, яна стаяла пад млыном і падпірала плячом адарваныя дошкі, каб гаспадар не заўважыў. А ён якраз стаў з нейкім другім, што з ім прыйшоў, на гэтыя адарваныя дошкі. Скранíся яна з месца — пайшла б на марнасць уся справа. Яна вытрымала, але плячо яе счарнела і, можа, нават было вывіхнута. Не ведаю, я плячо стараўся паставіць ёй на

месяца. Пасля гэтага я яе не бачыў. Той самы чалавек, што жыве пры лесе, гаварыў пасля, што яна тым самым летам пайшла нібыта ў Мінск шукаць бацькі свайго дзіцяці. Ці нарадзілася яно, тое дзіця, ці не — невядома. Але гэта, сказаць, і не належыць да маіх успамінаў. Пасля ўзяцця Мінска наш атрад даў быў палякам самастойны бой. Мы адбілі абоз і ўзятых імі палонных».

Сашка бачыў, як вайсковец пачаў вельмі шпарка пагойдваць нагой і (адразу кідалася ў вочы) з нецярплівасцю чакаў, каб партызан хутчэй скончыў гаварыць. Як партызан змоўк і сеў, вайсковец адразу ж падышоў да яго і ціха, вельмі паспешна, проста аж няспрытна, адрэкамендаваўся:

— Маё прозвішча — Лук'янскі.

— А маё — Рыльскі,— адказаў былы партызан.

— Ці ведаеце вы, што Люба напэўна мая дачка! Інакш быць не можа.

Сашка толькі бачыў, як яны шапталіся, што ж яны адзін аднаму казалі, ён не чуў. Думкі яго цяпер круціліся навокал Вэні. І пачатак гэтых думак, уласна сказаць, быў нават і не ў расказе Рыльскага, а ў тым, што Вэня выйшаў за дзверы. Ужо ад гэтага Сашка здагадаўся, пра каго Рыльскі расказвае. Тое ж, што ён пачуў тут з Любінай гісторыі, ужо ў наступную хвіліну пачало забывацца. Што яна калісьці шукала яго, ён ведаў тады ж і праз Вэню, і праз адну гаворку з бацькам і з жонкай. Але ўсё гэта было даўно, усё прайшло і абышлося ціха, і, апроч колішняй баязлівасці, тут ніякага ніколі пачуцця ў яго не было. Усяму канец, што пра гэта думаць! Усё забылася, пакінула існаваць і стала непатрэбшчынай. І следу ніякага. Тое самае і з яго тым гераічным учынкам, калі ён бараніў ад паляка чалавека — справа, з якой пачалася яго партызанская слава. Ні то што калі раней, а нават і цяпер, выслухаўшы Рыльскага, ён глыбока пра гэта не падумаў. Нават ён чакаў, што Рыльскі як-небудзь і яго ўспамяне, што вось, значыцца, быў тады ў вёсцы Сашка Стафанковіч, які даў прыклад, як змагацца з акупантамі. Гэта была злачыннасць у думках, але поўнай свядомасці тут не было як такой. У чалавека выпрацаваўся рэфлекс. Не можа быць, каб на сходзе, дзе ён прысутнічае, на яго не глядзелі, як на важную персону! Даслухаўшы да канца Рыльскага, Сашка быў повен расчаравання — пра яго не сказана ні слова. Самому сказаць пра сябе? Вось тут і пачыналася поўная ўжо свядомасць і хітрасць. Выгадней было

змаўчаць і ціхом выйсці адсюль. А што ж з Вэнем? Вэня сапраўды зрабіў злачынства, гэта ясна. Але Рыльскі назваў яго бандытам. Гэта ўжо ніяк не магло знайсці сабе месца ў Сашкавай галаве, тут зноў жа быў рэфлекс: які ж Вэня бандыт, калі ён друг Сашкі Стафанковіча? Можа, такое ўяўленне аб рэчах ішло ад дурной і тупой Сашкавай галавы? Гэта не так, Сашкава галава не была дурная, гэта быў хітры анёлак; даўней ужывалася трапнае слова наконт такіх асоб: божы бычок. Ён не трывожыўся, ён ведаў, што пад дажджом можна падагнуць плечы і перастаяць хоць у чыстым полі; пасля дажджу бывае ясна, і мокрыя плечы высахнуць адразу, абы толькі замест дажджавых кропель на чалавека не падалі кулі або каменне. От ён і стараўся не нарвацца пад кулі, а дождж ён мог і перачакаць. Некаторыя, што стыкаліся з ім у службе, мелі яго за чалавека вялікага розуму і практыкі. Думалі, што галава і душа яго жывуць вялікімі размахамі. Размахі ж гэтыя заўсёды да канца выяўляліся так: тыя справы, у якіх ён плаваў, самі сабой выносілі яго на сваю паверхню. Справы гэтыя і без яго рабіліся б, можа, нават яшчэ лепш, як з ім. Ён жа верыў, што імі кіруе, і прымушаў многіх у гэта верыць. А калі часамі і не верыў, то лічыў такі стан рэчаў непахісным законам светабудовы.

— А ці злавілі таго бандыта, які спаліў вёску і вадзіў па хатах палякаў? — прагучала запытанне з натоўпу да Рыльскага.

— Не,— адказаў Рыльскі.— Я пабег тушыць вёску, але, каб і не пабег, то ён мяне мог бы застрэліць. Ён і так мне наўздагон стрэліў, а мне страляць не было з чаго.

— А хто ён такі і адкуль? Следу ніякага?

Такія моманты бывалі ў жыцці Сашкі Стафанковіча, момантны жывёльны страх быццам бы прарываў атупеласць яго галавы і сэрца. Так было, напрыклад, тады, калі ён дачуўся быў, што Люба з малым дзіцем шукае яго. Нешта падобнае здарылася і цяпер. Ён падумаў: так жорстка дапытваюцца пра Вэню? Могуць выявіць яго. І тады разам з ім будзе і мне. Я за яго паручаўся. (Цікава, што ён нават і не падумаў, за што ж ён сам мае партызанскую славу?) Каб яго настрой гэтага моманту мог выявіцца колерамі на яго твары, то твар гэты быў бы чорны, як зямля. Стараючыся, каб яго не вельмі заўважалі, ён выйшаў. Але ў карыдоры пад дзвярыма ён убачыў Вэню. У таго на твары ляжала пячаць уважлівай задуменнасці і, разам з тым, пільнай заўзятасці. Такі выраз на Вэневым твары Сашку

даводзілася бачыць тады, калі Вэня часамі вырашаў якія-небудзь складаныя ходы ў ажыццяўленні сваіх кожнадзённых спраў.

— Ты ідзеш? — здзівіўся Вэня.— Не выказаўшыся? Ужо каму-каму, а табе няма чаго і думаць не трапіць на старонкі прэсы. Ты хочаш, каб цябе прасілі? Ты сам вылазь, чаго табе баяцца? Каб на тваім месцы быў я!

Гэта Вэнева заўвага вярнула Сашку да звычайнага яго настрою. І ў адзін момант ён зноў стаў лёгкі і спрытны.

— Ты павінен бліснуць гэтымі днямі,— гаварыў Вэня.— На святкаванні вызвалення ад белапалякаў ты павінен нейк паказацца, і дарэмна ты ўцякаеш цяпер, нічога не сказаўшы.

— Будзем бачыць,— адказаў неахвотна Сашка.— Давай пойдзем, а там паглядзім.

Тут была ў дзейнасці яго выпрацаваная асцярожнасць: нюх яго заўсёды дагэтуль падказваў яму, дзе трэба сядзець, а дзе ўстаць і пайсці. З Вэнем яны выйшлі на вуліцу, і блакітная машына адразу да іх пад'ехала.

«Усе святы пераседжу дома, нават і не выйду з хаты, нікуды не пакажуся, толькі загадзя нарыхтую выпіўкі і закускі»,— думаў Вэня, лезучы ў машыну.

«Паўтара дзесятка год ці нават больш прайшло з таго, калі Вэня нешта там рабіў. Пры чым тут я»,— думаў Сашка, лезучы ў машыну следам за Вэнем. І, ужо едучы ў машыне, думаў пра свой кабінет на сваёй новай пасадзе. З заўтрашняга ранку можна прымаць справы. Хоць, можа, калі разабрацца, гэта і не было павышэнне чынам, але затое ў Мінску і ў той установе, якая займае некалькі пакояў у Доме ўрада — самым грандыёзным з усіх будынкаў рэспублікі! Зранку таго дня ён заходзіў ужо нават туды, дзе будзе стаяць яго стол. Гэтаму сталу ўжо і месца падрыхтавалі: высокай фанернай фарбаванай шырмай аддзялілі кавалак пакоя з акном і дзвярыма проста ў карыдор. Выйшла падабенства да зусім асобнага кабінета. Вэнева блакітненькая машына дрынкала і прабразгвала цераз увесь горад. Дзесьці за Нямігай, пад Кальварыю ці пад Людамонт, яна бегла, шукаючы нейкага выкручастага завулка, у якім нарэшце і спынілася ля мураванага дамка, адрамантаванага і выбеленага.

— Тут жыве мой супрацоўнік,— сказаў Вэня Сашку.— Я зараз яго абмацаю. Гэты дамок я яму, сукінаму сыну, адрамантаваў за кошт установы.

— То чым гэта кепска?

— Ён жа і не гаворыць, што гэта кепска. Пазнаеш ты яго ці не?

— На чорта ён мне, твой гэты працаўнік, ты маеш з ім справы, то ідзі да яго, а чаго ты мяне сюды прывалок? Няхай мяне машына завязе ў цэнтр горада, я ў кіно даўно не хадзіў.

— Э, дурненькі, тут якраз і ты патрэбен, каб на яго тхнула паветрам вялікіх спраў.

— Пусці мяне, я паеду, якога я тут чорта буду рабіць?

Сашку сапраўды было тут нудна, ніколі яшчэ за гэтыя дні не адчуваў ён у сабе такой лёгкасці, як цяпер. Яму хацелася як-небудзь жартаваць, бліШчаць сваёй асобай, верхаводзіць якой-небудзь вясёлай кампаніяй у рэстаране, скажам, а тут Вэня зацягнуў яго да нейкага там свайго супрацоўніка.

— Збіраюся абедаць,— сказаў гэты супрацоўнік, як толькі Вэня і Сашка ўвайшлі.— Ваша месца па вас сумуе, даўно не былі,— падаў ён Вэню руку.

На стол падалі абед з гарэлкай. Падвесяліўшыся, Вэня пачаў «абмацваць» свайго супрацоўніка.

— Памятаеш, як я да цябе даскочыў быў тады ўночы з рассечанымі грудзьмі, калі паляк па дарозе мяне шашкай пацягнуў?

— Памятаю,— адказаў супрацоўнік.— Дзіва, што я той дзень памятаю! Я тады да самага вечара лячыў збітых і параненых палякамі, усю вёску абышоў, траха не ў кожнай хаце быў. І толькі што мяне прывезлі дадому, толькі што я пачаў класціся спаць, як чую — нехта пад'ехаў. Гэта былі вы. Як гэта вы тады якраз да мяне трапілі?

— Я даў круга на мястэчка, ведаючы, што ў мястэчку павінен быць хоць фельчар. Якраз вас там і знайшоў.

— Добра, што неглыбока вас тады паляк параніў, я вас як абгледзеў, то вы адразу і паехалі.

— Не адразу, а да ранку паляжаў у вас.

— Правільна, забыўся, паляжалі.

— Яго таксама лячылі?

— Калі яны там былі і патрабавалі дапамогі, то, напэўна, лячыў.

— Лячылі,— абазваўся Сашка, пазнаўшы ў гэтым Вэневым супрацоўніку свайго лекара і ўспамінаючы ўсе акалічнасці той справы. Яму стала смешна, а са сваёй вышыні ён з пагардай глядзеў на гэтага «супрацоўніка», а можа, нават да некаторай ступені і на самога Вэню.— Дзіва што лячылі. Вы тады гэтак напалохалі майго бацьку,

што ён гатоў быў вам усе свае грошы, якія меў, аддаць. Хэ-хэ! І вы такі тады сябе ў крыўду не папусцілі.

Вэнеў супрацоўнік перасмыкнуў усімі рысамі свайго твару, і заядлая задзірыстасць бліснула ў яго вачах, але адразу ж ён саўладаў з сабою, выклаў на свой твар пячаць далікатнасці і павагі да Сашкі і запытаў:

— Вы таксама, як і яны (кіўнуў на Вэню), партызан?

— Партызан,— адказаў Вэня замест Сашкі.

— Вялікі чын маеце цяпер?

— О,— зноў адказаў Вэня,— з сённяшняга дня яшчэ большы чын. Заўтра прыступае да новай працы.

— Заслужоны чалавек заўсёды так. Вельмі цікава было б паслухаць, як вы з палякамі змагаліся.

Сашка яшчэ раз выпіў, і ім ужо як мае быць апанавала заўзятая весялосць. І Вэня са сваім «супрацоўнікам» пачулі колішняе «дрык-дрык, чэк-чэк».

— А больш, у лесе, у атрадзе дзе-небудзь, вы былі пасля ўжо?

— А як жа, быў,— запабег наперад Вэня.

— Раны мелі? Я цікаўлюся як работнік медыцыны.

— Мелі,— адсек Вэня.

— Не меў! — грымнуў Сашка, чуючы ў «супрацоўнікавым» допыце кпіны.— Мне шанцавала, кулі мяне міналі.

— Я так і думаў,— перацяў «супрацоўнік», сам сабе падміргнуўшы.

Сашка ўз'еўся:

— Вы не страцілі сваёй колішняй прывычкі самому сабе падміргваць. Хэ-хэ!

— Пакінь,— сказаў Вэня,— я цябе прывёз да свайго найлепшага прыяцеля, які ведае і мае заслугі і твае.

Гэтымі словамі Вэня хацеў навесці Сашку на думку, што гэты чалавек належыць да таго акружэння, якое ён, Вэня, стварыў навокал сябе і якое, на выпадак чаго, гатова стаць на абарону Вэневых заслуг, аўтарытэту, практычнасці, аддапасці і ўсяго іншага падобнага. І, каб яшчэ выразней давесці гэта да Сашкавай свядомасці, ён паклаў яму разжаванае ў рот, сказаўшы свайму супрацоўніку:

— Памятаеце, як я ўспомніў пра вас і перацягнуў вас з мястэчка сюды?

«Раней гаварыў «ты», а цяпер «вы»,— думаў Сашка, і яго высокай і ўшанаванай галаве здалося, што Вэня, падвыпіўшы, хоча сказаць, што гэты крываროты супрацоўнік цалкам ад яго залежыць. Такая пастаноўка справы

яму вельмі спадабалася, і ён адразу зажадаў падтрымаць свайго друга. К таму ж ён быў пакрыўджаны «кпінамі». Ён выпіў яшчэ адну чарку і адсмаліў:

— Практыкант! Ваша вока заўсёды збіраецца падміргнуць. Чаму гэта яно так?

— Вы сядзіце за маім сталом,— холадна адказаў гаспадар.— Калі ў чалавека ёсць якая-небудзь хіба з вокам, то за гэтае няшчасце нават і хуліган не будзе чалавека абсмейваць, а то вы, такі заслужоны чалавек; я ведаю, што заслужоны, што ўсё цела ваша палякі штыхамі папаролі, сам лячыў, ведаю, ледзьве вылечыў.

— Ты мяне да гэтага рахункавода прывёз, каб ён з мяне здзекаваўся? — кінуўся Сашка да Вэні.

— Ты, братка, не глядзі на яго,— сказаў Вэня гаспадару.— Ён п'яны.

Сашка моўчкі ўстаў і вынес свой гонар на вуліцу. Вэня кінуўся за ім. Гаспадар перахітрыў Вэню. Ён не запытаў яго проста, хто ён такі цяпер, гэты Сашка Стафанковіч, а так сказаў:

— Што вы прывезлі да мяне гэтую драбязу.

— Гэта не драбяза,— адказаў Вэня.— З заўтрашняга дня ён... (Вэня назваў установу і Сашкаў чын). Ты не злуй, ён п'яны і, праўда, крыху недалікатны.

— Нічога,— згадзіўся чалавек, памагаючы п'янаватаму Вэню ўлезці ў машыну.

Едучы, Вэня шаптаў Сашку:

— Ніколі я не спадзяваўся ад цябе. Дурань ты, самы сапраўдны. Нашто ты сабе ворага нажыў? Старэеш ты, ці што? Ты ж раней мог не менш як сёння выпіць і заўсёды ўмеў трымацца. Пасля таго сходу ў рэдакцыі я паехаў сюды настрой падняць, падумаць, праверыць, а ты рызыкнуць уздумаў? Чым ты ганарыцца ўздумаў, халера на цябе! Маўчаў бы лепш. Нешта я, ведаючы цябе, і сапраўды мала веру, каб ты там якія-небудзь учынкі геройскія рабіў.

— Перад гэтым спекулянтам, які тады з бацькі ў пяць столак немаведама за што злупіў, хочаш, каб я пашкаваў?

— Не веру я ў тваё геройства, ты ўсё найбольш тады каля той Любкі круціўся.

— А дзе яна цяпер, тая Любка?

— А от і пазаўчора я яе на вуліцы спаткаў.

— Што ты кажаш? А цікава было б на яе цяпер паглядзець. Якая яна цяпер?

— Расфуфыраная. Так адзета і так выглядае! З такім густам адзяецца? Я яе часта спатыкаю на вуліцах.

— Пазнае цябе?

— Па-мойму, яна мяне ніколі не заўважала, можа, хіба апошні раз пазаўчора, здаецца, глядзела на мяне.

— А тады яна была, хоць і абарваная, але такая дзеўка! Праўда, дурная, але нашто той розум! Я, Вэнька, буду ў цябе сёння начаваць, не хачу ў неабсталяванай кватэры. Мусіць, жонка недзе прыехала ўжо, то няхай там абсталёўвае.

Ёсць такія дамы на другарадных вуліцах Мінска: адзін паверх, драўляныя сцены, няйначай жоўтыя рамы і аканіцы. Дом стаіць упоперак на пляцы, двума кватэрнымі ганкамі на вуліцу. Падабенства такіх дамоў аднаго да другога вызначае твар вуліцы. Такі дом мог быць пабудаван год за дзесяць да вайны, а мог быць і за трыццаць. Сярэдні чыноўнік губернскіх канцылярый або немалы чын на чыгунцы заўсёды будаваў сабе пад старасць такі дом. Калі гаспадар яго за гады рэвалюцыі не ўтрымаўся на месцы, дом або пайшоў пад жакт, або быў прададзен якому-небудзь драбнейшаму гарадскому тубыльцу. А пасля шмат хто з гэтых тубыльцаў пачаў абслухоўваць, каму б і за колькі гэты дом перапрадаць. У нашы дні гэтую жоўтааконную таварыну купляе часам якая-небудзь установа пад кватэры сваім кіраўнічым службоўцам. У такі дом запад кватэры сваім кіраўнічым службоўцам. У такі дом завезла свае чамаданы Валя Іваноўская, прыехаўшы ў Мінск на некалькі дзён пазней за Сашку і ніяк не могучы яго тут, у Мінску, злавіць, хоць, праўда, на гэта ёй і часу вельмі не было. Вуліца, дзе стаяў дом, Валі спадабалася сваёй ціхасцю і мноствам дрэў. Вязы і таполі раслі скрозь паўз тратуар, і адно акно ў доме, якраз у тым пакоі, які Валя адразу наглядзела сабе, было ўсё заслонена купчастым параснікам бэзу. Валя пачала клапаціцца. Яна наняла майстроў, за адзін дзень перакленіла сцены, сама вымыла падлогу і вокны, не чакаючы Сашкі, купіла першае, што трэба было з мэблі. З усім гэтым яна ўправілася за два дні. Насільшчыкі і развозчыкі мэблі пры магазіне мала калі бачылі ў сваёй практыцы такую жанчыну, якая б так спрытна таргавалася і дамагалася свайго без доўгай гаворкі. Увечары таго дня, калі была ўнесена мэбля, Валя замкнула дзверы і паехала трамваем у другі бок горада. Яна адчувала радаснае дрыжанне сэрца і спынялася ўпэўніцца, ці не дарма яна радуецца. Шпаркай хадой яна з'явілася да велічэзнага дома на чатыры паверхі. Яна хвалява-

лася, паднімаючыся па крутых усходах і прыглядаючыся да нумарацыі кватэр. Некалькі разоў пастукала, пакуль яе пачулі і адчынілі ёй. Яна проста-такі збянтэжылася, пераступіўшы парог гэтага вялікага пакоя. Тут была мэбля, якую яна прывыкла бачыць усюды і ў самой сябе. Пляскаты стандарт, без якіх бы там ні было дэкарацыйных элементаў. У гэтым пакоі ўсё зіхацела ад чыстаты, і чыстата гэтая нібы была дакорам мэблевай прамысловасці за стыль таго, чым яна запоўніла гэты пакой. Але менш за ўсё Валя Іваноўская ў першы момант брала гэта на ўвагу. Яе ашаламанілі чатыры постаці, якія спаткалі яе ля самых дзвярэй. На іх было дзіўнае ўбранне: нельга было сказаць, дзе канчаўся жоўты колер і пачынаўся сіні, дзе чырвоны саступаў масца зялёнаму, дзе блакітны межаваўся з пазлацістым бляскам. Ці то кожная частка адзежыны мела свой колер, ці то матэрыя была такая стракатая — Валя Іваноўская адразу не магла разгледзець. Разбірацца ў гэтым яна пачала крыху пасля, пабыўшы тут і асвойтаўшыся. Адразу заўважыла яна толькі тое, што ўбранне гэтае з матэрыі вельмі тонкай, ад кожнага руху адзетага ў яе чалавека ўзвіваецца па паветры і ападае павольна. На дваіх была адзежа мужчынская, на дваіх жаночая. У мужчын на галовах убёры мелі выгляд усходняй чалмы, але малой, якая трымалася толькі наверсе галавы. Ззаду ж з яе звісаў канец шаля, з якога яна была зроблена. Шаль спускаўся да пояса. Безрукаўка была ўвабрана пад пояс — шырокі, самы звычайны, які могуць выткаць у кожнай вёсцы. Тут былі кутасы і мігценне зялёнага і чырвонага колераў. Безрукаўкі — на адным блакітная, на другім сіняя. Больш стракатасці было ў жаночым убёрах. Там кожны кавалак матэрыі меў злучэнне ўсіх колераў. Спадніцы мелі многа дробных фалдаў, іх здавалася яшчэ больш ад таго, што на самай матэрыі ішлі густа тонкія рознакаляровыя палосы. З блакітнага аксаміту кабаты былі зашнураваны ззаду. Белыя рукавы сподніх блузак мелі шмат вышыўкі. Густа яна ляжала на плячах, і гэта нейкім чынам нагадвала Валі Іваноўскай тую кашулю, якую шмат год таму надзявала ў святы яе маці. На галовах жанчын тонкія шалі таксама былі завязаны ў чалму, але канцы звісалі да самага падола спадніцы. З твару ўсе чатыры былі падросткі.

— Тут жыве Лук'янская? — запытала Валя.

— Тут, яе няма,— адказаў адзін «мужчына». Усе яны стаялі ля дзвярэй перад Валяй, і было адразу відаць, што

яны толькі і чакаюць таго моманту, калі гэтая незнаёмая ім жанчына пойдзе і не будзе ім перашкаджаць. А яна застаяла. Тады яны, быццам не маючы ні хвіліны часу, заспявалі разам усе нескладаны і вельмі рытмічны матыў і пачалі танцаваць. Дзве пары то браліся за рукі, то разыходзіліся ў няспынным руху, беручыся ў бокі. Але не тапталіся на месцы, і калі круг рытму іх танца канчаўся і пачынаўся нанова, яны былі ўжо ў іншым месцы, наколькі дазваляла прастора пакоя. Гэта была хада ў форме танца.

— Твая рука мне заўсёды не дае стаць цвёрда.

— На вуліцы я інакш буду яе трымаць. Тут цесна, бачыш — шафа.

Яны вярнуліся назад да дзвярэй і зноў пачалі сваю рэпетыцыю.

— А калі Лук'янская прыйдзе? — запытала Валя.

— Яна прыйдзе, мусіць, не скора,— адказаў малады «мужчына».

Валя пайшла расчараваная. Той «мужчына», які гаварыў з Валяй, з твару вельмі нагадваў ёй Сашку. Але ніякіх адмысловых думак у Валі тут не было. Спускаючыся з усходаў, яна ўбачыла, што насустрач ёй узыходзіць высокі і стары чалавек, таксама з твару вельмі падобны на Сашку. Гэтая акалічнасць ужо зусім выгнала з Валінай галавы думкі аб падабенстве да Сашкі маладога, незвычайна ўбранага танцора: не можа быць, каб усе сустрэчныя былі падобны да Сашкі, гэта ёй проста здаецца, можа, яна стомлена і ёй трэба выспацца пасля рамонту і ачысткі кватэры. Але яна спакайней стала б, каб пагаварыла з Любай Лук'янскай! Высокі стары вельмі лісліва зазірнуў ёй у вочы:

— Каб не было крыўды, гэта тут трыццаць чацвёрты нумар кватэры?

Пачуўшы адказ, што тут, ён, каб аддзякаваць, пастараўся вельмі дагадзіць: так даў Валі дарогу прайсці, што аж уліп плячыма ў сцяну і забраў з яе на сябе траха не ўвесь мел. Пайшоў вышэй, як толькі Валя мінула яго. Ён пастукаў у дзверы патрэбнай яму кватэры. Дзверы адчынілі тыя самыя выфранчаныя танцоры; ён разявіў рот і адступіў крок назад, танцоры зарагаталі, ён збянтэжана ўсміхнуўся і астаўся так стаяць з разяўленым ротам, пакуль яго не запыталі, каго яму трэба.

— Любка гэта Лук'янская тут жыве? Тут? Не можа быць, тут жа камедыянты прыстаўляюць. Такі тут? Ска-

жыце, адразу так і знайшоў. Няма дома? Але ж прыйдзе? А-а-а, то я магу і пачакаць.

Пакуль з ім гаварыў той самы танцор, што нядаўна спатыкаў Валю Іваноўскую, ён не мог адарваць шырока расплюшчаных вачэй ад астатніх траіх, якія зноў узяліся за перарваны танец. Ён так захапіўся відовішчам, што не чуў, што да яго гавораць. Танцор шчыльна зачыніў дзверы і далучыўся да траіх. Высокі стары не зміргнуў вокам — так глядзеў, і ўсмешка на яго твары стала нерухомая. Ён сам не ведаў, што гэта такое перад ім вырабляецца, але нашто ведаць, абы было цікава глядзець! Яго паставу і выраз твару заўважыла адна «жанчына» і не вытрымала, зарагатала, але прыкусіла губу і не перарвала танца. Гадзіннік зазваніў, і танцоры спынілі танец. Моўчкі паскідалі з сябе сваё ўбранне і ператварыліся ў звычайных падросткаў, так з выгляду выпускнікоў сямігодкі. Кожны загарнуў свае строі ў газету, паглядзеўся ў люстэрка, і ўсе быццам бы сабраліся ісці. Стары здагадаўся:

— То я выйду і пачакаю на ўсходах.

Але ў гэты момант адчыніліся дзверы.

— Мама,— сказаў той, што адчыняў дзверы Валі Іваноўскай і высокаму старому,— нейкая жанчына да цябе прыходзіла, казала, што зойдзе пасля. Мы пойдзем на агульную рэпетыцыю.

Дзве дзяўчынкі і два хлопцы выйшлі, і Люба Лук'янская зачыніла дзверы. Дзіўная змена адбылася раптам на старога твары: ён бачыў, што гэта яна, тая самая Люба, ці як ён казаў Любка, але ён ніколі не ўяўляў, што яна такая. У яго ўяўленні яна павінна была быць, вядома, не абарваная, але ў якой-небудзь несамавітай адзежыне і, можа, нават у неахайным выглядзе. З такой яму было б лягчэй гаварыць, вальней выкласці тое, дзеля чаго ён сюды прыйшоў. А тым часам перад ім стаяла такая жанчына, якой ён не пасмее сказаць «ты». Сляды расчаравання выразна ляглі на яго твар. Твар яго стаў халодны і сапраўды глыбакадумны: вялікімі і малымі рэчамі заклапочаны людзі, сталымі і смешнымі — кожны па-свойму, але ў кожнага душа запоўнена. Люба стаяла перад ім і глядзела на яго. Выгляд у яе быў такі, быццам яна доўга ішла туды, куды ёй трэба, а прыйшла туды, куды не трэба. Стафанковіч глядзеў на яе бадай што так, як толькі што глядзеў на танцораў: і захапленне і здзіўленне было напісана на яго твары. Але да таго моцна пілавала яго свая думка, што ў адзін момант ён быццам забыўся на ўсё навакольнае.

Увесь свет для яго сыходзіўся ў тым, што пілавала яго душу. З выглядам чалавека, які разбурыў няпраўду і ўстанавіў праўду, ён сказаў:

— Вы маладая, а я пастарэў. (Губа яго задрыжала.) Думаю сабе, зраблю, што ад мяне залежыць.

— Як гэта?

— Хоць я ў меру еў, у меру піў і на ўсё іншае меру ведаў, але так прыйшлося. Ого, мне старасць будзе кепская. Плячо ў мяне адно астывае, у ім сядзіць холад. Часамі ўночы, калі сплю на ложку, холад з пляча па жылах пераходзіць у калена, і тады як кавалак дрэва ў нагу ўкладаецца. Рыхтаваў-то я гэта сыну, але павярнулася ў іншы бок.

— Што рыхтавалі, адзервянеласць нагі?

— Няхай мяне бог крые, я нават ворагу не пажадаю злога, а ні то што. Да каго мне было пайсці? Я парадкі ведаю, я дабіўся ў адрасны стол. Толькі я не прынёс з сабой гэтых рэчаў. Што я, думаю сабе, буду валачы, а можа, кватэры не знайду. Але я прынясу.

— Што?

— Я быў па той бок Дома ўрада і там бачыў, што валяецца ў трухліне вышарпаны Сашкаў фрэнч. Няхай мне галаву адсякуць, а я даводзіць буду, што гэта той самы. Я меў быў клопату некалькі месяцаў, пакуль дастаў быў футэрка на каўнер. Жылося, клопат меўся, чалавек варушыўся. Я абегаў усе крамы, а футэрка не падыходзіла колерам. Аж пасля дастаў. Добрую цану даў. Памятаю, якое надвор'е стаяла. Вы жылі па той бок Дома ўрада?

— Жыла.

— Мяне сум агарнуў. Не таму, што я шкадую гэтага фрэнча. Не такі я гад, як, можа, каму здаецца. Тут сэрца размякла. Каб я ведаў, я даў бы вам тады не фрэнчык гэты, а футра, доўгае, драп зверху. Чалавеку трэба жывому, а ў труну з сабой не возьме. Ён гад, Сашка. Бацькаўскае сэрца баліць, а ён як аддзякаваў? Я яго дзесяць год у вочы не бачыў. А жонкі яго то і ніколі не бачыў. Не паказаў. Я вас толькі пра адно прашу: калі што калі прыйшлося, жывучы на свеце, то не майце злосці, прашу вас.

Трэба сказаць, што не лішне ён верыў у тое, што калі-небудзь каго пакрыўдзіў, але ён стараўся быць далікатным і таксама паказаць, што ён, маючы чыстую, як крышталь, душу, сам перад людзьмі гаворыць, што, можа быць, і яна не такая ўжо чыстая. А тым больш яшчэ, што ён усё-такі і сапраўды тут хваляваўся. Разам з тым дзесьці

глыбока трапяталася ў ім рыска і зларадная урачыстасці: ён калі і не ашчасліціць, то зробіць вялікую прыемнасць тым, што зараз скажа, а праз кароткі час і зробіць. Паміж шчырымі і трагічнымі нотамі пракідаліся сягды-тагды і ноткі звычайнай Стафанковічаўскай хітрай цікаўнасці. У такія моманты ён ажыўляўся, павышаў голас, і на яго твары зменшвалася змрочная паныласць.

— Я ж кажу, фрэнч той глупства. Сашкавы плечы былі ў тым фрэнчы. Але калі ён такі!.. Выходзіць, што ў яго нават бацькі няма? Адцураўся! Выракся! Ён мяне з машыны выгнаў! Ты, кажа, не памёр, а жывеш, ты не хворы, а здаровы! Я яму збіраў і хаваў. Каб па добрасці, то бацька састарэў — лепшы пінжак ідзе сыну. Бацька абнямог, каб пры вас не сказаць, памёр — сыну ўсё астаецца. А калі так выйшла, то я з нецярплівасці і злосці... Унук мне, можа, даражэй за сына.

— Унук?!

— Найлепшае ў горадзе футра.

— Якое футра?

— Пацягненае драпам. І гадзіннік таксама. Я быў малады і яшчэ бяздзетны тады. А праз усе гады футра кожнае лета перасушвалася, моль не кранула. Гадзіннік старой работы. Я не хвалю, гэта не тавар, а я не гандляр. Я свайму ўнуку. Няхай яму на карысць пойдзе, небараку. Напакутаваўся ён і вы разам з ім. От так і мне прыйдзецца на доўгія гады. Сын адцураўся. Выгнаў мяне з машыны. канаць буду адзін. Уласным духам зайдуся. От зноў з пляча холад у нагу пайшоў.

Стафанковічаў твар стаў зямлісты, вызначылася худзізна на скронях, нейк у адзін момант вытырклі скулы, апалі шчокі. Здавалася, ён зараз задрыжыць так, як жывёла ў разніцы дрыжыць перад нажом. Люба сумелася і маўчала, зусім збянтэжаная. Яна верыла ў мноства яго хвароб, калі прыйшоў ён сюды пасля ўсяго, што калісьці было, калі доўгія гады нават і на думкі не ўспускаў усяго таго, пра што толькі што гаварыў.

— Я зараз пайду, толькі адпачну на дарогу.

Тут ён устаў вельмі раптоўна, удала надзеў на галаву шапку, развітаўся і шпаркім крокам рушыў да дзвярэй. Так ён пайшоў і з усходаў. Аж не падобна было, што гэта той самы чалавек, які толькі што выказваў смутак сваёй душы. Люба зачыніла дзверы, але праз хвіліну хтосьці пачаў стукаць у іх. Яна адчыніла. Стафанковіч стаяў зноў тут, і ўсмешка адзеравянела на яго губах.

— Выбачайце, але калі я вас магу застаць дома? А то, бачыце, сёння я чакаў, і вам самім турбацыя вялікая і мне.

— Я сама не ведаю.

— Калі так, то я ўжо як-небудзь вымеркую.

Пайшоў, і Люба зачыніла дзверы. Праз хвіліну хтосьці драпаў рукой па іх, стараючыся адчыніць. Люба падышла. Стафанковіч стаяў перад ёю, глыбакадумна ківаючы галавой:

— Вы бачыце старасць? Галава не трымае. Каб хто сказаў, сам не паверыў бы. Адзяцінеў зусім. Я павінен быў бы, сёння ідучы, купіць унуку гасцінец. Выбачайце і не майце злосці. Не з майго сумлення ўсё выйшла, а ад таго, што галава не ўтрымала думкі ў сабе. Не майце злосці.

Пайшоў. Люба ўжо не замыкала і шчыльна не зачыняла дзвярэй, каб ён, вярнуўшыся, не стукаў, а проста сам усадзіў галаву і сказаў бы сабе, што яму спатрэбіцца. Так яно і выйшла. Твар яго быў у прычыненых дзвярах — панылы, унураны ў сабе.

— От так як пойдзе холад з пляча, то праз увесь бок у нагу, да самай пяты. Ого! Мне будзе старасць брыдкая! Адзін, як паганы воўк. А чалавеку ж потым паміраць прыйдзецца. Ніхто ў апошнюю хвіліну і слова перад табой не скажа.

Вельмі павалі ён павярнуўся і паклыбаў уніз, пакульгваючы і разоў са два ціхом застагнаўшы. Ужо дзесьці на дварэ ён так уздыхнуў, што Люба пачула, стоячы ў сваіх дзвярах. І гэта прымусіла яе падумаць, што яна ж нічога не адказала Стафанковічу на яго доўгую гаворку. Яна не магла адразу апомніцца, такое яго з'яўленне сюды было нечаканае і дзіўнае. Яна зачыніла дзверы і села к сталу. Хвілін дзесяць яна сядзела, апанаваная одумам, пасля дастала з шуфляды вучнёўскі сшытак, вырвала з яго некалькі лістоў і ўзяла ў руку пяро. Яна паспела толькі напісаць «Дарагая Валя», як хтосьці застукаў у дзверы. «Зноў стары вярнуўся»,— падумала яна і адчыніла дзверы.

— Валечка! — выгукнула яна, хапаючы за рукі маладую жанчыну і ўцягваючы яе цераз парог.

— Любачка! — выгукнула Валя з адмысловай жаночай сентыментальнасцю.

Сяброўкі абняліся і пацалаваліся.

— Я прыходзіла крыху раней, але цябе не было дома.

— Я табе толькі што села пісаць ліст. Я не ведала,

што ты ў Мінску. Калі ты прехала? Многа год мы не бачыліся.

— Ой, якая ты стала?

— Пастарэла?

— Не, дзе там. Я памятаю, як ты буракі ў катле варыла каля разбуранага вакзала.

— Я табе пісала пра сябе.

— Але ж я цябе не бачыла.

— Як добра! Ну, проста ты маладзец, як быццам і ведала, што мне так хацелася з табой пагаварыць. Такое здарэнне, бачыш, са мною сёння было, нядаўна, толькі што. Так маю ўсю душу перавярнула.

— Добра, мы будзем цяпер часта бачыцца, нагаворымся, я зусім прыехала. Мой муж будзе тут працаваць. Я ўжо агледзела сваю кватэру. Я спяшала да цябе, проста-такі рвалася. Ты мяне выслухай і скажы. Я адразу так і пачынаю, не магу, каб адразу не сказаць.

— Гавары, я з закускай пастараюся, буду слухаць.

— Якія першыя адзнакі цяжарнасці, што ты адчувала ў першыя тыдні? Мне здаецца, я цяжарная. Каб гэта праўда! Я не асмельваюся ісці да доктара — а што, калі ён скажа, што гэта мне толькі здалося.

У гэты момант Валя была ўвасабленне наіўнасці, быццам яна была дзіця. Гаворачы пра свае інтымныя справы, жанчыны часта робяцца такія. Валя і Люба прагаварылі больш за паўгадзіны, і Валя паспакайнела. Назаўтра яна пойдзе да доктара, ужо не баючыся выйсці ад яго з сумным расчараваннем. І от пасля першай гэтай гаворкі ў момант спаткання, у якой, што тут таіцца, была пэўная доза сентыментальнасці, сяброўкі пачалі набываць кожная свой звыклы выгляд. Цяпер пачалася гаворка больш разважлівая і доўгая. Толькі цяпер Люба пачала прыглядацца да Валі і падумала, што яна асталася такая самая гаваруха, як і была калісьці. Але рыса нейкай нездаволенасці пракідалася праз усю яе гаворку і клала на твар пячаць глыбокай задуменнасці, чаго раней ніколі не было. Прычыну гэтага Валя скора раскрыла.

— Люба, ты ведаеш, я табе пісала, што ён не хоча, каб былі дзеці. Я ведаю, цяпер у мяне з ім пачнуцца нелады і згрызоты, гэта няйначай, і мне страшна, што гэта мне цяпер прыйдзецца перажываць. Цяпер, калі я так рада, калі я гэтага доўгія гады так чакала...

— А ты паменш увагі на гэта.

— Няхай сабе вар'юецца, а я каб нічога? Але ж мне

ні то што прыкра, а праціўна, адваротна, горка, цяжка, што тая істота, якая ўва мне пачынае жыць, якую я, здаецца, ужо цяпер бачу сваімі вачыма, якую я ўжо цяпер, здаецца, люблю, нават перад тым ужо як пачаць жыць, існаваць, спаткае не толькі непрыхільнасць, а можа, нават нянавісць ад свайго роднага бацькі.

— А пасля, калі дзіця народзіцца, ён, можа, сам пашкадуе, што так быў цяпер.

— Гэта, можа, будзе, але цяпер з самага пачатку! І што мне належыць вытрымаць за гэтыя часы!

— Ну, то я ўжо не ведаю, што ў цябе за муж там такі?

— Я памятаю, некаторага года мне здалося было, што я цяжарная. Калі я яму гэта сказала, ён адразу стаў такі, што я пачала баяцца, што ў мяне на ўсё жыццё пачнецца тады яго нянавісць. Але мае надзеі на цяжарнасць былі тады дарэмныя. Ён як толькі пачуў гэта, раптам змяніўся, захапленне, уздым апанавалі ім, ён, як малое дзіця, пачаў беспераставку гаварыць мне, што няма канца яго каханню да мяне.

— Дык што ён, нясталы чалавек? Пстрыкун? Беспклапотны матыль? Франт?

— Як гэта разумець «франт»?

— Прыгажосць і ахайнасць гэта адно, а франтаўство — другое.

— Можа, і так. Ты ведаеш, я так баюся сказаць яму пра свой стан, гэта будзе мне страшная хвіліна.

— Я табе раскажу адну справу, ты гэтую справу раскажы яму, свайму мужу. Тут наконт бацькоў і дзяцей.

— Ну, гавары.

— Ты ведаеш мяне з тых часоў, калі я жыла ў тых гнілых сценах. Тады, калі мой сын быў малым дзіцем. Ты тады мне памагала шукаць бацьку майго сына. Так і не ўдалося знайсці табе, але я сама знайшла.

— Знайшла? Праўда?

— Тут было так, я навучылася чытаць і прачытала ліст, які яго бацька, правячы там млын, пісаў дадому ў Мінск. Шпулькевіч, цераз якога гэты ліст перасылаўся, згубіў яго, і ён захаваўся ў маіх рэчах. І от я прачытала адрас і пайшла туды. Быў толькі адзін стары, а сына не было, ён выехаў у іншы горад. Я трымала на руках дзіця і сказала старому, што гэта яго ўнук. Паверыў ён ці не паверыў, але прагнаў мяне. Даў, праўда, стары нейкі фрэнч накрыць дзіця ад дажджу, ды і то не таму, што шкадаваў дзіця, а каб я хутчэй пайшла. Больш я там ужо

не была. Наплявала. Пайшлі яны ўсе к чорту. І от сёння гэты самы стары прыходзіць да мяне, апанованы ўсялякімі сваімі хваробамі (ведама, слабы ад старасці).

— Чаго ж ён прыйшоў?

— Аб унуку ўспомніў.

— Не можа быць, тут, мусіць, іншая прычына.

— А прычына тая, што яго сын адцураўся. Можа, яго і шкада, гэтага старога хітрага дурня. Але якое я маю да яго дачыненне? Ён сказаў так: тое, што я хаваў у спадчыну свайму сыну, тое прынясу ўнуку. Адзежу там нейкую, рэчы. На чорта ж яно мне? Гэта якраз як той фрэнч. Той быў, каб мяне хутчэй з вачэй выправіць, а гэта, каб купіць сабе сваяка на старасць. А дзе ж чалавечае пачуццё? Купля і продаж! Гэта ўжо ў самы пачатак пакладзена. Я думаю, што яго таму і сын ведаць не хоча, што такое выхаванне ад яго меў. Няма пачуцця блізасці, няма душы. Сын такі самы. Калісьці тады, у млынара, калі ён чапіўся да мяне, я яго пхнула была і ён абдзёр руку аб вілы. Была кроў. То ён прыдумаў, што быццам гэта яго паляк раніў. Я тады думала, што гэта ён, каб мяне не вінавацілі за такую справу, аж пасля ўпэўнілася, што гэта проста з рызыкі — уся вёска ненавідзела палякаў, дык і ён, знарыцца, герой перад людзьмі. Усялякую драбязу каб выкарыстаць сабе.

— А што ты сказала старому?

— От і дрэнна ж, што я нічога не сказала. Я так збянтэжылася, так ён мяне ашаламаніў гэтым раптоўным з'яўленнем, што я маўчала. І толькі адумалася, калі ён пайшоў.

— А што, яго сын зусім адцураўся?

— Мусіць, проста не ў галаве яму бацька. Галава забіта іншым. Я ж кажу, ніякіх сардэчных дачыненняў. А калі якое няшчасце на галаву ўпадзе, у якім бацька мог бы памагчы, то тады адразу бацьку ўспомніць, так як бацька ўспомніў унука.

— Памятаеш, я табе пісала пра сардэчныя сувязі. Гэта мяне і палохае ў маім цяперашнім стане. Такую душу я пачынаю бачыць у свайго мужа.

— Як вы жывеце?

— Не кепска. Я яму падабаюся як жанчына.

— Калі будзеш цяжарная, то пакінеш яму падабацца як жанчына.

Валя падняла ўгару твар, быццам у раптоўным спалоху:

— Праўда, я аб гэтым не думала.

— Ты трывожышся? Значыцца, вы адно аднаго любіце?

— Праўда. І я толькі хачу, каб ён змяніўся ў лепшы бок. Я хачу быць з ім і з дзіцем ад яго.

— Пастарайся яго перайначыць.

— Але як? Я ўжо колькі год жыву з ім і ведаю, што гэта цяжка.

— Ты быццам не падобна на сябе ранейшую. Тады ў цябе была такая цвёрдая натура. Ты, здаецца, магла дамагацца свайго.

— Ён узяў нада мною ўладу.

— Скінь гэтую ўладу. Гэта зусім на цябе не падобна.

— Не, ты так дарэмна думаеш, гэта я толькі тут так размякла. Я з ім змагаюся, і, можа, калі-небудзь ён дойдзе да якога-небудзь крызісу. Каб што-небудзь раптоўнае яго аглушыла!

— А ўсё ж такі тваё захапленне ім скончылася. Напэўна, тут вялікую сілу мае прывычка да яго.

— Я не гавару, што не так.

— А ты гэтага не бойся. У такім выпадку вырастае таварыскасць і дружба. Прывычка вялікая справа, у кожным разе для пэўных натур. Я сама да іх належу. Адзін мой добры таварыш з нашай фабрыкі мне заўсёды на гэта гаворыць з усмешкай, што чалавек да ўсякага паскудства можа прывыкнуць, а таму прывычка дрэнная справа, бо паскудства заўсёды астанецца паскудствам. А я думаю, што адзнака кожнага сапраўднага чалавека з савецкай грамады — нянавісць да паскудства. Пры чым тут прывычка?

— Гледзячы, як хто глядзіць на тое, што называецца паскудствам. А можа, хто інакш глядзіць. Што аднаму дрэнна, тое другому добра.

— Забыцца на бацьку, кінуць сваё дзіця — на гэта адзін погляд усёй грамады. Я сабе не магу ўявіць, каб мой сын на мяне калі-небудзь забыўся. І не таму, што ён ведае, як я пакутавала, калі давала яму жыццё. І менш за ўсё я думаю пра тое, што мой сын сваёй душой будзе адчуваць былыя мае пакуты. Ён, як і ўсё яго пакаленне, мае шчасце ніколі гэтага не ведаць. Ён нават тыя гнілыя сцены, у якіх я яго нарадзіла, памятае, як праз сон. Але паміж намі вялікае пачуццё — я яго маці, ён мой сын, я рада, што ён шчаслівы. І гэтае пачуццё да яго я

сама выхавала, а ў аснове гэтага пачуцця ляжыць само жыццё, усе яго натуральныя пачаткі.

— Як я рада, што нарэшце і ў мяне будзе дзіця.

— Пагавары наконт гэтага з мужам, успомні яму яго старога бацьку. Ты гаворыш, што ў яго няма сардэчных сувязей. Гэта значыцца, няма нідзе шчырай дружбы?

— Люба, у нас з табой дружба? З чаго пачынаецца дружба?

— У нас дружба пачалася з таго моманту, калі ты пахавала бацьку. Датуль ты мне проста ад сваёй добрасці хацела памагчы. У мяне было так. Мне мае таварышкі з працы прынеслі падарунак. Там была бялізна майму сыну. Гэта быў час, калі я ўпершыню пачала мець асалоду ад чыстаты. Быццам я ажывала. Я з тымі дзяўчатамі працавала разам. Фабрыка была малюсенькая, цесная, недзе было павярнуцца. Працуючы, мы перашкаджалі адна адной. Так я працавала два гады. У мяне з'явілася дружба. Некалькі дзяўчат часта прыходзілі да мяне, і я прыходзіла да іх. Але праз два гады прыбудавалі адзін цэх, і быў план разбудаваць нанава ўсю фабрыку. Мы гэтага чакалі. Тады стане вальней працаваць, лепш, лягчэй. З кожным годам я прывыкала да новай гэтай мне працы і ўцягвалася ў яе. І от першы раз мяне пахвалілі. Тое, што я зраблю, сапраўды добра выходзіла. Мяне пахвалілі ў друку. Я яшчэ жыла ў тых гнілых сценах. Памятаю, я ішла з газетай у руках дадому. Ішла па сваёй той вуліцы. З-пад хмар выбілася наверх перадвячорная ясная паласа. І як быццам бы гэта была нейкая прасторная далечыня, у якую ідзе радасная дарога. І гэтая яснасць на небе была любая, і тое, што пра мяне напісалі, і што ў мяне бялізна чыстая, і што сын мой дагледжаны. Я пачала адвыкаць са смуткам думаць аб сваім заўтрашнім дні і наогул думаць пра тое, што калі-небудзь можа зноў мне прыйсціся кепска. Калі будзе кепска мне, то і ўсім, добра мне, добра і ўсім. Навокал мяне былі такія ж самыя дзяўчаты і жанчыны. А пасля фабрыка стала вялікая, на маіх вачах яна рабілася, і я сама так увайшла ў справу, што заўважала, як і што лепш трэба рабіць. Некалькі разоў мяне хвалілі і ў друку, і на сходах. Каб мяне маглі адарваць калі ад гэтай фабрыкі, мне страшна і падумаць. Гэта прывычка. Але не магла ж я, аднак, прывыкнуць да гнілых сцен. Значыцца, не да ўсяго чалавек прывыкае. Я думаю, ты павінна пашукаць у душы свайго мужа чагосьці падобнага. Не можа быць, каб у ча-

лавека нічога не жыло ў душы глыбокага, важнага яму самому.

— А калі ўсё тое, да чаго ён імкнецца, зводзіцца толькі да таго, каб быць не работнікам, а чынам?

— Ты, мусіць, не здолела разварушыць яго душу. Заходзь з ім да мяне. Я яму раскажу сваю гісторыю, пакажу свайго сына, пакажу тое, што пра мяне пісалі, а я ж ніякай славы не дамагалася, я толькі працавала. Адзін раз было так: гэта было год шэсць ці сем таму назад. Наша фабрыка была ў прарыве, трэба было выцягваць. Я тры змены адстаяла на рабоце. Трэцюю змену я ўжо ледзьве дастаяла, але гэта трэба было, шмат з нас так рабілі і гэтым выратавалі справу. Але як бы там ні было цяжка, а ўсё ж лягчэй, як калісьці трымаць пад млынам на плячы дошку з двума васьміпудовымі гадамі на ёй. А цяпер ужо нічога падобнага няма, усё ў нас цяпер механізавана. Стары, што сёння прыходзіў да мяне, такое на мяне нагнаў утрапенне, быццам бы на нейкі час вярнуў мяне ў тыя гнілыя сцены.

— Ён высокі? У шэрым фрэнчы, у ботах і з кліночкам барады?

— Ён такі.

— Я яго бачыла. Я ішла першы раз сюды, а ён з усходаў спускаўся. Мае думкі так былі поўны маёй цяжарнасцю і маім мужам, што гэты стары мне здаўся вельмі падобны да майго мужа. Тут былі дзве дзяўчыны і два хлапцы, адзін, здаецца, твой сын. Ён мне спачатку таксама здаўся падобным да майго мужа... Не, я яго хачу перайначыць для сябе, мець і яго і ад яго дзяцей.

— Што ж,— усміхнулася Люба,— тут, можа, сапраўды ёсць падабенства, калі льга гэтак сказаць — духоўнае. Таксама, як твой муж не мае сардэчных, як ты кажаш, сувязей, так і на гэтага старога Стафанковіча сын забыўся. Бліжэй, Валечка, да стала, будзем піць чай.

— Стафанковіча? А як яго сын завецца?

— Сашка.

— Сашка Стафанковіч? Які ён з выгляду... валасы якія ў яго, колькі яму можа быць цяпер год? Ага... ага... так...

Валі стала ўсё ясна адразу, яна цяпер зразумела, чаму яе муж заўсёды выходзіў або не даваў ёй скончыць, калі яна загаварвала пра сваю сяброўку Любу Лук'янскую. Але ніводная рыса на яе твары не задрыжала: у адзін момант, пакуль яна выслухала апошнюю Любіну фразу,

яна ацаніла ўвесь стан справаў і рэчаў, і ў яе з'явілася цвёрдая думка. Усю развагу сваёй галавы яна выклікала сабе на дапамогу, каб быць спакойнай і нічога не сказаць Любе. Бо інакш усё можа страціць сваю сілу. Яна дапіла чай, яшчэ пасядзела, яшчэ пагаварыла, навяла Любу на гаворку і яшчэ раз пачула, што стары Стафанковіч гаварыў, што на тым месцы, дзе была тая трухліна, валяецца цяпер у парахні і пыле той Сашкаў фрэнч. Яна нават стала вясёлай, ажывілася, многа гаварыла, жартавала і пайшла, ірвучыся хутчэй з'явіцца ў сваю кватэру. Але дарэмна яна спадзявалася — Сашка нанач не з'явіўся. Тую ноч ён весела пераначаваў у Вэнькі Шпулькевіча. Яны яшчэ добра выпілі нанач, паклікалі добрых двух суседзяў і прарэзаліся да самага світання ў прэферанс. На гэтым і скончыліся Сашкавы кіпучыя суткі. На раніцу ён а гадзіне адзінаццатай паказаў сваю асобу ў сваім новым кабінеце. Ён акінуў вокам супрацоўнікаў і, галоўным чынам, супрацоўніц і пачаў думаць, як бы выгодна ў першы дзень паказацца перад імі. У такіх думках час дацягнуўся да паловы чацвёртай, і ён выйшаў. Вэнькавай блакітнай машыны ўжо не было, а сеў ён ужо ў машыну сваёй установы поплеч са сваім непасрэдным начальнікам. Машына спачатку адвезла начальніка, а тады ўжо і самога Сашку дамчала да яго новай кватэры. Ён пераступіў парог бліскучы і жыццярадасны і адразу хапіў Валю ў свае абдымкі.

— Я цэлую ноч не спаў, Валя, прыгатуй мне пасцель.

— Добра. Зараз. Ты ведаеш, чаго я так рада?

— Скажаш — то буду ведаць. Мне яшчэ трэба, паспаўшы, паехаць увечары атрымаць пропуск на трыбуну: заўтра парад — вызваленне ад белапалякаў.

— Сёння зранку я хадзіла да доктара праверыць. Я цяжарная.

Быццам бы ён убачыў сякеру, якой рыхтуецца яму адцяць галаву. Ён адразу адапхнуў ад сябе Валю і бліскучасць усіх рыс яго твару ў момант ператварылася ў змрочнасць.

— Трэба гэта ліквідаваць,— сказаў ён стрымана.

— Я ж табе кажу, што я рада.

— Давай не будзем адно аднаго мучыць. Зрабі так, як я гавару.

І тут агонь прарваўся праз штучную Валіну спакойнасць.

— Будзе так, як я гавару! Што я не чалавек перад табой?

Але адразу яна апамяталася. Яна ведала, што ні крык, ні спакой не паможа, яна мела практыку. Крык толькі можа не даць давесці да канца яе намеры. І яна сказала спакойна:

— Мы пра гэта яшчэ пагаворым.

— Ты яшчэ гаварыць збіраешся? Ты не хочаш даць мне спакою, каб я не адпачыў у сваёй кватэры? Тут гаворак быць не можа. Я сказаў.

— Ідзі. Я табе паслала. Паспі да вечара. А ўвечары мы пойдзем у горад глядзець святочную ілюмінацыю. Я ж табе яшчэ нічога не сказала, чаго ты так!

Ён паспакайнеў, лёг і заснуў. Гадзіны за дзве да змроку яна ўгаварыла яго прайсціся па вуліцах. Яна нават дакляравала яму падумаць аб «ліквідацыі». І ішла поплеч яго, поўная горачы, што замест радаснай гаворкі з ім даводзіцца ёй самой даводзіць яго да ганьбы. Але калі глыбей разабрацца, то ў яе сэрцы ў гэтую хвіліну каранілася такая сама і зларадасць. Толькі не спадзявалася яна, што Сашкава ганьба выйдзе за межы, так сказаць, інтымныя, за межы Любінага пакоя. А гэта праз некалькі гадзін адбылося.

Яна пачакала на вуліцы, пакуль ён заходзіў у сваю ўстанову ўзяць сабе на заўтра пропуск на трыбуну. Пасля яна зажадала абысці навокал Дома ўрада, добра разглядзець яго. Ён спачатку здзівіўся — нашто гэта, але яна так папрасіла яго, што ён пайшоў, узяўшы яе пад руку.

— З якой сцяны акно твайго кабінета?

— А я яшчэ не магу добра арыентавацца.

— Успомні і пакажы мне.

Забаўляючы яго такімі гаворкамі, яна ўвяла яго ў завулак ці, праўдзівей кажучы, у нейкі двор і пачала падымацца з ім на ўзгоркаваты пляц.

— Куды ты мяне вядзеш?

— Пачакай, зараз сыдзем назад. Тут я хачу штосьці табе паказаць.

— Але ж ты казала глядзець ілюмінацыю?

— Зараз пойдзем глядзець ілюмінацыю. От і прыйшлі. Бачыш гэтыя дзве драўляныя сцяны? Адна трухліна. Гэты бок разабралі.

— Хэ-хэ, або вецер растрос. Ну, то што ты мне паказваеш!

— Я цябе ўпору якраз прывяла, каб ты добра разгледзеў — апошні прамень сонца ляжыць яшчэ тут і праз дзве хвіліны схаваецца. Сонца заходзіць. (І тут яна ўжо

не так гаварыла Сашку, як сама сабе.) Унь і ложак той самы. Маё дзіця не будзе ведаць гэтага!

— Якое дзіця, што ты гаворыш, чаго ты мяне сюды прывяла?

— Слухай. Тут калісьці жыла мая самая лепшая сяброўка і гадавала сваё дзіця, якога бацька ведаць не хацеў. Бачыш, у якім пекле тое дзіця расло. Цяпер ён прыгожы, чысты, шчаслівы і радасны. (Яна бегала вачыма па зямлі, пакуль сярод патрушчаных цаглін убачыла фрэнч.) А от і вопратка, якою дзед быў унука ад дажджу накрыў.

Фрэнч ляжаў увесь растрыбушаны і сатлелы, ён ляжаў на гнілых дошках, з якімі, відаць, нядаўна ўпаў з надсцення. З яго ўжо сыходзіў апошні прамень вячорнага сонца. Валя не спускала вачэй з Сашкавага твару.

— То, значыцца, дзед глядзеў гэтага ўнука? — сказаў Сашка, не міргнуўшы вокам, вытрымліваючы перад Валяй тон святой нявіннасці.— Гэта з тваёй сяброўкай была такая справа?

«То ты так? Цябе гэта нават не кранула? Як жа ты добра трымаешся! Калі так, то трэба цябе павесці туды, можа, гэта што-небудзь табе паможа! Ах, каб там які-небудзь народ быў, каб, як агнём, цябе пеканула»,— думала Валя, моўчкі ідучы з Сашкам на вуліцу.

— А цяпер пойдзем да маіх знаёмых,— стараючыся скрыць злосць, гаварыла Валя.— Я запрошана ў госці на сённяшні вечар, і мне казалі, каб я не прыходзіла без цябе.

— Толькі не да гэтай тваёй сяброўкі,— сказаў Сашка незалежным ад усяго тонам.— Ты мне колькі разоў пра яе расказвала, і мне яна здаецца нейкай сентыментальнай асобай.

— Чаму сентыментальнай? Хутчэй цвёрдай і ўпартай.

— Няхай сабе так.

— Не, не да яе. Пойдзем у іншую сям'ю. Каяцца не будзеш. Табе будзе там весела. Вельмі павінна быць весела,— зларадна сказала Валя.

Яны селі на трамвай, а як сышлі з яго і прайшлі да рога вуліцы, Валя раптам ірванула Сашку за руку так, што той аж хістануўся ўбок.

— Што з табой? — аж спалохаўся ён.

— Я спатыкнулася, і мне здаецца, што мы не туды прыйшлі. Азірніся назад, глядзі сюды, той завулак, здаецца, канчаецца праз некалькі дамоў ці ідзе далей? Нешта я забылася, тут не бываючы часта.

Сашка пачаў глядзець на рог завулка і ўспамінаць, адвярнуўшыся ад таго чатырохпавярховага дома, куды яны з Валяй ішлі. Валі гэтага і трэба было. Ей важна было, каб Сашка хвіліны тры не глядзеў на гэты дом: каля яго, насупраць аднаго з пад'ездаў, стаяў той самы высокі стары, якога яна ўчора спаткала на ўсходах, калі ішла да Любы. Цяпер яна яго адразу пазнала, і ў момант яна здагадалася, чаго ён тут стаіць: ён трымаў перад сабою штосьці, уверчанае ў прасціраддла. «Прынёс унуку футра, як учора расказвала Люба. Добра. Гэтага толькі і трэба было мне. Можа ты, даражэнькі мой, хоць раз ляснешся тварам у гразь і тады чалавекам будзеш. От жа пашанцавала»,— зларадна думала Валя. Стафанковіч увайшоў у пад'езд, і тады Валя, не дачакаўшыся, пакуль Сашка вырашыць, дзе канчаецца завулак, пацягла яго да чатырохпавярховага дома:

— Я ўспомніла, мы прыйшлі туды, куды трэба.

У самым пад'ездзе яна яшчэ з хвіліну пратрымала Сашку, прыслухоўваючыся, ці не гучыць яшчэ на ўсходах хада высокага старога. Яна пачула, як ляснулі дзверы, значыцца, яе свёкар ужо ўвайшоў, куды яму трэба было. Шпарка пацягнула яна за сабою Сашку, стараючыся не замарудзіць і секунды, каб трапіць на самы пачатак сцэны. Але калі яна спадзявалася, што сцэна будзе вузка сямейная, то неўзабаве з радасцю ўбачыла, што справа стаіць шырэй. От як усё гэта было. Валя не стукала ў дзверы, яна не магла цяпер марудзіць з-за такой умоўнасці і не паспець на самы пачатак сцэны, якая так на шчасце здарылася і ад якой шмат што магло залежаць. Апроч таго, яна хвалявалася. Яна тузанула дзверы, і яны бязгучна адчыніліся. На стале гарэла лямпа. Стол быў малы, пісьмовы, той самы, за якім учора яна сядзела з Любай. Зялёны абажур накрываў лямпу, і ўвесь гэты вялікі пакой тануў у прыемным змроку. Святло трымалася толькі каля стала пры сцяне. Таму Сашка адразу і не заўважыў свайго бацькі, які стаяў пры самай супроцьлеглай сцяне і трымаў у руках перад жыватом клунак. Валя ўляцела першая, Сашка ўвайшоў за ёю. Абаім ім адразу з дзвярэй кінуўся ў вочы такі малюнак: каля асвечанага стала, плячыма да дзвярэй стаяў чалавек у вайсковым адзенні. Выцягнуўшы перад сабою рукі, ён трымаў у іх Любіну галаву. Люба стаяла перад ім збянтэжаная, як малое дзіця. Збоку трымаўся чалавек у чорным пінжаку. Ён то браў у рот папяросу і ў рукі запалкі, каб закурыць, то раптам клаў усё

гэта на стол, ён то садзіўся, то ўставаў са свайго месца. Сашка пазнаў Рыльскага, Любінага ж твару ён яшчэ выразна не бачыў, каб пазнаць і яе. Не сказаць каб ён вельмі прагнуў спаткання з Рыльскім, але хацеў ужо ісці прывітацца з ім. Валя ж патрымала яго за рукаў, і пакуль ён моўчкі азірнуўся на яе, каб даведацца, чаму яна яго трымае на месцы, вайсковец дастаў з кішэні кавалак нейкай матэрыі.

— Ты тады, Люба, і не ўзяла была з сабою гэтага кафтаніка, так і пакінула вісець на цвіку каля акна. А вазон твой тады так і высах, калі гарматы яшчэ да таго не спалілі яго разам са сценамі. Па гэтым кафтаніку было відно, якія ў цябе тады былі вострыя плечы. Ты была дзіця і раптам цяпер такая стаіш перада мной!

— А ўжо неўзабаве ад таго будзе чвэрць веку,— абазваўся збянтэжаны і ўсхвалёваны Рыльскі.

— Татуля, я табе яшчэ раскажу сваю гісторыю. Каб ты бачыў, які ў цябе ёсць унук!

— Мне Рыльскі шмат што ўжо расказаў з тваёй гісторыі.

— Пачакай, татуля, нядаўна стукнулі дзверы. Можа, гэта прыйшоў ён. Лёнька, гэта ты?

Каля цёмнай сцяны ў адказ Стафанковіч моцна ўздыхнуў. Люба кінулася запаліць поўнае святло. Так скончыўся першы момант спаткання Лук'янскага з дачкой, пачатку якога Валя і Сашка не засталі. Рыльскага хваляванне пачало праходзіць, ён астаўся сядзець на крэсле і закурыў. Пад столлю бліснула святло, у пакоі запанавала відната. Сашка пазнаў Любу і з абурэннем азірнуўся на Валю, але, азіраючыся, ён прайшоў вачыма па высокай змрочнай постаці, якая трымалася каля сцяны. Толькі перавёўшы вочы зноў на гэтую постаць, ён убачыў, што гэта яго бацька. Стафанковіч стаяў як распяты на сцяне. Тое, што ён трымаў у руках, з'ехала ўніз, вывалілася з рук і ўжо ляжала на падлозе, каля яго ног. Твар яго завастрыўся, вочы глядзелі з дзікай зайздрасцю. Трэба думаць, што на яго вачах прайшла ўся сцэна спаткання Лук'янскага з дачкой з самага пачатку. І, можа быць, у гэтыя моманты перад яго вачыма раскрыўся вялікі сэнс усяго таго, у чым ён за ўсё сваё жыццё не бачыў ніякага сэнсу. У гэтую хвіліну ён адчуваў сябе тут так, быццам гэтыя ўсе людзі маюць дачыненне да яго душы, якую ён і мае права тут перад імі выварочваць. Запальваючы большае святло, Люба яшчэ раз сказала:

— Лёнька, Леанід, гэта ты ўвайшоў?

Але тут яна ўбачыла Стафанковіча і ля яго ног завязанае ў прасцірадла футра. На яе лбе зрабілася тонкая маршчынка і, зварухнуўшыся, знікла. Яна апусціла рукі, быццам наткнулася на перашкоду, перамагчы якую будзе нялёгка. Рыльскі зірнуў на Стафанковіча, і вочы яго засвяціліся так, як гэта бывае ў чалавека, у якога з'явіцца шчаслівая думка правільна вырашыць тое, што не паддавалася ні пад якое вырашэнне. Ажыўленасць яго твару так і асталася, аж пакуль ён не загаварыў са Стафанковічам. Але пакуль ён падышоў да Стафанковіча са сваім запытаннем, той сам першы загаварыў і як быццам бы да ўсіх. Ён бачыў, як Люба са здзіўленнем убачыла каля дзвярэй, поплеч Валі, Сашку, і, стараючыся здагадацца, чаго Сашка тут апынуўся, яшчэ больш адразу падгорбіў плечы і паставіў адно плячо вышэй другога.

— Як я бачу,— прахрыпеў ён,— то тут, каб не было крыўды, вы знайшлі свайго бацьку, якога страцілі ў маленстве? А то бывае, што бацька страціць сына... і сканае, як быццам у яго ніколі сям'і не было. (У яго душы меркла і траціла сэнс усё іншае, што жыло ў людзях і не належала да тых спраў, якія поўнілі ўсю яго істоту.) Я не застаў тут свайго ўнука? Нічога, ён мяне, каб не было крыўды, успомніць пасля.

Ён няспрытна нагнуўся, падняў з падлогі клунак, застукаў ботамі цераз увесь пакой да пісьмовага стала, штосьці там падумаў, пасля вярнуўся і паклаў клунак на другі стол, які стаяў пасярод пакоя. Развязаў рагі прасцірадла, пачаў выцягваць з яго крысо сапраўды добрага футра, але адумаўся і стаяў як аслупянелы. Твар яго яшчэ больш асунуўся і адзеравянеў.

— Што вы робіце,— моцна сказала Люба.— Вазьміце назад і ідзіце дадому. Да якой вы дзікасці дадумаліся!

Сашка стаяў як апараны. Стафанковіч выслухаў Любу і, як на механічнай прыладзе, без аніводнай жывой рысы на твары павярнуўся да Сашкі:

— Ты давёў бацьку да таго, што яго, як злодзея, кожны ад сябе адпіхае. Няхай сабе будзе так, што я памру без роднага свайго сем'яніна.

Ён нешта яшчэ хацеў сказаць, але пачаў заікацца і нічога нельга было разабраць, што ён гаворыць. Сашка сваімі кемлівымі мазгамі адразу ацаніў стан справы: ён перажываў ужо страшэнную ганьбу, ён не мог чалавечы-

мі вачыма глянуць на Любу, у кватэры якой ён немаведама чаго апынуўся, ён бачыў, што яго пазнаў і Рыльскі ў такі момант, калі ён быццам ляснуўся тварам у гразь. І нічога на яго твары не адлюстравалася, апроч злосці, якая дайшла да шаленства. Ён проста-такі закрычаў на бацьку:

— Пачвара, вар'ят, да чаго ты дайшоў! Што ты робіш? Ты, можа, усе вуліцы пачнеш абыходзіць са сваімі дурнымі скаргамі?

— А ты хоць раз калі ўспомніў аба мне?

— То напісаў бы ты, я табе прыслаў бы грошай, колькі хочаш. Ты ніколі аб грошах мне не пісаў.

— На чорта мне твае грошы! Я працу ў руках трымаў праз усе гады і ў твае кішэні магу грошай панапіхаць поўна, хоч калі.

— То чаго ты стогнеш? Ідзі дадому.

— Не ты мяне вывеў з майго дому і не ты мяне туды павядзеш. Ты мяне з машыны выгнаў! А як жа, бацька сеў там, дзе павінен быў ты сядзець з гэтым сальнікам і шпікулянтам Шпулькевічам!

— Якраз,— сказаў Рыльскі, падыходзячы да Стафанковіча.— Я з самага пачатку, як пазнаў вас, хацеў пытацца,— ці не ведаеце вы, дзе паварочваецца той Шпулькевіч?

— Запытайцеся вы лепш у яго,— вельмі шпарка прагаварыў Стафанковіч і ткнуў пальцам у Сашку.

Адчыніліся дзверы, і ўвайшоў хлопец. З выгляду яму можна было даць год пятнаццаць. Ён акінуў вачыма незнаёмых яму людзей, сказаў «добры вечар» і пайшоў да століка ў кутку, дзе запаліў лямпачку і падцягнуў да сябе некалькі кніг, з якіх выбраў адну і разгарнуў яе на закладзеным сшыткам месцы.

— Лёнька,— сказала Люба.— Ідзі сюды. Татуля, от ваш унук.

Стафанковіч пазнаў таго хлопца, які тады танцаваў у featuring рознакаляровым адзенні. Ён падступіў крок наперад і працягнуў руку да футра на стале. Ён бачыў, як вайсковец пайшоў хлопцу насустрач, узяў яго за плечы і пацягнуў да сябе:

— Ну, паглядзі на свайго дзеда, грознага камандзіра. Бачыш у яго шрамы? Я табе пра іх раскажу. Гэта ўсё з-за таго, каб ты цяпер не думаў аб кавалку хлеба, як калісьці я або твая маці, а каб ты быў шчаслівым маладым чалавекам. Хадзі сюды бліжэй к гэтаму сталу.

Ён падвёў унука да стала пасярод пакоя і пачаў падсоўваць туды крэсла. Стафанковіч спачатку пацягнуў к сабе футра, пасля адхапіў ад яго рукі, як ад агню, і акамянеў у маўклівай позе. Магло здавацца, што яго есць з сярэдзіны нейкі боль.

— Валечка,— сказала Люба цераз стол, стараючыся ўняць сваё хваляванне,— ідзі сюды. Гэта мой бацька, а гэта Рыльскі. Памятаеш мае расказы... Татуля, гэта мая найлепшая таварышка яшчэ з цяжкіх маіх год.

— Калі з цяжкіх год, то дружба павінна быць моцная,— адказаў вайсковец, спыняючы свой позірк на Стафанковічу.

Паміж гэтых двух сваіх дзядоў стаяў унук, якому яшчэ належала ўведаць гісторыю свайго першага маленства.

— Я была б рада тут астацца,— сказала Валя.— Але на маіх руках клопат.

Яна падбегла да стала, сцягла на край яго Стафанковічаўскае футра і крыкнула яму ў самае вуха:

— Забірайце і ідзіце дадому. Я жонка вашага сына, я ў вас неўзабаве буду.

Стафанковіч стаяў і не варушыўся. Валя, спяшаючыся, каб хутчэй ачысціць стол, за які ўжо садзіліся людзі, хапіла футра і ўскінула Стафанковічу на плечы: — Адзявайце і ідзіце.

У гэты вечар Люба быццам пакінула здзіўляцца ўсяму. Тое, што Валя ёсць Сашкава жонка, быццам бы і не зрабіла на яе ўражання. Толькі пасля ёй усё гэта здавалася дзіўным.

— Выходзьце абодва,— загадала Валя Сашку і Стафанковічу. І да Сашкі: — Будзь пэўны, што ты зараз яшчэ не так ляснешся ў гразь. І трэба, каб так было. Я пастараюся. Хіба ты ў самай глушы з самага пачатку возьмешся за сапраўдную працу. Тады ў майго дзіцяці, можа, будзе бацька — чалавек.

У гарачы ліпеньскі вечар Стафанковіч у футры наапашкі дацягнуўся да таксі і, дрыжучы каленямі, паслушна прымаў Валін клопат аб сабе. Сашка адпіхнуў ад сябе Валю і пабег да трамвая. Ён рынуўся да Вэнькі Шпулькевіча. Той спаткаў яго навіною:

— Я нічога не магу зрабіць з маім былым фельчарам, якога ты зняважыў. Ён так не можа забыцца на крыўду, што дакляроўвае давесці тваё самазванскае партызанства.

Сашка пацешыў Вэньку яшчэ большай навіною:

— Рыльскі напаў на твой след!

Пераначавалі яны ўдвух неспакойна. Назаўтра было яснае надвор'е, быццам бы сама прырода спрыяла, каб дэманстрацыя з бліскучасці сваёй нічога не страціла. Вэнька астаўся сядзець дома, а Сашка, стараючыся даць сабе хоць штучную спакойнасць, выйшаў на вуліцу. А гадзіне дзесятай ён ішоў па Савецкай вуліцы, штучнымі развагамі стараючыся знішчыць трывогу ў сваёй душы. Гэта яму пачало ўдавацца. Але тут ён убачыў, як разам з іншымі часткамі дэманстрацыі спяшалася на парад калона моладзі, напэўна, вучні якой-небудзь сярэдняй школы. Гэтая калона была адзета, як на маскарад. Усё зіхацела рознакаляровым адзеннем. Сашка раптам убачыў тут свайго сына: юнак быў адзет, як і ўсе, у адзежу з лёгкай матэрыі і нёс у руках звязаную з шаля чалму, якую на хаду развязваў, каб завязаць яе лепш.

— Лёнька, завяжаш там, на месцы,— крычала яму некалькі галасоў.

Сашка ўмяшаўся ў натоўп. Як мыла з'еўшы ён паклыбаў назад. Доўга сядзеў на скверы і, як зачумлены, пайшоў да бацькі.

— Я пагляджу, як ён жыве,— гаварыў ён сам да сябе,— ці меў ён права даводзіць мяне да такой ганьбы. А жоначка таксама пастаралася! Хіба можна пасля гэтага жыць з ёю?

Увайшоўшы ў бацькаў пакой, ён не выгаварыў ні слова, быццам паралюш заняў яму мову: ужо адзеты ў чорны гарнітур, ляжаў бацька — доўгі, сухі, белатвары. Дзве жанчыны адцягвалі к сцяне лішнюю мэблю, і ўсім гэтым камандавала Валя.

— Ага, ты з'явіўся,— холадна і без інтанацыі сказала яна Сашку.— Малайчына, герой... Бацька памёр на світанні. Я яго толькі ўчора першы раз убачыла. Я не ведала і не ведаю, што ён быў за чалавек, як жыў, як цябе выхоўваў, але ён сказаў, што шчаслівы тым, што ў апошнія свае гадзіны ўбачыў мяне. З бацькам гаварыць позна ўжо, але я яшчэ прымушу цябе схіліць галаву перад Любай, хутчэй я кіну к чорту цябе, чым зраблю сабе няшчасце пакінуць дружыць з ёю.

У Сашкі астаўся нявыкарыстаны пропуск на адну з трыбун перад Домам урада. На трыбуне стаяла Люба поплеч з Рыльскім. Яны глядзелі на парад войска перад урадавай трыбунай. Цырыманіяльным маршам праходзілі

часці артылерыйскага палка. Рыльскі дакрануўся да Любінага пляча і паказаў рукой. Люба пазнала свайго бацьку. Камандзір палка Лук'янскі вёў свой полк. У гэтым руху шрамаў яго нельга было заўважыць таксама, як і таго, што ён не спаў цэлую ноч, не могучы нагаварыцца з дачкой. Чорны конь пад ім танцаваў у лёгкай хадзе. Гадзіны праз паўтары ішлі калоны моладзі. У адной калоне быў Лук'янскага ўнук. Калона ішла танцуючы. Тут вайсковы зборны аркестр быў заменен адмысловым. Лёгкая матэрыя розных колераў уздымалася ветрам, і здавалася, што адзетыя ў яе людзі не маюць у сабе ніякай цяжкасці.

## I

Нейк раптам усе пачалі заўважаць высокага старога чалавека. Ён часта відзён быў на тых вуліцах, што ляжаць каля гарадскога рынку. Гэты чалавек хадзіў павольна, быццам аб нечым раздумваючы, цвёрда апіраўся на выгнутую з маладога дубка палку; і заўсёды здавалася, што ён гэта не так сабе ходзіць, а мае нейкую справу. Раней яго не заўважалі.

Вельмі можа быць, што ён толькі нядаўна стаў жыць тут.

Была восень. Надвор'е стаяла мокрае, і вецер найчасцей павяваў ужо холадам. Стары чалавек заўсёды хадзіў адзеты ў паношанае цёмнае паліто, на яго быццам караткаватае, з цёплым каўняром. У яго была зусім сівая, маленькая, нізка падстрыжаная бародка і такія ж сівыя выбіваліся з-пад суконнай шапкі валасы каля вушэй. Лоб яго быў высокі, нос арліны і вочы, нягледзячы на старасць, ясныя. Відаць было, што ён ад старасці не вельмі ўжо моцны, але і ў паходцы яго, і ў выразе твару было нешта цвёрдае. Здавалася, што чалавек гэты нечым ганарыцца. Не то што ён быў горды перад людзьмі. Не. Наадварот. З выгляду ён быў ветлівы да ўсіх.

Адзін раз ён убачыў, як конь не мог зрушыць з месца цяжкі воз з дрывамі, і фурманшчык неміласэрна біў каня пугаўём па шыі і жываце. Стары чалавек адразу падбег да фурманшчыка і моцна сказаў:

— Якое ж у цябе сэрца, калі ты не шкадуеш жывёлы? Ды і сам сабе ты гэтым горш зробіш, калі змарнуеш каня. Чаго стаіце? — Тут ён павярнуўся тварам да натоўпу.— Ты там, маладзейшы, падштурхні воз плячом, яго абы з месца зрушыць...

Маладзейшы падштурхнуў воз плячом, і конь лёгка пайшоў. Стары чалавек рушыў у сваю дарогу, і на твары

яго доўга трымалася ўсмешка. Здавалася, што гэты чалавек добра ведае, што ён сам варт на свеце.

На вуліцы яго бачылі кожны дзень па некалькі разоў. Зранку ён ішоў з накрытым газетай кошыкам. Удзень ішоў з пустымі рукамі, але таксама, як і зранку, здавалася, што ён некуды спяшаецца. А перад вечарам, на змроку дня, ішоў вельмі павольна, пастукваў дубовай палкай па тратуары; часам спыняўся і стаяў на адным месцы, гледзячы на якое-небудзь дрэва або на гурт вясёлых дзяцей. Пасля, быццам адумаўшыся, ішоў далей, даходзіў да якога-небудзь завулка і варочаўся назад, робячы па тратуары сваю праходку.

Аднойчы на тым самым тратуары гулялі дзеці. Хоць, калі сказаць праўду,— гэта была не зусім гульня. Каля зялёнай брамы ў зарослым дрэвамі двары стаялі тры дзяўчынкі і каля іх пакручваўся, на галоў дзве вышэйшы за кожную з іх, хлапчук. Ён быў высокі ростам, яму ўжо магло быць год чатырнаццаць. Дзяўчаткам было год па трынаццаць кожнай.

Адзеты ён быў не то што лепш за тых дзяўчатак, з якімі бесперапынна зачэпаўся, але на ім усё ляжала нейк гладчэй, спрытней, дасціпней. Ён быў у высокіх боціках з бліпчастымі мяккімі халяўкамі, на паліто каўнерык з нейкага шэранькага звярка. Ніводнай мінуты ён не мог устаяць на месцы. Ён усё круціўся на адной назе і за кожным паваротам даваў у галаву каторай-небудзь дзяўчынцы пстрычку. І кожны раз дзяўчаткі хорам крычалі яму:

— Серж, мы цябе не чапаем. Пусці, нам трэба ісці.

— Ідзіце,— гаварыў Серж, і калі дзяўчаткі, узяўшыся пад рукі, ішлі, ён зноў даваў каторай-небудзь з іх пстрычку ў галаву, і яны адступалі на ранейшае месца.

І ў гэты момант у вачах яго свяцілася гэтулькі самаздавальнення, гэтулькі ўцехі з самога сябе, што здавалася,— гэты маладзенькі францік зараз заплюе вочы ўсяму свету і скажа:

— Эй вы, бачыце, які я спрытны і харошы. А вы ўсе перада мной нейкія пачвары, і больш нічога.

— Пусці, нам трэба ісці,— запішчалі дзяўчаткі.

— Ідзіце,— сказаў Серж.

Дзяўчаткі пайшлі, але Серж у момант вока перакруціўся на адной назе і даў самай меншай дзяўчынцы такую пстрычку ў лоб, што тая крыкнула і моцна заплакала.

— Ён жа адзін, а нас трое,— крыкнула самая большая,— чаго мы будзем яго баяцца?

Самая меншая не пакідала плакаць. Серж падбег да самай большай з гнеўным крыкам:

— Вы не будзеце мяне баяцца?

І намерыўся ўжо даць пстрычку ў галаву большай, але тая яго так пхнула ад сябе, што ён хістануўся з тратуара і ўпаў на адно калена ў лужу. Дзяўчаткі зарагаталі і, падхапіўшы пад рукі сваю меншую сяброўку, пабеглі наўцёкі. Серж усхапіўся на ногі і тут жа ўбачыў, што яго калена і прыгожая халяўка ўся ў гразі. Поўны злосці, ён дагнаў дзяўчатак і з усяго размаху пхнуў у плечы самую большую, а пасля і самую меншую. Яны абедзве ўпалі на тратуар, і меншая так далася тварам аб мокрую асфальтавую пліту, што з носа і з дзяснаў у яе пацякла кроў. Убачыўшы гэта, Серж спалохаўся, але, каб не паказаць віду, закрычаў:

— Вось табе, цяпер будзеш памятаць.

І кінуўся ўцякаць дадому, але ў гэты час нечая моцная рука хапіла яго за плячо, і над яго галавой прагучаў басавіты голас:

— Ах ты, хуліган, што гэта ты нарабіў?

Серж падняў угару вочы і ўбачыў, што яго трымае той самы стары і высокі чалавек, якога ён прывык кожны дзень бачыць на гэтай самай вуліцы.

— Пусці! — закрычаў Серж, ірвануўшыся з усёй сілы.

— Не, ты раней скажаш, як ты завешся і з якой ты школы, тады я цябе пушчу,— адказаў стары чалавек.

— Ён завецца Серж, а вучыцца ён разам з намі: у дваццатай школе,— запішчалі дзяўчаткі.

— Ідзі, хуліган,— гнеўна сказаў стары чалавек, пускаючы Сержа.

Дзяўчаткі павялі сваю скрываўленую сяброўку да яе дома, а Серж, з паважным выглядам нявіннага пакутніка, паволі адышоўся ад старога чалавека на некалькі крокаў і засвістаў. Стары чалавек моўчкі паківаў галавой і хацеў ужо ісці, але Серж раптам крыкнуў яму:

— Стары чорт! Ты вечарам стаіш на вуліцы і на месяц глядзіш, як дурань. Ты думаеш, я цябе баюся?

І Серж пабег, азіраючыся, а стары чалавек доўга стаяў іківаў галавой. Пасля ён паволі пайшоў тратуарам, звыкла сабе накульгваючы на левую нагу і пастукваючы палкай па мокрых асфальтавых плітах. Ён дайшоў да чыгуначнага пераезда. Шлагбаум быў спушчан. Стары чалавек астаўся чакаць, пакуль пройдзе поезд. Бадай што ўжо зусім змеркла. Асенні вецер гнаў па небе разарваныя хмары, ён

ачышчаў ад іх неба, і ўвесь захад рабіўся ясны. Сонца зайшло, але над горадам яшчэ не патухлі яго апошнія водбліскі. Стары чалавек азірнуўся навокал сябе, і на вачах яго бліснулі слёзы. Поезд прайшоў, шлагбаум падняўся, стары чалавек перайшоў праз рэйкі і ўвайшоў у глухі завулак. Тут ён пайшоў шпарчэй, выпрастаўся, здаваўся яшчэ вышэйшы ростам. Ён паспрабаваў нешта спяваць сабе пад нос ціхенька і аднастайна. Голас у яго быў вельмі нізкі.

У канцы завулка стаяў трохпавярховы вялікі стары дом. У ім было многа дзвярэй і вокан. Тынк на яго сценах даўно ўжо змылі дажджы, і дом пачарнеў. Цяпер у вокнах гэтага дома свяціліся агні і з сярэдзіны чулася музыка. Чалавек увайшоў у адчыненыя дзверы цёмнага карыдора і скрыўся там. Ён ні разу не азірнуўся і не бачыў, што Серж увесь час ішоў назіркам следам за ім, хаваючыся за сцены і платы, каб лепш падгледзець, куды гэта стары пойдзе. Серж тады толькі для віду адбегся ад чалавека, а пасля вярнуўся і пайшоў следам за ім. І цяпер ён радасна глядзеў, у які дом увайшоў ненавідны яму стары чалавек. Серж глядзеў у цёмны карыдор трохпавярховага дома з вялікім самаздавальненнем і пачаў высвістваць нейкую вясёлую песеньку. Стары чалавек нават і не падазраваў нічога гэтага.

## II

Якраз каля таго часу, калі на вуліцах відзён стаў высокі стары чалавек, у дваццатай школе з'явілася новая вучаніца Насця Закрэўская. Ёй ішоў трынаццаты год, і вучылася яна ў пятым класе. Раней у гэтай школе яна ніколі не вучылася, і калі прыйшла з пачатку восені запісацца ў пяты клас, то сказала, што толькі нядаўна пераехала жыць у гэты горад.

Насця, ці як пасля ўсе ў школе яе пачалі зваць, Насцечка, была бойкая і рухавая дзяўчынка, белатварая, з густымі валасамі, якія роўна ляжалі на яе галаве пад грабянцом. Да самых халадоў яна прыходзіла ў школу ў шарсцяной кофтачцы, шэрай, у карычневыя палоскі, а калі стала халадней,— пачала адзяваць на кофтачку чорнае ватовае паліто з простым бобрыкавым каўнярком і вузенькім суконным паяском.

Яна не была чым-небудзь адметнейшая ад іншых дзяцей. Таксама, як і ўсе, любіла бегаць па двары на вялікім

перапынку, любіла слухаць расказы, гуляла ва ўсе гульні, у якія толькі гулялі дзеці, і заўсёды ўносіла ў гэтыя гульні весялосць: яна любіла парагатаць. Яе звонкі голас і смех чуліся заўсёды,— ці то ў карыдоры, ці то на двары. Яна мела прывычку часта гаварыць: «ой, дзевачкі!» Часамі, бегучы, спатыкнецца і ўпадзе, і тады закрычыць:

— Ой, дзевачкі, я так далася каленам.

Вучылася яна вельмі добра. Яна старалася вучыцца. Нешта дні праз два пасля здарэння на вуліцы паміж Сержам і старым чалавекам, у пятым класе вучні рабілі арыфметычныя прыклады. Адзін прыклад асабліва здаўся цяжкім бадай што ўсяму класу. Насця Закрэўская стаяла ля класнай дошкі, цiснула ў пальцах крэйду, глядзела на слупок выпісаных ёю на дошцы лічбаў і думала. Нешта ў яе тут не выходзіла. Дзеці глядзелі ў свае сшыткі. Настаўніца сказала да ўсяго класа:

— Хто зрабіў прыклад?

— Я,— абазвалася адразу некалькі галасоў. Абазваўся таксама і Серж.

— Правільна робіць прыклад Насця? — запытала настаўніца.

— Правільна,— пачуўся голас.

— Не, няправільна,— крыкнуў Серж.

— Адзін кажа: «правільна», а другі — «няправільна»,— сказала настаўніца.— А ты, Насця, рабі да канца так, як пачала.

— Яна няправільна робіць! — закрычаў Серж.— Я ўжо зрабіў і ведаю. Я выйду за яе зраблю, яна не зробіць.

— Цябе не выклікалі да дошкі, ты і сядзі,— пакрыўдзілася Насця.— Я сама без цябе зраблю.

— Ты не зробіш! — аж падскочыў Серж.

— Дзеці, ціха! — моцна сказала настаўніца.

— Яна толькі будзе час траціць і не зробіць, а я зраблю! — ужо зусім крыкнуў Серж.

Зняважаная Насця злосна глянула на Сержа і зачырванелася. Серж кпліва на яе глядзеў з горлым выглядам ад таго, што ён больш ведае за Насцю.

— Сядзі, Серж, на месцы і маўчы. Ты перашкаджаеш Насці і ўсім,— сказала настаўніца.

У Сержа была такая натура, што ён прывык лічыць сябе лепшым і разумнейшым за ўсіх на свеце. Ён з такой пагардай глянуў на настаўніцу і пасля на Насцю, што настаўніца адчула ў душы прыкрасць. У Сержавым позірку было штосьці ўжо не дзіцячае. Здавалася, што на настаў-

ніцу глядзіць дарослы чалавек, але па-дзіцячаму распешчаны і свавольны. Настаўніца на гэты раз змаўчала і пераявяла вочы на Насцю, якая ў гэты час шпарка пісала на дошцы лічбы. У знак пратэсту супроць таго, што яму больш не аддаюць увагі, Серж скамячыў кавалачак паперы, пажаваў яе і пстрыкнуў пальцамі гэтыя мокрыя жовіны ў акно. Настаўніца ўстала са свайго месца і падышла да Сержа. Грозна яна сказала яму:

— Калі ты не пакінеш хуліганіць, я табе зараз загадаю выйсці з класа.

— Што, хіба я хуліганю? — сказаў Серж і зрабіў нявінныя, ягнячыя вочы.— Я зрабіў прыклад.

— Калі зрабіў, дык нашто свавоціць?

— Я зрабіла,— сказала Насця.

Настаўніца паглядзела на дошку і запытала ў класа:

— Правільна яна зрабіла?

— Правільна,— сказалі галасы.

— Няправільна,— сказалі другія галасы.

— Серж, правільна яна зрабіла? — запытала настаўніца.

— Не,— самаўпэўнена адказаў Серж.

— Ідзі зрабі правільна.

З паважным выглядам Серж выйшаў да дошкі і пачаў пісаць лічбы па-свойму. Але неўзабаве ён заблытаўся, падбег да свайго месца і ўзяў свой сшытак.

— А ты цяпер нанава зрабі,— сказала настаўніца.

— Я ўжо зрабіў, нашто мне другі раз рабіць?

І ён перапісаў на дошку тое, што было ў яго сшытку. Настаўніца дала некалькі пытанняў, дзеці на іх адказалі і раптам зразумелі ўсё. Насця дагэтуль стаяла каля дошкі збянтэжаная, думаючы, што, можа, гэта ў яе няправільна, а ў Сержа правільна. А цяпер яна радасна паглядзела на Сержа.

— У Насці правільна,— крычаў увесь клас.

У гэты час зазвінеў званок, але настаўніца яшчэ паспела сказаць Сержу:

— Ты не прывыкаеш працаваць, а думаеш, што ты больш і лепш за ўсіх ведаеш. Ты няправільна зрабіў, а Насця правільна. А ты самаўпэўнена зневажаў яе. А калі я сказала табе, каб ты сядзеў ціха, ты і мяне пачаў зневажаць і ўвесь клас сваім хуліганствам.

Настаўніца выйшла, і Серж, каб паказаць перад усімі, што ён усё ж такі праў, пусціў ёй услед працяглы свіст. Прайшоў яшчэ адзін урок, і Серж увесь гэты час сядзеў

злосны і надзьмуты. Яму было непрыемна, што выйшла не па яго, што ўвесь клас спачувае Насці, а не яму, што Насця трымае сябе весела і радасна, што яна са шчаслівым і гордым бляскам у вачах некалькі разоў паглядзела на яго. І ў дадатак яшчэ настаўніца назвала яго ўчынак з жованай паперай хуліганствам.

Заняткі ў школе скончыліся. Дзеці пайшлі дадому. Серж падпільнаваў Насцю на тратуары і заляпіў ёй гразёю твар. Назаўтра Насця паскардзілася настаўніцы, і перад усім класам настаўніца прабірала Сержа. І адразу пасля гэтага Насця пачала заўважаць, што Серж стаў яе ворагам. Ён стараўся, каб яна адчувала на сабе яго помсту. Ён не хацеў спакойна прапусціць яе каля сябе. Ён ёй даваў пстрычкі, шчыпаў за шыю, біў кулакамі ў плечы. Стала так, што Насця баялася выходзіць са школы пасля заняткаў: яна ведала, што недзе за вуглом яе чакае Серж. І перад тым як ісці дадому, яна пачала выглядаць з карыдора, чакаючы, каб хто-небудзь з дарослых быў паблізу, каб было ў каго папрасіць абароны. Так прайшло дні чатыры.

На чацвёртым дні, перад самым вечарам, Серж стаяў на вуліцы, раздумваючы, куды яму пайсці. Раптам ён убачыў Насцю. Можа, ён гэтым разам і не зачапіў бы яе, каб не Насцін выгляд. Занадта ўжо яна была ў гэты момант вясёлая, смелая і самаўпэўненая. Яшчэ здалёк яна заўважыла Сержа, і вочы яе заблішчэлі. За апошнія дні Серж прывык да таго, што яна, пры кожным спатканні, палахліва хавалася або ўцякала ад яго, а гэта так смела ішла. Узбуджаны настрой зноў апанаваў Сержам. Гэты момант у яго душы стаў падобен да таго моманту, калі некалькі дзён таму назад высокі стары чалавек хапіў яго за плячо, баронячы ад яго трох дзяўчатак. І горш за ўсё было тое, што цяпер, на тратуары, Насця смела і заўзята пагразіла яму пальцам. Гэта ўсё вельмі выразна гаварыла Сержу, што Насця так хоча сказаць яму: «Я цябе не баюся, я лепшая і разумнейшая за цябе, а ты хуліган, і такім цябе не толькі я, але і ўсе лічаць. І я цябе не баюся». І гэтулькі было ў Насціных вачах пагарды да яго, што ён не вытрымаў. Як гэта яна, гэтая нейкая Насця, можа так зневажаць яго? Даволі таго, што ўжо і ў школе тады яна ўзяла верх над ім, што спачуванне ўсяго класа было на яе старане, і яна быццам нейкім героем была ў тую мінуту, калі ішла ад дошкі на сваё месца пасля арыфметычнага прыклада. А звыш усяго, яшчэ і настаўніца прабрала яго.

Усе гэтыя крыўды выплылі раптам на верх яго душы і пачалі кіраваць яго ўчынкамі.

Серж грозна падбег да Насці і загарадзіў ёй дарогу. Ён ужо нарыхтаваў кулак, каб штурхануць Насцю пад бок, і ў Насціным твары адбылася момантная змена. Страх і баязлівасць засвяціліся ў яе вачах. Яна шпарка адступіла на крок ад Сержа і бездапаможна азірнулася. Але, мусіць, яна, азірнуўшыся, убачыла нейкі свой паратунак, бо зноў смела зірнула на Сержа і нават крыкнула яму:

— Пусці, хуліган!

Серж не зводзіў з Насці вачэй і нічога навокал сябе не бачыў. Ён падняў кулак над Насцяй, і ў той жа момант моцная рука, якраз як некалькі дзён таму назад, хапіла яго за плячо. Ён шпарка ўскінуў угару вочы і жахнуўся: над ім стаяў той самы высокі стары.

— Дык выходзіць, што ты кожны дзень на паляванні бываеш?! Ах, гадзюк праклятЫ,— сказаў стары чалавек і злосна адштурхнуў ад сябе Сержа.

Серж адляцеў убок і ўскочыў у двор вялікага дома. У той момант, калі чалавек трымаў яго за плячо, ён бачыў, як Насця стаяла перад ім упэўненая ў сабе, вясёлая і смелая. Выглянуўшы цяпер з-за вугла, Серж бачыў, што Насця была ўжо далёка. Стары чалавек ішоў за ёю, а не побач яе, і цяжка было ўгадаць, ці гэта яны разам ідуць, ці гэта яны проста выпадкова сышліся на вуліцы і нават не ведаюць адзін аднаго.

Якія няўдачы і якая ганьба спасцігла Сержа за апошні час! А да гэтага ён не прывык.

Яму заўсёды ўсё ўдавалася, і заўсёды ён меў тое, што толькі захоча. Бацька яго быў даволі буйны работнік у горадзе, і многа людзей яго ведала. Ён быў заўсёды вельмі заняты працай, можна сказаць, што ён працаваў з цямна да цямна. Нават і ў выхадныя дні ён часта бываў заняты. А калі выдаралася яму вольная часіна, ён садзіўся ў машыну, браў з сабой свайго адзінага сына Сержа і выязджаў за горад адпачыць на прыродзе. Больш ён свайго Сержа бадай што і не бачыў. Ён прыходзіў з працы позна, калі Серж ужо спаў, а ўставаў тады, калі Серж быў ужо ў школе. Улетку ж Серж са сваёй маці жыў у вёсцы, а бацька аставаўся адзін у горадзе.

Маці глядзела Сержа, старалася не патураць усім яго капрызам, але бывала так, што бацька адным якім-небудзь учынкам у адзін момант разбураў усё тое, чаго дамагала-

ся маці. Сержу часамі ўздумаецца тыя дзвесце крокаў, якія аддзялялі яго кватэру ад школы, не прайсці пяшком так, як усе дзеці, а праехаць у бацькавай машыне. Маці скажа, што гэтага не трэба, што ніхто з дзяцей у школу не едзе ў машыне. А Серж пачынае плакаць і крычаць. Тады бацька, каб адчапіцца, скажа шафёру завезці яго. І Серж тады гаворыць, што бацька лепшы за маці, што бацька добры, а маці злая, і з выглядам гордага начальніка над усімі людзьмі вылазіць з машыны каля школы, тады, калі ўсе дзеці стаяць навакол і глядзяць на яго. І Серж думае, што ён лепшы за ўсіх, за ўсіх разумнейшы і мае права мець ва ўсім над усімі перавагу. І пакрысе ў ім укаранілася ўпэўненасць, што ён нейкая выдатная асоба, а ўсе перад ім нічога не варты. І калі часамі ў яго была якая-небудзь няўдача, ён злаваў і стараўся спагнаць злосць на кім-небудзь, замест таго, каб самому, сваімі сіламі, паправіць справу.

Ён хацеў, каб кожнае яго слова было законам для ўсіх, а калі хто пярэчыў яму, ён аж кіпеў ад злосці і пагражаў, што паскардзіцца свайму бацьку. А бацька яго, як ён думаў, мае права і павінен зрабіць усё, што яму, Сержу, заманецца. Серж доўга стаяў за вуглом, раздумваючы аб сваёй няшчаснай асобе. Усялякія смелыя планы складаліся ў яго галаве. Ён павінен паказаць сябе перад усімі імі. А ўсе яны — гэта былі: Насця і, перш за ўсё, той невядомы высокі стары чалавек, які, як здань, заўсёды з'яўляецца перад ім на вуліцы і ўмешваецца ў яго справы. Выбух злосці да гэтага старога апанаваў Сержам. І што такое гэтая нейкая Насця?! Што яна варта перад ім, перад Сержам? Нейкая драбяза. Чым яна такая выдатная? Вось дык гераіня! Ён хацеў не так перад ёю, як перад усім класам, паказаць сябе, а выйшла так, што быццам гэта не ён разумнейшы і важнейшы перад усімі, а яна. Яна спакойна і вытрымана працавала каля дошкі і ўзяла верх над ім, а ён сваім крыкам і самаўпэўненасцю дайшоў да таго, што яго абсмяялі. Ён пакажа ім усім — і старому, і Насці, і настаўніцы,— што яны нічога не варты перад ім, а ён мае права распараджацца ўсім светам.

Вось ад гэтага ўсяго і мучыўся Серж, стоячы за вуглом. Свет яму не быў мілы. Надыходзіў вечар, а ён усё стаяў. Выйшаўшы пасля на вуліцу, ён убачыў на тратуары свайго аднакласніка — белабрысага Мішку. Гэты Мішка вельмі ўзрадаваўся, калі апынуўся каля Сержа. Шырока расцягнуўшы ад усмешкі твар, ён сказаў:

— Я думаў, што ты дадому ўцёк, а ты тут быў. Што ты тут так доўга рабіў?

— А ты раней мяне бачыў?

— Дзіва што бачыў. Я унь там ішоў, як гэты стары трос цябе за плячо.

І Мішка пляснуў сябе па халяве тоўстым скруткам тэлефоннага шнура.

— Дзе ты гэты шнур узяў? — хрыплым голасам абазваўся Серж, каб абы перавесці гаворку на што-небудзь іншае. Гэта ж вельмі дрэнныя справы, што яго ганьбу бачылі і на вуліцы людзі.

— Гэты стары зноў тут ходзіць,— не пакідаў свае гаворкі белабрысы Мішка.— Толькі што ён у тым завулку ў краме купляў яблыкі...

— Адрэж мне палавіну гэтага шнура.

— Хітранькі. А што ты мне дасі за гэта?

Сержу ніякага шнура не трэба было. Яму абы-што гаварыць. Яны паволі ўжо ішлі тратуарам. Мішка кпліва і хітра пазіраў на Сержа, і таму гэта было горш за ўсё. Ён ведаў, што назаўтра Мішка на ўсю школу разнясе навіну, што яго на вуліцы трэслі за плячо. Ды каб жа толькі трэслі. Гэта было б яшчэ нічога. Але Мішка не такі хлопец, каб сказаць так, як яно было сапраўды. Ён у дзесяць разоў яшчэ ад сябе дадасць таго, чаго зусім не было. Ён будзе расказваць, што гэты стары круціў яго за вушы, цягаў за валасы. І расказваць будзе са страшэнным рогатам, а гледзячы на яго, і ўсе будуць рагатаць. Такой ганьбы і няславы Серж не можа вытрымаць.

Яны дайшлі ўжо да самага чыгуначнага пераезда.

— Унь ён! — гукнуў белабрысы Мішка.

Серж азірнуўся. За крокаў трыста ад сябе, у святле вулічнай лямпы ён убачыў высокага старога. Той паволі сабе ішоў і еў яблык.

— Хадзем хутчэй, каб ён нас не дагнаў,— прагаварыў Серж.

— Дык сыдзі ўбок, калі ты яго баішся,— кпліва сказаў Мішка і зарагатаў.

Сержа як падмыла кіпнем. Ён тузануў Мішку за руку і прашаптаў яму:

— Я ведаю, дзе ён жыве. Хадзем, ты толькі мне кавалак гэтага шнура дасі.

Серж ужо ведаў, што ён будзе рабіць. Мішка заўтра будзе расказваць пра яго, як пра героя, як пра смельчака, а не як пра баязліўца, якога трэслі за плячо. Бела-

брысы Мішка хоць і шкадаваў шнура, хоць і не ведаў, што будзе рабіць Серж, але вельмі ахвотна пайшоў са сваім паплечнікам, адчуваючы, што тут можа быць нешта для яго цікавае.

— Што ты будзеш рабіць? — запытаў Мішка.

— Я перапну шнурам у дзвярах, каб ён упаў,— растлумачыў Серж.— Ты адарвеш мне кавалак шнура.

Калі яны дайшлі да вядомага Сержу дома, Мішка сам узяўся наладжваць справу. З трухлявай дошкі ў плоце ён дастаў цвік і ўбіў яго ў вушак заўсёды адчыненых карыдорных дзвярэй. Пасля ржавай бляшкай перапілаваў шнур. Серж вырваў кавалак шнура з Мішкавых рук: яму хацелася самому дзейнічаць, а то гэта ж будзе Мішкава геройства, а не яго. Ён завязаў за цвік адным канцом шнур, а другі канец ужо сам Мішка працягнуў за вугал дома. Удвух яны схаваліся там. Шнур ляжаў на зямлі, і хто ішоў у карыдор ці з карыдора, то або ступаў на яго, або пераступаў. Найбольш шпагат пераступалі, бо на ўваходзе ў карыдор стаяла вада ад дажджоў. Лужа была не глыбокая, але кожны стараўся абысці яе бокам, паўз сцяну. Мінут дзесяць Серж з белабрысым Мішкам чакалі за вуглом, стуліўшыся, як шчанюкі, і, нарэшце, убачылі, як стары чалавек варочаўся са свайго спацыру. Ён падышоў да адчыненых карыдорных дзвярэй, паглядзеў на цёмнае акно ў сцяне побач з дзвярыма і прагуў сам сабе пад нос:

— У акне цёмна, малая недзе забавілася. Што ж такое, што яна яшчэ не прыйшла?

І ступіў цераз лужу ў карыдор, але ў той жа момант Серж з Мішкам нацягнулі шпагат. Чалавек усім размахам нагі вытнуўся аб яго і ўпаў у самых дзвярах. Ногі яго паехалі назад на двор, і нагамі і жыватом ён апынуўся ў вадзе. Пакуль ён устаў, прайшло, можа, мінуты дзве, і ў гэты момант Серж, не могучы стрымаць свае радасці, зарагатаў за вуглом. Стары ўзняўся на ногі, а Серж, забыўшыся на ўсё, не пакідаў рагатаць і пасля, следам за Мішкам, кінуўся бегчы. Але ў гэты момант з-за рога вуліцы ў завулак завярнуўся аўтамабіль і асвяціў двух хуліганаў фарамі. У яркім святле Серж перабег вуліцу, а стары чалавек глядзеў на яго і пазнаў яго. Пасля гэтага чалавек, стогнучы і асцепваючыся ад вады, увайшоў у карыдор, дастаў з кішэні ключ і доўга бразгаў ім, пакуль адамкнуў дзверы ў свой пакой. Ён засвяціў над

сталом электрычную лямпачку і пачаў скідаць з сябе мокрае паліто. І ўсё гуў сам сабе пад нос:

— Дзе ж гэта малая так загулялася, дзе ж гэта яна дагэтуль?

Пакуль ён пераадзеўся ў сухое, пакуль паставіў грэць чайнік, каб гарачым чаем сагрэцца пасля халоднай вады, у якую ён упаў праз Сержа, стары чалавек адчуў холад ва ўсім целе. Стаўшы плячом да печы, ён стараўся абагрэцца. Яго пачала хіліць дрымота, у касцях стала ламаць, ён прылёг на пасцель і нацягнуў на галаву коўдру. Праз некалькі мінут ён спаў, не прычакаўшы чаю.

Чайнік закіпваў. Звінючы шум ішоў ад яго. Лямпачка гарэла над сталом і асвятляла гэты невялікі пакойчык. Тут было ўтульна, і ўтульнасць гэтую павялічвала дамавітае шыпенне чайніка. Стол быў засланы цыратай, чатыры крэслы стаялі навокал стала. Пры сцяне, напроці дзвярэй, стаяла канапка, і на ёй ляжала падушка, а на падушцы згорненая коўдра і прасціradла,— можна здагадацца, што ўночы на канапцы робяць пасцель і спяць. А каля печы, у цямнейшым куце, стаяў ложак, і на ім цяпер спаў стары гаспадар гэтага пакоя. Каля ложка былі вузенькія дзверы, цяпер адчыненыя, і лямпачка кідала туды святло. Гэта была невялікая куханька: асвятляўся рог пліты і столік з талеркамі і іншай пасудай. Ляжала там яшчэ на падлозе бярэма дроў. А тут, на стале, ляжалі кнігі і сшыткі, два карандашы, ліст паперы з няскончаным рысункам. Была яшчэ і этажэрка з будзільнікам і таксама з кнігамі.

З карыдора шпарка адчыніліся дзверы, і ў пакой увайшла Насця Закрэўская.

— Ой, дзевачкі,— закрычала яна, хоць ніякіх дзевачак тут не было,— чайнік кіпіць і залівае падлогу. Ой, дзевачкі, паўчайніка выбегла на падлогу.

І яна хапіла за весілку чайнік.

### III

Усе ў школе пачалі заўважаць, што з Насцяй пачало рабіцца нешта нязвычнае, чаго з ёй раней ніколі не было. Яна заўсёды была самая ўзорная вучаніца, а гэта пачала пазніцца ў школу. Яна была заўсёды самая акуратная ва ўсім, а гэта стала прыходзіць у школу з растрапанымі валасамі і ў перапынку паміж урокамі канчала сваю прычоску. А адзін раз на вялікім перапынку яна паспела

некуды са школы збегаць і прынесці ў школу нечага поўную торбу і палажыла ў парту разам са сваімі кнігамі. Гэта было дзён праз чатыры пасля таго, калі Серж з белабрысым Мішкам перапіналі шнуром уваход у дом, дзе жыў стары высокі чалавек. У адзін з гэтых дзён, зранку, Серж папрасіў у бацькі пяць рублёў. Бацька збіраўся ісці на работу і спешна пераглядаў нейкія паперы і складваў іх у партфель.

— Нашто табе пяць рублёў? — мармытнуў сабе пад нос бацька, заняты сваімі справамі.

— Трэба.

— Не трэба табе так многа.

— Ай, трэба! — закрычаў Серж такім прарэзлівым, піскілвым і распешчаным голасам, што бацька заткнуў рукамі вушы, пасля выхапіў з кішэні пяць рублёў і кінуў Сержу, а сам зноў паглыбіўся ў свае паперы.

Узрадаваны поспехам, Серж зноў сказаў:

— Я сёння хачу паехаць у школу на машыне.

— Не свавольнічай, ідзі так, як усе дзеці,— мармытнуў сабе пад нос бацька.

— Ай! На машыне! — яўкнуў Серж мацней яшчэ, як першы раз, і з радасцю ўбачыў, што бацька зноў заткнуў вушы.

— Ай, ехаць на машыне! — запішчаў ён другі раз і яшчэ з большай радасцю ўбачыў, што бацька ўсхапіўся са свайго месца і выбег у другі пакой, дзе чакаў шафёр, каб неўзабаве везці Сержавага бацьку на працу.

— Завязіце яго ў школу, ён мне жыць не дае, гэты чарцюк,— сказаў бацька шафёру і пабег да сваіх папераў.

Падміргнуўшы некуды ў цёмны кут карыдора, Серж пайшоў садзіцца ў машыну.

З вельмі паважным выглядам ён падкаціў на машыне да школы і вылез з яе. Ён аж млеў ад шчасця, бачачы, як машыну акружылі натоўпам яго аднакласнікі. Так, як робяць вялікія начальнікі (ён гэта некалькі разоў бачыў), ён махнуў шафёру рукой, хоць шафёр і без гэтага ўжо заварачваў машыну.

Да заняткаў было яшчэ мінут дзесяць. Серж падышоў да буфета і запатрабаваў у буфетчыцы яблык, цукерак і пернікаў на ўсе пяць рублёў.

— Нашто табе так многа? — сказала буфетчыца, выбіраючы з каша яблыкі.

— Колькі хачу, гэтулькі і купляю! — крыкнуў Серж,

з арлінай гордасцю кідаючы вачыма і на буфетчыцу, і на дзяцей.

— Чаго ты крычыш? — абазвалася пакрыўджаная буфетчыца.— Я старая жанчына. Бач, які герой знайшоўся. Сам кату па пяту, а распараджаецца.

— Калі захачу, дык магу ўвесь гэты твой буфет купіць за адным разам! — гыркнуў Серж, распіхаючы па кішэнях ласункі.

У такіх выпадках заўсёды можа знайсціся які-небудзь падхалім, самы сапраўдны падлізнік. Падскочыў белабрысы Мішка, і палавіна купленых Сержам цукерак апынулася ў яго кішэні. Па дарозе ў клас Серж убачыў Насцю. З якой вялікай гордасцю ён паглядзеў на яе, на гэтую нейкую Насцечку, якая мала што калі і купляе ў буфеце, а найчасцей прыносіць сабе з дому хлеб і кілбасу ці што-небудзь падобнае.

Пачуўся званок, і Серж горда ўвайшоў у клас, з усмешкай пагдядаючы на ўсіх. Сержу пачало здавацца, што ён многа зрабіў ужо для таго, каб аднавіць тое, што было за апошнія дні страчана; каб на яго пачалі глядзець, як на героя, які нікога і нічога не баіцца, які за ўсіх лепшы і выдатнейшы. Яму стала спакайней на душы, але тым большая злосць да Насці мучыла яго. Ён жа ёй нічога не зрабіў такога, каб яна адчувала яго сілу і перавагу над сабою. Яна ж і дагэтуль можа думаць, што ён нічога не варт: што ў арыфметычных задачах ён вельмі слабы, што на ім асталася тая пячаць, якую паставіла на яго настаўніца словам «хуліган», што ён ніякі не герой, што ён не выдатнейшы за ўсіх і што ён і астаўся такой нікчэмнасцю, якой быў тады, калі яго стары чалавек трос на вуліцы за плячо. Так прайшлі першыя ўрокі.

Серж бачыў, што Насця на вялікім перапынку нешта паклала ў парту. Калі яна адышлася некуды, ён развязаў пакладзеную ў парту Насцяй торбу і паглядзеў у яе. Торба была поўна гароху. Серж торбы не завязаў, а паставіў яе так, каб гарох не высыпаўся, і за торбу завязаў нітку, а канец ніткі працягнуў да парты белабрысага Мішкі (сам ён сядзеў на першай парце — усялякае свавольства яго лёгка заўважыць настаўніцы). Калі пачаўся ўрок, Мішка пацягнуў за нітку, і ўвесь гарох сыпануўся па ўсім класе.

— Што гэта? — крыкнула настаўніца.

— Гэта Насця Закрэўская цэлымі торбамі гарох у клас носіць! — закрычаў Серж.

— Насця, нашто ты гарох у клас носіш? — запытала настаўніца.

— Гэта я купіла суп варыць.

— Табе мама сказала купіць?

— Я сама. Мая мама жыве ў Маскве.

— І заўсёды ты так?

— Не, раней дзед усё купляў, а цяпер ён ляжыць хворы. Мне трэба і купіць, і суп зварыць, і ў аптэку пайсці, і яго дагледзець. А як я пасля заняткаў пайду купляць, калі тады мне адразу дадому бегчы,— можа, яму, хвораму, што трэба,— ён жа і так колькі гадзін, пакуль я тут, адзін ляжыць.

— А больш у цябе нікога няма тут?

— Нікога няма.

Гаворка з настаўніцай скончылася, але ў перапынку пачалася гаворка з дзяцьмі. Усе пыталі Насцю:

— А чаму твая мама жыве не з вамі, а ў Маскве?

— Яна там давучваецца.

— Як гэта давучваецца?

— Бо яна вучылася дома, сама, у завочным інстытуце, а на ўсю гэтую восень і на пачатак зімы яна паехала трымаць апошнія іспыты і працаваць над дыпломнай працай. А калі яна скончыць усё гэта, то тады прыедзе да нас і або будзем жыць тут, або паедзем з мамай туды, куды пашлюць маму.

— А дзе твой тата?

— Мой тата памёр, калі я яшчэ зусім малая была, і я яго не памятаю.

— А адкуль вы прыехалі сюды?

— Мы прыехалі з раёна, там мая мама была настаўніца ў пачатковай школе.

— А там было добра?

— О, мне туды зноў хочацца. Там такі лес і такая рэчка! Мы з мамай так любім лес. А ўвосень — які лес прыгожы! На полі мокра, пуста, вецер ходзіць, а ў лесе хвоі густа стаяць; зелена, зацішна, свежа і толькі ўверсе вецер у хвоях — ш-ш-ш... А ядловец — зялёны стаіць пад якім-небудзь вялікім дрэвам. А на крушынавым ці на арэхавым кусце астанецца часамі адзін жоўты лісток, і так на яго слаўна глядзець. Ого, я люблю тое месца, дзе мы жылі. Мая мама казала, што, як скончыць навуку, будзе прасіць, каб яе паслалі на працу ў вёску. Яна казала, што любіць так вёску таму, што радзілася і вырасла ў ёй. Я таксама радзілася і жыла ў вёсцы.

— А хто быў твой тата?

— Мой тата быў вясковы настаўнік, а мама была родам з той самай вёскі, куды прыехаў працаваць мой тата. Мама мая ледзьве ўмела чытаць і пісаць, а тата яе навучыў больш, і мама паехала на настаўніцкія курсы. Так і яна стала настаўніцай. Пасля радзілася я, а тата мой памёр, і мама пачала вучыцца ў завочным інстытуце. Яна ўсё сама вучылася і кнігі чытала і цяпер мне ўсё піша з Масквы, каб і я вучылася і кнігі чытала. А мой дзед — гэта татаў бацька, ён родам з гэтага самага горада. Мама мая летась доўга хварэла, у яе было запаленне лёгкіх, яна захаладзілася і ўвесь канец леташняй зімы не працавала ў школе, і цяпер паехала ў Маскву, а дзед прывёз мяне сюды, ён любіць гэты горад, а ў вёсцы там, ён кажа, яму не было чаго рабіць.

— А што ён тут робіць?

— Ён мяне глядзіць. Ён і суп варыць, і ў печы паліць, і на рынак ходзіць.

— А як ён грошы зарабляе?

— Ён стары. Ён атрымоўвае пенсію. Ой, дзевачкі! Ён такі хворы, у яго запаленне лёгкіх. Ён мне сказаў, што адзін хуліган з нашай школы (ён яго ведае) укінуў яго ў ваду на вуліцы, і ён з гэтага захаладзіўся. Ой, дзевачкі, я цяпер устаю вельмі рана, яшчэ за дзве гадзіны перад тым, як ісці ў школу. Я стаўлю чай і кармлю дзядуньку, а пасля бягу ў школу, а на вялікім перапынку ў краму бягу, а са школы бягу дадому хутчэй падпаліць у печы і зварыць суп і дзядуньку пакарміць. Ой, дзевачкі!

— А хто гэта з нашай школы яго ў ваду ўкінуў?

— Ён ведае; як паправіцца, прыйдзе ў школу і скажа.

— Але хто гэта?

— Ён мне не сказаў хто, ён гаворыць, што мне трэба вучыцца, а не займацца такімі справамі.

— Няхай ён скажа табе, а ты скажы настаўніцы.

— Ой, дзевачкі, ён не хоча гаварыць.

— А мы скажам самі настаўніцы, што ў нашай школе ёсць такі хуліган. І няхай тады сама настаўніца запытаецца ў яго.

— Няхай ён раней паправіцца, няможна яго турбаваць, так і доктар сказаў.

Аднак жа дзяўчаткі ўсю сваю гаворку з Насцяй пераказалі настаўніцы. Настаўніца, на першы раз, сказала дзяўчаткам пайсці да Насці, даведацца яе і пагледзець, як яна жыве.

У той самы дзень з Насцяй здарылася непрыемная прыгода. Ідучы раніцой у школу, яна ўзяла з сабой трохлітровую бляшанку, каб, ідучы са школы, купіць газы. Бляшанку яна схавала ў раздзявальні ў самы цёмны куток. Але Серж падгледзеў гэта. Калі быў вялікі перапынак, ён панёс бляшанку на двор, схаваўся за сцірту дроў, узяў цвік і камень і доўга прабіваў цвіком дзірку ў дне бляшанкі. Прабіў дзірку і паставіў ціхом пасудзіну на ранейшае месца. Калі скончыліся заняткі, ён пахваліўся сваім учынкам белабрысаму Мішку, і яны зводдалеку пайшлі следам за Насцяй. Назіркам сочачы за ёю, яны бачылі, як Насця стаяла ў чарзе ў краме, як купіла два літры газы і як панесла газу дадому. Яны ўсё ішлі следам за ёю, а яна не бачыла, што з пасудзіны тоненькай нітачкай выліваецца газа. Яна мінула чыгуначны пераезд і тады заўважыла, што пасуда стала занадта лёгкая. Яна праверыла пасуду, убачыла, што робіцца і што газа бадай што ўся вылілася, і крыкнула:

— Ой, дзевачкі!

І моцна заплакала і пабегла як толькі магла дамоў. З-за чыгуначнай будкі на пераездзе яна пачула рогат і, азірнуўшыся, убачыла павысаджваныя з-за сцяны галовы Сержа і Мішкі. Прыбегшы дадому, яна паскардзілася дзеду, дзед папрасіў паперу і каранданш і, лежачы ў пасцелі, пачаў пісаць запіску дырэктару школы.

Насця пазычыла ў суседзяў газы і зварыла на прымусе суп. З дзедам яны паабедалі. Насця ўзяла новую пасуду і, азіраючыся, каб не спаткаць Сержа, прынесла з крамы газы, пасля зрабіла свае ўрокі і піла з дзедам чай. Дзед сказаў, што яму стала лепш, хвароба, мусіць, праходзіць, і ціхім голасам расказаў Насці, што за некалькі дзён да хваробы ён спаткаў на вуліцы свайго знаёмага.

— Гэта нават больш чым знаёмы. Год таму назад дваццаць мы разам жылі; гэта быў тады яшчэ зусім малады хлопец. Ён быў тады як родны мне. Ён тады быў камсамолец, я яго вельмі любіў, ён быў як сын мне. Мы з ім разам працавалі. Мне тады было пяцьдзесят год. Калі Чырвоная Армія выгнала адгэтуль палякаў, мы з ім на багатых кулацкіх хутарах і фальварках шукалі лішняга хлеба, каб забраць яго для Чырвонай Арміі. Раз мы ехалі лесам, і на нас напалі бандыты. Мне прыйшлося яго ратаваць, і мяне ранілі ў нагу, з таго часу я злёгку кульгаю.

— Дык вось ад чаго ты кульгаеш,— заспявала Насця.

— Я табе, як папраўлюся, раскажу пра гэта.

— Раскажы цяпер.

— Мне цяпер, Насцечка, цяжка гаварыць многа. Раней гэты чалавек мне часта пісаў пісьмы, а апошнія гады нейк так выйшла, што мы не ведалі адзін пра аднаго. А цяпер я спаткаў яго. Мы так узрадаваліся адзін аднаму. Ён працуе ў гэтым горадзе. Ён тут вядзе вялікую працу. Я яму даў адрас, і ён, мусіць, гэтымі днямі зойдзе да нас... Ну, мне ўжо зусім лепш стала... Сёння дзесяты дзень пасля апошняга мамінага пісьма. Павінна быць ужо новае пісьмо.

Назаўтра Насця занесла ў школу дзедаву запіску. Там было напісана, што хуліган завецца Серж,— так і Насця сказала дзеду, і ён сам памятаў гэтае імя з таго часу, калі бараніў на вуліцы трох дзяўчатак.

Серж ужо спагнаў сваю злосць. І час пэўны прайшоў ужо, і ўсё перажытае ім прытупілася і ўжо стала надакучаць. Ён адчуваў сябе так, быццам разлічыўся ўжо з усімі сваімі непрыяцелямі. Ужо ён пачынаў займацца новымі справамі, як на яго галаву ўпалі новыя непрыемнасці.

## IV

Сержаў бацька прыйшоў дадому са свае працы крыху раней, як звычайна, і ўвечары зусім нікуды не выходзіў з дому. Ён нават і справамі сваімі не займаўся. Да самага вечара быў маўклівы, задуменны, а як толькі Серж апрануўся, каб ісці на вуліцу, ён сярдзіта крыкнуў яму:

— Не хадзі нікуды, сядзі дома.

Серж, ведама, не прывык слухаць таго, што гаворыць бацька, і пайшоў к дзвярам, але пачуў бацькаў голас:

— Каму я гавару,— табе ці гэтай сцяне?

— Сцяне,— весела хіхікнуў Серж і адчыніў дзверы, але бацькава рука хапіла яго за плячо і ўцягнула назад у пакой.

— Раздзявайся,— сказаў бацька.

— Чаму гэта, каб я раздзяваўся?

— Раздзявайся.

— Не хачу.

— Не, ты зараз захочаш.

— Не.

— Захочаш.

— А от і не.

Бацька сарваў з Сержа паліто і шпурнуў у кут.

— Трэба было раней думаць пра гэта, а то ты патураў усім яго капрызам, а цяпер агледзеўся, што з яго выйшаў хуліган,— сказала маці і заплакала.

Гледзячы, як маці плача, Серж здагадаўся ўжо, што адбылося нешта непрыемнае, і ён устрывожыўся. Апусціўшы вочы ў падлогу, ён стаяў і маўчаў.

— Глядзі мне ў вочы,— сказаў бацька.

Серж утаропіў свае вочы на бацьку так, што той аж уздрыгануўся.

— У цябе хапае смеласці глядзець мне ў вочы?

— Ты ж казаў, каб я табе глядзеў у вочы?

— Ты здзекуешся з бацькі?

— Я ж цябе слухаю.

Бацька аж пазеляне ад злосці і хапіў сына за каўнер рубашкі. Ён яго хацеў біць, але маці не дала. Серж злосны і пакрыўджаны горда сказаў бацьку:

— Чаго ты мяне мучыш?

— Гэта ты папу мучыш,— сказала маці.

— Што я яму кепскае зрабіў?

— Ты старога чалавека ў ваду ўкінуў — ён цяпер хворы.

— І яшчэ раз укіну, калі будзе хапаць мяне на вуліцы за каўнер. Я яго не чапаў, ён першы.

— Ён бараніў ад цябе дзяўчатак.

— Цераз гэтых дзяўчатак я ў лужу ўпаў.

І раптам Сержа апанавала крыўда; ён успомніў, як ён запэцкаў у гразь новыя свае штаны. К таму ж ён адчуў, што над яго галавой збіраюцца вялікія непрыемнасці, і трэба было ратавацца. І ён заплакаў. Ён ужо не слухаў, што крычаў бацька і што казала маці, і ўсё мацней і мацней плакаў. І чым больш ён плакаў, тым больш яму рабілася шкада самога сябе, і яму пачало нарэшце здавацца, што ён вялікі пакутнік, што яго ўсе крыўдзяць і ён ад усіх нявінна церпіць. Праз свае слёзы ён з нянавісцю глядзеў на бацьку і на маці, якія, замест таго, каб пашкадаваць яго, абыходзяцца з ім так нядобра, што спачуваюць таму старому, які першы яго зачапіў. Увесь свет вінаваты перад гэтым Сержам, і толькі ён адзін нявінны і цярплівы. Ён нарэшце кінуўся да пасцелі, упаў тварам у падушку і астаўся так ляжаць, пачмыхваючы і пахліпваючы носам.

— Можа, і праўда ён не вінават,— сказаў паціху бацька.

— Укінуць у ваду старога чалавека,— дык гэта не вінават?! — не сцярпела маці.

— Можа, яго давялі да гэтага? Я яшчэ дазнаюся, як усё гэта было.

— Гэта мы яго давялі да гэтага. Я ж бачу,— ён нікога не паважае, апроч самога сябе.

— Паважаць сябе трэба.

— Паважае сябе толькі той, хто паважае другіх.

— Я гэта ведаю, што ты мяне вучыш?

— Калі ты ведаеш, дык трэба старацца, каб і Серж быў такі. Трэба старацца, каб з яго вырас такі чалавек, які ведаў бы, што калі ты пакасціш другому чалавеку, то лепш табе не жыць на свеце. Я ведаю, што тут выходзіць: калі ён пад'язджае на машыне к школе, то ён адчувае гэта не так, што машына аблягчае чалавеку хаду, беражэ яго сілы, а бачыць у гэтым толькі сваю перавагу перад другімі дзецьмі. Ён прывыкае з пагардай глядзець на ўсіх. Калі ў дарослага чалавека такое чорствае самалюбства, то ён не паможа другому. Такога чалавека любіць ніхто не будзе, а кожны будзе яго баяцца, а значыцца, і ненавідзець. Я не хачу, каб мой сын быў такі. Я адзін раз бачыла, як жанчына на вуліцы паслізнулася і ўпала і як два рослыя франты, бачачы гэта, зарагаталі. Гэта ўсё адна і тая ж справа. Каб, скажам, хто-небудзь з дзяцей, з якімі Серж разам вучыцца, што-небудзь нёс цяжкае і абнямог ад цяжару, Сержу і ў галаву не прыйшло б памагчы гэтаму свайму таварышу.

— Адкуль ты ведаеш?

— Табе ж казалі ў школе, што ён прабіў цвіком пасуду, у якой дзяўчынка газу несла. Хіба можа быць большая пакасць? Няхай сабе яго першага зачапілі. Але ж гэта расправа гордага паніча. Тая дзяўчынка і вучыцца, і працуе, а ён не адчувае гэтага. Я сама пайду да таго старога чалавека і пагавару з ім. І, калі трэба будзе, я прымушу Сержа папрасіць у яго прабачэння. Няхай папросіць, каб стары чалавек дараваў яму.

— Добра, ты ідзі да таго чалавека, а я пагавару з Сержам.

— Калі мой сын зрабіў таму чалавеку прыкрасць, то для мяне гэта тое, што я сама пакрыўдзіла чалавека. Мне самой брыдка і горка.

Серж усё гэта чуў. Ён адчуваў толькі тое, што ён трапіў у бяду. Назаўтра бацька прыйшоў з працы таксама раней: ён хацеў як найбольш пабыць разам з Сержам. Ён

выйшаў з ім на вуліцу, і яны пайшлі да чыгуначнага пераезда. Уздоўж рэек, над высокім адкосам, была вузкая сцежка, пратаптаная пешаходамі. Абапал чыгункі выходзілі сюды невялікія дамы з садкамі і агародзікамі. Тут многа было дрэў, яны стаялі зусім голыя, і на прымерзлай ужо зямлі ляжала іх высахлае лісце.

— Зараз будзе зіма,— сказаў бацька Сержу.— Зямля мерзне.— І Сержаў бацька падумаў пра сябе, што ён сам вельмі мала апошнімі гадамі аддаваўся вялікай прыемнасці заўважаць тое, як жыве прырода. Ён так быў заўсёды заняты працай, што дзень за днём ішлі для яго неўзаметку. «Таксама я не заўважаў, як расце Серж»,— думаў ён. У яго з'явілася адчуванне, што быццам ён страціў нешта добрае і патрэбнае, нават такое, без чаго нельга яму жыць шчасліва, і гэта страчанае трэба вярнуць назад. Ён вёў Сержа за руку і адчуваў радасць ад таго, што вось пачынаецца вечар, і што ціхі вецер цягне з далечыні і абвявае яго твар, і што недзе там, за далёкімі дрэвамі, куды ідуць чыгуначныя рэйкі, вецер расчысціў ад хмар неба, і цёмная сінявасць яго згушчаецца ў вячорны змрок. «Усё добра,— думаў ён,— добра, што ў вокнах вялікіх і малых дамоў запальваюцца агні, добра, што пагойдваецца галлё старой бярозы, пад якой яны цяпер ішлі, добра, што з коміна завода, недзе над дахамі дамоў, плыве струмень дыму і што там загуў гудок». Яны ішлі ўсё далей і далей, дайшлі бадай што да ўскраіны гэтага прыгарада і пайшлі назад.

— Калі я быў малы, такі, як цяпер ты,— сказаў ён Сержу,— я любіў такі час, калі блізіцца зіма. Але я і ўсялякі час у годзе любіў.

Гаворачы так са сваім Сержам, ён адчуваў патрэбнасць расказаць каму-небудзь аб сваім жыцці, аб самім сабе, аб тым, што было і ёсць у яго жыцці добрага, дарагога і слаўнага. І яму раптам стала крыўдна, што яго сын нічога не ведае аб ім, сваім бацьку, і што ён сам мала цікавіўся сваім сынам. Яму нават стала страшна ад таго, што паміж ім і яго малым няма дружбы. А без гэтай дружбы чагосьці вялікага і патрэбнага не хапае ў жыцці. Дружба тут павінна быць вялікая, моцная і вечная.

— Ведаеш, Серж,— сказаў ён,— мне трэба табе многа чаго расказаць.

— Ну, раскажы,— сказаў Серж.— Ты ж мне ніколі нічога не расказваеш.

— Не, гэта не то, што за адзін раз што-небудзь расказаць. Я табе многа буду чаго расказваць. У мяне была вельмі цікавая маладосць. І мне сорамна перад самім сабою, што я ніколі яе не ўспамінаю нават і сам сабе.

— А што ты рабіў, як быў малады? Раскажы, як ты вучыўся? На выдатна?

— Я тады і не вучыўся.

— То ты, мусіць, і камсамольцам не быў? Бо як гэта,— каб камсамолец ды не вучыўся?

— Пачакай, тады камсамол толькі што з'явіўся на свет. Гэта было дзесяткі два год таму назад. Я тады недалёка ад нашага горада, у адным вялікім мястэчку, служыў парабкам у кулака. Тут тады былі палякі, яны захапілі былі гэтую мясцовасць, з імі тады ваявалі. А як Чырвоная Армія іх адгэтуль прагнала, у наша мястэчка прыехаў з горада чалавек. Ён быў раней рабочы на заводзе, а тады многа рабочых, якія змагаліся з палякамі за савецкую ўладу, паслалі ва ўсе канцы Беларусі ўстанаўляць пасля палякаў савецкі лад. Гэты чалавек быў назначан на тое, каб сабраць хлеб у кулакоў для Чырвонай Арміі. Ён быў упаўнаважаны на гэта па ўсёй нашай воласці. Кулакі не хацелі даваць хлеба. Кулакі ішлі ў банды. А ў нашай воласці было многа лясоў, і самы большы лес за кіламетраў дзесяць ад мястэчка. Там банда кулацкая і засела. Бандыты нападалі на савецкіх работнікаў і забівалі іх. Прозвішча таго чалавека, пра якога я табе тут гавару, было — Закрэўскі. І от бандыты вельмі хацелі яго забіць. Мяне тады наша камсамольская арганізацыя назначыла памагаць Закрэўскаму ў працы. Нам удваіх прыходзілася кожны дзень ездзіць па кулацкіх хутарах і шукаць, дзе кулакі хаваюць хлеб. А яны закопвалі збожжа ў зямлю, яно там гніло і прападала марна, але кулаку гэта было прыемней, чым аддаць Чырвонай Арміі.

Адзін раз Закрэўскі са мною паехаў на далёкія хутары. Нам трэба было праязджаць непадалёку таго вялікага лесу, дзе асабліва многа здаралася бандыцкіх нападаў на праезджых. З дому мы выехалі пасля паўдня, а пакуль аб'ехалі некалькі хутароў, то сонца пачало ўжо сыходзіць к вечару. Нам трэба было паспець яшчэ на самы далёкі хутар. Мы ехалі на сялянскай фурманцы, нас было траіх: Закрэўскі, фурманшчык — чалавек з нашага мястэчка — і я. У мяне была вінтоўка, Закрэўскі навучыў мяне добра страляць, у Закрэўскага быў рэвальвер,

ну, а ў фурманшчыка, вядома, апроч пугі, нічога не было. Мы ехалі шырокай дарогай, паабапал яе былі наплавы і часамі дробныя хвойнічкі. Месца было нізкае, часамі да самай дарогі падступала балота з высокай асакой і груздым куп'ём. На сонцы было горача, хоць к вечару спёка зменшвалася. Птушкі спявалі навокал нас, у хвойных лясах густа рос верас і зелянеў ягаднік. Скрозь па дарозе ішлі тэлеграфныя слупы, а перад намі ўвесь час лётаў дробны каршачок. Мы з цікаўнасцю за ім наглядалі. Ён адляціцца ад нас далёка наперад і сядзе на тэлеграфны слуп, а калі мы пад'едзем бліжэй, ён зноў адляціцца і зноў сядзе. Так ён, можа, кіламетраў сем ляцеў перад намі.

У адным месцы дарога пайшла крыху ўгару, і злева дарогі мы ўбачылі вялікі кавалак засеянага маладога хвойнага лесу. Хвойкі былі вышынёй з чалавечы рост, не большыя, і раслі яны так густа, што праз іх, здавалася, цяжка было прабіцца. Я стаў на фурманцы, каб вышэй зірнуць, і ўбачыў, што гэты малады зараснік цягнецца ўглыб ад дарогі на некалькі кіламетраў; канца яго не відаць было.

— Ох, тут ваўкоў многа збіраецца, тут увосень іх цэлае зборышча,— сказаў фурманшчык, махнуўшы пугай на зараснік.

— З простым воўкам прыемней спаткацца, чым з воўкам кулацкім,— сказаў Закрэўскі.

— Праўда,— сказаў фурманшчык.— Я, прызнацца, баюся тут ехаць, яшчэ напорамся на бандытаў.

— Разумныя кажуць, што свет трымаецца на смелых людзях,— адказаў на гэта Закрэўскі.

Сержаў бацька змоўк і спыніўся закурыць. Яны былі ўжо непадалёку свайго дома. У бацькавым расказе Серж некалькі разоў чуў ужо прозвішча Закрэўскі, і кожны раз, чуючы гэтае слова, ён з непрыемнасцю і нейкай незразумелай трывогай успамінаў Насцю Закрэўскую. І кожны раз стараўся не думаць аб ёй.

— Ну, расказвай далей,— сказаў ён бацьку.

— Мы праехалі яшчэ кіламетры два, як раптам убачылі, што з хвойнага зарасніку выйшаў чалавек. Ён быў невялікага росту, у ботах, у штанах з фарбаванага начорна палатна і ў суконнай жакетцы наапашкі. Шапку ён трымаў у руцэ і абмахваў ёю спацелы твар.

— А хто гэта быў? — не вытрымаў Серж.

— Пачакай, раскажу ўсё парадкам. Гэты чалавек па-

чаў падбліжвацца да нашай фурманкі, і мы паміж сабою пераглянуліся.

— Ой, утаміўся ідучы,— сказаў чалавек, падыходзячы зусім блізка.— Ногі забалелі. Можа, падвязеце крыху?

— Нас і так трох на возе, каню цяжка будзе,— злосна адказаў наш фурманшчык, падазрона не спускаючы вачэй з незнаёмага чалавека.

— Мне тут недалёка,— самым мірным тонам сказаў незнаёмы.

— А нам яшчэ далёка, конь стомлены, дарога цяжкая. Вы дойдзеце скора, а мы яшчэ немаведама калі заедзем.

Тут мы заўважылі, што з зарасніку выйшаў другі чалавек і ідзе проста да нас.

— Падвязіце, ногі баляць,— сказаў ён.

Наш фурманшчык зірнуў на Закрэўскага, а пасля на другога незнаёмага і ўжо хацеў нешта сказаць, як раптам з зарасніку выйшла яшчэ трох незнаёмых, і гэтыя наперарэз пайшлі нашай фурманцы.

— Не хочуць падвезці! — гукнуў ім першы незнаёмы.

Трое незнаёмых зарагаталі, і адзін з іх хапіў нашага каня за аброць і скіраваў у лес.

— Ты што? — сказаў Закрэўскі.— Чаго ты хочаш, хто ты такі?

Тут мы ўбачылі, што з лесу да нас ідуць яшчэ чацвёра і ўжо не скрываючы, хто яны такія: усе яны былі з польскімі карабінамі. У тых жа ранейшых раптам з'явіліся ў руках рэвальверы. Іх было дзевяць чалавек, а нас траіх, калі лічыць і фурманшчыка, узброенага пугай. Яны ўсе акружылі наш воз і кіравалі каня ў лес; мы ўжо ехалі ў густым зарасніку.

— Што вы робіце,— чаго вы хочаце, людзі? — сказаў Закрэўскі.

— Ты не ведаеш, чаго я хачу? — раўнуў адзін з бандытаў. Я паглядзеў на яго і ўбачыў таго хутараніна, у якога мы знайшлі сто пудоў закапанага жыта.

Мне стала страшна. Я быў тады вельмі малады, мне толькі што мінула тады васемнаццаць год. Шукаючы ратунку, хоць бы спачування, я паглядзеў Закрэўскаму ў вочы і ўбачыў у іх такую ласкавасць да мяне, што быццам бы гэта быў мой родны бацька. Мне стала лягчэй на душы, але ўсё ж з вялікім жахам я азірнуўся навокал сябе. У хвойнай зараслі ўжо згушчаўся вячорны змрок.

Бандыты нас пасадзілі на зямлю, самі селі навокал нас і пачалі курыць. Каня яны прывязалі да дрэва. Усе маўчалі. Змяркалася. Пад дрэвамі неўзабаве стала зусім цёмна.

— Што ж ты змоўк? — сказаў Серж.— Расказвай далей.

— Ну, мы прыйшлі ўжо дадому. Далей раскажу пасля.

— Ах, расказвай цяпер.

— Не, я табе пасля вячэры дакажу да канца. Бачыш,— вечар, зусім цёмна.

— Ну, дык я з табою лягу спаць сёння, і ты мне ў пасцелі будзеш расказваць.

— Добра. Няхай будзе гэтак.

## V

— А далей было так,— пачаў зноў расказваць бацька, садзячыся разам з Сержам за стол (Серж не мог прычакаць пасцелі і намогся, каб бацька цяпер гаварыў),— бандыты нас пратрымалі ў лесе да ночы. Мне было так страшна і так цёмна на душы, што як бы стопудовы камень сціскаў мае грудзі і жалеза душыла мне горла. І зоры над маёй галавой здаваліся мне, як у тумане. Вельмі моцна пахла лісце на дрэвах, і ад гэтага мне было яшчэ цяжэй. Я гэты пах адчуваў, як нешта такое, што для мяне ўжо скора скончыцца назаўсёды. Больш як калі-небудзь у сваім жыцці, я ў гэты момант адчуваў, якое шчасце жыць на свеце.

— Не зважай ні на што, будзь смелы,— сказаў мне Закрэўскі.

— На чорта мы гэтую фурманку за сабой цягнем,— сказаў адзін бандыт.— Здалёк чуваць, як колы ляскочуць.

— А дзе ж ты яе дзенеш? — адказаў другі.— На дарозе пакінеш? Днём убачаць і пачнуць здагадвацца.

Бандыты перад намі адкрыта ўсё гаварылі,— яны былі ўпэўнены ў сваёй сіле.

Як добра ўмеркла, бандыты павялі нас далей. Доўга вялі яны нас лясной дарогай і прывялі ў нейкі лясны хутар. Нас увялі ў склеп. Вусаты бандыт сказаў, павярнуўшыся да Закрэўскага:

— Мы вас усіх выпусцім, толькі напішы акты, што на гэтых хутарах хлеба няма і браць няма чаго. А пасля ты прывязеш мне ўезднага камісара.

— Ты яго тут забіць хочаш?

— А гэта ўжо мне ведаць, што я з ім зраблю.

— Ну, а калі замест камісара я прывяду сюды чырвонаармейцаў?

— А я пушчу пакуль што толькі цябе аднаго. А іх (ён паказаў на мяне і фурманшчыка), а іх тады, калі ты прывязеш камісара.

Закрэўскі моўчкі пачаў азірацца навакол: ніякай надзеі выбрацца адгэтуль не было.

— Пусці яго,— сказаў Закрэўскі, паказваючы на мяне.— Няхай ён прывядзе камісара.

— А я хачу, каб ты! — зароў бандыт.

— А я з табою і гаварыць не хачу,— адказаў Закрэўскі.

Бандыты выйшлі і замкнулі нас у склепе.

— Ты на мяне не крыўдуй,— сказаў мне Закрэўскі,— што я так пра цябе сказаў, што ты камісара прывядзеш. Я ведаю, што ты гэтага не зробіш. Але я хацеў, каб яны цябе пусцілі. Лепш жа мне, паджылому чалавеку, загінуць, як табе, маладому. Я пажыў ужо крыху на свеце, а ты, можна сказаць, яшчэ не спрабаваў жыцця. А якое там і жыццё было табе, парабчуку?.. Цяпер толькі і жыць табе стала, калі прыйшла савецкая ўлада. Ты цяпер чалавекам будзеш.

Рантам мы пачулі, што фурманшчык плача.

— Нічога, братка,— пачаў цешыць яго Закрэўскі.— Яшчэ ж нас не страляюць, яшчэ ўсё можа быць. А яны цябе і чапаць не павінны, ты ж толькі фурманшчык.

Смелы тон слоў Закрэўскага і ўся яго вытрымка надалі фурманшчыку смеласць. Ён паспакайнеў і пачаў часта заглядваць у шчыліну ў дзвярах.

Так прайшло, можа, гадзіны дзве. Бандытаў не чуваць было. Фурманшчык зноў паглядзеў у шчыліну.

— Дзень блізка,— уздыхнуў фурманшчык,— на дварэ шарэй стала.— Тут ён павысіў голас: — Яны ідуць... Нейкая дзяўчына з імі...

Мы па чарзе паглядзелі ў шчыліну і ўбачылі, што перад бандытамі стаіць дзяўчына і нешта ціха гаворыць ім. Відна было, як яна кудысьці паказвае пальцам.

— Дзе, дзе ты бачыла? — моцна загаварыла некалькі бандытаў.

— За садам, пры гумне,— адказала дзяўчына.

— А колькі іх?

— Больш як пяцьдзесят.

І тут адбылося тое, чаго мы ніяк не чакалі: бандыты рвануліся з месца і адразу зніклі. Не паспелі мы адумацца, як пачулі, што па дзвярах грукаюць нечым цяжкім. Мы не ведалі, што гэта робіцца. Пасля дзяўчына прасунула нам пад дзвярыма ў шчыліну сякеру і сказала:

— Я не магу замка адбіць, разбівайце дзверы.

Фурманшчык хапіў сякеру і разоў пяць так грукнуў у дзверы, што замест іх толькі пашчэпаныя дошкі асталіся.

— Бяжыце за мной,— сказала дзяўчына.

Яна нас вывела на лясную дарогу.

— Хто ты такая? — запытаў у яе Закрэўскі.

— Я тут служу за парабчанку. Я не спала і заўважыла, як вас прывялі. Я падкралася да склепа і падслухала, што яны гавораць. Я ўсё зразумела і сказала гэтым бандытам, што за гумном каля паўсотні чырвонаармейцаў з'явілася. Я ўсё гэта выдумала, каб выратаваць вас.

Фурманшчык паглядзеў на дзяўчыну, і на яго твары ўвесь час трымалася радасная ўсмешка. Ён стаў, як дзіця: зрываў з кустоў лісце і нюхаў, хапаўся рукой за вяршкі маладых хвоек...

— Бандыты будуць вас лавіць,— сказала дзяўчына.

Фурманшчык зноў спалохаўся.

— А гэта што? — сказаў вясёлым тонам Закрэўскі, каб падбадзёрыць фурманшчыка, і дастаў з-пад пінжака рэвальвер, якога бандыты не паспелі забраць.

Тут Закрэўскі пачаў мацаць па кішэнях і стаў неспакойны.

— У часе гэтай мітусні недзе згубіў рэвальверныя набоі. Толькі ўсяго і ратунку таго, што ў рэвальверы нявыстраляныя.

Дзяўчына паказала нам, у якім баку бліжэйшая вёска. Мы з Закрэўскім пайшлі ў той бок лесам, а дзяўчына з фурманшчыкам ішлі за намі крокаў за пяцьсот.

Нам трэба было перайсці ўпоперак дарогу, а там, цераз невялікі лясок, мы выйшлі б ужо ў адкрытую, людную мясцовасць. Але ў гэтым месцы мы наткнуліся на двух бандытаў. Мы іх пазналі, на гэтай самай дарозе яны ўчора падышлі былі да нашага воза. Відаць, бандыты разбрыліся цяпер па ўсім лесе, шукаючы нас; напэўна, яны ўжо ведалі, што дзяўчына іх ашукала. Гэтых двух мы ўбачылі па той бок дарогі, яны выглядалі з-за дрэва. Трэба было прабіцца сілай. Як я шкадаваў, што ў мяне няма маёй вінтоўкі. Два бандыты нас яшчэ не бачылі. Закрэўскі закрыў мяне сваімі плячыма і сказаў так бегчы за ім. Мне

стала так сорамна перад ім, што ён, старэйшы, закрывае мяне, маладзейшага, што я пачаў прасіць, каб ён даў мне свой рэвальвер, а сам ішоў за мною.

— Слухай, што я табе скажу,— сярдзіта скамандаваў ён мне моцным шэптам.— Марш за мной, і каб я ад цябе больш ні слова не чуў. Крычы разам са мной «ура».

Я сябе так адчуў у гэты момант, што быццам бы мне было ўсяго год пяць. Скажу табе, што незавідная гэта справа, калі нехта цябе ратуе, а ты не можаш нават і памагчы яму, а ні то каб самому сябе ратаваць. Мы закрычалі і пабеглі проста на бандытаў: бег я, хаваючыся за Закрэўскага плечы. Закрэўскі, крыкнуўшы, стрэліў з рэвальвера. Ад такой нечаканасці тыя два перапалохаліся і затрапяталіся. Можа, яны нават і не разгледзелі нас як трэба; адзін з іх стрэліў нам насустрач, і яны кінуліся бегчы. Я ўбачыў, што Закрэўскі раптам пачаў прыпадаць на адну нагу, але ў такой сумятні адразу не здагадаўся, што гэта такое. Мы перабеглі цераз дарогу, і Закрэўскі яшчэ раз стрэліў наўздагон тым двум. Яны недзе скрыліся ў лесе. Вельмі шпарка перайшлі мы цераз прыдарожны лясок і выйшлі на поле. І тут Закрэўскі застагнаў. Нейк адразу ён абмяк, і я ўбачыў, што ў яго з нагі, вышэй калена, сочыцца кроў.

— Раніў гад мяне,— сказаў Закрэўскі і абаперся на маё плячо. Я ўзяў з яго рук рэвальвер.

— Пусты,— сказаў Закрэўскі,— няма больш чым страляць.— І яшчэ мацней застагнаў. Я трымаў яго пад плячо, і так мы дайшлі да вёскі. Адтуль на фурманцы мы прыехалі ў мястэчка, і Закрэўскі тады больш як месяц ляжаў у бальніцы. Паправіўшыся, ён стаў працаваць на тым самым месцы. Нага яго асталася крыху папсаванай. Яна яму хоць і не балела, але ён на яе накульгваў, не вельмі моцна, але гэта было відна. Так у яго і асталося назаўсёды. З таго часу мы з ім сталі блізкімі людзьмі. Ён мне быў як родны бацька. Памагаў заўсёды і клапаціўся аба мне. Пасля я паехаў вучыцца, а ён выехаў працаваць у іншае месца. Мы пісалі адзін аднаму пісьмы, а ўлетку я прыязджаў да яго ў госці. У яго быў сын, мой аднагодак, ён стаў маім блізкім таварышам. Аднойчы Закрэўскі напісаў мне страшную вестку: яго сын, зусім яшчэ малады чалавек, памёр, пакінуўшы маленькую дзяўчынку і асірацелую жонку. Сын яго быў у вёсцы настаўнікам. Прайшло яшчэ некалькі часу, і нейк так здарылася, што мы не сустракаліся. Апошнія гады мы не ведалі адзін пра аднаго

нічога. А нядаўна я спаткаў яго тут на вуліцы. Мы так узрадаваліся адзін аднаму, што абняліся проста сярод вуліцы, не зважаючы на тое, што на нас азіраюцца людзі. Ён пераехаў жыць у гэты горад. Ён даў мне свой адрас, а я яму наш. І нешта ён да мяне не заходзіць, можа, ён хворы, ён ужо зусім стары. Заўтра выхадны дзень, заўтра я пайду да яго.

— І я пайду з табой,— сказаў Серж.

— Добра, і цябе вазьму.

Серж ужо любіў гэтага старога чалавека; у яго думках вобраз яго склаўся ўжо, як вобраз героя і вельмі цікавага чалавека, якога можна толькі любіць і паважаць.

— Пайшла б і я з вамі, але мне трэба ісці даведацца таго чалавека, якога Серж так скрыўдзіў. Ну, але я пайду да Закрэўскага другім разам, калі ён да нас скора не прыйдзе. Мне таксама яго вельмі хочацца пабачыць.

— А што стала з той дзяўчынай, якая тады выратавала вас ад бандытаў? — запытаў Серж.

— Я тады...— пачала гаварыць Сержава маці, але Серж перабіў яе:

— Пры чым тут ты! Не перашкаджай расказваць.

Маці ўсміхнулася, а бацька сказаў:

— А тая дзяўчына з фурманшчыкам дайшлі да вёскі пазней за нас, яны не маглі перайсці занятую бандытамі дарогу. Перад вечарам на тое месца прыехалі чырвонаармейцы, якім я наказаў у мястэчку.

— Той фурманшчык,— сказала маці,— як толькі явіўся дадому, пачаў бедаваць, што недзе там астаўся яго конь. А праз некалькі дзён чырвонаармейцы прывялі яму яго каня.

— Пры чым тут ты! — закрычаў Серж.— Бацька, а што стала пасля з той дзяўчынай?

— О, яна засталася знаёмая мне на ўсё жыццё.

— А цяпер яна дзе?

— Ты яе вельмі добра ведаеш. Толькі яна цяпер ужо не такая маладая, з таго часу прайшло дзесяткі два год.

— Як жа я яе ведаю? — аж падскочыў на сваім крэсле Серж.— Дзе яна?

— А от яна. Гэта твая мама.

Серж адкінуўся на спінку крэсла і разявіў рот ад здзіўлення, не зводзячы вачэй са сваёй маці.

## VI

Насцечка Закрэўская апошнімі часамі ўжо пачынала сумаваць без сваёй мамы. Асабліва гэта здаралася тады, калі ўвечары, падрыхтаваўшы свае ўрокі, яна слалася спаць. Спала яна на канапе. У гэтыя часы дзед яе ўжо спаў, і яна была адна сама з сабою. Паслаўшы пасцель, перад тым як легчы, яна вылічвала, колькі яшчэ аставалася да сакавіка месяца, калі мама назаўсёды прыедзе з Масквы. Аставалася яшчэ многа часу, і Насцечка не магла вытрымаць: яна скоранька прысядала к сталу і пісала маме пісьмо. Так было бадай штодзень. Кожнае пісьмо было кароткае. Калі збіралася пісем тры, Насцечка складвала іх у адзін канверт і пасылала ў Маскву. А тады тушыла святло і, узбуджаная, прыпадала тварам да аконнай шыбы. Позна яшчэ не было. Завулкам праходзілі людзі, часам праязджала машына. Насцечка любіла, калі вечарамі дзьмуў вецер. Тады, лежачы ў пасцелі, добра было слухаць, як шуміць голы клён каля іхняга акна, і здаецца, што гэта нейкая бесканцовая песня ці доўгі-доўгі расказ. Сапраўды, гэта быццам нехта нешта расказвае, цікавае, важнае і патрэбнае. А яшчэ гэты шум нагадвае доўгуюдоўгую дарогу, паабапал якой стаяць вёскі і гарады і ўсюды жывуць людзі. Праходзяць паязды, і пыхкаюць дымам паравозы, дымяцца ў небе заводы, зеляненюць паплавы, пагойдваецца жытняе поле, у хвоях чуцен ветравы шэпт, у рэчцы блішчыць пад сонцам вада. А як пахнуць мокрай травой прасторы рачных берагоў! А якое сонца ўзыходзіць яснай раніцай! А які агністы захад бывае ў бясхмарны дзень! І як добра, што пасля восені бывае зіма, а пасля зімы вясна, а тады лета і зноў восень. Колькі ўсяго на свеце многа, і як добра быць сярод усяго гэтага. І як добра, што сярод гэтага свету дзед так жыў, што мае цяпер многа чаго расказаць сваёй унучцы, Насцечцы. І як добра тое, што будзе наперадзе! Увосень слаўна чакаць першага снегу, а зімой — першай травы. І як радасна ўбачыць першы жоўты лісток на дрэве. А самае найпрыгажэйшае лісце бывае ўвосень на асінах. Які колер! Шум ветру за акном пераходзіць у ціхую музыку, расплываецца ў штосьці невыразнае, Насцечка ўжо дрэмле ў сваёй пасцелі, і нарэшце прыходзіць сон, моцны, салодкі і здаровы.

Ноч праходзіць, як адзін момант. Насцечка прачынаецца ўжо раніцой. Дзесяць мінут яна ляжыць і ўстанаўляе ў памяці, што яна будзе рабіць у гэты дзень, а пасля

ўстае і шпарка адзяецца. К гэтаму часу ўжо гатова снеданне, і дзед ужо клапоціцца ў кухеньцы і весела падае адтуль голас:

— Расчухвайся, расчухвайся, малая, у школу скора.

А Насцечка заўсёды зробіць дзеду нечаканасць. Адзяецца яна ціха, каб дзед не чуў, а як толькі ён гукне з кухні, каб яна «расчухвалася», Насцечка ў адзін момант з'яўляецца на кухенным парозе, гатовая, адзетая.

— Я ўжо расчухалася,— рагоча яна і бяжыць мыцца.

— Ах ты, матыль,— смяецца дзед і найчасцей патрымае сваю Насцечку з мінуту на руках.

— Ты, можа, будзеш трымаць мяне на руках і тады, калі я стану вялікая? — гаворыць Насцечка.

— О, каб я дажыў да таго часу, калі ты будзеш вялікая,— адказвае дзед.— Ну, матыль, садзіся снедаць... А што мы сёння будзем варыць на абед?

А калі захварэў дзед, усё пайшло інакш. Насцечка ўставала гадзіны за тры да таго, калі ёй ісці ў школу. Яшчэ была ноч, калі яна запальвала святло, накладала ў печ дроў або перабірала крупы ці гарох, каб, прыйшоўшы са школы, адразу паставіць на прымус варыць абед. Напаіўшы дзеда чаем і пакарміўшы яго, яна бегла ў школу, а прыйшоўшы дадому, варыла абед, хадзіла на рынак, прыносіла ў кухню дровы. Добра, што дзедава хвароба доўга не цягнулася. На дзесяты дзень ён пачаў уставаць і праходжвацца ад ложка да стала, а пасля сядзеў, а пасля сам пачаў грэць чай і падпальваць у печы. З кожным днём яму рабілася ўсё лепш.

Але за час хваробы Насцечка была такая занятая, што ёй не было калі не толькі пісаць маме пісьмы, але нават і сумаваць па ёй. За работай дні прайшлі вельмі скора, і Насцечка не напісала маме ніводнага пісьма. Мама ў Маскве ўстрывожылася і пастаралася ўзяць да самай вясны водпуск, каб весці сваю навуку дома і каб толькі ў самым канцы паехаць завяршыць яе. Яна і дала тэлеграму Насцечцы, што тымі днямі прыедзе. Гэта было ўжо тады, калі дзед пачынаў рабіць усё сам і нават ужо выходзіў раз прайсціся па завулку,— без гэтай праходкі яму быццам нечага не хапала, так ён прывык да яе.

Ужо першы дзень, як нападаў першы снег, але яго было яшчэ мала, шмат дзе з-пад яго відна была яшчэ мёрзлая зямля. Дзень быў хмурны, мяккі. Насцечка прачнулася рана, і ёй ужо не хацелася спаць. Яшчэ было, можа, больш за гадзіну да рассвітання, а яна ўжо выспа-

лася. Яна паднялася, каб запаліць святло, і заўважыла, што ў кухні гарыць лямпачка. Дзед там нечым займаўся.

— Я ўжо расчухваюся! — закрычала Насцечка.

— Спі, яшчэ рана,— адказаў дзед.— Чаго табе так рана ўставаць, матыль?

— А ты чаго так рана ўстаў?

— Мне, старому, не спіцца. Я выспаўся.

— Ты думаеш, я не ведаю, чаго ты так рана ўстаў? Я хітрая, я ўсё ведаю. Я ж бачу, што ты там нешта пераստаўляеш у кухні. Ты наводзіш там парадкі, каб усё было так, як было тады, калі мама адгэтуль паехала. Ты хочаш, каб мама застала тут ранейшы парадак.

— Бо гэта так і трэба, каб мама не сказала, што мы неахайнікі.

Насцечка раптам саскочыла з пасцелі і кінулася ў кухню.

— А дзе тут якія непарадкі? — закрычала яна.— Ну, скажы, дзе што не так як трэба?

— Я ж на цябе нічога не кажу, матыль ты мой дарагі.

— Ой, дзевачкі, ён мне нічога не кажа, а сам пайшоў глядзець, што пасля мяне прыбіраць трэба.

Насцечка хапіла дзеда за камізэльку і пацягла з кухні ў пакой. Дзед рабіў выгляд, што ўпінаецца, а Насцечка рабіла выгляд, што не заўважае гэтага, і цягнула яго.

— Каб ты мне больш у кухню не хадзіў! — пішчала Насцечка.— Ты яшчэ хворы, чаму ты не ляжыш?

— Ой, я ўтаміўся,— прасіўся дзед.— Дай аддыхацца.

Насцечка пусціла яго. Ён сеў на канапу і сапраўды пачаў аддыхвацца.

— Нядобра, ліха на яго, калі да старасці далучыцца хвароба,— гаварыў ён па слову.

І от нарэшце Насцечка ўбачыла, што дзед аддыхаўся і бярэцца за тытунь, каб закурыць люльку.

— Ой, ты хітры,— сказала Насцечка.

— Чаму гэта я хітры? — запытаў дзед.

— Я ведаю, чаму табе не спалася сёння. Ты гэта не можаш прычакаць, каб скарэй ісці на вакзал спаткаць маму.

— Ой, дзевачкі! — запішчаў дзед, дражнячы Насцечку.

— Ты мяне дражніш таму, што я ўгадала, і табе ўжо няма чаго казаць больш.

Гэта была праўда, і дзед ціхом закурыў люльку. Яму, сапраўды, з паўночы не спалася, і ён, як малы, чакаў, каб хутчэй прыйшла раніца, калі ён з Насцечкай пойдзе

на вакзал сустракаць дарагога і роднага чалавека. Учора была тэлеграма, што Насцечкіна мама прыедзе сёння зранку. Цяпер толькі што пачало днець, а маскоўскі поезд прыходзіў пасля паўдня. Пасмактаўшы крыху люльку, дзед сказаў такім тонам, каб Насцечка не заўважыла, што яна ўгадала, чаму яму не спалася:

— А нам жа яшчэ трэба прыгатавацца, каб усё было гатова к мамінаму прыезду.

— Ой! — крыкнула Насцечка.

— Дзевачкі! — піскнуў дзед.

— Ой, дзевачкі,— зарагатала Насцечка.— А мама вельмі любіць гарохавы суп, давай сёння зробім.

— Ну, давай.

Насцечка адным махам ног пераскочыла цераз пакой і выцягла з шафы торбу з гарохам. Удваіх яны перабіралі гарох, пасля пілі чай, пасля зноў перабіралі гарох. Так марудна ў іх ішла работа таму, што яны не так перабіралі той гарох, як падражніваліся адно з адным, сваволілі так, быццам дзеду таксама было год дванаццаць.

— Ой! — не вытрымала нарэшце Насцечка.

— Дзевачкі! — запішчаў дзед.

— Каб, здаецца, скарэй той поезд з мамаю прыходзіў,— сказала Насцечка і запусціла ў дзеда гарошынай.

— Праўда,— згадзіўся дзед, сумна паківаўшы галавой.

І от прыйшоў дзень. Раніца скончылася, дзед патушыў святло і паглядзеў у акно.

— О, снегу падбавіла за ноч,— сказаў ён,— прыйдзецца табе, Насцечка, даставаць свае лыжы.

Дзед адзеўся ў святочны гарнітур і доўга круціў перад люстэркам свае сівыя вусы. Насцечка таксама апранулася ў святочнае адзенне і раптам заўважыла, што гароху яны так і не скончылі перабіраць.

— Што ж гэта будзе з нашым супам?..— сумна прамармытаў дзед.

— Ой, нудна нейк чакаць, няма чаго рабіць, каб скарэй той поезд прыходзіў.

— Давай скончым гэты гарох і выйдзем на вуліцу,— сказаў дзед.

І яны зноў селі за гарох, але тут сыпануўся ў дзверы дробны стук, і ў сенцах абазваліся хорам дзіцячыя галасы:

— Насцечка, адчыні.

— Ой, дзевачкі,— радасна крыкнула Насцечка і, рассыпаўшы на падлогу жменю гароху, кінулася к дзвярам,

што ты Лямэнтава жонка і ўжо ўсё на цябе перапісана. *(Павышае голас.)* Што ты зрабіла? Ты мяне згубіла навек.

Ю з я. Ты звар'яцеў? Як гэта я цябе згубіла навек?

З ы г м у с ь. Ты ж бачыш, што Польшча гіне. За гэты нечаканы месяц гэтулькі нарабілася, што каб за дзень да пачатку гэтага ўсяго хто сказаў мне, што так будзе, дык я таму вочы выдраў бы. *(Зніжае тон, стараецца гаварыць ціха і спакойна.)* Ты, мусіць, не ведаеш усяго таго, што робіцца? Ты ведаеш, каго я толькі што прывёз сюды? Я сюды прывёз самога Чарноцкага. Сядзіць цяпер у Лямэнта, не ведаючы, што рабіць.

Ю з я *(машынальна, у бяздум'і)*. Чаго ж ён зноў сюды прыехаў?

З ы г м у с ь. А чаго ўсе з Варшавы сюды прыперліся? Ад немца ўцякаюць. Вось што робіцца, а ты ўсю справу загубіла.

Ю з я. Якую справу?

З ы г м у с ь *(ускіпеў)*. Не прыкідвайся такой просценькай. *(Стараецца знізіць тон, але гэта яму мала ўдаецца.)* Мне выпала шчасце, і табе разам са мною. Быў бы ў нас фальварак, тут, о, на гэтым месцы. Польшча прападзе, ну і чорт яе бяры разам з маёй службай, раз у мяне быў бы фальварак. Гэта была б законная ўласнасць, абфармаленая паперамі нябожчыка Лямэнта табе, удаве. Ты была б шчаслівая. Ты ж мяне любіш... Чаму не пайшла замуж за Лямэнта? Ты разбурыла маё шчасце. Калі і сюды дойдзе немец, я на сваёй уласнасці жыў бы, як прыватная асоба. Цяпер я павінен галаву ламаць, што будзе, калі ляснецца Польшча. А так, дык я і вухам не шманаў бы... Мне на цябе глядзець праціўна.

Ю з я *(гнеўна)*. Я ўжо даўно бачу, што ты мяне зусім не любіш. Табе патрэбна толькі Лямэнтава дабро.

З ы г м у с ь. Я цябе любіў бы.

Ю з я. Пакуль не ўгроб бы сабе ў рукі Лямэнтаў фальварак. От на што я табе была патрэбна.

З ы г м у с ь *(апанаваны злосцю, поўніцца нахабнай цынічнасцю)*. На гэтым свет стаіць.

Ю з я. На чым? На такім шальмоўстве?

З ы г м у с ь. Не на шальмоўстве, а на здаровым розуме. Ты не вырвеш для сябе з Лямэнтавых рук, дык і здыхаць будзеш, дык і будуць цябе папіхаць, як суку, да самай тваёй магілы. А здолееш вырваць, дык сама будзеш распараджацца другімі.

Ю з я. Няўжо толькі на гэтым свет стаіць?

З ы г м у с ь. А на чым жа яшчэ?

Ю з я. А праўда? Чыстая, чалавечая, літасцівая, міласэрная, ласкавая праўда.

З ы г м у с ь. Гэтую тваю праўду глыбока ў кішэні носяць. А папросіш, каб хоць паказаў, каб хоць зірнуць на тую праўду, дык гэты ласкавы і справядлівы пакажа табе фігу.

Ю з я *(не слухаючы)*. Чыстая, добрая праўда. Дзе хапіць другога за горла так жа страшна, як самому легчы ў магілу. Дзе любяць чалавека за тое, што ён чалавек, а не за тое, каб праз яго пажыцца.

З ы г м у с ь. Ніхто ніздзе так не любіць.

Ю з я *(быццам і не чуючы Зыгмусёвых слоў)*. Некалі я чула, як чыталі кнігу. Там апісвалася, як хлапец любіў дзяўчыну. А яна захварэла страшнай заразнай хваробай, і, каб яна не заразіла другіх людзей, яе кінулі ўміраць за жалезныя краты. Хлапец праз краты не мог нават дакрануцца да яе. А душа яго рвалася на часткі — так ён нудзеў па ёй, і без яе яму страшна было аставацца жыць. Тады ён узяў палку і канцом палкі дакрануўся да свае дзяўчыны праз краты і пацалаваў той канец палкі. І ў той жа момант заразіўся той страшнай хваробай. І абое разам яны памерлі паабапал тых жалезных крат. Гэта любіў чалавек сваю дзяўчыну. І па-чалавечы.

Юзя змоўкла і, расчуленая сама ад сваіх слоў, ахопленая марамі, маўчыць і нерухома глядзіць кудысьці ў прастору. Зыгмусь, заняты сваімі меркаваннямі, таксама маўчыць. Ён упарта думае і нешта ў думках вымяркоўвае.

З ы г м у с ь *(асцярожна, ціха)*. Юзя, ты не раз магла ўпэўніцца, што я цябе люблю па-сапраўднаму. Захацеўшы, усё можна зрабіць, яшчэ і цяпер не позна... Ну, слухаеш ты ці не? Калі ты чым пакрыўдзіла Лямэнта, дык папрасі ў яго прабачэння, здолей дамагчыся таго, каб ён табе дараваў, пакажыся перад ім, як прывабная жанчына, так, каб гэты стары пацук аж самлеў ад нуды па жанчыне. І давядзі справу да канца так, каб праз некалькі дзён гэты стары смурод узяў цябе замуж.

Ю з я *(з гнеўным сарказмам)*. Ты мяне так любіш, што хочаш, каб я ішла замуж за старога гада?..

З ы г м у с ь *(не змяньваючы тону)*. Ты ж сама ведаеш, што ненадоўга. Наадварот, цяпер, у часе такой страшнай завірухі, вельмі зручны момант табе аўдавець.

Ю з я. А пасля гэтага ці падбярэцца табе зручны момант аўдавець?

З ы г м у с ь. Дык ты не хочаш? Не? Ну, ну...

Ю з я. Ідзі ад мяне.

З ы г м у с ь. Ты мяне не любіш?

Ю з я *(не адважваецца адразу сказаць)*. Ты — вялікая шэльма. Я цябе ненавіджу.

З ы г м у с ь *(ідзе на кампраміс)*. Ну, дык ты са мной жыць не будзеш. Давай так. Як толькі ты законным парадкам заўладаеш Лямэнтавай маёмасцю і грашыма, дык тады падзелім папалам і разыдземся, каб адзін аднаму не перашкаджаць жыць. І абое шчаслівымі будзем. Ну? Згодна? Ты ж тады станеш багатая, а я табе памагу, каб ты магла найлепш уладавацца. Так нават яшчэ і лепш будзе.

Ю з я *(гнеўна і рашуча становіцца перад Зыгмусем)*. Калі ў маіх руках апынецца Лямэнтава багацце, дык я яму і адна, без цябе, дам рады.

З ы г м у с ь. Ах, так... Апошняе тваё слова. *(Падыходзіць да Юзі.)*

Ю з я. Не падыходзь да мяне.

З ы г м у с ь *(падняўшы кулакі, крычыць)*. Ты яшчэ вернешся прасіцца да мяне.

У дзвярах з'яўляецца Л я м э н т і з адзервянелай усмешкай глядзіць на апошнюю сцэну.

Ю з я. Не ад першай гадзіны я чую, што прасіцца і каяцца буду.

Л я м э н т *(пераступае парог, напаўняецца пахмурай злосцю)*. Гэта ты пра мяне?

З ы г м у с ь *(падступае да Юзі)*. Гэта ты пра мяне?

Юзя адбягаецца да сцяны і стаіць, гатовая абараняцца. Зыгмусь і Лямэнт здалёк глядзяць на яе, а пасля сустракаюцца вачыма адзін з адным.

Л я м э н т *(са зларадна́й іроніяй)*. Ну што, нацалаваўся?

З ы г м у с ь. Нацалаваўся.

Л я м э н т *(устрывожана)*. Праўда? Калі?

З ы г м у с ь. З самага пачатку.

Л я м э н т *(закалаціўся ад рэўнасці, рушыў да Юзі)*. Гадаўка, ты тут сядзіш цэлую ноч. Я павінен за табой бегаць, шукаць цябе. Марш дадому зараз жа! Пану міністру яду трэба прыгатаваць у момант, а ты сядзіш. Ну!

Ю з я шпарка выходзіць з хаты, Лямэнт і Зыгмусь глядзяць адзін на аднаго.

З ы г м у с ь *(са злым здзекам)*. А я ўсё спадзяваўся на вашым вяселлі пабаляваць.

Л я м э н т. Паспрабуй ты яе вазьмі! *(Хоча ісці.)*

З ы г м у с ь. Яе трэба ў турму зараз жа адправіць, а не замуж браць!

Л я м э н т *(спыніўся каля парога)*. Як гэта?

З ы г м у с ь. Што б ні зрабілася, то вам, пане Лямэнт, ад яе прыкрасці будзе многа.

Л я м э н т. Як-то?

З ы г м у с ь. Вы ведаеце, што яна мне сказала. Калі я запытаў яе, чаму яна не пайшла за вас замуж, яна так проста і сказала: за гэтага старога смурода, кажа, каб я замуж ішла.

Л я м э н т. Што? *(Аж змяніўся ў твары.)* Так і сказала?

З ы г м у с ь. Чакайце, не гэта самае важнае.

Л я м э н т. Як жа гэта за мяне хацела раней ісці... Усё ўжо было згаворана...

З ы г м у с ь. І патрабавала яна ад вас, каб вы на яе ўсю маёмасць і грошы перапісалі?

Л я м э н т. Так, патрабавала.

З ы г м у с ь. Вы ведаеце, што гэта значыць? Гэта значыць, што як толькі вы на яе ўсё перапісалі б і павянчаліся б, яна адразу ж, заўладаўшы вашым дабром, зжыла б вас са свету.

Л я м э н т. Што?.. Як?..

З ы г м у с ь. Магла б атруціць. І тады б, уладаючы фальваркам, пайшла б замуж за маладога.

Л я м э н т *(закалаціўшыся)*. А адкуль пан Зыгмусь ведае?

З ы г м у с ь. Яна мне прызнавалася ў каханні і раскрыла гэтыя планы, жадаючы мяне завабіць на жыццё з ёй... на вашым дабры.

Л я м э н т. Чаго ж вы не сказалі мне, што я пад такой пагрозай?

З ы г м у с ь. Чакайце. Я спачатку не паверыў. Як гэта, думаю сабе, у жанчыне можа гнездзіцца такая жудасць? Я, вядома, расказаў бы вам, але ж, самі ведаеце, быў увесь час у далёкіх раз'ездах. Ды і патрэбны былі доказы. Сведак тады не было пры гэтым. А цяпер яна гаворыць, што і рада, што не пайшла за вас. Бо, кажа, што вам усё адно прыйшоў канец.

Л я м э н т. Як?

З ы г м у с ь. Яна кажа: Польшча гіне, а калі будзе

што-небудзь новае — яна зробіць усё, каб загінулі і вы. Немцы прыйдуць — яна, кажа, нешта ведае пра вас, што за гэта вас — фюйць, і няма вас. Вы ведаеце, што яна бальшавічка? Гэта ў дадатак да ўсяго. А калі Польшча зноў паднімецца, вам будзе бяда, што пад вашым носам яна рабіла свае справы, а вы нават яе замуж хацелі браць і бегалі за ёю, як малады дурань-блазан. Я яе адразу раскусіў...

Л я м э н т. А вы ж з ёю нядаўна цалаваліся?

З ы г м у с ь. Гэ, баба ёсць баба, хто б яна ні была. Вам не трэба марудзіць, а адразу яе прыбраць. Як яна вас збіралася, так і вы яе, падушкай у цёмным кутку.

Л я м э н т *(увесь аж гарыць)*. На чорта падушкай! У павеце яшчэ дзейнічае пан Ярашэвіч. Усё законна зробім. Вы пацвердзіце ўсё гэта, што казалі?

З ы г м у с ь. Дзіва што! Адразу.

Л я м э н т. І яна там пайшла ўслугоўваць пану Чарноцкаму!

З ы г м у с ь. Яна пана міністра атруціць, не марудзьце.

Л я м э н т. Зараз яе на свеце не будзе. *(Пабег з хаты.)* Я ёй не дарую! *(Знік.)*

З ы г м у с ь *(адзін)*. От ты і ажаніўся, стары смурод. *(Задаволена пацірае рукі.)* А ты, мая каханенькая, дорага расплацішся за тое, што не пусціла ў мае рукі Лямэнтаў фальварак. *(Шпарка выходзіць і знікае.)*

Сцэна пустая. Пануе вялікая цішыня. Ніадкуль не чутна ніякага гуку, быццам ноч за вокнамі застыла і анямела. Баязліва і ўкрадкам уваходзіць у хату І р ы н к а. Яна прыслухоўваецца спачатку каля дзвярэй, потым каля акна.

І р ы н к а. Як ціха... І пеўні пакінулі спяваць... Зараз дзень пачнецца. Каб хаця Лямэнт не прыйшоў, пакуль развіднее. Тады пайду повідну... *(Маўчыць, азіраецца па хаце. Падыходзіць да разверненай пасцелі.)* Тут мама спала... *(Глядзіць на калодку на падлозе.)* А тут тата абуваўся зранку заўсёды. *(Паднімае галаву, чагосьці шукае вачыма і так стаіць на месцы. Твар яе ўздрыгануўся, з вачэй выкаціліся дзве слязіны і застылі на твары. Пануе вялікая цішыня. Застукалі дзверы ў сенцах. Шпарка ўбягае ў хату Юзя. Яна растрапаная, узбуджаная, яна спяшаецца выгаварыць адразу ўсе словы.)*

Ю з я. Лямэнт і Зыгмусь мяне забіць хацелі. Мне тут доўга быць няможна.

І р ы н к а. Яны цябе не будуць забіваць, а цябе ў астрог пасадзяць.

**Юзя.** Адкуль ты ведаеш?

**Ірынка.** Я чула з сянец.

**Юзя.** Давай, Ірынка, разам з табой пойдзем адгэтуль далёка, далёка.

**Ірынка.** Мне далёка адгэтуль няможна адыходзіць. Я кожны дзень буду падыходзіць да гэтай хаты.

**Юзя.** Чаго?..

**Ірынка.** А калі тата вернецца, дык мы ж тады не знойдзем адзін аднаго.

**Юзя.** Не, Ірынка. Калі твой тата вернецца, дык знойдзеце адзін аднаго.

**Ірынка.** Чаму ты так гаворыш? Значыць, ты ведаеш, што мой тата не вернецца. Дзе мой тата? Скажы, ну, скажы!

**Юзя.** Твой тата вернецца не скора.

**Ірынка.** А дзе ён?

**Юзя** *(паказвае рукой)*. Унь там, у дзеда твайго.

**Ірынка.** У мяне ёсць дзед?

**Юзя.** Я табе пасля раскажу. Скарэй хадзем, бо яны зараз явяцца. Тады я прападу, і цябе ўсё адно выганяць. Толькі што я неадзетая, холадна.

**Ірынка** *(падбягае да лахманоў на палу)*. Тут мамін ватовы кафтан, адзявай яго.

Дае Юзі кафтан, Юзя шпарка апранаецца. Стаяць абедзве, гатовыя ў дарогу.

**Юзя.** Хадзем, Ірынка.

**Ірынка.** Чаму так ціха?

**Юзя.** Скора дзень будзе. Перад днём заўсёды ціха.

Ідуць да дзвярэй. Ірынка адчыняе дзверы. Выходзяць у сенцы.

**Ірынка** *(у сенцах)*. Ну, расказвай пра тату.

**Юзя** *(у сенцах)*. Чакай, выйдзем на дарогу... Раней паслухаем, ці няма каго на двары за дзвярыма.

Запаноўвае цішыня. Так ціха некалькі мінут. Раптам зводдаля чуецца, вырастае і шырыцца гул. Ён усё мацнее і ўсё блізіцца, вось ужо зусім блізка, дзесьці ўжо тут за вокнамі. Здаецца, усё трасецца, дрыжыць і рушыцца. Адчуваецца, што тут, навокал хаты, адбываецца вялікі, няспынны і магутны рух. Юзя і Ірынка ўбягаюць у хату, збянтэжаныя, устрывожаныя, стаяць у вялікім здзіўленні і слухаюць. Гул глушыць усё, толькі рух за сценамі пануе цяпер усюды і над усім. Часам чутны чалавечыя галасы, крыкі. Пасля ўсё пачынае заціхаць і аддаляцца, але чалавечыя галасы і рух людзей чуваць яшчэ доўга. Пачынаецца дзень. У вокнах святлее і пачынаюць вызначацца белыя палосы ранішняга неба.

**Ірынка.** Гэта, мусіць, вайна сюды прыйшла. Што нам цяпер рабіць, Юзя? Зараз Лямэнт прыйдзе.

Ю з я. Ірынка, пабудзь адна, а я выйду на двор паглядджу.

І р ы н к а. Не адыходзь далёка. Толькі з двара зірні.

Ю з я. Ірынка, я цябе не пакіну.

Ірынка слухае, як зачыняюцца за Юзяй сенечныя дзверы, падыходзіць да акна і глядзіць, пасля шпарка адчыняе яго, высаджваецца праз яго на двор і крычыць.

І р ы н к а. Юзя, куды ты пабегла? *(Шпарка зачыняе акно і прыціраецца плячыма да сцяны.)* Мусіць Лямэнт з Зыгмусем ідуць. Яна ад іх уцякае.

Баязліва туліцца да сцяны, да ўсяго прыслухоўваецца. Над хатай чутны самалёты. Ад гуду дрыжаць аконныя шыбы. Ірынка садзіцца пры сцяне на падлогу. За вокнамі чутны чалавечыя галасы, і стукаюць сенечныя дзверы. Ірынка ўсхапілася, прыслухоўваецца. У хату ўваходзіць ч ы р в о н а а р м е е ц з вінтоўкай.

Ч ы р в о н а а р м е е ц. Хто ў хаце ёсць?

І р ы н к а *(глядзіць здзіўлена)*. Я.

Ч ы р в о н а а р м е е ц. А яшчэ хто?

І р ы н к а. Больш нікога.

Чырвонаармеец заглянуў ва ўсе куткі. Ірынка сочыць за кожным яго рухам.

Ч ы р в о н а а р м е е ц. Як жа ты адна? Дзе ж бацька, маці?

І р ы н к а. Мама памерла. А тата... Майго таты няма...

Ч ы р в о н а а р м е е ц. Дык ты жывеш адна?

І р ы н к а. Я не жыву... Не... Я ў гэтай хаце... Я зараз пайду адсюль.

Ч ы р в о н а а р м е е ц. Ты нешта не дагаварваеш да канца? Цябе хто-небудзь пакрыўдзіў? Не бойся, гавары, больш цябе ўжо ніхто не будзе крыўдзіць. Ты ведаеш, хто я? Я чырвонаармеец. Сюды прыйшла Чырвоная Армія.

І р ы н к а *(зазіраючы чырвонаармейцу ў вочы)*. Пан і Лямэнт майго тату некуды забралі.

Ч ы р в о н а а р м е е ц. А хто такі Лямэнт?

І р ы н к а. Тут яго дом... Я ў яго каровы пасвіла.

Ч ы р в о н а а р м е е ц. Значыцца, таксама пан або кулак.

І р ы н к а. Не, ён асаднік.

Ч ы р в о н а а р м е е ц. А чаму ў цябе торба?

І р ы н к а. Каб у людзей хлеба прасіць. Лямэнт мяне з хаты выгнаў, ён не ведае, што я вярнулася.

Чырвонаармеец прыхіляе да сябе галаву Ірынкі, гладзіць яе па галаве.

Чырвонаармеец. Скідай з сябе торбу! *(Зрывае з Ірынкі торбу і кідае яе на падлогу.)* Смела будзь у хаце. Калі прыйдзе Лямэнт — гані яго вон. Смела глядзі на свет белы. Як поўная гаспадыня будзь усюды, дзе толькі захочаш. *(Цалуе Ірынку ў галаву.)* А як цябе зваць?

Ірынка. Ірына.

Чырвонаармеец *(адыходзіцца ад Ірынкі, глядзіць на яе).* Ірына... Бач якая... Ірынка... Ну, бывай, Ірынка, мне трэба спяшацца... Памятай, што я табе сказаў. Нас прыслаў сюды Сталін. Ніколі не забывай гэтага. Бывай, Ірынка! *(Махае Ірынцы рукой.)*

Чырвонаармеец выходзіць. Ірынка з ясным тварам падбягае да акна, адчыняе яго і доўга глядзіць чырвонаармейцу ўслед. Пасля ўзбуджана адбягае да акна і выбягае з хаты. Нейкі час хата пустая. На дварэ ўжо зусім відно. Ціха, крадучыся, уваходзяць у хату Чарноцкі і Лямэнт. Чарноцкі пераадзеты ў сялянскую адзежу.

Лямэнт. Тут вашай ласкавай мосці будзе смялей. Гэтая хата пустая. Было тут адно малое, ды і тое сёння ўначы пайшло. Мы тут доўга не будзем. Паўгадзіну якую, не больш. Вы ж самі бачылі, што да майго дома пачынаюць сцягвацца мужыкі.

Чарноцкі. Божа, якія ў іх твары, вочы як агнём гараць.

Лямэнт. Гэта ў мяне служанка языкастая, каб яе пярун ясны! Няйначай, яна гэта разнесла чутку, што вы да мяне прыехалі.

Чарноцкі. Што вам казаў той хлоп, што ў кухню ўваходзіў?

Лямэнт. Ён пытаў, ці праўда, што я хаваю пана міністра.

Чарноцкі. Божа!

Лямэнт. Гэта бог даў шчасце пеўзаметку прыбегчы нам сюды. Калі схлыне і адкоціцца першая навала, мы пяройдзем дарогу і поплаў і апынемся ў лесе... Паўгадзіны ціха пасядзець тут.

Чарноцкі *(з-за сцяны баязліва пазірае ў акно).* Лямэнт, ратуй мяне.

Лямэнт. Не глядзіце ў акно.

Чарноцкі адыходзіць ад акна і прыпадае к сцяне. Шпарка і весела ўбягае ў хату Ірынка. Убачыўшы пасярод хаты Лямэнта, яна інстынктыўна падалася назад.

Лямэнт. Ну, будзеш дома цяпер. На табе яшчэ грошы, хоць на хлеб. У цябе ж нічога няма. *(Працягвае гро-*

*шы.)* Унь у кутку на падлозе малако табе стаіць, Юзя прынесла. Ад маіх кароў. Ну, бяры грошы, дочка.

Ірынка *(задам адыходзіцца к дзвярам, твар яе гарыць вясёлай узбуджанасцю).* Мне сам чырвонаармеец сказаў, каб я... *(З вялікай дзіцячай наіўнасцю.)* Вон з мае хаты!

Чарноцкі *(разгублена глянуў на Лямэнта).* Лямэнт!..

Лямэнт. Ціха выходзьце з хаты і ў лес. Упоперак праз дарогу. Толькі бегчы няможна. Здаецца, пацішэла.

Чарноцкі. Там жа яны ходзяць, іхнія салдаты.

У гэты момант на парозе з'яўляецца Валя. Адразу відно, што яна моцна бегла. Яна задыхалася, але ўсё адно не можа спакойна ўстаяць на адным месцы. На парозе яна пастаяла момант і ўляцела ў хату.

Валя. Дзе Ірынка?

Лямэнт. А от яна.

Валя. Ірынка, я не верыла, што ты памерла.

Яны стаяць адна насупраць адной. Валя, поўная прагнасці гаварыць, дзейнічаць, расказваць, не быць на адным месцы. Ірынка — ашаломленая, напалоханая ўсёй гэтай ноччу, збянтэжаная перад Валяй. Чарноцкі шпарка рушыў да дзвярэй. У дзвярах з'яўляецца Канстанцін Міхалковіч. Так, як і Валя, ён задыхаўся ад шпаркай хады.

Валя. Дзядунь, Ірынка жыва.

Міхалковіч. Ірынка... Знайшлася мая ўнучка.

Валя цягне Ірынку да Міхалковіча. Міхалковіч раптам сустракаецца вачыма з Чарноцкім. Міхалковіч і Чарноцкі, здзіўленыя, моўчкі глядзяць адзін на аднаго. Чарноцкі адступае да дзвярэй.

Зыгмусь *(шпарка з сянец пераступае парог хаты, паказвае пальцам на Чарноцкага).* Вось ён дзе, пан міністр. Не паможа табе, пан Чарноцкі, што ты пераадзеўся на мужыка. А ну, ходзь сюды. І ты, пане Лямэнт. Мінула ваша панаванне. Тут з вамі будзе расправа кароткая.

Юзя *(у парозе).* Новага фальварка шукаеш?

Зыгмусь. Хто там яшчэ? *(Шпарка выбягае.)*

Міхалковіч. Я думаў — цябе на свеце няма, пане Чарноцкі.

Ірынка. А дзе мой тата? *(Плача.)*

Міхалковіч. Чым ты выкупіш пакуты гэтага дзіцяці? На гэта не хопіць усёй тваёй панскай Польшчы.

З'яўляецца Мікалай. Чарноцкі і Лямэнт з жахам адступаюць перад ім.

*Заслона*

## РЭАЛЬНАЯ ШМАТГРАННАСЦЬ І ФІЛАСОФСКАЕ АДЗІНСТВА[1]

...Уявім сабе кнігу мастацкае літаратуры на тэму аб пабудове электрастанцыі на тарфяным балоце. Як быццам мы маем справу з вытворчым жанрам. І гэта сапраўды так. Будзем ісці ў гэтым плане. Магутнасць гэтай электрастанцыі прадбачыць вялікую лішніцу электраэнергіі ў тым выпадку, калі прадпрыемствы — спажыўцы энергіі — не пабольшацца паводле велічыні самое электрастанцыі. А калі пачаць з росту фабрыкі, дык гэты рост можа быць толькі тады, калі адначасна будзе рыхтавацца крыніца электраэнергіі. Так што адна тэма цягне за сабой другую. Тут жа вырастае і трэцяя тэма — сырэц. Уявім, што фабрыка тэкстыльная, і пашырэнне фабрыкі патрабуе павелічэння колькасці льну. Значыцца, вырасла трэцяя тэма — пра зямлю. Сам гэты план прадбачыць гэтае ўзаемадзеянне тэм, іх адзінства і раўнацэннасць — індустрыяльны гігант, гарадская прамысловасць, зямля (вёска, калектывізацыя). Мы знаходзімся ў сферы аднаго плана: перад намі адзнакі вытворчага жанру.

Паказаць толькі голае, і само па сабе, будаўніцтва індустрыяльнага гіганта — гэта значыцца яшчэ нічога не паказаць. Бо і электрастанцыя, і фабрыка, і ўсялякая машына не ёсць нейкая самамэта, рэч высокай тэхнічнай выдатнасці, што створана на тое, каб вечна захапляцца ёю і каб яна ўзвышалася над людзьмі, што яе стварылі. Машына цікавая толькі як сродак. Такім парадкам пераходзім у сферы іншых планаў таго ж самага творчага замыслу. Перад намі людзі.

Будаўніцтва электрастанцыі, або выкананне промфінплана на фабрыцы, або ўмацаванне калгаса, мы не можам

---

[1] Свае «пісьменніцкія нататкі» пішу адначасна з новымі творамі і на іх матэрыяле. К. Ч.

паказаць без ударнікаў. А героі пяцігодкі, гэтыя энтузіясты сацыялістычнага будаўніцтва, не ёсць нейкія адмысловыя людзі, што ўзяліся немаведа адкуль. *Гэтыя людзі ёсць спадчыннікі*, якія крытычна засвойваюць вялікае напластаванне вякоў, яны не з неба зваліліся. Хто, напрыклад, прыходзіць на пустое і дзікае балота будаваць электрастанцыю? Сярод усёй масы рабочых мы тут знойдзем таксама масу тых жа самых нядаўніх сялян. Можа, былых местачковых рамеснікаў. Калектывізуючы сваю зямлю, сяляне спрэс і да самага карэння зменьваюць самы твар зямлі і ўсё жыццё на ёй. Яны прыходзяць на будаўніцтва, развітаўшыся назаўсёды з сваёю гэтакаю зямлёю, якую яны аралі спрадвеку і якая спрадвеку ляжала страшным цяжарам на іхніх плячах.

Што пакінулі ўсе гэтыя людзі, прыйшоўшы на будаўніцтва, за сваімі плячыма? Яны прыйшлі разбураць старое і будаваць новае. А што гэта такое гэтае старое? У такой меры, як мы гаворым, што мала паказаць толькі адно голае будаўніцтва, у такой меры мы не можам мець дачынення і да старога, паказваючы яго, як якую-небудзь толькі вузкую палоску поля, пакорпанага дрэнным плугам, гнілую хату або цвілое сутарэнне рабочага. Трэба не забываць, што ўсе гэтыя бядоты, усялякая эксплуатацыя чалавека чалавекам заўсёды вельмі ўдала ўгрунтоўваліся філасофіяй эпохі, усяею ідэёваю накіраванасцю каштоўнасцей культуры, створанай нявольніцкімі вякамі культуры, калі ўзяць яе ў цэлым, без асобных яе кампанентаў, паганай. Але, можа, гэта не так? Можа, тыя «вечныя» ідэі, якія пралетарыят разбурае, ёсць чыннікі і сэнс чалавечага шчасця? Можа, напрыклад, высокія цемрашалы — кіраўнікі якіх бы там ні было рэлігійных плыней, пачынаючы ад каталіцызма і канчаючы будызмам, шчыра клапоцяцца пра шчасце людзей, прапаведваючы вечную праўдзівасць ідэі бога? Мы маем прыклады, калі царква ў некаторых праслойках нават рабочага класа — за межамі нават яшчэ і цяпер — трымае свой уплыў. Дык вось, паказваючы новых людзей, будаўнікоў новага жыцця, новай культуры, трэба паказаць і тыя працэсы, што адбываюцца ў іх і навокал іх, калі яны адпіхаюцца ад старых ідэй, ад старога свету і дзейна руйнуюць тое, што ў папярэднія вякі было як «вечнасць», вечнасць нявольніцкая і паганая. Маючы па ўвазе тут разбурэнне рэлігіі, мы такім парадкам уводзім твор у новы план: у план раскрыцця існасці рэлігіі. Твор перарастае свае вытворчыя рамкі

і ўваходзіць у сферу філасофіі. Энтузіяст сацыялістычнага будаўніцтва не толькі будаўнік сацыялізма, гэтай новай культуры, якая самым фактам свайго росту знішчае старую культуру, убіраючы ў сябе ўсё, што ў ёй ёсць каштоўнага, ён і знішчальнік усіх павеваў нявольніцкае гісторыі. Прычым ён усё гэта знішчае і ў самім сабе. Ён здымае замкі з «вечнасці». І гэтыя замкі з «вечнасці» павінна здымаць і літаратура.

Разам з тым, як зменьваецца ўсё, нават сама мясцовасць, зменьваюцца дачыненні паміж асобнымі людзьмі, зменьваюцца ў чалавеку густы і запатрабаванні. Адбываюцца змены ў побыце, перафармаванні ў сям'і. Такім парадкам твор уваходзіць у яшчэ адзін план: план сямейнабытавы.

У нас вельмі часта і паказ герояў сацыялістычнага будаўніцтва і паказ будаўніцтва і росту гігантаў сацыялістычнае прамысловасці робіцца ў мастацкіх творах ізалявана ад усіх гістарычных працэсаў, як штосьці гэтакае, што нейк раптоўна ўзнікла, без гістарычнае падрыхтаванасці. А гэта зніжае каштоўнасць твора. Калісьці і ў нас, у БССР, пачалі былі гаварыць пра гісторыю заводаў і пра гісторыю грамадзянскай вайны. Гэтую гісторыю, як і наогул гісторыю, мы павінны ведаць і заўсёды быць у яе сферы, калі пішам свае творы. Гэтага патрабуе хоць бы сабе момант выкрыцця існасці феадальнай і буржуазнай культуры, якую мы разбураем, будуючы культуру новую. Гісторыя заводаў, гэта ёсць гісторыя пралетарыята. А мы толькі тады здолеем напісаць паўнацэнныя творы, калі будзем ведаць гісторыю пралетарыята. (Таксама і гісторыю буржуазіі.) Нашы творы, значыцца, уваходзяць яшчэ ў адзін план: план гістарычны. Павевы гісторыі павінны быць у літаратуры.

Класавы вораг. Як ён змагаецца за свае ідэалы, як трымаецца за права на эксплуатацыю і як у новыя формы пераходзіць класавае змаганне. Класавае змаганне, нянавісць да класавага ворага і змаганне з ім павінна прасякнуць увесь твор пісьменніка.

Можа, вельмі ўмоўна я называю тут шматпланавасцю гэтакую распрацоўку матэрыялу, што калі, напрыклад, твор напісаны на тэму аб пабудове электрастанцыі і гэтая пабудова паказана, як героіка будаўнікоў, дык з гэтым цесна пераплецена ў творы і ёсць яго неадменны кампанент і змена мясцовасці тут, і змена псіхікі і жыцця тутэйшых людзей і таксама саміх будаўнікоў, і адміранне

рэлігіі, станаўленне новай маралі, нараджэнне новых крыніц, з якіх вырастаюць новыя масы будаўнікоў-энтузіястаў. Паказ усялякіх катэгорый і разуменняў. Паказ змены самога жыцця замест ізаляванага паказу будаўніцтва. Аднак тэма аб пабудове электрастанцыі ставіць і распрацоўвае шмат праблем: дружба і варожасць, замілаванне і нянавісць...

Разам з тым, як пралетарыят чуе за сваімі плячыма змрок мінулых вякоў, ён рыхтуе ясноты вякоў наступных. Гэтай шырокай перспектыўнасці мы павінны дамагацца і ад сваіх твораў.

У святле ўсяго гэтага выразна вырысоўваецца вузкасць такіх твораў, як, напрыклад, мая «Вясна». Адной толькі тэматыкай адставанне літаратуры ад эпохі не знішчаецца. Калектывізацыя не ёсць толькі калектыўная апрацоўка зямлі і збор ураджаю. Калектывізацыя ўмешваецца і ў справы тае «вечнасці», пра якую вышэй гаварылася. Або ўспамінаецца яшчэ апавяданне (не маё) пра калгасніка Трыхона Жаролу. Гэты чалавек з чорнай мінуўшчыны прынёс у калгас з сабою сваё сапраўды хрысціянскае «смирение». Ён абураецца ўчынкам аднаго калгасніка, які сказаў, што ў калгаснай сталоўцы абед дрэнны. Як? У калгаснай сталоўцы можа быць дрэнны абед? Гэта ж «святотатство»! Новы чалавек пачнецца там, дзе скончыцца «смирение» і «славословие».

Адставанне літаратуры ад задач сацыялістычнага будаўніцтва ў тым, што наша рэчаіснасць расправілася з старою «вечнасцю», што яна пазрывала заскарузлыя дзяругі ідэй, народжаных нявольніцкімі вякамі, што яна дала тып ударніка, тып бальшавіка, тып сучаснага новага чалавека. А наша літаратура часта яшчэ ўсё на гэтага новага чалавека нацягвае назад — то дзяругі рамантызма, то мяшчанскага дабрабыту. А то гэтага шырокага і глыбокага сваім вырашэннем вялікіх задач, сваёю дзейнасцю чалавека паказвае як чалавека вельмі вузкага.

Мы павінны дамагацца, каб кожная новая кніга, што выходзіць у свет, ішла ў арсенал бальшавіцкае зброі. Літаратура накіроўвае, паказвае, вучыць. А няма лепшага настаўніка, як сама рэальнасць. І от кожны літаратурны твор павінен быць гэтакім шматгранным як сама рэальнасць. Сіла літаратуры ў яе вялікай ідэёвасці, у зямной яе рэальнасці, у яе агні і напорнасці.

Агнём і полымем замілавання і нянавісці дыхаюць творы Віктора Гюго, на мяжы з навукай стаіць аналіз у

творах Бальзака. Але не таму мы ўспамінаем гэтых класікаў, што нібы цераз іх мы раптам зразумелі патрэбнасць нашай літаратуры агню («страстности» вобразаў і рэалізму), розуму, навукі. Наша літаратура не будзе на вышыні нашай эпохі, калі не будзе мець у сабе гэтых якасцей. І от, ідучы ад свае эпохі, ад свае літаратуры, ад сваіх задач, мы заўважаем на фоне старое культуры лепшых яе прадстаўнікоў, ні на хвіліну не забываючы таго (канкрэтна ў гэтым выпадку), што Віктор Гюго не разумеў сіл ходу гісторыі, што Бальзак ніяк не выйшаў з рамак свайго (буржуазнага) класа, які ён так высмейваў і крытыкаваў.

Шматграннасць літаратуры прадбачыць многасць спецыфічных прыёмаў, кірункаў, якія развіваюцца ў межах адзінага творчага метаду марксізма-ленінізма. І калі мы будзем спрыяць размежаванню літаратуры на гэтыя кірункі, дык мы гэтым самым будзем спрыяць росквіту нашай літаратуры...

# ДУМКІ ПРА ПАЎЛЮКА ТРУСА

Дзесяць год таму назад, на дваццаць пятым годзе жыцця, памёр выдатны беларускі паэт Паўлюк Трус. Гэта была вялікая страта для беларускай літаратуры, якая адчуваецца і сёння. Паўлюк Трус быў выдатным талентам, ён рос бурна і моцна, ён ужо дайшоў да сваёй спеласці, ужо быў на грані свайго вялікага росквіту, ён ужо раскрываўся ва ўсёй сваёй шырыні. Перад гэтым талентам і ў ім былі вялікія магчымасці.

Паўлюк Трус прыйшоў у літаратуру ў 1924 годзе. Гэты талент быў тады яшчэ стыхійй, ён, як крыніца, бурна выходзіў з нетраў народнага жыцця і плыў кіпучым струменем. І вельмі скора ён пачаў уваходзіць у роўную шырыню берагоў паэтычнай дзейнасці.

Самай важнай і цікавай рысай паэзіі Паўлюка Труса была яе народнасць. Ён быў увесь у сучаснасці. Рэвалюцыя, родная прырода, народны быт — вось тыя моманты, якія поўным голасам гучаць у яго паэзіі. Тонкая лірыка і эпічнасць з глыбокімі адценнямі народнага гумару — здабыткі яго паэтычнага слова.

Момант з'яўлення ў беларускай паэзіі Паўлюка Труса быў часам, калі ў нашай краіне толькі што скончылася грамадзянская вайна, калі вызвалены і шчаслівы народ, пасля вялікіх сваіх ваенных перамог, браўся за мірную працу па пераўтварэнню сваёй радзімы. Гэту радасць перамогі востра адчувала душа паэта.

Гасне цемры панаванне,
Шчасцем поўніцца душа,—

гучыць музыка Трусавай паэзіі (верш «Асенняя праца»).

Якія элементы ўваходзяць у паняцце «народнасці» паэзіі і наогул літаратуры? Трэба памятаць, што народ не ёсць штосьці абстрактнае. Рэвалюцыя — гэта ёсць канкрэтная дзейнасць народа. Народ жыве ў пэўных прыродных умовах. Народ мае свой быт. Народ мае сваю мову. Творчасць Паўлюка Труса мела гэтыя моманты за свае вытокі. Яго творчасць грунтавалася на матывах рэвалюцыі. Гэта былі вершы і паэмы, у якіх рэвалюцыйныя матывы не гучалі абстрактна. Гэта была сама канкрэтнасць, выражаная мастацкім словам. Народ робіць рэвалюцыю ў пэўных умовах і ў пэўным часе. І калі паэт піша аб «краіне бяссмертнага Леніна» («Сёмая гадавіна»), калі ён піша:

...Гэта звоніць кужэльная вёска,
Да Кастрычніка туліцца ўся...—

то гэта ідзе ад самой прыроды Трусавай паэзіі, якая заўсёды была звязана з канкрэтным бытам народа. У тыя часы вёска была яшчэ кужэльная, яна толькі што яшчэ скінула з сябе панскае панаванне і:

На ўлонні тых жывых, чырвоных гоняў,
Дзе ўчора бура нам спраўляла баль,—
Жыццё хвалюецца і пеніцца сягоння,
З грудзей зямлі змывае смутак-жаль...

*«Золак вясны»*

Чытаючы вершы Паўлюка Труса аб рэвалюцыі, мы адчуваем, што гэта адбываецца дзесьці тут, блізка, каля нас, што тут дзейнічаюць людзі, нам добра вядомыя, мы адчуваем усёй душой, што гэта ідзе да новага шчаслівага жыцця родны нам чалавек-просталюдзін, аптымізмам і радасцю якога поўніцца ўсё навакольнае. Мы адчуваем, што ў гэтым працэсе быццам бы (і сапраўды!) удзельнічаюць і палі, і лясы, і азёры, і рэчкі, і ветры, і шырокія разлогі. Больш таго, мы адчуваем нават каларыт пары года і пах быту. Мы бачым палявыя дарогі і ўзлескі, чуем гоман лясоў і гукі машын, мы чуем мову, поўную высокай лірычнай узнятасці і тонкага бытавога гумару. Паўлюк Трус, гэты тонкі лірык, быў у той жа час і самым сапраўдным эпікам, і вельмі часта ў адным і тым жа творы гэтыя дзве плыні зліваліся ў адно музычнае гучанне.

Вобразы Паўлюка Труса заўсёды канкрэтныя. Вобраз правадыра ў яго паэтычным мысленні асацыіруецца з жыццём і бытам народа. Ён мысліць правадыра ў народзе:

Песню «Ленін» красулі-дзяўчаткі
Прапяюць у жніво пад капною,—
Прапяе і пастух каля статку
Пад зялёнакудравай вярбою...

*«На смерць Леніна»*

Дзіўная рэч, але наша крытыка чамусьці заўважала толькі адзін бок паэзіі Паўлюка Труса, яе лірычнасць, тады калі нельга поўнасцю ацаніць яе, ігнарыруючы яе эпічнасць. Тым больш гэта дзіўна, што гэтыя дзве плыні ў творчасці Труса нельга аддзяліць адну ад другой.

Многія вершы Паўлюка Труса ёсць апавяданні аб пэўных здарэннях і падзеях, многія яго вершы — гэта жанравыя карціны, карціны быту, карціны працы.

Паўлюк Трус быў такім талентам, які бурна рос і фарміраваўся. Ён убіраў у сябе лепшыя здабыткі літаратуры.

Літаратурныя густы Паўлюка Труса лішні раз выяўляюць прыроду яго таленту. У літаратуры яго цікавіла тое, што было сапраўды народным. Вось чаму ён так любіў Тараса Шаўчэнку. Яго вабіла да сябе лірыка-эпіка вялікага ўкраінскага паэта. Паўлюк Трус дэкламіраваў на памяць «Макара Чудру» і «Песню аб Сокале» Максіма Горкага і цэлыя раздзелы з «Новай зямлі» Якуба Коласа. Пушкінскую «Палтаву» ён называў недасягальным шэдэўрам. Някрасаў быў яго любімым паэтам. Сваім вострым паэтычным чуццём ён адчуваў сапраўдную вялікую паэзію. Адным з яго любімых паэтаў быў і Максім Багдановіч.

Бадай самым выдатным творам Паўлюка Труса была паэма «Дзесяты падмурак». У гэтым творы грамадскія матывы гучаць найбольш шырока. Паэма напісана да дзесяцігоддзя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Гэта быў час, калі пачыналася вялікае індустрыяльнае будаўніцтва, калі краіна ўжо залячыла раны пасля войнаў, голаду і разрухі.

Дні прайшлі, адшалясцелі зоры
На гарачых крыллях навальніц.
І пульсуе радасць у прасторах,
Залатыя свецяцца агні.

Асоба паэта раствараецца ў жыцці краіны:

І тады я стану пад гарою,
Каб пазбыцца смутку і журбы,
Буду слухаць песні Асінстрою,
Захаплюся музыкай турбін.

У гэтай паэме поўна выяўлена лірычнае «я» паэта, і лірыка паэмы знайшла і знаходзіць водгук у пачуццях масавага чытача, яна раствараецца ў настроях яго. І ў гэтым сіла і важнасць паэмы.

Яго лірыка чаруе чытача. Вы можаце чытаць яго вершы аб прыродзе, дзе, здавалася б на першы погляд, ёсць толькі адно захапленне паэта хараством прыроды, і ў працэсе чытання вы пачынаеце адчуваць гэта як штосьці вельмі важнае і неабходнае. Гэта — захапленне роднай прыродай чалавека, які бачыць, што рэвалюцыя прынесла шчаслівае жыццё ў родную краіну, дзе чалавек зжыўся з хараством яе прыроды.

Сярод гэтай прыроды спяваюць жнеі, выходзяць на працу хлопцы-юнакі, «яна», гэта значыць вясковая жанчына, пачувае сябе гаспадыняй на сваёй савецкай зямлі:

Яе сёння шырокае поле
Грамадзянскаю працаю кліча...

І ўсюды чуецца:

Звон шырокі, сэрцу родны,
Звон глыбокі, малады,—

гэта гукі вольнай, радаснай працы. І ўсё гэта сярод роднай прыроды. Гэта нацыянальны момант у творчасці Паўлюка Труса.

Шмат месца ў творчасці паэта займала змаганне са спадчынай старога свету — былой вясковай цемрай, са старым бытам. Паўлюк Трус працаваў у штодзённай прэсе, актыўна жыў «злобай дня».

Творчасць і грамадская праца характарызуюць паэта. У вершы «Пасля буры» чытаем:

Сціхлі грымоты сярдзітыя,
Сэрца не страшыць іх водгулле,
Дожджыкам буйным абмыты, я
Смела вяслую ў прыволле.

У гэтым вершы, можа, паўней як дзе раскрываецца асоба самога паэта. Адгрымелі громы рэвалюцыі — і гэта была ачышчальная сіла. Свет стаў чыстым. Абмыты гэтым буйным дажджом, паэт-юнак плыве ў шчаслівае прыволле радаснага жыцця.

У паэме «Дзесяты падмурак» паэт гаварыў:

...О, край, калі ж ты станеш
Краем фабрык дымных і машын?

Заўчасная смерць не дазволіла паэту дажыць да нашых дзён, калі БССР стала краем фабрык дымных і машын, калі краіна стала індустрыяльнай і магутнай, калі гераіня адной з паэм паэта, сірата Алеся, стала знатным, шчаслівым чалавекам, калі жыццё стала цудоўным і поўным, калі здзейсніліся лепшыя мары паэта — тое, што ён бачыў і адчуваў у зародках і што вітаў усёй душой.

Мы любім Паўлюка Труса як выдатнага, таленавітага паэта і чыстага душой чалавека, як чалавека і паэта нашай савецкай радзімы. Мы шануем яго слаўную памяць.

# СЛУЦКІЯ СУРВЭТЫ

Год за дзесяць да скасавання паншчыны, у радзівілаўскіх маёнтках на Случчыне пачаў развівацца выраб сурвэт. Пэўнай частцы прыгонных кіраўнікі радзівілаўскіх уладанняў давалі павіннасць: замест працы на княжым полі — вырабляць пэўны лік сурвэт. Пачалося з таго, што прыгонны чалавек з вёскі Агароднікаў (цяпер Капыльскага раёна) Міхалевіч недзе навучыўся сурвэтнай справе. Ён стаў сапраўдным майстрам. У тых жа Агародніках, пад яго наглядам і паводле яго планаў, Радзівіл пабудаваў вялікую сурвэтную майстэрню, дзе прыгонныя ткачы выраблялі сурвэты. У гэтай майстэрні не толькі выраблялі сурвэты, але Міхалевіч навучыў ткачоўскай справе маладых хлопцаў і дзяўчат. Майстэрня была сама сабой, а маладым ткачам давалася павіннасць у сябе дома ткаць сурвэты і здаваць князю штогодна пэўную колькасць іх.

З цягам часу ткачоўскае рамяство шырылася па ўсёй Случчыне. Ткачы адбывалі паншчыну не на зямлі, а ў сябе дома або ў Агародніцкай майстэрні. Яны развілі сурвэтны выраб да вялікай дасканаласці. І з'явіліся першакласныя майстры гэтай справы. Сурвэты ішлі не толькі на панскі ўжытак, але і прадаваліся панствам у далёкія мясцовасці. Яны вывозіліся ў Польшчу і ў Германію. Пасля скасавання прыгоннага права былыя прыгонныя ткачы не атрымалі зямельных надзелаў, як гэта было з тымі сялянамі, якія адбывалі паншчыну на зямлі. Кожны ткач атрымаў на выплату толькі адну дзесяціну зямлі. Такім парадкам і сталася тое, што на Случчыне аж да самай рэвалюцыі было многа так званых «дзесяцінных» гаспадарак. Гэта былі напалову земляробы, напалову рамеснікі-ткачы. Увесь час на Случчыне было многа саматужнікаў-сурвэтнікаў. Яны бралі заказы на выраб сурвэт з нітак заказчыка. Былі цэлыя мястэчкі і сёлы, дзе займаліся больш ткачоўствам, чым зямлёю. Сяло Жавалкі, мястэчка Цімкавічы, вёска Пляшывічы да самых нашых дзён выраблялі сурвэты.

Сурвэтнае майстэрства перадавалася з пакалення ў пакаленне. Выпрацаваліся спосабы вырабу, формы варштатаў, дасэні і памеры сурвэт. Сурвэты ткаліся шырокія, на ўсю шырыню вялікага стала. Варштат меў дванаццаць панажоў (ці, як там казалі, «падножак») і дванаццаць нітоў. Кожны ніт складаецца з дзвюх самастойных пала-

він — нітоў. Дасэні рэзка дзяліліся на два самастойныя гатункі — «просты» і «павучковы». Кожны з гэтых дасэняў меў дваццаць чатыры «паддасэні». «Просты» дасэнь меў у сваёй аснове народны арнамент, складзены з квадратаў. «Павучковы» дасэнь з'явіўся на аснове народнага арнамента не квадратовага, а з крывых ліній. Гэта ўжо былі формы кветак, лісткоў, цэлых раслін. Першапачатковай жа асновай гэтых дасэняў быў рысунак круглай кветкі, ад якое разыходзіліся карэнні навокал. Гэта нагадвала форму павука з растапыранымі лапамі. Адсюль і назва — «павучковы» дасэнь. За адзін пастаў на варштаце выраблялася звыш сарака сурвэт. На просты дасэнь і на павучковы ніткі ўкідаліся ў ніты па спецыяльных рысунках, у якіх мог разабрацца і якія рабіў самы спрактыкаваны майстар. Бёрды выраблялiся з чароту. У сувязі з гэтым на Случчыне аж да самай рэвалюцыі, калі ткачы атрымалі надзелы зямлі, былі бердзнікі, варштатнікі і майстры вязаць ніты. На Случчыне сеялася многа льну. Сурвэты ткаліся з шэрых суравых нітак. Або аснова клалася шэрая, а ўток з беленых нітак або з белай крамнай бавоўны. Але, паводле спецыяльных жаданняў заказчыка, сурвэты рабіліся любых колераў і рознакаляровыя. Варштат быў даволі складаны і часткова механізаваны. Ён складаўся з мноства дробных дэталей, драўляных і жалезных. Кожная дэталь мела сваю назву — шаўграт, шпаруты, чапёлкі, пругі... Былі шліхтавальныя шчоткі: мачулкі, якімі змочвалася пража, і шліхты, якімі пража націралася.

За дзесяцігоддзі на Случчыне і далёка за ёю назапасілася ў людзей вельмі многа сурвэт. Былі нават такія, што збіралі калекцыі іх. У час незадоўга да імперыялістычнай вайны арандатар маёнтка Дошнава (цяпер Чырвонаслабодскага раёна) чэх Валек павёз да сябе на радзіму ў Чэхію вялікую калекцыю слуцкіх сурвэтаў. Апошнімі гадамі сурвэтная справа на Случчыне занепадала. Сурвэтнікі пераходзілі на земляробства. У 1914 годзе ў мястэчку Цімкавічы памёр выслаўлены майстар слуцкіх сурвэт Міхал Парыбак. Перад смерцю ён перадаў усе сакрэты гэтага майстэрства (укідапне нітак у ніты дзеля кожнага дасэння) свайму маладому земляку Клемансу Хрысціничу, які ўвесь час і быў галоўным настаўнікам і кансультантам усіх ткачоў па Случчыне. Клеманс Хрысціни жыве цяпер у мястэчку Цімкавічы, Капыльскага раёна. Выдатная сурвэтніца, дачка Міхала Парыбка, Глікерыя, прозвішча

па мужу Раманоўская, памерла ў 1921 годзе. Пасля яе астаўся вялікі сшытак, дзе былі вырысаваны бацькам і братам яе ўсе дасэні якія толькі былі. Усяго было зарысавана звыш двухсот дасэняў — простых і павучковых. Гэты сшытак купіў Сальвесцер Шаравар з вёскі Крывасёлкі, Капыльскага раёна. Ён ткаў сурвэты да самых апошніх часоў.

## АЎТАБІЯГРАФІЯ

Я радзіўся ў 1900 годзе ў маёнтку Боркі, на Случчыне (цяпер Чырвонаслабодскага раёна), дзе мой бацька служыў парабкам у пана Вайніловіча. Ён пайшоў у парабкі таму, што меў усяго адну дзесяціну зямлі, ды і тая была падзелена напалам з яго бацькам, маім дзедам. Жыць з сям'ёй на паўдзесяціне зямлі не было як. Калі мне споўнілася восем год, бацькі мае пачалі думаць пра тое, што добра было б, каб я навучаўся як-небудзь грамаце. Каля маёнтка Борак школ блізкіх не было, і з гэтай прычыны бацька кінуў службу і пераехаў на сваю радзіму ў мястэчка Цімкавічы, Капыльскага раёна. Але як пражыць на паўдзесяціне зямлі? Ні каня, ні каровы ў нас не было — не было за што купіць і на чым трымаць. Бацька ведаў плотніцкае рамясло і пачаў хадзіць на падзённую працу з сякераю. Гэтым ён займаўся да 1920 г., калі пасля адыходу палякаў і прыходу Чырвонай Арміі нам далі зямлю паводле ліку душ у сям'і. З 1930 г., з моманту масавай калектывізацыі, бацька мой стаў калгаснікам. Ён памёр зімой 1938 г. на 73-м годзе жыцця.

Маці памерла ў 1921 г. ад сухотаў, на 45-м годзе жыцця. Нас было пяцёра чалавек дзяцей. Адзін брат мой настаўнік, другі — тэхнік-меліяратар, адна сястра фельчарыца, другая — калгасніца. Я скончыў Цімкаўскае народнае вучылішча, пасля чаго рыхтаваўся да паступлення ў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, у якую паступіў у 1916 г., калі мне было 16 год. У настаўніцкую семінарыю я пайшоў таму, што гэта была найбольш зручная школа для тых, хто не меў за што вучыцца: там не бралі платы за навуку, а лепшым вучням, якія добра вучыліся, давалі стыпендыю. Закончыць асвету ў настаўніцкай семінарыі мне не ўдалося з той прычыны, што зімой 1919 г. палякі закрылі семінарыю, а пасля адыходу палякаў Нясвіж застаўся на польскай тэрыторыі.

З лета 1920 г. (з прыходам Чырвонай Арміі) я працаваў у Цімкавіцкім валасным рэўкоме, у ваенным аддзеле, а пасля быў пераведзен на працу ў Слуцкі павятовы ваенны камісарыят на канцылярскую работу.

Звольніўся з працы ў ваенкамаце я ўлетку 1922 г. Увосень 1923 г. я паступіў у Мінскі універсітэт на літаратурнае аддзяленне педагагічнага факультэта. У гэты ж час я друкаваў свае творы ў мінскіх газетах. Першым, а

значыцца, і самым важным маім літаратурным настаўнікам быў Змітрок Бядуля. Ён многа зрабіў для мяне сваімі парадамі і памог мне, тады маладому і пачынаючаму пісьменніку, стаць на творчую дарогу.

У гэты ж час я пачаў працаваць літаратурным работнікам у газеце «Беларуская вёска», і тады ж у мяне з'явіліся першыя адзнакі туберкулёза. Я быў пасланы ў Крым на лячэнне. Мне ўдалося вылечыцца.

Прайшоў я два курсы універсітэта. Пакінуў працаваць у рэдакцыі ў 1928 г. З таго часу займаюся толькі літаратурнай працай. За гады маёй літаратурнай працы мною напісана звыш 15 кніг — сюды ўваходзяць раманы, аповесці і многа апавяданняў. Апрача таго, мною напісана не мала артыкулаў на літаратурныя тэмы. Найбольш спелымі з маіх твораў я лічу п'есу «Бацькаўшчына», раманы «Трэцяе пакаленне», «Люба Лук'янская», «Трыццаць год» і апавяданні апошніх год. Цяпер я заканчваю раман «Судны дзень» і адначасова працую над п'есай на тэму аб вызваленні з-пад панска-польскага панавання народаў Заходняй Беларусі — на тэму аб вялікіх гістарычных падзеях восені 1939 г. Пасля сканчэння гэтых твораў буду працаваць над сканчэннем рамана «Вялікае выгнанне», які ў большай частцы ўжо напісан.

Раманы «Трэцяе пакаленне», «Люба Лук'янская», «Судны дзень», «Вялікае выгнанне» ўваходзяць у задуманы мною цыкл раманаў, у якіх я імкнуўся ў меру маіх сіл і здольнасцей нарысаваць у мастацкіх вобразах гісторыю беларускага народа за часы ад знішчэння паншчыны і да нашых дзён — эпоха сацыялізма і рух народаў да камунізма. Самымі важнымі, можна сказаць, цэнтральнымі, момантамі ва ўсім гэтым цыкле раманаў будуць: першая імперыялістычная вайна, падрыхтоўка рэвалюцыі, Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя і грамадзянская вайна да моманту яе заканчэння (трылогія «Вялікае выгнанне»); стварэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і ператварэнне жыцця ў ёй на сацыялістычны лад, выкарчоўванне рэштак капіталізму з свядомасці чалавека, панаванне над Заходняй Беларуссю панскай Польшчы, вызваленне Заходняй Беларусі і з'яднанне навекі беларускага народа ў адзінай Савецкай Беларускай рэспубліцы (раманы «Судны дзень», «Трэцяе пакаленне», «Люба Лу'янская» і яшчэ два задуманыя мною раманы).

Гэта частка майго замыслу, на выкананне якога спа-

трэбіцца многа год пільнай і ўпартай працы. Я цвёрда спадзяюся, што мне ўдасца выканаць гэтую сваю працу. Я ўспамінаю жыццё сваіх бацькоў і сваё маленства. Гэта быў жудасны час, калі кавалак хлеба і палатняная рубашка — адна на год, здаваліся шчасцем. Так жылі ўсе тыя людзі, сярод якіх я вырас і выгадаваўся. Так жыў народ. Бацькі мае цьмяна марылі аб нейкай невядомай ім лепшай долі для сваіх дзяцей. Я стаў пісьменнікам. Больш таго, я пішу на мове тых простых людзей, сярод якіх і вырас. Гэтыя людзі сталі шчаслівымі на зямлі, іх мова стала дзяржаўнай мовай. Я пішу аб гэтых людзях у сваіх кнігах.

Вялікае шчасце для пісьменніка пісаць аб народзе і яго шчасці і самому быць шчаслівым разам з народам. За гэта няспынна гарыць у душы шчырая і сардэчная ўдзячнасць партыі вялікага Леніна.

## МАЯ «ІРЫНКА»

Вызваленне народа Заходняй Беларусі з-пад прыгнёту польскага панства было вялікай гістарычнай справядлівасцю і неабходнасцю. Пераход Чырвонай Арміяй былой граніцы, якая рэзала жывое цела народа напалам, быў актам вялікай і глыбокай савецкай гуманнасці: вызвален народ з бяспраўя і гора, вызвалена сама чалавечая годнасць — чалавек стаў звацца чалавекам. Вось гэтыя думкі я і паклаў у аснову замыслу драмы «Ірынка».

Ірынка — беднае, няшчаснае дзіця. Ёй дзесяць год. Яна і яе сям'я дайшлі да такой мяжы ў сваім жыцці, за якой пачынаецца ўжо гібель. Бяздомная і бяспраўная, Ірынка можа хіба толькі бадзяцца па дарогах роднай зямлі, на якой пануюць акупанты: на якой яна вымушана адчуваць сябе, як сярод варожага і чужога ёй свету. Чырвоная Армія аддае ёй яе радзіму, дом, сям'ю, будучыню і чалавечае права на ўсё жыццё. Ірынка не толькі персанаж драмы, яна яшчэ як бы сімвал усяго лепшага, добрага і слаўнага, што жыве ў народзе, за што трэба змагацца, што трэба абараняць ад ворагаў народа, дзеля чаго Чырвоная Армія прынесла ў Заходнюю Беларусь ясныя прасторы жыцця на векі вечныя.

Другі персанаж драмы, другі вобраз, лёс якога развіваецца раўналежна з вобразам Ірынкі, гэта Юзя Тамашэўская, служанка асадніка Лямэнта. Гэта моцная натура. Яна імкнецца да шчасця, шукае і стараецца стварыць сабе радасць жыцця. Яна верыць, што існуе і жыве на свеце вялікая любоў, благародства чалавечых учынкаў, яна адчувае, што чалавек — стварэнне яснае, светлае, а не змрочнае і злое. Яна адчувае, што ў чалавека трэба верыць і чалавека трэба любіць. Але ў панскай Польшчы ўсе яе найлепшыя пачуцці і імкненні, яе пошукі шчасця тапталіся бруднымі нагамі тых, хто спрадвеку пісаў на сваім сцягу, што чалавек чалавеку воўк. Чырвоная Армія вызваляе і гэты вобраз для поўнай волі благародных імкненняў і радасці.

Ірынка і Юзя — канкрэтныя персанажы самога акта вызвалення, яны носьбіты замыслу драмы. Гэтыя два вобразы ў апошніх сцэнах зліваюцца як бы ў адно цэлае.

Праца з Віцебскім беларускім драматычным тэатрам дала мне многа творчай радасці. І асабліва мне хочацца гэта сказаць аб маёй працы разам з пастаноўшчыкам

«Ірынкі» заслужаным артыстам БССР Цімафеем Мікалаевічам Сяргейчыкам.

Ц. М. Сяргейчык — рэжысёр, які ў сваёй творчай працы мысліць нацыянальнымі вобразамі, які разумее і адчувае народнасць мастацтва, глыбока ведае быт і мову народа. Усё гэта дало яму магчымасць надаць спектаклю сапраўды нацыянальную форму.

Я высока цаню мастака Б. Малкіна, які аформіў спектакль з тонкім густам, у сапраўдных нацыянальных тонах, без якога б там ні было прыкрага бытавізму і этнаграфізму.

## КАМЕНТАРЫІ

У трыццатыя гады К. Чорны прыступіў да напісання цыкла раманаў, у якіх імкнуўся «нарысаваць у мастацкіх вобразах гісторыю беларускага народа за часы ад знішчэння паншчыны і да нашых дзён». У гэты цыкл пісьменнік уключыў раманы «Бацькаўшчына» (1931), «Трыццаць год» (1934), «Трэцяе пакаленне» (1935), «Люба Лук'янская» (1936), «Судны дзень» (рукапіс загінуў у час Вялікай Айчыннай вайны), «Вялікае выгнанне» (застаўся няскончаны). Творы К. Чорнага з'яўляюцца своеасаблівай мастацкай філасофіяй гісторыі. У іх раскрываюцца працэсы духоўнага станаўлення беларускага народа, паказана будаўніцтва беларускай сацыялістычнай дзяржавы. Разам з тым пісьменнік папярэджваў аб тым, што філасофія класавага грамадства — «чалавек чалавеку воўк» — вельмі жывучая. На долю Міхала і Зосі з «Трэцяга пакалення» выпаў цяжкі лёс. Імперыялізм украў у іх маленства. Міхалкаў бацька на імперыялістычнай вайне быў атручаны газамі. Пасля вайны ён паміраў доўгай пакутнай смерцю. У Зосі бандыты забілі малога брата і бацьку. Абодвух іх бязлітасна эксплуатаваў Скуратовіч. Міхалка не змог яму супрацьстаяць духоўна. Запалоханы жыццём, ён адмежаваўся ад агульнанародных інтарэсаў і жыве нібы ў нары. У абліччы сталага Міхала суіснуюць адначасова ахвяра і хіжы звер. Гэта своеасаблівы маральны гібрыд, хваравіты сімбіёз авечкі і ваўка. Хаваючыся ад агульнанародных клопатаў, Тварыцкі запалохвае сваю малую дачку, адбірае ў яе права на шчаслівае маленства. Слава расце скаваная страхам.

Зося — гэта антыпод Міхала. Прыглушаная страшнай бядой у юнацтве, яна доўга не заўважала баязлівасці і агрэсіўнасці Міхала, які непрыкметна пазбавіў радасці існавання сваю сям'ю.

Праблемна да рамана «Трэцяе пакаленне» прымыкае і раман «Люба Лук'янская», у якім паказана, як злачынцы Шпулькевіч і Стафанковіч прыстасоўваюцца да Савецкай улады і становяцца чыноўнікамі. Дружба работніцы Любы і настаўніцы Валі пера-

